**Іван Шамякін**

# Снежныя зімы

*Раман*

Выдавецтва “Беларусь”
Мінск
1970

I

Зубр стаяў пад старымі елкамі, камлі якіх абраслі сівым мохам. У гэтым глухім кутку пушчы ўсё першабытна замшэлае: елкі мелі такі выгляд, быццам прастаялі тысячу гадоў, старыя пні аплецены мохам, а пад імі ўсё струхлела. Рэдкія вываратні нагадваюць дагістарычных жывёлін. Таму, магчыма, уладар пушчы здаўся Антанюку яшчэ адным вываратнем. За дзень блукання па лесе напаткаў іх нямала, самых дзівосных па форме. А можа гэта таму, што глыбока задумаўся? У лесе заўсёды хораша думаецца. Лес супакойвае, разганяе трывогу, нервознасць. Часта ўжо здаралася, што непрыемнасці, якія ўчора яшчэ здаваліся амаль трагічнымі, пасля такой вось прагулкі па лесе і развагі пад шум дрэў ці пад шамаценне апалага лісця пад нагамі рабіліся дробязнымі, не вартымі сур'ёзных перажыванняў. Перад веліччу лесу, яго вечнасцю чалавечыя канфлікты, нягоды, турботы, асабліва цяперашнія — мірныя, набывалі зусім іншы сэнс. Так было паўтара гады назад, калі ён прыехаў сюды пасля таго, як яго, дужага, здаровага, паслалі на пенсію. Тады ён быў у роспачы. А пагуляў па пушчы — і на другі дзень адчуў, што хочацца пасмяяцца са свайго «гора».

Цяпер жа ніякіх непрыемнасцей не было. Ён прыехаў сюды проста адпачыць. А таму — ні пра што сур'ёзнае не думаў. Хіба толькі пра дзяцей. Заўсёдны яго клопат — дзеці. І аднак жа трохі не пацалаваўся з царом пушчы. Спыніўся за колькі крокаў, калі зубр павольна павярнуў галаву. Цяпер яны глядзелі адзін на аднаго, чалавек і звер.

Непрыемны халадок казытнуў па спіне. А што, калі зубр кінецца? Што рабіць? Страляць? Не маеш права. Ды і зарад не на такога звера. Раніцой адмовіўся ад палявання на дзікоў, на якое запрашаў дырэктар запаведніка. Зарады толькі на цецерука.

Уцякаць? Уявіў, як ён, стары чалавек, будзе бегчы, віхляючы паміж дрэў, прадзіраючыся праз малады калючы ельнік, каб схавацца. З іроніяй перанёс гэта на свае адносіны з людзьмі: «Ніколі ты, Іване, не ўцякаў ні ад якіх зуброў. Адступаць — адступаў. Перад мацнейшым, перад ворагам... ды яшчэ часам абыходзіў дурняў».

Дзень па-асенняму хмурны, таму пад шатамі елак амаль вячэрні паўзмрок, і немагчыма разгледзець зубравы вочы: што ў іх? Расказвалі егеры: такія быкі, што адбіваюцца ад статка, вядуць сябе шалёна — кідаюцца нечакана. Асабліва пакрыўджаныя дужэйшымі. Але гэты, здаецца, немалады. Поўсць на высокім хрыбце непрыгожа ўскудлачаная, брудна-бурая, а пад шыяй вісіць клоччам, як бывае вясной, калі звер ліняе. Але рогі па-маладому вострыя. Такі рог праткне наскрозь.

Вачэй не зводзіць — сочыць. Стаіць на дзіва нерухома, хаця б хвастом матлянуў, варухнуўся, пераступіў. Не. Быццам застыў. Да чаго рыхтуецца? Нападаць? Адступаць?

Чалавека ўсё-такі зразумець прасцей, чым звера. Таму ад чалавека лягчэй бараніцца, калі той нападае адкрыта, а не б'е ў спіну, знянацку. Бяда, што часта ўдар наносяць тады, калі яго зусім не чакаеш.

Іван Васільевіч падумаў, што зубры, якіх егеры кормяць, даглядаюць, прывыклі да чалавечага голасу, таму ласкава спытаў:

— І доўга мы з табой вось так стаяць будзем?

Зубр у адказ здрыгануўся і заплюшчыў вочы.

Не, агрэсіўнага намеру ў яго, здаецца, няма.

Можа звер захварэў? І знарок зашыўся ў гэты гушчар, каб памерці ў адзіноце?

«Трэба запомніць месца і сказаць егерам.— І тут жа падумаў пра сваё, чалавечае: — Але калі ты сапраўды забраўся сюды, каб памерці, я цябе разумею і, калі хочаш ведаць, нават зайздрошчу. Я хацеў бы таксама вось так... Тут. І адзін, І каб да апошняй хвіліны на нагах».

Недалёка, кварталы за два, нечакана заенчыў ганчак: натрапіў на звера. І адразу ж стрэлы — адзін... другі...

Тады зубр ускінуў галаву, чмыхнуў і грабянуў капытом мох.

Антанюк сам пасля дзівіўся са свайго спрыту. Кінуўся за першае дрэва. Адтуль нырнуў пад маладзенькія прыземістыя елкі, чапляючыся за голле стрэльбай, абдзіраючы твар, рукі. Добры крос гэтак зрабіў. Калі спыніўся, прыслухаўся, дык пачуў тупат не аднаго зубра, а, здалося, усёй пушчанскай чарады. Не адразу зразумеў, што гэта сэрца, так яно застукала: кроў біла ў галаву, ажно звінела ў вушах.

Зубра ж не чуваць. Пужнуў ад сябе назолу-чалавека і, пэўна, застаўся стаяць у сваёй велічнай адзіноце.

«Ну, вось, не хваліся, што ні ад якога зубра не ўцякаў. Прыйшлося,— з невясёлай іроніяй падумаў Іван Васільевіч.— Калі яго, д'ябла, ахоўвае закон, то што другое зробіш?! Трэба ўцякаць... Ад закона. Аднак сэрца... Што ж гэта ты, даражэнькае?»

Сэрца занепакоіла. Каб так задыхацца, прабегшы сотню метраў,— такога яшчэ не было. Летась на курорце ў горы пайшоў — дык з вялікай групы толькі трое, дзе ўсім разам было крыху больш год, чым яму аднаму, не адсталі. Але двое пасля вячэраць не здолелі «прыпаўзці». А ён, «папаша»,— так «жаўтароцікі» звалі яго,— хоць бы што, танцаваць на пляцоўку пайшоў.

«Чаму ж ты так закалацілася? Ды не проста часціш, а як бы траіш, што той аўтарухавік, у якім сапсута адна Свяча. Якая там Свяча падгарэла? Спужаўся зубра? Ды не, здаецца, не вельмі».

Зубру захацелася адзіноты. Яму, Антанюку, учора таксама хацелася адзіноты. Каб паслухаць асенні лес — як падае апошняе лісце, як шамаціць пад нагамі... І паслухаць самога сябе. Толькі ў лесе гэта ўдаецца. І з раніцы ўвесь аддаўся лесу, яго журботнаму настрою. З ім гаварыў. З лесам. З людзьмі — ні з кім. Няма з кім. Аддаліліся ўсе тыя, з кім некалі спрачаўся, сварыўся, даводзіў сваё. Спрачаўся ў кабінетах, у залах і тут, у лесе, у думках, блукаючы адзін, як той зубр.

Цяпер поўная яснасць і поўны спакой. Але ў гэтым мала суцяшэння. Разумеў: наступае восень. «Отшумела роща золотая». Але, мабыць, адшумела. Што ж, Іване, ты няблага пашумеў. Ва ўсякім разе, перад дзецьмі не сорамна. Перад дзецьмі...

Хвілін колькі назад было жаданне забрацца глыбей у пушчу, недзе на першабытнай палянцы паміж векавых сосен раскласці маленькае цяпельца і да вечара сядзець, каб надоўга задаволіць прагу адзіноцтва, каб на цэлыя месяцы — да наступнага «прыступу» — насіць у сабе шум лесу і дыханне восені.

А тут раптам — пасля стрэчы з зубрам, ці што? — захацелася да людзей. Раней такое жаданне не з'яўлялася гэтак хутка. Пераход у новую стадыю старасці, ці што?

Іван Васільевіч здагадаўся, хто страляў. У пушчы можна страляць толькі з дазволу, а дазвол такі не кожнаму даецца. Яшчэ ўчора ўвечары ведаў, хто прыехаў сюды на кароткі адпачынак. Дырэктар запаведніка прапаноўваў далучыцца да гасцей.

— А то там адны тэарэтыкі, гаваруны, як наш сябра Будыка. Без цябе ды без мяне — а ў мяне заўтра справы — яны ногі заб'юць, а не дзіка.

— Не, брат, не той узровень,— ён, Антанюк, адказаў проста так, каб адмахнуцца ад паляўнічай спакусы і пабыць у лесе аднаму. А дырэктару, напэўна, здалося, што сказаў ён гэта з горыччу за сваё становішча, і той з разумнай далікатнасцю скіраваў размову ў другі бок.

Цяпер ён не думаў ні пра якія ўзроўні і спяшаўся туды, дзе прагучалі стрэлы, каб далучыцца да людзей.

Як учора хацелася адзіноты, так цяпер, невядома чаму, пацягнула ў кампанію, дзе будуць «высокія навіны», жарты, добры абед.

Незвычайная здольнасць арыентавацца ў лесе — сябры па паляванні называлі гэтую яго здольнасць «сабачым нюхам» — вывела да-

кладна, нібы па азімуце. Выйшаў на прасеку і ўбачыў іх, вясёлых, узбуджаных удачай.

Будыка згледзеў яго здалёк, здзівіўся, спытаў спачатку быццам бы і не надта прыхільна:

— О, і ты тут? — І раптам узрадаваўся: падхапіўся, пайшоў насустрач, накульгваючы — нацёр нагу.

— Таварышы! Старэйшына нашай паляўнічай карпарацыі — Іван Васільевіч. Ён павінен зарэгістраваць ваш рэкорд, Сяргей Пятровіч. Прашу знаёміцца. Мой партызанскі камандзір. Не, ты паглядзі, якога мы вепрука ўхадзілі. А зваліў Сяргей Пятровіч! Паляўнічае шчасце — як тыя грошы: ёсць — дык ёсць, а няма — дык няма. У Сяргея Пятровіча яно ёсць. Не, ты паглядзі, які звер! А-а! Што? Зайздросціш? Гляньце, як у Антанюка блішчаць вочы!

Будыка павітаўся і, не выпускаючы рукі, цягнуў Івана Васільевіча да кампаніі, нібы той упіраўся і не хацеў ісці.

Госці, відаць, добра набілі ногі, бо ўсе да аднаго сядзелі ці ляжалі на сырой і халоднай ужо зямлі вакол забітага дзіка — як тыя тубыльцы, што застываюць у нецярплівым чаканні, калі старэйшы пачне дзяліць здабычу. Ніхто, безумоўна, не адгукнуўся порстка на заклік Будыкі знаёміцца, толькі лена павярнулі галовы. Свае, Сіротка і Кляпнёў, заўсміхаліся. Госці ацэньвалі новага чалавека — пэўна, вызначалі, што за ён, якога рангу. Партызанскі камандзір — праз дваццаць гадоў гэта мала ўжо што гаворыць. А іншага тытулу Будыка не называў.

Іван Васільевіч падумаў: «Не спадзявайцеся, што я пайду па кругу і буду знаёміцца з вамі, буду першы працягваць руку. Не дачакаецеся, шаноўныя госці».

І паколькі Будыка цягнуў яго да паляўнічага трафея і, па сутнасці, заклікаў у першую чаргу пазнаёміцца з ім, то Антанюк так і зрабіў — аддаў усю ўвагу забітаму зверу.

Дзік ляжаў пад дубам, ашчэрыўшы жоўтыя клыкі, з рота сачыўся струменьчык яшчэ свежай крыві. Але забіты ён быў не тут — сюды падцягнулі; туша зрабіла шырокі след-сцежку, ссунуўшы лісце, патрушчыўшы жалуды, на карэннях садраўшы мох, пакінуўшы вузенькую стужку ўжо не чырвонай, а рудой, як іржа, крыві.

— Прызнайся, што зайздросціш! Скажы праўду! Сяргей Пятровіч, зайздросціць? Паглядзіце на яго! А калі зайздросціць такі стралок, як Анташок...— Будыка ляпаў дзіка па баку.— Не, ты ацані. З двух стрэлаў зваліць такога! І не зблізку. Высунуўся з тых кустоў, а Сяргей Пятровіч стаяў за тым дубам. Вунь там. Колькі метраў? Прыкінь!

Антанюк прыкінуў. Усё. З аднаго позірку спрактыкаванага паляўнічага і яшчэ больш вопытнага чалавека, які ўсё бачыў, сам быў у розных абставінах — і гаспадаром і госцем. Здзівіць яго чым-небудзь цяжка было. Але здзівіўся — спрыту і ўменню сябра свайго.

Бачыў Антанюк арганізаваныя паляванні, у якіх загадзя распісваўся кожны стрэл — дзе, калі, з якой адлегласці — і звяроў трохі што не прывязвалі. Таму заключыў, што шмат якія з тых паляванняў, у наладжванні якіх і ён часам удзельнічаў, былі, мякка кажучы, бяздарныя ў параўнанні з гэтым. Там арганізацыя ўсюды вылазіла, і пра яе самі ж наладжвальнікі расказвалі пасля анекдоты. Пра гэтае ж паляванне анекдота, бадай, не раскажаш. Аднак Іван Васільевіч не стрымаўся — спытаў:

— Колькі егераў ганяла?

Будыка засмяяўся.

— Ох, і зануда ж ты, Іван! Адзін. Змітрок. Пайшоў званіць, каб прыйшлі машыны.

Але, чорт вазьмі, гэта трэба ўмець: даць госцю ўсе сто паляўнічых пакут і радасцей! Вывадзіць яго ад світання так, што вунь — паварушыцца не можа, а пасля, пад вечар ужо, выгнаць дурнога дзіка дакладна на яго, на госця, а не на каго другога. Такі заядлы Мысдівец, як Сіротка, не стрываў бы, як ні дамаўляйся з ім,— б'е ён без промаху. Дык не ж — адзіны сапраўдны паляўнічы не мог нават стрэліць, быў блакіраваны. Нездарма ляжыць цяпер такі пануры.

Антанюк павярнуўся да госця.

— Віншую вас.

Чалавек, якому таксама даўно пераваліла за паўсотню, міністр, заззяў, як дзіця, ад шчасця. (Усе мы на паляванні, на рыбнай лоўлі — дзеці). Адразу падняўся на ногі — пазнаёміцца. Моцна сціснуў Антанюкову руку, затрымаў даўжэй, чым патрабуе ветлівасць, пільна зазірнуў у твар разумнымі карымі вачамі, якія даўно навучыліся распазнаваць людзей, чытаць іх думкі.

Антанюк віншаваў шчыра і ўсміхаўся шчыра — Сяргей Пятровіч убачыў гэта і адчуў сімпатыю да яго.

— А мы з вамі страчаліся, — сказаў Іван Васільевіч.

— Так, так...— пацвердзіў госць, але не прыгадаў — калі, дзе — колькі перад ім прайшло людзей! — і, каб не выдаць, што не помніць, адступіў убок, даючы дарогу памочніку, які чакаў сваёй чаргі, каб пазнаёміцца з Антанюком (не мог ён ляжаць, калі падняўся начальнік).

Сяргей Пятровіч жартаўліва завойкаў:

— Ой, вой, мае бедныя ногі. Нацёр да крывавых мазалёў.

Будыка задаволена зарагатаў:

— Але ж вы, Сяргей Пятровіч, убілі не адны ногі. Во,— ён усё яшчэ гладзіў дзіка, а цяпер заляскаў абедзвюма далонямі па сцягну, выбіваючы вясёлы такт.— Што тут мазалі... Такі трафей. Праўда, Мар'ян? — звярнуўся да Сіроткі. Той не адказаў, і Будыка зноў засмяяўся, закрычаў: — Во, бачыце? Сіротка — як сіротка. Ад няўдачы. А ў Івана вочы гараць. Зайздросціш? Прызнавайся!

— Зайздрошчу,— падыграў Антанюк.

Тоўсты Кляпнёў, перакуліўшыся з боку на бок, сказаў:

— Зайздрасць — прыватнаўласніцкі перажытак. Вучыцеся ў мяне. Я зайздрошчу толькі таму, хто жарэ зараз кілбасу з такога кнырка. І каўтаю слюнку. Хутчэй бы прыязджаў Змітро.

— Можа праўда таварышы незадаволены? — заклапочана спытаў госць.— Але ж я так разумею: палявалі разам... паляванне на такога звера — справа калектыўная.

— Ды што вы быццам апраўдваецеся,— адгукнуўся маўклівы Сіротка.— Першы раз хіба? Мы — старыя зубры. Адзін Валянцін Адамавіч не разумее паляўнічай этыкі.

— Я? — закрычаў Будыка, шчыра ўзбуджаны і прытворна абураны.

— Ты. Дылетант! — амаль зняважліва кінуў Антанюк. Немаведама чаму, як халодная хваля, ударыла ў сэрца злосць на Будыку.

«Чаго ты мітусішся? Хто, хто, а я наскрозь цябе бачу. Усе мы прымалі гасцей і часам падхалімнічалі перад тымі, хто над намі. Але ж мы — грэшныя чыноўнікі, а ты — вучоны».

Антанюк баяўся такіх нечаканых перамен у сваім настроі. Падышоў да кампаніі добры, лагодны і — раптам, без дай прычыны, такі паварот. Навошта? Сапсаваць людзям настрой?

f— Я? Я — дылетант? — быццам вельмі здзівіўся Валянцін Адамавіч і тут жа засмяяўся: — Юпітэр, ты злуеш, бо не забіў дзіка. А мы забілі,— і, як бы спалохаўшыся, што Антанюк не зразумее жарту, закрычаў, падняўшы рукі: — Здаюся, здаюся... У пазнанні паляўнічых тайнаў я вечны першакурснік.

— Не толькі ў гэтым,— але халодная хваля так жа нечакана адхлынула, зноў вярнуліся лагоднасць, спакой, набытыя за дзень блукання па лесе, і Антанюк сказаў гэта проста так, не надаючы словам асаблівага сэнсу,— абы размова неяк счаплялася.

— Сяргей Пятровіч! Калі мой найлепшы сябра пачне пераконваць, што і ў машынабудаванні я гэты самы... першакурснік — ведайце: такая наша дружба. Умеем падтрымаць адзін аднаго.

Здаецца, гэта ўжо крыўда? Ці хітрасць? Яшчэ адзін, з заходам з тылу, напамінак начальству пра свае заслугі?

— Як дырэктар інстытута, ты — геній, Валянцін. Магу засведчыць перад міністрам.

— Бачыце, Сяргей Пятровіч, з якой язвай я жыў у адной зямлянцы?

Антанюк пераключыўся на другое:

— Выражце залозу. А то сапсуе мяса.

— А егер параіў смаліць. Дзік малады, леташак. Час ранні.

Зразумела: дзеля госця хочуць зрабіць яшчэ адно экзатычнае відовішча.

Кляпнёў блазнаваў, распальваў апетыт:

— Мы яго адразу на патэльню. Кілбаса — во гэта рэч. Няма лепей у свеце птахі, як свіная кілбаса. Мудрэйшы афарызм! У ім уся філасофія жыцця. У вас не верашчыць у вушах верашчака? У мяне яўна пачаліся галюцынацыі. Якая верашчака ў нас будзе! Нездарма я захапіў грэцкай мукі. На бліны. Ні адзін кухар не зробіць такой верашчакі, як я.

Ён перакуліўся на другі бок, хціва застагнаў, зацмокаў тоўстымі засмяглымі вуснамі.

— Дзе ты яе дастаеш, грэцкую муку? — здзівіўся Сіротка. — Хто ў наш час меле грэчку? Круп і то няма.

— Не верыш ты, Мар'ян свет Максімавіч, у поспехі нашай сельскай гаспадаркі! Адстаў ад жыцця. Даўно выведзены гібрыд грачнёва-кукурузны. Трэба толькі ўмець аддзяліць грэчку ад кукурузы. Я ўмею.

— Не мялі, Эдуард,— спыніў свайго падначаленага Будыка.

Да Кляпнёва ў Антанюка асаблівая цікавасць: чалавек без прынцыпаў, але і без боязі, без цырымоній: праз паўгадзіны з самім богам запанібрата. З патронам сваім Будыкам трымаецца на дзіва незалежна, часам даволі ўедліва кпіць. І, аднак, той трымае чалавека без спецыяльнасці, нейкага былога кінаапаратара, за навуковага супрацоўніка. І ўсюды цягае за сабой. Ні кроку без яго. Безумоўна, Кляпнёў — пралаза, даставала, рэкламшчык. У разважаннях — цынік. Але ў мутнай балбатні яго часам бліскаюць крупіцы разумных думак.

Недалёка засігналілі машыны. Адна — басавіта, з хрыпаткой, нібы прастуджаная, потым — другая, галасіста, як дзяўчына.

Кляпнёў прыўзняўся, ускінуў стрэльбу, выпаліў у пажоўклае лісце дуба. Збітыя галінкі падалі на зямлю, адзінокія лісты кружылі ў паветры. Ганчак, што, стомлены, ляжаў пад дубам, смешна падскочыў, зачахліў і пачаў бегаць па крузе, нюхаючы вільготную зямлю, якая пахла даўнімі грыбамі і свежымі жалудамі.

Сіротка паманіў сабаку:

— Чомбэ, Чомбэ!

— Чомбэ? — здзівіўся Антанюк.— Хто выдумаў такую абразлівую мянушку?

— Я купіў яго ў Лапіцкага.

— Каб сабака разумеў, адкусіў бы яго шляхецкі нос. Палітыкан!

Ганчак паслухмяна падбег да гаспадара і, высунуўшы чырвоны язык, глядзеў разумнымі вачамі, здавалася, з дакорам: маўляў, якому дурню ўздумалася без патрэбы страляць?

Хрыплы сігнал пачуўся бліжэй. Кляпнёў зноў хацеў адказаць стрэлам. Але Сіротка спыніў яго:

— Навошта паліць? Нікуды з прасекі не звернуць. Дарога адна.

Павольна гойдаючыся на карэннях дубоў, зводдаль, дзе праходзіла квартальная прасека, высунуліся машыны: чорны, як вялізны жук, «ЗІМ» і светла-блакітная, вясёлая, сапраўды як дзяўчына, «Волга».

Дзіка хацелі зацягнуць у багажнік «ЗІМа», але Сіротка выказаў перасцярогу, што туша можа прапахнуць бензінам. Заслалі падлогу задняй кабіны «ЗІМа» яловым галлём і паклалі туды.

Будыка запрасіў Сяргея Пятровіча ў «Волгу». Пасля паклікаў Антанюка. Калі рушылі, сказаў:

— Трэба захапіць егера. Няхай вып'е чарку.

Але не заехалі. Забыліся. Загаварыліся.

Міністр і Будыка пасяліліся ў драўляным асабняку — паляўнічым доме. Усе астатнія — у гасцініцы, што стаяла збоку, у сасняку, на схіле ўзгорка, дзе зусім нядаўна быў збудаваны дачны комплекс.

Будыка нечакана запрасіў Антанюка пайсці разам з імі — пакояў хапае!

Камендант, хоць і стары знаёмы, без асаблівага энтузіязму сустрэў новага госця — не той узровень! — і памясціў Антанюка ўнізе, каля выхада, у пакойчыку, у якім пры высокім начальстве пасяляўся ахоўнік ці даручэнец. Івана Васільевіча гэта ніколькі не кранула: занадта добра ён ведаў увесь «статут», «табелі аб рангах» і людзей, якіх назначалі камендантамі.

Памыўшыся і пераапрануўшыся, міністр і Будыка пайшлі паглядзець, як пад шумным кіраўніцтвам Кляпнёва (сам ён нічога не рабіў, але ўсім даваў парады) смаляць дзіка.

Праз дзверы Іван Васільевіч пачуў іх размову.

— Хто ён, гэты... востранькі, што далучыўся да нас? Знаёмы твар.

— Былы...— Будыка назваў нядаўнюю Антанюкову пасаду.

— А-а... Успомніў. А цяпер дзе?

— Персанальны...

— За што яго так? Яму ж, мабыць, і шасцідзесяці няма...

— Прынцыповы ідэаліст. Выступіў на пленуме супраць наватарства ў сельскай гаспадарцы. Кансерватар. Трымаўся за травы. А трава — апора ненадзейная,— Будыка засмяяўся, задаволены сваім жартам.

Ужо на ганку (чуваць было праз адчыненую фортку) міністр спытаў:

— Валянцін Адамавіч, ты, здаецца, сялянскі сын?

— Усе мы — дзеці зямлі.

— І як ты лічыш: мудра тое, што мы робім цяпер у калгасах?

— У мяне другая сфера, Сяргей Пятровіч.

— Так, так... У нас — другая сфера. Наша хата з краю,— госць як бы спяшаўся скончыць нечаканую размову, але ў голасе яго Антанюк пачуў расчараванне і боль — той самы боль, што шчымеў і ў яго ўласным сэрцы. Гэта ўзбадзёрыла. Так некалі ўзбадзёрылі смутак і боль, не пачутыя — убачаныя ў вачах чалавека, які, старшынствуючы на высокім пасяджэнні, вымушаны быў ставіць на галасаванне прапанову «прынцыповых людзей» аб вызваленні яго, Антанюка, ад абавязкаў... за памылкі, дапушчаныя ў рабоце...

Даў гэтую мяккую фармуліровачку ён — хто старшынстваваў. А некаторыя з тых, з кім ён, Антанюк, з'еў не адзін пуд солі, хто не раз кляўся ў дружбе, падкідвалі і такое: за нязгоду з палітыкай партыі... Прывыклі думку аднаго чалавека, часам даволі спрэчную, выдаваць за палітыку партыі!..

Дамовіліся: пакуль не будзе згатавана хоць адна страва з дзічыны — за абед не садзіцца. Але паляўнічыя мелі добры перакус у лесе. А ён, Антанюк, з раніцы нашча. І так засмактала, што не вытрымаў: пайшоў на кухню прасіць бутэрброд. Кухар паскардзіўся на Кляпнёва: не такіх людзей карміў, і ніхто не лез гэтак у яго гаспадарку і ў работу.

Іван Васільевіч вырашыў не ісці туды, дзе смалілі дзіка. Стоўпіліся, як малыя. Але Кляпнёў немаведама як разнюхаў, што тут ёсць і такая рэч, як салома,— для экзотыкі. Вядома, што ад саломы зусім іншы дух і смак.

Пасаромлены камендант мусіў выдаць два цяжкія кулі залацістай жытнёўкі. І пасля таго, як палавіна тушы была абсмалена паяльнай лямпай, пачалі дасмальваць саломай. Тут ужо Іван Васільевіч не мог вытрымаць. Паклікала сялянская душа.

Змяркалася. Лес вакол. Па-асенняму глуха шумяць сосны. Зляцеліся да жытла вароны. Пералятаюць з верхавіны на верхавіну, неназойліва каркаюць. Ярка гарыць салома. Іскры гаснуць у цёмным

галлі сосен. Сілуэты людзей. Іх цені. І своеасаблівы, ні з чым не параўнальны, знаёмы з маленства пах саламянай гары, шчаціны, падсмажанай свежыны. Адысці, адарвацца ад такога відовішча не здолее ніхто, у каго гэта жыве як самы незабыўны ўспамін.

Смалілі Сіротка і камендант. А Кляпнёў скакаў вакол, расчырванелы, у расшпіленай куртцы, і даваў парады, крычаў чалавеку, які з'еў на гэтым зубы, што ён ні чорта не ўмее і ўсё сала сапсуе і ўсю скуру спаліць.

— Вахлак! Недарэка! Паглядзі, як патрэскалася і ўзялася пузырамі!

Кляпнёў языком умеў зрабіць усё, рукамі — мала што. Антанюк не вытрымаў, загадаў яму — знарок як хлапчуку:

— Не блытайся пад нагамі. Лепш збегай па ваду.

Гады, ранейшае службовае становішча Івана Васільевіча і яго тон на міг збянтэжылі нахабнага таўсцюка. Але толькі на міг. Ён тут жа ўспомніў, што Антанюк цяпер усяго-наўсяго пенсіянер, і весела засмяяўся. Паслаў па ваду шафёра. І прапанаваў паслухаць анекдот пра пенсіянера. Але міністр, зразумеўшы бестактоўнасць такой помсты, перапыніў Кляпнёва: пачаў расказваць пра паляванне на мядзведзя недзе ў Сібіры.

Слухалі ўважліва Будыка, чамусьці сцішаны, ды міністраў шафёр, які ні да чаго не дакранаўся. Антанюк прыкмеціў, што нават машыну шафёр вёў у пальчатках; грузілі дзіка — міністр цягнуў разам з другімі, а шафёр стаяў збоку, маўклівы, паважны, апрануты ў модны плашч, быццам яму ісці на баль, а не весці машыну сотні кіламетраў.

Астатнія завіхаліся каля дзіка. Антанюк узброіўся нажом, закасаў рукавы пінжака і скроб абсмаленую тушу, цёр мокрай саломай. Работа захапіла. Гэтак жа яна захапіла і Сіротку: той аж кракtаў ад задавальнення і глыбока ўдыхаў — уцягваў носам смачныя пахі, выціраў твар і нос рукавом, па-сялянску, шчасліва ўсміхаўся і быў зусім абыякавы да кляпнёўскай балбатні і яго абразлівых наскокаў.

Іван Васільевіч разумеў свайго старога паляўнічага паплечніка. Простая, знаёмая з бясштаннага маленства, работа дала асалоду, дзіўна хораша настроіла, зрабіла добрым, лагодным, вясёлым. Ён пашкадаваў міністра, які, па ўсім відаць, гараджанін і не адчувае незвычайнай паэзіі ў смаленні, ды яшчэ ў такі час, на змярканні, калі ярчэе агонь, робяцца лятучымі зоркамі іскры, абвастраюцца пахі... У паляванні такое вось першабытнае чарадзейства над здабычай —

самае, бадай, прыемнае. Няўжо і Будыка, сялянскі сын, партызан, назаўсёды страціў адчуванне гэтай паэзіі? Глядзіць у рот міністру...

«Валька, чорт! Ты ж доктар навук... Трымайся з гонарам! Чаго табе не хапае?»

Абсмаленую, выраблёную і вымытую да жаўцізны тушу на насілках, на чыстай саломе, урачыста — з захаваннем усяго дзедаўскага рытуалу — занеслі ў скляпенне пад гасцініцай — у раздзелачную.

Антанюк не любіў свежаваць. Гэта разбурае той настрой, які давала смаленне. Усё, што належыць рабіць далей, ператварае чалавека ў мясніка, у спажыўца, які ў паляванні і ў некаторых іншых працэсах здабычы харчу не ўмее адчуваць элементаў прыгажосці.

Гуляць па лесе больш не хацелася. Стаміўся ўсё-такі, таварыш пенсіянер. Паляжаць бы да вячэры, бо будзе яна, безумоўна, зацяглая — разгуляюцца казакі. Кляпнёў умее бяседу наладзіць, разварушыць любога аскета. А тут сабраліся, як відаць, не дурні і выпіць і закусіць. Яму, старэйшаму сярод іх, не варта злоўжываць.

Але нешта яго сёння цягне да людзей.

Убачыў у ярка асветленых вокнах більярднай сілуэты госця і Будыкі — пайшоў да іх.

Партыя канчалася. Міністр выігрываў.

— На высадку,— сказаў з парога Антанюк і прасачыў за апошнімі ўдарамі. Не, тут Валянцін Адамавіч не падыгрываў госцю, не арганізоўваў яму яшчэ адну радасць адпачынку. Гуляў Будыка слаба. Мазаў нават падстаўныя шары. Пасля аднаго такога ўдару Іван Васільевіч пажартаваў:

— Валя, більярдны дылетант — для цябе найвышэйшая атэстацыя. Мазіла Мазілавіч — вось імя тваё.

— Калі стаіш збоку, то, здаецца, любы шар лёгка кладзецца, так гэта проста: удар — і там. Пагляджу, як ты будзеш забіваць, узяўшы кій.

Колькі яны сябравалі, але гуляць у більярд ім ні разу не выпала, хіба даўно вельмі, адразу пасля вайны, калі і ён, Антанюк, быў такі ж аматар-пачатковец, якім застаўся да сівых валос Будыка.

«Але ўсё ўдасканальваецца, дарагі Валя. Ты стаў доктарам навук, я — нядрэнным більярдыстам, асабліва за апошні год, калі ў мяне столькі вольнага часу, а побач з маёй кватэрай — адна творчая ўстанова, дзе можна з раніцы да вечара ганяць шары».

У госця рука набітая, удар ёсць, але, як кажуць, стыхійны, без тэорыі. А любая практыка павінна быць падмацавана тэорыяй. Элементарную ісціну гэтую трэба ведаць, таварыш міністр. Антанюк вырашыў трохі пацешыцца. Скінуў пінжак, рыхтуючыся да бою,

застаўся ў адной простай, у клетачку, фланелевай сарочцы. Хударлявы, нізкі побач з мажным госцем, але пругкі, стройны, са спіны — юнацкая пастава. Паважыў адзін кій, другі; той, што выбраў, прыкінуў на вока — ці роўны; не спяшаючыся, цёр крэйдай скураную набіўку.

Міністр разбіў шары асцярожна — адбіў з левага вугла два, і яны сталі перад лузай адзін за адным — амаль падстаўка. Іван Васільевіч хацеў не біць па іх, а шчодра, як робяць няўмелыя навічкі, рассыпаць па стале ўсю трохі ўжо бязладную кучу шароў: няхай забівае госць, на радасць Будыку. Але Валянцін пусціў першую «пстрычку»:

— Пабачым, ці ўмееш ты хоць падстаўкі браць,— і — чорт на яго! — адразу крануў гэтую самую азартную струну.

Іван Васільевіч з абыякавасцю ўпэўненага іграка, не цэлячыся, моцна ўдарыў і... прамазаў. Шар пацалаваў борт і пайшоў да другога, супрацьлеглага, страціўшы інерцыю, асцярожна стаў каля парушанага, але не разбітага трохкутніка. А «свой» спыніўся каля лузы — верная падстаўка.

Будыка здзекліва засмяяўся:

— Вось гэта ўдар! Проста-такі класічны! Іване! Не псуй гонту.

Усё жыццё Іван Васільевіч прывучаў сябе не злаваць, не траціць спакою з-за дробязей. Але навучыўся моцна трымацца толькі ў самых складаных, сур'ёзных сітуацыях. А вось такое глупства — прамазаны шар — і такі вось смех могуць сапсаваць настрой. Ён разумеў гумар і любіў яго, але зласлівай насмешкі не даравaў.

Сяргей Пятровіч з далікатнасцю госця нават ухмылкай не падтрымаў Будыку: маўляў, добрыя ігракі разумеюць, што ў гульні ўсялякае бывае. Сур'ёзна і паважна ўзяў шар. А потым, упэўнены, што мае перад сабой іграка, не мацнейшага за Будыку, зрабіў тое, што намерваўся зрабіць Іван Васільевіч,— другім ударам разагнаў шары па стале: на, забівай, які хочаш, цікавей гульня пойдзе.

Антанюк абышоў вакол стала — які выбраць? Доўга цэліўся, але так, каб знарок прамазаць.

— Ну, ну! Пакажы клас! — зубаскаліў Будыка.

— Куды мне! Удар мой — што твой аўтамат: грукату многа, а вынік...

Валянцін Адамавіч папярхнуўся на паўслове.

Удар быў сапраўды з грукатам, але міма.

Будыка хіхікнуў:

— Сяргей Пятровіч! Гляньце на гэтага чалавека! Я лічу яго лепшым сябрам вось ужо амаль чвэрць веку. А, думаеце, пачуў ад яго

хоць адно добрае слова? Чорта з два! Усё ён разносіць... хоць не раз ужо гарэў за сваё крытыканства...

— Не хвалюйся: за крытыку тваіх аўтаматаў пенсію з мяне не здымуць.

— Што ты разумееш у іх? Гэта ж табе не травы!

«Валька, ты дурнееш. Ці робішся залішне самаўпэўнены. Не чапай мае раны, а то раздражніш тыгра. Пакуль што я добры. Я проста хачу ссадзіць цябе з неба на грэшную зямлю. Ты мог бы больш разумна парыраваць мой лёгенькі ўдар — спусціўся б сам на зямлю, пакпіў бы разам. Твой міністр можа многае зразумець. Чуеш, што ён кажа?»

— Валяцнін Адамавіч, можа не будзем лічыць са сваёй тэхнічнай вышкі, што травы — рэч другарадная? — сказаў госць мякка, далікатна, з яўным намерам скіраваць забільярдную размову ў жартаўлівае рэчышча.

Іван Васільевіч зноў доўга прыцэльваўся і зноў знарок не забіў, хоць шар мог бы пайсці.

— Як актыўны пенсіянер, я працую ў групе парткантролю гаркома. Сустракаюся з людзьмі, якія, я так лічу, што-нішто ды разумеюць і ў тваіх аўтаматах. Хочаш паслухаць, што сказаў пра вашу апошнюю лінію Калейнік, галоўны інжынер?..

Будыка імкліва адарваўся ад падаконніка, на якім быў прымасціўся, загарадзіў Івану Васільевічу дарогу вакол стала. Твар яго нядобра перасмыкнуўся. Не, ён не хацеў слухаць таго, што сказаў Калейнік.

— Твой Калейнік пагарэў ужо за свае рэвізіяніcцкія пражэкты,— і павярнуўся да госця.— Не падабаецца, бачыце, яму наша сістэма кіравання прамысловасцю...

— А вы лічыце, што яна ва ўсім дасканалая? — спытаў міністр.

«О, дзядзька з галавой! А ты, Валька, дурань! Усё. Кропка. Больш я не чапаю тваіх аўтаматаў, а то ты нагародзіш лухты перад міністрам. А я табе не вораг».

Адчыніліся дзверы, і на парозе більярднай з'явіўся Кляпнёў, кругленькі, чырвоненькі, як анёлак, з бутэлькай каньяку ў адной руцэ, з падносам — у другой, на якім — кілішкі, талерка з напудранымі лімоннымі скрылькамі.

— Пакуль яно якое ды такое ўсялякае — верашчака наташчака, мачанка, крывянка і кілбасы, да якіх я ласы... для падтрымкі сіл духоўных і фізічных... як сказаў паэт, для расшырэння сасудаў, як кажуць дактары... Прашу! — і рухам спрактыкаванага падавальшчыка кінуў паднос на столік, паставіў пляшку.— Валянцін Адамавіч, налі-

вай,— і тут жа да Антанюка: — Іван Васільевіч, маю нешта па сакрэту спытаць.

Антанюк выйшаў следам за ім.

Кляпнёў прычыніў дзверы і зашаптаў, дыхаючы ў твар каньяком:

— Слухай! Што ты там гародзіш? Балда! Я чуў праз дзверы. Ды гэтыя аўтаматы вылучаны на Ленінскую прэмію. А Сяргей Пятровіч — член камітэта і галоўны эксперт. Твой Калейнік сам хацеў прымазацца... Здарава ты падтрымліваеш сябра! Вось так мы ўмеем тапіць адзін аднаго! Ідыёты!

«Ах, лакейская твая душа! Ці даўно ты перада мной хадзіў на задніх лапках? А цяпер — «ты», «балда»? Пляснуць па мордзе, ці што, за такое хамства? Не хочацца пэцкаць рукі».

— Ясна.

— Глядзі ж.

— Гляджу.

Сяргей Пятровіч і Будыка чакалі іх з налітымі чаркамі.

— Супраць каго вы змаўляецеся? — спытаў Будыка.

— Супраць цябе,— Івана Васільевіча кляпнёўскае папярэджанне моцна ўзлавала, і ён увайшоў у більярдную з рашучым намерам прадоўжыць размову пра аўтаматычныя лініі ўжо не ў жарт, а выказаць водгукі, якія пачуў ад спецыялістаў. Але Валянцін глядзеў на яго такімі добрымі вачамі і ўсміхаўся... не, зусім не ліслівa — спакойна, па-сяброўску, хараша так, што Антанюку зрабілася няёмка за сваё жаданне сапсаваць сябру настрой.

«Стары певень! Мала цябе дзяўбла жонка, што з-за свайго характару ты растраціў сяброў. І гарэў. Не аднойчы. Але што Вальку за дзве мінуты так змяніла? Словы міністра? Якія? Дзядзька гэты, здаецца, не з тых, хто раздае абяцанні. Здагадаўся, пра што сказаў Кляпнёў? Ну, чорт з вамі! На якое ліха мне, заўчаснаму пенсіянеру, заядацца!»

Сяргей Пятровіч сказаў, звяртаючыся да Антанюка і Будыкі:

— За вашу дружбу,— і хітра неяк усміхнуўся.

— За нашу дружбу! — расшырыў Кляпнёў і паведаміў, крыўляючыся: — Зануда-кухар нарэшце паабяцаў праз паўгадзіны «даць першы выхад блюдаў». Разляніўся, падла. А каньяк жлукціць, як вярблюд. Шклянку вылупіў — падабрэў. Я не спускаю з яго вока.

Будыка засмяяўся, мабыць, задаволены, што мае такога памочніка. Чокнуўся з госцем другі раз.

— Сяргей Пятровіч, я чалавек не красамоўны і тостаў гаварыць не люблю. Але не магу не падзякаваць вам за дапамогу... ад імя інстытута...

— Я нічога яшчэ не зрабіў для інстытута.

— Сам ваш прыезд...— падхапіў Кляпнёў.

— Паехалі,— перапыніў іх госць і, выплеснуўшы каньяк у рот, укінуў следам скрылёк лімона. Зморшчыўся. Спытаў у Антанюка: — Чый удар?

— Мой.

Кляпнёў наліў яшчэ па адной, выпіў сваю і памчаў нацiскаць на кухара.

— Трэба нам неяк дабіць да вячэры.

— Падмацаваўшы сілы душэўныя і фізічныя, як сказаў вялікі камбінатар Кляпнёў, мы не можам іграць па-ранейшаму. Не маем права. Не, не маем.

Зайшоўшы з другога боку стала, Антанюк, не доўга цэлячыся, паклаў вельмі нялёгкі шар.

— О-о! Гэта работа! Нічога не скажаш,— ухваліў міністр, вымаючы шар з лузы.

— Што значыць добры каньячок! Дае пільнасць воку, цвёрдасць руцэ. Ай-яй-яй. Ты глядзі. Зусім не той удар!

Антанюк блазнаваў. Другі шар з трэскам лёг у тую ж самую лузу.

У Будыкі выцягнуўся твар. Госць нахмурыўся, зразумеўшы, што гэты нізкі і рухавы чалавек, востры на слова, здзекліва забаўляўся з ім, як з няўмекам.

Сяргей Пятровіч, чалавек спакойны і разважлівы, быў абыякавы і да праяў падхалімажу і да той задзірыстай няўвагі, якую часам выяўлялі некаторыя здольныя маладыя спецыялісты: маўляў, нам напляваць на тое, што ты міністр. Але такая гульня пакрыўдзіла, нават абразіла. Як ні стараўся ён быць простым і аб'ектыўным, шматгадовае карыстанне ўладай і ўсім тым, што яна дае, зрабілі міністра чулым да таго, як яго прымаюць. Не ў сэнсе знешняга прыёму. Можна пасмяяцца з дурной і разумнай угодлівасці, з любога падхалімства, з бравады маладых... Але і ў тым і ў другім выпадку нельга, маючы розум, не ўбачыць, што ўсё ідзе ад таго, што прымаюць цябе з высокай сур'ёзнасцю, з разуменнем тваіх правоў, улады, магчымасцей.

А гэты тып, які сам быў на вышыні і дажыў да сівых валасоў, прымае яго несур'ёзна, блазнуе. Смяецца, безумоўна, з палявання. З гульні гэтай. З вячэры, якую так урачыста гатуюць у яго, міністраў, гонар. Але захоўвае пры гэтым тактоўнасць і этыкет. Такое адкрыццё спачатку моцна ўразіла госця. Ён паспрабаваў супакоіць сябе думкай, што Антанюк проста помсціць за сваю крыўду і таму лепш не звяртаць на яго ўвагі, бо такія пакрыўджаныя толькі прыніжаюць гэтым саміх сябе. Але ўменне разбірацца ў людзях падказвала, што Антанюк

глыбейшы і разумнейшы шмат за каго з тых, каго па розных прычынах, правільна і няправільна спусцілі з высокіх пасад на ніжэйшыя ці паслалі на пенсію. Кароткае знаёмства, інфармацыя, за што ён «пагарэў», пераконвалі, што гэта не той чалавек, на якога можна не звяртаць увагі і на другі дзень забыць пра сустрэчу, пра яго існаванне.

«Дык чаму ж ён не прыняў мяне сур'ёзна?»

Думка гэта псавала настрой.

Міністр пачаў насвістваць арыю тарэадора.

Будыку расказвалі работнікі Камітэта, што калі Сяргей Пятровіч не ў настроі, незадаволены, узлаваны, то заўсёды насвіствае гэтую бадзёра-ваяўнічую мелодыю. Валянцін Адамавіч занепакоіўся і ўжо не проста злаваўся на Антанюка — гарэў гневам: «Чакай, я табе прыпомню ўсё!»

Але потым супакоіўся, бо разважыў, што яму, бадай, выгадна, каб госць настроіўся супраць Антанюка, зразумеў, што за птах перад ім: тады ён наўрад ці зверне ўвагу на словы пра аўтаматы. Мала што мог такі крыўляка балбатаць у час більярднай гульні! Але праз колькі хвілін міністр спалохаў Валянціна Адамавіча. Калі партыю скончылі, госць згадзіўся на Антанюкову прапанову згуляць яшчэ раз і, ставячы шары ў трохкутнік, весела сказаў Івану Васільевічу:

— Я ўзяў бы вас сваім намеснікам.

Антанюк засмяяўся.

— Па більярду?

Міністр адказаў сур'ёзна:

— Вядома, каб вы былі спецыялістам нашай галіны.

Будыка нічога не мог зразумець і з падазронай насцярожанасцю сачыў за кожным: ударам, быццам у іх мог быць пэўны сэнс, лавіў чуйна кожнае слова.

Нарэшце Кляпнёў, задаволены перш за ўсё самім сабой, зусім цёпленькі ўжо, запрасіў у сталоўку.

Пра такую вячэру звычайна кажуць: стол царскі. Не, той стол нельга было назваць царскім — так хараша, з выдумкай паклапаціліся, каб ён быў сялянскі, беларускі. Былі, безумоўна, і далікатэсы — ікра, крабы. Але кідаліся ў вочы, распальвалі апетыт белыя грыбкі, адзін у адзін, маленькія, цвёрдыя, блішчалі бурштынавай масляністасцю; салёныя рыжыкі проста гарэлі ў салатніцах, адборныя гурочкі, здавалася, самі прасіліся ў рот; пасярод стала з вялізнай глінянай міскі дыхала пахучай парай бялюткая рассыпчатая бульба, а побач на патэльні яшчэ скаірчэла крывянка, у чысценькай каструлі яшчэ булькаў адмысловы паляўнічы кулеш з дзічыных вантробаў, рэцэпт прыгатавання якога ведалі толькі Сіротка і Антанюк. Іван Васільевіч

нават забаяўся, што Сіротка па прастаце сваёй мог выдаць рэцэпт кухару, які часцей за ўсё гатуе не сапраўдным паляўнічым, а такім вось арганізатарам, як Будыка, і такім стралкам, як сённяшні госць.

Агледзеўшы прыдзірліва стол (былі запрошаны ўсе — шафёры, камендант, кухар), Антанюк сказаў у сваю талерку, ні да кога не звяртаючыся:

— Не бачу галоўнага паляўнічага — егера.

Усім зрабілася няёмка, нават п'яненькі Кляпнёў разгубіўся. Будыка не на жарт спалохаўся: чорт яго прынёс, гэтага ўзлаванага адстаўніка, сапсуе абедню, а калі яшчэ вып'е — не абярэшся бяды.

Але Іван Васільевіч піў вельмі стрымана, быў добры, нікому настрою больш не псаваў, наадварот, весяліў паляўнічымі расказамі.

Абедню сапсаваў Кляпнёў — пад канец вячэры споўз пад стол і загаўкаў па-сабачы.

II

Іван Васільевіч разумеў жончыны трывогі і клопаты. Усё замужняе жыццё яна перажывала, бадай, пакутавала ад таго, што муж мала быў дома — з ёй, з дзецьмі, часта затрымліваўся вечарамі, часта выязджаў у камандзіроўкі, а ў выхадныя, святочныя дні — на паляванне.

Цяпер жа ёй здаецца, што ён замнога сядзіць дома, замнога думае, чытае. А яна лічыць, што для яго шкодна і адно і другое. Пра што ён можа думаць? Вядома ж, пра тое, што яго пакрыўдзілі, зрабілі заўчасна старым. А такія думкі, як сцвярджае медыцына, выклікаюць шкодныя эмоцыі. (Вольга Усцінаўна акуратна чытала часопіс «Здоровье».) Эмоцыі такія ў яго ўзросце могуць прывесці да цяжкіх змен у сардэчна-сасудзістай сістэме. Чытаць многа — не тыя вочы: даўно ўжо скардзіўся, што ад чытання баліць галава.

Вольга, начытаўшыся «Здоровья», лічыла, што для людзей іх гадоў галоўнае — дзейнасць. Недарэмна сама яна пасля працяглага перапынку — пакуль не выгадавала дзяцей! — пайшла на працу.

Іван Васільевіч бачыў: жонка моцна перажывае, што ён, яшчэ зусім здаровы мужчына, мусіў стаць пенсіянерам. Два гады жыве без калектыву, без людзей. А раней жа і дня не мог пражыць без супрацоўнікаў. А Вольга перакanана, што ў старасці чалавеку больш, чым нават у маладосці, патрэбны людзі.

Івана Васільевіча здзіўляла да гумарыстычнага замілавання, што Вольга, жанчына практычная, вельмі зямная, пад старасць робіцца такая кніжна-правільная.

Зрэдку і яго палохала, што ён як бы ўваходзіць у гэтую ролю — пенсіянера. Як прыступы болю ад каменя ў печані, гэтак жа раптоўна, без асэнсаванай прычыны, з'ўляліся часам страх і роспач. Але, на шчасце, не надоўга — на хвіліны. А так звычайна ён ставіўся з гумарам і да свайго новага становішча і да жончыных хвалявванняў. А калі сядзеў падоўгу дома ў адзіноце, то зусім не адтаго, што яго скоўваў цяжкі роздум над уласным лёсам, як здавалася жонцы. Не. Часам ён проста бяздумна адпачываў пасля многіх год напружанай працы, часам паглыбляўся ва ўспаміны, а часцей за ўсё — проста іграў ролю, якую выдумала Вольга, забаўляўся, каб яшчэ больш занепакоіць яе і прымусіць глядзець за ім, як за малым. Ён не лічыў гэта жорсткім у адносінах да жонкі, бо не меў ні злосці, ні крыўды, і яе павялічаная ўвага да яго перажыванняў не раздражняла. Ён разумеў: гэта ў першую чаргу патрэбна ёй самой, без такіх клопатаў і хвалявванняў жыццё яе збяднела б. Адно не спадабалася, і ён выявіў своеасаблівы пратэст. З паўгода назад ён пачаў употай, уначы, запісваць свае партызанскія ўспаміны. Вольга гэтак жа ўпотай пачала чытаць кожны запіс. Адшуквала рукапіс, дзе б ён ні схаваў,— у сваёй кватэры яна ўсё магла знайсці.

Іван Васільевіч узлаваўся і кінуў пісаць. Навошта? Нямала гэтых успамінаў напісалі без яго. І нямала няпраўды. Без намеру надрукавацца, без цэнзуры — жончынай, чытацкай, без хованкі, ён, магчыма, здолеў бы напісаць што-небудзь цікавае. А так — не.

Тыдзень назад, калі «ворага траў» папрасілі пайсці на ганаровую пенсію, гэтак жа, як некалі яго, Антанюка, Вольга Усцінаўна сказала, узрадаваная:

— Ваня, можа цяпер цябе вернуць на работу?

— А я не хачу! Мне добра пенсіянерам!

Ён сам не разумеў, чаму ўзлаваўся, і, сказаўшы няпраўду, спалохаў і засмуціў жонку.

Дзіўна: адстаўка чалавека, з якім ён, Антанюк, шмат у чым не быў згодзен і праз суб'ектыўнае пражэкцёрства якога несправядліва пакараны, не ўзрадавала. Толькі нагадала боль, які перажыў у тыя дні, калі рашаўся яго ўласны лёс. Тут жонка хвалявалася не без падстаў: апошнія дні ён, і праўда, жыў у цяжкім роздуме. З трывогай, з надзеяй. Зноў спрачаўся са сваімі праціўнікамі, сапраўднымі і ўяўнымі,— з людзьмі, якія кіравалі ім, з былымі сябрамі і — вельмі можа здарыцца — заўтрашнімі супрацоўнікамі. Але найбольш — з сынам...

«Ах, дзеці, дзеці! Я жыў для вас, працаваў для вас. І мне хочацца аднаго: каб хоць адзін з вас зразумеў гэта і сказаў дзякуй. Не за тое,

што я нарадзіў вас, выгадаваў, вывеў у людзі. За работу, якую я рабіў для ўсіх. Для ўсіх дзяцей».

Іван Васільевіч ласкава паклаў руку на галоўку ўнука, на яго мяккія-мяккія, як пушок, залацiста-белыя валосікі. Трохгадовы хлопчык незадаволена крутнуў галавой, каб скінуць дзедаву цяжкую руку: захоплены казкай, ён не хацеў ніякай пяшчоты. Мужчына!

Яны сядзелі перад тэлевізарам. Малы і стары. Глядзелі «Снежную каралеву». Антанюк даўно прыкмеціў, што з найбольшай цікавасцю ён глядзіць мультфільмы вось па такіх казках — па народных, па Пушкіну, па Андэрсену... Усё тут праўда. І снежная каралева, і гном, і забыццё маленькага Кая, і настойлівыя пошукі Герды. Казачныя прыгоды дзяцей хвалююць да нервовага ўзбуджэння, да слёз замілавання і захаплення. А вось многія фільмы для дарослых здаюцца яму надуманымі, нецікавымі, бо нібыта глыбокія праблемы, якія ўзнімаюць аўтары, па сутнасці ўяўныя, жыццё герояў спрошчана. Як, напрыклад, у фільме «Старшыня», які нядаўна паглядзеў. Яго, Антанюка, абурылі ўяўная смеласць і ўяўная праўда, падпарадкаваныя адзінаму ўмоўнаму тэзісу і адзінаму жаданню аўтараў фільма — дагадзіць аўтару тэзіса. Антанюк выдатна ведаў старшыню, з якога пісаўся герой, не аднойчы па рабоце сутыкаўся з гэтым складаным характарам. У фільме ўзялі знешнія рысы гэтага характару і знешнія прыёмы ў рабоце старшыні. Калі Іван Васільевіч паспрабаваў гэта выказваць, людзі, якія дзесятак год назад палічылі б такі фільм за крамолу і якія цяпер, праз два-тры тыдні, глыбакадумна, выдаючы за ўласную мудрасць, паўтараюць ягоныя, Антанюковы, словы, тыя ж людзі тады глядзелі на яго як на адстаўнога дзівака, якому ўжо няма чаго траціць: атрымаў персанальную — можа малоць што хоча.

Гаварыў тэлевізар ледзь чутнаму спальні Лада рыхтавалася да семінара па квантавай механіцы. У доме ніхто не мог павысіць голасу, калі яна садзілася за свае тэорыі. Дзіва, што яна хоць так дазволіла ім глядзець тэлевізар.

Іван Васільевіч многа разоў казаў і ў жарт і сур'ёзна, што Лада — эгаістка і дэспат у доме. Але любіў малодшую дачку і ўсё дараваў ёй — за здольнасці да навукі: рос выдатны фізік, дзіця свайго часу. Не якая-небудзь пасрэднасць, як... Як хто — ён баяўся казаць, бо калі аднойчы сказаў гэта пры жонцы, назваўшы старэйшую дачку Маю, Вольга абразілася і цэлы дзень плакала: для маці — усе дзеці роўныя.

Лада ўвайшла ў залу. Ведаючы, што яна адразу пачынае рабіць заўвагі аб тым, што на экране, Стасік борздзенька саскочыў з крэсла і крутнуў рэгулятар на поўную гучнасць.

Івану Васільевічу таксама не падабалася, калі Лада сваімі ўедліва-здзеклівымі, насмешлівымі заўвагамі разбурала той нязвыкла-ўзнёслы настрой, які стварала казка. Але на гэты раз Лада маўчала. Села каля стала і моўчкі глядзела заключныя сцэны мультфільма.

Кай і Герда развіталіся з аленем і лапландкай. Невядома, як малога, а старога гледача больш за ўсё крануў гэты дзівосны, разумны алень.

Іван Васільевіч нават употай выцер слязінку.

Лада ўздыхнула.

— Шчаслівыя дзеці са шчаслівых казак! Усе цуды ім так лёгка даваліся! Але мне іх шкада. Асколачкі таго тролевага люстэрка ўсё яшчэ лятаюць. І людзей мне шкада. Яны многа гавораць, а мала ведаюць. О, каб яны ведалі ўсе формулы тонкай структуры атама вадарода! Усе рэлятывісцкія эфекты!

— А навошта гэта ўсім ведаць? — усміхнуўся Іван Васільевіч.

— Праўда — навошта? А навошта гэта мне ведаць?! О божа! — прастагнала Лада, але Іван Васільевіч прывык, што дачка рэдка калі гаворыць сур'ёзна.— Я ўся набіта формуламі, як бочка селядцамі. Я праз формулы гляджу на свет, на людзей. Страшна! — тут ужо Іван Васільевіч насцярожыўся, бо словы дачкі не здаліся жартам — крык душы.— Мне бывае страшна! Я так многа ведаю, што часам здаецца — нічога не ведаю. Усе пастулаты, ураўненні, формулы зліваюцца ў кашмарную каламуць. Здаецца, што думкі мае, сама я — тая ж бясспінавая часціца ў кулонаўскім полі. Але ядро... Што ядро? Хто ядро? «Пастаянная тонкай структуры амега імкнецца да нуля, паколькі ў яе выражэнні хуткасць святла ўваходзіць у назоўнік». І я... я ў гэтым палёце думак прыходжу да нуля. Я — нуль, нуль, нуль! Я нічога не ведаю, нічога не адкрыю! Я натоптваю сябе чужымі формуламі.

На экране маладзенькая артыстачка спявала:

Вновь я грущу над заветным письмом,<br>Мой синеглазый друг.

Лада хмыкнула.

— Ах, якая страсць! Але для мяне — лірыка ці фізіка? — і, імкліва абышоўшы крэсла, у якім сядзеў бацька, выключыла тэлевізар. Трохгадовы глядач, якому, пэўна, падабалася песенька пра каханне, заверашчаў на ўвесь дом і, падхапіўшыся, пачаў малаціць Ладу кулачкамі па баку.

— Ладка-аладка-гадка! Ключы!

— Во як трэба ваяваць... за сваё права на эстэтычнае задавальненне. А што тады казаць пра змаганне за месца ў жыцці! Мой

даражэнькі пляменнічак, крыкун і мазюка! Ты знаеш ураўненне Клейна — Гардона?

— Ключы!

У дзвярах з'явілася Вольга Усцінаўна.

— Стасюлька! Хадзем на кухню. Я табе казку раскажу.

— Не хачу казку! Хачу цявізал!

— О, няшчасце на маю галаву! Я сёння ж заяўлю ультыматум яго бацькам! Зязюлькі! Падкінулі плод сваёй халоднай любові!..

— Ключы! Ладка-аладка!

— Як не сорамна, Лада! Ты дэспат у доме. З-за сваёй фізікі ты гатова ўсіх нас выгнаць.

— І выганю!

— Іван! Чуеш, як яна размаўляе! А ты маўчыш, патураеш.

— Ключы!

— На табе твой цявізал. Але ціха! А то атрымаеш ураўненне Дзірака.

— Сама дзі-лака.

На экране танцавала балетная пара.

— О, гэта нешта сур'ёзнае. Мама, ты ж сама верыш, што я геній,— і зноў звярнулася да бацькі, як бы працягваючы перапыненую размову: — А калі я нішто? Пажыццёвая лабарантка? Дык на якога д'ябла мне такія пакуты? «Я помню чудное мгновенье, передо мной явилась ты...» — гэта я запамінаю лягчэй, чым мая дарагая сястра, літаратар. І калі напісана — помню, а яна забыла ўжо даўно. Я ўсё помню. І для гэтага мне не трэба было паліць свой мозг, закручваць звіліны такімі петлямі, што некалі сам Мефістофель зламае там нагу, у маім мозгу. Не! Усё! К чорту фізіку! Выходжу замуж! За таго чорненькага, Жазефа, што быў у нас на вечары. Помніш, мама? Нішто, праўда? Падгавару яго кінуць універсітэт, вярнуцца дадому, у Афрыку. Ён, здаецца, сын правадыра нейкага племя. Няхай робіць пераварот, скідае бацьку, садзіцца на трон. Я такі арганізую парадачак — свет здзівіцца! А цябе, тата, запрашаю вучыць неграў агранаміі. Хочаш, мы зробім цябе прэзідэнтам? Чаго ты ўсміхаешся? Быў жа беларус прэзідэнтам на Гавайскіх астравах. Чаму табе не пабыць? Ты чалавек справядлівы, не дэспат, не тыран... Шчыры інтэрнацыяналіст.

— Лада, не вярзі лухту.

— Мамачка, ты лічыш, што гэта лухта? Не, мая дарагая мамуля, ты дрэнна ведаеш сваю дачку.

Не, маці добра ведала шалёны характар малодшай Дарсі і ўжо тады, на тым вечары, моцна спалохалася, калі ўбачыла, як Лада

танцавала са студэнтам-неграм нейкі афрыканскі танец, які здаўся ёй страшэнна дзікім.

— Іван, скажы, каб яна не іграла на маіх нервах.

— Ты не хочаш, каб я выходзіла за негра?

— Выкінь з галавы шалёныя думкі!

— Ага. А ты ведаеш, дарагая мама, што гэта называецца расізмам?

— Называй як хочаш.

— Во, таварыш марксіст, як выхавалі вы сваю жонку. Любуйцеся!

Іван Васільевіч зарагатаў.

— З табой, Лада, не засумуеш.

— Патурай, патурай, дык яна выкіне табе коніка, схопішся пасля за галаву,— пакрыўдзілася на мужа Вольга Усцінаўна.

— Ды ну вас! — адмахнуўся Антанюк, устаючы з крэсла.

— Усё. Адцягвай, мама, унука ад цявізала. Антракт скончаны. Дзея другая. Падрыхтоўка да практыкума: «Вымярэнне энергіі анігіляцыйных гамаквантаў». О мая няшчасная галава! Дарагія бацькі! Да вашага ведама: з'ява анігіляцыі заключаецца ў тым, што пры сустрэчы часціцы з антычасціцай абедзве перастаюць існаваць, ператвараюцца ў другія часціцы. Мудра? А якая пры гэтым выдзяляецца энергія? Вось таму прашу поўнай цішыні!

Але цішыня панавала нядоўга. Спачатку жонка шэптам прасіла паўплываць на Ладу, каб яна не захаплялася неграм, «бо пры яе дурным характары недалёка і да бяды».

Івана Васільевіча гэта развесяліла.

— Ты адсталы элемент, Вольга. Трэба мацаваць міжнародныя сувязі.

— А ты стары дурань,— узлавалася Вольга Усцінаўна, зразумеўшы, што муж здзекуецца з яе. Але злавацца яна не ўмела і праз хвіліну пачала з наіўнай хітрасцю ўгаворваць, каб ён схадзіў да каго-небудзь са старых сяброў, якія па-ранейшаму займалі высокія пасады.

— Такое адбылося. Няўжо табе нецікава даведацца, што там думаюць?

— Не, нецікава... Што думаюць — не кожны скажа. А што кожны з іх скажа — гэта я ведаю наперад.

— Іван, ты губіш сябе.

— Гублю.

— Ты замуроўваеш сябе ў чатырох сценах.

— Замуроўваю.

Яна трагічна прастагнала:

— О, каб хто ведаў, колькі ты пайграў на маіх нервах. Ад цябе пераняла Лада... Два тыраны!

Густыя, пасівелыя бровы яго сышліся над пераносіцай, паглыбелі зморшчына пад вачамі і каля рота. Глыбока ўдыхнуў і затрымаў паветра. Пакрыўдзілі жончыны словы. Але стрымаўся. Спытаў з болем, ласкава, шэптам:

— Я тыраніў цябе, Оля?

Жонка наблізілася, паклала руку яму на галаву, на валасы, якія заўсёды здаваліся ёй жорсткімі, можа таму, што ён заўсёды каротка стрыгся — пад бокс. Але некалі яны былі чорныя да варанога бляску, яго валасы, а цяпер, хоць і не вельмі яшчэ пасівелі, як бы выцвілі. «І, здаецца, памякчэлі»,— падумала яна. Сказала:

— Тыраняць дзеці. Яны эгаісты. І ты. Ты зрабіўся як малы.

— Я — пенсіянер.

— Іван!

— У цябе нешта гарыць на кухні.

Пасля Іван Васільевіч задрамаў. Больш за ўсё яго палохала такая нечаканая дрымота. Часцей, чым што іншае, яна напаміналa пра набліжэнне старасці, пра вымушаную бяздзейнасць. Раней ён мог працаваць двое сутак без сну, без адпачынку і не помніць, каб хоць раз заснуў за рабочым сталом, у крэсле.

Разбудзіў крык Лады і Стасіка. Зразумеў, што прыйшлі зяць і старэйшая дачка. Лада пратэставала супраць іх ранняга прыходу: заўтра ёй трэба вымяраць энергію гама-квантаў.

Голасу Маі не чуваць. Яе голасу ніколі не чуваць. Яна дамагаецца свайго маўчаннем і слязьмі. На маці дзейнічае гэта больш пэўна, чым Ладзін крык.

Гучыць паважны басок зяця. Усе трое наступаюць на Ладу, як заўсёды, абвінавачваючы ва ўсіх смяротных грахах: эгаізме, істэрычнасці і г. д.

Няшчаснае дзяўчо! Пры нечалавечым напружанні розуму, якое трэба, каб пазнаць тайны ўсіх гэтых нуклонаў і антынуклонаў, пазітронаў і мезонаў, ёй прыходзіцца траціць сапраўды ядзерную энергію, каб арганізаваць цішыню. Наверсе гойсае суседскі сын — так, што звініць посуд у серванце, за сцяной бясконца дрынчыць піяніна, за другой сцяной плача дзіця. І гэта ў добрым старым доме, кватэрам у якім зайздросцяць. А як можна вучыць атамную тэорыю, пісаць вершы ў тых «гармоніках», якія пачалі будаваць у мікрараёнах?

Зяць увайшоў не пастукаўшы. Павітаўся — быццам ласку зрабіў:

— Добры дзень, Іван Васільевіч.

— Дзень добры, отрачэ Генадзіуш, сын Пілiпаў.

Зяць рагатнуў з гэтай новай формы звароту да яго. Весела, але з ноткай гэткай прабачлівай паблажлівасці: маўляў, давай-давай, дзівач, стары хрыч, больш табе няма чым займацца. На стале, з-пад носа Івана Васільевіча, забраў усе газеты.

— Ёсць «нядзелька»? Трэба ўзяць пачытаць.

Трэба ўзяць — і ніякіх размоў. Не папросіць, не запытае: а ці прачытаў гэтую «Нядзельку» сам гаспадар?

Такая бесцырымоннасць ужо нават не абурала. Раней некалі абурала. Зяць, калі жыў тут, у іх кватэры, вось гэтак жа лазіў па кніжных шафах, не саромеўся заглянуць і ў шуфляду стала, калі Іван Васільевіч забываўся зачыніць на ключ. Мог вось так, без стуку, зайсці нават у спальню апоўначы, каб запытаць, дзе сённяшняя «Комсомольская правда» ці ў якім годзе памёр Пляханаў.

Разоў колькі Іван Васільевіч зрываўся — выдаваў «на высокіх нотах» і яму, Генадзю, і Маі, і добрай цёшчы, якая дрыжала, каб, крый божа, не пакрыўдзіць дарагога зяцька. Паступова выпрацаваўся як бы імунітэт: навучыўся не толькі стрымліваць абурэнне, але тушыць яго ў самым пачатку. А вось здзіўляцца не пераставаў. Моцна здзіўляла незвычайная здольнасць гэтага чалавека — іх зяця — не засвойваць, не прымаць самыя простыя, хаця б знешнія, правілы элементарнай інтэлігентнасці.

Іван Васільевіч пры ўсім сваім багатым вопыце ніяк не мог зразумець — чаму гэта? Не дурань жа хлопец. Безумоўна, хітры. Жаніўся, напэўна, з разлікам. Аднак не сказаць, каб вельмі ўжо спадзяваўся на цесцева становішча. За тое, што, працуючы слесарам у гаражы, вучыўся на вячэрнім аддзяленні інстытута і, хоць пасрэдна, але без адзінага правалу здаваў усе экзамены,— Іван Васільевіч дараваў яму ўсё.

І пасля тых сваіх зрываў караў сябе і прасіў прабачэння — не ў зяця! — у жонкі, бо з Генадзя «што з гусі вада», а Вольга плакала пасля мужавых успышак.

Але вось ужо два гады як Генадзь — інжынер, начальнік участка на аўтазаводзе. Не без яго, Антанюковай, дапамогі атрымаў кватэру, аднапакаёвую, але асобную і ў добрым раёне. Дзякуй за гэта, як і за многае іншае, Іван Васільевіч ад яго не пачуў. Больш таго, зяць паводзіў сябе так, быццам яго падманулі і не аддаюць шмат што з таго, што абяцалі. Прэтэнзій ён, праўда, ніякіх не выказваў — гэта была, бадай, адзіная прыкмета яго інтэлігентнасці, але браць не саромеўся; безумоўна, пад яго ўплывам і Мая рабілася па-кулацку прагная. Калі на наваселлі ў іх сярод шмат якіх рэчаў, зусім не

патрэбных маладым людзям у маленькай кватэрцы, Іван Васільевіч убачыў і халат, які яму падаравалі ўзбекі, то гэта так развесяліла, што ён, падвыпіўшы, увесь вечар рагатаў, на здзіўленне сваім і гасцям. Вольга Усцінаўна толькі дома даведалася прычыну яго весялосці, калі ён пачаў дапытвацца: «Не, ты скажы мне, калі ласка, а халат... халат узбекскі навошта ім?» Але і гэта Іван Васільевіч умеў растлумачыць і дараваць. У зяця моцна трымаецца сялянская псіхалогія, праўда, не натуральная, не народная — разбураная, скамечаная горадам і не лепшымі асабістымі якасцямі. Такіх людзей сустракаў нямала, асабліва ў той сферы, дзе доўга працаваў,— у органах, якія кіравалі сельскай гаспадаркай.

Не мог дараваць зяцю толькі аднаго: як той сустрэў яго, цесцева, пенсіянерства. Сказаць нічога не сказаў. Але ва ўсім, што выказваў, як бы чуўся папрок: маўляў, падвёў ты мяне. Гэтага Іван Васільевіч не мог зразумець. На што яшчэ чалавек разлічваў? На пасаду, на кар'еру? Але ж зусім іншая галіна! Што мог прапанаваць Іван Васільевіч яму — інжынера РТС? Дык ні ў яго, ні ў дачкі думкі не было выехаць з Мінска. Куды там! Работай сваёй задаволены і яна і ён.

А потым гэтае абразлівае дараванне: што з цябе возьмеш, з пенсіянера! І сваяцкае суцяшэнне: не гаруй, стары, як-небудзь пражывем. Ужо разы два спрабаваў паляпаць па плячы.

Той добры імунітэт памагаў Івану Васільевічу ўсё сцярпець. Хацелася толькі аднаго: да канца зразумець гэтага чалавека, свайго зяця. Праўда, часам, асабліва цяпер, калі столькі вольнага часу для роздуму, рабілася горка. Жыў, працаваў дзеля дзяцей, а сваіх уласных не вельмі выхаваў, адна Лада радавала. А зяця за тры гады жыцця ў адной кватэры не толькі не здолеў выхаваць, навучыць свайму стаўленню да жыцця, да людзей, простай інтэлігентнасці, але нават добра зразумець не паспеў. Ці не перабольшваў ты, Іване, свае сілы і магчымасці? І можа так ва ўсім? Не, пагадзіцца з гэтым не мог! Ды і жыццё неаднойчы пацвярджала, што, нягледзячы на памылкі і слабасці, ён верна служыў ідэі і праўдзе.

Зяць, стоячы, праглядаў газеты. Раптам задаволена рагатнуў:

— Ніводнага слова пра яго. Як карова языком злізала. А мае хлопцы ўсё яшчэ п'юць за яго памяць... І анекдоты расказваюць.

— І ты з імі?

— А я сябе не аддзяляю ад народу!

— Ого!

— Што — ого? — насцярожана і амаль з выклікам спытаў зяць.

Іван Васільевіч не адказаў. Зяцевы разважанні пра палітыку здзіўлялі наіўнай прымітыўнасцю і блытанасцю, Антанюку раней

неаднойчы рабілася сорамна, што чалавек, які жыве ў адной кватэры з ім, студэнт, вярзе часам такую лухту. Пасля ён навучыўся прапускаць міма вушэй Генадзевы «палітычныя мудрасці», не звяртаць увагі.

Апошнюю падзею Івану Васільевічу чамусьці не хацелася ні з кім абмяркоўваць, тым больш з такім «палітыкам», як гэты самазадаволены інжынер, які прыехаў з адзінаю мэтай — з'есці смачны абед, згатаваны цёшчай. То давай, браце, пра абед і гаварыць будзем.

— Каб ты не быў такі скупярдзяй, то захапіў бы пляшачку. Глядзі, весялей паабедалі б.

Генадзь рагатнуў ужо зусім інакш. Але сярод розных адценняў гэтага рогату Іван Васільевіч злавіў збянтэжанасць: усё-такі ніякавата хлопцу кожны раз прыходзіць на цесцеву чарку.

— Грошы ў Маі. Паспрабуйце выпрасіць у яе!

— Хто з вас на каго ўплывае?

Зяць не зразумеў.

— Мая была шчодрая дзяўчына.

— Лёгка быць шчодрай за бацькаў кошт!

Іван Васільевіч усміхнуўся.

— Дарагі Генадзь! Ты выказаў мудрэйшы афарызм. За такое — з мяне чарка! На Новы год!

— Каб сёння,— расчараваўся зяць, не зразумеўшы іроніі. Але тут жа весела рагатнуў і палез у кніжную шафу, дзе стаялі тамы энцыклапедыі.

— Паспрачаўся з адным на каньяк. Калі царствавала Лізавета?

Генадзь гартаў том, павярнуўшыся спіной. Іван Васільевіч разглядаў гэтую шырокую спіну, тоўсты карак, які зяць па-ранейшаму, па-сялянску, пасля стрыжкі галіў. Пасля сканчэння інстытута Генадзь неяк адразу моцна раздаўся ўшыркі. Іван Васільевіч з гумарам падумаў, што хлопец прагадаў на гэтым. Раней даношваў яго, цесцевы, касцюмы, трохі пацёртыя, але з дарагога матэрыялу. Цяпер яго касцюмы не налазяць, з меншага не зробіш большага. І Генадзь мусіць купляць сам. Але на дарагія, відаць, Мая не дае грошай. Носіць самыя танныя — «не аддзяляе сябе ад народу»,

— Во гад, ён выйграў. А я думаў...— Генадзь заклапочана пашкроб патыліцу.— Я ж па гісторыі меў пяцёрку.

Вось гэтая яго наіўнасць таксама здзіўляла: калі па нейкім прадмеце меў пяцёрку яшчэ ў школе, то яму здавалася, што лепш за яго гэты прадмет ніхто не ведае і не можа ведаць. Неяк ён зусім сур'ёзна сказаў: «А што яны ведаюць, гэтыя акадэмікі! Толькі грошы грабуць».

Іван Васільевіч даўно прыкмеціў, што Вольга нібы пачала баяцца, калі яны заставаліся адзін на адзін, цесць і зяць. Можа таму паклікала:

— Лада дазволіла паглядзець тэлевізар. Калі ласка, прашу вас, таварышы мужчыны.

Лада сядзела ў крэсле, ужо абыякавая да ўсёй бытавой мітусні. Яго, бацьку, часам палохала гэтая здольнасць малодшай дачкі «адключацца» ад усяго. Толькі што была зямная, вясёлая, гарэзлівая і раптам быццам узнялася ў космас, у бясконцыя прасторы сусвету.

З экрана два вядомыя акцёры натужліва стараліся пасмяшыць тэлегледачоў. Але жарты — скроеныя з барадатых анекдотаў, якія Іван Васільевіч чуў яшчэ ў маладосці. Смяяліся Вольга Усцінаўна і Генадзь. Натхнёны перадачай, зяць пачаў расказваць свой анекдот.

— Іван Васільевіч, пра пенсіянераў чулі? Два старыя сядзяць у скверы. Падняліся... А тут вецер падзьмуў. Пахіснуліся, схапіліся адзін за аднаго, каб утрымацца на нагах. Пасля адзін пытае: «А што заўтра будзем рабіць?» — «Калі ветру не будзе, да дзяўчат пойдзем»,— адказвае другі. Да дзяўчат! Го-го!..

Вольга Усцінаўна глядзела на мужа са страхам: яе абразіла зяцева бестактоўнасць, але прабраць яго не адважвалася. Каб супакоіць жонку, Іван Васільевіч прымусіў сябе засмяяцца. Анекдот ён чуў сто разоў, сам расказваў, зяця свайго добра ведаў, а таму нішто не кранула. Але на хамства часам трэба адказваць хамствам.

— Маладыя, муж і жонка, такія вось, як вы з Маяй, доўга думалі, што падарыць маці на імяніны. І нарэшце прыйшлі да згоды: падорым ёй самае дарагое, што ў нас ёсць — нашага першынца. Няхай цешыцца бабуля!

Генадзь рагатнуў. Мая ўспыхнула і выйшла з пакоя. Вольга Усцінаўна дакорліва паківала галавой:

— Хаця б дзяцей не чапалі ў сваіх дурных анекдотах.

А Лада прастагнала:

— О божа, якое ўбоства!

І хоць сказала яна, магчыма, пра тое, што гучала з тэлевізара, бо тут жа злосна выключыла, але Івану Васільевічу здалося, што — пра іх, і словы Ладзіны балюча апяклі. Праўда, убоства! Гэтае заўчаснае пенсіянерства мімаволі робіць яго дробязным, засмоктвае ў ціну быту, сямейных праблем, якія часам не варты выедзенага яйка. Замест таго, каб штораніцы чытаць зводкі, як ідуць работы па асушэнні Палесся, колькі пасеяна азімых, ён мусіць цікавіцца, ці «быў жывоцік» у Стасіка, перад тым як весці яго ў садзік.

Настрой сапсаваўся.

Жонка, сямейны сейсмограф, адразу пачула яго душэўныя штуршкі. Насцярожылася, як тая птушка.

Добра, што ў доме ёсць Лада. Нездарма ёй далі такое імя. Праўда, і яна часта псуе настрой. Але, па сутнасці, толькі яна адна можа і ўзняць яго, бацькаў настрой.

Лада стаяла каля акна і чытала вершы:

В песне любой
отстоялась любовь.
В каждой звезде
отстоялось время везде.

Усіх прымусіла слухаць з большай увагай, чым слухалі тэлеперадачу. Нават Генадзя, які лічыў вершыкі дзіцячай забаўкай, а пісьменнікаў — хлусамі. «Хіба яны пішуць праўду? Выдумляюць усё».

Мая спынілася ў дзвярах.

Маці сядзела каля стала, па-сялянску, па-старэчы падпёршы кулаком шчаку.

А каждый вздох возник
сперва
как крик.

— Пані літаратарка, хто гэта?— спытала Лада старэйшую сястру.

Мая пацiснула плячамі.

— Еўтушэнка,— упэўнена адказаў Генадзь.

Івану Васільевічу спазма сціснула горла. Ён глядзеў у падлогу — не хацеў, каб хто-небудзь убачыў яго вочы, вільготныя ад слёз замілавання і гордасці.

«Дзіця маё! Колькі ўсяго змяшчаецца ў тваёй маленькай галоўцы! Навошта табе яшчэ гэтыя вершы?»

— Гарсія Лорка! — паведаміла Лада і прапанавала: — Давайце, інтэлігенты, абедаць!

Пасля абеду прыйшлі госці. Нечаканыя. Незапрошаныя. Валянцін Будыка з жонкай. Даўно ўжо яны не заходзілі вось так проста, на агеньчык. Таму Вольга Усцінаўна неўзлюбіла Валянцiна, які некалі, у першыя пасляваенныя гады, амаль штодзень заглядваў і ў якога яна тады нават трохі была закахана, безумоўна, глыбока таемна (у якой жанчыны не бывае такіх таямніц!). І хаця Будыка, не ў прыклад іншым сябрам, не адвярнуўся, але заглядваў усё радзей і радзей. Гэта крыўдзіла Вольгу, горка было расчароўвацца ў блізкіх людзях.

Але цяпер гасцям узрадавалася. Шчыра. За мужа. Яны — як тая ластаўка, якая вясны не робіць, але з'яўляецца самай вернай прыкметай яе. Можа яшчэ наступіць вясна і ў Іванавым жыцці?

Будыка — пралаза, ён першы даведваецца пра ўсе змены. Ён на «ты» з міністрам.

Захацелася, каб мужчыны па-ранейшаму хораша пасядзелі, пагутарылі. Ашчадна вяла яна апошні час гаспадарку, але тут расшчодрылася: паслала Генадзя купіць каньяку і шампанскага. А калі той прынёс — з надзеяй, што і сам паласуецца, Вольга Усцінаўна ўпотай папрасіла Маю павесці мужа ў кіно, каб не замінаў у размове. Загад жонкі — найвышэйшы загад, і Генадзь мусіў скарыцца.

Мужчыны сядзелі ў кабінеце. Мілана Феліксаўна памагала гаспадыні варыць каву, рыхтаваць закуску. Вольга Усцінаўна не спяшалася, каб даць мужчынам пагутарыць з вока на вока. Госця таксама не спяшалася, хацела даўжэй затрымацца ў кухні, каб усё агледзець, бо кухня, а не гасцінны стол, красамоўней за ўсё расказвае, як жыве цяпер сям'я, які мае дастатак. Адначасова госця паказала сябе, свае ўборы.

— Волечка, дай мне фартушок, а то запэцкаю сваю абнову. Ну, як мой касцюм? Нешта ты маўчыш.

Касцюм быў пашыты выдатна. І матэрыял адмысловы. Манжэцікі і каўнерык з сабалінага футра. Будычыха адзявалася з вялікім густам, на зайздрасць многім жанчынам. І ўвогуле сачыла за сабой. Пяцьдзесят год, а як дзяўчынка — па паставе, вядома, не з твару; гады на твары не магла схаваць ніякая касметыка: наадварот, здавалася, чым больш яе, тым выразней яны вылазяць, гады.

Вольга Усцінаўна шчыра пахваліла касцюм:

— Навучыліся ў нас шыць, нарэшце.

— У нас?! Што ты! У Вільнюсе шыла. Кляпнёў завёз. Ён ведае ўсіх лепшых краўцоў ва ўсім Саюзе. Бандыт, але карысны. Хочаш, я цябе туды завязу? Будыка дасць машыну...

— Што ты, Міля! Куды мне ў Вільнюс! У атэлье напроці свайго дома няма калі схадзіць. Ды і грошы! На мой заробак ды Іванаву пенсію...

— Будыка кажа, што Івана вернуць на работу. Мой жа ўсё вынюхаць можа, ды яшчэ маючы такога ганчака, як Кляпнёў... Я часта кажу яму, Валю: каб твайго спрыту трохі сыну... Розум бацькаў, а спрыт... Асабліва да дзяўчат... Мой жа малады чорт быў... А сын...

«Чорт» гэты — Валянцін Адамавіч, манументальна прыгожы, у чорнай тройцы, пашытай не менш умела, чым жончын гарнітур, засунуўшы вялікія пальцы ў кішэнькі камізэлькі, хадзіў па пакоі перад гаспадаром, які з нагамі забраўся на шырокую тахту і таму здаваўся там, у ценю — свяціў адзін таршэр над сталом — хлопчыкам.

— Чуў, што сказаў Дуглас-Х'юм у сваім апошнім інтэрв'ю пра змены ў нас?

— Не меў шчасця прысутнічаць на яго прэс-канферэнцыі.

— О, з тыповай англійскай дасціпнасцю! Кажа, як усё ў дваццатым стагоддзі парадаксальна: самы красамоўны дзеяч сышоў са сцэны, не сказаўшы ніводнага слова.

— Акуратна ты слухаеш брахуноў,— не без уедлівасці кінуў Антанюк.

Будыка зарагатаў гучна-раскаціста, быццам гром пракаціўся, паступова заціхаючы. Іван Васільевіч падумаў, што зяць яго рагоча залішне коратка, а вось гэты вучоны муж залішне доўга. Па рангу.

— Мне прысылаюць бюлетэнь замежнай інфармацыі.

— Добры ў цябе настрой сёння.

— А чаму ён павінен быць кепскі? Усё, што робіцца, робіцца на лепшае. Паслухай людзей, ад якіх ты адарваўся.

«Яшчэ адзін з тых, хто лічыць, што не аддзяляе сябе ад народу».

— Дзе мне слухаць! На «інфаркт-штрасе», дзе шпацыруюць пенсіянеры?

— А што ты скажаш, калі я паведамлю, што маецца думка вярнуць цябе на работу?

Антанюк адчуў, як тахкнула сэрца, кроў ударыла ў скроні. Але за імгненнай радасцю — злосць.

— А я не хачу. Мне добра пенсіянерам.

— Спадабалася сядзець у кустах? Не хлусі, Іван. Скажы каму іншаму, не мне. Я цябе ведаю як аблупленага. Наскрозь бачу. З тваім партыйным сумленнем, з тваёй энергіяй...

— Людзі мяняюцца, дарагі Валянцін Адамавіч. У цябе даўно ўжо не было жадання заглянуць мне ў душу... А я ўжо не той...

— Не папракай. Ты ведаеш, як я быў заняты гэты час. Ты ўяўляеш, што значыць доктарская?! З усіх тваіх якасцей я ведаю дзве, якія нямала рабілі клопату і табе і другім: упартасць і гонар, проста-такі шляхецкі, як у маёй жонкі...

— У мяне яшчэ заўсёды была свая ўласная думка. Не забывай, калі ласка, пра гэта.

— З-за ўпартасці і гонару ты можаш адмовіцца. Ну, і будзеш дурань! Праз год-два на цябе забудуць. А ты мог бы яшчэ папрацаваць з карысцю... для народу.

— Ты ўгаворваеш так, быццам сватаеш да сябе.

— О, каб мне аддалі цябе, я знайшоў бы табе пасаду, хоць ты і не тэхнік!

— Кляпнёва замяніць не магу.

— Што ты тыцкаеш у вочы гэтым Кляпнёвым! Ты трымаў каля сябе Кацара, я — Кляпнёва. Калі па вушы загружаны работай, навукай, грамадскай дзейнасцю, трэба, каб табе памагаў вось такі арганізатар... Інакш запарышся.

— Мне крыўдна за Кацара, што ты раўняеш яго з Кляпнёвым. Кацар быў спецыяліст, светлая галава, найлепшы рэферэнт па эканоміцы. Чалавек згарэў на рабоце.

— Пра нябожчыкаў гавораць толькі добрае. Ведаю. А ты скажы пра мяне, жывога, добрае слова. І нават пра Кляпнёва. Пра такога, які ён ёсць, з усімі грахамі. А я скажу пра цябе. У гэтым сутнасць сяброўскай узаемападтрымкі...

— А як жа з крытыкай? — прыжмурыў вочы Антанюк, з цікавасцю разглядаючы мажную постаць сябра.

Будыка зарагатаў зноў гэтак жа — доўга, раскаціста.

— А цябе, Іван, з тваіх прынцыповых пазіцый нічым нельга сапхнуць,— і, перапыніўшы смех, сур'ёзна сказаў: — За гэта я люблю цябе. За чысціню тваіх намераў.

— Дзякуй. Даўно ўжо не чуў я прызнанняў у любові.

— Не іранізуй, Іван, з самага святога — з дружбы. Май на ўвазе, іронія псуе чалавека. Можаш зрабіцца скептыкам і цынікам. Сам сабе перастанеш верыць.

— Не турбуйся. Мая вера ў сябе вельмі трывалая.

— Толькі ў сябе?

— Іў добрых людзей.

— А мяне да якіх залічваеш?

— Цябе? Да сярэдненькіх.

Будыка не загрымеў рогатам, а нечакана рассыпаў незнаёмы дробненькі смяшок, нядоўгі — як жменю пацерак сыпануў на падлогу.

— Дзякуй. Магу спадзявацца, што атрымаю вышэйшую атэстацыю?

— Пастарайся.

— Ох, Іван, Іван. Уяўляю, як Вользе з табой. З такім характарам...

— Захацелася паплакаць над яе лёсам? — Антанюк адным махам, з акрабатычнай імклівасцю спусціў ногі, сунуў іх у тапкі, падхапіўся, гатовы, здалося, да бойкі.— Плакальшчык! — і вылаяўся.

Валянцін Адамавіч стаяў пасярод пакоя, спакойны, добры, з вышыні глядзеў на сябра і ўсміхаўся, лагодна, амаль з замілаваннем, як бы кажучы: «І такога я цябе люблю!»

— Ты, Іван, мяне здзіўляеш і захапляеш. У партызанах пры ўсёй энергіі ты часам здаваўся флегматыкам. Самы разважлівы камандзір!.. А пад старасць робішся халерыкам... І халерай! — і засмяяўся, не зарагатаў, а засмяяўся натуральна.

Смех гэты, знаёмы яшчэ з тых часоў, калі яны спалі ў адной зямлянцы, дзіўным чынам падзейнічаў на Івана Васільевіча: як свежы ветрык, у міг здзьмуў раздражнёнасць, узлаванасць. Захацелася кінуцца на гэтага манументальна-паважнага асілка, паваліць на падлогу, выпэцкаць, пакамечыць яго дарагі касцюм.

«Валька, чорт, я цябе таксама люблю, хоць ты і свіння!» — хацелася крыкнуць, зарагатаць. Але не крыкнуў. Толькі торкнуў кулаком у Будыкаў мяккі жывот. Гасцінна сказаў:

— Пайшлі, пузан, каньяк піць.

За сталом сядзелі хораша. Весела. Успаміналі розныя прыемныя дробязі з мінулых сустрэч, з сумесных паездак на курорты. Жартавалі. Жанчыны цадзілі шампанскае. Мужчыны патроху каўталі «мядзведзя». Але бяседу іх неспадзявана перапынілі. Спачатку — тэлефонным званком. Папрасілі Будыку. Ён коратка паслухаў і адразу дазволіў:

— Добра. Заходзь.

— Хто гэта? — спытаў Іван Васільевіч.

— Кляпнёў.

— Кляпнёў?!

— Ён едзе сёння ў камандзіроўку ў Маскву. Трэба падпісаць адно пісьмо.

Што ж, трэба дык трэба, адказнаму работніку няма спакою ні ў выхадны, ні ў гасцях. Антанюк гэта ведаў па сваёй рабоце.

Кляпнёў заглянуў з калідора, убачыў накрыты стол, зрабіў выгляд, што збянтэжыўся, доўга і мнагаслоўна прасіў прабачэння ў гаспадыні. Анёл, а не чалавек. Увасабленне найвышэйшай этыкі.

Іван Васільевіч адразу адзначыў: Кляпнёў з ім зноў на «вы» — з павагай, не так, як у апошняе паляванне ў Белавежы.

«Во барометр, сабачы сын!» — але ў той жа час было і прыемна.

Яшчэ раз папрасіўшы прабачэння, Кляпнёў сказаў, што распранацца не будзе, бо дужа спяшаецца — да цягніка ўсяго тры гадзіны, а ў яго яшчэ не сабраны чамадан.

Будыка, не чытаючы, падпісаў нейкія два дакументы і, вяртаючы іх Кляпнёву, спытаў:

— Дык можа возьмеш з намі на дарогу?

Эдзік каўтануў сліну і аблізаў тоўстыя вусны.

— Калі гаспадары дазволяць...

— Калі ласка, калі ласка,— шчыра запрасіла добрая Вольга Усцінаўна, якая ў той вечар гатова была прыняць хоць сотню гасцей.

Кляпнёў пайшоў у калідор, скінуў сваё шыкоўнае, кароткае — па апошняй модзе — і лёгкае, на паралоне, паліто і вярнуўся назад... з бутэлькай кубінскага рому.

Адна Вольга Усцінаўна, якая ўмела лавіць кожны мужаў душэўны рух, убачыла, як Іван перасмыкнуўся, як змяніўся з твару. Спалохалася. Вачамі прасіла, маліла, каб маўчаў. Навошта псаваць такі вечар?

Калі Кляпнёў выпіў чарку, другую і ўвайшоў у сваю натуральную ролю ўсязнайкі і балбатуна, Іван Васільевіч раптам ціхенька войкнуў і схапіўся за сэрца.

— Ваня! Што з табой? — жонка не на жарт спалохалася.

— Усё тое ж. Спазмы. Дай валакардзін.

— Можа выклікаць урача?

— Не, не трэба. Я паляжу. О-о, як сціснула!

Будыка і Кляпнёў асцярожна, пад рукі завялі яго ў кабінет і паклалі на канапу.

Вольга Усцінаўна дрыготкімі рукамі накапала лекаў.

— Я выклічу «хуткую».

— Ды пачакай. Ведаеш жа, што я не люблю гэтых эскулапаў. Адразу калоць пачнуць.

Пасля чуў праз дзверы: дзесьці ў калідоры заклапочана шапталіся Вольга і Будыкі. А Кляпнёў цадзіў над фужэрам кубінскі ром, выдумалі такі адмысловы корак, што, каб наліць, трэба спачатку добра патрэсці. І піў залпам. Задужа дарагое пітво, каб пакідаць. Во свіння!

Валянцін Адамавіч увайшоў на пятках, каб не рыпець чаравікамі.

— Ну, як ты?

— Нічога. Лепей трохі. Прабач, што сапсаваў абедню.

— Што ты, дзівак. Ты прабач, што мы ўварваліся. Але не думаў, што і ў цябе маторчык пачаў здаваць... Падкасілі яны цябе, гэтыя два гады... адпачынку. Ну, ляжы. Мы пойдзем. Будзь здароў.

На развітанне Кляпнёў з-за дзвярэй прыглушаным голасам прапанаваў тост:

— За ваша здароўе, Іван Васільевіч.

Правёўшы гасцей, Вольга Усцінаўна на насочках,
у адных панчохах, увайшла і ўсхвалявана спытала:

— Як ты, Ваня?

У адказ Ваня падкінуў трохі не да столі ногі, скаціўся на падлогу і пайшоў па дыване... на руках. Перад жонкай перакуліўся цераз галаву і стаў на ногі.

— А вось так!

Ашаломленая Жанчына спачатку жахнулася, потым засмяялася, нарэшце незласліва абурылася:

— Як табе не сорамна! Так напалохаў! А я думаю: што «ўсё тое ж»? Якія спазмы? І валакардзін адна я п'ю.

— Прабач, Вольга. Але калі я падумаў, што трэба тры гадзіны слухаць балбатню гэтага прайдзісвета... Ды цяпер і не веру, што ён сёння едзе ў Маскву... Мне і сапраўды трохі не стала млосна... Сядзеў і ламаў галаву: што выдумаць?

— Але і выдумаў! А хочаш — і я цябе здзіўлю? Мілана сватала Ладу... за Фелікса... Кажа, ён прызнаўся, што Лада падабаецца яму.

— Ну і ну! Што ж ты адказала?

— Нічога не адказала. Але падумала, што можа і нядрэнна было б... Свае людзі...

Іван Васільевіч нахмурыўся.

— Свае! Што да мяне, то лепей няхай яна едзе ў Афрыку. Не люблю абывацельскіх змоў! Не хапала Ладзе шукаць багатага жаніха!

Вольга Усцінаўна цяжка ўздыхнула.

III

Загадчык сектара выйшаў з-за стала насустрач. Цісну ў руку з такой прыветлівай усмешкай, што Івану Васільевічу таксама захацелася смяяцца. І таму, што добра ведаў усе прыёмы афіцыйнай ветлівасці, і таму, што сапраўды было хораша. Настрой амаль святочны. Шмат што радавала.

За шырокім акном кружыліся сняжынкі. Першы снег. Першы дзень зімы. Святлее зямля — святлее душа чалавека. Выпадае добрая пароша. А праз два дні пачынаецца паляўнічы сезон. Тут ужо не толькі пасвятлее яна, душа старога паляўнічага, а заспявае на ўсе лады.

Радавала, што нарэшце паклікалі сюды, у гэты высокі дом. Зусім не кранае самалюбства, а наадварот — прыемна, што першы прымае яго ж выхаванец, былы супрацоўнік той установы, якой ён, Антанюк, доўга кіраваў. Растуць людзі. Некалі быў хударлявы, няскладны хлапчына, які напачатку баяўся начальства і заўсёды хадзіў у падпрасаваных штанах, з пузырамі на каленях. А цяпер — вунь які прыгажун! Высокі, падцягнуты, як добры спартсмен, гарнітурчык — з іголачкі. Хоць апошняе Антанюку не вельмі падабаецца. Занадта ўжо

шыкоўна і модна адзяецца маладое пакаленне адказных работнікаў. Як дыпламаты. Івану Васільевічу здаецца, што такая ўвага да свайго знешняга выгляду забірае многа часу, а галоўнае — выхоўвае рысы жаночай псіхалогіі: замест таго, каб пачытаць нешта сур'ёзнае, мужчына пачынае зазіраць у часопісы мод і зайздросціць таму з сваіх калег, каму пашанцавала набыць самы модны плашч ці капялюш.

Леанід Мартынавіч не вярнуўся назад за свой паліраваны стол, а запрасіў Івана Васільевіча да простага стала, за якім праводзяцца малыя рабочыя нарады. Сам сеў насупраць. Зноў прыветліва ўсміхнуўся.

— Як здароўе, Іван Васільевіч?

— Дзякуй. Не скарджуся.

— Хоць што я пытаюся! Учора там,— Леанід Мартынавіч паказаў пальцам у столь,— нехта спытаў вось так: а як яго здароўе, Антанюка? А Пятро Фёдаравіч кажа: ды ён жа, па-ранейшаму кароль нашых паляўнічых. Кароль! — і засмяяўся з учарашняга жарту кіраўніка.— Як бачыш, размова пра цябе ішла на высокім узроўні.

— Дзякуй.

— Як паляўнічае шчасце? Што забіў?

Чалавеку хацелася пажартаваць. Але Антанюка раптам як бы нешта скавала. Што — і сам не мог зразумець. Нецярплівае чаканне, што яму прапануюць, ці гэтае — «кароль»? Ці можа тое, што хлапчына гэты, па ўзросту — сын яго, вось так пачаў размову, залішне па-панібрацку?

— А ведаеш, я быў у Чэхаславакіі. І нас павезлі на паляванне. Дык там яны сапраўды-такі выбіраюць караля. І гэта цудоўны рытуал, я табе скажу, цікавей за само паляванне. Яны яшчэ і суддзю выбіраюць і пракурора. Цэлыя спектаклі разыгрываюць. Варта б нашым пераняць...

— Мы выбіраем старшыню... па рэкамендацыі Камітэта па ахове прыроды,— без усмешкі сказаў Антанюк. Але Леанід Мартынавіч прыняў гэта за дасціпны жарт.

— Старшыню — і то па рэкамендацыі! Ох, гэта мы ўмеем — засушыць жывую справу!

Тут ужо і Антанюк усміхнуўся, але зусім з іншай прычыны: з маладога чалавека, які лічыць сябе на такой вышыні, з якой дазволена самакрытыка абагульненая: «умеем засушыць...» Захацелася па-бацькоўску параіць яму: «Хлопчык мой, не паўтарай словы тых, хто вышэй за цябе. Не ўсе яны мудрацы, афарызмы якіх трэба завучваць. Заставайся самім сабой».

Варта было б сказаць. Ды як ты скажаш пры такой сітуацыі! Не зразумее, пакрыўдзіцца.

Між тым Леанід Мартынавіч быццам прачытаў Антанюковы думкі. Засяродзіўся раптам, зрабіўся сур'ёзны. І адразу сказаў пра справу:

— Іван Васільевіч, я думаю, ты здагадваешся, навошта цябе запрасілі? Мне даручылі перадаць: ёсць думка, каб ты вярнуўся на работу. Адпачыў трохі — даволі. Многа спраў. Трэба нам па-сапраўднаму заняцца сельскай гаспадаркай. Ад слоў перайсці да справы. Па-навуковаму ўзяцца. Валюнтарызм многа нашкодзіў...

«Якія ёмкія вызначэнні мы знаходзім для кожнай з'явы, якую трэба асудзіць. І зручныя. Галоўнае — зручныя»,— Іван Васільевіч уздыхнуў.

Леанід Мартынавіч зразумеў яго ўздыханне па-свойму.

— Я разумею: нялёгка пасля такога перапынку ўзваліць на сябе цяжар. Але трэба, Іван Васільевіч. Табе прапануюць цікавы аддзел...

— Я вярнуся толькі на ранейшую пасаду.

У загадчыка сектара выцягнуўся твар. Ён разгубіўся, бо зусім не чакаў, што гэты адстаўнік можа выставіць такое патрабаванне. Ды і сам Антанюк, ідучы сюды, не думаў пра пасаду. Каб прапанавалі яшчэ ніжэйшую — звычайным радавым служачым — ён, напэўна, згадзіўся б. Але каб не было такога ўступу — пра валюнтарызм і іншае... Пасля ж такой размовы зрабілася ясна: людзі разумныя хочуць яго рэабілітаваць. Але чаму толькі напалавіну? Уступка тым, хто абвінавачваў яго? Цяпер тыя людзі маўчаць, хаваюцца за ёмкае слоўца. Чаму ж ён сам павінен даць ім падставу думаць, што яны, няхай хоць на палавіну, на чвэрць, рабілі тады правільна, паступалі прынцыпова?! «Не, даражэнькія! На такія кампрамісы Антанюк ніколі не ішоў! Або — або!.. Мне не пасада трэба, а прызнанне маёй праваты і вашых памылак. Прызнанне не на словах — на справе. Слоў я чуў многа. Для мяне адбылася інфляцыя слова».

— Іван Васільевіч, не мне, безумоўна, вучыць вас жыццёвай мудрасці,— зусім інакш, працей, без панібрацтва, без паляпвання па плячы, сказаў Леанід Мартынавіч.— Вы добра ведаеце, як што робіцца. І я ўпэўнены — разумееце, што, па-першае, у нас няма падстаў вызваляць цяпер Андрэя Пятровіча... Кіраваў ён...

— Дрэнна кіраваў.

— Ну, гэта ваша прыватная думка. Мы ж трымаемся іншай... А потым... няўжо вы думаеце, што ўсе так лёгка прызнаюць, што яны тады памыляліся, калі выступалі супраць вас?

— О не! Толькі наіўны юнак мог бы так думаць. Але менавіта праз тое, што я ведаю, што такія людзі ёсць, я не магу згадзіцца з такім, прабачце, палавінчатым рашэннем. Мне не тоўсты партфель трэба і не высокае крэсла... Я сорак год служу партыі! І вы можаце ўбачыць з анкеты — не на цёплых месцах... А як салдат. Куды партыя загадвала — туды ішоў.

— А цяпер вырашылі паставіць ультыматум?

— Не. Не сам я папрасіўся на пенсію. Мяне паслалі... І я магу застацца на гэтай «пасадзе».

— Я разумею вас, Іван Васільевіч. Аднак раю і вам з вышыні вашага вопыту разважыць... Вас падтрымліваюць вельмі сур'ёзныя і адказныя людзі. Але распальваць ім страсці з-за вас... у такі час... калі трэба кансалідацыя ўсіх сіл...

— Якіх сіл? Асабіста я заўсёды лічыў ганьбай кансалідавацца з перастрахоўшчыкамі.

Леанід Мартынавіч пачырванеў. Яму было цяжка. Цяжка гутарыць з гэтым шматвопытным чалавекам. А галоўнае — трывожыла думка, што ён, малады кіраўнік, не здолее выканаць місіі, якую яму даручылі і якая здавалася спачатку простай: перакінецца словамі пра пагоду, паляванне, потым скажа пра справу, Антанюк падзякуе, узрадаваны і прапановай і тым, што загадчык сектара з ім вось так — па-сяброўску... Ажно не, не так проста!

— Ах, Іван Васільевіч! Страцілі вы пачуццё рэальнага... Не хацелася мне гаварыць вам непрыемнае... Але мушу падмацаваць адзін свой тэзіс прыкладам. Не паспелі мы падумаць пра ваша назначэнне, як нехта — палку ў кола. Не, я асабіста лічу, што гэта выпадковае супадзенне. Але некаторыя таварышы думаюць інакш... Паверце, мы зусім не хацелі надаваць гэтаму значэння... Не хацелі нават гаварыць вам. Не тыя ў вас гады, каб разбіраць, прабіраць, выхоўваць... У каго не было грахоў маладосці!

Антанюку спачатку хацелася злосна спытаць: «А ці нельга без падушкі?» Але тут ён раптам здагадаўся, пра што размова, і сцяўся, замёр, гатовы атрымаць любы ўдар. Чорт з ім, няхай сцеле саломку, падушкі — што хоча! Няхай цягне. Але глядзець у вочы, проста, адкрыта, як глядзеў праз усю размову, гэтаму маладому чалавеку больш не мог. А той вырачыўся, проста свідруе вачамі, хоча заглянуць у душу. Можа таму і цягне. Не б'е адразу.

— Але ўсё ж... Іван Васільевіч! Усё ж... Гадоў дваццаць назад вас маглі разабраць, маглі запісаць... Пасля сходу — пасмяяцца. Але тады смех быў бы зусім іншы. Вядома — мужчынская псіхалогія. Многія сказалі б: не промах! А ўявіце цяпер. Пенсіянер... Жонка, дарослыя

дзеці, здаецца, унукі ўжо... Так? Сенсацыя! Іван Васільевіч! Сенсацыя! Нездаровае смакаванне... Вось чаму ёсць думка: не даваць пісьму ходу... Але папрасіць вас...

— Ананімка? — коратка спытаў Антанюк, бліснуўшы вачамі.

— Не. Піша дырэктар школы, дзе працуе,— Леанід Мартынавіч заглянуў у паперкі, якія ляжалі збоку,— Надзея Пятроўна. Вось чаму я лічу, што гэта выпадковае супадзенне. Як дырэктар сельскай школы мог даведацца?.. Вы знаёмы з ім?

«Не, гэта не супадзенне, дарагі Леанід Мартынавіч! Я быў знаёмы з дырэктарам школы. Той дырэктар ніколі нічога не напісаў бы. Але я быў там апошні раз сем год назад. За гэты час мог змяніцца не адзін дырэктар. Калі скажу пра гэта, ты, напэўна, паверыш, бо для цябе галоўнае атрымаць пацвярджэнне той думкі, якую нібыта адмаўляеш. Праўда, табе страшэнна хочацца і другога: каб я прызнаўся, расказаў пра сваё інтымнае жыццё. Ты ажно трэш рукі ад спакусы. І прасвечваеш мяне вачамі, як рэнтгенаўскім апаратам. Але нічога ты не ўбачыш! І нічога я табе не скажу. Не спадзявайся. Не таму, што гэта глыбокая тайна нашых з ёй сэрцаў. А таму, што для мяне гэта святое. І балючае. Ты чакаеш, што я папрашу пачытаць пісьмо? Ты падрыхтаваў яго, каб даць мне, з надзеяй, што я пачну аспрэчваць ці апраўдвацца. Не. Пісьмо мяне не цікавіць, бо я ведаю, што ў ім. Там праўда факта. Можаце верыць яму, факту. Але не чакайце маёй споведзі!»

Антанюк падняўся, адкрыта глянуў Леаніду Марцінавічу ў твар, усміхнуўся.

— Пісьмо гэтае можаце хоць у газеце друкаваць. Ёсць такая мяжа ўзросту, калі ўсё тое, што засталося за ёй, не можа кранаць, бо яно таксама не тваё, а таго, хто застаўся там, за мяжой... Той Антанюк, якога ты хацеў спалохаць,— там. Ды і той быў непалахлівы, як ты ведаеш...

Загадчык сектара, такі самаўпэўнены, паважны ў пачатку размовы, разгубіўся, як школьнік. Пачырванеў. Падхапіўся з крэсла.

— Іван Васільевіч! Іван Васільевіч! Вы мяне не так зразумелі... Ды хіба я хацеў... Я ж проста... Калі што — прабачце. Але прашу вас — падумайце над нашай прапановай. Не спяшайцеся.

Кружылі сняжынкі. Зажураныя старыя ліпы ў скверы адзяваліся ў белую квецень, а таму здавалася — маладзелі. Толькі вароны, старыя, чорныя, яны ніколі не маладзеюць і заўсёды злавесна каркаюць. Вароны нагадваюць пра невясёлае. Але можна пасядзець на зацярушанай снегам лаўцы, паглядзець на моладзь — на цыбатых хлопцаў, якія заўсёды, у дождж і снег, ходзяць без шапак, на дзяўчатак у лёгкіх

паліто і ярка-стракатых шапачках, хусцінках, гаманкіх, узбуджаных, як Лада; падумаць пра дачку, пра сына, які, мабыць, недзе дзяжурыць каля экранаў лакатара, вартуе неба,— і супакоіцца. Думкі пра дзяцей, пра чужых і сваіх, не сказаць, што супакойваюць, але вяртаюць добры настрой.

З службовага ўвахода тэатра па адным выходзяць акцёры, стомленыя рэпетыцыяй, настаўляюць каўняры, затульваюцца ад снегу. Многія з іх — знаёмыя, нават сябры. Антанюк любіць іх талент. Але сёння сустракацца ні з кім не хочацца. Выслухоўваць скаргі на дырэктара ці рэжысёра. О не! Сёння для яго гэта — што соль на свежую рану.

Лепш далей куды-небудзь. Каб можна было адразу апынуцца ў лесе. У ціхай зажуранай пушчы, дзе чутно, як шамацяць на галінках сняжынкі. І няма варон. У лесе іх няма. У зімовым лесе.

Кружаць сняжынкі.

Мільгаюць ярка-чырвоныя, блакітныя, зялёныя, жоўтыя шапачкі і шалікі. Спяшайцеся, дзеці. Хоць можа і не варта вельмі ўжо спяшацца. Але нельга і адставаць, бо выб'ешся з агульнай плыні, занясе цябе ў ціхі затон і засмокча цінай. Самае страшнае — заўчаснае пенсіянерства.

На ліха каму здаліся мая амбіцыя і мой прынцып? Трэба было згаджацца на тое, што прапаноўваюць. Не. Цяпер падумаюць, што я спалохаўся. Дарагі Леанід Мартынавіч, мне не сорамна ні перад партыяй, ні перад сям'ёй за свае слабасці. Я — чалавек. Я жыў. І жыў у час складаны. Мне сорамна толькі за адну слабасць — за гэтую вось... Даруй, Надзя. Не бачыць цябе сем год, пісаць толькі да святаў кароткія паштоўкі з пажаданнямі шчасця — якога шчасця?! — гэта здрада. А я ніколі не здраджваў. Нікому! Не, не супакойвай мяне. Я ведаю, што ты скажаш. У мяне ёсць тысяча апраўданняў. Але, гэта даніна гадам, спакою, майму, тваяму, Вольчынаму, Віцінаму... А ці так ужо ён патрэбны, такі спакой?

Не сядзіцца сёння.

Як, аднак, спяшаюцца людзі! Куды? На тратуары ўжо слізка. Вытаптаны коўзанкі. Маладыя бягуць для разгону, гатовыя збіць з ног. Ім радасна. Радуе першы снег. Радуе маладосць. Можа нават тое, што ўдалося трохі раней вырвацца з лекцыі, з лабараторыі, з канторы...

Я хачу радавацца разам з вамі! Не аб'язджайце мяне, не абганяйце, бо гэтак вы незнарок можаце збіць мяне з ног. А я хачу ісці з вамі плячо ў плячо. Я хачу каўзануцца і ўпасці сам, як тая вунь дзяўчына ў чырвоным шалю. Можа табе балюча, дзіця? Нічога. Усё

загоіцца і тут жа забудзецца, бо глядзі, як заклапочана ён падхапіў цябе, падняў з зямлі. Я ведаю: каб не гэтулькі людзей, каб не ўмоўнасці, якія так скоўваюць нас, ён падняў бы цябе на рукі і панёс бы ў гэтую белую каламуць...

Як дзіўна плыве, як гойдаецца ў ёй, сцякаючы ніжэй і ніжэй, чорны ручай чалавечых постацей!

Некалі я марыў стаць паэтам. Спрабаваў нават пісаць, калі вучыўся на рабфаку. Але ў мяне не хапала вобразнага мыслення. Я мысліў заўсёды канкрэтна. Можа таму часам звужана. Толькі цяпер я зразумеў, што можна неабмежавана расшырыць гарызонты сваіх думак і пачуццяў. Гэта дае новую радасць, узвышае і вызваляе ад шмат якіх умоўнасцей — ад тых, што цяжкімі путамі павісаюць на сэрцы. О не! Я не стаў анархістам! Я за дысцыпліну, за самую высокую! Але за такую, якая ніколі не можа прынізіць чалавека, абразіць яго лепшыя парывы, імкненні, яго гонар і нават слабасці, звычайныя, чалавечыя, без якіх, напэўна, немагчыма жыццё такое, якое яно ёсць,— расквечанае ўсімі фарбамі вясны, лета, восені і нават зімы. Але, нават зімы. Вось такой, калі позна развідняе і рана цямнее. Калі а чацвёртай гадзіне цырк запальвае сваю рэкламу, самую яркую ва ўсім горадзе. Сняжынкі і людзі набываюць дзіўныя адценні ў гэтым неонавым святле. Як у казцы. Як у цырку.

Раней я хадзіў сюды, каб пасмяяцца. Потым пазнаёміўся з акцёрам-комікам, які быў глыбока няшчасны. Я не перастаў любіць цырк, але рэдка смяюся тут. Больш думаў. Пад музыку, гледзячы на паветраных гімнастаў, якія лётаюць пад купалам, добра думаецца. Не, пра сур'ёзныя праблемы жыцця найлепш думаецца, калі выступаюць клоуны.

Нехта сказаў: гарады як людзі. Але. Адзін расце, узвышаецца і абганяе на тысячу год старэйшага брата свайго, а другі занепадае, ператвараецца ў захудалае мястэчка, як Заслаўе ці Тураў. А як рэкі? Баян спяваў у Слове:

> Немизе кровави брезе не бологомъ бяхуть посеяни,
> посеяни костьми русских сыновъ.

Не верыцца неяк, што яна была вядомая ў тыя даўнія часы, Няміга, ад якой цяпер нічога не засталося. А Свіслач? Якая ж тады была Свіслач? Няўжо і рэкі як людзі: адны мялеюць, заплываюць ілам і пяском, а другія глыбеюць, праразаюць новыя руслы?

Сыплецца снег. Растае на далонях, на шчоках, ружовых і бледных. І на чорнай вадзе, ад якой падымаецца нездаровая пара. Нібы сняжынкі гарачыя. Не, тут наадварот — цёплая вада, вялікі горад выплёсквае ў рэчку гарачыя адкіды сваёй кіпучай жыццядзейнасці.

Так, дзейнасць кіпучая, і горад вялікі. Але не апраўдвай тых безадказных людзей, якія гэта робяць і якіх ты колькі месяцаў назад, працуючы ў рэйдавай групе партыйна-дзяржаўнага кантролю, кляйміў ганьбай. Драпежнікі, якія жывуць адным днём і сваімі эгаістычнымі патрэбамі, хоць прыкрываюць іх высокімі словамі. Бацькі, якія не думаюць пра дзяцей. Пра ўсіх дзяцей — будучыню грамадства, радзімы і чалавецтва.

Сняжынкі падаюць у агонь. Блакітны язык полымя вырываецца з заснежанага падмурка манумента, калышацца на ветры, кладзецца на рашотку і, здаецца, вось-вось патухне. Не, не патухае. Не можа патухнуць. Ён вечны, агонь над сімвалічнай магілай. Ён павінен быць вечны — агонь над магілай майго брата, маіх таварышаў... Я хацеў бы, Павел, каб ты ляжаў тут, і я не раз у год, а кожны дзень прыходзіў бы сюды і вось так стаяў бы над тваёй магілай. Дзіўна, што я ніколі не стаяў тут адзін, еось так. Толькі з людзьмі. У ганаровай варце, гэтым летам, калі святкавалі дваццаць год вызвалення сталіцы. Ды яшчэ калі адкрывалі манумент. Цяпер ужо ніхто не спрачаецца пра яго мастацкія вартасці, бо для людзей, для ўсіх тых, хто перажыў вайну, страціў блізкіх, зведаў пакуты, ён стаў Вялікім і Святым Сімвалам.

Манумент Славы і Міру. Але я і дагэтуль не магу пагадзіцца, што помнік збудавалі тут, у яме, а не на самым высокім месцы, адкуль ён быў бы відзён і з Масюкоўшчыны, і з Уручча і з Трасцянца — ад брацкіх магіл.

Людскія раўчакі плывуць па тратуарах і ў снежнай імгле здаюцца далёкімі. А тут — як востраў. Тут амаль цішыня. Як у лесе. Можна, бадай, было б пачуць шорах сняжынак, каб не гудзеў агонь. Але няхай гудзіць агонь! Гэта як шум бору. Далёкі шум.

«Адпусці мяне, Іван, у атрад Каткова».

«Чаму? Паша! Што здарылася?»

«Не магу я ў цябе...»

«Не, ты растлумач, што здарылася?»

«Не магу — і ўсё».

«Што за дурнота! Дзіцячыя капрызы! Ты салдат! Нікуды я цябе не адпушчу».

«Я пайду сам».

«Будзеш лічыцца дэзерцірам. А ты ведаеш, што робяць з дэзерцірамі на вайне?»

«А мне ўсё роўна».

«Глядзі, Валянцін, з глузду з'ехаў хлопец. Перапіў, ці што?»

«Невядома, хто з нас перапіў».

«Як размаўляеш з камандзірам? Які прыклад паказваеш? Май на ўвазе, я не пагляджу, што ты мой брат! Ідзі выспіся. Ты стаміўся пасля разведкі».

«Ён кахае яе»,— гэта сказаў Будыка, калі Павел панура выйшаў.

«Каго?»

«Надзю».

«Надзю? Ты што? Сур'ёзна? Чаму ж ты не сказаў раней?»

«Я думаў, ты ведаеш».

«Ты за каго мяне лічыш? Гад ты! Я — чалавек. Я магу ўпасці. Магу спатыкнуцца. Ты стаў побач са мной, сам папрасіўся ў мае памочнікі. І ты абавязан паправіць мяне, падтрымаць, падставіць плячо. А ты ведаў і хіхікаў у кулак... Чакаў, калі браты сутыкнуцца лбамі? Інтрыган! Застрэліць цябе мала».

«Не гарачыся, Іван. Не гарачыся. Не забывай: цябе пакінула тут партыя. І за ўсё, што робіш, ты нясеш адказнасць перад партыяй».

Я не павінен быў адпускаць цябе, Павел. Я змаладушнічаў. Даруй мне, брат. І не вінаваць. Яе не вінаваць. Надзю. Безумоўна, вайна ёсць вайна. І я не ахоўваў цябе. Ты хадзіў на самыя адказныя аперацыі. І ўсё магло здарыцца і ў маім атрадзе, на маіх вачах. Кажуць — лёс. Я не веру ў лёс. Але я веру ў розум. Ён і на вайне можа ўратаваць, калі ўсё рабіць з развагай, з галавой. Але ж ты не кінуўся так пад кулі. Засада выпадковая. Шмат што рабілася выпадкова. І вось цябе няма. А ты мог бы жыць. Табе было дваццаць адзін. Ладзе і Васілю ў сакавіку будзе па дваццаць тры. А табе было ўсяго дваццаць адзін...

— Грэемся?

Іван Васільевіч павярнуўся. Міліцыянер, відаць, быў упэўнены, што гэта юнак — са спіны шчуплы, нізкі ростам. А ўбачыў пажылога чалавека — трохі сумеўся.

— А што?

— Нельга тут... так доўга.

— Хто вам сказаў? У вас ёсць такая інструкцыя?

— Не... Але... Тут, ведаеце, некаторыя з падшыванцаў рукі грэюць...

— У вас загінуў хто-небудзь на вайне?

— У мяне? Бацька не вярнуўся.

— Давайце, сержант, пастаімо хвілінку моўчкі.

Міліцыянер яшчэ больш разгубіўся.

Казырнуў.

— Прабачце. Служба.

Але, пакуль у нас служба, мы часам забываемся на самае святое ці не маем часу пастаяць вось так і падумаць.

Тады таксама ішоў снег. Але не такі ласкавы, ціхі. Гуляла завіруха. Выла. Свістала. Лес гудзеў і трашчаў. Нават там, у пушчы, у самым яловым гушчары, на нашай маленькай палянцы, трохі не збівала з ног. А што рабілася ў полі!

Але, яе прывезлі ў тую памятную завіруху. Не, здаецца, завіруха пачалася пазней, калі мы вярнуліся з рэйду. Так, калі Вася паехаў за Бумель, ноч была зорная. Ды хіба адна была такая завея? У пачатку тае зімы снег ішоў амаль кожны дзень. Да пачатку снежня намяло — не прайсці, не праехаць. І настрой у мяне быў сабачы. Часам хацелася завыць, як вылі тыя галодныя ваўкі, што падыходзілі ўначы да лагера. О, каб такі настрой быў у аднаго мяне — то паўбяды. Ён апанаваў многіх. Толькі здаецца, Вася Шугановіч, камісар мой, не паддаваўся роспачы.

Цяпер партызанскія камандзіры ўсе пішуць мемуары. І вынікае з гэтых кніжак, што ўсё было проста з пачатку да канца. Безумоўна, былі цяжкасці, нястачы, страты, але, маўляў, ніхто з іх, вялікіх стратэгаў, ні на хвіліну не сумняваўся ў моцы Чырвонай Арміі, у гераізме народу, у мудрасці партыі, а гэтая вера іх перадавалася кожнаму партызану.

Я — грэшны.

Я таксама верыў у партыю і ў народ. Але я бачыў адступленне арміі. Я слухаў радыё. У атрадзе было два прыёмнікі. І, на маю бяду, Валька Будыка ведаў нямецкую мову. Каб у тыя дні троху шырэй паведамлялі нашы, няхай сабе самыя цяжкія, навіны. Але Масква перадавала бадзёрую музыку і скупыя зводкі Саўінфармбюро аб жорсткіх ці мясцовых баях на кірунках тых гарадоў, якія даўно ўжо — гэта мы ведалі пэўна — засталіся ў тыле нямецкай арміі.

А ў пушчы выла завіруха. Замяло дарогі. Трашчалі марозы. Семдзесят чалавек хадзілі ў разведку ці сядзелі ў зямлянках, пракураных, цесных, адкуль гарачыню распаленай да чырвані «жалезкі» магло выдзьмуць ветрам за тры мінуты — толькі адчыні дзверы. Семдзесят чалавек. Нямала на той час. Але ўзброеныя хто чым, з малым боезапасам. Без вопытнага камандзіра. Адкуль у мяне, у загадчыка райсельгасаддзела, мог быць вайсковы вопыт? Добра, што ў верасні да нас далучыўся інжынер-кадравік Будыка з групай сапёраў.

Вы былі мудрыя, цяперашнія мемуарысты. А я нават не ведаў тады, якім чынам здабываць харч для сямідзесяці чалавек. Праблема гэтая і надалей, калі мы ўсё ведалі, у любы час маглі звязацца з партыйным цэнтрам і ўсё ўмелі, заставалася вострай у нашай партызан-

скай палітыцы, бо закранала адносіны з насельніцтвам. Сын селяніна, аграном, я думаў пра гэтую палітыку ў самым пачатку. Ведаў — ваяваць не адзін год. Не адну зіму сядзець у пушчы і думаць, дзе дастаць хлеб, патроны і жалезную бочку, з якой можна зрабіць печку замест той, што прагарэла. Каб ваяваць доўга, зацята, з такім бязлітасным ворагам, трэба захаваць людзей. Трэба накарміць іх і сагрэць. Цяпер я думаю: фашысцкія стратэгі разумнелі пасля таго, як атрымлівалі добрага выспятка ў самае балючае месца. Ніхто з іх не здагадваўся, у што можа вырасці невялікі атрад «лясных бандытаў», пра які яны ведалі, пісалі ў рэляцыях. Каб такія блакады, як у сорак трэцім, яны наладзілі тады, зімой сорак першага, нам прыйшлося б туга.

У тыя дні я асабліва баяўся нямецкай атакі. Даходзіла да роспачы, якой я, аднак, не меў права нікому паказваць.

Мы ведалі: ішла вялікая бітва за Маскву. Ад таго, як яна скончыцца, чыёй перамогай, вельмі многае залежыць. Хацелася памагчы сваім у гэтай бітве. Мы добра ведалі, якая дапамога найбольш дзейсная. Эшалоны, якія ішлі на фронт. Чым менш іх дойдзе, тым лягчэй будзе нашым.

У нас быў ужо вопыт. Але не хапала ўзрыўчаткі. Здабывалі яе па-рознаму. Адзін шлях быў самы пэўны, аднак самы небяспечны. Кіламетраў за дваццаць на былым нашым аэрадроме хлопцы выявілі склад авіябомб. Ад кожнай з гэтых бомб, як панура жартавалі партызаны, можна было загінуць шэсць разоў: на аэрадроме, у трох вёсках, праз якія трэба правезці смяротны груз і ў дзвюх з якіх размяшчаліся паліцэйскія гарнізоны, пры разборцы дэтанатара бомбы, пры выплаўцы толу і — я дадаваў сёмы выпадак — пры зборцы міны. Але гэтага, сёмага, у атрадзе не прызнавалі, бо тут ужо справу мелі не з бомбай. Да таго ж нам пашчасціла: меўся свой інжынер — Будыка, ён канструяваў і збіраў міны. Пэўны час атрад трымаў манаполію на міны. Нават вялі гандаль: у Каткова выменьвалі міны на хлеб і сала, у Касача — на коней, ён вывеў у лес конзавод.

Увосень, па бездаражы, калі гарнізоны нельга было аб'ехаць — рэчкі, масты,— нам удалося разы тры правезці бомбы пад дровамі, пад мукой з млына, а аднойчы — у вясельным картэжы, «жаніх» і «нявеста» сядзелі на бомбах. А тут, калі замерзлі рэчкі, выпаў снег, і неглыбокі яшчэ, хлопцы засыпаліся. Везлі сена. Чаму нікому не прыйшло ў галаву, што з часоў, калі з'явіўся тут першы чалавек, сена вазілі ў другі бок: з балот — туды, у бязлесны раён, дзе знаходзіўся аэрадром, а не наадварот? Чаму я, камандзір, сялянскі сын, не падумаў пра гэта? А вы, мемуарысты, пішаце, што ўсё ўмелі прадбачыць. Я не ўмеў, бо ўсё прадбачыць немагчыма.

Хлопцаў павесілі. На станцыі. Траіх. Чацвёрты — Федзя Кучык — паспеў шыбануць гранату, і яго распаласавалі аўтаматнай чаргой.

Пасля мне прыйшлося пахаваць сотні людзей, сваіх, партызан, перажыць не адну няўдачу, блакады, голад.

На прарыве з блакады вясной сорак трэцяга брыгада страціла амаль палавіну людзей. Гэта была найбольшая трагедыя. Я нёс цераз балота ўпаўнаважаную ЦК камсамола Галіну Берзнер, яе пасекла мінай. Я плакаў... Ад болю, ад злосці, ад роспачы. Над ёй, над усімі тымі, хто застаўся там, каля Дняпра, на полі бою, хто патануў у балоце. Я не адразу ўбачыў, што нясу мёртвую. Мы штыкамі капалі ёй магілу на балотнай выспе. А смерць Басі Шугановіча! А смерць братоў Казюраў, Валодзі і Пеці!

Дзеці, дзеці, я хацеў бы ўсіх вас прыкрыць сваімі грудзьмі! Каб гэта можна было зрабіць!

Але хіба толькі смерць Паўла я перажываў так цяжка, як смерць тых хлопцаў — Юркі Козела, Сашы Ляшкевіча і Кузьмы Валёнка. Каб яны загінулі, як Федзя — у баі, магчыма, гэта не раніла б так балюча. Але іх павесілі. Двое з іх прыйшлі ў лес разам са мной, у жніўні. Мы спалі ў адным будане, бо нас было ўсяго адзінаццаць.

Спачатку мяне адгаворвалі. Шугановіч, Будыка. Пасля сабралі партыйную групу і забаранілі. Напісалі пастанову: «Не дазволіць камандзіру атрада дарэмна рызыкаваць...» І ўсё адно я пайшоў. Паехаў на станцыю... Таксама ішоў снег. Пачыналася завея. Вецер раскачваў іх целы. Хлопцаў павесілі на бэльцы згарэлага пакгауза. Чорныя закапцелыя сцены, шырокі праём згарэлых дзвярэй і ў іх — яны. Босыя, у адных споднiх кашулях. Глядзелі мы здалёк, але я чуў, як стукаліся іх акасцянелыя ногі і звінелі, як струны, напятыя і змёрзлыя вяроўкі. І мусіў гандляваць салам. Яно было не лішняе ў атрадзе, а я аддаваў яго фашыстам, тым, што павесілі маіх хлопцаў, маіх дзяцей. О, як мне хацелася дастаць з тайніка пад санямі гранату і шпурнуць у іх. «Жонка», якая памагала гандляваць, наша атрадная гаспадыня, былая старшыня сельсавета Люба Рошча, шаптала: «Трымайся, камандзір. Сам палез. Цябе не пускалі». Адзін з варты паказаў на шыбеніцу і пагразіў: «Партызанен?» — і закруціў пятлю вакол шыі: маўляў, калі і ты партызан, то і цябе вось так. Трэба было ўсміхацца. Трэба было ўсміхацца! «О не, пан, я стараста з Прыгар. Вось дакумент. Я — стараста». Хто з вас перажыў такі боль, такія пакуты, такі гнеў і бяссілле, як я за тую гадзіну, пакуль мы стаялі з санямі за сто крокаў ад павешаных?! Але, таго зараду нянавісці, які накапіўся за тую гадзіну, мне хапіла на ўсю вайну.

Біць іх, біць, біць! Але як біць? Чым? Нехта з іх даў за сала спірту. Па дарозе назад я паспрабаваў ім заліць агонь у душы. А ўжо разгулялася завіруха. Стагнаў бор — адзіны наш друг, абаронца. Цяжка і яму.

Лагер — некалькі занесеных снегам зямлянак. Пуста — ні душы. Адзін застылы вартавы. З гэтай сілай мы хочам перамагчы тых, што прыехалі ў эшалонах, пакуль мы стаялі на станцыі? Іх танкі, іх гарматы?

Загадаў Будыку:

«Уключы радыё».

«Садзяцца батарэі».

«Уключы. Паслухаем Берлін».

Уключыў.

«Што яны перадаюць?»

«Рэпартаж з фронту. Журналіст учора разглядаў у бінокль Крэмль».

Гэта было першае такое паведамленне, пачутае намі. Я ўскочыў.

«Брэшаш!»

«Не я брашу. Фашыст».

Ён, Валька Будыка, ваенны інжынер, танкіст, акружэнец, які драпаў пехатой з-пад Беластока, не паверыў. Ці можа зрабіў выгляд, што не верыць. А я паверыў. Упершыню паверыў фашысцкаму радыё. Не, яны не перадаюць для сваіх, на ўвесь свет, што ўзялі Маскву. Такую брахню яны пускалі толькі для нашых людзей ужо месяц назад. А мы слухалі парад на Краснай плошчы, выступленне Сталіна і размнажалі лістоўкі. Сваім яны разважліва — чуваць па голасе дыктара — паведамляюць, які выгляд мае Крэмль, калі глядзець на яго ў бінокль з адлегласці...

«Інжынер! Адкуль яны глядзяць? З якога месца? За колькі вёрст?»

«Ніадкуль яны не глядзяць! Брэшуць!»

«Не, глядзяць, Валя. Глядзяць! Ідзі папрасі ў Любы спірту».

«Не дасць яна мне».

«Для мяне. Для камандзіра».

«І для цябе не дасць. Чуў я, як яна з табой гаварыла. Распусціў ты іх тут. Развялі дэмакратыю. Ніякай дысцыпліны».

«Не! Хлусіш! Ёсць дысцыпліна! Найвышэйшая. Ты думаеш, хлопцаў не каталі? Не круцілі рукі? Не палілі жалезам? Але каб хоць адзін выдаў атрад, згадзіўся правесці іх сюды, нам усім даўно была б хана. Для цябе дысцыпліна — уменне выцягнуцца, казырнуць. А для мяне яна — ў вернасці. Партыі. Народу. Таварышам па атраду».

Не, наўрад ці сказаў я такія словы ў той вечар. Можа гаварыў іх раней, напэўна — пазней, бо мы неаднойчы спрачаліся пра сутнасць дысцыпліны, пра тое, ці трэба яна такая, якую ўводзіў перад вайной нарком.

Радавы Федзя Кучык драпаў з-пад Брэста гэтак жа, як і ты, інжынер Будыка. Толькі ён прыбег хутчэй і раней прыйшоў у атрад. I памёр героем. А як памром мы з табой, Валянцін Адамавіч?

Выла завіруха. А я ляжаў ці сядзеў у зямлянцы ў кампаніі маўклівага Шугановіча, які зусім не піў, і гаварлівага п'янаватага Будыкі і думаў: як я памру? Тады пераканаў сябе, што з лесу жывым мне не выйсці. Думкі пра смерць не страшылі, але волю скоўвалі. Без толу, без мін, заднымі вінтоўкамі, усяго з двума кулямётамі, да якіх не так многа патронаў,— я не ведаў, што рабіць, як біць ворага, які ўжо разглядае ў біноклі Маскву.

Памерці ў партызанах — тысяча выпадкаў. Я выбіраў самы цяжкі, такі, які мог бы прынесці найбольшую карысць атраду, маім таварышам, што пісалі: «Не дазволіць камандзіру атрада дарэмна рызыкаваць...» Не дазволіць... Хто можа дазволіць ці не дазволіць памерці?

Камісар сказаў:

«Людзі лічаць, камандзір, што ты многа п'еш».

Я ўскіпеў:

«Хто лічыць? Ты лічыш? Манах! Кніжнік Фарысей! Прэч з вачэй маіх!»

Ён не пакрыўдзіўся, мой добры, ціхі Вася, завуч школы, паэт, які ў першую партызанскую вясну начамі праседжваў над рэчкай і слухаў салаўёў. Ён двойчы выратаваў мяне ад смерці: першы раз ад немцаў, другі — ад сваіх, ад камандзіра спецатрада, які хацеў расстраляць за тое, што я адмовіўся аддаць яму палавіну сваіх людзей. Ён не пакрыўдзіўся, Вася, не, але начаваць пайшоў у другую зямлянку, да партызан. Пакрыўдзіўся я. Не на яго. На сябе. Азірнуўся на сябе і... распёк, назваў апошнім слюнцяем. Будыка рагатаў з раптоўнай маёй самакрытычнасці. Вясёлы чалавек! Але не разумеў ты, што на душы ў мяне.

Каб ведаць, што там робіцца, пад Масквой! Каб ведаць пэўна! Безумоўна, нашы стаяць насмерць. Але памерці — не значыць перамагчы. Ці ёсць каму станавіцца замест тых, хто навекі лажыцца ў снег?

Хацелася знаць, што робіцца на фронце, не з перадач радыё. Не з крыклівых нямецкіх рэпартажаў. Не са скупых зводак Саўінфармбюро. Ад жывых сведак, якія напэўна скажуць больш! Ад гэтага, ма-

гчыма, залежала маё жыццё. Як у кожнага смяротніка, жыла надзея, глыбокая, таемная: вось-вось нешта павінна змяніцца, прыйдзе нейкая новая сіла... Раней верылі ў сілу боскую. Усё свядомае жыццё я верыў у сілу народа, партыі.

Загад мой быў што выбух бомбы: «Захапіць языка з санітарнага поезда!»

«Вар'яцтва, абсурд, п'яная гарачка! — так назваў гэты загад мой ціхі камісар.— Ты пасылаеш людзей на верную смерць,— казаў ён.— Роднага брата пасылаеш! Каму патрэбны такі «язык»? Навошта?»

Абурыла, што камісару не хочацца даведацца нешта большае, чым можна было пачуць па радыё, пра самае галоўнае, ад чаго залежалі наша жыццё, барацьба.

Разведчыкам, Паўлу, заданне спадабалася. Незвычайнае. Будыка ўсміхаўся, назіраючы маю баталію з Шугановічам. Будыка лічыў, што на вайне, як і ў прыродзе, нічога немагчымага няма. Такая ў яго філасофія. Што немагчыма сёння — робіцца магчымым заўтра. Што немагчыма для аднаго — лёгка здзяйсняецца другім.

Я не адступаў. Здаўся Вася. Але як! «Добра, будзе табе «язык»! Але я сам пайду з разведчыкамі».

Мяне заела.

«Пойдзе інжынер!»

«Я? — збялеў Будыка.— Чаму я?»

«Баішся, тэхнакрат?»

«Баюся. Многа смерцяў прыйшлося ўбачыць».

«І ўсё-такі пойдзеш! Ты адзін гаворыш па-нямецку».

Перастаў усміхацца, выцягнуўся па-вайсковаму: «Слухаю, камандзір».

Я ніколі не мог зразумець цябе да канца, Валька Будыка. І цяпер не разумею. Хто ты? Што за чалавек? Я раскусваў людзей за адзін дзень, разбіраў іх па дэтальках і тут жа лёгка збіраў. Ты — машына больш складаная, чым тваe станкі. Кібернетычная. З вельмі складаным праграміраваннем — такім, да сэнсу якога могуць дайсці калі-небудзь хіба такія розумы, як мая Лада. А часам здаецца мне: ты як «матрошка» — прасценькі, але двайны ці трайны, і кожны па-свойму адмыслова закамуфляваны.

Разведчыкі не вярталіся тры дні. О гэтыя тры дні! Я іх ніколі не забуду. Да смерці. Выла завіруха. Сціхла. Зноў пачалася.

Я сядзеў адзін. Шуговіч у зямлянку не заходзіў — жыў з партызанамі, займаўся справамі атрада. Я баяўся выйсці да людзей. Упершыню баяўся людзей. І каго? Тых, хто верыў мне, хто па сваёй волі станавіўся пад маё камандаванне, давяраў, па сутнасці, сваё

жыццё, свой лёс. Але ж яны павінны і асудзіць мяне. Калі разведчыкі не вернуцца, я сам папрашу, каб мяне судзілі. Усім атрадам... Няхай расстраляюць перад строем. Не, такой смерці я не хацеў! Такой смерці не будзе!

Ніхто мяне не стане судзіць! Але я асуджу сам сябе, калі не вернуцца Павел, Будыка, стары будзёнавец Ермалай Краўчанка.

Я баяўся нават папрасіць у Рошчыхі спірту. І яна, чортава душа, была добрая, калі не трэба. А то не з'яўлялася нават праверыць, як звычайна, ці цёпла ў камандзірскай зямлянцы. Было холадна. Цяпло любіў Будыка і паліў «самавар» — чыгунную печку — бясконца.

Самае страшнае адзіноцтва, калі побач людзі, сябры, а ты адзін. Як вязень, як адшчапенец.

У прыёмнік быццам урывалася завіруха з усяе сямісоткіламетровай прасторы, што ляжала паміж нашым лесам і Масквой. Ледзь чутны — о, які далёкі! — матыў «Свяшчэннай вайны». Таму ён здаваўся жалобным. Бліжэй — нямецкае гаўканне. Але без Будыкі я не разумеў яго. Да д'ябла мне той «язык», калі яны ўжо ў Маскве! Сапраўды, навошта мне спатрэбіўся чужы «язык»?

Шугановіч толькі на трэці дзень здагадаўся, у якім я стане. Хацелася даць яму па мордзе, а потым пацалаваць. Залаты чалавек ты быў, Вася, але часам простыя ісціны да цябе даходзілі, як да жырафы прастуда,— на трэці дзень. Нават спірту прынёс. І сам выпіў. Трывожна было на душы і ў яго.

«Ты разумееш, навошта мне «язык»?»

«Разумею. Але гэта ад страху».

«Выходзіць — я баязлівец?»

«Не. Але ў цябе — душэўная паніка. Ты не ведаеш, што рабіць. Таму кідаешся. То табе захацелася паглядзець на павешаных, то... А што твой «язык» можа сказаць, няхай ён будзе хоць генерал?»

«Не, ты не разумееш! Я павінен убачыць хоць аднаго з іх адтуль, з фронту. Якія яны цяпер?»

Разведчыкі такі здабылі «языка». Але ўзялі не на той лясной станцыі, дзе павесілі хлопцаў, дзе была вадакачка і спыняліся для запраўкі вадой цягнікі, а ажно ў горадзе, у нашым райцэнтры, за сорак кіламетраў.

Абмарожаны слюнцяй, узрадаваны, што ад'ехаў так далёка ад фронту, вылез увечары, у завіруху, з санітарнага эшалона, каб паспрабаваць купіць шнапс. А Краўчанка сорак год пражыў на адной з вулачак каля самай станцыі.

Ашалелы ад страху, ад болю — разы тры за дарогу яму затыкалі рот, засоўвалі пад салому і тры чалавекі садзіліся на яго, як на куль,—

ад холаду, Фрыц не адразу загаварыў, хоць яго адагрэлі і накармілі. Потым — як сарваўся з ланцуга. Крычаў фашысцкія лозунгі, пагражаў: «Сталін капут! Москаў капут! Алёс капут!»

«Не, хлусіш, шчанюк! Гітлеру капут! Табе капут!» — сказаў я і выцягнуў з кабуры пісталет.

Ён упаў на калені. Сарваў з твару павязку. Замест носа — гнойны струп. Размазваў соплі і слёзы. Тыцкаў нам забінтаваныя пальцы і ўсё хацеў паказаць абмарожаны палавы член, нягледзячы на прысутнасць жанчыны — Рошчыхі. Пэўна, думаў, што абмаражэнне такога далікатнага месца найбольш разжаліць нас.

Люба пляваласся. Будыка смяяўся, ён быў вясёлы, як ніколі: вярнуцца з такой аперацыі! Толькі ўваліўшыся ў зямлянку, заключыў:

«Не такі страшны чорт, як яго малююць!»

Мне таксама хацелася смяяцца. Гледзячы на гэтага заваёўніка, на гэтага «пераможцу», я быццам адтаваў, быццам раптоўна і дзівосна вылечваўся ад цяжкай хваробы, хоць нічога пра тое, галоўнае, пра што я так прагнуў даведацца, палонны не сказаў.

Атупелы смаркач. Не помніў нават гарады, праз якія прайшоў. З пунктаў Падмаскоўя, знаёмых Будыку і мне, назваў адну Істру. Істра недалёка, але і не так блізка ад Масквы, каб вы маглі ўбачыць Крэмль. Колькі кіламетраў да Масквы ад таго месца, дзе ён абмарозіўся? Не ведаў. Абяцалі яму маскоўскую цёплую кватэру? Раней, калі было яшчэ цёпла, абяцалі. Колькі забітых, раненых? Абмарожаных? Пасля аднаго бою тыдні два назад засталося ў страі менш палавіны салдат. А потым — завіруха, мароз. Ён абмарозіўся ў начным пераходзе. «О, гэта была страшная ноч!»

Дапытвалі доўга, увесь вечар. Дапытвалі з прыемнасцю. А пасля весела вячэралі. На гэты раз па ініцыятыве Будыкі. Разгуляўся інжынер. Здаецца, той адзіны выпадак, калі я добра разумеў Будыку — весялосць яго, узбуджанасць.

Раніцой Шугановіч спытаў, што рабіць з немцам.

«Пакажы яго партызанам. Пастаў перад строем. Пасля будзем судзіць. Назначаю трыбунал. Пяцёрку. Ты, я, Рошча, Краўчанка, дзед Міхей».

У дзеда, які прыгнаў нам у лес рэшту калгасных коней — іх хацелі прысвоіць паліцаі,— спалілі хату, закатавалі нявестку і ўнука.

Першая падала голас Люба Рошча. Самыя бязлітасныя мсціўцы — жанчыны, у гэтым я пераконваўся не раз.

«Чаго тут доўга разводзіць анцімоніі! Расстраляць!»

Панура сядзеў Краўчанка, звесіўшы свае сівыя будзёнаўскія вусы. Скура на твары, што ў старога слана, такая цвёрдая на выгляд і

з такімі глыбокімі маршчынамі. Яго слова чакалі доўга. «Палонны ёсць палонны. Але куды нам дзець яго?»

Вася Шугановіч, усхваляваны, расчырванелы, як бы спяшаўся адказаць на пытанне будзёнаўца:

«Сын аптэкара. Дробны буржуа. З такіх Гітлер набіраў свае штурмавыя атрады. А гэты не стаў эсэсаўцам, гестапаўцам. Звычайны салдат. Можа паспрабаваць прасвятліць яму мазгі? Калі ўбачым, што фашыст, гад, тады ўжо...»

«Добранькі ты, камісар. Каб я карміла немчуру, ваўка, які будзе ўвесь час глядзець у лес!..— абурылася Люба.— Што табе скажуць партызаны? »

Вася разгубіўся. Ён не гатовы быў выбіраць адно з двух магчымых рашэнняў, па сутнасці сваёй зусім супрацьлеглых — расстраляць ці адпусціць да сваіх.

Я ведаў з самага пачатку, што трэцяга рашэння не магло быць. Але ці гатовы быў я сам выбіраць? Учора я расстраляў бы яго без размоў. Ад роспачы. Ад адчування свайго бяссілля перад іх магутнасцю: яны разглядаюць у біноклі Маскву. Нарэшце, помсцячы за хлопцаў. Сёння ўсё змянілася. Я — камандзір, я ажыццяўляю Савецкую ўладу ў захопленым ворагам раёне. Ваеныя законы суровыя. Барацьба насмерць. Але і ў гэтых законах павінны быць увасоблены найвышэйшая мудрасць, гуманнасць і справядлівасць майго народа. У чым яны? Што табе скажуць партызаны? Можа варта запытаць у атрада? Але дзе многа людзей — там часам бушуе стыхія. А тут трэба спакой і роздум.

«Міхей Селівонавіч, тваё слова».

Уздыхнуў дзед.

«Адпусціце яго, дзеткі, з богам. Мы — не яны. Доктар кажа: пальцы яго трэба адразаць. Калека. Больш ваяваць не пойдзе».

Люба сказала:

«Ну, дзед, здзівіў ты мяне!»

Я доўга не мог нічога сказаць. Слухаў, як адтавала ў сэрцы нешта, што застыла, замерзла, зачарсцвела ў апошнія дні і што магло ператварыць сэрца ў камень. Дзякуй табе, дзед. Ты — наша сумленне.

Пішы, камісар. Трыбунал атрада «Смерць фашызму» пастанаўляе: радавога нямецкай арміі... як яго?.. узятага ў палон, адпусціць. Раненых не расстрэльваем!

Я сам завёз яго на чыгунку. Развязаў вочы. Ідзі. Да станцыі каламетраў дзесяць. Дойдзеш — тваё шчасце. У цябе, здаецца, пачынаецца гарачка. Магчыма, гангрэна. Ідзі, але не забывай, што смерць чакае цябе ўсюды на нашай зямлі! І другім пра гэта скажы!

У найлепшым настроі да вечара аглядаў я дальнія дазоры. Заехаў у Прыгары да нашага старасты. Падумалі з ім, як намалоць мукі,— збожжа ў нас было закопана. На млын трэба завезці не дзесяць пудоў, а дзве-тры тоны. Каб хапіла атраду на зіму. Каму малоць? Пад чыёй маркай? Каб не ўзнікла падазрэнняў. А то і хлеб страціш і людзей.

Вярнуўся — Будыка за вячэрай ухмыляецца на ўсю морду:

«А ты хоць ведаеш, што мы не аднаго «языка» прывезлі?»

«А каго яшчэ?»

«О, не ведаеш? Дзіва! Мадону. Ды яшчэ, здаецца, з младзенцам».

«Якую мадону? Што вярзеш?»

«Праўда. Настаўніцу. Начавалі ў нейкім сяле. Яна прыйшла, на калені перад Паўлам упала. Яны знаёмыя. Або, кажа, вазьміце з сабой, або забіце. Не магу больш. У яе муж у паліцыі. Лепш, кажа, памерці, чым быць жонкай здрадніка».

Мяне быццам ветрам сарвала з месца.

«Вы што, звар'яцелі? Ты за каго там быў? Ты начальнік штаба атрада! Акружэнская ануча!»

Пасля Валянцін прызнаваўся, што ніколі не бачыў мяне такім раз'юшаным. Стаяў, збялелы, навыцяжку. Апраўдваўся, як хлапчук:

«Брат твой яе ведае. І Шугановіч».

«Ты калі мне пра гэта дакладваеш? Хто тут камандзір? Вы што — пахавалі мяне?»

«Камісар нас сустрэў, я думаў — ён сказаў...»

«Хто тут камандзір? — крычаў я ў твар Шугановічу і Паўлу.— Чаму я на другія суткі даведваюся, што ў атрадзе з'явіўся новы чалавек? Хто дазволіў?»

«Я прывёз!»

«Ты думаеш, калі ты мой брат, дык можаш цягнуць у лагер каго хочаш? Хто яна?»

«Жонка Сваяцкага».

Ад здзіўлення нават гнеў мой патух. Я даўно ведаў, што мой калега па райвыканкому — загадчык дарожнага аддзела — зрабіўся намеснікам начальніка раённай паліцыі. А павінен быць з намі, прысутнічаў на нарадзе, якую праводзіў сакратар абкома, залічаўся ў атрад. Адказваў за прадуктовыя склады. Добра, што не за зброю. У лес, калі прыйшлі немцы, не з'явіўся, як, між іншым, не з'явіўся і той чалавек, якога абком назначыў нашым камандзірам. Але той знік бясследна. А гэты вынырнуў. На месцы складаў мы знайшлі пустыя ямы. У нас, адзінаццаці, хто адразу прыйшоў у лес (цяпер ужо

дзевяці), з гэтым чалавекам быў свой рахунак. Мы цвёрда вырашылі як-небудзь спытаць у яго: куды дзеліся прадукты і вопратка?

І вось жонка яго ў нас, у лагеры. Ён жыў не ў райцэнтры, а ў Хабылях, кіламетраў за восем, і жонку яго я страчаў рэдка, але помніў. Сваяцкі ажаніўся гады два назад. Неяк неўзабаве пасля вяселля мы са старшынёй выканкома заглянулі ў яго дом — павіншаваць маладых. Далібог, цяпер я сумеўся пасля Паўлавага паведамлення. Можа зрабіць жонку прымаючай на Сваяцкага? А калі яна прыманка на нас, калі гэта хітры ход паліцыі?

«Пры першым жа падазрэнні я расстраляю не толькі яе, але і вас. Усіх траіх. Хто з вас дае гарантыю, што яна не шпіёнка?»

«Якая яна шпіёнка! Яна можа праз тыдзень-два нарадзіць».

Ну і ну! Хлопцы ўмелі здзіўляць! Тут ужо я зноў, як кажуць, «паставіў свечку».

«Нарадзіць? Ды вы што — ашалелі?! Што ў нас тут — раддом? Дзіцячыя яслі? Каб да раніцы духу яе не было! Завязаць вочы — і на ўсе чатыры! У любую вёску! Толькі не да нашых сувязных!»

«Немца ты пашкадаваў! — раптам узлавана закрычаў Павел.— А свайго чалавека — на мароз, у завіруху. Такую... А куды яна пойдзе? Сірата. І не тутэйшая. З Віцебшчыны. Мы ёй у тэхнікуме ўсім курсам памагалі. Яна кажа: лепш павешуся, чым назад да паліцая...»

Тое, што яна павесіцца, мяне мала кранула. А вось што брат мой, выходзіць, разам з ёй вучыўся, а значыцца, добра ведае,— трохі супакоіла. І Шугановіч ведае. І таксама — за яе. Бач, як балюча скрывіўся, калі я загадаў вывезці яе з лагера. Толькі Будыка назірае збоку, як староннi глядач, з ухмылачкай сваёй дурацкай — радуецца, пэўна, што віна валіцца не на яго.

Чорт з вамі! Даволі ў мяне клопатаў без вашай бабы!

«Толькі пялёнак вам і не хапае. Ваякі! Спаднічнікі! — і да Паўла: — А за немца мяне не папракай! Гуманіст саплівы!»

А пасля, у той жа вечар, зноў душэўная дэпрэсія. Якія мізэрныя справы! Узялі немца, і таго адпусцілі. Пасварыліся з-за бабы. А заўтра што? Зноў будзем сядзець у зямлянках і слухаць, як вые завіруха? А там ідзе гіганцкая бітва. Паміраюць мільёны. Вырашаецца лёс Радзімы. Што зрабіць, каб памагчы Маскве?

Дасталася ў той вечар і Будыку за яго ўсмешачкі. Доўга ён пасля так не ўсміхаўся.

Распёк Рошчыху за ацеслівы хлеб. Ды з той — што з гусі вада:

«А ты мне печ чалавечую збудаваў, што крычыш, як на жонку?»

Я павінен будаваць ёй печ! Хутка запатрабуюць: чаму няма пялёнак? Ох, даводзілі яны ў той вечар мяне да белага калення, паплечнікі мае!

Але ўсё засланяла адна думка — што рабіць? Не можам спускаць эшалоны. Не маем сілы весці бой з гарнізонамі акупантаў. Няўжо няма больш спраў? Не, ёсць! Смерць тым, хто прадаўся фашыстам! Кобікі і сваяцкія павінны адчуць, што здрада не застаецца непакараная, што ёсць суд народаў. І што гаспадары ў раёне не яны — мы, партызаны!

У тую раніцу зноў была завея. Я не помню дня ў тым снежні, каб не ішоў снег. Сапраўдны снежань! Усё, што за дваццаць тры гады ўтрымалася ў памяці,— усё рабілася ў завіруху.

Мы ехалі раніцою па полі, і ў вочы нам і коням балюча сек марозны снег. Не такі мяккі, не такі ласкавы, як сёння. Але і гэты добра сыпле. Заўтра будзе такая ж зіма, як тады. Трэба вяртацца. Я далёка зайшоў. Нішто не перашкаджае цяпер думаць дома, грэючы спіну каля радыятара.

IV

З-за павароту бязлюднай вуліцы вынырнула машына. Ударыла ў вочы снопам святла — асляпіла, прасігналіла.

Антанюк ступіў да штыкетнага паркана: дарога і тратуар слізкія.

«Волга» шуганула міма і раптам рэзка затармазіла. Пасажыр з пярэдняга сядзення паклікаў:

— Іван Васільевіч!

Машына ціха сунулася назад. Яго, Антанюкоў, наступнік — Андрэй Пятровіч, пра якога сёння ішла размова.

— Ты куды проці ночы?

— Гуляю!

— Во сіла волі ў чалавека! Няхай каменне падае — ён будзе гуляць. Сто гадоў пражывеш. Сядай — падвязу. Не дагуляеш — не бяда.

«Чаму такая ўвага? Ведае, што я адмовіўся, ці, наадварот, упэўнены, што я згаджуся вярнуцца яго падначаленым?»

Хлапчына гадоў чатырнаццаці ветліва даў «добры вечар», калі Антанюк сеў побач з ім.

Андрэй Пятровіч павярнуўся ўсім целам, тварам у твар.

— А мы з сынам зрабілі першую вылазку на падлёдны. На мора наша сіняе. Слаба. Дзесятак акунькоў.

«Мне зайздросціш, што гуляю, а сам у рабочы дзень ловіш рыбу».

Сын сказаў:

— Дзе ж ты хацеў налавіць — каля берага? Баяўся далей пайсці.

— Лёд яшчэ слабы. Але пасядзець прыемна. Сняжок падае. Цішыня.

— Клявала добра. Каб за востраў пайшлі...

— Ну, там ніколі не бралі.

— Што ты, тата! Забыўся? А помніш, як летась... Не паспявалі выцягваць.

— Дык хіба то за востравам? То ж у затоцы каля Семкавага...

— Каля Семкавага пад вясну. А то зімой, на канікулах. Калі Валодзька Кузьмін з намі ездзіў. І дзядзька Васіль.

Бацька і сын спрачаліся пра мінулагодні лоў і пра мінулагоднія снег і мароз. А ў Івана Васільевіча зашчымела сэрца. Вострым болем працяў смутак па сыне. І з'явілася адчуванне віны перад ім. Дзіўна, такое адчуванне не аднойчы ўжо з'яўлялася. Незразумела — чаму? Раней ці пазней Васіль павінен быў выканаць святы абавязак грамадзяніна. Ён, бацька, палічыў, што хлопцу будзе на карысць, калі ён выканае гэты абавязак хутчэй, пройдзе самую суровую школу, у якой не песцяць, не гладзяць па галоўцы. І аднак... Што ён, Антанюк, зрабіў для таго, каб у сына не ўзніклі тыя заскокі, тая блытаніна ў галаве, за якую прыйшлося караць? Працаваў, не шкадуючы сябе,— гэта так.

Але няпраўда, што зусім не заставалася часу, каб заняцца дзецьмі. Паехаць на паляванне час знаходзіў.

Спрабаваў браць сына. Хлопцу не спадабалася. Больш не паехаў — шкадаваў забітых звяроў. Маці кранула такая сынава чуллівасць. Ах, якое дзіця! Якое сэрца! Вольга ўвогуле супраць палявання. Нават цяпер. Як жа можна было прыблізіць яго, як уплываць?

Не, адчуванне віны не ад таго, што сарваў Васіля з універсітэта; армія — таксама універсітэт. Адчуванне віны ад таго, што, па сутнасці, не было завошта караць хлопца. Рэктар гэта разумеў. А ён, бацька, нечакана праявіў звышпрынцыповасць. Крыўднымі, абразлівымі здаліся сынавы словы «Ты сам закаранелы сталініст!» Цяпер ўсё гэта здаецца наіўным. Быў час, калі сутыкнуліся дзеці і бацькі, калі дзеці вінавацілі нас ва ўсіх грахах мінулага, нашых і чужых, у тых, што пры аб'ектыўным разглядзе можна было залічыць у памылкі росту, станаўлення, і ў тых, што рабіліся воляй, злоснай ці хворай, аднаго ці некалькіх чалавек. Але мы, бацькі, гэтак жа агульна, як агульна нас вінавацілі, адмяталі ўсё, чапляліся за мінулае і мімаволі прывязвалі сябе да таго, да чаго не мелі дачынення, супраць чаго змагаліся ўсім сваім жыццём, барацьбой і працай па здзяйсненні ідэалаў, завешчаных Ільічом. Мы гэтак жа агульна, без разбору, вінавацілі і яшчэ дагэтуль вінавацім дзяцей, што яны не такія, як мы, што, маўляў, куды ім да нас, мудрых, непагрэшных, загартаваных у

баях. А, па сутнасці, усім нам, бацькам і дзецям, патрэбна крыху больш аб'ектыўнасці і самакрытычнасці — той самай, пра якую так многа гаворыцца.

Нам не трэба думаць, што дзеці горшыя за нас, а дзецям — што яны ва ўсім разумнейшыя. Лада пранікае ў таямніцы матэрыі і нават антыматэрыі, але яна ніколі не будзе ведаць таго, што ведае ён, яе бацька, што нажыта вопытам нялёгкага жыцця.

Кожнаму чалавеку — сваё. І кожнаму пакаленню — сваё. І нічога нельга закрэсліць з таго, што было. Дзеці павінны выхоўвацца не толькі на нашых гераічных справах, але і на памылках мінулага, каб не паўтарыць іх.

Ісціны агульнавядомыя, амаль банальныя. Іх лёгка паўтараць. Але нялёгка ажыццяўляць.

Калі дзеці былі малыя, ён, Антанюк, зрэдку расказваў ім пра свае партызанскія справы, безумоўна, пра самае гераічнае. Яны слухалі з захапленнем. Падраслі — пачалі скептычна ўсміхацца: не верылі, што ён такі герой. Бачылі звычайнага чалавека, якому ўласціва ўсё чалавечае. А ён пакрыўдзіўся, што яны абыякавыя да яго мінулага. Аддаліўся. Толькі цяпер вось зблізіўся з дачкой, падружыўся.

А сын далёка. Як зблізіцца з сынам? Што зрабіць, каб зразумець адзін аднаго?

Андрэй Пятровіч усё-такі спытаў на развітанне:

— Калі на работу?

Значыцца, не ведае. Лавіў рыбу.

— Не баішся, што я запатрабую, каб вярнулі на тое ж месца?

Андрэй Пятровіч хмыкнуў.

— Не баюся.

— Ведаеш, што не вернуць? Ці цэліш вышэй?

— Не ведаю. І не цэлю. Сам прашуся на інстытут.

— У навуку?

— Дарэмна я сляпіў вочы над дысертацыяй?

— Модным стала — ісці ў навуку.

— Больш пэўнасці.

— Гэта праўда: пэўнасці больш. Толькі нешта навукі не больш. Нашай, сельскагаспадарчай.

Андрэй Пятровіч засмяяўся зноў.

— Чакай. Скончылі з валюнтарызмам — рушым навуку.

Упэўненасць — пазайздросціць можна. А кіраўнік — пасрэдны. Для справы будзе лепш, калі ён падасца ў навуку. Адтуль толькі рэкамендацыі, а адгэтуль — загады. І колькі іх, непатрэбных, недарэчных!

Жонка сказала з папрокам:

— Дзе ты бадзяўся? Табе званілі. Ад Пятра Фёдаравіча. Просіць зайсці. Заўтра.

— Я паеду да Васі. Уначы. Сімферопальскім.

Вольга Усцінаўна збялела.

— Што здарылася?

— Нічога. Проста мне захацелася пагаварыць з сынам. Маю права на такое жаданне?

— Няпраўда.

Убачыў: Вольга падумала немаведама што. Першы год яна жыла са страхам за здароўе і жыццё сына, пакуль не з'ездзіла да яго, не пабачыла, узмужнелага, бадзёрага.

Іван Васільевіч абняў жонку за плечы.

— Якая ты палахліўка! Клянуся: гэта — мая фантазія. Хадзіў-хадзіў — і надумаўся. Сустрэў аднаго таварыша з сынам. На рыбалку ездзілі.

Яна зазірнула ў вочы — паверыла.

Моўчкі сціснула руку — падзякавала, што ён думае гэтак пра сына і хоча пагаварыць з ім. Але і другое яе хвалявала.

— А як жа там? — кіўнула ўгору.

— Пачакаюць. Абыходзіліся два гады без мяне.

— Ты не задаволены размовай?

— Прапанавалі аддзел... Я адказаў: толькі на сваё месца.

— Так яно патрэбна табе, гэта месца?

— Мне патрэбна, каб некаторыя зразумелі...

— Зноў ваюеш? Божа мой!

— Два гады я ні з кім не ваяваў. Можна, нарэшце, дазволіць сабе такую раскошу?

— Табе здавалася, што не ваяваў. А сёння прыходзіла Мілана. Скардзілася. Нехта ім сказаў, што па тваёй прапанове гарком паслаў камісію правяраць інстытут. Навошта табе яшчэ заядацца з Будыкам?

— Чаму гэта ён так спалохаўся камісіі? Звычайная грамадская група дзяржпарткантролю. Нешта ж нам, пенсіянерам, трэба рабіць.

Вольга Усцінаўна папрасіла няўпэўнена, асцярожна:

— Ваня, а можа пачакаць з паездкай? Цябе просяць зайсці, а ты... нібы ўцякаеш. Што падумаюць?

— Я вольны пенсіянер. У мяне свае планы.

— А ўсё ж...— пачуцці яе двоіліся: так хацелася, каб муж паехаў да сына, але не менш хацелася, каб ён хутчэй вярнуўся на працу. Цяпер такая сітуацыя!

— Я надакучыў табе дома? — паспрабаваў пажартаваць Іван Васільевіч.

— Не надакучыў. Але я не магла не бачыць, як табе неабходна быць у калектыве, з людзьмі. На любой пасадзе. Навошта табе чыны?

— Не, мне трэба чын! Каб з найбольшым эфектам аддаць свой вопыт, ды і тую энергію, што накапіў за двухгадовы адпачынак.

— Ты на любым месцы ўмееш працаваць.

— Нешта цябе пацягнула на кампліменты. Збяры чамадан.

— А можа хоць заўтра?

— Оля, я рэдка калі адмяняю свае рашэнні. Ты ведаеш. У мяне не часта ўзнікала жаданне пагаварыць з сынам. На жаль, не часта. На жаль.

— Пра што ты хочаш гаварыць з ім?

— Ні пра што. Проста так. Пра жыццё. Можа яму пасля будзе лягчэй служыцца...

У маці вочы напоўніліся слязьмі шчасця.

— ...а мне ваяваць, як ты кажаш... з валюнтарыстамі. Якое слова! А?

Жончыны вочы ўміг высахлі.

— Ох, Іван, Іван! Калі ты ўгамонішся?

— Калі накрыюць векам. Ды і тады яшчэ буду пускаць біятокі і не даваць некаму спакойна спаць.

Выйшла Лада са свайго пакоя. Стала ў дзвярах, ускудлачаная, хмурая, як заўсёды пасля таго, калі добра пасядзела над квантавымі тэорыямі. Магчыма, незадаволеная, што галасы бацькоў перашкодзілі.

— Чую, мае продкі вядуць вучоную размову. На сённяшнім узроўні. Пра біятокі.

Некалі Іван Васільевіч абурыўся, калі сын сказаў вось так — «продкі». А яна, Лада, праз тыдзень можа, паўтарыла, безумоўна, знарок гэтае слова, і з яе вуснаў яно прагучала, як жарт.

Успомніў гэта і яшчэ вастрэй адчуў смутак па сыне. Лада ўдачніца. Ёй усё ўдаецца. Не, няпраўда. Пры чым тут удача ці няўдача! Лада — талент, памножаны на недзявочую працавітасць. За гэта ён любіць дачку і ўсё даруе, нават «продкаў» і ўсё іншае.

— Пазнаць тайны біятокаў — да гэтага мы яшчэ павінны дайсці. Але я баюся, што людзі не вельмі ўзрадуюцца, калі нехта навучыцца лавіць кожны іхні імпульс. Табе, бацька, было б прыемна, каб нехта недзе сядзеў і чытаў твае думкі? Усё, пра што ты сёння думаў, што ўспамінаў, аб чым марыў.

Іван Васільевіч на міг сумеўся, успомніўшы, пра што думаў, што ўспамінаў, пакуль гуляў па гарадскіх вуліцах, памаладзелых ад снегу.

Лада нібы здагадвалася пра яго ўспаміны. Уявіў, як бы ўсё, напэўна, ускладнілася, каб сапраўды нехта ўмеў настроіцца, напрыклад, на яго «хвалю», запеленгаваць у любым месцы — у лесе, у ложку, у самалёце і «весці»— дзень, два, тыдзень, запісваць усё, што прыходзіць яму ў галаву. А можа, наадварот, усё спрасцілася б? Людзі лепш разумелі б адзін аднаго, уведаўшы і зразумеўшы, больш верылі б, менш падазравалі б у тайных намерах.

Выказаў дачцэ гэтае, апошняе, меркаванне.

Яна на міг задумалася. Але тут жа скрывілася.

— Ты — ідэаліст, тата. Табе хочацца ўсе адкрыцці навукі павярнуць на ўдасканальванне чалавека...

— І грамадства.

— ...Тым больш гэта ідэалістычна. Попел Хірасімы не зблізіў людзей, а раздзяліў іх яшчэ больш на варожыя лагеры. Вось табе вялікае адкрыццё!

— Няпраўда, Лада! — энергічна запярэчыла маці.— Попел Хірасімы зблізіў людзей. Усіх добрых людзей.

— Чуеш голас маці! — падтрымаў Іван Васільевіч.

— Я недзе чытала, што ў маці — голас сэрца, а не розуму. Баюся, што, калі ў мяне загаворыць сэрца, я плюну на расшчапленне атама і паверу ў трываласць свету. Першае слова майго дзіцяці будзе мець для мяне больш глыбокі сэнс, чым любая формула квантавай механікі. А пакуль што наадварот: я веру толькі ў формулы. Але не веру, што ад пазнання метаду разліку складаных атамаў я стану лепшая.

— Усё гэта, дачка, словы з модных кніжак. Поза. Мы з мамай добра ведаем, што ты не такая. І мне хочацца, каб ты гэтак жа сур'ёзна, як законы фізікі, вывучала і другія законы — жыцця, барацьбы... Попел Хірасімы раздзяліў не людзей — ён яшчэ больш раздзяліў класы, якія ніколі не маглі і не могуць прымірыцца...

— Вось бачыш — розніца толькі ў словах! А ты сам пацвярджаеш мае думкі: значыцца, усе роўна варожасць, якая заўсёды канчаецца трагедыяй. Даказаў яшчэ Шэкспір.

— Але ёсць не толькі попел Хірасімы. Ёсць Дубна, куды ты ездзіла. І ёсць Брацкая ГЭС. І Асуанская плаціна... Гэта яднае людзей. Людзі ўсё больш разумеюць, што будучыня чалавецтва ў гэтым — у Дубне, у Асуане.

— Чалавецтва, яно, тата, што атам: часціцы яго — класы, нацыі, дзяржавы, партыі — нясуць зарады. А яшчэ са школы я ведала, што ўзаемадзеянне зараджанай часціцы з атамным ядром, якое прыводзіць даператварэння гэтага ядра ў новае ядро, называецца ядзернай рэакцыяй. Выбух — новае ядро. І новыя зараджаныя часціцы. Зава-

рожанае кола. Нішто не можа існаваць без зараду. Дзе ж перспектыва спакою?

Іван Васільевіч здзівіўся. Здаралася, што і раней яны спрачаліся, і Лада з юнацкай палымянасцю старалася збіць бацьку складанымі матэматычнымі формуламі і катэгорыямі, якіх ён не мог ведаць. Але рэдка калі з законаў фізічных яна рабіла вось такія высновы сацыяльныя.

— Дзе ты гэта вычытала?

— Тата, ты кепска думаеш пра мяне.

— Не лічы, што робіш адкрыццё. Да нас з табой, даўно ўжо, ды і ў наш час нямала ёсць такіх, што пераносяць законы фізікі, біялогіі на грамадства. Пачытай у Леніна. Вялікімі вучонымі сталі тыя, хто адкрыў законы фізікі, і тыя, хто адкрыў законы развіцця грамадства. Але не тыя, хто хацеў механічна перанесці...

Лада засмяялася.

— А ты непахісны, дарагі татуля, у сваіх перакананнях. Часам я зайздрошчу тваёй цвёрдасці. Мне хочацца, каб і ў маёй кібернетычнай машыне быў такі ж парадак. А то ў мяне часта блытаюцца плюсы і мінусы... А ты ўяўляеш, як можа змяніцца канчатковы вынік, калі зблытаць знакі?

Маці не любіла такіх залішне вучоных разважанняў. Сказала з папрокам:

— Ты блытаеш не адны знакі. Не заблыталіся ў людзях.

Лада зразумела — засмяялася.

— Не хвалюйся, мама. У мяне матэматычны разлік.

— Я паеду сёння да Васіля. Што яму перадаць? — спытаў Іван Васільевіч ў дачкі, зразумеўшы, што спрэчка перапынена.

— Чаму так знянацку?

— Так захацелася. Гэта цяжка растлумачыць — і бацькоўскі гнеў, і бацькоўскі смутак. Некалі ты зразумееш.

— Я разумею, — Лада сур'ёзна задумалася, але тут жа засмяялася. — Перадай, што я маю яшчэ аднаго жаніха. Няхай павіншуе. — Убачыла, што бацька здзівіўся, растлумачыла: — Табе маці не расказвала? Да мяне найсур'ёзнейшым чынам заляцаецца Фелікс Будыка. Во як выраслі мае акцыі! Да кандыдатаў. Учора запрасіў у тэатр. А я спытала, якія месцы, пайшла і купіла яшчэ адзін білет, узяла месца побач — на маё шчасце, яно было... І запрасіла Жазефа, малійца. О, як яны глядзелі адзін на аднаго! Памерці можна. У негра, калі гасла святло, бялкі блішчалі. Страшна рабілася. Думаю, дасць зараз Феліксу пад дыхавіцу. Во быў бы спектакль! Чорны студэнт пабіў белага кандыдата. Сенсацыя!

Іван Васільевіч не надта весела ўсміхнуўся.

— Не жартуй з агнём, Лада.

— О! Але ж трэба ведаць, хто з іх гарыць, а хто тлее. Парай мне выйсці за Будыку. Вясёленькае жыццё я наладзіла б свякрусе!

— Мілана Феліксаўна — недурная жанчына. Яна ўмее жыць з людзьмі.

— О, тата! Ці ты гэта? Можа, праўда, ты хочаш пасватаць мяне за Будыку? Засядзелася ў дзеўках? Прызнайся, цябе хвалюе гэта? У класічных раманах — кожнага бацьку хвалявала. Графа Растова, князя Шчарбацкага...

Дачка такі развесяліла Івана Васільевіча.

— Я дрэнны бацька, відаць, бо ніколі не думаў ні пра тваё, ні пра Маіна замужжа.

— Дзякуй богу. Хоць у адным бацькоўская псіхалогія за сто год прагрэсіравала.

Звычайна Лада перапыняла размову з бацькамі нечакана — трэба вучыць. Дзесяць мінут на разрадку — і даволі, дысцыпліна ў яе жалезная. У той вечар яны гутарылі доўга, то сур'ёзна, то жартаўліва. Ніхто не перашкаджаў. Вольга Усцінаўна пабегла ў магазіны: трэба сабраць сыну гасцінец; мужаў напамінак, што тыдзень назад выслалі яму пасылку, не спыніў маці. Як можна ехаць без нічога!

Не, я ні ў чым не магу лічыць сябе вінаватым. Ні перад кім з вас. І ніхто з вас не мае права судзіць мяне! Гэта магла б зрабіць ваша маці. Перад ёй я маю віну, але — дзіўна — ніколі не адчуваў яе так, каб караць сябе. Тое, што я сказаў маладому маралісту, які хацеў спалохаць маёй тайнай, праўда: той Антанюк застаўся там, за мяжой, і ўсё засталося з ім. Не, лухта. Ніхто не хаваў аднаго Антанюка і не нараджаў другога. Якая мяжа? Калі і што дзяліла? Ніколі я не дваіўся, здаецца. Ды не, дваіўся ўсё-такі. Інакш пражыць нельга.

«Вы, бацькі, што папы... Вам страшна, каб мы не дадумаліся да адмаўлення таго, што вам здаецца святым...» Не, дачка. Мне не страшна. Тое, што для мяне святое, вы ніколі не адмовіце, бо яно было, ёсць і будзе святым для ўсіх. За гэта я не баюся. І будучыня ваша не хвалюе, бо ведаю, што жыццё ваша будзе лепшае, чым маё.

А што такое лепшае? Спакойненькае? Больш дабрабыту?

«А я не веру, што ад пазнання метаду разліку складаных атамаў стану лепшая...» Любіш ты, Лада, выпускаць калючкі. Ты пранікла ў будову матэрыі куды глыбей, чым я за ўсё сваё жыццё, за ўсё навучанне, і па логіцы ты павінна стаць лепшая. Удасканаленая мадэль. Але, на жаль, не заўсёды так бывае. Навука не адна. Навук многа.

Ёсць яшчэ гіганцкі і складаны атам, які называецца чалавецтвам... Аднак я паўтараю твае словы.

Мы, бацькі, падобны на папоў не ў боязі сваёй, што дзеці дадумаюцца да адмаўлення чагосьці, а ў тым, што любім паўтараць тое, што вядома кожнаму малому, і выдаем старыя, як свет, ісціны за сваю бацькоўскую мудрасць...

Зноў супынка? Чаму на гэтым перагоне поезд спыняецца каля кожнага слупа?

А снег усё ідзе. Вунь у святле ліхтара кружаць якія матылі. Не рана? Нехта садзіцца. На такім паўстанку? Каб толькі не да мяне ў купэ. Эгаіст. Але ж поўна месц, вагон пусты. Міма. Дзякуй богу. Я павінен усё-такі разабрацца ў сваіх пачуццях. Чаму ўзнікла гэтае незразумелае адчуванне віны перад дзецьмі? Не толькі перад Васілём. Але і перад Ладай. Перад Вітай. Перад усімі дзецьмі. Якімі ўсімі? Не ўзнімайся, калі ласка да абстракцый. Ісціна заўсёды канкрэтная. Ладзе зайздросцяць. І я сам зайздрошчу такому таленту. І ганаруся. Хоць часам робіцца страшна за яе. Але сёння страху не было. Сёння грызе зусім іншае. Значыцца — Васіль. Можа ты даўно забыўся ўжо, як кінуў мне суровае абвінавачанне? А я помню, і мне баліць. Мая віна, што ты дрэнна ведаў, каму я служыў і як служыў. Я ніколі не ўмеў расказваць пра сябе, тым больш вам. Не ўмеў ці не меў часу? А можа баяўся? У самыя высокія, гераічныя моманты майго жыцця здараліся такія падзеі, сітуацыі, якія вы не здолееце правільна зразумець. І, аднак, я павінен быў расказваць больш. І не рэагаваць так хваравіта на любыя твае словы, помніць, што ў маладосці сам быў такі ж гарачы. Ды і не толькі ў маладосці. Напэўна, мне трэба было вось з такім спакоем і развагай разабрацца ў тваёй віне. Але ўсе мы з нервамі, у мяне яны добра такі падношаныя. А ты і да таго не раз біў па гэты сцёртых струнах. У малодшых класах прыносіў пяцёркі, а ў старэйшых тройкі. Званкі дырэктара, класнай, далікатныя просьбы прасачыць за сынам. Магло гэта мяне цешыць, радаваць так, як радавалі Ладзіны граматы і медалі?!

Пад націскам маці я пайшоў на ўніжэнне: прасіў за цябе, калі ты паступаў ва універсітэт. За Ладу не трэба было прасіць. Балела і цяпер баліць, што ты, мой адзіны сын, не такі, як твая сястра. Ну, няхай не выдатны — хаця б звычайны, як усе іншыя. А ці так ужо добра быць шэранькай звычайнасцю? Уласна кажучы, што я ведаю пра цябе? Што ты ўзначаліў кампанію крыкуноў, у якой, безумоўна, былі гультаі і, магчыма, хуліганы. Ім абы пашумець. Але хіба ўсе такія? Сам рэктар казаў: хлопцы здольныя і разумныя. Супраць чаго вы пратэставалі? Супраць аднаго дурня і прыстасаванца? Ці супраць метадаў выкла-

дання? Хто ў гэтым разабраўся па сутнасці? Вы, нібыта, патрабавалі: «Марксізм-ленінізм павінен выкладацца сапраўднымі ленінцамі!» І наладзілі абструкцыю таму тыпу. Але ён і цяпер штодня ўзыходзіць на кафедру, тлусценькі, ружовенькі, задаволены сабой, і чытае, напэўна, усё па тых жа старых канспектах, зрабіўшы невялічкія купюры і такія ж устаўкі — каб звязаць з сучаснасцю.

Разумныя людзі з рэктарата, з гаркома і тады разумелі, што жорстка караць вас няма завошта. Караць трэба было за форму пратэсту, а не за сутнасць. Каб не распускаліся, не рабіліся анархістамі. Спадзяюся, што цяпер, у арміі, ты зразумеў гэта. Баюся я сустрэчы з табой, хоць яна і не першая. Але, здаецца, сам я стаў іншы. Тады я быў упэўнены, што ўсе вы заслугоўвалі больш суровага пакарання, што з вамі абышліся ліберальна і што я, адзіны, зрабіў мудра, памогшы, каб ты апынуўся ў другім універсітэце, дзе гэтак не няньчацца з такімі анархістамі.

Але цяпер я думаю: калі, па сутнасці, вы мелі рацыю, то як інакш вы маглі выказаць сваё абурэнне супраць подласці і невуцтва? Хіба не гэтак жа запратэставаў я супраць чарговага глупства і невуцтва ў вядзенні гаспадаркі? Дык чаму — адкажы сам сабе ў гэтым пустым вагоне, пад стук колаў — чаму тое, што ты праз усё жыццё рабіў сам, у сына, у сяброў яго палічыў крамолай? Здалося, што яны замахваюцца на тое святое, што ты заваёўваў крывёю, смерцю блізкіх? Не, і тады я не думаў так. Каб нешта падобнае ўчыніла Лада, я, напэўна, рэагаваў бы зусім інакш. А ты ўсімі сваімі паводзінамі накапліваў незадавальненне, расчараванне. І адбыўся выбух. Напэўна, сапраўды немагчыма растлумачыць бацькоўскі гнеў, як і смутак. Май на ўвазе, еду я не за тым, каб супакоіць сумленне і загладзіць сваю віну перад табой. Я не маці, каб плакаць і раскайвацца. Зараз не магу растлумачыць, навошта мне гэтая стрэча, але адчуваю, што яна такі патрэбна і табе і мне, што яна ў нечым паможа. У чым? Змагацца з дурнямі? Але які змагар той, хто на пенсіі? Пайсці на пасаду, якую прапанавалі? І памагаць такім, як Андрэй Пятровіч, прабівацца ў навуку? Як некаторыя навучыліся выбіраць месца там, дзе больш пэўнасці! Я ніколі не выбіраў.

Дзіця? Недзе праз купэ ці два. Немаўля... Выходзіць, не так пуста ў гэтым вагоне, што імчыць праз ноч, снежную імглу на поўдзень, да сонца...

А далібог, зрабілася неяк утульней ад дзіцячага плачу. Ён разбудзіў, запоўніў вагон, як тады ў тую снежную ноч запоўніў лагер і... і сагрэў зачарсцвелае, застылае сэрца камандзіра. Маё сэрца.

А вось і яна, маці, яе калыханка. Не бойся, жанчына. Не бойся некага разбудзіць, некаму перашкодзіць дасніць прыемны сон. Спявай гучней!

Чакай... Вось яно што! Віна? Завошта? Перад кім? Адказнасць. За цябе, Васіль. За цябе, Лада. За цябе, Сташко. За цябе, Віта. І за цябе, чужое немаўля. А віна... віну я адчуваю толькі перад табой, Павел. Перад адным табой.

Я знайшоў цябе ў лесе пасля таго, як Будыка сказаў мне тваю тайну. Ты сядзеў на пні. Свежыя сасновыя пні плакалі смалой. І бярозы плакалі. Кроплі бярозавіку звінелі ў збанах і кацялках, падвешаных партызанамі. Лес хаваў нас, грэў, паіў і карміў. Але вайна рабіла нас бязлітаснымі да лесу. Я сеў насупраць на такім жа пні. Я сказаў:

«Павер, Павел, я нічога не ведаў. Ты кахаў яе? З інстытута? Яна ведала пра гэта?»

Ты засланіў твар рукамі. Мне здалося, ты плакаў. Хлопчык мой! У дваццаць адзін год ты быў дзіця і рамантык-паэт, ты адзіны ў лагеры выступаў у абарону лесу, каб ашчаджалі яго; у тваёй планшэтцы знайшлі сшытак вершаў, ты пісаў пра сваё каханне і пра лес. Але за лес ты сварыўся з тымі, хто бязлітасна знішчаў яго. Пра каханне сваё не сказаў нікому, нават ёй.

«Ты кахаў яе і аддаў таму... гаду?.. Наіўны дзівак!»

Ты адхапіў рукі ад твару, бліснуў вачамі.

«О, ты не наіўны. Цяпер я ведаю, які ты! Думаеш, табе ўсё дазволена? Дзе тваё сумленне? Чалавечае, партыйнае! У цябе сям'я. Дзіця. Дзе яны? Як яны жывуць? Што ты скажаш ім? Як глянеш у вочы Вользе?»

Павел, не трэба табе было гаварыць пра маё сумленне. Я — чалавек. Звычайны. Не бог. Вайна, горкія гадзіны, мая ўлада над людзьмі, над атрадам, якую тады яшчэ ніхто не кантраляваў,— магчыма, усё гэта і сапсавала мяне. Але ў галоўным, у самым святым, маё сумленне было чыстае. Я не шкадаваў сябе, ішоў пад кулі першы — ты гэта бачыў. І пра сям'ю я думаў, хоць тады ні ты, ні я не ведалі, што яна так вырасла: месяц назад недзе на Урале нарадзіліся Васіль і Лада.

Я адказаў жорстка:

«Не чапай маё сумленне! Перад сям'ёй я буду адказваць! І перад людзьмі. Калі застануся жывы. А цяпер...»

«Цяпер табе на ўсё напляваць. І на ўсіх! Акрамя хіба яе».

«Не, не на ўсё, Павел. І не на ўсіх. Я прашу: застанься. Яе адашлём. Куды-небудзь у бяспечнае месца, у другі раён».

Ты здзекліва хмыкнуў:

«Такая ахвяра! З-за мяне? Што ты, таварыш камандзір! Як будзеш жыць без яе, камандавацъ? Загіне атрад. Не, лепш пайсці мне».

Павел, навошта ты казаў гэтыя словы? Я нікому не дазваляў здзекавацца з мяне, ні раней, ні пасля. Не, пасля я зрабіўся абыякавы да любых слоў. Цяпер я думаю: каб прыняў іх спакайней, з мудрасцю і разважлівасцю старэйшага чалавека, які быў табе не толькі братам, але і бацькам, іх, словы тыя, можна было б зусім інакш вытлумачыць, зрабіць мастком да нейкага прымірэння, якое магло б утрымаць цябе ў атрадзе. Не, наўрад ці памагло б. Цябе глыбока раніла мая сувязь з ёй. Можа мне балела б больш, каб ты загінуў у маім атрадзе, на маіх вачах. Даруй мне, Павел, тую ўспышку, тыя дурныя словы:

«Ну і каціся на ўсе чатыры! К чортавай мацеры! Слюнцяй! Саплівы рамантык!»

Даруй... Што б ні здарылася, я не меў права так развітвацца з табой, так праводзіць цябе...

Дзіўныя бываюць сны. Гэты мой сённяшні амаль дакладна паўтарыў тое, што здарылася дваццаць два гады назад. Усю гісторыю з дзецьмі. Толькі што ў сне сярод дзяцей — мой Васіль, маленькі, схудалы хлопчык у лахманах, з фурункулам на шчацэ. Тады іх было — не адзін такі. Ды мацней, непараўнальна мацней пачуццё, якое я ўчора не адразу пазнаў,— трывога за дзяцей, адказнасць за іх. У сне — боль. І крык. І гнеў у спрэчцы... Спачатку з тым жа Каральковым, як было ў сапраўднасці, а потым — дзіўна! — з Кляпнёвым. Чаму прыплёўся гэты тып? Тры разы жагніся і плюнь, калі сасніў папа ці чорта.

У вывадах нашай групы кантролю трэба-такі запісаць Будыку, што акружыў сябе падхалімамі, людзьмі, якія ў тэхніцы ні бэ, ні мэ... Можа дойдзе да яго. А тады ён падтрымаў мяне, Валька. Сам ранены ляжаў, а падтрымаў. І гэта я сніў. Дакладна — слова ў слова — усю спрэчку, усю размову. Пакуль не ўлез Кляпнёў. Ні ў якіх мемуарах не здолеў бы, пэўна, прыгадаць усё з такой дакладнасцю, як у сне... Галасы людзей, якіх даўно няма. Шум прапелераў. Калючы снег у твар... Спалоханыя і радасныя вачаняткі дзяцей у ілюмінатарах, калі самалёт пачаў вырульваць на ўзлёт. Развітальны круг самалёта...

Толькі пасля гэтага, здаецца, пачаўся сон: я азірнуўся і ўбачыў, што не ўсе дзеці паляцелі, што многа-многа засталося іх на заснежаным полі, застылых, галодных, у лахманах, і сярод іх — Вася, маленькі Вася. І працяў такі боль за іх, апанавала такая трывога!..

Ва ўспамінах гэтага, пэўна, перажыць нельга. Дзіўна, што ніколі нікому не расказваў пра эпізод з дзецьмі.

Мая брыгада — ужо брыгада! — дыслацыравалася ў глухім раёне, далёка ад чыгункі і гарадоў. Гэта быў наш, партызанскі, раён. Брыгада несла ахову цэнтральнага аэрадрома злучэння. Паліцаі і карнікі спрабавалі выбіць нас, знішчыць базу і аэрадром. Бой цягнуўся колькі дзён. Фашысты адступілі. Але і мы нямала людзей пахавалі, другіх прывезлі раненымі. Хто ранены лягчэй — размясцілі ў сваіх шпіталях. Цяжкія чакалі эвакуацыі. Самалёты прыляталі рэдка. Тая другая наша партызанская зіма, Сталінградская, не была такая снежная і суровая, як першая. Аднак зіма ёсць зіма. І ў наш мірны час, пры сучаснай авіяцыі і лакатарах у аэрапартах, абсталяваных па апошнім слове тэхнікі, зімой часам пасажыры сядзяць па тыдню. А што казаць пра той час, пра тыя транспартныя самалёты! За два тыдні — адзін рэйс. Самых цяжкіх эвакуіравалі. А раненых не менела. Пасля вядомага саннага рэйду на аэрадром прывезлі сваіх цяжкараненых мінскія партызаны. З імі прыехаў і Каралькоў, паранены ў руку.

Штодня мы слалі радыёграмы — прасілі прыслаць самалёты. Амаль штодня атрымлівалі адказы, што заўтра-паслязаўтра самалёт вылятае. Але дарэмна мы чакалі, не спалі начамі...

Вось у адзін з гэтых дзён ён і прыйшоў да нас. Яго прывялі ў штаб дазорныя. Стары прастуджаны чалавек, з хваравітым бляскам вачэй. Дамагаўся на ўсіх заставах і ў атрадах, каб яго даставілі да самага галоўнага партызанскага начальніка. Ён такі і спытаў, з ходу, адразу, як увайшоў у зямлянку і пасля святла з цяжкасцю разгледзеў сваімі запалёнымі вачамі мяне за сталом: «Вы галоўны?»

«Няхай буду я».

«Не, без жартаў. Хто вы? Мне трэба ведаць».

«А ці не здаецца вам, што ў такой сітуацыі мы першыя павінны спытаць — хто вы?»

Ён не адразу зразумеў.

«Мне трэба ведаць... Зразумейце. Жыццё дзяцей... Вы — бацькі... Савецкія людзі...» — стары горача выкрыкваў словы без лагічнай сувязі.

«Хто вы?»

«Я дырэктар дзіцячага дома. У Пятроўцы. Ведаеце Пятроўку?»

Яшчэ б не ведаць! У мястэчку гэтым — паліцэйскі гарнізон, на які ў нас даўно гарэлі зубы.

Чалавек адубелымі рукамі расшпільваў кажушок, каб дастаць з-за пазухі нейкія дакументы, і ніяк не мог расшпіліць. Цяпер ён зацікавіў мяне.

«Дык што вы хочаце?»

Ён памкнуўся: да стала і зашаптаў, роспачліва, надрыўна, але шэпт той быў — што крык на ўвесь свет:

«Ратуйце дзяцей! Ратуйце дзяцей! Яны забіраюць па чатыры, па пяць і не вяртаюць маіх дзяцей! Што яны робяць з імі? Таварышы дарагія! Таварыш камандзір!..»

Сухія, чырвоныя ад бяссоння вочы напоўніліся слязьмі. І такія ж слёзы я ўбачыў у Каралькова, які ляжаў побач на канапцы, — яго той дзень ліхаманіла ад раны ці ад прастуды.

Я маўчаў, панурыўшыся. Дырэктар звяртаўся да нашай гуманнасці, да вялікага абавязку перад дзецьмі. Прасіў. Патрабаваў. Ён баяўся, што мы адмовімся, і спяшаўся пераканаць, захлынаючыся словамі.

Я доўга маўчаў. Ведаю, многія з сённяшніх гуманістаў могуць спытаць: чаму? Чаму маўчаў? Хіба можна было вагацца? А хто з вас, цяпер, у мірным жыцці, можа адразу, не задумаўшыся, узяць на сябе адказнасць за сотню дзяцей? Я мусіў браць адказнасць за іх жыццё. Дзіцячы дом — усё-такі дзіцячы дом, няхай галодны, халодны, пад вартай. Але штодня там не страляюць. А брыгада — фронт. Хто цягне дзяцей на фронт, на пярэдні край, пад кулі?

Фашысты растапталі ўсе законы чалавечнасці« На фронце бралі ў палон. Нас, партызан, расстрэльвалі на месцы. Дзеці ў зоне бою, у лесе, лічыліся партызанамі, іх знішчалі. Гэта я добра ведаў. Але менавіта тады, у той міг, з такой сілай упершыню адчуў тое, што ўчора. Сціснула-зашчымела сэрца.

Выгаварыўся дырэктар. Змоўк. Глядзеў на мяне. Гэтак жа глядзеў Каралькоў. Чакаў. Як прадстаўнік цэнтра, ён мог падказаць, нават загадаць. Але пабыўшы тры месяцы сярод партызан, разумеў, што выпадак не той, дзе можна ўжыць сваю ўладу.

«Колькі дзяцей?» — спытаў я.

«Шэсцьдзесят сем. А было сто восем. Сто восем! Куды яны забіраюць маіх дзяцей? Навошта ім дзеці?»

«Вывесці ўначы можаце ў лес пад Пацісню?»

Дырэктар здзівіўся, што я так ведаю наваколле далёкай Пятроўкі. Загарэўся. Замахаў рукамі.

«Выведзем, таварыш камандзір. Выведзем. Мы ж у маёнтку. Праўда, ахова і каля нас стаіць. Але — свае... Якія свае! Бобікі, сучыя сыны! Але ў нас... у нас... рахманыя. Яны не стаяць, а спяць у доме. Мы іх напоім... І самагонам. І снатворным... Выведзем!»

«Хто выйдзе з дзецьмі?»

«Трое нас. Усяго трое. Я... Клаўдзія Міхайлаўна. Не... я вам скажу па сакрэту. Яна — Клара Майсееўна. Наша старэйшая выхавацелька.

Мы маскіруем яе і дрыжым, што хто-небудзь выдасць... Усе ж тутэйшыя. Ведаюць... Але гэта такі чалавек! Такі чалавек! Маці ўсім дзецям. Людзі праклялі б таго, хто выдаў бы яе немцам. Яна і корміць і лечыць дзяцей. Ды і не толькі дзяцей. Яна зарабляе нам хлеб тым, што лечыць другіх, роды прымае. Калі рабавалі аптэку, мы сёе-тое ўзялі для свайго дома. Дзеці ёсць дзеці. Яны хварэюць... А нам трэба жыць. Тады мы думалі — нядоўга. Вось-вось вернуцца нашы. Але калі немцы пачалі забіраць дзяцей...»

«Дзесяць фурманак хопіць?»

Дырэктар задыхнуўся ад шчасця.

Калі дзяжурны павёў яго на кухню — накарміць, Каралькоў падняўся і працягнуў мне левую руку: правая, забінтаваная, вісела на павязцы. Да болю сціснуў маю руку.

«Іван Васільевіч! Слоў ніякіх не кажу. Не трэба словы! — але, узрушаны, не вытрымаў: — Адно скажу: якія людзі! Якія людзі! Не, ты задумайся, камбрыг, толькі над гэтым фактам. Ніхто не выдае старую выхавацельку, хоць ведаюць нямецкія загады. Нават паліцаі баяцца... Гневу людскога баяцца. Матак, жонак, якія ніколі не даруюць. Які факт! А? Які факт».

Мне ён здаваўся звычайным. За паўтара гады партызанства мы былі сведкамі сотні выпадкаў вось такой інтэрнацыянальнай еднасці савецкіх людзей.

Калі дзяцей прывезлі, страчаць выйшаў увесь штабны атрад, усе сяляне вёскі, дзе мы размяшчаліся. А было гэта — толькі пачало днець, на світанні. Скаціліся яны калабочкамі з саней у сваіх лахманах і здзіўлена зіркалі, чаму сабралася столькі людзей і чаму жанчыны плачуць. А бабы праўда-такі нарабілі голасу. Хапалі малых, разводзілі па хатах, каб накарміць хутчэй, сагрэць.

Клопату дадалося. А самалёты не прыляталі. І надвор'е, здаецца, стаяла нішто. Хоць хто ведаў, якое яно было там, пад Масквой. Зводак не перадавалі. Але ж паўмесяца нідзе не магла гуляць завіруха. Каб хоць не было абяцанняў, можа чакалася б лягчэй. А тут яшчэ разведчыкі данеслі, што немцы рыхтуюць новае наступленне на наш раён. У мяне лопнула цярпенне. Я напісаў радыёграму :

«Начальніку штаба.

Калі заўтра-паслязаўтра не будзе самалётаў, адказнасць за смерць раненых, дзяцей ляжа на вас.

Камбрыг Антанюк».

Перад тым як аддаць шыфравальшчыку, паказаў Каралькову і Лагуну, камісару брыгады.

Каралькоў збялеў. Дрыжаў чалавек перад начальствам і за тысячу вёрст, за лініяй фронту.

«Ты сур'ёзна?»

«Мне зусім не да жартаў».

«Ды ты што, субардынацыі не ведаеш? Камбрыг! Май на ўвазе: быць савецкім партызанам — не значыць партызаніць, як табе ўздумаецца. Ты член партыі. Анархізму не дазволім! Забараняю слаць такую радыёграму!»

Я паслаў яго... Эх, як ён узвінціўся! Трохі да сардэчнага прыступу не дакрычаўся. Я загадаў паклікаць урача. Лагун, добры, разумны, але нерашучы чалавек, угаворваў мяне на вуліцы, па дарозе да зямлянкі, дзе змяшчалася рацыя:

«Нажывеш ты сабе, Іван Васільевіч, непрыемнасці».

«Ды я што — за чыны ваюю, за званні, за ордэны? Якая ў нас з табой можа быць непрыемнасць, большая за наступленне карнікаў, за блакаду? Што нам рабіць тады з раненымі? Пакінуць на здзек фашыстам?»

Радыёграма пайшла. На другую ноч прыляцеў самалёт. І Каралькоў адразу зрабіўся — хоць на хлеб яго маж. Трохі не лез цалавацца. Сам арганізаваў развітальны абед. Заглядваў у кацялкі на кухні. І ўсім «раздаваў ордэны».

А ў мяне занылa сэрца ў тую раніцу. Там жа на аэрадроме, каля замаскаванага самалёта. Смактала нейкая незразумелая трывога, ці боязь, ці бог яго ведае што. Увесь час здавалася, што нешта я зрабіў ці раблю не так, як трэба. Але што? Аб'ехаў пасты, наведаўся ў атрады, якія займалі самую дальнюю абарону. Не, усё як мае быць. Немцаў блізка не чуваць. Неба абяцае лётнае надвор'е. Уначы самалёт з цяжкаранёнымі возьме курс на падмаскоўны аэрадром. І ніхто яго ў такую ноч не перахопіць, толькі хіба над лініяй фронту абстраляюць зенітки. Але пілот кажа, што гэта не страшна...

Недзе апоўдні вярнуўся ў штаб. Сядзяць Каралькоў, Лагун, Будыка, урач, пілот. Складаюць план эвакуацыі. Прасцей кажучы — складаюць спіс, каго вывезці ў першую чаргу. Працягнулі спіс мне. Доўга я чытаў дваццаць нейкіх прозвішчаў. Так доўга, што яны ўсе прыціхлі, насцярожыліся.

Урач сказаў:

«Хацелі Валянціна Адамавіча ўключыць — ён адмовіўся».

«Ды я ўжо скачу, як заяц»,— засмяяўся Будыка, стукнуўшы мыліцай.

Між іншым, і пазней, увосень сорак трэцяга, ён адмовіўся эвакуіравацца. Выклікалі на нараду начштабаў — прытварыўся хворым.

Усе лічылі за шчасце паляцець на Вялікую зямлю, а Будыка ўсяляк адкручваўся. Але тады я падумаў пра другое: «Валька адмаўляецца, хоць такі ж ранены, а некаторыя рвуцца...»

З новай сілай засмактала ўсяродку: нешта тут не так. Але што? І раптам... Кажуць у такіх выпадках — прасвятліла. Я кінуў спіс на стол і сказаў:

«Гэтым рэйсам паляцяць Чугуноў, Канцавы, Файзулін. Ім патрэбны неадкладныя аперацыі. Клара Майсееўна... І дзеці! Пілот, колькі можаш узяць дзяцей? Ад пяці да дзесяці год».

«Дзяцей? Якіх дзяцей?»

«Нашых».

«Здаровыя? Сядзець могуць?»

«Могуць».

«Ды такога гароху — чалавек... трыццаць».

«Зэр гут, панове афіцэры,— весела сказаў я.— Так і запішам: ляцяць усе малыя».

Але ў адказ — толькі больш шумнае, чым звычайна, са свістам і хрыпам, прастуджанае дыханне Каралькова ды скрып новай пілотавай партупеі.

Будыка вачамі ўхваліў: правільна! Але чакаў, пакуль выкажацца ўпаўнаважаны. Лагун таксама глядзеў у рот Каралькову. А той маўчаў. Доўга. «Чапай думае»,— хацелася мне пажартаваць. А можа ён зараз устане і пацісне руку, як тады, пры дырэктары дзіцячага дома? Каралькоў усё ўзважыў, усё абдумаў з паважнасцю і сур'ёзнасцю чалавека, на якога ўскладзена найвышэйшая адказнасць. І сказаў разважліва і спакойна:

«Іван Васільевіч, мы разумеем цябе, твае пачуцці. Мы — усе бацькі, і першы наш клопат — пра дзяцей, што б ні здарылася, якая б складаная сітуацыя ні ўзнікла. Дзеці — наша будучыня. Але давай усё ўзважым. Уяві, што самалёт зноў не прыляціць тыдзень, а то і два. Ты чуў, што расказваў пілот? Усе транспартнікі кінуты пад Сталінград дабіваць Паўлюка. Вось і думай... А ў гэты час Швальдэ пачне наступленне. І раптам здарыцца, што вам прыйдзецца адступіць. Вайна ёсць вайна, асабліва партызанская. Дзяцей можна раздаць па сёлах. Сяляне іх смела возьмуць, бо іх лёгка выдаць за сваіх. Ды хто будзе дзяцей шукаць? А раненыя... Куды ты дзенеш раненых? Нарэшце, ты ўпэўнены, што самі раненыя зразумеюць нас? Яны ведаюць, што прыляцеў самалёт, і кожны марыць хутчэй апынуцца на Вялікай зямлі, у шпіталі. Ты не ведаеш псіхалогіі раненага?»

Яго тут жа падтрымаў наш брыгадны ўрач Вапняк. Мы ўжо ведалі: чуць што не так — доктар адразу ставіць ультыматум. Я не

аднойчы пагражаў яму, што расстраляю за такія ультыматумы, але на яго гэта мала дзейнічала. Ён і тады пачаў з заявы, што калі такія раненыя — прачытаў прозвішчаў пятнаццаць — застануцца ў нашых умовах хоць на адзін дзень, ён складае з сябе абавязкі галоўнага ўрача. Можаце расстрэльваць яго, можаце вешаць — як больш даспадобы. За ім — Лагун, добранькі, далікатны. Нагадаў, што ў атрадзе жыве дзіця, якому ўсяго другі годзік — Віта! — і нічога, гадуецца, расце. Адным словам, нагадаў перад адлётам упаўнаважанаму, у якіх адносінах камандзір брыгады з маці гэтага дзіцяці. Капнуў. Ды мяне гэта мала кранула, бо тайны я не рабіў.

Будыка сказаў, што не можа згадзіцца, нібыта ўсе раненыя рвуцца ляцець. Давайце апытаем — добрая палавіна адмовіцца. Тыя трое адчулі: начштаба — мой саюзнік, і пачалі пераконваць яго.

Я маўчаў. Мабыць, не перабрадзілі яшчэ мае пачуцці, не выспела трывога. Мяне пераканалі. Я здаўся. Без бою. Толькі ўзяў з Каралькова абяцанне, што ён даможацца, каб выслалі спецыяльны самалёт за дзецьмі.

Быў урачысты абед. Пілі спірт. Гаварылі развітальныя тосты, сур'ёзныя і жартаўлівыя. На стол падавала Надзя. Пілі за яе здароўе. П'янаваты Будыка цалаваў ёй рукі. П'янаму Вальку заўсёды хацелася цалаваць Надзіны рукі і прызнавацца, што ён ажаніўся без кахання, але ніколі не здраджваў жонцы. Аднойчы я даў яму па мордзе за гэта — за напамінак, што ён лепшы за мяне, грэшнага.

Здаецца, усё было як мае быць. Усе былі задаволены. І я таксама. Праўда, асаблівай весялосцю не вызначаўся на тым абедзе, але і не сядзеў цёмнай хмарай. Тое трывожнае ранішняе пачуццё пэўна заснула, ап'янелае.

Пасля абеду Каралькоў і Будыка спалі — людзі раненыя. А я выйшаў на вуліцу заснежанай лясной вёсачкі. Паглядзеў на блізкі лес — наш, а з другога боку — на далёкі, што сінеў за палямі; за ім, тым лесам,— вораг. Трохі бліжэй да вёскі — пасадачнае поле. Там, у бярэзніку, замаскаваны самалёт, які так доўга чакалі. Калі прыляціць наступны? І зноў засмактала ў сэрцы трывога. А тут яшчэ і яны, дзетдомаўцы, трапілі на вочы. Колькі хлапчукоў разам з сялянскімі цягнулі з лесу на саначках сухое галлё.

Быў мой загад — памагчы сялянам нарыхтаваць і перавезці паліва. Чаму дзеці возяць на сабе? Моцна дасталося каменданту і камандзіру штабнога атрада.

Заглянуў у шпіталь. Пад паветкай лёгкараненым глушаць самагонку. Вапняк, хітруга, ведаў, калі можна пярэчыць, ставіць ульты-

матум, а калі трэба маўчаць. Стаяў навыцяжку, згаджаўся: «Слухаюся, таварыш камбрыг!»

Ускочыць хіба ў сядло — і ў дальні атрад? Няхай праводзяць самалёт без мяне. Зайшоў у хлеў, пастаяў каля свайго гнядога, пагладзіў яго, нецярплівага, гарачага. Конь ірваўся на прастор. Няхай бы ляцелі ледзяныя іскры з-пад капытоў! Надзя баіцца маіх паездак — у атрадах цяпер многа дзяўчат. О, жаночая душа! Ужо ты прысвоіла мяне і да ўсіх раўнуеш. А сама заліваешся чырванню, калі начштаба цалуе табе рукі. Пэўна, прыемна. Хацелася «завесці» сябе, узлавацца на ўсіх і сапраўды махнуць у лес, аднаму,— няхай шукаюць камбрыга! Не, нічога не кранала, нічога «не заводзіла». Усё адлятала рыкашэтам. Адно стаяла перад вачамі, сціскала сэрца: дзеці. Як іх прывезлі, застылых, спалоханых і ўзрадаваных, што яны сярод партызан, як Надзя карміла адразу траіх, самых малых, гадоў па пяць, а я памагаў ёй. І ранены Будыка памагаў. Скакаў на мыліцах перад малымі. Хацеў насмяшыць. Дзеці не смяяліся. Глядзелі сумна, са спачуваннем. Яны ўсё разумелі. Ведалі, што такое раны. І Надзя зноў заплакала ад гэтых іх позіркаў. Дзеці адталі толькі тады, калі перад імі з'явілася жывая лялька — маленькая Віта. З ёй яны гулялі, як дзеці. Але, Віта расце ў атрадзе. Аднак колькі страху перажываю я ў кожным баі! За яе адну. А колькі можна перажыць за ўсіх? Але нельга не згадзіцца з Каральковым, з Лагуном: раненыя ёсць раненыя, яны нашы байцы, нашы таварышы. Хіба я вораг сваім людзям?

Паехаў на аэрадром. Чырвонае марознае сонца ўпала ў лес. Пасінеў снег. Пілот і штурман праграvалі маторы. Неўзабаве ў аэрадромную зямлянку прывезлі першых раненых. Не самых цяжкіх. Мелася на ўвазе, што цяжкіх прывязуць к самаму адлёту, каб з саней — у самалёт.

І вось тады выспела гэтае маё пачуцце і сарвалася, як той яблык, нечаканай камандай:

«Адставіць вазіць раненых! Перадаць дырэктару, Клары Майсееўне — сабраць дзяцей! Каму менш дзесяці!»

Праз паўгадзіны на аэрадром прымчаліся ўпаўнаважаны, камісар, начштаба.

Цяпер ужо Каралькоў крычаў на ўсё поле, абвінавачваючы мяне ва ўсіх грахах, існых і выдуманых.

«Як упаўнаважаны цэнтра, я адхіляю вас ад камандавання брыгадай. Таварыш Лагун, прыміце камандаванне!»

Я спакойна паказаў яму дулю. Ён мяне будзе адхіляць! Дзе ты быў у сорак першым? Каралькоў схапіўся за кабуру. Але ў мяне пісталет быў бліжэй.

Камісар кінуўся паміж намі. Прасіў. Маліў.

Каралькоў загадаў пілоту:

«Не слухайцеся гэтага чалавека! Я — прадстаўнік цэнтра! Самалётам магу камандаваць толькі я!»

Пілот узлаваўся.

«Пайшлі вы!.. У мяне сваіх камандзіраў хапае! Я — рамізнік. Павязу — каго пагрузяць».

Пагрузілі пяцярых цяжкараненых і дзяцей. Праўда, менш, чым я меркаваў,— самых малых і хворых.

Каралькоў спрабаваў улезці ў самалёт, каб ляцець з дзецьмі. Але каля трапа стаяў я.

«Вы, таварыш Каралькоў, не цяжкаранены і можаце пачакаць. Вам гэта будзе на карысць. Падумаеце, астынеце...»

«Ну, бандзюга, ты гэты дзень будзеш помніць да канца жыцця»,— пагразіў ён мне.

Я помню яго, Каралькоў. Помню. І ведаю, як ты хацеў з'есці мяне. Першы раз прамахнуўся. А потым залішне доўга хадзіў вакол, прыцэльваўся і... спазніўся. Наступіў час, калі ты мог толькі памагчы паслаць мяне на ганаровую пенсію. Не больш. А цяпер укусі ты мяне... Тады мы цябе добра-такі астудзілі. На тваё шчасце, другі самалёт прыляцеў вельмі хутка, нешта дні праз тры-чатыры. Праз месяц мяне выклікалі ў Маскву. Валька Будыка параіў цішком:

«Не ляці. Дамо радыёграму, што ляжыш з запаленнем лёгкіх».

Я праўда-такі трохі грыпаваў. Ніколі і нідзе не быў я баязліўцам, але ў той раз паслухаўся інжынера — не паляцеў. Лагун, які злятаў, вярнуўшыся, выказваў крыўду, праўда, нібыта жартуючы:

«Сапсаваў ты, Іван Васільевіч, нам з начштаба кар'еру. Казалі аўтарытэтныя людзі, што на ўсіх траіх нас былі падрыхтаваны наградныя лісты — на залатыя зорачкі».

Тады Будыка смяяўся. А цяпер нешта часта ўспамінае гэтую неатрыманую зорачку.

— Кіеў-пасажырскі. Стаянка дваццаць мінут.

О, гэта я столькі праваляўся! Выйду, гляну на цябе, бацька гарадоў славянскіх!

V

Іван Васільевіч спадзяваўся, што Крым стрэне яго сонцам, якое будзе іскрыцца на блакітнай, як неба, марской роўнядзі, сляпіць вочы. Яму вельмі хацелася сонца. І ласкавага мора. Але ўсё было інакш. У небе — хмары, нізкія, цяжкія, ляцелі імкліва. Гэты палёт іх здаваўся страшным: усім уяўным цяжарам сваім хмары навальваліся

на горы, зразалі іх, раствaралі, зносілі. А там жа, на вяршыні, бліжэй да сонца,— людзі, яго сын. Імжыў асенне-зімовы халодны дождж, дробны, няроўны, дажджавыя кроплі распырскваліся моцным усходнім ветрам. Гайдаліся, гнуліся мачты пірамідальных тапаляў, вецер ламаў голле міндалевых дрэў. Стагналі правіслыя правады. На ўсё гэта — на шум дажджу, свіст ветру, трэск дрэў — накладваўся блізкі, няспынны, як шум вадаспаду, грукат мора. Яно відаць за алеяй маладых кіпарысаў, за пустымі шэра-белымі будынкамі дома адпачынку. Яно як бы ўзнялося над дрэвамі, над дамамі, уздыбілася да самых хмар. Пакуль што з гэтай вадзяной гары коцяцца сюды, на бераг, валы лёгкай, белай, як крылы гіганцкіх чаек, пены. Але здаецца: міг, хвіліна, гадзіна — і ўсё мора, узнятае невядомай сілай да неба, абваліцца на зямлю ды яшчэ пацягне за сабой хмары і змые адным махам і гэтыя маленькія домікі, і сіратліва-ўбогія дрэўцы, і пачарнелыя ад дажджу слупы, і агарожы з наздраватага ракушніку, і яго, адзінокага падарожнага, на мокрым, нахіленым тут, на павароце, асфальце. І няхай. Нічога не шкада ў гэтай нуднай пустэчы. Можна пашкадаваць хіба, толькі тую градку зялёных кіпарысаў, што над самым морам.

Мінулым летам тут адпачывалі жонка і Лада і пасля з захапленнем распісвалі мясціну гэтую, як самы райскі куток на ўзбярэжжы Чорнага мора.

Маці падабалася тут, безумоўна, таму, што яна па два разы на тыдзень бачылася з сынам. Ад гэтага мала цывілізаванае ўзбярэжжа здалося ёй найлепшым за ўсе самыя фешэнебельныя курорты. А што падабалася Ладзе, ультрасучаснай, рацыянальнай, якая насміхаецца з ўсялякіх праяў замілавання да чаго б там ні было — да лесу, да мора, да кветак, да птушак і да дзяцей? Аднак жа падабалася. Што?

Іван Васільевіч спыніўся, агледзеўся яшчэ раз. Злева, павернутыя глухім фасадам да сушы, адкуль на іх глядзяць людзі, турысты,— вульгарныя карпусы пансіяната — таго, дзе ім, жонцы і дачцэ, удалося з вялікай цяжкасцю атрымаць — не пакой! — балкон, над якім не капала. Якія чэзлыя дрэўцы вакол гэтых мокрых, як пакінутыя старыя караблі, будынін! Быццам лісце на гэтых дрэўцах бясконца аб'ядалі «дзікуны».

Троху правей — сад, адзінае, на чым хочацца затрымацца воку, асабліва на зялёных кіпарысах. І домікі пад імі — маленькія, белыя нават у такую дажджавую шэрасць, утульныя. Лада абуралася, што мастакі — ліха на іх! — не пускалі пансіёншчыкаў і «дзікуноў» у свой сад.

Моладзь помсціла ім: збіраліся на ўзбярэжжы і наладжвалі гадзін да двух-трох ночы такія канцэрты, што нават салдатам у гарах за

многа кіламетраў не спалася. Пузатыя класікі прыходзілі слухаць гэтыя канцэрты, а назаўтра скардзіліся мясцовай міліцыі, што ім не даюць спаць і яны не могуць тварыць свае бессмяротныя шэдэўры.

Лада ўмела расказаць пра гэта з асаблівым гумарам. Яго, Антанюкоў, стары сябра — пісьменнік, які некалі адпачываў у гэтым доме, качаўся ад смеху, слухаючы Ладзін расказ. Можа дачцэ таму і падабалася, што яна атрымала тут зарад свежага гумару. Хаця, дзе сонца і мора, маладосць і песні,— там не можа не быць хораша і весела. Відаць, і ён, стары скептык, здолеў бы ацаніць першароднае хараство гэтага кутка, каб наваколле — горы і мора — было заліта, няхай і халодным, лістападаўскім сонцам. І каб былі людзі. А то — як відаць мокрая дарога і глінабітныя хаціны пасёлка — ніводнай жывой душы. Дзіва што! У такую пагоду добры гаспадар сабаку з хаты не гоніць.

Іван Васільевіч адчуў, што змарыўся. Гэта з ім рэдка здаралася нават і ў апошнія, пенсійныя, гады. Раптам захацелася зайсці ў адзін з тых белых дамоў у садзе, запаліць там печку, калі яна ёсць, і сядзець перад ёй, слухаць грукат мора і свіст ветру. Ён пасмяяўся з гэтага: сапраўды ўжо зусім пенсіянерскія жаданні!

Вунь і будыначак пошты. Іван Васільевіч адразу пазнаў яго. Здалёк. Наогул шмат што — на дзіва знаёмае, быццам ён быў тут многа год назад і пасля таго першага наведвання дзе-што не пазнае: змянілася, вырасла, забудавалася, але шмат што засталося знаёмым. Пра пошту таксама расказвала Лада. Яна любіла прыходзіць сюды чытаць аб'явы. Якіх тут не было аб'яў!

«Шукаю спадарожніка (лепш спадарожніцу) да Ленінграда на матацыкл. Пажадана, каб вага пасажыра разам з чамаданам не перавышала 70 кілаграмаў».

Антанюк зайшоў у будынак пошты. Пуста і холадна. Толькі пах незвычайны — не клеем, не паперай, а вяленым вінаградам. Ад паху такога зрабілася весялей, як ад сонца, ад маладога віна.

За лета тут прывыклі да незнаёмых людзей. Дзве работніцы не звярнулі на яго амаль ніякай увагі. Адна, старэйшая, забівала пасылкі, вельмі спрытна працуючы малатком, як добры майстра, быццам усё жыццё заганяла цвікі. Яна трымала цвічкі ў роце. І на прывітанне наведвальніка адказала лёгкім кіўком. Мабыць, гэта ад яе пасылак пахла вінаградам. Але чаму яна сама забівае? І не адну, не дзве.

Над дашчатым бар'ерам узвышаўся адмысловы стажок пышных, але абясколераных валасоў. Стажок нават не варухнуўся на яго прывітанне. Іван Васільевіч зазірнуў за загародку і ўбачыў мілы і просты дзявочы тварык, схілены над страшэнна зачытанай кнігай. Такія

дзяўчаткі, пачынаючыя модніцы, якія ведаюць сабе цану, любяць пакрасавацца перад кожным чалавекам, а таму бываюць прыветлівыя і словаахвотлівыя. Шматвопытны Антанюк рэдка памыляўся ў распазнаванні людзей. Вось чаму ён і звярнуўся да маладой красуні, аматаркі старых раманаў. Далікатна кашлянуў над стажком. Дзяўчына не зірнула нават.

— Прашу прабачыць. Вы не змаглі б сказаць, як мне прайсці да вайсковай часці...— ён назваў паштовы нумар, які пісаўся на канвертах.

Красуня глянула адным вокам і груба адказала:

— Мы — не бюро даведак.

— Я разумею. Але... я прыехаў наведаць сына... Ён служыць тут...

— То няхай бы ваш сын напісаў, як шукаць яго.

— Ён і напісаў, што трэба ехаць да вас...

— Зайдзіце ў пасялковы савет,— параіла старэйшая, перапыніўшы працу і праз бар'ер падазрона аглядаючы не самога Антанюка, а чамусьці яго ногі.

Івану Васільевічу зрабілася крыўдна. За дзяўчыну.

«Я разумею: ты, магчыма, не маеш права сказаць, як прайсці да часці, хоць сотні адпачываючых хадзілі туды. Лада расказвала, як нахабныя дзяўчаты троху не лезлі цераз агарожу... Але калі ты ўсведамляеш, што жывеш на марской граніцы, і ведаеш, што патрэбна пільнасць, то праяві хоць яе — зацікаўся мной, паглядзі ў твар. Няўжо ты так зачарсцвела на сваёй рабоце, што страціла ўсялякую цікавасць да людзей».

— Можна пакінуць у вас чамадан? Каб не хадзіць з ім.

— Мы — не камера...

— Дзіцятка маё! А ці нельга адказваць больш ветліва і далікатна?

— Я вам не дзіцятка! — і зноў-такі не адрываючыся ад кнігі.

— Прашу прабачыць. Але няўжо вам так хочацца сапсаваць мне настрой, старому, здарожанаму чалавеку?

Толькі тады дзяўчына павярнула да яго твар, паглядзела добрымі чыстымі вачыма і... зачырванелася.

«Дзякуй богу, не ўсё ў табе яшчэ згасла»,— падумаў Іван Васільевіч, уздыхнуўшы.

Старэйшая сказала:

— Давайце ваш чамадан. Але мы толькі да пяці.

— Я вярнуся да пяці.

Лада расказвала так падрабязна, давала такія прыкметныя арыенціры, што, напэўна, ён знайшоў бы Васіля, ні ў каго не пытаючыся.

Але каб горы не ахуталіся хмарамі і каб былі відаць і тая торная сцежка, што адразу за пасёлкам вядзе па голым схіле да грады горнага дубняку, і скала, што нагадвае сілуэт чалавека, і антэна на вяршыні...

А так трэба ісці «насляпую».

Іван Васільевіч адразу ж за вінаграднікам павярнуў з шашы на вытаптаную тысячамі ног шырокую, як добрая дарога, сцяжыну і... палез у горы. Сапраўды, не ішоў, а лез, бо сцежка была слізкая, з-пад камення і жвіру цякла сіняя гліна. Чым вышэй — тым мацней сек у шчаку калючы дождж. Добра, што прадбачлівая жонка паклала ў чамадан плашч. Але плашч, світэр — гэта не для гор. Спацеў. Пачуў сэрца. Яно сігналіла, як бы папярэджвала: асцярожна.

Але, асцярожна — табе не дваццаць два, як Ладзе. Яна і яе сябры тут бегалі. Праўда, яны былі ў купальніках і тапачках і скакалі, як козы, па сухіх каменнях. Аднойчы падняліся сюды ўначы і размясціліся на начлег каля самага паста. Іх заўважылі. І завезлі на машыне ў даліну, да мора. Ладзіны сяброўкі спалохаліся. «Пасадзяць на гаўптвахту,— кпіла Лада.— Сутак на дзесяць».

Лада не ведае ніякага страху, ніякай боязі. Вольны чалавек. А Васіль? Не, і ў яе ёсць страх, які яна выказвае часам з гумарам, а часам, як пазаўчора, сур'ёзна,— за лёс чалавецтва; ёй, фізіку, лепш, чым каму, вядома разбуральная сіла той зброі, якая ляжыць у арсеналах.

А Васіль? Што думае сын? Ён здаецца такім далёкім, непазнаным, неразгаданым. Ад гэтага, мабыць, і адчуванне яго, бацькавай, віны перад сынам. Недарэчна, што сына ён разумее горш, чым многіх чужых дзяцей.

Чалавек узняўся ў хмары. За колькі крокаў вакол відны зямля, каменне, рэдкія кусты, а далей, унізе, угары, з бакоў,— туманная імжа. Знік пасёлак. Не відно мора, але грукат яго не аддаліўся, хвалі б'юць у скальны бераг недзе зусім блізка — здаецца, пад ім. Можа ён ідзе над цяснінай, пра якую расказвала Лада? Неасцярожны крок — і ў бездань, хвалі зліжуць разбітае цела з вузкай прыбярэжнай палоскі, усыпанай адшліфаванай, як яйкі, галькай, мора праглыне яго, і ніхто ніколі не даведаецца, куды дзеўся чалавек. Фу, якая чартаўшчына лезе ў галаву! Аднак, праўда, ці так ён ідзе? Вось горны дубняк, нізкі, голы, дзе-нідзе ржавее, як старая бляха, лісце — тое, што зімуе на галінках. Але ў дубняку не адна сцежка, людзі тут хадзілі хто куды. Якая з іх вядзе да сына?

Іван Васільевіч адкінуў капюшон, зняў шапку, каб выцерці пот. Дождж больш не сячэ, відаць, блізкая гара засланіла ад марскога ветру. Ці можа ён падняўся вышэй той хмары, якая вылівае буйны дождж? Засталася адна туманная імжа. Але ад імжы гэтай вопратка

сырэе горш, чым ад сапраўднага дажджу. Дажджавыя кроплі скаціліся б па плашчы, туман жа пранікае ўсюды. Ці можа адзенне пацяжэла гэтак ад поту? Усё пацяжэла. Але сэрца... яно разумнае і знайшло свой рытм. Б'ецца часта, аднак без болю, без заклікаў да асцярожнасці. Гэта вярнула добры настрой.

«Маеш яшчэ, Іване, запас трываласці. Можа падацца пад старасць у альпіністы?»

Аднак узрадаваўся, калі нечакана, як з-пад зямлі, перад ім з'явіўся марак у камуфляжнай накідцы, з аўтаматам. З-пад накідкі зіркнулі вясёлыя вочы.

— Стоп, татуня! Гуляем?

— Гуляем.

— Добрая пагодка для прагулкі ў горы! Птушкі спяваюць. Сонца грэе... Праўда? — без усмешкі кіўнуў марак на неба.

— Нішто. Самы раз.

— Для чаго — самы раз?

— Для прагулкі.

— Люблю вясёлых...

— ...шпіёнаў.

— Не, дзядоў.

Івану Васільевічу было душна, і ён захацеў расшпіліць паліто. Але як толькі дакрануўся да гузікаў, вартавы ўзняў аўтамат.

— Ша, дзед! Не варушыся. А то пакладу ніц і будзеш нюхаць скалу.

— Пакліч начальства.

— Паміж зямлёй і небам я — найвышэйшы начальнік.

— Што ж, мне так і стаяць?

— Усё будзе ў свой час.

Іван Васільевіч зразумеў, што сігналізацыя тут — на ўзроўні часу, што сігнал пра яго з'яўленне даўно ўжо пайшоў, куды трэба.

— Няўжо я падобны на дзеда?

— Сынок, бяру свае слова назад,— і ўсё гэта з прытворнай сур'ёзнасцю. Хаця б усміхнуўся, разбойнік.

— Балбатун ты, брат, а не марак.

— О-о! А гэта ўжо абраза асобы вартавога.

Недзе ўгары, быццам з хмары, хутка спускаліся людзі: сыпалася з-пад ног каменне, але ляцела не сюды, а некуды ўбок, падала ў мяккае, як у траву.

Вынырнулі з кустоў двое — матрос і лейтэнант, зусім маладзенькі, здавалася, маладзейшы нават за сваіх падначаленых. Але затое куды больш сур'ёзны. Адразу сурова запатрабаваў:

— Дакументы!

Іван Васільевіч падміргнуў вартавому, які затрымаў яго.

— Можна залезці ў кішэню?

Лейтэнант асек:

— Разгаворчыкі!

— Ух ты! — сказаў Іван Васільевіч, падаючы пашпарт.

Лейтэнант пачырванеў — ці то ад гневу, што з ім так непаважна размаўляюць, ці ад сораму, што ён гэтак закамандаваў незнаёмаму цывільнаму чалавеку.

— Антанюк,— прачытаў уголас прозвішча.

— Недзе тут служыць мой сын, і я хачу пабачыць яго.

— Вася Антанюк? — твар вясёлага вартавога расплыўся ад добрай усмешкі.

Іван Васільевіч зразумеў: Вася — яго сябра. Пашкадаваў, што не сказаў хлопцу пра гэта адразу. Размова іх да прыходу начальніка каравула магла б пайсці зусім інакш, і ён, магчыма, даведаўся б пра сына больш, чым ад яго самога, ад камандзіраў. Хоць што, уласна кажучы, трэба даведацца?

Лейтэнант кінуў вартавому:

— Разгаворчыкі, Павельеў! Сачыце за сектарам! — і спытаў у Антанюка ўжо з іроніяй: — Сын напісаў вам, што яго можна шукаць такім чынам?

— Лейтэнант, не будзем гуляць у звышпільнасць.

— Грамадзянін! Я нясу службу!

— Я паважаю вашу службу! Але, між іншым, хачу сказаць: пасля таго, як вы пазнаёміліся з маім дакументам і ведаеце мэту майго прыезду, я мог бы перастаць быць для вас грамадзянінам. Каб вам было лягчэй, магу засведчыць другім дакументам, што маю званне палкоўніка. Вось так, таварыш лейтэнант! Ёсць цудоўнае слова — таварыш, якое збліжае, родніць людзей...

Лейтэнант разгубіўся, ён зусім не быў сухаром і педантам, але ён сапраўды нёс службу; ад гэтага і ад маладосці яго вынікала ўся звышсур'ёзнасць.

— Калі вы... таварыш, палкоўнік, то ведаеце, што ёсць месцы, дзе забаронена... А калі вам трэба ўбачыць сына, то таксама павінны ведаць...

— Чатыры месяцы назад тут адпачывалі мая дачка і жонка. Дачка хадзіла па гэтай сцежцы, каб сустрэцца з братам. Тут гулялі тысячы людзей.

Усе трое таямніча ўхмыльнуліся: маўляў, хоць ты і палкоўнік, але наіўны і не ўяўляеш, што за чатыры месяцы шмат што магло змяніцца.

Убачыўшы іх ухмылкі, Іван Васільевіч сам адчуў сябе наіўным дзіваком, не старым чалавекам, які пражыў жыццё, а хлапчуком, якога двое сутак вялі не развага, не розум, а эмоцыі, неасэнсаванае жаданне.

— Што ж мне — спускацца назад?

— Ідзіце за мной,— сказаў лейтэнант, схаваўшы пашпарт у кішэню кіцеля.

Іншай сустрэчы Іван Васільевіч і не чакаў, шукаючы сына гэткім чынам, а таму стараўся настроіць сябе на гумарыстычны лад: чым больш прыгод — тым цікавей. Але тое, што пануры лейтэнант, які ні разу не ўсміхнуўся, не вярнуў пашпарт, вядзе за сабой, а ззаду гэтак жа маўклівы ідзе аўтаматчык,— не магло не закрануць. Падумалася, што ніколі і нідзе за ўсё жыццё яго гэтак не вялі і ён так паслухмяна не ішоў па чужой камандзе.

Хацеў падумаць з гумарам, але абагульненне было занадта сур'ёзнае, каб з яго смяяцца. Як бы ён паводзіў сябе, каб вялі не свае, а ворагі? Дзіўна, партызанам ніколі не прыходзіла ў галаву падрыхтавацца — як уцячы, калі цябе схапілі і вядуць двое ці трое. Выпрацоўвалі мноства ўсялякіх тактычных прыёмаў дзейнасці атрада, брыгады, падрыўнікоў, разведчыкаў, тактыку штаба і нават яго, камандзіра, у розных сітуацыях, на любы выпадак, а вось пра такое не думалі. Праўда, у атрадзе Будыка вучыў разведчыкаў прыёмам японскай барацьбы. Ды ён, Антанюк, глядзеў на гэта скептычна, ён прызнаваў адзіны дзейсны прыём нападу і абароны — кулю і гранату.

Такі ўспамін і развага прыглушылі нядобрае пачуццё, якое варушылася пад гумарыстычным стаўленнем да ўсяе сітуацыі з яго затрыманнем.

Прывялі да варот з прахадной будкай. Пагаварыўшы па тэлефоне, лейтэнант вярнуўся і, трохі збянтэжаны, аддаў пашпарт. Сказаў:

— Чакайце.

Каго чакаць, чаго — не растлумачыў. Не развітаўся. Пайшоў і аўтаматчык. Быццам цяпер нікому не было ніякай справы да затрыманага, на яго ўсе адразу забыліся. Толькі ў акенца прахадной выглядваў дзяжурны, але не выходзіў. І тады Івана Васільевіча апанавала абурэнне. Цяпер ужо было не да жартачкаў, не да гумару.

«Хаця б прабачэння папрасіў, чортаў сын,— падумаў ён пра лейтэнанта.— Ніякага такту! Во моладзь пайшла. Адна на пошце тырчала, другі — слова чалавечага не сказаў...»

Адчуў, што ногі гудуць, млеюць у каленях, як некалі пасля самага цяжкага палявання, і сеў на мокры камень.

Магчыма, што, стомлены, ён задрамаў на гэтым камені, бо не бачыў і не чуў, як у дзяжурку прыйшоў сын. Ці яны тут з'яўляюцца з-пад зямлі? Пачуў сынаў голас і смех, калі той выходзіў з дзяжуркі сюды, у свет цывільны.

Васіль убачыў маленькую, захутаную ў плашч постаць бацькі на камені і... не ўстрывожыўся, падышоў з усмешкай, быццам чакаў яго прыезду ці бачыў толькі ўчора.

Іван Васільевіч падняўся насустрач.

— Ты прыехаў у санаторый?

— Не.

— Не? А куды?

— Прыехаў да цябе.

— Да мяне? — хлопец здзівіўся.

Івана Васільевіча гэта пакрыўдзіла: не верыць, што бацькоўскія пачуцці маглі паклікаць у далёкую дарогу.

— Можа павітаемся? — Хацелася абняць сына. Але Васіль засмяяўся і па-мужчынску проста працягнуў руку.

— Здарова, бацька.

— Здароў, Вася.

Рука ў хлопца мазолістая, працавітая, сціснуў ён бацькаву так, што Іван Васільевіч, сам чалавек дуЖЫ, Н6 беларучка, парадаваўся яго сіле. Глядзеў на сына знізу ўгору: Васіль на галаву вышэйшы.

З-пад каўняра бушлата свяціўся гюйс фланелькі, як кавалачак сіняга мора, і хораша, прыгожа адцяняў загарэлы твар і шыю. Добра адпрасаваныя штаны, не шырокія, не флоцкі клёш, як раней, нармальныя, чаравікі, начышчаныя да бляску, таксама надавалі хлопцу святочны, элегантны выгляд; толькі бушлат штодзённы, рабочы, але спражка на папрузе гарыць. Іван Васільевіч залюбаваўся сынам, не выпускаючы руку.

— Ты, праўда, прыехаў да мяне?

— Ты ўсё яшчэ не верыш?

Васіль збянтэжыўся, прызнаўся:

— Я не чакаў,— і ў вачах яго бліснула зусім дзіцячая радасць, такая чыстая, што кранула бацьку трохі не да слёз.

Каб схаваць сваю ўзрушанасць, ён пажартаваў:

— Я ж вольны чалавек — пенсіянер.

— Мама казала, што ты модна перажываў сваю адстаўку. Я разумею. З тваёй энергіяй...

— Ну, мама нагаворыць! Мяне запрашаюць назад. Сітуацыя змянілася. І я падумаў, што, калі вярнуся на працу, цяжка будзе вырвацца...

Здзівіўся такому нечаканаму тлумачэнню прычыны сваёй раптоўнай паездкі. Безумоўна, урэшце ён згодзіцца на любую пасаду і, безумоўна, накінецца на работу з прагнасцю чалавека, які доўга пакутаваў ад смагі. За час вымушанага адпачынку ў яго з'явіліся цікавыя ідэі і па меліярацыі, і па размяшчэнні культур, паляпшэнні лугоў... Было б злачынна не паспрабаваць праверыць іх на практыцы, гэтыя ідэі.

Спытаў у сына:

— Нам дазволена пагаварыць тут, на каменнях?

— У мяне ўвальніцельная да васьмі. Хадзем уніз.

— Хадзем.

Яны пайшлі па асфальтаванай дарозе, якая, робячы адмысловыя петлі вакол скал, абгінаючы цясніны, палога спускалася ўніз. Ісці па гэтай дарозе было лёгка і... прыемна. Івану Васільевічу прыемна. Ішлі хутка, плячо ў плячо і ў нагу, як салдаты. Ніколі не хадзіў так з сынам.

— Лада не ведала гэтай дарогі?

— А ты падымаўся там, па сцежцы? — Васіль свіснуў і засмяяўся.— Лада нічога не хацела ведаць, нічога не хацела бачыць. Яна закахалася ў аднаго сябра, у Сашку Павельева. Цяпер піша яму штодня, а мне — раз у месяц.

— Лада піша сюды хлопцу?

— А ты не ведаў?

Іван Васільевіч адчуў сябе ашуканым. Жыў з упэўненасцю: хто-хто, а Лада раскрывае перад ім усю душу, выказвае ўсе думкі. Адзіны сапраўдны адкрыты і шчыры чалавек. Не тое, што маўклівая Мая, далёкі Васіль, зяць, які многа балбоча, але заўсёды з выгадай для сябе. І вось — калі ласка...

«І маці — дурніца. Лада штодня бегала ў горы да Басі! Цяцера! Грэла старую спіну на пляжы і праз чорныя акуляры ўласнай дачкі не бачыла. І цяпер ні чорта не бачыць. Негр, Фелікс Будыка — усё гэта чорна-белы камуфляж. А ісціна — вось яна дзе. У гарах. Ці не той гэта весяльчак, што першы затрымаў мяне? Але ж і часу ў яе хапае штодня пісаць! На каханне заўсёды хапае часу».

На дзіва складаныя пачуцці завалодалі Іванам Васільевічам: і злосць на дачку, на жонку, і адначасова нейкая незвычайная весялосць, нават захапленне: «Ах, чортавы дзеці, бясконца вы падносіце сюрпрызы».

— Калі яна трымае гэта ў сакрэце, дык ты не выдавай мяне, калі ласка.

— Добра. Не выдам.

— Я не хачу сварыцца са сваёй дарагой сястрой. Яна хоць рэдка піша, але пісьмы яе вясёлыя і... разумныя.

— Што ён за хлопец... сябра твой?

— Сашка? Хлопец — душа. Лесавод. Па вушы ўлюбёны ў лес. У яго бацька ляснічы. І ён паступаў у лесаакадэмію ў Ленінградзе. Зрэзаўся. Забрылі.

Івана Васільевіча непрыемна кальнула гэтае «забрылі». Было б балюча даведацца, што сын глядзіць на службу як на пакаранне за універсітэцкія грахі. Пасля размовы пра Ладу, пра маці ён асцярожна спытаў:

— Ну, як табе служыцца?

— «Як табе служыцца, з кім табе дружыцца?» — весела прадэкламаваў сын і гэтак жа весела адказаў: — Добра, бацька. Спачатку былоцяжка. А цяпер — нішто, нават падабаецца. Не трэба многа думаць. Усё робіш па камандзе...

— Не утрыруй, калі ласка. Ты не бяздумны аўтамат.

— На сваім баявым месцы я думаю. Каля такіх прыбораў нельга не думаць. Я магу адкрыць табе сакрэт, таварыш палкоўнік запасу. Калі ведаеш, што дзякуючы тваёй рабоце ў штабе флоту і супрацьпаветранай абароны кожную хвіліну і кожную гадзіну ведаюць, што робіцца ў небе, куды які прадмет ляціць і з якой хуткасцю, дзе, у якім квадраце чарада авечак узняла залішне высокі слуп пылу, дык, я табе скажу, такое адчуваеш!.. І гордасць. І радасць. І ўпэўненасць, што ніякі гад не плюхне нечакана на галаву тату і маме якой-небудзь цацачкі, як у сорак першым. Няхай паспрабуе. Нам паказвалі, чым мы можам адказаць. Праўда, у мяне каля тых «пушачак» захалодала ўсярэдку. Я не хацеў бы націснуць тыя кнопкі. Але людзям, якія выдумалі і нашы прыборы і ўсё іншае, я гатоў пакланіцца ў ногі. Можаш уявіць — твой сын, бяздарны матэматык, не ў прыклад сваёй геніяльнай сястры, тут палюбіў тэхніку! Праўда. Я нават думаў: а ці не зрабіць сваёй прафесіяй работу з гэтымі прыборамі?!

Сынава прызнанне ўзрадавала бацьку. Казаў Васіль, безумоўна, шчыра і сур'ёзна, хоць трохі і блазнаваў, трохі бравіраваў. Толькі апошняга бацька не зразумеў — наконт прафесіі. Спытаў.

— Наш камандзір агітуе мяне пайсці ў інжынернае вучылішча.

Такі сынаў намер павінен быў узрадаваць — вунь як змяніўся яго погляд! Але Іван Васільевіч раптам адчуў, што недзе ў душы яму не вельмі хочацца, каб сын заставаўся пажыццёва ў арміі. Хацелася,

каб ён хутчэй вярнуўся дадому. Упікнуў сябе. «Раскісаеш пад старасць. Пад крылом хочаш трымаць. Няхай ляціць у свет». Сказаў:

— Што ж... нядрэнная перспектыва.

— Але каб у арміі ўсе былі, як наш камандзір. Каб не было дурняў...

Бацька весела засмяяўся.

— Чаго захацеў! Не помню, хто з вялікіх сказаў: без дурняў было б сумна.

— Гэта праўда — з імі весела. Так весела...— згадзіўся Васіль без усмешкі, з суровай панурасцю.

Іван Васільевіч глянуў сыну ў твар.

— Цябе пакрыўдзіў хто?

— Не. Ніхто. Але ёсць у нас адзін салдафон. Увесь час баюся, што сарвуся калі-небудзь... А ён — шышка...

— Я прашу цябе, Вася. Не ад сябе. Ад мамы. Я разумею: здаралася, сам даваў дурням па зубах. Але ў мяне было другое становішча. Ты — салдат.

Васіль, запаволіўшы нават крок і збіўшыся з нагі, гэтак жа пранікліва паглядзеў на бацьку, зазірнуў у вочы. Хвіліну цягнулася нямая размова, якую абодва добра разумелі. Нарэшце Васіль шырока ўсміхнуўся.

— Не бойся. Не сарвуся. Навучаны ўжо.

Дождж перастаў імжыць. Зрэдку капала. Воблакі падніміліся вышэй. Ці можа так здавалася таму, што ўсё ніжэй і ніжэй спускаліся яны. Калі прыйшлі ў пасёлак, Васіль прапанаваў:

— Хадзем пагуляем каля мора.

Хвалі бухалі з ранейшай сілай, толькі як бы радзей, з большым размахам.

Яны выйшлі па вузкім завулку на бераг. Мора ўдарыла ў твар салёнымі пырскамі і пахам водарасцяў. Адгэтуль, зблізку, белыя грэбні валаў не здаваліся такімі пагрозліва-фантастычнымі, мора не пагражала вадзяной гарой абрушыцца на зямлю. Усё было звычайнае.

Але Антанюк убачыў, як загарэліся сынавы вочы, раздзьмуліся ноздры, як ён схіліўся над абрывам: вось-вось кінецца на самую высокую хвалю. Марская стыхія прываражыла сухапутнага марака.

— Мора з'ела пляж,— сказаў Васіль з захапленнем перад магутнасцю стыхіі і як бы з радасцю засмяяўся.— Не будзе дзе «дзікунам» вылежвацца. Колькі іх тут наязджае ўлетку! Гультаі!

— Ты сурова асуджаеш людзей, якія выкарыстоўваюць сваё права на адпачынак. Хіба твая маці, Лада гультаі?

Васіль трохі збянтэжыўся.

— Некаторыя тут усё лета сядзяць.

— Ты ўсё ведаеш...

— Саўгас — нашы шэфы. А дармаеды гэтыя жывуць у саўгасцаў. Праўда, тутэйшыя таксама навучыліся абіраць іх.

— А заадно і тых, хто прыехаў адпачыць на сумленна запрацаваную капейку.

— Вядома ж, не разбіраюцца, з каго злупіць больш, з каго менш. Лаві момант!

Такія сынавы разважанні не падабаліся: адных ён асуджае агулам, другіх гэтак жа агульна апраўдвае, упэўнены, што ён — за людзей працоўных, якім можна дараваць такі невялікі грэх — абіранне курортнікаў. Відаць, добрыя шэфы гэтыя саўгаснікі, калі так уплываюць. Спрачацца цяжка, не ведаючы гэтых людзей, іх псіхалогіі. Ён, Антанюк, ніколі не жыў у такім курортным месцы. Сын, між іншым, сказаў пра гэта, нібы прачытаў думкі:

— Дарэмна ты, бацька, не ездзіў да мора. У цябе былі такія магчымасці.

— Я не люблю курортаў.

— Можна палюбіць мора.

— Я люблю поле і лес. Ты палюбіў мора?

— Палюбіў. Гэта здорава, я табе скажу. Нават у такую пагоду — цуда. Няўжо не разумееш? А ўлетку, калі сонца!.. Нам з гары відаць яно на дзесяткі міль. Іскрыцца ўсё. І бясконца мяняе фарбы. Якіх не бывае адценняў! Калі сонца ўсходзіць, калі заходзіць. Апоўдні. Стаіш на варце — глядзіш і не можаш налюбавацца. А каб ты з аквалангам спусціўся пад ваду. Казка! — ад захаплення ён гаварыў абрывіста, зусім як школьнік.

— Ты аквалангіст?

— Але. Разраднік.

— Гэта не рызыкоўна?

— Ты пражыў без рызыкі?

Іван Васільевіч зноў засмяяўся.

— Ты парыруеш, як добры фехтавальшчык. Я рызыкнуў апошні раз у пяцьдзесят пяць... Праўда, ведаў, што цяпер гэта не смяротэльна.

— Ты быў такі і тады, калі было смяротэльна?

— На вайне — заўсёды. У той мірны час — не заўсёды. Але не таму, што не хапала мужнасці. Некалі ты асудзіў мяне...

— Цяпер я не асуджаю. Нельга кінуцца ў мора з гары. Мне, напрыклад, хочацца набіць морду таму салдафону. Але што я дакажу? Мяне засудзяць... Цяпер я разумею цябе.

Івана Васільевіча расчулілі сынавы словы, але і насцярожылі: а ці не замнога сталай развагі і... пакорлівасці? Каму трэба, каб з хлопца вырас пакорлівы выканаўца чужых каманд? Безумоўна, армія ёсць армія. Але і армія мацнейшая тады, калі ў ёй не робаты, а людзі, валявыя, разумныя, вольныя, якія ўмеюць выдатна выконваць разумныя загады, але і ўмеюць сур'ёзна думаць не толькі аб тым, што ў іх кацялку і ранцы, але і аб самых высокіх матэрыях, аб самых шырокіх праблемах — ад тэхнікі падводнага плавання да касмічных палётаў, ад цэн на курортным рынку да раяніравання пасеваў кукурузы, ад схемы лакатара да падзей ва В'етнаме.

Яны ішлі міма белых домікаў, у якіх улетку жылі мастакі, міма алеі кіпарысаў.

Іван Васільевіч гаспадарлівым вокам азіраў пабудовы, дарожкі, тунэлі з вінаградных лоз, што некалі давалі прываблівы цень, а цяпер віселі на жалезных апорах, як падраная сетка, няўмела сплеценая, мокрая. Спытаў у сына:

— Ведаеш назвы тутэйшых садовых дрэў?

— Не.

— Дарэмна.

— Не ўсім жа быць аграномамі.

— Назвы дрэў павінен ведаць кожны культурны чалавек. Як бы ты сябе адчуваў, каб не ўмеў адрозніць дуба ад клёна?

— Прыраўняў!

Васіля не цікавіў сад, ён глядзеў на мора, жыў ім, ішоў каля самага абрыву, мабыць, знарок, каб пырскі білі ў твар. Аблізнуў мокрую далоню.

Магчыма, што сын знарок прывёў да гэтага абеліска. Шэрая нізкая пірамідка, пазелянелая медная дошчачка, надпіс на якой скупа і празаічна паведамляў, што тут пахавана пятнаццаць маракоў-дэсантнікаў, якія загінулі 31 снежня 1941 года ў час высадкі на бераг.

Васіль спыніўся каля абеліска з такім выглядам, нібы гэта галоўная і канчатковая мэта іх паходу.

Зноў пачаў сеяць дождж, і дробныя кропелькі яго здаваліся салёнымі, быццам марскія пырскі ўзляталі высока ў неба і сеяліся адтуль.

Карпусы пансіяната адгэтуль, з берага, не выглядалі так панура, як з шашы, яны глядзелі на мора мноствам акон. Але ні на балконах, ні на дарожках, нідзе ніводнай жывой душы, нібы месца гэтае даўно і назаўсёды пакінута людзьмі. Ад такой пустэчы мацней, чым дзе ў іншым месцы, агортвала пачуццё жалобы перад гэтым простым помнікам мужнасці, якіх тысячы на прасторы ад Волгі да Эльбы, ад Кубані да Дуная.

— Бацька, скажы ты мне, навошта загінулі гэтыя хлопцы?

Іван Васільевіч не зразумеў, здзівіўся і ўстрывожыўся: чаму раптам такое пытанне?

— Як навошта? На вайне загінулі мільёны.

— Дваццаць мільёнаў. Гэта я ведаю. Але навошта быў гэты дэсант?

— Я не ведаю, з якой канкрэтна мэтай і задачай высаджваліся тут. Разведка, захоп плацдарма, сувязь з партызанамі?.. Задачы былі розныя. Але нельга ставіць пытанне так, як ты: навошта загінулі, навошта дэсант? Ты — салдат, а не хлопчык-шкаляр. Так можна задаць тысячу навошта і чаму! А навошта я стварыў партызанскі атрад, брыгаду? Навошта да нас у тыл прыходзілі і прыляталі спецгрупы, радысты, агітатары, нават пісьменнікі, акцёры? І многія гінулі. Часам і недарэчна, выпадкова. Вайна ёсць вайна.

— Ты не зразумеў мяне. Я хачу спытаць: навошта ўвогуле спатрэбілася гэтая масавая высадка ў Крыму ў апошні дзень сорак першага года? Заперці на голы паўвостраў некалькі дывізій, чатыры арміі...

— Дарагі мой сын, ваявалі людзі. Розныя. І тыя, хто планаваў аперацыі ў іх стратэгічным маштабе, таксама былі розныя. Выдатныя, пасрэдныя, бяздарныя. Але і самы геніяльны камандуючы не можа ўсё прадбачыць, усё разлічыць, кожны ход ажно да перамогі. Супраць яго праціўнік, і таксама недурны. Ён разлічвае свае хады. Гэта як у шахматнай гульні. Ні адзін вялікі шахматыст не можа загадзя ведаць, які контрход зробіць праціўнік. Так і на вайне. Часам з аперацыі, на якую ўсе ўскладвалі надзеі, да якой добра рыхтаваліся, атрымліваўся, мякка кажучы, пшык, пусты феерверк, а то і яшчэ горш — яна вылазіла бокам. Было гэта і ў нас, у партызан. Было і на фронце. Я не гісторык. А тым больш — ніколі не займаўся Крымскай аперацыяй. Калі цябе зацікавіла яна, ты мог бы за два гады службы тут высветліць усё пра дэсант. Цяпер гэта не з'яўляецца тайнай. А ты ж хацеў стаць гісторыкам...

— Я спрабаваў. На мяне чуць не павесілі сабаку. Як ва універсітэце.

Іван Васільевіч сцяўся: сын ударыў па ім. Пра універсітэт ён сказаў проста, без крыўды, шкадавання, але так, што стала зразумела: ніколі не згодзіцца, што тыя, хто пакараў яго, зрабілі справядліва, у тым ліку і ён, бацька. Але ў людзей сталых, у бацькоў, свая логіка, якая ў спрэчках з моладдзю часта прыводзіць зусім не да тых поглядаў, якіх яны трымаюцца ва ўласнай жыццёвай практыцы.

Іван Васільевіч адказаў:

— Таму што ты няправільна ставіш пытанні. Табе абавязкова хочацца знайсці вінаватага за тое, што не ўдалося.

Сын хмыкнуў.

— Дзіўная ў цябе філасофія, бацька. Па-твойму выходзіць — няма вінаватых? Ні за што? Ні за тыя перадваенныя гады? Ні за сорак першы? Ні за гэты дэсант? Ні за тое, што часам дурні...

— Чакай. Не валі ў адну кучу тое, што не параўноўваецца. А чаму ты не шукаеш «вінаватых» за акружэнне Паўлюса, за Корсунь-Шаўчэнкаўскі, за Арлоўска-Курскую бітву... Там загінула не менш, але там зламалі зверу хрыбет. За штурм Берліна... Знайдзі, хто камандаваў там. І можа здарыцца, што гэта адны і тыя ж людзі. Пакладзі на шалі іх памылкі і іх поспехі, славу, гераізм... Што пераважыць? Заўсёды май на ўвазе: лёс народу, краіны, ленінскіх ідэй вызначыла не трагедыя сорак першага, а перамога сорак пятага.

— Але яна магла быць здабыта меншай крывёю.

— Сын мой, з такой адлегласці і вышыні ўсе мы разумныя і прадбачлівыя. А ўвосень сорак першага ў гомельскіх лясах у мяне — а я чалавек не слабы, ты ведаеш,— былі моманты, калі хацелася памерці, і я лез пад шалёныя кулі.

Васіль памаўчаў. Адышоў ад манумента да абрыву, зноў падставіў твар салёным пырскам. Калі бацька стаў побач, спытаў:

— Няўжо дагэтуль нельга было ўстанавіць прозвішчы гэтых пятнаццаці і напісаць іх?

Тут ужо Іван Васільевіч не проста не згадзіўся — абурыўся:

— Значыцца, зноў вінаваты я?

— Ды не... чаму ты...

— Адным словам, бацькі? Так? Ну, добра, няхай сядзяць раўнадушныя людзі ў тутэйшым райкоме, ваенкамаце. Але вы... вы два гады тут служыце. Колькі вас — я не ведаю. Пэўна ж, не адзін дзесятак. Маладыя, адукаваныя! Побач ляжаць вашы таварышы па роду войск — маракі. Чаму ж вы не адшукалі іх імён? Ды вы маглі б не толькі адшукаць імёны, але замест гэтага стандартнага абеліска ўзвесці тут курган, гару славы, такі манумент, каб быў відзён з каўказскага берага.

Васіль уздыхнуў.

— Ты дрэнна ўяўляеш нашу службу. Не ведаю, як служылі ў ваш час. А мне, магу цяпер прызнацца, першы год было не да пошукаў герояў дэсанта. Ды і цяпер не столькі ў нас часу, каб займацца гістарычнымі даследаваннямі. Што ты хочаш ад салдата?

— На дзяўчат у вас хапае часу,— Івана Васільевіча ўсё яшчэ хвалявала, што Лада піша мараку, а ён, бацька, нічога не ведаў;

падумаўшы пра таго, Ладзінага сябра, ён сказаў гэтыя словы, хоць тут жа зразумеў, што проста-такі жорстка — кідаць сыну такі папрок.

І Васіль здзівіўся, яршыста спытаў:

— Што ж ты хочаш, каб мы зусім выключыліся з жыцця?

— Жыццё — не адны дзяўчаты.

— Не рабіся маралістам, бацька.

Тон які! І падтэкст: маўляў, ведаю, які ты мараліст.

Іван Васільевіч трохі не абурыўся. Але стрымаўся. Сын ужо не той, які быў два гады назад, гэта — дарослы мужчына, і ў іх — мужчынская размова, якая натуральна пераходзіць з вялікага на малое, бытавое, і наадварот.

Але, пэўна, ад няёмкасці яны абодва маўчалі. Глядзелі на белыя грэбні хваль. Васіль стаяў так, каб пырскі абмывалі твар, аблізваў салёныя вусны. Антанюка-старэйшага таксама паступова пачало хваляваць мора, яго шум, прастор, хоць яму хацелася настроіць сябе супраць мора: яно можа назаўсёды прывабіць сына.

У Маі свая сям'я. Вылеціць з роднага гнязда Лада. З кім яны, старыя, застануцца? Сын ёсць сын. Пад старасць пачынаеш адчуваць, як дарага і як неабходна мець сына.

Васіль спытаў:

— Ты паедзеш начаваць у горад?

— Не. Я хацеў бы пераначаваць тут. Можа заўтра распагодзіцца. Хочацца зірнуць на горы, ад якіх у захапленні твая сястра. Кажа — нешта біблейскае.

— Каб ты выйшаў у мора і паглядзеў адтуль! Гэта здорава, я табе скажу! Якія формы! Дзівосы. Апісаць немагчыма. Трэба самому пабачыць.

— Дык можна тут пераначаваць?

— Улетку тут начуе тысяча чалавек. Уладзім. З поўным камфортам. Ты без рэчаў? Вось так?

— Думаеш, твая маці адпусціла б так — без дзвюх кур на дарогу мне, без чамадана ласункаў свайму няшчаснаму сыночку, які памірае з голаду?

Васіль засмяяўся.

— Я пакінуў чамадан на пошце.

— Тут, у нас? — Васіль як бы чамусьці сумеўся, але тут жа, падцягнуўшы рэмень на бушлаце, бадзёра сказаў: — Пайшлі на пошту.

Дзяўчына, якая сапсавала Івану Васільевічу настрой сваёй нязветлівасцю, убачыўшы Васіля, расцвіла, што ружа, і растала, як воск. Усхапілася радасна:

— Вася! Ты ідзеш на пост?

Здаецца, пераскочыла б цераз бар'ер сваёй загарадкі і кінулася б у абдымкі, каб у дзвярах следам за высокім бравым мараком не з'явіўся невысокі хударлявы чалавек у плашчы — той самы.

— Да мяне прыехаў бацька. Пазнаёмся,— павярнуўся Васіль і прадставіў паштавічку, якую такая нечаканасць аглушыла, што громам.— Валя.

Іван Васільевіч цераз бар'ерчык працягнуў руку, сказаў банальнае, звычайнае:

— Вельмі рады, вельмі рады,— але гучала гэта як здзек, як насмешка, як суровы дакор. Больш нічога і не трэба было казаць — дзяўчына пакарала сама сябе. Рука яе, якую яна не адразу здагадалася падаць, была вільготная і халодная, вочы — у банцы з клеем. Шчокі ўспыхнулі, а лоб пажаўцеў. Збянтэжанасць зрабіла твар яе непрыгожым. Іван Васільевіч падумаў пра сына: «Не мае густу хлопец».

Васіль зірнуў на дзяўчыну і засмяяўся.

— Валя! Цябе быццам халоднай хваляй змыла з масткоў. Не бойся, не патонеш. Што здарылася?

Яна зрабіла ўсмешку, таксама непрыгожую.

— Праўда, чаму ты крывішся?

Відаць, гэтае «крывішся» падказала ёй выйсце з недарэчнага становішча.

— У мяне баліць зуб.

Іван Васільевіч ухваліў яе знаходлівасць. А можа і праўда ў чалавека баліць зуб? Тады даруем ёй. З зубным болем хочацца гыркаць і кусаць любога, хто надакучае.

— Скажы, Валя, Іван Васільевіч Антанюк мог бы пераначаваць у вас? Бацька хоча дачакацца пагоды... ля мора.

«Іранізуе, прайдзісвет,— без злосці падумаў Антанюк.— Рады, а не хоча выдаць радасці».

Валя ўмее быць галантнай і ветлівай. Пэўна, зуб перастаў балець. Яна заззяла ўсмешкай.

— О, канечне! Вася, як табе не сорамна так пытаць! Тата будзе рады з вамі пазнаёміцца, Іван Васільевіч! Пасядзіце хвіліначку. Я збегаю папярэджу маму.

Кінуўшы на іх пошту, касу, тэлеграф і тэлефон, яна вылецела за дзверы.

Іван Васільевіч з няўхвалай падумаў пра гэтую дзявочую бестурботнасць. Пажартаваў:

— Лічы, што мы захапілі галоўны аб'ект — пошту і тэлеграф.

Васіль не адразу зразумеў жарт — ведаў, што бацька можа моцна і падкалоць часам, гэтак знянацку. Калі ж дапяў да простага сэнсу жарту, то весела зарагатаў.

— Значыцца, улада — у нашых руках.

— Не зусім. Але гэта — палова поспеху. У любым сур'ёзным наступленні. Хоць што я прымазваюся да тваёй славы! Ты гэта зрабіў без маёй дапамогі. Даўно? Яна падабаецца табе?

— Мы дружым...

— Так адказваюць у шаснаццаць. А табе — дваццаць тры. І ты не з сарамлівых, я ведаю...

— Я твой сын.

«Здзекуецца, чорт».

— Дарэмна ты так думаеш. Для мяне ў маладосці пазнаёміцца з дзяўчынай было пакутай. І подзвігам.

Сын скептычна прыжмурыўся.

— І многа ў цябе было такіх подзвігаў?

— Не блазнуй. Я сур'ёзна.

— Не бойся, жаніцца я не думаю.

— Вось гэтага я не баюся. Не скажу, што з першага знаёмства мне спадабалася твая Валя. Але я ўсё ж прашу цябе ніколі не забываць, што яе захапленне, яе пачуцці могуць быць больш глыбокія і сур'ёзныя, чым твае. О, ты не ведаеш, як можа прывязацца жанчына!

— Ты гэта ведаеш?

Іван Васільевіч нахмурыўся.

— Нават у наш звышдэмакратычны час гаварыць так з бацькам... Што за манера? Гэта не робіць табе гонару і не красіць твой мундзір.

Сын падумаў і сур'ёзна сказаў:

— Не крыўдуй. Прабач. Я нічога кепскага не падумаў. Проста мы прывыклі так... Стыль часу...

Антанюк добра ведаў і разумеў жанчын-сялянак — матак дарослых дачок, іх старасвецкі клопат: каб, крый божа, не стала доня векавухай. Можна дараваць ім любыя хітрасці, любыя захады. Але гэтая маці, Валіна, відаць, раней не вельмі ўхваляла доччына захапленне марачком — ненадзейны жаніх. І раптам — прыезд бацькі. Гэта перайначвала матчына ўяўленне, пераконвала, што бацька прыехаў па запрашэнні сына — на выгляды. У такім выпадку варта пастарацца, не паскупіцца ні на добрыя словы, ні на добры пачастунак.

Іван Васільевіч адчуваў сябе ў недарэчным становішчы. І смешна і ніякавата. Злаваў на Васіля, што той так бяздумна ўладзіў яго, на сябе, што, маючы вопыт, не падумаў пра магчымасць такой сітуа-

цыі. І тут жа пачынаў іграць свата, каб дагадзіць наіўнай жанчыне. А яна рабіла ўсё з пераборам. Нават Валя адчула гэта і засаромелася — знікла з дому.

Натуральнасць прынёс гаспадар дома.

Спытаў на кухні:

— Што ты смажыш сёння, як на вяселле?

Жонка зашыкала на яго, зашаптала.

Ён вылаяўся на поўны голас.

— Толькі жаніхі ў вас у галаве.

Антанюку стала весела.

Павітаўся гаспадар хмура, рукі першым не працягнуў. Але Івану Васільевічу чамусьці адразу захацелася добра пазнаёміцца з гэтым чалавекам. Ён паціснуў яго вялікую, шурпатую, як кара старога дуба, руку, назваў сваё імя:

— Іван Васільевіч.

— Іван Трахімавіч. Цёзкі, значыцца? — пацяплелі вочы стомленага пасля працы чалавека.— Адкуль?

— З Мінска.

— Лічы, што землякі. Мы — смаленскія. Уцяклі ў сорак сёмым са свайго гарамычнага калгаса шчасця шукаць.

— Знайшлі?

— Шчасце? Знайшоў. А што вы думаеце? Што чалавеку трэба яшчэ, акрамя таго, што я маю? Можа ў вас яно другое, другія патрэбы. А мне цяпер хіба аднаго не хапае — рабочых рук на вінаградніку. Ды ўгнаенняў.

Антанюк адразу адчуў сімпатыю да чалавека, для якога шчасце — у рабоце на вінаградніку.

— Я вас разумею. Я таксама ад зямлі не адрываўся, дзе б ні рабіў. Я — аграном.

Сказаў і са смуткам падумаў: «І ўсё ж мяне адарвалі.— Аднак заспакоіў сябе і пагразіў сваім нядобразычліўцам: — Нічога. Вярнуся. У саўгас пайду. На Балотную станцыю».

З гаспадаром сышліся адразу, проста, натуральна, як гэта бывае паміж людзьмі, улюбёнымі ў адну справу. Яшчэ да вячэры Іван Васільевіч з цікавасцю слухаў расказ, як чалавек навучыўся вырошчваць новую культуру і, відаць па ўсім, палюбіў яе, палюбіў працу на вінаградніку. А раней толькі чуў пра гэтую «салодкую ягаду», да арміі нават пакаштаваць не давялося. Толькі ў Румыніі ды Венгрыі ў сорак чацвёртым зразумеў, што «гэта за фрукт такі» і якая ад яго карысць. Раней думаў: так, забаўка, як парэчка ў гародзе,— утыркнуў куст, няхай каля плота расце на пацеху дзецям.

Вярнуўся з арміі інвалідам, шчыра памагаў падняць свой смаленскі калгас. Можа і не пакінуў бы дзедаўскай сядзібы, каб больш парадку ў калгасе было, каб хоць што-небудзь атрымлівалі — а не адны палачкі ў табелях. Каб было чым дзяцей гадаваць. Прапанавалі на перасяленне сюды, у Крым,— кінуў усё, паехаў, хоць жонка тыдзень галасіла. І тут нялёгка было. Можа і тут не ўтрымаўся б, некаторыя рушылі назад. Але вельмі ўжо захапіла «гэтая ягада». Проста прывязала сваімі лозамі. З сотак пачыналі на старых татарскіх вінаградніках. А цяпер — сотні гектараў. Буйнейшы саўгас.

— Гэта ж каб сказаць там, на Смаленшчыне, што я, Іван Сухі,— мянушка ў нас яшчэ ад дзеда такая — буду на зіму па трыста літраў уласнага віна ставіць, так буду размачваць сухасць сваю — брахуном назвалі б. І цяпер не паверылі — ездзіў я пазалетась туды — хоць і прывёз віна гэтага пуды два. Выпілі сваячкі, аднавяскоўцы, а ўсё роўна ўхмыляліся: маўляў, залівае Іван. Але не ў віне тая радасць. Калі ты аграном, то разумееш. Галоўнае, каб чалавек бачыў плён сваёй працы, што не марна спіну гне. А што ёсць ад яго старання і яму, і людзям, і дзяржаве...

Цвярозы — хваліў усё. А ўзяў чарку — пачаў лаяць. Мала парадку ў саўгасе, не ўсё яшчэ робіцца па-гаспадарску. Але найбольш злосна лаяў курортнікаў. Разбэсцілі людзей тутэйшых, ад работы на зямлі адбіваюць. Навошта другому поле араць ці лозы абкопваць, калі можна больш зарабіць на курортніках. Сам усё лета ў хляве жыве са свіннямі, а ў дом, як селядцоў, «дзікуноў» набівае: па рубліку за канапку ці раскладушку...

— Мае бабы таксама грызуць: чаму і нам не выціснуць рублікі з «дзікуноў»? Грошай, кажуць, табе іх шкада, ці што? Не, грошай мне іх не шкада. З другога сукінага сына іх такі трэба выцягнуць, бо адразу відаць, што не мазалём зарабіў і не мазгой... Вас, кажу я бабам, вас, дурныя, шкада. Што з вас стане, калі прывыкнеце лёгка грошы зарабляць?

— Паехаў ужо, паехаў, зноў за рыбу грошы...— упікнула мужа гаспадыня.

— Адна вунь свішча, гэта самая, на якую твой марак вока кідае. Кончыла дзесяцігодку — прасіў, як чалавека: падавайся, дачка, у сельскагаспадарчы, на вінаградара вучыся, саўгас рэкамендацыю даваў. Дык, ты думаеш, паслухалася? Чорта з два. Паляцела ў Харкаў, у чыгуначны. Такая ўжо ў яе любоў да паяздоў з'явілася! Правалiла, канечне... Многа іх там такіх! Два гады на пошце маркі прадавала — думала, за гэта яе адразу ў радыёінстытут возьмуць. Зноў зрэзалася. Цяпер узненавідзела сувязь гэтую. Начальнік скардзіўся: пагана

працаваць пачала, людзям грубіць. Што ты мяне шморгаеш? — накінуўся раптам гаспадар на жонку.— Яе ж яшчэ не сватаюць, што я павінен хваліць цацу такую.

— Цьфу на цябе, стары дурань,— узлавалася жанчына і, тыркнуўшы пальцам сабе ў лоб — маўляў, не хапае ў цябе тут, пайшла на кухню.

— От бабская натура! Толькі думаюць, як бы хутчэй замуж сплавіць. А таго не ведае, што не той час цяпер.

Іван Васільевіч тактоўна маўчаў, калі захмялелы гаспадар кранаўся сямейных спраў ці стараўся зноў скіраваць размову на зямлю, на вінаград ; яго раптам зацікавілі гатункі, ён вырашыў, што абавязкова купіць у Сімферопалі кнігу па вінаградаводству.

У час іх застольнай гутаркі ў хату ўвайшоў марскі афіцэр. Гаспадар ведаў яго: сустрэў гасцінна.

— Прашу за стол, таварыш капітан.

— Не. Дзякую. Маю яшчэ службовыя справы. Я хацеў бы пагаварыць з вамі,— сказаў ён Антанюку, пазнаёміўшыся.

У Івана Васільевіча трывожна ёкнула сэрца.

— Што-небудзь з сынам?

— Не. Усё ў парадку. Але мне хацелася б папрасіць вас аб адной рэчы. Можам выйсці? Прабачце нас, калі ласка, Іван Трахімавіч. Я адарву вашага госця роўна на дзесяць мінут.

На вуліцы капітан сказаў па-вайсковаму коратка:

— Камандаванне часці задаволена вашым сынам, Іван Васільевіч. Выдатнік баявой падрыхтоўкі. Спартсмен. Але трывожыць адно: адзін ён у нас не камсамолец. Ведаеце, няёмка неяк...

— Ён быў у камсамоле,— Іван Васільевіч не ведаў, што сын так і не аднавіўся, і гэта ўразіла: значыцца, стаіў крыўду.

— Я ведаю,— сказаў капітан.— Ён расказваў. Чаго не бывае ў маладосці!

— Прызнаюся, мы дома не ведалі, што і дагэтуль...

— Я хацеў напісаць вам, але пасля вырашыў, што няёмка. Я сёння даў наганяй сваім, што вас не запрасілі ў часць. Прабачце.

— Нічога. Я пагаварыў з сынам пад шум мора.

— Вы маглі б прадоўжыць размову? І нейкім чынам паўплываць...

Іван Васільевіч задумаўся.

— Што вас стрымлівае?

— Думаю, што я адкажу, калі Васіль спытае: «Цябе, бацька, папрасіў наш зампаліт?»

— Я не раблю тайны са сваёй размовы з вамі.

— Справа не ў тым, скажу я ці не скажу пра нашу размову. Усё больш складана. Нават роднага сына я не хачу ўгаворваць уступаць у камсамол. Павінна з'явіцца душэўная патрэба...

— Вы не былі палітработнікам,— стоена ўздыхнуў афіцэр.

— Я быў усім, дарагі капітан. Камандзірам і камісарам. Ведаеце што? Давайце я пагавару з усімі вашымі падначаленымі, калі ўжо мне, грэшнаму, дазволена зайсці да вас.

— Калі ласка. Будзем рады.

— ...Я ведаў гэтую жанчыну яшчэ да вайны. Я працаваў загадчыкам райза — раённага зямельнага аддзела. А яна была лепшая льнаводка аднаго з калгасаў. Мы яе прадстаўлялі на ордэн, але ордэн яна не паспела атрымаць — пачалася вайна. Прозвішча яе Казюра. Марына. Марына Аляксееўна, з вёскі Казюры на Гомельшчыне. Там у іх палавіна вёскі Казюры.

Мы вярталіся з невялічкага рэйду, і нас захапіла ў дарозе завіруха. Сакавіцкая. Апошняя напрадвесні. Хто з вас з сярэдняй паласы, той ведае апошнія зімовыя завірухі. Калі, як кажуць, тры дні зіма едзе ў адзін бок, а пасля вяртаецца назад. Толькі тады ўжо, пасля такога «вяселля», можна чакаць вясны. Мы яе такі здорава чакалі. Вы гэта маглі зразумець з таго, што я расказаў вам пра наша становішча ў тую першую партызанскую зіму. Усё-такі ўлетку ваяваць лягчэй. Хоць і ворагу рабілася лягчэй. Але летні лес лепш хавае.

Мы зусім не думалі спыняцца ў гэтых Казюрах. Там стаяў паліцэйскі гарнізон — пра гэта мы ведалі. Завязваць бой нават з невялікай групай пасля такога рэйду нам было нявыгадна: мала патронаў, людзі і коні падалі ад стомленасці. Мы проста заблудзіліся ў завірусе. Паўночы ездзілі па снежным полі і ніяк не маглі дабрацца да лесу, хоць у нашага начальніка штаба быў добры армейскі компас.

Здагадаліся пасля, што коні адчувалі блізка жыллё, хлявы, і як мы іх ні скіроўвалі, яны зноў паварочвалі да вёскі. Я мусіў закамандаваць — даць волю коням, няхай яны нас выведуць хоць куды-небудзь. Помню, я яшчэ пажартаваў з начштаба, што коні разумнейшыя за яго компас. Коні такі хутка прывялі нас да хаты. Да крайняй хаты сяла. Я сам пастукаў. У вайну людзі былі напалоханыя і адчынялі ўначы асцярожна. Адказвалі нехаця, пакуль не даведваліся пэўна, хто ж начныя госці — партызаны ці паліцэйскія. Доўга ў хаце шкрабалі, чыркалі крэсівам... Нарэшце, выйшла старая.

«Бабуля, якая вёска?»

«Казюры».

Я чартыхнуўся: мы — такі праўда — паўночы кружылі вакол гэтых Казюраў, бо па разліках праехаць міма іх павінны былі гадзіны

тры назад. На мой голас высунуўся са свайго ўкрыцця ў сенцах сам гаспадар, нестары яшчэ чалавек, і адразу шэптам папярэдзіў:

«Таварыш Антанюк, гарнізон у нас. У школе».

«Ды ведаю. Але ж нам трэба пераначаваць. Коні не цягнуць. Думаю, спяць яны, вашы паліцэйскія».

Сяло вялікае, і ад школы мы былі няблізка — на дальнім краі сяла. А што, калі заначаваць пад бокам у паліцаяў? Наўрад ці хто мог убачыць у такую завіруху. А калі і ўбачылі суседзі, то ніхто не выдасць, не ўзніме трывогі. Акрамя ўсяго іншага, каму з сялян хочацца, каб бой завязаўся ў іх сяле?! Паначаваць там, дзе стаіць паліцэйскі гарнізон,— нядрэнная дэманстрацыя нашай партызанскай сілы. Далібог, мне спадабалася такая ідэя. Але гаспадар астудзіў:

«Сусед ненадзейны. Небяспечна».

Сказаў ён шчыра, з клопатам пра нас ці можа больш думаў, каб не наклікаць бяды на сваю сям'ю,— невядома. Урэшце, з нашага боку таксама было б неразумна ставіць людзей пад удар. Лішняя перасцярога нікому не шкодзіла ў той час. Да таго ж, у адной хаце не размясціцца — нас ехала чалавек семнаццаць.

«Што ж нам рабіць?»

«Дабірайцеся да Стрыгуноў».

Стрыгуны — суседняя вёска, невялічкая, бліжэй да лесу, да яе яшчэ кіламетры чатыры.

«Баюся, што зноў будзем блукаць. Бачыш, як задзьмула?»

«Я правяду».

Конь — найразумнейшая жывёліна! Ён адразу пачуў, што кіруе ім чалавек, які добра ведае дарогу. Без прыгод, даволі хутка мы дабраліся да месца начлегу. Праважаты наш начаваць не застаўся, як ні ўгаворвалі яго партызаны, ведаючы, што можна ў такую завіруху збіцца з дарогі ў полі. Між іншым, я прапанаваў таму дзядзьку:

«Хадзем да нас, разведчыкам будзеш».

«Не магу, таварыш Антанюк, лёгкія хворыя».

Можа і праўда — кашляў чалавек усю дарогу.

Што ж, не можа — дык не можа, нікога гвалтам не цягнулі. А пад раніцу, гадзіны праз чатыры якія, не больш, вартавы прывёў у хату, дзе я спаў, яе — Марыну Казюру. Выявілася, што чалавек, наш праважаты,— яе брат. Яго я не ведаў па даваеннай рабоце. А яе ведаў добра. Я казаў ужо, яна была лепшая льнаводка... да вайны. І цяпер працуе. Гады два назад я заязджаў у Казюры. Марына — на ферме даяркай, вучыць маладых.

Разбудзілі мяне тады — убачыў яе, заснежаную, і спалохаўся.

«Што здарылася, Марына?»

«Нічога, Іван Васільевіч. Пагаварыць прыйшла».

«У такі час?»

Усміхаецца. Шэптам, каб не разбудзіць партызан :

«А дзе ж яшчэ я пагаварыць з вамі магу? У раён не паедзеш. У райза не зойдзеш. У лесе знайсці вас нялёгка. Спрабавала...»

«Што ж, давай пагаворым».

Накінуў я кажух, прысеў да стала.

Яна развязала хустку, асцярожна каля парога абтрэсла снег, ціхенька абмяла буркі, пашытыя са старога шыняля.

Шэпча:

«Іван Васільевіч, хачу параіцца з вамі наконт хлопцаў сваіх».

Сыноў яе я таксама ведаў. І што муж у першы дзень вайны пайшоў у армію.

«А што з імі, з тваімі хлопцамі?»

«Ды пакуль што нічога. Але страшна мне за іх. Рвуцца немцаў біць. У партызаны збіраюцца. Аружжа ўсякае ў хату цягаюць. Чаго добрага, паклічуць бяду. З паліцаямі заядаюцца. І сварылася я з імі, і лупцаваць спрабавала. Ды дзе там! Чуе сэрца — не ўтрымаць мне іх. Але куды яны пойдуць, да каго трапяць?.. Вунь, кажуць, часам і паліцаі партызанамі прыкідваюцца. І бандыты ўсялякія... Я ўжо думала: каб дзе свой чалавек быў. А тут брат мой, Саўка, пастукаўся пасярод ночы і перадае навіну: «Марына, кажа, да мяне толькі што партызаны заязджалі. І, ведаеш, хто імі камандуе? Антанюк...»

Карацей кажучы, папрасіла яна ўзяць яе сыноў у атрад.

А хлопцы, па сутнасці, дзеці яшчэ: аднаму няпоўных семнаццаць, другому — пятнаццаты. Аднаго старэйшага пускаць нельга, малодшы ўсё адно з дому ўцячэ.

Нялёгка маці самой адсылаць дзяцей на вайну. Адзіных сыноў. Больш у яе — нікога. Муж на фронце, невядома, ці жывы, ці можа даўно ўжо ў зямлі. Адна застаецца ў пустой хаце. Ды яшчэ, напэўна, паліцыя прычэпіцца: куды сышлі сыны? Даведаюцца, што ў партызанах,— дабра не чакай. Яна не казала пра гэты свой мацярынскі боль, пра страх. Але я разумеў. Яна толькі папрасіла:

«Будзьце ім за бацьку, Іван Васільевіч. Вам давяраю...»

Я мог бы ганарыцца: вышэй на свеце даверу няма — калі маці аддае табе сваіх дзяцей. Але ж яна, безумоўна, спадзяецца, што я зберагу іх і вярну ўзмужнелымі героямі. Ды ці разумее жанчына, што ні ёй, ні сабе, нікому не магу сказаць: так, я зберагу іх, тваіх дзяцей, не бядуй, не хвалюйся...

У атрадзе былі ўжо дзеці. І я адказваў за іх... А гэта — паверце — самая цяжкая адказнасць. Шчыра скажу, мне зусім не хацелася

пабольшваць гэтую сваю адказнасць за дзяцей. Хоць я падумаў, што мы, партызаны, як і салдаты, афіцэры на фронце, у адказе за ўсіх дзяцей. Ці будзе мне лягчэй, калі гэтыя юнакі, якія рвуцца ў бой, загінуць недарэчна, нічога не паспеўшы зрабіць? Прайшло столькі гадоў, а я дагэтуль помню, што адчуў, перажыў за тыя хвіліны, пакуль жанчына, не зводзячы вачэй, чакала адказу. Помню, як доўга я маўчаў. Даўжэй, чым гэта можна ў размове з чалавекам з вока на вока. Але была ноч, на падлозе спалі партызаны. Мы размаўлялі шэптам, як змоўшчыкі ці закаханыя. А таму маўчаць можна было даўжэй, чым у звычайнай размове. Да таго ж, быў я стомлены і прастуджаны, не выспаўся, галава гудзела, як чыгун. Перад вачамі стаялі яе хлопцы, якіх бачыў год назад — памагалі маці палоць лён, той, які стапталі танкі. Нешта выбралі бабы — хто паспеў.

Марына разумела, што мне нялёгка рашыць. Яна не прыспешвала, не прасіла больш. Сядзела, узлакоціўшыся на стол, і глядзела ў вочы... На пасмах валасоў яе, па брывах блішчэлі расінкі адталага снегу. Можа здалося ёй, што я хачу адмовіцца ад яе хлопцаў. Цяжка ўздыхнула і сказала:

«Усё роўна не ўтрымаць мне іх. Пойдуць вас шукаць. А дзе знойдуць? Да каго трапяць?»

«Ну што ж, Марына, давай тваіх сыноў. Адно абяцаю: зрабіць іх добрымі партызанамі».

Яна не ўзрадавалася. Якая там радасць! Не падзякавала. А неяк адразу ссутулілася, нацягнула хустку на лоб і ад гэтага пастарэла. Маўчала. Можа не так доўга, як я, перад тым як даць згоду. Але помню — нейкі час маўчала, як бы не ведаючы, што сказаць яшчэ. Паднімаючыся, сказала проста: «Дык пачакайце тут. Прышлю іх».

О не, жанчына, так не робіцца! А калі хто з нядобрых людзей бачыў нас? Данясе ўладам? І ў тую ж ноч сышлі з дому твае сыны. Цяпер мы ў адказе за тваіх сыноў і за цябе. Я сказаў ёй пра гэта. Параіў: няхай яна пусціць чутку, што пасылае хлопцаў да якога-небудзь сваяка ў далёкім сяле ці ў горадзе. Ёсць хто-небудзь такі? Ёсць. У Гомелі. І мужава сястра жыве пад Рагачовам. А праз тыдзень-два мы прышлём сувязнога, які прывядзе хлопцаў у атрад.

Падзякавала. Але — адчуў я — не паверыла. Падумала: гэтак хітра хачу адчапіцца ад яе. Можа не вельмі засмуцілася. Можа жыла яшчэ ў мацярынскім сэрцы надзея ўгаварыць сыноў застацца дома. Даволі, што бацька ваюе.

Сувязной, якую мы паслалі ў Казюры да Марыны, я даў наказ: пастарацца ўгаварыць малодшага застацца з маці. Няхай падрасце.

Сувязная — старшыня сельсавета, жанчына вопытная, сама вырасціла дзяцей — бадзёра запэўніла:

«Можаш не турбавацца, камандзір. У мяне ўсё будзе чынчынам».

Але нічога ў яе не атрымалася. У атрад прыйшлі двое — Валодзя і Пецця.

«Чарцянё, а не дзіцянё,— сказала Рошчыха пра малодшага, пра Пецю.— Яму хоць кол на галаве чашы».

Старэйшы, Валодзя, быў хлопец рослы, але ціхі, па-даросламу паважлівы і па-даросламу разумна асцярожны, хоць і смелы. Брат яго, Пеця, з выгляду зусім дзіця, больш дванаццаці гадоў яму ніхто не даваў. І па характары — вяртун, непаседа, свавольны насмешнік, нястрымны і нястомны на выдумкі і па-дзіцячаму неразважліва рызыкоўны — лез пад кожную кулю. Адным словам, клопату ён нам рабіў нямала. Камісар, начштаба, партызаны не раз патрабавалі: адаслаць яго назад да маці. Але я ведаў: нельга, хлопец пачне ваяваць адзін і... загіне. Ды і камандзіры адтавалі, даравалі яму ўсё, калі Пеця вяртаўся з разведкі. Лепшага разведчыка мы, бадай, не мелі. Па росту — дзіця, хлапчанё гаротнае, жабрачок бяздомны, а па хітрасці — прафесійны агент разведкі.

Пеця падаў заяву ў камсамол. Яго не прынялі, дамовіліся даць адчуць, што дысцыпліна ёсць дысцыпліна. Ён заплакаў ад крыўды, кляўся перад усімі, што больш ніколі не будзе выкідваць ніякіх «каленцаў», і ў той жа вечар камандзіру ўзвода, які першы выступіў супраць яго, укінуў у кацялок з супам жабу. Калі, як — ніхто не бачыў, ніхто не мог даказаць. Камузвода сам наліваў сабе суп. Яму трохі не вывернула ўсё нутро, тры дні есці нічога не мог. Камандзіры абураліся: Пецева работа.

Паклікаў Пецю.

«Зноў ты за свае штукі!»

«Ды што вы, таварыш камандзір, я першы павячэраў і ўжо мыў кацялок, калі яны прыйшлі, камузвода і ўрач».

«Так ты дагаворышся, што гэта зрабіў урач».

Вочы адразу закруціліся, як калёсікі.

«А што? Урач нам расказваў, што ў нейкага народу — забыўся ў якога — жаба — самая смачная ежа. Лепш за курыцу. Яны смажаць жаб і лапкі абсмоктваюць»,— прыцмокнуў і слінку каўтнуў, здавалася, гатовы сам тут жа абсмактаць жабіныя лапкі. Начштаба наш, Будыка, чалавек гідлівы, пагнаў хлопца з зямлянкі: «Пайшоў прэч! І не паказвайся мне на вочы!»

Пеця разумеў, што жабу яму не даруюць, хоць віна і не даказана. На другі дзень ён папрасіўся ў разведку — «пажабраваць» у гарадку: славакаў, з якімі нашы хлопцы пачыналі наладжваць сувязь, нечакана змяніла нямецкая ахоўная каманда. Колькі іх, як узброены — нам належала ведаць. Я згадзіўся адпусціць Пецю.

Начштаба бурчаў:

«Выгароджваеш ты гэтага прайдзісвета. Разведаць ён разведае, а пасля зноў будзе іграць на нервах, кідаць у кацялкі брыдоту. Дарослага партызана я судзіў бы за такія штукі».

«Засушыш жыццё. Зачарсцвеем без жартаў, інжынер».

Хадзіў Пеця ў разведку кожны раз у новай ролі. Акцёр быў. Талент! Нават жабракі яго не падобныя былі адзін на аднаго. Той раз ён з'явіўся, каб перад адыходам паказацца, у ролі маленькага паралітыка. У лахманах. Адна рука вісіць нежывая. Нагу цягне. Гаворыць злосна, а што — разабраць нельга.

Нават начштаба, настроены супраць хлопца, уразіўся. Пеця наступаў на яго, тузаўся ўсім целам, страшна махаў «нежывой» рукой і злосна лапатаў. Будыка адступіў, як бы баючыся, што «паралітык» дакранецца да яго, перадасць сваю хваробу. Начштаба збялеў. Сказаў мне:

«Нельга так, камандзір. Яны застрэляць яго з-за свайго «арыйскага гуманізму»: маўляў, навошта такому жыць? Такая ігра для набожных жанчын, а не для фашыстаў».

Я згадзіўся. Прыйшлося Пецю пераўвасабляцца ў другую ролю.

З разведкі ён ніколі не вяртаўся з пустымі рукамі. Я маю на ўвазе не толькі тое, што называецца па-вайсковаму разведачныя. Гэта ён рабіў як бы між іншым і, здавалася, часам не заўсёды разумеў, што для атрада звесткі пра ворага — самае каштоўнае. Ён яшчэ заўсёды стараўся прынесці рэчавы доказ таго, дзе быў, што бачыў. Ці проста тое, што патрэбна было атраду. Неяк улетку стала ў нас туга з соллю. Пеця прынёс кайстру солі. Ледзь прывалок. Але найбольш нас здзівіла, калі з адной са сваіх разведвылазак Пеця прынёс тры нямецкія мундзіры з усімі дакументамі, два аўтаматы, пісталет. Захацелася фашыстам пакупацца: лета, спякота, палезлі яны ў рэчку, а Пеця зграб усё і — у кусты.

Мяне трывожылі такія прыгоды малога разведчыка. Я не даваў Марыне ніякіх абяцанняў, акрамя таго, што зраблю сыноў партызанамі. Але я ўвесь час адчуваў сваю адказнасць перад ёй. Стараўся трымаць братоў Казюраў бліжэй да сябе: Валодзю — сувязным пры штабе, Пецю казаў, што ён разведчык пры камандзіру атрада, для асобых заданняў. Я хітрыў: у разведку стараўся пасылаць хлопца з

кім-небудзь з дарослых партызан, з бацькоў, якія аберагалі б яго, стрымлівалі ад непатрэбнай рызыкі.

Але атрымалася так, што я сам мусіў паслаць дзяцей Марыны на смерць...

У жніўні сорак другога мы зрабілі нядоўгі рэйд за Дняпро. Мелі мэту — сарваць акупантам хлебанарыхтоўкі, пусціць чырвонага пеўня на іх склады. Дзе ўдасца — забраць збожжа і схаваць на зіму. Атрад рос. За паўгода вырас трохі не ў тры разы. Людзей трэба карміць.

З'яўленне партызан у бязлесным раёне, дзе акупанты і паліцаі адчувалі сябе гаспадарамі, нагнала на іх страх і паніку. Першыя дні мы палілі склады, раздавалі нарабаваны фашыстамі хлеб тым, хто яго сеяў,— сялянам, адаслалі абоз у лес, не сустракаючы сур'ёзнага супраціўлення. Без баёў. Дзе-нідзе паліцаі, уцякаючы, пальнуць — і ўсё. Але праз тыдзень немцы кінулі на нас батальён СС. Механізаваны. Карнікаў, якія выхваляліся, што ачысцілі ад партызан не адзін раён. Уступаць з імі ў бой мы не маглі — сілы няроўныя, ды і пазіцыі не тыя, што ў лесе. У такіх выпадках галоўнае — адарвацца ад ворага. Каб падмануць карнікаў, невялікая група партызан інсцэніравала ўначы прарыў на захад, у палескія лясы, па дарозе ўчыніла дзёрзкі налёт на даволі буйны паліцэйскі гарнізон. Здалося, што фашысты клюнулі на гэта. Дзесяткі машын, два танкі кінуліся даганяць нашых разведчыкаў. Атрад рушыў у другі бок. Але ворагі не дурныя, яны ведалі, адкуль мы прыйшлі і куды можам адыходзіць. На пераправе, нашай, партызанскай, чакалі ў засадзе паліцаі. Мы, канечне, маглі разбіць іх. Але наўрад ці памагло б гэта нам пераправіцца з ходу. Кожны разумеў, што чоўны нашы і плыт захоплены, што на тым, лугавым, беразе таксама ворагі. Прытым, калі тут — паліцэйскі зброд, слаба навучаны і дрэнна ўзброены, то там напэўна карнікі, з аўтаматамі і мінамётамі. Не выяўляючы сваіх сіл, свайго агню, я кінуў атрад уніз па рацэ. Не ішлі — беглі. Уцякалі ад ворага. Для партызан гэта не ганебнае слова — уцячы. Мэта: пакуль не развіднее, пераправіцца любымі сродкамі. Нам нямнога трэба. Паўдзесятка рыбацкіх чоўна ў для кулямётаў, для тых, хто не ўмее плаваць, для раненых. Фурманкамі можна ахвяраваць, хоць і шкада. Большасць людзей і коні пераплывуць самі. Лета было спякотнае, і Дняпро абмялеў.

Але ў кожным сяле, дзе можна было дастаць чоўны ці бярвенне, атрад сустракалі паліцаі. Адкуль іх столькі ўзялося! Яны не лезлі ў бой, але ўзнімалі трывогу. Ясна: давалі сігнал, дзе мы. Па гэтых сігналах за намі ішлі — убачылі хлопцы з групы прыкрыцця — па тым, лугавым, і лясным партызанскім беразе, карткі. Рабілася ўсё, каб не даць атраду пераправіцца, каб навязаць бой на бязлесным беразе сярод белага

дня. А дзень наступаў. Там, над нашым лесам, такім блізкім і прывабным, святлела неба. Але да лесу, да нашых балот, дзе і ў жніўні даймалі камары, зрабілася далёка. Перапраўляцца нельга. Неразумна. Навошта ставіць людзей пад кулі? Лезці на ворага ў лоб — не партызанская тактыка. Мяне не так ужо палохала, што мы застанёмся яшчэ на дзень тут, у палявым раёне, і мусім зрабіць доўгі і цяжкі марш, каб увесці ворага ў зман, заблытаць сляды.

Але... Паверце, я чалавек без забабонаў. Са школьных год не верыў ні ў якія дзівосы. Аднак, здаецца, менавіта з таго часу, з тае ночы я пачаў верыць у адно: у прадчуванне. У роспачы крычыць маці ў той жа дзень, можа ў тую секунду, калі за сотні і тысячы кіламетраў гіне сын. Відаць, калі-небудзь вучоныя адкрыюць нейкія біятокі, растлумачаць і такую з'яву. А можа ўсё гэта прасцей? Такое прадчуванне рэдка бывае ў маладых, у якіх не так многа клопатаў. Часцей — у тых, хто нясе найбольшы цяжар адказнасці за людзей. Можа гэта як кульмінацыя ці выбух іх бясконцай трывогі, хваляванняў, што доўга смокчуць сэрца і накапліваюцца ў ім, як атрута, як узрыўчатка.

Пра лагер я думаў увесь час. Вельмі магчыма, што і трывога жыла, схаваная ці заглушаная іншымі думкамі, турботамі. А тут раптам ударыла ў самае сэрца, я вам скажу, проста-такі фізічным болем. І цяпер я помню, адчуваю яго, гэты боль. Як толькі стала ясна, што пераправіцца не ўдасца, што трэба адводзіць атрад ад Дняпра, у абход фашысцкіх заслонаў, як тут жа і ёкнула: лагер! Наш лагер! Хто мог запэўніць, што немцы не ведаюць, дзе ён? Ці не таму так упарта перагароджваюць нам дарогу дадому, што рыхтуюць напад на лагер? Наўрад ці яны спадзяюцца разбіць нас тут, у адкрытым баі. Не вельмі мы пойдзем на такі бой. Шукай ветра ў полі. А вось абяскровіць, знішчыць базу, запасы... У лагеры невялікая ахова, раненыя, жанчыны, дзеці... Не, дзяцей у той час было нямнога, сямейныя атрады з'явіліся пазней, пасля вялікай карнай экспедыцыі, калі немцы папалілі сёлы. Але і тады ўжо ў нас жыла маленькая дзяўчынка... Віта, ёй было ўсяго восем месяцаў. Яна нарадзілася ў атрадзе ў снежні сорак першага, у нашу першую партызанскую зіму. Суровую зіму...

Іван Васільевіч, расказваючы, увесь час глядзеў у залу — вузкі і доўгі пакой, заліты яркім святлом лямп, з чарцяжамі электрасхем на сценах.

Не, чарцяжы ён угледзеў упачатку, між іншым. А праз усю гутарку бачыў толькі адно: вочы гэтых прыгожых хлопцаў з акуратнымі прычоскамі, чорнымі, бялявымі, каштанавымі, у ладна падагнанай флоцкай амуніцыі... Яны шчыльна сядзелі за чорнымі столікамі,

за якімі вывучалі адмысловую тэхніку па гэтых чарцяжах, і на крэслах уздоўж сцен (за столікамі месц не хапала).

Некаторыя сядзелі ў акулярах, і вочы іх нельга было разгледзець. Іван Васільевіч здзівіўся: ніколі не бачыў у арміі столькі людзей у акулярах. Нават у вайну.

Слухачы напачатку глядзелі на яго па-рознаму: адны са шчырай цікавасцю ў вачах, другія — з іранічным прыжмурам: маўляў, паглядзімо, чым ты нас здзівіш! Трэція — з абыякавасцю: усё мы ўжо чулі. Частка са стомленасцю, якая адбівалася па-рознаму: ат, усё адно, хоць адпачну! Ці наадварот: не разводзь толькі баланду надоўга, хапае з нас дакладаў без твайго.

Антанюк разумеў іх. Ва ўсякім разе, пасля размовы з сынам здавалася, што ён разумее гэтых хлопцаў значна лепш, чым іх універсітэцкіх равеснікаў — Надзіных сяброў. І павагі да матросаў адчуваў больш. Любові. Бацькоўскай. Падумаў, што гэта не зусім справядліва да тых, хто бяссоннымі начамі грызе квантавыя тэорыі — як Лада. Супакоіў сябе, што сэрцу не загадаеш, каго любіць больш, каго — менш. Нарэшце, усё мяняецца ў залежнасці ад часу, абставін, настрою. Можа здарыцца, праз тыдзень ці месяц такое ж замілаванне — відаць, старэчае ўжо пачуццё — з'явіцца да некага іншага. Да Лады — напэўна. Лада — пастаянная часціна яго любові.

Ва ўсякім разе адчуванне таго, што ён здагадваецца, пра што думаюць гэтыя хлопцы, памагло яму, кажучы мовай лектараў, «наладзіць кантакт з аўдыторыяй».

У вачах іх адбівалася featureрознае, пакуль ён расказваў пра партызанскую вайну ў яе агульных рысах. Значыцца, нікому з іх не абыякава, што рабілася тады. Калі ж пачаў пра гэты канкрэтны эпізод, ва ўсіх вачах загарэлася адно. Нават акуляры пачалі пускаць зайчыкі-маланкі зусім па-іншаму. Усе... акрамя. Акрамя сына. У Васіля ўсё яшчэ таілася — не ў вачах — у складках вуснаў іранічная ўхмылка. Вельмі знаёмая ўхмылачка — яго, Антанюкова; ён вось такой усмешачкай «выбіваў з сядла» многіх.

Не так даўно адзін высокі госць Белавежы, цяпер такі ж пенсіянер, як і ён, Антанюк, пасля палявання, у часе абеду, нечакана раскрычаўся: «Мне вельмі не падабаецца ваша ўсмешка! — і паказаў пальцам: — Ваша! Ваша!! Хто вы такі?» — хоць добра ведаў, хто ён такі,— разам палявалі. З таго дня пачалася падрыхтоўка да ўрачыстых провадаў яго, Антанюка, на пенсію. А можа провады таго, госця, рыхтаваліся яшчэ раней?..

Іван Васільевіч з любоўю, без злосці, прасіў у думках сына:

«Не трэба, Вася... Не трэба іроніі. Учора на беразе, каля абеліска, ты быў зусім іншы. Але, я напрасіўся на выступленне. Напрасіўся, упэўнены, што гэта патрэбна табе і тваім сябрам. Ты сам падказаў мне гэта ў размове каля помніка».

Васілёва іронія, усмешачка тая, у міг знікла, калі ён, Антанюк, сказаў пра Віту. Сын застыў, напружыўся, выцягнуў наперад галаву, як бы жадаючы наблізіцца, каб не прапусціць не тое што ніводнага слова, але ніводнага бацькавага руху. Гэта амаль спалохала Івана Васільевіча. «Што ён ведае? Нічога ён не ведае. Ці можа да яго дайшла няпраўда? Калі яны з Ладай былі малыя, у маці зрэдку вырывалася жаночая крыўда».

Такая нечаканая сынава цікаўнасць трохі збіла з панталыку.

— Многа людзей на абарону лагера паслаць мы не маглі. Па-першае, нельга абяссільваць атрад. А раптам нам усё-такі прыйдзецца весці бой, прарывацца з акружэння? Трэба сіла. Па-другое, не кожны партызан з ходу, уначы, упэўнена і без рызыкі мог пераплыць Дняпро. Не хапала яшчэ патапіць людзей. У спешцы такіх смельчакоў набралася чалавек дзесяць. Казюры, Валодзя і Пеця, былі пры мне. І я сам паслаў іх. Можа мне здалося, што яны будуць у большай бяспецы, чым тут, з намі. Вельмі можа здарыцца, што нам прыйдзецца прарывацца з баямі, і Пеця палезе пад кулі, як ужо лез не аднойчы. Там жа яшчэ невядома — будзе напад на лагер ці не. Можа трывога мая дарэмная. Калі і будзе, групе не ставілася задача абараняць лагер. Перш за ўсё: вывесці з-пад удару раненых, жанчын. Паспрабаваць, безумоўна, затрымаць карнікаў да прыходу атрада. Калі ж будзе відаць, што гэта немагчыма,— узарваць склад, майстэрню, спаліць зямлянкі. Камандзірам групы я пасылаў чалавека разважлівага, асцярожнага — былога вайскоўца, інжынера Будыку. Праўда, ён баяўся вады. Але яго заспакоілі: маўляў, нічога, таварыш начштаба, з намі не патонеце, калі вы не калун і хоць трохі ўмееце боўтацца — падтрымаем.

Не сказаць, што група затрымалася ў дарозе. Пасля мы высвятлялі ўсе акалічнасці. Аднаго плынь ракі аднесла далей, другі выбраўся бліжэй — хто як плаваў. Людзям прыйшлося пэўны час збірацца ў лазняках, у тумане. Пра сігналы не дамовіліся; тут і мая віна — не падказаў, не прадбачыў. Гукаць баяліся: хто ведае, дзе вораг? Свісталі па-птушынаму. Траіх не знайшлі: аднаго немаладога партызана і братоў Казюраў.

Будыка палічыў, што яны патанулі або, спалохаўшыся, павярнулі назад.

Дагэтуль невядома, якім чынам Валодзя і Пеця апынуліся ў лагеры гадзіны на дзве раней за групу. Можна толькі здагадвацца: ці то беглі ўвесь час, голыя, босыя, каб сагрэцца, ці — што больш верагодна — напаткалі ў лузе коней. На балоце хлопцы ўгледзелі, як немцы і паліцаі прабіраюцца да лагера. Абышлі карнікаў, узнялі трывогу. Вельмі своечасова. Перадалі загад: раненым, жанчынам адыходзіць цераз балота ў Руднеўскі лес. А самі разам з хлопцамі з лагернай аховы сустрэлі карнікаў на ўзлессі, на нашых «мінных палях». Бой быў няроўны: ворагаў сотні паўтары, хлопцаў — жменька! Яны амаль усе загінулі да прыходу групы Будыкі, якая налётам з тылу адцягнула карнікаў, прымусіла адступіць з лесу. Спалохаліся, гады, што вярнуўся атрад. Мы знайшлі толькі двух нашых раненых — тыя схаваліся ў кустах. Трупа ніводнага. Забітых фашысты забралі з сабой. Доказ удалай аперацыі.

Мы правялі жалобны мітынг — сімвалічна пахавалі сваіх сяброў, над целамі якіх недзе здзекаваўся вораг. О, з якім болем, з якой пакутай хаваў я Валодзю і Пецю! Што сказаць маці?

А дні праз два сувязныя паведамілі: браты Казюры ў палоне. Думаеце, стала лягчэй? Але з'явілася надзея: можа ўдасца выратаваць хлопцаў? Іх трымалі ў турме, у горадзе. Тут жа сувязны пайшоў да падпольшчыкаў: што можна зрабіць? Праз нашага чалавека ў паліцыі даведаліся, як браты трапілі ў палон. Калі з групы аховы ўжо нікога не асталося, Пеця, малы Пеця, выносіў свайго цяжка параненага брата. Хацеў адцягнуць у балота, схаваць у лазняках. Там іх дагналі. Схапілі. Хутка падпольшчыкі перадалі, што Валодзя памёр ад ран. Застаўся адзін Пеця.

Мы ведалі — яго катуюць, дапытваюцца: колькі нас, якая зброя? Дзе запасны лагер? Дзе схавалі збожжа?

Кажуць: час лечыць усе раны, забываюцца болі фізічныя, пакуты душэўныя. Не, я не забыў. Нічога. Тых бяссонных начэй, болю ад думак, што там, у горадзе, у турэмных мурах, б'юць, паляць агнём хлопчыка, дзіця. Ён быў не толькі баец атрада, ён — мой сын. Мяне прасіла маці. Што скажу ёй? Навошта я паслаў яе сыноў? Але не хто іншы, а яны, браты Казюры, ратавалі іншых людзей — жанчын, раненых... Пакуль бы да лагера дабралася ўся група! А яны — што тыя казачныя героі. Нібы на крыллях даляцелі.

Вярнуць мацеры хоць аднаго сына! Але як вырваць яго? Думаў я. Думалі ўсе камандзіры. Увесь атрад. Падпольная група ў горадзе. Дзейнічалі. Але здзейсніць планы не ўдавалася. Мусілі пайсці на перагаворы з ворагам. Упершыню. Прапанавалі абмяняць Пецю на паліцаяў — немцы не адказалі. Што ім нейкія здраднікі, халуі!

Зноў бяссонныя ночы, боль і пакуты. У адну з такіх начэй я не вытрымаў. Падняў разведчыкаў, ускочыў на каня. Нават камісару і начштаба нічога не сказаў. Далёка было ад нашага новага лагера да Казюраў. А жнівеньская ноч яшчэ не вельмі доўгая. Калі ўжо днела, дабраліся туды. Хлопцы сталі — двое на вуліцы, адзін на гародзе: паліцаі насцярожаныя пасля нашых рэйдаў, усю ноч нясуць ахову, не тое, што зімой.

Я ціха пашкрабаў у акно. Марына прыпала тварам да шыбы, пазнала і... задыхнулася, сутаргава скамечыла пальцамі сарочку на грудзях і доўга так стаяла, анямелая. Адчыняць дзверы не пайшла — адчыніла акно, шумна, без перасцярогі, ударыўшы кулаком у раму.

Глуха спытала:

«Абодва? Калі? Дзе?»

Я расказаў, што здарылася. Яна не даслухала да канца.

«Я пайду да яго. Сёння ж».

Тут я зразумеў сваю памылку. Безумоўна, маці пойдзе, будзе прасіць у фашыстаў спаткання з сынам. А яны арыштуюць і яе. Маці партызанаў. За адно гэта гітлераўцы каралі смерцю. Выходзіць, яшчэ аднаго чалавека я пашлю на смерць. Яшчэ адзін камень ляжа на сэрца. Доўга прасіў Марыну не ісці: літасці ў іх не вымаліш, зусім нікому не патрэбна, каб пасадзілі і яе.

«Няхай,— адказала Марына,— памру разам з сынам».

Яна не плакала. Ніводнай слязы. Быццам скамянела. Каб стрымаць яе, я мусіў пайсці на ману. Мы вядзем перагаворы: памяняць Пецю на палоннага афіцэра. Няхай яна пачакае два-тры дні, наш сувязны, а можа і сам я штодня будзем прыходзіць да яе і расказваць, як ідуць перагаворы. А так, пайшоўшы адразу, памагчы яна нічым не здолее, а нашкодзіць можа. Напэўна нашкодзіць.

Жанчына паверыла. І адразу падумала пра нас: каб нікому з партызан не рызыкаваць, не трэба прыходзіць у вёску, дзе шныраць паліцаі,— яна будзе чакаць нас у лесе, каля спаленай леснічоўкі, штоноч з вечара да раніцы. Нішто яе не страшыла — абы ўратаваць сына.

Яшчэ з большым каменем на сэрцы вяртаўся я з Казюраў. Што скажу гэтай жанчыне заўтра, паслязаўтра? Каб ён быў у нас, гэты палонны афіцэр, хоць які-небудзь! Не так проста яго ўзяць за дзень, за два. А час не чакае — Пецю могуць расстраляць, павесіць.

Наш асцярожны камісар Вася Шугановіч, які неаднойчы стрымліваў мяне ад такіх вось парываў — рызыкоўных аперацый,— панура маўчаў, калі я сказаў, што сам іду з разведчыкамі за Сож, на шашу Гомель — Чарнігаў, каб захапіць афіцэра; там яны часта ездзяць.

Мы ляжалі ў засадзе двое сутак. Тры ночы Шугановіч ездзіў да Марыны, усё больш і больш пераконваючыся, што яна перастае верыць у яго легенду пра тое, як я вяду перагаворы, кружу з атрадам вакол горада. Пасля казаў: больш ніколі ў жыцці не стане выконваць такой місіі. Больш яму і не прыйшлося...

Нам пашанцавала: мы такі кульнулі сярод белага дня «опель-капітана». Акуратненька спусцілі. Толькі шафёр зламаў руку, пасажыры наставілі гузакі — усяго. Іх было двое. Афіцэр-тылавік, оберлэйтэнант, нейкі ўпаўнаважаны імперскага ўпраўлення ці камісарыята па выкарыстоўванню прамысловых рэсурсаў усходніх зямель. Нашых зямель! Другі — цывільны, прадстаўнік лесагандлёвай фірмы.

Там жа, у лесе, каля шашы, я напісаў пісьмо фельдкаменданту. Калі нямецкія ўлады хочуць захаваць жыццё сваім «сынам фатэрланда», дваім, партызаны згодны памяняць іх на свайго сына — хлопчыка, дзіця, якога трымаюць у турме. Адпусцілі шафёра. Забінтавалі яму паламаную руку. Цывільны панура маўчаў. Інтэнданцік, ляскаючы ад страху зубамі, лісліва прасіў шафёра любым чынам даставіць пісьмо, а галоўнае — перадаць яго ўласнае пасланне, якое мы дазволілі яму напісаць. Абяцаў шафёру высокую ўзнагароду: «Вам пашанцавала, Томас. Вам проста пашанцавала».

Не ведаю, якім бокам вылезла салдату тое «шанцавала».

Марына такі не дачакалася. Маці ёсць маці. Пайшла ў райцэнтр. Можа да яе прыходу пазванілі з Гомеля. Ці можа ў гестапа былі свае разлікі. Невядома. Але ёй далі спатканне з сынам. Яе не арыштавалі. Нават шпік, здаецца, не сачыў за ёй: куды яна пойдзе, з кім сустрэнецца?

Гестапа згадзілася памяняць хлопца на немцаў, якіх мы захапілі. Нават зрабіла жэст: адпусцілі з турмы раненага партызана з атрада Каткова, ён прынёс пісьмо — дзе сустрэнуцца парламенцёры. Маўляў, двух на двух. Нас такая велікадушнасць насцярожыла. Начштаба Будыка адмовіўся ісці на перагаворы. Сказаў: «Не веру я фашыстам. І сам у пастку не палезу». Пайшоў камісар Вася Шугановіч. Нічога. Вярнуўся, дамовіўшыся пра час і месца абмену. Але Будыка казаў праўду: фашысты ёсць фашысты. Ні гонару, ні сумлення — нічога ў іх няма. Адна звярыная хітрасць.

Абмен павінен быў адбыцца ў чыстым полі паміж вёскай Рудняй і лесам. У вёсцы — немцы, у лесе — мы. Роўна ў дзевяць з лесу пад канвоем двух партызан выйдуць палонныя інтэндант і лесагандляр, з вёскі — Пеця пад канвоем аднаго немца.

Само сабой разумелася, што з двух бакоў на месца сустрэчы будуць нацэлены кулямёты і ўся іншая зброя — хто што мае. Вядома,

у фашыстаў зброі больш. Мы гэта ўлічвалі. Мелі на ўвазе і тое, што гітлераўцы не ўтрымаюцца ад спакусы акружыць нас. І не памыліліся. Разведчыкі напярэдадні ўстанавілі, што лес ачэпліваюць: значныя сілы карнікаў і паліцаяў залягаюць тайком у хмызах, у равах.

Сабраўся ваенна-палітычны савет атрада: што рабіць? Ніхто не прапанаваў адмовіцца ад аперацыі: Пецю трэба вырваць з іх лап. А на хітрасць ворага адказаць хітрасцю! Атрад пойдзе ў гэты невялікі лес. Атрад дасць сябе акружыць. Але тых, хто акружыць нас, возмуць у клешчы атрады Каткова і Касача. Пры нашым атрадзе тады знаходзіўся сакратар падпольнага абкома Ружак, ён каардыніраваў дзеянні атрадаў зоны. Ён першы выказаў такую прапанову. Дамовіцца з суседзямі было лёгка. Між іншым, якраз у той час вялася падрыхтоўка да аб'яднання атрадаў у брыгады. Выпадак даваў магчымасць выпрабаваць у баі галоўныя сілы будучай брыгады.

Мы ўсё прадугледзелі і ўсё спланавалі. З вайсковай дакладнасцю. Па законах партызанскай тактыкі. Усё ўлічылі, акрамя той подласці, на якую здатныя толькі фашысты. Нікому з партызан і ў галаву не прыйшло, што яны пойдуць на такое...

Роўна ў дзевяць з-за калгаснай канюшні выйшлі двое: немец і хлопчык. Нават за паўтара кіламетра я разгледзеў, што ў Пеці забінтавана галава. Ён ішоў павольна, хістаючыся. Сціскаліся кулакі: каталі, гады, дзіця, перадаюць нам збітага, скалечанага. А мы іх палонных пальцам не кранулі, перадаём накормленых, паголеных, пачышчаных.

Свярбелі рукі, гарэла сэрца... Але — чорт з імі! — абы Пеця быў жывы!

Інтэндант, сволач, адказыраў мне. Цывільны пакланіўся. Трохі не пабеглі, узрадаваныя. Канвойным прыйшлося стрымліваць. Сустрэцца павінны ў пэўным месцы — пасярод поля.

З-за канюшні, з садоў бліскалі зайчыкі ад нямецкіх біноккляў.

Але... што гэта?! Калі групы амаль сышліся, адзін наш канвойны, Сенька Гарун, адскочыў, замахаў рукамі, закрычаў. Яўна даваў сігнал: правакацыя! Правакацыі мы прадугледжвалі. Але якая тут правакацыя, у чым — не адразу сцямілі. Убачыў у бінокль, як нямецкі канвойны выхапіў пісталет і стрэліў у Гаруна. Той упаў. Другі наш канвойны, Ваня Ткачоў, стрэліў у немца. Абодва ўпалі адначасова. Інтэндант і камерсант што ёсць сілы кінуліся бегчы да сваіх, махаючы рукамі... Гэта іх загубіла: не ваенныя, не мелі вопыту. Кулямётчык наш не стаў чакаць каманды. Ударыў адразу доўгай чаргой.

Той, каго мы лічылі Пецем, кінуўся ўбок і бег па фронту, не набліжаючыся ні да нас, ні да немцаў. І як бег! Ляцеў! Тады толькі я

зразумеў, што замест Пеці нам хацелі перадаць кагосьці другога. Забінтавалі, каб не адразу пазналі.

Я папярэдзіў сваіх:

«Па хлапчуку не страляць! Біць па канюшні!

Па садах!»

Канвойныя жывыя. Іх і наш. Залеглі, перастрэльваюцца. З дрэва, на якім я сядзеў, відно было, як Ваня адпаўзаў па разоры.

За лесам ударыў нямецкі мінамёт. Пачаўся бой, у якім фашысты спадзяваліся знішчыць атрад. Але самі трапілі ў пастку. Зводны паліцэйскі батальён, пастаўлены, каб перагарадзіць нам дарогу ў вялікі лес, быў разгромлены ўшчэнт. Эсэсаўская механізаваная зондэркаманда, вырываючыся з акружэння, пакінула аўтамашыны і мінамёты. Але і нашы страты ў тым баі былі немалыя. Загінуў Вася Шугановіч, мой камісар, мой друг. Не ўратавалі Пецю. Палонныя расказвалі: яго расстралялі ў тую ж раніцу на турэмным двары. Такі страшны быў для іх той хлопчык, што фашысты баяліся памяняць яго на двух сваіх. Яны нават баяліся вывезці яго за горад, бліжэй да партызан. Нам хацелі перадаць беспрытульніка, які сядзеў у турме за кражу.

Марыну прывезлі на пахаванне партызан. Сярод тых, хто ляжаў у трунах, не было яе сына. Але мы хавалі і яго.

Труны стаялі пад соснамі побач з толькі што выкапанай брацкай магілай. Вакол сядзелі стомленыя партызаны: раненых павезлі ў лагер.

Партызаны падхапіліся, як па камандзе, калі маці падышла. Пастарэлая, ссутуленая, у чорнай хустцы — помню, бачу яе і цяпер — Марына падоўгу стаяла каля кожнай труны, узіраючыся ў твары забітых. Не, яна не плакала. Зрэдку варушыліся засмяглыя вусны. Што яна казала? Чытала малітву? Ці слала праклёны забойцам? Я баяўся: ці не памутнеў ад гора яе розум?

Дайшла да апошняй труны. Пастаяла гэтак жа. Павярнулася, каб ісці далей — куды? — і ўбачыла мяне. Я не мог вымавіць слова — душылі слёзы. Схіліў перад ёй галаву, гатовы пачуць крык мацярынскага болю, папрокі. Яна магла спытаць: чаму я не ўпільнаваў яе сыноў? Магла ўдарыцца аб зямлю з крыкам: «Дзе мае дзеці? Вярніце маіх сыноў!»

Як малому, Марына паклала мне руку на галаву, правяла шурпатай даланёй па шчацэ.

«У цябе гарачка».

Я быў ранены ў руку, прайшла ноч пасля бою, мяне паліла. Нехта з партызан, з мужчын, усхліпнуў. Побач. Нехта з жанчын загаласіў.

Яна сказала:

«Пеця прасіў... «перадай, кажа, Івану Васільевічу... няхай мяне прымуць у камсамол. Я ж не такі, як яны думаюць. Я, кажа, мамачка, ведаеш які! Я ім слова не сказаў! І не скажу!» А сам... жывога месца на ім не было»,— і тут яна зарыдала. Не загаласіла па-жаночаму. А зарыдала надрыўна, глуха, як плачуць ад вельмі вялікага гора.

Ніхто нічога не спытаў, калі нампаліт запрасіў слухачоў задаваць дакладчыку пытанні.

Іван Васільевіч трохі збянтэжана сказаў, што ніякага дакладу ён не рабіў. Яны зразумелі яго, гэтыя хлопцы ў флоцкім адзенні, зразумелі, напэўна, лепш, чым іх капітан. Яны проста глядзелі на яго з большай цікавасцю і з большай павагай, чым упачатку. Антанюк быў удзячны ім за гэта. І за тое, што яны не запляскалі, калі ён вось так нечакана, на мацярынскім горы, скончыў свой расказ.

Адзін Васіль у тую хвіліну не глядзеў на бацьку. Панурыўшыся, разглядваў свае рукі, нібы адкрыў на іх нешта незвычайнае. Але на твары яго больш не блукала іранічная ўхмылка. Цяпер увогуле на ім нічога не адбівалася — ніякіх эмоцый.

Апладзіравалі горача пасля таго, як капітан ад іх імя падзякаваў за — ён не адразу знайшоў вызначэнне — «за змястоўную гутарку». Васіль не апладзіраваў. Не дэманстратыўна, безумоўна. І не з-за сціпласці. Проста думкі яго былі недзе далёка. Дзе? Пра што ён думаў?

Яму дазволілі правесці бацьку ў сяло.

Іван Васільевіч баяўся, што сын скажа што-небудзь такое, што можа сапсаваць яго добрае ўражанне ад сустрэчы, добры настрой ад усяго таго, што ўбачыў тут за два дні.

Васіль спытаў у «газіку» пры шоферы:

— А цяпер ты ведаеш пра гэтых людзей? Трымаеш з імі сувязь? Як яны жывуць?

— Пра ўсіх? Брыгада — гэта сотні чалавек... Прайшло столькі часу. Але з многімі сувязь ёсць. З некаторымі бачуся амаль штодня. З Будыкам, напрыклад. Да Марыны заязджаю зрэдку. Памагаю. Чым магу.

— А дзяўчынка, што нарадзілася ў атрадзе... Хто яна?

— Віталія? Мы былі рамантыкі. Бачыш, якое імя далі? У снежні сорак першага. Віта — жыццё. Верылі ў жыццё. Не бачыў яе гадоў сем. Тады яна была шчэ вучаніца.

— Дзетдомаўка?

— Не. Чаму ж! Яна жыла з маці. Маці яе настаўніца. На Палессі.

— А бацька?

— Бацька? Ён... ён загінуў... Загінулі многія. Адны са славай. Іншыя бясслаўна...

Дарога крута павярнула на горным схіле, фары выхапілі дзівосныя ўзоры зрэзанай выбухам скалы. Наперадзе замільгалі агні сяла. Яшчэ праз колькі хвілін выехалі ў даліну. Дарога праходзіла блізка ад берага, і нават праз шум матора пачуўся грукат прыбою. Было бязветрана, а мора ўсё роўна бушавала.

Васіль амаль з дзіцячай непасрэднасцю загаварыў пра мора. У бацькі раўніва сціснулася сэрца: прываражыла яно сына.

VI

У Гомелі ішоў снег. Сухі, лёгкі.

Ад гэтага Івану Васільевічу раптам зрабілася хораша, радасна. Быццам трапіў чалавек у родную стыхію. Быццам вярнуўся з Афрыкі, дзе не бачыў зімы многа гадоў. Ён так і падумаў з усмешкай пра Афрыку, бо ўсю дарогу ў купэ маладая маці чытала напамяць чатырохгадовай дачушцы:

Маленькие дети!
Ни за что на свете
Не ходите в Африку,
В Африку гулять!

Івана Васільевіча смяшылі гэтыя наіўныя вершы старога паэта. І засмучалі: чаму не чытаў іх сваім дзецям? Дзеці любяць алагічную фантастыку. Толькі дарослым трэба ва ўсім, у малым і вякім, жалезная логіка і глыбокі сэнс.

Ён накінуў паліто і выйшаў на перон. Захацелася глянуць на горад свайго юнацтва. Ён любіў гэты горад усё жыццё. Толькі аднойчы ён здаўся няўтульным і чужым — калі ўвосень сорак другога прыйшлося прыйсці сюды, каб арганізаваць пасля правалаў новы падпольны гарком, баявую групу яго.

Пасля вайны горад разбудаваўся. У цэнтры амаль нічога не засталося ад таго, што было да вайны. Але ўсё рабілася на яго, Антанюковых, вачах, і таму ён ніколі не сказаў: «Не пазнаць Гомель».

Усё новае неяк пастыпова, непрыкметна і вельмі натуральна ўваходзіла ў яго ўяўленне пра родны горад. Гэтак жа натуральна, як і тое, што былы хлапчук Іванька Проськін (чамусьці ў вёсцы малых Антанюкоў клікалі па іх бабулі — Просі) стаў пенсіянерам Іванам Васільевічам. Але ў нечым ён усё той жа хлапчук-рыбак, юнак-рабфакавец, які таптаў у гэтым горадзе драўляныя тратуары, партызанскі камандзір — гаспадар лясоў у міжрэччы Дняпра і Сожа. А не пенсіянер!

Можа ў нечым, самым галоўным, нязменны і горад. У чым? Дзіўнае адчуванне. Рэканструявалі вакзал, зрабілі тунель, збудавалі новыя дамы там, за пуцямі, у залінейным раёне, і тут, каля прывакзальнай плошчы; дамы як блізняты, падобныя на тысячы такіх жа дамоў у іншых гарадах. І ўсё роўна гэты вакзал не падобны на другія, па-ранейшаму ён знаёмы і родны — да спазмаў у горле, да болю ў сэрцы. Што яго робіць нязменным, такім, які запомніўся з таго далёкага часу, калі Іванька Проськін упершыню прыехаў у горад, каб паступіць на рабфак? Можа вось гэтыя пераходныя масты з грымучымі жалезнымі ўсходцамі, на якіх ён страчаўся са сваім першым юнацкім каханнем? Дзе яна, тая дзяўчына, цяпер ужо бабуля? Смешна. Кажуць, першае каханне не забываецца. Не забываецца юнацкі агонь, тваё адчуванне. А не яна, што запаліла гэты агонь. Яна знікла з памяці, як толькі прыйшло другое каханне, больш сталае, больш сур'ёзнае... Адбылося адмаўленне. Нярэдка ён дзейнічаў, гэты няўмольны закон. Аднак калі другое каханне нарадзіла сям'ю, дзяцей, ён, Антанюк, не дазволіў, каб іх адмовіла тое, трэцяе... Але вось яно сапраўды не забываецца, гэтае апошняе, нічым не адмаўляецца, ні ранейшым, ні пазнейшым... Хаця пазней нічога ўжо не было, акрамя ўспышак усё таго ж агню.

Правадніца папярэдзіла:

— Спазняемся. Стаянку могуць скараціць. Не адыходзьце далёка.

Іван Васільевіч ішоў па пероне да цеплавоза. Сняжынкі садзіліся на рукі, на твар, прыемна казыталі цёплым халадком. Але, бывае цёплы халадок і бывае халоднае цяпло — у прыродзе, як у чалавечых сэрцах. А самае нязменнае з усяго нязменнага тут — гэты снег, гэтая ціхая завея над горадам, якая засыпае чарнату асфальту і, як ніштo іншае, злівае горад з пpасторамі палёў, з лясамі, з першароднасцю зямлі. Можа таму і думкі так нечакана, так раптоўна скіраваліся туды, за гэтыя прасторы, за гэтыя лясы? Хіба так ужо нечакана?

Але, пазней нічога ўжо не было, акрамя ўспышак усё таго ж агню. І вось яна, яшчэ адна ўспышка. Можа апошняя? Не, яна зусім не такая. І прычына зусім інакшая. Тады гэта з'яўлялася ад яго чалавечай слабасці. А цяпер?

Цягнік крануўся.

Антанюк стаяў і глядзеў, як праплываюць вагоны. Часцей стукаюць на стыках колы. Вось і яго вагон. Правадніца ляпнула плітой, што закрывае ўсходцы, убачыла яго, адкінула пліту назад, крыкнула:

— Эх! Чапляйцеся! Ды хутчэй жа вы!..

Іван Васільевіч, не скрануўшыся з месца, з усмешкай памахаў ёй рукой.

...Паўла пахавалі без мяне. Каткоў прыехаў пасля. Гэтага не магу дараваць яму. Каткоў зайздросціў славе майго атрада. Як многія прафесійныя ваенныя, ганарыста лічыў, што адзін ён умее камандаваць, і я перад ім — што лапаць перад ботам. Ён, здаецца, ні разу не прыехаў першы, пакуль атрад яго быў самастойны. Ездзіў я.

Чаму Павел выбраў яго атрад? На злосць мне?

У мяне не было да Каткова ні рэўнасці, ні непрыязні. Але калі Павел пайшоў, я чамусьці падумаў тады: лепш, каб ён перайшоў да Касача.

Можа таму я адразу зразумеў, што здарылася няшчасце, — у той жа міг, як толькі ўбачыў Каткова ў сваім лагеры. Ён зусім не павайсковаму саскочыў з сядла — споўз неяк па-старэчаму. Я вылез з зямлянкі-майстэрні, дзе хлопцы рабілі міны.

Каткоў баяўся падняць вочы.

«Калі?»

«Пазаўчора».

Варухнулася надзея.

«Ранены?»

«Не. Наскочылі на засаду каля Рудні. Скасілі ўсіх траіх. Двое там і засталіся, паліцаі пахавалі. Паўла конь вынес. У гарачцы; трымаўся, відаць, яшчэ нейкі час. Знайшлі яго ў лесе, за кіламетр ад месца засады. Дзве кулі ў грудзі. Тры — у спіну. Стралялі ўслед,..»

Ужо ў дарозе, калі запараныя коні сцішылі бег і з натугай выцягвалі ногі з размоклай раллі, я, параўняўшыся, спытаў у яго:

«Чаму не паведаміў адразу?»

«Табе было б лягчэй?»

Не, мне не было б лягчэй. Не было б! І ты, Каткоў, не ведаеш, як мне цяжка было тады. І цяпер.

Гэта рана, якая не гоіцца. Ты не ведаў, чаму Павел перайшоў да цябе. Ці можа ведаў? Усё роўна. Нішто не перашкаджала табе зрабіць так, каб я сам пахаваў брата.

Я павінен быў глянуць апошні раз у яго твар перад тым, як навекі засыпаць зямлёй. Я такі не спытаў у цябе, Каткоў, дагэтуль не спытаў: ці зрабіў ты хоць труну? Я баюся, што ты адкажаш: не, не зрабіў, не да гэтага, маўляў, было. Ты заўсёды заставаўся вайскоўцам, неблагім камандзірам, але не заўсёды — чалавекам і другам. Ці можа ў нас зусім рознае разуменне гэтых паняццяў?

Што застыла на Паўлавым твары? Боль, роспач? Пэўна ведаю адно: не страх, не паніка. Была ў мяне пасля малюсенькая кропелька

суцяшэння: брат не сам палез пад кулі; засада нечаканая, смерць выпадковая. Павел хацеў жыць, хацеў змагацца. Ніхто на вайне не ведаў, калі і дзе стрэне сваю кулю. Мае хлопцы гэтак жа наляталі на засады. Павел мог гэтак жа загінуць у маім атрадзе. У разведцы ці ў баі падчас блакады. Колькі загінула! Я не аберагаў брата. Нікога не аберагаў акрамя... Але, акрамя хіба дзяцей. Я сам амаль штодня ішоў на смерць. І вёў на смерць партызан. Вайны не бывае без ахвяр. Аднак у маім атрадзе людзі гінулі радзей, чым у таго ж Каткова. Страты мы неслі меншыя, хоць баявых спраў рабілі больш. Выходзіць, усё-такі нейкім чынам мы бераглі людзей. Я, Шугановіч, Будыка... Здаецца, я раблюся падобным да тых мемуарыстаў, якія імкнуцца давесці, што былі самыя разумныя, прадбачлівыя, непагрэшныя; я пачынаю даказваць гэта самому сабе, у душным вагоне, пад стук колаў і бестурботны храп суседзяў. Не, я нічога не даказваю ні сабе, ні каму іншаму. Дваццаць два гады я караў сябе за смерць брата. Не хачу больш караць. Не трэба. Веру: Павел, адзіны хто мае права судзіць мяне... цябе, Надзя, каму я дазволіў бы зрабіць гэта,— цяпер, каб лёс адпусціў яму столькі часу пажыць, паназіраць, зразумеў бы нас і... дараваў бы. Хоць навошта нам даравaнне? Не хачу адчуваць сябе вінаватым! Ні перад кім! Нават перад Паўлам. Завошта?

Табе, безумоўна, адразу сказалі пра маё гора — чаму і куды паехаў я з Катковым. За дзень, які я праседзеў каля магілы брата, ты нямала пражыла. Калі я ўвайшоў у зямлянку, маленькая Віта — добра помніцца — надрыўна крычала. Ты трымала яе на руках. Памкнулася да мяне.

«Іван!..»

Не ведаю, што ты хацела сказаць, але я перапыніў:

«Не трэба!»

Ты спалохана адступіла ў куток, гушкала малую, шэптам прасіла:

«Цішэй, маленечкая мая, цішэй. Зараз, зараз...»

Што зараз? Што ты абяцала ёй? Нібы дзіця магло зразумець і супакоіцца.

Не помню, колькі прасядзеў я на калодзе, напэўна, доўга. Увесь час крычала дзіця. Яго крык, тваё мацярынскае гушканне не раздражнялі — наадварот, здаецца, супакойвалі, як напамінак пра жыццё і пра нашу мэту: змагацца за яго, за жыццё.

Чаму я нічога не сказаў тады табе, два тыдні назад, калі Будыка адкрыў мне вочы — з-за чаго Павел пайшоў з атрада? Чаго я спалохаўся? Можа збаяўся, што, даведаўшыся, што цябе кахае другі, маладзейшы, намнога маладзейшы, ты пачнеш думаць пра яго і я

адступлю ў тваім сэрцы ў цень? У каханні, у рэўнасці мы заўсёды застаёмся гарачымі юнакамі, трапяткімі і неразумнымі.

Цяпер гэта было жорстка — для абоіх нас жорстка — і можа нават абразліва для Паўлавай памяці. Ва ўсякім разе недарэчна. І непатрэбна.

«Ты ведала, што Павел любіў цябе?»

Захлынулася, быццам гарачага паветра хапіла.

«Я здагадвалася... у тэхнікуме...

І... пайшла за... таго. Эх вы!.. Племя!»

Сцялася, як ад удару. Прытуліла дзіця. Потым падняла кофтачку і дала малой грудзі. Віта змоўкла. Усё натуральна. Але ў самы першы момант мяне чамусьці абурыла, што ты, калі такое гора, вось так проста агаліла перада мной грудзі. Я трохі не абразіў цябе. І было сорамна глядзець на цябе, на твае грудзі. Я апусціў вочы, панурыўся.

«Не карай мяне, Іван... Павел не сказаў ні слова. Мы паехалі ў розныя школы».

Не пакорлівая просьба, а бадай-што папрок:

«Не карай мяне, бо я пакарана ўжо жыццём, людзьмі, богам».

Аднак тады гэта мяне мала кранула. Зноў заплакала Віта — усё-такі малака не было. Але дзіцячае кугаканне больш не супакойвала, бадай-што раздражняла нават. Я сказаў тое, дзеля чаго прыйшоў:

«Заўтра вас завязуць на Украіну, за Дабранку... Там ён не знойдзе вас,— і — як выяўленне сваёй слабасці — апраўдальна: — Інакш я не магу. Зразумей...»

Прыняла ты прысуд гэты пакорліва. Уздыхнула толькі. Доўга маўчала. А потым папрасіла. Не за сябе, не за дзіця — дзіўна і незразумела! — за яго, былога мужа, начальніка паліцыі.

«Іван. Я напішу пісьмо... Перадай яму,— імя не называла.— І ад сябе напішы. Прашу цябе. Няхай ён з'едзе куды, калі не можа прыйсці да вас. Дзеля дачкі сваёй. За яе прашу. Няхай рамантуе дарогі, пілуе дровы... Што яму трэба? Быў жа, здаецца, чалавек як чалавек...»

Для мяне гэта не было навіной. Ты ўжо аднойчы прасіла напісаць яму, папярэдзіць, параіць... Пакуль не позна. І я, здаецца, абяцаў. Але ў той момант усё маё нутро апаліла такая твая просьба.

Нічога не спытала пра Паўла — як ён загінуў? У хвіліну расставання не знайшла слова суцяшэння мне. Нічога не просіш для сябе. А пра каго паклапацілася! Ты ўжо ведала мяне: бачыла ў радасці і ў гневе. Глянуў — і ты зноў сцялася, быццам я замахнуўся чымсьці смяртэльна цяжкім. Збялела.

Я кінуў тое цяжкае, пра што дагэтуль не гаварыў табе:

«Ён асабіста расстрэльваў яўрэйскіх дзяцей».

Як ты закрычала! Але тут жа задушыла свой крык, быццам вырвала яго з грудзей. Зразумела: гэта прысуд! І ён запісаны ў нашых сэрцах. І ніякай амністыі не будзе, ніхто яе не вымаліць. Можа ў цябе самлелі рукі і ты баялася, што ўпусціш дзіця. Можа спалохалася чаго яшчэ больш страшнага — не ведаю. Але ты паклала малую на нары. І — дзіўна! — яна змоўкла. (Якія дробязі запомніліся!) Ты ступіла да мяне, папрасіла вачамі: падтрымай мяне. Ды твая першая просьба зрабіла мяне жорсткім і бязлітасным.

«А хто падтрымае мяне?!» — трохі не крыкнуў у лютасці. Але не крыкнуў. Проста не глядзеў на цябе, у прыгожыя вочы, затуманеныя болем. Глядзеў у падлогу, на чыста вымытыя дошкі. (У вашай зямлянцы хлопцы зрабілі падлогу. Цябе любілі).

Ты адступіла назад у свой куток і адтуль папрасіла:

«Не адсылай мяне, Іван! У мяне нікога няма, акрамя...»

«Не!» — амаль крыкнуў я і падняўся з калодкі.

Ты ўчапілася ў рукаў, затрымала.

«Прашу цябе яшчэ аб адным, Ваня, родны мой... Але абяцай... абяцай... Ты не зробіш гэта сам. Сваімі рукамі. Не рабі гэтага. Прашу».

Не адразу дайшло, аб чым ты прасіла. Дайшло — адразу зразумеў, што тварылася ў тваёй кволай і мужнай душы: ты сама даўно асудзіла яго, але ўсё яшчэ не траціла надзеі неяк уратаваць. І вось мусіла падпісаць канчатковы прысуд. Цяпер аддавала ўсю цеплыню мне. Аднаму.

Лёд майго гора, роспачы пачаў таяць. Але я баяўся тваёй цеплыні, я адгароджваўся ад яе жорсткасцю. Трымаўся ўжо за клямку, нахіліў галаву, каб пралезці ў нізкія дзверы, калі ты сказала:

«Бывай, Іван... Развітаемся. Дзякуй табе за ўсё. Я мела кропельку шчасця».

Першы парыў — вярнуцца, абняць... Але тады я, напэўна, не адаслаў бы цябе. А я не мог не зрабіць гэтага: вельмі свежая была рана ад смерці Паўла. Я выйшаў, асцярожна, ціха зачыніўшы за сабой дзверы зямлянкі. Пачуў, як зноў закрычала дзіця.

Ціхаходны цягнік спыняўся каля кожнага, здавалася, слупа. Каля кожнай вёскі — напэўна. Састаў цягнуў паравоз. Яшчэ паравоз. Стары безадказны служака, якога шмат дзе ўжо выціснулі маладыя прыгажуны цеплавозы і электравозы.

Паравоз выкідваў цяжкія пасмы дыму. Яны аблытвалі дрот, слупы. Але святло з вагонных вокнаў рвала іх, гэтыя пасмы. Тады, як бы ад злосці, дым сцёбаў па вокнах. Зрэдку сыпаліся іскры. Яны ляцелі ўгору і згасалі ў каламуці ночы. Узняўся вецер, ці што?

Але калі поезд спыніўся на станцыі, дзе гарэлі ліхтары, Іван Васільевіч убачыў, як ціха і роўна падаюць рэдкія сняжынкі. Ён прачытаў знаёмую назву. Вельмі знаёмую. Праўда, прыязджаючы на магілу брата, ён сыходзіў не на гэтай станцыі. На гэтай не быў, бадай, з вайны — праязджаў міма. Але адгэтуль бліжэй да таго месца, дзе знаходзіўся тады лагер атрада. Калі пайсці, то гадзін за пяць можна дабрацца. Ён не збіўся б з дарогі і ўночы, снегу тут яшчэ мала, поле яшчэ чорнае, дарогі натораныя.

Захацелася сысці. Гэтак жа нечакана, як у Гомелі. Падумаў, што дзіўныя ў яго парывы ў апошні час. Самому сабе іх цяжка вытлумачыць. Што здарылася? Ніколі, здаецца, за дваццаць гадоў вобразы людзей, што былі тады побач, мясціны і падзеі не стаялі вось так ярка ў вачах, не бунтавалі душу, не роілі думкі. Дзіўна. З Надзяй ён толькі што гаварыў так, быццам яна стаяла там, па той бок акна. Бачыў яе вочы, чуў голас, чуў, як крычыць Віта. Віта...

Аднаго не мог уявіць, убачыць — Віталію такой, якая яна цяпер. Падумаў: а навошта яна спатрэбілася яму? І на нейкі міг здалася недарэчнай сама паездка. Так, быў час, калі ён цікавіўся Віціным лёсам гэтак жа, бадай, як і лёсам родных дзяцей. Але вось ужо сем год мала што ведае пра яе. Дзяўчына стала далёкая і чужая.

Надзя пісала, па сутнасці, адзін раз у год: кароткую паштоўку, віншаванне са святам — з Першамаем. Чамусьці акуратна — толькі з Першамаем. Разы два, праўда, прыслала навагоднія віншаванні, але ў адказ на яго. Аднойчы толькі напісала не да свята: паведаміла, што Віта паступіла ў інстытут. Пра тое, што скончыла вучобу, не пісала. Дзе Віта цяпер? Як ставіцца да яго? Забылася? Ці ўсё яшчэ ненавідзіць?

Усё-такі тады, сем год назад, яго закранула, пакрыўдзіла, калі Надзя сказала ў машыне:

«Не магу больш, Іван. Не трэба больш. Віта ведае. З якой знявагай яна гаварыла са мной! Дачка ўзненавідзіць мяне. І цябе...»

Вось гэта і закранула, што яна, дзяўчо, якую ён вынянчыў у лагерных зямлянках, можа ўзненавідзець. Астатняе нішто асабліва не кранула. Што ж, не трэба — дык не трэба. Так яшчэ лепей: нідзе і ні ў чым ён не будзе раздвойвацца. Не той узрост, каб хавацца і маніць блізкаму чалавеку — Вользе.

Іван Васільевіч падумаў пра чамадан, што паехаў у Мінск. Што чыгуначнікі робяць з такімі рэчамі? Калі адчыняць — напэўна, знойдуць там нейкі дакумент, канверт з яго прозвішчам і адрасам. Прыгадваў, што там ёсць, у чамадане. Пісьмо Васіля Ладзе, але яно, здаецца, без адрасу. Ёсць кнігі... Калі пазвоняць дадому, жонка і Лада

спалохаюцца, узнімуць трывогу. Што ён скажа ім? Адстаў у Гомелі? Але з Гомеля лёгка пазваніць.

З'явілася думка: а можа вярнуцца? Бліснула, як кароткая ўспышка сумлення. Але была нейкая іншая, не асэнсаваная сіла, якая цягнула, вяла... Не ўпершыню ў жыцці аддаваўся ён гэтай сіле, гэтай душэўнай хвалі. Здаралася, што яна выносіла не туды ці не ў час. Але ні разу не вынесла ў адкрытае мора — на згубу.

Поезд зноў ішоў у ноч. Але чамусьці не стала дыму і іскраў. З цёмнага тамбура відно было поле, трохі ўжо зацярушанае сняжком. Мільгалі агні вёсак, блізкіх і дальніх. Цьмяныя агеньчыкі. Вулічныя ліхтары, ад якіх у неба ўзнімалася б зарыва, пра што так многа пісалі паэты, нідзе не ззялі. Аднак Іван Васільевіч адразу адзначаў, дзе вёска электрыфікавана, а дзе па-ранейшаму людзі сядзяць пры «карасіках». Вось і вулічныя ліхтары нават гараць — на ферме, безумоўна. А зусім па суседству, за які кіламетр, не больш.— напэўна, адзін і той жа калгас — скупа цэдзяць карасінавае святло вокны многіх хат — вёска немалая.

У тым сваім выступленні, якое, казалі, шмат каго ашаламіла, а для яго стала апошнім з такой высокай трыбуны, Іван Васільевіч казаў і пра гэта — як часам сярэднія лічбы затуманьваюць агульную карціну. Лічыцца калгас электрыфікаваным, а дальнія вёскі, хутары толькі здалёк глядзяць на гэтыя даброты цывілізацыі.

Сумна зрабілася ад думкі, што амаль два гады ўжо ён не актыўны ўдзельнік працы гэтых людзей, а сузіральнік. Усё свядомае жыццё памагаў хлебаробам ведамі сваімі, вопытам, працай... І цяпер адчувае, што мог бы зрабіць нешта карыснае, асабліва пры ўмове: яму вераць, што ён нешта разумее, як і дзе расце хлеб, а ён верыць другім — людзям вось у гэтых вёсках, агні якіх, розныя агні, вясёлыя і журботныя, аднолькава цёплыя, праводзяць рухомыя, але халодныя агні цягніка.

Падумаў зноў, што, вярнуўшыся, адкіне да д'ябла ўсялякі гонар і пойдзе на любую пасаду, якую прапануюць. Абы працаваць. Але тут жа адчуў, што не так гэта проста — плюнуць на свае прынцыпы, зламаць характар. Так можна дайсці да ўніжэння. А ён ніколі не ўніжаўся. Ні перад кім. Ва ўсякім разе, яму не сорамна за свае адносіны з людзьмі. З тымі, хто стаяў вышэй, і з тымі, кім ён кіраваў. Хто стаў блізкі, ішоў доўгія гады побач і з кім страчаўся выпадкова, як у цягніку.

Рабілася холадна, хоць стаяў у накінутым на плечы паліто. Але ў вагоне яшчэ размаўляюць, у адным купэ вясёлая кампанія гуляе ў карты, галасы іх далятаюць і сюды. А яму хочацца цішыні. Раней

цягнула да людзей. Цяпер больш даспадобы адзінота. Нядобрая прыкмета. Не сказаць, што меў чалавек беззаганны характар, але зусім не хацелася, каб цяпер характар у нечым змяніўся. Няхай застаецца, які ёсць. Цяпер надзвычай важна застацца ранейшым Антанюком. Ва ўсім. І ў тым, што сам ён і другія лічылі сілай. І ў тым, што было яго слабасцю.

Цікава, у якіх учынках выяўлялася сіла і ў якіх слабасць? Тое, што ён, стары чалавек, пенсіянер, як юнак, нечакана і з хваляваннем, едзе да жанчыны, з якой звязаў яго ваенны лёс,— сіла гэта ці слабасць характару?

А навошта гэтае раскладванне па паліцах: на адной — сіла, на другой — слабасць? У такіх вось нечаканых учынках — вышэйшае праяўленне свабоды, раскаванасці ад усіх умоўнасцей. І можа зусім не варта гэтак корпацца ў сваёй душы, займацца такім самааналізам? Праўда, навошта? Лепш пайсці і паспрабаваць заснуць. Выходзіць рана — гадзін у пяць, на лясной станцыі. Наўрад ці будзе там цішэй і цяплей, чым у вагоне, каб паспаць, пакуль развіднее. Пайсці ж адразу — можна збіцца з дарогі. Ды і не хочацца прыходзіць так рана, быццам крадучыся. Не, ён прыйдзе сярод белага дня. Як добры даўні друг. Яму і трэба толькі слова шчырага сябра тых далёкіх гадоў. Самага шчырага...

А ўсё-такі цікава — тое, што адбывалася паміж імі тады, у вайну, і пасля — было гэта выяўленнем слабасці ці сілы?

Выконваць прысуд над Сваяцкім мне не прыйшлося. І ніхто з маіх партызан гэтага не зрабіў. Паліцай знік. Нечакана. Ніхто не ведаў — куды.

Калі сувязныя прынеслі гэтую вестку, я адразу падумаў, што, відаць, Надзя ўсё ж нейкім чынам звязалася з ім і папярэдзіла, што яго чакае. Што ж, яе можна зразумець: ён бацька яе дзіцяці. Чорт з ім. Няхай знікае. Калі і ў другім месцы будзе сабакам — кары не мінуе.

Аднак, калі я ў той жа дзень, пазней, здаецца, ужо ўначы, у бяссонніцу, падумаў, што Сваяцкі мог пайсці да яе, да Надзі, што яны маглі з'ехаць ці сысці разам, мне стала нясцерпна балюча, я перажыў гэта, як самую злосную здраду. На другі ж дзень употай ад Будыкі, ад Шугановіча паслаў на Чарнігаўшчыну чалавека: ці там яна, куды завезлі? Як жыве? Як дзіця?

Камень зваліўся з сэрца, калі разведчык вярнуўся і перадаў: там, у сястры нашага Краўчанкі, жывая і здаровая, працуе ў полі, і дзіця здаровенькае. Я загадваў яму нічога не перадаваць ад мяне асабіста, нічога не казаць. Але, магчыма, партызан, хоць і немалады ўжо, не

вытрымаў, прагаварыўся, ці, вельмі можа быць, Надзя сама здагадалася, бо ведала гэтага партызана. Напэўна, прыход яго ўзбунтаваў яе душу.

Хто з нас праявіў слабасць, а хто сілу?

Тыдні праз два ці тры пасля гэтага ў спякотны дзень у зямлянку, дзе я адпачываў пасля аперацыі на чыгунцы, зайшоў Будыка са сваёй ухмылачкай. (Дурацкія ў цябе ўхмылачкі, Валянцін Адамавіч!)

«Для цябе сюрпрыз, камандзір».

«Які сюрпрыз?»

«Выйдзі — убачыш».

Не помню, пра што я падумаў, але ва ўсякім разе не пра Надзю, не пра тое, што яна можа вярнуцца ў атрад самавольна з такой далечы.

Яе затрымалі маладыя дазорныя — партызаны, што прыйшлі ў атрад за два вясновыя месяцы. Хлопцы не ведалі, хто яна. Прывялі пад дулам вінтоўкі, з падазронасцю — нешта ж добра жанчына гэтая ведае партызанскія сцежкі. А ў лагеры каля кухні яе адразу акружылі, Віта пайшла па руках. Малую гушкалі, шукалі, чым накарміць. Убачылі мяне — сціхлі, расступіліся. Яна, Надзя, узнялася з пянька, стаяла ў маўклівым чаканні. Пасля прызнавалася, што спалохалася, калі ўбачыла мяне. Упершыню за доўгую дарогу падумала пра тую кару, якая можа ўпасці на яе галаву за самавольства. Маю кару.

У яе быў выгляд жабрачкі, вартае жалю. Два дні ішла пад сонцам з дзіцем на руках. Босыя парэпаныя, запыленыя ногі. Засмяглыя вусны. Абпалены сонцам твар, выгаралыя бровы і валасы, з якіх на плечы спаўзала брудная хусціна. У зімовыя месяцы пасля родаў у яе быў на дзіва белы твар, белае цела. А цяпер усё сцямнела, проста счарнела. Нават валасы: былі русыя, а сталі нейкія цёмнаржавыя. Сама яна вельмі схуднела. Але твар не зблажэў ад гэтага. Наадварот, здалося мне, пахарашэў. Адбіліся на ім пакута і страх, але вочы, якімі яна паглядзела на мяне,— яны праменілі дзіўнае святло.

Што я адчуў?

У першы міг — абурэнне: хто цябе прасіў сюды? Пазней — жаль.

Яна глядзела на мяне. Не ўніжана, не па-сабачы. Прасіла, як можна прасіць вельмі блізкага чалавека. Спачатку — вачамі, потым — словамі, тымі ж словамі, што і два месяцы назад, але з большай настойлівасцю, нібы за час, што мінуў, атрымала права на такую просьбу:

«Не адсылай мяне...— але тут жа папраўілася: — Не адсылайце мяне з атрада, таварыш камандзір. Я не магу там... Я хачу быць з вамі».

Я маўчаў. Доўга. Маўчалі партызаны. Чакалі, што скажу я. Можа не ўсе хацелі, каб я дазволіў ёй застацца. Былі, пэўна, такія, якім хацелася пачуць, убачыць драму — праяву камандзірскага нораву, дакоры, жаночае маленне, слёзы ці яшчэ што. Але, бадай, больш за ўсё іншае ў гэтых знешне грубых людзей было мудрай народнай далікатнасці, такой жа стрыманай, як і іх чуласць. Я пераконваўся ў гэтым не аднойчы.

Надзя не паўтарыла просьбы. Не сказала ніякіх другіх слоў.

Рана, што пачала чуць-чуць гаіцца, забалела з новай сілай. Я падумаў, што прысутнасць гэтай жанчыны ў атрадзе штодня будзе напамінаць пра маё гора. Але самае небяспечнае — адчуў, што я слабы чалавек: мне ўжо хацелася падысці, узяць яе пачарнелыя ад працы, парэпаныя рукі ці — яшчэ больш — абняць, стомленую, змучаную, каб яна адчула, што не адзінокая, не забытая... Не цяжка здагадацца, як яно будзе далей, калі ёсць такі парыў, такія пачуцці.

Але, я слабы чалавек...

Першая загаварыла Люба. Старая маралістка! Зімой, калі даведалася пра нашу сувязь, давяла мяне да белага калення сваім бабскім асуджэннем, папрокамі. А тут раптам праявіла чуласць:

«Чаго ты, Іван Васільевіч, глядзіш на яе, як на матку боскую? Давай дазвол залічыць гэтага байца,— і падкінула Віту,— на кацельнае і ўсялякае іншае давольства. Будзе ў нас Віталія. Будзе і Надзея!»

Партызанкі, тады ўжо іх было ў нас некалькі, засмяяліся. Мужчыны маўчалі.

Як мне было выблытацца з такога недарэчнага становішча? Адчуваў, што выслаць з атрада — не вышлю. Але і сустрэць з абдымкамі... Перад партызанамі... Свіння Будыка! Не мог прыняць ціхенька, а пасля сказаць. Высунуў мяне. Цяпер, відаць, стаіць ззаду, назірае, цешыцца. Апанавала злосць. Не на яе, безумоўна. На сябе. На Будыку. На Любу. Вылаяўся:

«Не атрад, а цыганскі табар! Хутка бабы пачнуць камандаваць».

«У табары ніколі не камандуюць бабы,— адказала Люба.— А ты не крычы, як феадал! Цыганскі кароль!»

Будыка меў рацыю: Рошчыха часта вось так падрывала наш камандзірскі аўтарытэт. Мой і яго. Варта асекчы старшыніху. Але лепш не чапаць: на адно слова яна выпаліць дзесяць з гэтакай жа, калі не горшай, бесцырымоннасцю і незалежнасцю. Таму я сказаў спакойна:

«Даволі мітынгаваць! Гасцей не гоняць ад парога. Перш-наперш іх трэба накарміць. А там — будзем бачыць...»

Надзя ступіла да мяне. Хацела падзякаваць ці нешта іншае сказаць? Пасля клялася, што не помніць, які душэўны парыў зрушыў

яе з месца. Прызнавалася, што ў нейкі міг хацелася ўпасці на калені. Стрымалі людзі. Каб не стаяла іх столькі навокал.

Безумоўна, Надзя зразумела, што нікуды яе больш не адашлюць. І можа праўда хацела неяк падзякаваць. Але я павярнуўся і пайшоў ад іх, нічога больш не сказаўшы. Гэта — пасля прызнавалася — яе пакрыўдзіла. Жанчына ёсць жанчына: ёй заўсёды хочацца больш таго, што далі.

У зямлянцы я накінуўся на Будыку:

«Ты што выставіў мяне? Не было каму яе прыняць?»

«Я думаў — табе прыемна...»

Гаворыць пакорліва, вінавата, а ў вачах чэрці скачуць: бачыць, тып гэтакі, што мне прыемна.

Але, я слабы чалавек, мне было не проста прыемна — радасна, што яна вярнулася. Але я доўга таіў і душыў гэтае пачуццё. Ці так ужо доўга? Тыдзень, два? Не помню... Пазбягаючы страчацца з ёй, хадзіў на аперацыі — з разведчыкамі, падрыўнікамі, адзін — на сувязь з падпольнымі групамі. Не, аднаму ўдалося вырвацца, здаецца, раз ці два, не больш. А так — Вася Шугановіч хадзіў за мной ценем, сачыў, пільнаваў, папярэджваў. Лічыў, што пасля смерці брата я занадта рызыкую, лезу пад шалёныя кулі, што мяне трэба асцерагаць. Ах, Вася, Вася, друг ты мой дарагі! Не два разы ты мяне ўратаваў. А безліч разоў. У тое лета — штодня. А я не здолеў ўратаваць цябе, засланіць грудзьмі. Ты камандаваў групай на другім участку, ад лугу, дзе заляглі паліцаі, каб ударыць нам у спіну. Я ўбачыў цябе ўжо мёртвага, пасля бою. Дорага нам каштавала маё жаданне ўратаваць Пецю Казюру. Цяпер «аб'ектыўны гісторык», які не нюхаў пораху, можа палічыць маю задуму з абменам авантурнай, можа вінаваціць і судзіць. Але вы, мае партызанскія сябры,— вы разумелі. Шугановіч, Ружак, Будыка, Рошча, Краўчанка — усе прагаласавалі за. Нават суседзі — Каткоў, Касач — без доўгіх перагавораў прывялі свае атрады. Каткоў і дагэтуль лічыць той бой адным з самых удалых, пераможных.

А з чаго пачалося? Цяпер магу прызнацца. Са страху. Тады, над Дняпром, калі на працягу ўсяе ночы мы не маглі пераправіцца. Яшчэ і цяпер я адчуваю яго, той прыступ страху. Іх нямнога было такіх. Быў проста страх. Звычайны. За сваё жыццё. За другіх. А там было нешта большае, не спрадвечная эмоцыя. Я нясу асаблівую адказнасць. За лагер. За людзей. Але было яшчэ адно: недзе там, у лагеры, спала ў зямлянцы каля мацярынскіх грудзей дзяўчынка. Я помню дагэтуль, што адчуў, калі падумаў, што іх могуць забіць, маці і дзіця. Надзею і Віталію. Дзіўна спалучаліся вашы імёны! Хоць другое мы

прыдумалі самі, калектыўна, пад выццё снежаньскай завірухі, слухаючы зводку аб разгроме немцаў пад Масквой. Цяпер я ўжо не помню, хто прапанаваў такое імя — рацыяналіст Будыка ці рамантык Шугановіч. Помню, што «хрысцілі» мы дзяўчынку не адразу, а толькі пасля таго, як маці пачала ачуньваць ад пасляродавай гарачкі.

Дзіцячы крык, які мы пачулі, вярнуўшыся з рэйду, перавярнуў душу не аднаму мне. Не аднаму мне ў той суровы снежань дала сілы барацьба, якую мы павялі, каб ўратаваць іх жыццё, гэтым кволым істотам. Усе ўхвалілі, калі я сам паехаў па сёлах шукаць карміліцу ці карову. А потым была слабасць — і мяне асудзілі. Павел, Рошчыха, Шугановіч. Адзін Будыка цынічна жартаваў — маўляў, такі закон: «Лепшы конь і лепшая жанчына заўсёды належалі правадыру племя». І, безумоўна, зайздросціў, што не ён «правадыр племя». Падвыпіўшы, цалаваў Надзі рукі.

У мяне ў такія мінуты варушылася рэўнасць. У каханні мы да старасці застаёмся юнакамі.

Хто з нас першы выявіў сваю слабасць? Ці сілу? Але, тады, упачатку, першы прыйшоў я. Але ж было і інакш. Пасля твайго звароту. Помніш?

Можа два тыдні я не бачыў цябе, баючыся сваёй слабасці. Ты знайшла мяне за лагерам, у гушчары, куды я схаваўся ў вольны летні адвячорак. У лагеры іграў гармонік. Здаецца, танцавалі. Што ж, жыццё ёсць жыццё, на вайне таксама выпадалі хвіліны весялосці.

«Я не магу так, Іван. Я люблю цябе. Люблю. Хто ведае, колькі нам адведзена таго жыцця».

Але, тады ніхто не ведаў. А яго, выходзіць, адведзена не так мала. Нам з табой. Калі ж ты выяўляла сваю слабасць, а калі сілу?

Было ж і так...

Увосень сорак трэцяга, калі вызвалілі вось гэтыя мясціны, некаторыя нашы атрады злучыліся з арміяй. Ты магла застацца тут. Але я атрымаў загад зноў пайсці за лінію фронту, павесці спецатрад у глыб Палесся. Прадстаўнік абкома быў супраць, каб ты ішла з намі: «Жанчыну з дзіцем? Ды ты ашалеў, Антанюк! Даваяваліся вы тут! Пасля вайны вашых бабскіх спраў не рассёрбаем!» Але ты ўсё адно пайшла. А потым раптам зімой асела ў гэтых сваіх Калюжынах. Чым яны прываражылі цябе? Калі і туды ўлетку прыйшло вызваленне, ты сказала:

«Нікуды я не паеду адгэтуль. Усё, Іван. Адваявалася. Мне трэба гадаваць дачку, вучыць дзяцей... І табе трэба гадаваць сваіх дзяцей. Усё».

Але, было і так... Я зразумеў цябе. Больш — быў удзячны. І можа лепш, каб сапраўды было ўсё. Назаўсёды. Але я, відаць, слабы чалавек. Ці мацней за розум было маё пачуццё? Ды цяпер ужо ўсё роўна. Цяпер мяне вядзе зусім іншае. Зусім іншае...

VII

Тут яшчэ амаль што не было снегу — чуць-чуць зацерушыў зямлю. Падаў і цяпер, але вельмі нясмела, сухі і лёгкі, як пух; слабае дыханне ветру здзьмухала яго з дарогі ў канавы, з узгоркаў — у лагчыны, на ўзлескі.

Дні два назад была тут адліга, можа нават ішоў дождж. На дарозе стаялі лужыны; вада замерзла, але колы машын і фурманак, ногі людзей патрушчылі слабы лядок. Белыя асколкі яго звінелі пад нагамі, звінелі на дзіва меладычна — неяк проста радасна.

Прыемны марозік, яшчэ больш прыемныя сняжынкі, што проста-такі з пяшчотай жывых істот садзіліся на рукі, на твар — здавалася, яны нават цёплыя, і гэты вясёлы звон ільдзінак пад нагамі — усё хораша бадзёрыла, узнімала настрой. Адышлі начныя вагонныя сумненні: а навошта ён едзе? Каму гэта трэба?

Не, цяпер уяўлялася ўсё простым і натуральным. Адсюль — і настрой такі. Недарэчна ўсё яшчэ стрымліваць свае жаданні, парывы, тым больш, што нікому ад іх не будзе блага, а некаму ён, напэўна, можа прынесці хоць маленькую радасць.

Іван Васільевіч не стаў чакаць у цёмным і халодным станцыйным пакойчыку, пакуль развіднее. Пайшоў адразу, як толькі знік у начной далечы сігнальны агеньчык апошняга вагона.

Дарогу помніў. Праўда, спытаў у дзяжурнага па станцыі, як выйсці на бальшак. Той агледзеў начнога пасажыра падазрона, растлумачыў нехаця, туманна. Ды Іван Васільевіч хутка пазнаў дарогу сам — як толькі прыйшоў у сяло, дзе свяцілася ўсяго два-тры акны, не больш,— у самых ранніх гаспадынь.

У яго была дзіўная памяць на сёлы, воблік іх, «твары» ён запамінаў гэтак жа, як твары людзей.

Забываўся часам назвы, як і прозвішчы, але, каб завязалі вочы і прывезлі ў любое сяло, якое наведаў хоць аднойчы, ён беспамылкова сказаў бы, у якім яно раёне, калі ён тут быў, з якой прычыны, з якімі людзьмі страчаўся.

Па гэтым сяле праязджаў на «газіку» разы два ўсяго, апошні раз сем гадоў назад; не помніў, называецца яно гэтак жа, як станцыя, ці неяк інакш, але адразу пазнаў краму, школу, стары ясакар, ад якога трэба павярнуць направа, на другую вуліцу, шырэйшую, каб вые-

хаць... выйсці на патрэбную дарогу — бальшак з прысадамі старых бяроз.

Пятнаццаць нейкіх кіламетраў для яго, паляўнічага,— лёгкая прагулка. Калі добра размахацца, дзве гадзіны хады — і там. Але ўсё ж не хацелася прыходзіць так рана. Няёмка неяк. Дзіўнае пачуццё! Ніколі такое не з'яўлялася раней.

Таму Іван Васільевіч ішоў не спяшаючыся. Без згрызот сумнення, без трывогі, якая ў вагоне не давала заснуць, і без таго юнацкага хвалявання, што з'яўлялася раней, калі пад'язджаў да гэтых знаёмых з партызанства мясцін. Не да мясцін увогуле, мясціны: не такія ўжо знаёмыя,— да Калюжыч, да яе, Надзі. Цяпер жа, як ні дзіўна, быў настолькі спакойны, што нават думаў пра іншае — пра сёлы, пра іх выгляд. Гэта натуральна: усё жыццё, на абавязку службы і яшчэ больш — па чалавечаму абавязку ён думаў пра людзей, што робяць хлеб. Як яны жывуць. І як павінны жыць.

Думаў, што пасля вайны нямала будавалі. Адзін знаёмы эканаміст падлічыў, што за дваццаць пасляваенных гадоў у сяле пабудавана больш, чым за ўсё стагоддзе, якое ахоплівае тры гістарычныя фармацыі — феадалізм, прыгонніцтва, увесь перыяд капіталізму, з яго ўздымам і падзеннем, і першыя гады сацыялізма. Аднак выгляд сёл яшчэ мала ў чым змяніўся, асабліва тут, на Палессі. Усё тыя ж пачарнелыя драўляныя хаты ў сёлах, якія не гарэлі, большасць стрэх — саламяныя. Але не лепш і ў тых сёлах, якія спалілі карнікі ці фронт. Людзі будаваліся адразу пасля вайны, па беднасці, без мужчын — удовы ды сіраты; ляпілі хаціны хто з чаго; распілаваць бервяно было праблемай; накрыць — яшчэ большай, на сядзібах вырошчвалі жыта і жалі сярпамі, каб мець кулі саломы — старажытны дахавы матэрыял.

Усе затраты калгасаў, дзяржавы ішлі на вытворчае будаўніцтва. Матэрыяльна-тэхнічная база — аснова, гэта разумелі ўсе, кіраўнікі і радавыя калгаснікі. Калі глядзець не на хаты, а на фермы, майстэрні, элеватары і асабліва на тыя машыны, што працуюць у полі,— о, якія змены адбыліся ў сяле! Індустрыяльная рэвалюцыя! Калі ён, Антанюк, ездзіў у Англію і, знаёмячыся з фермамі, заходзіў у кароўнік, яго мала што здзіўляла і ўражвала, хіба толькі лепшая якасць збудаванняў і абсталявання. Але размах, памеры зусім не тыя, што ў нас. Іншая рэч, што мы не навучыліся яшчэ па-сапраўднаму кіраваць такімі буйнымі гаспадаркамі, па-навуковаму, з эканамічнымі разлікамі. Колькі было гэтага самага валюнтарызму! Нямала і ён, Антанюк, аграном, рабіў глупства, выконваючы ўказанні людзей, якія не нюхалі агранаміі. Але часам, чорт вазьмі, меў сілу і запратэставаць на поўны голас. Набівалі

шышкі. Балелі бакі. Ды затое лёгка рабілася на душы. Як цяпер... А цяпер лёгка? Не зусім.

Матэрыяльна-тэхнічная база — аснова. Але калі ўмовы жыцця людзей пачынаюць адставаць... узнікаюць з'явы, якія ў філасофіі называюцца дыялектычнымі супярэчнасцямі. Любы новы завод-гігант, самы дасканалы па абсталяванні, не змог бы нармальна працаваць, каб побач з ім не вырастаў горад для людзей, сучасны горад — на ўзроўні тэхнічных дасягненняў завода.

Так і з калгасамі, з сялом увогуле.

Антанюк упэўнены, што наступіў час, калі ў сяле трэба па-сапраўднаму заняцца бытам людзей. І не толькі цяпер, у начным полі, але неаднойчы і раней у цёплай, утульнай гарадской кватэры рабілася сумна ад думкі, што цікавейшая работа па перабудове сяла будзе праходзіць без яго ўдзелу.

А ён здольны яшчэ нешта падказаць, ды і арганізаваць... Праўда, ёсць спакуса ў той свабодзе, якую адчуў за час пенсіянерства. А можа вось так нараджаецца псіхалогія дармаедства і гэтак апраўдваецца высокімі матэрыямі? Усё жыццё тлумачыў сам сабе і дзецям, што не можа быць ніякай свабоды ў гультая, што па-сапраўднаму свабодны толькі той, хто працуе, працуе творча, з радасцю, з карысцю для людзей і для сябе.

«Не па сваёй волі я дармаед».

«Але ты пачынаеш ужывацца ў гэтую ролю, як акцёр. Яна падабаецца табе».

«Не, я хачу працаваць».

«І ставіш умовы, якія другім людзям цяжка прыняць?»

«Я маю права ставіць такія ўмовы. Само жыццё паказала, хто з нас лысы...»

«Многа думаеш пра сваё самалюбства. І забываеш, што яно ёсць і ў тых, ад каго залежыць, вярнуць цябе на работу ці пакінуць радавацца «ўнутранай свабодай».

«Ім хочацца растаптаць мой гонар».

«Ты ўзнімаеш свой гонар, як сцяг».

«Не. У мяне адзін сцяг. Я нёс яго праз усё свядомае жыццё. І нішто не выбіла яго з маіх рук».

«Дык чаго ты пакутуеш? Усё адно — на два гады раней ці на тры пазней ты павінен уступіць месца маладзейшаму...»

«Каму? Таму, хто думае не пра гэтых вось людзей, а пра тое, як бы хутчэй прабіцца ў навуку».

«Навука таксама памагае гэтым людзям».

«Зноў ты супярэчыш сам сабе».

«Такая сутнасць чалавека, які ўмее думаць. Ён увесь на супярэчнасцях. Адмаўленне і сцвярджэнне... Прымірэнне з усім можа спыніць яго поступ.

У вёсцы, у якую ўвайшоў Іван Васільевіч, узнялі дзікі вэрхал сабакі.

Адзін як гаўкнуў, пачуўшы чужога, так і пакацілася хваляй з двара ў двор. Цэлы сабачы хор — басы, тэнары, маладыя падгалоскі; адзін брэша з падвываннем, другі — так залівіста, што, здавалася, вось-вось захлынецца ад уласнага енку. Івана Васільевіча даўно здзіўляла нераўнамернасць дваровай варты. Кароў, свіней — амаль аднолькава на кожным двары. Ёсць, праўда, зоны багацейшыя і бяднейшыя. А вось сабак... Адну вёску пройдзеш — ніводнае шчаня не цяўкне. А ў другой, суседняй, зусім не багацейшай,— у кожным двары па псу, як тут вось. Чым вытлумачыць? Традыцыяй? Праўда, няроўна яшчэ гусей. Але гусі ўсё-такі там, дзе жывуць багацей. Гусіныя вёскі выдзяля юцца нават сваім знешнім выглядам.

Сустрэліся тры маладзіцы ў ватоўках, цёплых хустках. Антанюк адразу здагадаўся, куды яны ідуць у такую рань.

— Даіць? — спытаў, павітаўшыся.

— А то куды яшчэ бабам ісці давідна? — адказала старэйшая.

— Што вы сабак столькі нагадавалі?

— Дабра ў нас многа, баімося — пакрадуць.

Другая засмяялася.

— То нашы мужыкі сабак навялі, каб чужыя не лазілі. Вось ты. Хто цябе ведае, адкуль ты бяжыш з начы. Можа ад нашай Ганны.

Зарагаталі ўсе трое.

Іван Васільевіч прытворна ўздыхнуў:

— Адбегаў я сваё, кабеткі!

Наблізіліся — зазірнулі ў твар. Тая, рагатуха, падбадзёрыла:

— Ды не — ніштo яшчэ мужчына. Шустры.

Старэйшая спытала сур'ёзна:

— З поезда?

— З поезда.

— Куды?

— У Калюжычы.

— То мо ж ёсць да каго спяшацца, што пабег са станцыі, калі ваўкі па полі гуляюць.

І вось пасля выпадковай гэтай размовы прыйшло яно, хваляванне, зразумелае, але ўсё ж дзіўнае — уразіла сваёй нечаканасцю. Што да чаго? Чаму сэрца раптоўна дрогнула, затрапятала амаль гэтак жа, як тады, калі Надзя пасля высялення вярнулася ў лагер з Вітай на

руках, у лахманах жабрачкі? І цяпер, як тады, узніклі і радасць і трывога.

Хацеў скіраваць думкі на іншае — пра гэтых жанчын, даярак. Таксама адна з праблем, над якой ён сур'ёзна задумваўся і спрабаваў нешта зрабіць,— каб праца даярак, бадай самая цяжкая з усіх жаночых прафесій на фермах, зрабілася лягчэйшая. Балела сэрца, калі маладыя жанчыны паказвалі яму свае рукі. А іх рабочы дзень? Цяпер, зімой, ідуць крыху пазней, хоць, відаць, мала хто з мужчын яшчэ прамыў вочы. А ўлетку ў гэтых жанчын рабочы дзень — з чатырох раніцы да адзінаццаці вечара. Добра, калі кароўнікі блізка. А калі трэба ісці дзве і тры вярсты...

Не аднойчы выступаў на нарадах, лаяў канструктараў даільных апаратаў, разносіў «елачкі» і «каруселі» — ведаў, што ўсе гэтыя наватарствы кабінетнага паходжання, як круглыя кароўнікі і торфаперагнойныя гаршчочкі. Пры даярках яму апладзіравалі. А пасля за спіной пасміхаліся:

«Дзівачыць стары. Папулярнасць зарабляе. Не разумее, што яго народніцкія замашкі не ў нагу з часам... Што па сутнасці гэта выступленне супраць механізацыі...»

На той «антытравяной» нарадзе сказалі пра гэта ў вочы, з трыбуны, пад воплескі прэзідыума.

Хацеў паразважаць пра сельскія праблемы, паспрачацца са сваімі апанентамі, хоць, праўда, цяпер яны раптам паразумнелі — самі парабіліся «народнікамі» і «эканамістамі». Хацеў... Не выйшла. Перад вачамі стаяла Надзя, засланіла ўсё. Ішла да яго. Ці ён ішоў да яе... А яна чакала. Розная. Спалоханая... Радасная... Сумная... Сарамлівая... Якая стрэне яго цяпер?

Доўга ў паветры плавалі асобныя сняжынкі, нябачныя ў начным змроку. Калі пачало днець, лёгкія, пушыстыя, яны закружыліся гусцей. Адразу пабялела дарога. Ці можа таму так раптоўна і развіднела, што ўсё навокал пабялела? Толькі дымы над комінамі жоўтыя — палілі торфам.

Па вуліцы беглі школьнікі, з цікавасцю азіралі незнаёмага. Спыняліся жанчыны, каб не пераходзіць дарогу з пустымі вёдрамі. З поўнымі спяшаліся перайсці. Потым ужо аглядваліся.

Кранула гэта Івана Васільевіча. Людзі зычаць удачы. Пазнаюць ці проста так? Ён вельмі даўно не быў тут зімой, гадоў пятнаццаць. Тады здавалася ўсё натуральным: сяло як сяло, шчаслівае — не гарэла, зберагл і партызаны. Цяпер уразілі голая вуліца і голыя гароды.

Хата за маладымі зялёнымі клёнамі была ўлетку такая ўтульная і па-свойму прыгожая — адна з лепшых на вуліцы. Цяпер жа ледзь

пазнаў яе — здалася голай, сіратліва ўбогай, хоць клёны выраслі. Але цяпер ад іх мала хараства. Па-новаму зашчымела ў сэрцы: вось яны, прыкметы старасці. Ці не могуць раптам здацца такімі ж голымі і ўбогімі і пачуцці? Свае ўласныя самому сабе. Тваё — ёй. Ці яе — табе. Такая думка спалохала, з ёй цяжка пагадзіцца. Няхай жаўцеюць і асыпаюцца дрэвы. Прыйдзе час — яны зазелянеюць зноў. Няхай чарнеюць сцены хат, няхай трухлеюць — іх лёгка паднавіць... Нарэшце, збудуюцца новыя... А як аднавіць тое, што доўга жыло ў сэрцы і... патухла, як забыты людзьмі касцёр? Але ў прыску могуць тлець вуглі...

Іван Васільевіч без стуку ўвайшоў на веранду. Тут усё блішчала чысцінёй. Рэчы — стол, канапка, лазовы белы куфар, эмаліраванае вядро, лыжы і нават старыя валёнкі — стаялі ў тым добра прадуманым парадку, які сведчыць, што ў доме жыве жанчына, адна, і што ў яе ва ўсім лад, які нікім не парушаецца, і душэўны спакой, калі чалавек не забывае ніводнай дробязі. Вось толькі лыжы... Але чаму Надзя не можа хадзіць на лыжах?!

Такі выгляд веранды неяк адразу супакоіў Івана Васільевіча, і ён весела, як стукае суеед суседу, пастукаў костачкамі пальцаў у дзверы.

— Калі ласка. Заходзьце!

Голас яе не змяніўся, не пастарэў.

Ён увайшоў — і яна спалохалася. Яна моцна спалохалася, убачыўшы яго. Збялела, адступіла да адчыненых дзвярэй, што вялі з кухні на чыстую палавіну хаты, нібы хацела схавацца за імі. Глядзела на яго са страхам і... маўчала. Ці можа яму здалося, што са страхам. Усё ж так не страчала ніколі. Але, яна змянілася. Вядома, пастарэла. І неяк папрасцела. Усё ў яе папрасцела: валасы, вопратка... Раней валасы нібыта кучаравіліся, узбіваліся. А цяпер — акуратненька прычасаныя, прыгладжаныя, скручаныя на патыліцы ў вялікую куксу. Ён бачыў яе ў розным адзенні — у лахманах, у гімнасцёрцы, у лепшых сукенках. Гэтая даўгаватая чорная спадніца, просценькая выліняла жакетка... робяць яе тыповай настаўніцай.

«Народніцай»,— падумаў Іван Васільевіч без усмешкі і павітаўся.

— Добрай раніцы, Надзя.

Секунды разгубленасці і разглядання адно аднаго мінулі. Яна пайшла да яго, але не кінулася абдымаць. Спынілася за крок, зазіраючы ў вочы, спытала:

— У цябе няшчасце, Іван?

Тады ён зразумеў, чаму яна спалохалася, і гарачая хваля ўдзячнасці за яе любоў, за трывогу, за гэты спалох захлынула яго.

— У мяне — шчасце.

— Іван! Паглядзі на мяне.

— Я гляджу. Падобны хіба я да няшчаснага? Вінаваты поезд — вельмі рана прыходзіць. А мне хацелася хутчэй убачыць цябе.

Яна паверыла — усміхнулася.

— Ты ўсё яшчэ партызан.

— Я ўсё яшчэ партызан.

Надзя наблізілася, але не абняла, не пацалавала, нібы саромелася, а толькі правяла даланёй па яго калючай шчацэ, ціха і пяшчотна. Крануў гэты дотык мацней за любы пацалунак, за самыя ласкавыя словы. Іван затрымаў яе руку і прыціснуў да шчакі, потым да вуснаў. Тады яна ўткнулася тварам у плячо, у настылае паліто і прашаптала:

— Дзякуй табе, Іван.

— За што?

— За ўсё. За тое, што ты прыехаў. Мне так хацелася пабачыць цябе. Так хацелася... каб ты ведаў. Вось так паглядзець,— яна падняла твар, у вачах плавалі слязінкі.

— Вось табе на! Не люблю жаночых слёз. Давай высушу іх,— і пацалаваў у вочы.

Надзя сарамліва вызвалілася, сказала:

— Чаго мы стаім на кухні? Распранайся. Праходзь, дарагі госць.

Пакуль Іван Васільевіч распранаў паліто, гаспадыня ўскочыла ў чыстую палавіну хаты, праз адчыненыя дзверы ён убачыў, як. яна паспешліва схапіла з канапы нечую пасцель, кінула на ложак, заслала пакрывалам.

Трохі драпнула па сэрцы, што тут, у яе доме, начаваў яшчэ нехта. Адразу пасля вайны неяк апаліла думка, што нехта другі прыйдзе да яе. Можа таму прыехаў тады. Розумам дапускаў, што яна мае права на шчасце, на сям'ю, на каханне таго, хто быў бы штодня побач. А сэрца раўнавала. Апошнія гады ні разу не падумаў пра гэта. Чаму? Верыў у яе вернасць? Не, і пра гэта не думаў. Але ж вось нешта варухнулася. Закранутае самалюбства? Смешна.

Надзя сказала:

— Прабач толькі, калі ласка. Не прыбрана ў нас. Праспалі інтэлігенткі,— і, як бы спахапіўшыся, паведаміла неяк дзіўна — не то баязліва, не то ўзрадавана:

— Віта дома. Працуе ў нашай школе.

— Ты баішся?

— Не. Што ты! Цяпер яна дарослы чалавек. Цяпер яна разумее... Не думай пра гэта. Ведай: я рада. Ты прынёс мне радасць. Я проста разгубілася ад шчасця і не ведаю, што рабіць. Трэба частаваць цябе, а ў мяне — урок,— яна зірнула на ходзікі.

— Безумоўна, ідзі на ўрок.

— Але. Я пайду. Дам ім заданне. Восьмыя класы.

— Не. Не зрывай ніводнага ўрока. Гэта непрыгожа. Што скажуць?

— Але... непрыгожа...

— І не трэба. Навошта? Я сам умею частавацца. Можаш даверыць. Я ўсё яшчэ партызан.

Надзя наблізілася і зноў пагладзіла па шчацэ, як малога. Ён са смуткам падумаў, што за шэсць год жанчына прыкметна пастарэла — напэўна, больш прыкметна, чым сам ён. Вочы... Змяніліся вочы. Нават, здаецца, колер стаў іншы. Выцвілі, ці што? Якія былі яны тады? Ад вачэй — пучкі дробных маршчынак, як праменьчыкаў. І гэтыя на. дзіва прыгладжаныя валасы — яны таксама моцна змянілі яе. Старасць.

— Ты спазняешся?

— Не. У мяне ёсць яшчэ мінуты...— яна глядзела з любоўю, пяшчотна, але была ў вачах і прыхаваная трывога.— Іван, Віта калючая. Яна зразумее — я не сумняваюся. Але сказаць... сказаць можа... Задзірыстая. Насмешніца. Не крыўдуй, калі што...

— Хіба я падобны на ганарыстага пеўня? Чаго, чаго, а вытрымкі, спакою ў мяне стала яшчэ больш. Што б яна ні сказала — я зразумею. Не бойся.

— Яна працавала ў Жабінцы і не паладзіла з дырэктарам. Так заеліся. Камісія аблана разбірала. Праўда была на яе баку. Але мне стала страшна... Маладая, гарачая. Толькі табе, Ваня, я прызнаюся: мне стала страшна. Я зрабіла ўсё, каб перавесці яе сюды. Пад сваё крыло. Чуць угаварыла. Упрасіла райана... Але і тут яна пачынае вайну з дырэктарам саўгаса. Не можа, каб ціха...

— А навошта ціха, калі чалавек ваюе за праўду-

— Праўда... Ах, Іван. Зразумей. Я баюся...

— Ты зрабілася такая баязлівая?

— Думаеш, я была калі-небудзь смелая? — Надзя сумна ўсміхнулася і зірнула на гадзіннік.

— Ты спазняешся. Ідзі.

— Я пайду. Ты галодны? Ты ішоў пехатой? О божа! Як я пакіну цябе! Прабач, калі ласка...

— Ты просіш прабачэння, як у чужога. А я — свой. І ўсё знайду сам.

— Але. Там малако, у шафцы. У каморы сала... Не, я дам заданне... Скажу завучу.

— Не рабі гэтага! Я прашу. Навошта лішнія размовы?

— Ваня! Адзінае, чаго я не баюся — што скажуць пра мяне. Колькі было размоў — ты ведаеш.

— Ведаю. Аднак урокі не зрывай. Няма прычыны.

— О-о!.. Няма... Не сумуй тут.

— Не буду.

— І паеш.

— Што-небудзь знайду.

Яна выйшла. А ён застаўся стаяць пасярод хаты і слухаць... цішыню. Не, цішыні не было. Галасы за акном... І ходзікі... Яны ўпарта адстуквалі: «не так, не так». Дзіўная гукавая асацыяцыя гэтая насцярожыла Івана Васільевіча. Можа праўда, што не так? Што? Ён слухаў самога сябе, свой чуткі сейсмограф, які павінен запісаць усе хістанні. Нічога не запісвалася. Нерухома цяжэлі пласты пачуццяў. Цішыня. Усё-такі цішыня — такая, што нечаканы стук дзвярэй прымусіў уздрыгнуць.

Вярнулася Надзя, паружавелая ад марозу і хвалявання, і таму здавалася памаладзелай.

— Што здарылася?

— Іван... Я падумала... У Віты, здаецца, фортачка... Як яна будзе гаварыць з табой? Не, не, я не баюся. Яна — разумная. Але... але... каб ты ведаў... я і дагэтуль не сказала ёй... пра Сваяцкага. Не магу. Я сказала малой, што яе бацька партызан... Іван... Шугановіч...

— Шугановіч?

— Проста прыйшло на памяць прозвішча чалавека, які загінуў. Добрага чалавека.

— Найлепшага з нас. Але імя яго — Васіль.

— Іван! Хіба я не помню! Але я запісала яе — Іванаўна. У сорак чацвёртым. Тут, у сельсавеце. Я не магла інакш. Лёс звязаў мяне з Іванам!...— Яна горка ўсміхнулася.

Яго трошачкі кальнула гэтае «лёс звязаў» — напамінак, што той, каму яны вынеслі прысуд, таксама быў Іванам. Пра гэта ніколі не думалася раней. Навошта ёй напамінаць?

— Ты спалохалася, што я магу прагаварыцца?

— Не. Але...

— Я не прагаваруся. Не бойся. Ты спазнілася на ўрок.

— Я спазнілася. Можа мне не ісці? — нясмела, як вучаніца, спытала яна.

— Не, ідзі,— амаль жорстка, як суровы педагог, сказаў ён.

— Я пайду.

Зноў ён у адзіноце слухаў цішыню і самога сябе. Цяпер ходзікі адбівалі ўжо інакш: «так-так, так-так». Але гэта не было сцвярджэнне, гэта было як няўпэўненая развага, адказ на нейкія патаемныя (думкі.

Вялікія фікусы, густыя гардзіны засланялі вокны, і ў хаце быў паўзмрок, трымалася начная цеплыня, яна стварала ўтульнасць і неяк расслабляла цела і мозг.

Іван Васільевіч сеў на канапу, з якой Надзя прыбрала пасцель, і тут адчуў, што моцна змарыўся: не спаў ноч, прагуляўся добра ад станцыі. Цяпер толькі ўбачыў, што па хаце — на табурэтцы, на стале, на дроце, на якім трымалася на кольцах шырма, нават на фікусе — раскідана мноства дзявочых — менавіта дзявочых, не жаночых — рэчаў: халацік, касынка, панчохі, духі... І патыхнула нечым дзіцячым — тым беспарадкам і пахам, які заўсёды стаяў у зямлянцы, дзе яны былі — Надзя, малая Віта, Рошчыха. Няхай асуджаюць маралісты, але гэта быў куток звычайнага чалавечага быцця, а не вайны, і яго цягнула туды, пасля кожнага бою, пакарання здраднікаў і пахавання сваіх людзей. Даволі было патрымаць на руках дзіця — і вярталася душэўная раўнавага. Можа таму так спакойна, утульна здалося цяпер у гэтай хаце, што адчулася прысутнасць таго дзіцяці.

Ён паспрабаваў разбурыць ілюзію: дзіцяці ўжо дваццаць тры гады. Яна можа цябе так сустрэць тут, што і рады не будзеш. Не, настроіцца скептычна немагчыма. Але і весялосці няма. З болем і смуткам падумаў пра Надзю. У яе хапіла адвагі і рашучасці за тыдзень да родаў кінуць усё і паехаць у лес... У яе хапіла адвагі з дзіцём на руках заставацца ў атрадзе тады, калі замыкалася кола блакады. Яе маглі яшчэ вывесці. Цяпер жа ў яе нестае смеласці сказаць роднай дачцэ, хто сапраўды яе бацька. Змянілася?

«Усе мы змяніліся. Але ты можа менш, чым хто. Чым я».

«Ты ўсё яшчэ партызан...»

«Наўрад, ці той я ўжо, які быў».

«Лёс звязаў мяне з Іванамі».

Не, гэта не напамінак пра яго. Гэта — боль і прызнанне. Прызнанне, што ты такая ж... што пойдзеш разам у любую блакаду... Не, як і тады, ты не пойдзеш без дачкі, ты пойдзеш толькі з ёй. Ты баішся, ты дрыжыш, каб хто-небудзь не стаў паміж вамі, мёртвы ці жывы... Не бойся. Не стане. Ніхто! Цяпер ужо ніхто!

...Усё глыбей і глыбей угрузаюць ногі ў дрыгву, зялёную, густую, ліпучую. На плячы кулямёт... Які ён цяжкі сёння! А дзіця на руках лёгкае. Зусім лёгкае, як пушынка. Можа яго няма? Можа засталася адна коўдрачка? Не, ён чуе яго дыханне, спакойнае пасопванне носікам. Але не чуе другога — чвякання дрыгвы за спіной — крокаў

людзей, сваіх людзей. Дзе яны? Чаму адсталі? А можа ўсіх скасілі кулі? Дзіўна тахкае кулямёт — рэдкімі адзіночнымі стрэламі: «так-так, так-так» — зусім не падобна на звычайныя стрэлы. Яму трэба азірнуцца, паглядзець — што там ззаду, дзе людзі? Але ён не можа павярнуцца — ад цяжару і ад боязі праваліцца ў «чортава вока». Яны застылі перад ім чорнымі, бліскучымі, як дзёгаць, плямамі. Ён асцярожна абыходзіць іх, але ногі грузнуць усё глыбей і глыбей. Пот залівае твар, вочы. Хочацца закрычаць, але няма голасу. Трэба паглядзець назад, абавязкова трэба! Ён спрабуе павярнуцца і... адчувае, што дрыгва засмоктвае, цягне за ногі ў халодную бездань. Па пояс, па грудзі... Ён паднімае дзіця высока над галавой — у неба, да сонца. Каб людзі ўбачылі, рата валі... Ён крычыць...

...Абудзіўшыся, Іван Васільевіч не адразу ўцяміў, дзе сон, дзе ява. Было і такое. Ішлі па такім балоце. Але нёс ён не дзіця — раненую партызанку, упаўнаважаную ЦК камсамола. Нідзе не праваліўся. І побач увесь час ішлі людзі, многа людзей, партызан. Самае страшнае, выходзіць, застацца аднаму і не магчы азірнуцца, каб убачыць сяброў. Сапраўды, ён спацеў, увесь лоб мокры. Галава адкінута да сцяны, рукі закінуты за галаву — відаць, у сне цягнуў іх угору. Прыгадаў, дзе ён,— схамянуўся: можа, зморany, доўга спіць? Шыя самлела, рукі ацяклі. Выпрастаўся — і ўбачыў яе. Дзяўчына стаяла каля грубкі, глядзела на яго са скептычнай усмешкай.

Іван Васільевіч пазнаў: Віталія. Але здзівіўся. Каб сустрэў дзе ў горадзе, напэўна, не пазнаў бы — так яна змянілася з таго часу, калі бачыў яе апошні раз. Сем год назад на яго са знявагай і нянавісцю зіркала цыбатае, худое дзяўчо-падлетак. Цяпер стаяла вельмі ладная жанчына. Але, усё ў яе паставе было такое, што, відаць, кожны з першага позірку назваў бы яе жанчынай, а не дзяўчынай. Можа гэта — ад строгасці ўбрання: трыкатажны гарнітур стальнога колеру, гэтакія ж, як у маці, гладка прычасаныя валасы, сплеценыя і завязаныя на патыліцы ў куксу.

Але здзівіла не тое, як яна вырасла, пасталела, а, тое, як мала дачка падобна на маці. Высокая, дзябёлая — як жартуюць, «громбаба» — з грубейшымі, чым у маці, рысамі твару, але твар яе, шырокі, са здаровым румянцам, прыгожы, ва ўсякім разе — прывабны. Выразныя вочы, поўныя сакавітыя вусны. Менавіта яны, вусны, і надавалі твару асаблівую прывабную жаноцкасць.

За кароткі міг, пакуль яны разглядалі адно аднаго, у Антанюка бліснула яшчэ адна думка: і на Сваяцкага яна не падобная.

Віталія сказала з іроніяй:

— Дзень добры, таварыш «партызанскі таварыш».

— Дзень добры, Віта.

Іван Васільевіч падняўся, каб паціснуць дзяўчыне руку. Але яна не кранулася з месца, з твару знікла ўсмешка, вочы зрабіліся халодныя. Ён пабаяўся, што яна не падасць рукі, а гэта з першай хвіліны ўскладніла б іх адносіны.

— У цябе «фортачка»? — спытаў ён, успомніўшы вяртанне Надзі, яе боязь, папярэджанне.

У дзяўчыны нядобра скрывіліся поўныя вусны.

— У вас ёсць права казаць мне «ты»?

Усё-такі яна настроена абвясціць вайну.

— У мяне ёсць такое права. Я на трыццаць пяць год старэйшы.

— Усяго?

— Што — усяго?

— Усяго і права?

— Не, не толькі гэта. Я вось тут заснуў. І ў сне перажыў — каторы раз! — адзін эпізод партызанскага жыцця. Мы прарываліся з блакады. Ішлі праз балота. І я нёс дзіця. Я нёс цябе...

— Часта вы насілі мяне?

— З блакады? Не. Блакіравалі нас грунтоўна ўсяго двойчы. Але першы раз, увосень сорак другога, мы загадзя вывелі сямейны атрад у бяспечнае месца.

— Сямейны?

— Але. Цябе здзіўляе? Відаць, ты мала чытала партызанскіх кніг. Атрады, у якіх жылі жанчыны, дзеці, называліся сямейныя. Але маці твая і ты часцей знаходзіліся пры баявым атрадзе...

Зноў нядобрая ўхмылка скрывіла яе вусны.

— Чаму была такая прывілея?

Ён не адказаў на яе з'едлівае пытанне.

— І мы больш за два гады насілі цябе на руках. Дзіця... Ты была радасцю, пацехай і нагадвала пра сэнс нашай барацьбы. Ты, педагог, павінна зразумець гэта. Пагушкаеш дзіця — і лягчэй ісці ў бой. Мы былі людзі, а не аўтаматы. Мы любілі... ненавідзелі... плакалі ад замілавання, гледзячы на забаўкі дзяцей...

Віталія нерухома стаяла на ранейшым месцы, як акамянелая, дапытліва і, здалося, скептычна разглядала госця.

Івана Васільевіча раптам узлавалі і яе ўхмылкі, і манументальнасць паставы, і тое, што ён, мусіць, быццам бы апраўдваецца перад гэтай дзяўчынай. Чаму?

Ён сказаў цвёрда і строга:

— Што б у нас ні было, ты цяпер не маеш права асуджаць нас. Не, не маеш! Табе не пятнаццаць год!

Яна адказала не адразу, як бы падумаўшы:

— Я не асуджаю.

— І я хачу, каб ты ведала, што я такі маю права казаць табе «ты».

Віта засмяялася басавіта, шчыра, і смех такі неяк адразу скрышыў лёд. Павеяла цёплым вецярком.

Зрушыла з месца: схапіла з фікуса свой халацік, размашыста кінула яго за шырму. Перасунула крэслы. Прыбрала са стала кнігі і сшыткі.

— Вы елі? Маю загад накарміць вас.

— Не. Не еў. Я заснуў. Але я галодны, як воўк. Далікатны госць не павінен прызнавацца. Але я не далікатны госць.

Яна весела, неяк па-новаму бліснула вачамі і пайшла на кухню.

«На каго яна падобна? Ні на каго яна не падобна!» — падумаў Іван Васільевіч і адчуў задавальненне ад размовы, якая напачатку здалася небяспечнай. Настрой адразу ўзняўся. Ён правёў даланёй па калючым падбародку і пашкадаваў, што не захапіў з чамадана электрабрытвы. Святло ёсць. І разетка. Але, выходзячы з вагона, ён зусім не думаў адставаць. А пагаліцца хочацца — прывык галіцца штодня. Дзе цяпер у гэтым жаночым царстве знойдзеш брытву?

Скінуў пінжак і ў адной сарочцы, закасваючы рукавы, выйшаў на кухню. Віталія распальвала на прыпечку керагаз.

— Дзе можна памыцца?

— Я палью вам.

Дзяўчына моўчкі, задумліва палівала яму на рукі над эмаляваным тазам. Яму не спадабалася, што яна раптам стала такая маўклівая. Трэба нечым зацікавіць яе.

— Я ўжо тыдзень у дарозе. Ездзіў да сына. Ён служыць у Крыму. Сухапутны марак. Берагавая ахова. Ён твой равеснік, месяцы на тры маладзейшы.

Выціраючыся, праз ручнік сачыў, як яна прыняла гэтае паведамленне. Зусім спакойна, бадай абыякава. Спытала:

— У вас водпуск?

— Не-е. Я вольны казак. Пенсіянер.

Тут яна здзівілася:

— Так рана? У вас і лысіны яшчэ няма, і сівых валасоў нямнога.

Такая амаль дзіцячая яе непасрэднасць рассмяшыла.

— Дзякуй за камплімент.

Лёгкая чырвань зрабіла дзяўчыну прыгажэйшай.

— Не, праўда, чаму вы так рана на пенсіі? Па хваробе?

— Не, я здаровы. Абараняў травы.

— Травы? Якія травы? — не зразумела яна.

— Кармавыя. Якія хацелі заараць і пасеяць замест іх кукурузу.

— А-а, у калгасах. І за гэта вас паслалі на пенсію? Карацей кажучы, вы некаму перашкаджалі?

— Магчыма. Але і такое тлумачэнне спрошчанае. Усё больш складана. Як заўсёды ў жыцці.

— На пенсію вам не хацелася?

— Не хацелася.

— Вам цяжка?

Іван Васільевіч зразумеў: Віталія падумала, што гэта здарылася нядаўна і што праз гэта ён прыехаў — адвесці душу.

— Не. За паўтара гады я ўжыўся ў сваю новую ролю. Як ужываецца акцёр. Няньчу ўнука, езджу на паляванне...

— Ваш сын жанаты?

— Старэйшая дачка замужам.

Чакаў, што яна спытае: колькі ў вас дзяцей?

Не спытала. Занялася кухоннымі справамі.

Ён прапанаваў памагчы ёй. Адмовілася.

Пайшоў у пакой, знарок не зачыніў дзверы і ўпотай назіраў за дзяўчынай. Яна рабіла ўсё з ненатуральнай павольнасцю, у глыбокай задумлівасці. Пра што яна думала? Гэта сур'ёзна пачало непакоіць Івана Васільевіча. Няхай бы лепш яна была калючая, насмешлівая, як у пачатку сустрэчы, нават непаважлівая.

Віталія трохі ажывілася, калі накрывала на стол тут, у чыстай палавіне хаты, дзе госць рабіў выгляд, што ўся ўвага яго занята кніжкамі на этажэрцы.

Стол яна сабрала багаты: капуста, гуркі, квашаныя брусніцы, патэльня яечні, якая ўсё яшчэ сярдзіта сквірчэла і напаўняла хату апетытным пахам. Над талеркамі ўзвышалася пляшка з-пад шампанскага з амаль чорнай, як дзёгаць, вадкасцю.

Віталія запрасіла госця да стала, села сама насупраць і гасцінна напоўніла шкляначкі настойкай.

Іван Васільевіч узняў сваю шклянку, сказаў:

— Я вып'ю за цябе, Віта. Я рады, што бачу цябе такой. За твае поспехі, за шчасце! Будзь здарова.

Але Віталія не дала яму выпіць. Яна сказала:

— Я ненавідзела вас. Тады, дзяўчынкай... Абуралася ўся мая дзіцячая істота. Потым вы доўга не трапляліі на вочы, і я амаль забылася пра вас. Калі сёння мама — божа! якая яна разгубленая! — сказала мне ў школьным калідоры, што прыехаў яе партызанскі таварыш, я здагадалася, што гэта вы, і ў мяне калыхнулася нядобрае... Пратэст,

ці што... Але потым я падумала, што мама кахае вас... Што яна засталася вернай гэтаму каханню... Яна была маладая і магла выйсці замуж, прывесці мне айчыма... Такое каханне нельга не паважаць. Я сама ў інстытуце выступала супраць ханжаства. Я даравала вам... Сёння, ідучы са школы. І я нічога не буду распытваць пра вашы адносіны з мамай. Разумею. Не маленькая. Але абяцайце, што вы будзеце са мной такім жа шчырым і будзеце гаварыць, як з дарослым чалавекам.

Іван Васільевіч адчуў, што перасохла ў роце. Ён не сказаў — кіўнуў галавою: абяцаю.

— Я задам вам адно пытанне. Вы адкажыце шчыра! — яна не прасіла — патрабавала.

Іван Васільевіч паспрабаваў усміхнуцца. Сказаў бадзёра:

— Калі ласка,— але ўбачыў, што настойка ў шклянцы калышацца — рука дрыжыць. Паставіў шклянку на стол.

— Хто мой бацька?

Антанюк прымусіў сябе ніяк не зрэагаваць на такое нечаканае пытанне. А яно такі нечаканае, нягледзячы на папярэджанне Надзі. Сказаць праўду? Ці падтрымаць святую ману маці? Ён зноў узяў шклянку, ва ўпор паглядзеў ёй у вочы, убачыў, што яна моцна хвалюецца — ажно дрыжаць вусны. І ўся дрыжыць ад нецярпення.

— Давай вып'ем, Віта.

Яна прагна, па-мужчынску асушыла сваю шклянку. Ён, павольна цягнучы настойку, вырашыў не адкрываць мацярынскай тайны. Няхай усё застаецца так. Яе бацька — Шугановіч. Але раней загаварыла Віталія: пачала ўзбуджана тлумачыць, чаму запытала пра гэта:

— Я даўно бачу, што мама блытаецца і не дагаворвае нешта. Ёй як бы балюча гаварыць пра майго бацьку. Спачатку мне здалося: яна вінавата перад ім. Пасля інстытута я паехала ў той раён, дзе вы партызанілі.

Івана Васільевіча кінула ў пот. Ад настойкі, ці што?

— Так многа было вас, партызанаў, а праз дваццаць гадоў нікога нельга знайсці, хто мог бы толкам расказаць. Расказваюць легенды. Хто што. Толькі адна настаўніца добра помніць Шугановіча, завуча школы, дзе яна працавала да вайны. Ведае, што ён быў камісарам атрада ў Антанюка. Але імя таго — Васіль... Маці я нічога не сказала... Калі яна напускае туман на маё з'яўленне на свет, то, нарэшце, мне таксама ўсё роўна, хто мой бацька,— заключыла яна са злосцю.

— Твой бацька — я.

«Што ты робіш? Навошта ты гэта робіш? Такая твая шчырасць?!» — закрычаў адзін Антанюк.

«А хіба я не быў ей за бацьку там, калі над усімі вісела смерць? Ёй не будзе сорамна за такога бацьку. І можа праз гэта ёй лягчэй будзе жыць»,— разважліва казаў другі.

— Вы? — Віталія доўга, не моргаючы, шырока расплюшчанымі вачамі глядзела яму ў вочы. Потым нядобра засмяялася: —Вы?! Вам захацелася зрабіць мне сюрпрыз? Вясёленькая гісторыя! Ха-ха.

Потную спіну лізануў халодны ветрык. Паўзло тое агіднае пачуццё, якое да яго рэдка наведвалася і якое, пэўна, называецца страхам.

«Навошта нагрувашчваю яшчэ адну хлусню? На якога д'ябла ёй цяпер маё бацькоўства? Калі яна пагоніць такога бацьку к чортавай матары, то зробіць правільна».

Але адступлення няма. Трэба не разгубіцца, падмацаваць прызнанне тлумачэннямі.

— Я працаваў загадчыкам райза. А твая маці — у школе, у пачатковай. Стары будынак царкоўнапрыходскай школы. З кватэрай для настаўніцы. Мы пазнаёміліся яшчэ да вайны.

— Вы былі жанаты?

— Быў жанаты.

— Нішто сабе маралісты! А цяпер усе грахі валіце на наша пакаленне і хочаце выдаць сябе за святых.

— Не, мы не святыя. Мы былі людзьмі... Калі пачалася вайна, сям'я мая эвакуіравалася, а я пайшоў у лес, арганізаваў атрад... Твая маці — мужная жанчына. Яна прыйшла ў атрад... у такім становішчы... незадоўга да твайго з'яўлення на свет. Ты нарадзілася ў партызанскай зямлянцы.

— Гэта падобна на праўду,— задумліва сказала Віталія,— мама такая... І вы... абаронца траў,— яна хмыкнула, наліла настойкі толькі сабе і гэтак жа па-мужчынску выпіла.— Цяпер я не ведаю, што мне рабіць. Цалаваць вам рукі ад радасці? Ці пагнаць прэч з хаты за тое, што вы столькі маўчалі?.. Пускаеце на свет дзяцей — і баіцеся сказаць ім праўду.

— Мяне ты можаш вініць. Маці не віні...

— Ды ну вас...— не злосна, а ўжо неяк стомлена і абыякава адмахнулася дзяўчына.— Ешце. Яечня астыла,— і пачала нехаця закусваць, быццам жадаючы паказаць госцю прыклад.

Сядзелі адзін перад адным, апусціўшы вочы ў талеркі, рабілі выгляд, што ядуць, і маўчалі. Доўга маўчалі. Гэта былі цяжкія хвіліны.

Іван Васільевіч дакараў сябе:

«Навошта я гэта зрабіў? Каб парушыць душэўны спакой яе, Надзін, свой? Праўда, на якое ліха ёй цяпер бацька? Ды яшчэ такі. Удачараць трэба было тады, у вайну, калі яна была дзіця. Але тады

чамусьці і ў галаву не прыйшло, што ёй трэба бацька. Зараз прыйдзе Надзя і... не пацвердзіць... Разбурыць усё. І мне, хлусу, як пабітаму сабаку, прыйдзецца пакінуць хату... Як я гляну ёй у вочы? Ужо і цяпер цяжка глянуць ёй у вочы».

— Я вінаваты перад табой: ты даўно магла б ведаць...

— І думаеце, што мне ад гэтага лягчэй жылося б? Не, мама зрабіла мудра. Я была, як усе тыя, хто застаўся без бацькі. А іх тут, у сяле, нямала такіх, маіх равеснікаў. Мой бацька, партызан, загінуў, як герой, і я ганарылася ім. Усё было проста. З намі ў школе вучыўся хлопец, Яўген Коўшык, пра якога казалі, што бацька яго — немец. Ён быў ціхі, добры, а яго ўсё адно не любілі, называлі «фрыцам». Дзеці жорсткія. Пасля сёмага класа ён мусіў з'ехаць некуды ў Данбас. Кажуць, стаў шахцёрам. Жаніўся. І ні разу не прыехаў у сваё сяло. Я разумею яго. Таму не віню маці... Як скажаш дачцэ пра свой грэх, нават калі яна і не дзіця ўжо, дачка?

Антанюку не стала лягчэй пасля яе слоў.

Маці яна не вініць. А яго, па сутнасці, параўнала з немцам. Ніводнай ноткі радасці ці ўдзячнасці. Дажыў да пенсіі, а паводзіш сябе, як хлапчук. Хіба не здаралася ўжо, што твая філантропія паварочвалася супраць цябе? Але трывожыла не гэта. Трывожыла думка, як паставіцца да яго маны Надзя. Трэба абавязкова папярэдзіць яе.

Ён падняўся з-за стала, падзякаваў за снеданне.

— А чай? — спытала Віталія.

— Дзякуй. Не хачу. Нешта разбалелася галава. Хачу прайсціся.

— Вам трэба сустрэць маму і папярэдзіць яе... змовіцца? — здагадалася яна, саркастычна ўхмыльнуўшыся.— Ідзіце. Маму такі трэба папярэдзіць. Яна — што дзіця. Зусім не ўмее маніць. У яе цяпер урок у восьмым, у былой царкве.— Віталія ўздыхнула.— Калі нам пабудуюць школу? Бегаем, як апантаныя, з аднаго канца сяла ў другі. У дождж, у гразь,— і чамусьці недарэчна папракнула : — Паспрабавалі б вы так папрацаваць,— быццам будаўніцтва школы залежала ад яго, Антанюка.

Надзя, відаць, угледзела яго праз акно і, кінуўшы клас, выскачыла на вуліцу, спалоханая: што здарылася? Чаму ён ходзіць тут?

Іван Васільевіч убачыў спалох на яе пабялелым твары, прачытаў запытанне ў насцярожана расшыраных вачах. Вінавата ўсміхнуўся. Глянуў на вокны школы — да шыб прыліплі фізіяноміі хлопцаў і дзяўчат. Цікава ім: да каго так паспешліва выйшла настаўніца? Надзя таксама азірнулася на вокны і яшчэ больш разгубілася і спалохалася. Там, у партызанах, калі штодня вісела смяротная пагроза над ёй самой, над малой дачкой, ён ніколі не бачыў жанчыну такой трапят-

кой, разгубленай, па-птушынаму бездапаможнай... Дзіўна змяніўся чалавек. Чаго ёй баяцца цяпер? З-за чаго хвалявацца? Слова не можа вымавіць. Вачамі моліць: кажы хутчэй, што ў вас там здарылася?

— А такі здарылася...

— Што? — як у непрытомнасці, прашаптала яна.

— Віта спытала, хто яе бацька...

— І ты сказаў?..

— Сказаў — я...

— Іван!

— Яна ездзіла ў наш раён і распытвала пра Шугановіча.

Твар яе зусім спалатнеў, пальцы сутаргава скамечылі хустку, што была накінута на плечы.

— На тваё... наша шчасце, не напаткала нікога, нікога з тых, хто ведае ўсё... Але што Шугановіч — Васіль, пра гэта ёй сказалі. Чаму ж яна Віталія Іванаўна?

— Іван! Я не магу больш маніць! Не трэба! Навошта?

Ён адказаў гучна і амаль узлавана:

— А хіба не я быў бацькам ёй ад самага нараджэння? Не я тры гады насіў на руках? Хіба не я думаў пра яе? Але, думаў... гэтак жа, як і пра сваіх дзяцей! Яна жыла ў маім сэрцы... Хто яшчэ пра яе так думаў, акрамя цябе?

— А ён? Іван! А што, калі ён жывы?

— Яго няма.

— Няма?

Іван Васільевіч наблізіўся і сціснуў яе руку, моцна сціснуў каля локця, да болю. Другой рукой клапатліва паправіў хустку, захінуўшы грудзі, каб не прастудзілася. Яна паспрабавала вырваць руку. Ён не адпусціў.

— Даўно няма. Гэта адзінае, што я стаіў ад цябе.

— Ты?!

— Не. Не я. Трыбунал. Пасля вайны ўжо. У сорак дзевятым. Тады ён уцёк на Украіну. Але не за тым, каб працаваць. Уступіў у бандэраўскі атрад. На яго руках многа крыві нашых людзей. Разбітыя, бандыты пахаваліся, хто ўцалеў. Сваяцкага знайшлі недзе ў Азербайджане. Мяне выклікалі для апазнання. І пасля — сведкам на суд. На вочнай стаўцы ён меў магчымасць спытаць пра вас, каб быў чалавекам. Не спытаў. Вы не існавалі для яго. Яны там усе азвярэлі. Родных матак ненавідзелі.

Яе пачала біць ліхаманка. Уся закалацілася. Івана Васільевіча нават нядобра кранула: так перажывае смерць таго падлюгі?

— Табе холадна. Ідзі ў клас.

— Б-б-ожа мой! Стольki я ж-жыла с-са страхам, што ён... з-знойдзе нас, в-вернецца. Я магла б і-інакш жыць. Зусім інакш! — яна кінула гэтыя словы, як папрок: чаму Антанюк маўчаў?

Тады ён зразумеў усю трагічнасць яе больш чым дваццацігадовага быцця. Бясстрашна кінула дом, мужа, які здрадзіў усяму, што для яе было дарагое, і паехала ў лес, у завіруху, у невядомасць. А пасля... пасля, калі прыйшлі перамога і радасць, яна жыла са страхам — можа вярнуцца ён, сказаць Віталіі, хто яе бацька... Была віна, але ён прыняў пакаранне, пакуты... Дачка можа дараваць. А яна не магла. Яна адчувала, што не зможа дараваць. Ніколі. Якое пакаранне той ні прыняў бы. Які б спакутаваны ні вярнуўся. Як бы ні прасіў.

А ён, Антанюк, не падумаў пра гэта раней! Выходзіць, дрэнна ўсё-такі ён ведаў гэтую маленькую, здавалася, бездапаможную жанчыну, якую некалі пакахаў. Не, яна не слабая, не спалоханая. Яна такая ж, якая была і тады, у лесе,— ціхая, непрыкметная, адданая таму, каго пакахала, але мужная. Аднак другі час — другая мера мужнасці.

— Прабач. Я думаў — так лепш.

— Бо-божа мой! Столькі гадоў!

— Супакойся. Ты ўся дрыжыш. Ідзі ў клас,— Іван Васільевіч павёў яе да школы, не выпускаючы рукі.

На ганку Надзя сказала:

— Я не здолею весці ўрок.

што да цябе прыехаў госць. Дай ім заданне. Папрасі пасядзець ціха. Ты ж абяцала мне.

Яна пастаяла, падумала. Пасля сказала:

— Я баюся заходзіць у клас. Баюся — расплачуся.— На нямое запытанне — чаму? З-за чаго? — крыва ўсміхнулася: — Бывае, што хочацца паплакаць.

— Чакай, я сам скажу.

— Нядобра, Іван.

— Усё добра. Я ўсё яшчэ партызан.

Ён рашуча ўвайшоў у клас. Вучні шуганулі ад вокнаў, ад дзвярэй за парты. Нядружна падняліся і яшчэ менш дружна адказалі на прывітанне — «рассыпалі гарох». Моцна іх здзівіла такое нечаканае ўварванне ў клас незнаёмага дзядзькі.

Іван Васільевіч звярнуўся да іх, як да зусім дарослых :

— Таварышы! З Надзеяй Пятроўнай мы разам ваявалі. Я камандаваў брыгадай, яна была партызанкай, санітаркай нашай і гаспадыняй. Мы не бачыліся многа гадоў. А госць ёсць госць. Яго трэба прыняць. Не так хіба?

— Так! — адказалі хорам, больш дружна, чым віталіся.

— Надзея Пятроўна просіць вас пазаймацца самастойна. Згода?

— Згода!

— Не так гучна, а то мы падымем на ногі ўсю школу.

— А тут толькі тры класы.

— Усё адно. Вы абяцаеце паводзіць сябе так, каб на вас не было ніякіх нараканняў?

— Не будзе!

— Раскажыце нам, як вы партызанілі,— голас з задняй парты, дзе сядзелі хлопцы.

— Я магу расказаць, але, безумоўна, не зараз.

— Дык вы ж ненадоўга.

— Я пастараюся знайсці час... З дапамогай Надзеі Пятроўны.

— Дык можна лічыць, што мы дамовіліся?

— Дамовіліся!

Іван Васільевіч хацеў быў выходзіць, але яго спыніў дзявочы голас:

— Паліто Надзеі Пятроўны.

Паліто вісела на спінцы крэсла.

Ён узяў паліто, павярнуўся і... убачыў Надзю: яна стаяла каля дзвярэй, спакойная, упэўненая, усмешкай дакараючы яго, як малога:

— Іван Васільевіч дзейнічае па-партызанску.

Вучні засмяяліся. І тут жа пачалі ўпрошваць яе:

— Ідзіце, Надзея Пятроўна. Мы самі...

Яна дала заданне — што прачытаць тут, у класе, і дома.

Іван Васільевіч памог настаўніцы апрануць паліто. На праяўленне такой звычайнай ветлівасці сельскія вучні глядзелі з цікавасцю: дзяўчаты — з прыкметным захапленнем (нам бы такая ўвага!), хлопцы — з іранічнымі ўсмешкамі.

Калі выйшлі ў калідор, Іван Васільевіч спытаў:

— Табе расхацелася плакаць?

— Мне расхацелася плакаць.

І змоўкла. Упершыню ён адчуў няёмкасць ад яе маўчання. Яно адчужала, аддаляла яе. Надзя ніколі не была гаваркая. І раней, нават тады, у маладосці, яна магла падоўгу маўчаць. Але тады яно было інакшае, яе маўчанне.

Самае дзіўнае, што і сам ён адчуў раптам сябе тым юнаком, які не ўмее, баіцца вымавіць пры жанчыне двух слоў. Здавалася, што ўсё, што ні скажа, будзе неўпапад.

Сказаў:

— Трэба вучыць дзяцей этыкету.

— А што, яны не ўмеюць?

— Каб іх не здзіўляла, што мужчына памагае жанчыне апрануць паліто.

— Хіба гэта галоўнае?

Іван Васільевіч адчуў, што чырванее. Сапраўды, знайшоў праблему!

«Здаецца, дурнееш, Антанюк. Спаўзаеш на інтэлігенцкую драбязу».

Каб хоць нечым разварушыць яе, вывесці з задумлівасці, прымусіць гаварыць, спытаў нясмела:

— Надзя, я прынёс табе непрыемнасці?

Жанчына спынілася пасярод вуліцы, павярнулася да яго, глядзела ў твар адкрыта, шчыра, добра, але без той закаханасці, якую ён заўсёды бачыў у яе вачах раней.

— Іван! Ты прыносіў мне радасць. Заўсёды. І цяпер... Але радасці розныя. І не кожная патрэбна... Не кожная, Іван...

— Я разумею,— цяпер ён такі сапраўды ўсё разумеў, бо зноў у адзін міг ахапіў усе падзеі ў іх складанай узаемасувязі, быццам сабраў у адзін фокус. А то як бы правалы былі: думаў пра адно і забываўся на другое. Думаў, напрыклад, як яна прыняла вестку аб смерці Сваяцкага, і не звязваў гэтага са сваім прызнаннем Віце, яшчэ з адной маной, няхай і бязгрэшнай, якую ёй, маці, належыць ці прыняць, ці адкінуць.

Раптам захацелася, каб Надзя не прыняла гэтай маны — яго бацькоўства. «Радасці розныя... не кожная патрэбна». Усё жыццё ён казаў людзям суровую праўду, змагаўся за праўду. І раптам мусіць маніць. Няхай бы дзяўчына паслала такога тату да д'ябла. Было б прасцей. Але не паслала, не абурылася. Прыняла амаль спакойна. Даравала маці яе ману.

Надзя маўчала. Сустрэчныя жанчыны віталіся з настаўніцай і з цікавасцю разглядалі яе госця. Можа некаторыя старэйшыя помнілі яго па ранейшых рэдкіх адведах. Хоць калі тое было! Не вельмі ён паказваўся на людзі.

Выходзіць, Надзя таксама не адкідае яго маны. Прымае. На ганку свайго дома спынілася, цяжка ўздыхнула.

— Табе сорамна перад Віталіяй?

— Не. Я ўсё перажыла ўжо. Перажыву яшчэ адзін папрок. А тады можа ўсё стане прасцей. Для мяне. Я стамілася, Іван, — яна лёгка сціснула пальцы яго рукі, не то дзякуючы, не то ласкава дакараючы.

Віталія, калі яны ўвайшлі ў хату, прыжмурыла свае трохі мангольскія вочы, іранічна агледзела іх — так бесцырымонна, што нават Івану Васільевічу зрабілася ніякавата.

— Што, старыя грахаводнікі, змовіліся? — і весела засмяялася. — А вы падобныя адно на аднаго. Далібог. Маленькія, але ўдаленькія.

Маці разгубілася.

— Віта!

— Што, дарагая матуля? Зараз будзеш чытаць мараль, што я нядобра паводжу сябе? Так?

— Не. Не будзе. Больш не будзе, — адказаў Іван Васільевіч, каб звесці размову на жарт.

— Больш не будзе? Дзякуй. Нарэшце я атрымала права на самастойнасць! — і зноў засмяялася.— Гляджу я на вас — і смех апаноўвае. Вельмі ж вы не падобныя на палюбоўнікаў. На тых, што ў раманах.

— Віта!.. — Надзея Пятроўна загарэлася, як дзяўчынка.

Іван Васільевіч сказаў сур'ёзна:

— Табе не да твару цынізм, Віталія. Ты абражаеш маці. Завошта?

— Мама не абразіцца. Не бойцеся. Калі вы раскрылі сваю тайну, то няма чаго прыкрывацца фігавым лістком. Гэткія галубкі! Ай-яй.

Нават яго, старога зубра, яна прымусіла пачырванець.

Пасля яна амаль увесь час адносілася да іх, як адносіцца шматвопытны дарослы да дзяцей, — не прымала сур'ёзна іх словы, учынкі. Зрэдку, праўда, прарывалася ўвага да Івана Васільевіча — цікавасць і нават клопат.

Вельмі можа быць, што ёй, якая не мела бацькоўскай ласкі ў маленстве, хацелася адчуць гэтую ласку цяпер. Але яна стрымлівала сябе, спрытна хаваючыся за іронію, за жарт. А можа сапраўды ёй, чалавеку з гумарам і нігілізмам, што ўласцівы пэўнай частцы інтэлігенцкай моладзі, уся гісторыя гэтая здаецца камічнай? Не вельмі можа ўзварушыла яе з'яўленне бацькі. Якая розніца — ёсць ён дзе ці няма, галоўнае — існую я. Увесь свет — ва мне і для мяне. А ўсе сваяцкія адносіны, сынава, доччына, бацькоўская любоў — усё гэта анахранізм. Ёсць і такая філасофія сярод моладзі. Лада часам, каб нагнаць страху на маці, расказвае пра падобныя погляды студэнтаў.

Праўда, ён, Антанюк, ніколі сур'ёзна не слухаў такія расказы. Лада — фантазёрка. І не верыў у такую «філасофію», якая, на яго думку, магла быць або бяскрыўднай балбатнёй мамчынага сынка, якому хочацца пакрасавацца, або — вось гэта небяспечна! — злосцю і зайздрасцю хлопца, які не ведаў бацькоўскай ласкі.

Віталія не падобна ні на таго, ні на другога. Наўрад ці маглі раней узнікнуць у яе такія думкі. У яе былі слава бацькі і гарачая любоў маці.

Проста яна, інтэлігентная дзяўчына, добра разумее становішча чалавека, у якога сям'я, ухваляе высакароднасць маці, яе бескарыслівае адданае каханне. Таму і сустрэла так цвяроза неспадзяванае прызнанне. Не стане ж горш ёй ад таго, што бацька, вядомы партызанскі камандзір, жывы і здаровы.

Дачка і маці пачалі гатаваць абед, незвычайны, святочны.

Іван Васільевіч прылёг на канапе ў чыстай палавіне і ў хрэстаматыі з цікавасцю чытаў «Капітанскую дачку» — даўно не чытаў, не трапляла на вочы.

Жанчыны ціха перагаворваліся паміж сабой — слоў не разабраць. Віталія часта прыглушана смяялася. Усё яшчэ, відаць, кпіла з маці.

Магчыма, ён заснуў на нейкі міг. Але пачулася раптам, што Віталія засмяялася нядобра, зларадасна. Тады зноў з'явілася трывога. Здалося, што яна ўсё ведае — пра Сваяцкага і ўсё іншае. І хоча злосна пажартаваць, каб адпомсціць і маці, і яму, Антанюку. Адпомсціць за сапраўднага бацьку. Там, у раёне, куды яна ездзіла, ёй мог напаткацца чалавек, які або не ведаючы, або наўмысна расказаў пра Сваяцкага не тое, што было ў сапраўднасці. Нехта ж тады, калі ён знік, пусціў легенду, што намеснік начальніка раённай паліцыі падаўся ў партызаны, што і ў паліцыю ён быў засланы партызанамі. Але няўжо яна магла так доўга маўчаць, не сказаць маці? Няўжо знарок чакала яго, Антанюковага, прыезду? Не верыла, што ён больш не наведаецца сюды?

«Якая лухта лезе ў галаву. Падазраваць дзяўчыну, няхай і не наіўную, у такім злосным намеры, у жаданні так жорстка і бязлітасна адпомсціць маці — абсурд. Маці ёсць маці. Мала чаго Віталія магла засмяяцца так. А можа праўда прыснілася? Во характар чалавечы! Сядзеў ты, Іване, ціха, спакойна... Дык — не, сарваўся і нарабіў сабе клопату. А калі я сядзеў ціха? Не, не было такога дня, калі б адчуваў сябе пенсіянерам. Пакуль жыву — буду хваляваць і другіх. Буду шумець. Буду памыляцца, бо не памыляюцца толькі абывацелі і мерцвякі. А я жыву! Жыву! Буду любіць і буду ненавідзець! Можа я зрабіў глупства, але не раскайваюся. Табе не будзе, ніколі не будзе горка і сорамна за таго, хто назваўся тваім бацькам. Ты можаш вініць мяне шмат за што, але не за тое, што было галоўнай лініяй майго жыцця, што павінна быць галоўнай лініяй жыцця кожнага чалавека».

Віталія ўвайшла, каб нешта ўзяць, і ступала на насочках — думала, што ён спіць.

Іван Васільевіч падняў з грудзей кнігу.

— Хадзі смела. Я не сплю. Захапіўся «Капітанскай дачкой».

— О-о! Вас яшчэ могуць захапіць такія кнігі?

— А чаму не? Мы, старыя, якраз і чытаем Пушкіна, гэта вы, моладзь, — аднаго Еўтушэнку.

Раптам захацелася ўцягнуць яе ў спрэчку — у такую, якую часта вёў з Ладай. Але Віталія не прыняла выклік. Відаць было, што Еўтушэнка для яе — пусты гук, не тое, што для Лады, галава якой набіта вершамі гэтак жа, як і формуламі. Падобна на тое, што Віталію вершы мала цікавяць. Яна — практычная рэалістка. Наколькі глыбокія яе веды па хіміі і біялогіі, якія яна вучыла ў інстытуце і вядзе ў школе? Па біялогіі аграном Антанюк мог бы паспрачацца з любым педагогам, хоць яго і абвінавачвалі, што ён адстаў ад перадавой навукі. Праўда, цяпер пачалі прызнаваць і тую, старую, «неперадавую» навуку, якой трымаўся ён яшчэ з Ціміразеўкі.

Віталія сказала:

— Я хачу запрасіць на абед нашага дырэктара школы. Вы нічога не маеце супраць?

— Нішто сабе госць, які пачаў бы камандаваць гаспадарамі — каго запрасіць, што падаць на стол...

Дзяўчына корпалася ў шафе за шырмай — відаць, пераадзявалася. Сказала пасля доўгай паўзы:

— Мама параіла запытаць. Відаць, яна не лічыць вас госцем...

Іроніі не пачулася. І гэта было аж занадта. Іван Васільевіч нават не знайшоў, што адказаць. Яна адразу адсекла ўсе сумненні. Яна прызнавала яго права гаспадарыць тут.

Сціхла там, за шырмай, — мабыць, чакала, што ён адкажа на яе словы.

— Вядома, запрашай. У нас жа з табой — свята. І папрасі яго, калі ласка, захапіць брытву. Спадзяюся, што ён голіцца? Ці носіць бараду?

Яна засмяялася весела і бадай-што шчасліва. Ці проста Івану Васільевічу хацелася, каб яна смяялася шчасліва? Не толькі тут, але і раней яшчэ ён заўважыў, што пачынае траціць дакладнае адчуванне настрою блізкіх людзей і вызначае яго ў залежнасці ад свайго суб'ектыўнага жадання. Хацелася, напрыклад, каб Вольга крыху пасмуткавала — і здавалася, што яна смуткуе. Але, калі ён спытаў аднойчы ў жонкі, чаму яна такая зажураная, тая здзівілася:

— Выдумаеш, Іван! У мяне даўно ўжо не было такога добрага настрою, як сёння. Гэта табе, мабыць, нявесела, — і цяжка ўздыхнула. — Я разумею.

Смяшылі і злавалі гэтыя ўздыханні ад перакананасці, што яму цяжка без працы, без калектыву.

Віталія з такім жа шчаслівым смехам — ён не памыляўся — шчаслівым — нешта доўга расказвала маці.

Зачыніліся за дачкой дзверы — і Надзя адразу ўвайшла ў светлы пакой. Адзетая па-хатняму — у сінім фартушку, у белай касынцы, з-пад якой выбіваліся пасмачкі валасоў, простых, але не прыгладжаных так, як раніцой, — выглядала простай, чысценькай і прывабнай гаспадынькай. Чырвань на шчоках маладзіла твар.

Івану Васільевічу захацелася даць ёй радасць.

— Пасядзі каля мяне, Надзя.

Жанчына прысела на край канапы. Ён узяў яе маленькія рукі. Яны пахлі свежымі булкамі. Пацалаваў пальцы. Хацеў сказаць звыклыя словы: «Я люблю цябе, Надзя». Але нешта незнаёмае, невядомае стрымала. Нейкае новае пачуццё. Не сказаў. Надзя гэтак жа, як і раніцай, правяла даланёй па яго калючай шчацэ. Яна, безумоўна, адказала б: «І я люблю цябе, Іван». Але ён не сказаў — можа таму яна ўздыхнула.

У гэтым новым пачуцці былі тая ж удзячнасць і тыя ж парыванні, не менш пяшчоты, чым раней, але з'явілася нейкая дзіўная адказнасць. Перад кім? За што? І яшчэ — прымеека жалю. Жаль — пэўны: да яе, за тое, што яна магла гэтыя дваццаць год пражыць інакш, мела права пражыць інакш. І з'явілася адчуванне віны. Перад ёй.

— Даруй, Надзя...

— За што, Ваня? — яна здзівілася так шчыра, што Іван Васільевіч не стаў больш нічога казаць: здалося, што і настрою яе не адчувае і ўвогуле ўсё ўскладняе — апанавала гэткая няхлюдаўшчына. Трэба горача абняць яе, абсыпаць пацалункамі; так рэдка ў яе бывае такая радасць. Прыцягнуў да сябе. Надзя сама, неяк зусім інакш, чым: раней, пацалавала яго і... адхілілася. Сказала:

— Закружыў галаву ёй гэты Алег Гаўрылавіч.

Іван Васільевіч не адразу зразумеў, што Надзя — пра дачку. Зразумеў — і тут жа адчуў: Віталія стаіць паміж імі, стаіць так, як не стаяла ніколі. Маленькая, яна збліжала іх. А цяпер, калі ён так наблізіў яе самую, гэта выводзіць адносіны Надзі і яго ў зусім другое рэчышча, у якое — яшчэ невядома, але няпэўнасць, новая мана, якую яна прыняла з бояззю і радасцю, дзіўна і своеасабліва адчужае іх. Ці можа ўнутраны халадок гэты мае больш простую прычыну: гады? Гады ўвогуле і шэсць год, якія яны не бачыліся.

— А ў яе, па-мойму, гэта першае сур'ёзнае пачуццё. І мне боязна...

— Чаго?

— Яна захоплена, як вучаніца... у шаснаццаць год. А ёй дваццаць тры...

— Якая розніца. «Любви все возрасты покорны»,— Іван Васільевіч адгарнуў хрэстаматыю на партрэце Пушкіна.

— Ты не разумееш, Іван. Яна настаўніца, а ён — дырэктар. Злыя языкі пускаюць плёткі.

— Божа, якая ты стала правільная.

— Я — маці.

— Калі яны кахаюць адно аднаго, як ты кажаш, — чаго табе баяцца плётак? Без плётак было б сумна.

Жанчына ўздыхнула.

— Мая бяда, што я не веру, што і ў яго гэта так жа сур'ёзна і так... рамантычна, як у яе. Ён быў ужо жанаты. Але не гэта мяне палохае. Яму — трыццаць два гады. У жыцці ўсялякае бывае. Але каб ён быў да канца шчыры. А ў мяне ўвесь час адчуванне, што ён нешта тоіць...

— У кожнага ёсць свая тайна.

— Так, у кожнага з нас свая тайна. Але я хаваю сваю тайну дзеля спакою і шчасця блізкага чалавека — дачкі. А ён дзеля чаго?

— А якая тайна ў яго? Што ты падазраеш? Ён жа сказаў, што быў жанаты. Ці разведзены — можна праверыць.

— Ненавіджу праверкі! Я хачу верыць чалавеку. Віта верыць, як дзіця! Як яна накінулася на мяне, калі я пачала аднойчы размову пра гэта... асцярожна, далікатна. А яна... ты паглядзеў бы, як закіпела! Абразіла мяне: «Ты па сабе мераеш усіх!»

— А праўда: чаму тое, што ён, магчыма, не аформіў развод, здаецца такой небяспечнай тайнай? Ты сама, кажаш: у жыцці ўсялякае бывае. Ну, добра, быў жанаты. Ну, не атрымалася... Невядома, па чыёй віне.

— Але ж каб ён шчыра прызнаўся. Самае страшнае — расчараванне, Іван. Самае страшнае. Я ведаю, што гэта такое... Мне тады было дваццаць два...

— Але ў цябе былі іншыя прычыны.

— Усё адно. Гэта страшна! Толькі шчырасць збліжае, родніць людзей на ўсё жыццё. Як у нас з табой. Ты нічога не таіў ад мяне, я — ад цябе. У цябе быў абавязак. І я палюбіла цябе яшчэ больш, калі ты пайшоў да сям'і.

— Віта не здалася мне такой ужо рамантычнай. Разважанні яе вельмі цвярозыя.

— О не! Ты памыліўся. Знешне яна нібы грубая, дзёрзкая. Але я ведаю, як лёгка раніць яе сэрца. Яна ўсюды ваюе за праўду. З усімі

задзіраецца. Там сварылася з дырэктарам школы, з райана, а тут ужо колькі разоў налятала на дырэктара саўгаса. За культуру. А ён, Алег, не толькі не стрымлівае яе, а падбівае на такія наскокі. А сам заўсёды ўмее застацца ўбаку. Не падабаецца мне... Не люблю я такіх. Ты калінебудзь станавіўся збоку, калі ў бойку лезлі блізкія людзі?

Іван Васільевіч падумаў:

«Калі Надзя не памыляецца, то ананімка магла пайсці ад яго. Віталія расказала па прастаце душэўнай, і ён не стрымаўся, каб не «сігналізаваць». О, вядуцца яны яшчэ, такія «сігнальшчыкі»! Калі так, то паганы чалавечак!»

— А можа антыпатыя да яго ў цябе ад рэўнасці, што ён, чужак, робіцца дарагі тваёй дачцэ? І ад страху, што ён забярэ яе ад цябе?

— Можа, — сумна згадзілася жанчына. — Ты ўсё яшчэ партызан, а я ўжо не партызанка. Я баязліўка. Віта рыхтуецца ў партыю, і я таксама баюся.

— Чаго?

— А калі не прымуць? Які для яе будзе ўдар!

— Чаму не прымуць?

— За характар. Задзіраецца з людзьмі. Дырэктар саўгаса што скажа — тое і будзе.

— Не той час, Надзя. У цябе старыя ўяўленні,

А самога кальнула трывога. Але з іншай прычыны.

«У партыю цябе прымуць. Партызанская дачка. Але пасля можа здарыцца, што спытаюць: чаму схавала «факт сваёй біяграфіі»? О, гэты злашчасны факт! І ніхто, ніхто не паверыць, што ты нічога не ведала. Але, не павераць. І можа здарыцца, што тады ўжо не будзе такога сведкі, як я. А факты біяграфіі застануцца. Іх будуць паранейшаму правяраць. Выходзіць, я маню не толькі табе... Недарэчная сітуацыя. Можа пераканаць Надзю, што лепш сказаць праўду? «Толькі шчырасць збліжае людзей». Няхай перажывуць адзін раз... Не, Надзя не згодзіцца, падумае, што я спалохаўся. Ёй трэба выкрасліць таго са свайго жыцця і з жыцця дачкі назаўсёды. Яна рада майму прызнанню і... нават майму паведамленню...»

— Пра што ты задумаўся, Іван?

— Я? Пра дзяцей... Пра нашых... Пра маіх дзяцей.

— Прабач. Я не паспела спытаць, як твае...

— Я, здаецца, казаў: еду ад сына. Не, гэта я Віталіі казаў... Ён у Крыму, у берагавой ахове. Служба пайшла яму на карысць. Але перажытае зрабіла яго крыху замкнутым. Гісторыя ва універсітэце...

— Я ж не ведаю пра гэтую гісторыю. Ты напісаў два словы.

Ён расказаў.

— У цябе былі непрыемнасці?

— Тады — не. Так, размова... А пасля... Пасля прыгадалі ўсё. Сына таксама. Тады я моцна ўзлаваўся на Васіля: мамчын сынок, качаўся, як сыр у масле, і яшчэ незадаволены, пратэстуе... Супраць чаго? А цяпер разумею — супраць чаго. Мы, старыя, патроху звыкаемся з глупствам, подласцю, ханжаствам. І часам праходзім міма іх носьбітаў. Абы спакойна жыць. Маўляў, нічога не пераробіш. А яны, моладзь, не хочуць спакойна жыць, яны хочуць гарэць, а не тлець. А мы часам залiваем гэты агонь... затоптваем груба... ботамі. Баюся, што Вася таксама ўжо ніколі так не загарыцца. Будзе правільны. Не люблю правільных. Вельмі часта гэта людзі з двайным дном. Мне захацелася пасля сустрэчы, каб Васіль вярнуўся дадому. А яго прываражыла мора... Што-небудзь ці хто-небудзь іх прыварожвае, і яны адыходзяць ад нас. Такі закон...

— А Лада? Замуж не выйшла?

— О не! У яе ўсё гарэнне — на навуку. Здаецца, расце вялікі фізік. Лада — мая любоў. З ёй мы знайшлі правільную форму адносін... бацькоў і дзяцей. Мы спрачаемся. А ў спрэчках — ісціна...

Так, па-сямейнаму, разважліва, яны прагаварылі, пакуль не вярнулася Віталія і з ёй — Алег Гаўрылавіч.

Надзя першая пачула іх галасы. Усхапілася, як бы спалоханая ці збянтэжаная.

— Ідуць...

Дырэктар прынёс дзве брытвы: электрычную і «безапаску», Растлумачыў:

— У мяне дык гэтая не голіць падбародак. Прыходзіцца папраўляць старым метадам.

Пазнаёміўся ён проста, не выяўляючы залішняй цікавасці. Увогуле, адчувалася, што гэта даволі стрыманы чалавек — ва ўсім: у словах, ва ўчынках, нават у жэстах. Было ў яго нешта ад драматычнага акцёра, які ведае сабе цану.

Антанюк так і падумаў адразу, бо ведаў і дрэнных і добрых акцёраў. Але ведаў і другое: бывае, што добры акцёр — паганы чалавек. А для яго заўсёды ў першую чаргу — чалавек. Але па ўсім відаць, што гэты акцёр — Алег Гаўрылавіч — не так проста выявіць сваю чалавечую сутнасць.

Іван Васільевіч уключыў «Харків» у разетку. Брытва гудзела, як трактар. Можна памаўчаць, каб не павышаць голас, і разгледзець новага знаёмага. Што ж, мужчына прыгожы, такія асабліва падабаюцца жанчынам. Высокі. Сапраўды з акцёрскай паставай. Сеў на канапу, закінуў нагу на нагу. Спытаў у Пятроўны дазволу закурыць. З

лістка паперы хутка і ўмела зрабіў попельніцу — чаўнок. Твар хударлявы, прадаўгаваты. У светлыя і досыць густыя яшчэ валасы ўразаюцца затокі — залысіны, гэткія прафесарскія; яны пашыраюць поле лба, такі лоб прыцягвае ўвагу, і людзі наіўныя часам думаюць: о, гэта розум! Але Іван Васільевіч нярэдка бачыў «сакратавы лбы» ў дурняў. За сваё жыццё Іван Васільевіч усё бачыў.

У профіль твар дырэктара выглядаў горш. Што яго псуе? Ах, нос. Ён надае твару трохі драпежны выгляд. Не, не ястрабіны. Нос без гарбінкі, нават кончык яго задзёрты. На каго ж ён падобны? На шчупака? Не, не тая лінія. Ды і драпежнасці бадай-што няма. Нядобра вышукваць несімпатычныя рысы ў чалавека, якога пакуль што не ведаеш. Ды і ўвогуле не ў знешнасці сутнасць.

Ён пісаў ананімку ці не ён?

Каб здагадацца, трэба даведацца, калі ён пачуў пра яго, Антанюка. Калі і што яму расказвала Віталія? Але як падступіцца, з чаго пачаць?

Іван Васільевіч выключыў электрабрытву.

— Папраўлю і я старым метадам.

— На сухую?

— На сухую. Праўда, у мяне шчаціна жорсткая. Як у старога дзіка.

Віталія засмяялася. Яна стаяла каля стала, адсунутага на сярэдзіну пакоя, няспешліва працірала талеркі, расстаўляла іх, па-дзіцячаму схіліўшы галаву, любавалася сваёй работай і... мужчынамі. Незвычайнымі мужчынамі. Не нейкімі там сваімі аднакурснікамі-шалапутамі. І не старымі настаўнікамі, што часам прыходзяць у клас з хлявоў, у гумавых ботах, залепленых гноем. З такімі яна ваявала, і яны не любілі яе. А гэтыя двое любяць яе, няхай па-рознаму. Зычаць шчасця. Прынясуць шчасце.

Старэйшы ўжо прынёс нешта такое, што, напэўна, можна назваць шчасцем, каб не было яно такое нечаканае і не выклікала такія складана-супярэчлівыя пачуцці. Яна сама яшчэ не вырашыла, як адносіцца да таго, што сказаў гэты чалавек. Але ёй прыемна, амаль радасна. Зараз яны абодва любыя ёй. Падабаецца іх мужчынская стрыманасць, акуратнасць. Нават гэтае галенне электрабрытвай. Ніякага намыльвання, пэцкання пэндзлем.

— ...Але я да ўсяго прывык, — стоячы перад люстрам, працягваў гаварыць Іван Васільевіч. — Аднойчы ў блакадзе ў нашай групе — нам прыйшлося разбіцца на групы для прарыву — не аказалася ніводнай брытвы. Хлопцы адрасцілі вось такія барадзінскі. А я, на. злосць немцам і ў прыклад сваім, галіўся. Шклом. Падабраў каля

разбітай леснічоўкі асколкі шыбы і шкроб імі. Без мыла. Канечне, выць хацелася... Але не здаваўся.

— Ведаеце, я сёння быў пасаромлены, — сказаў Алег Гаўрылавіч.

Іван Васільевіч павярнуўся да яго. Віталія насцярожылася: застыла з паднятай талеркай.

— Калі Віталія Іванаўна сказала мне, што да маці прыехаў яе партызанскі камандзір. Я паўгода працую тут і не ведаў, што Надзея Пятроўна — партызанка. Дырэктару гэта недаравальна — так не ведаць сваіх людзей. Праўда? Безумоўна, вінавата Віталія...

Дзяўчына добрай шчырай усмешкай папрасіла прабачыць, што не расказала пра маці раней.

Іван Васільевіч з палёгкай уздыхнуў. «Дзякуй богу, не трэба ніякай дыпламатыі. Усё проста і так хутка вырашылася. І ў найлепшы бок. Але, Віта нічога не магла расказаць пра нашы адносіны. Ні ў якім разе. Нават чалавеку, якога пакахала. Ці хутчэй — тым больш такому чалавеку. Кінуць цень на маці? Ніколі! Ды яшчэ пры тым, што яе ўласнае нараджэнне заставалася ў пэўным сэнсе загадкавым.

Значыцца, Леанід Мартынавіч меў рацыю: ананімачку пісаў нехта з маіх старых сяброў. Хто? Зноў Каралькоў? Няўжо так доўга трымае чалавек злосць? Счарнееш, Каралькоў! Хто яшчэ ведае пра Надзю з тых, хто блізка? Усё ведае Будыка. Але Валька ананімак не стане пісаць. Навошта яму? Каб яго прарвала, то хутчэй за ўсё ён расказаў бы Вользе. Але і тут начштаба паводзіць сябе, як мужчына.

Даволі адкрыць, што побач з табой не даносчык, не інтрыган, — і як мяняецца настрой. Далібог, ён сімпатычны хлопец, гэты Алег Гаўрылавіч. Дарэмны твае страхі, Надзя! Я з задавальненнем вып'ю за ваша шчасце, дзеці. Урэшце, ніхто не ведае, з кім яго знойдзеш, сапраўднае шчасце.»

VIII

Пасля абеду яны пайшлі гуляць. Утраіх. Маці засталася парадкаваць у хаце. Прапанавала пагуляць Віталія. Ці то ад выпітага віна, ці ад шчасця яна рабілася ўсё больш і больш вясёлай. Маўклівастрыманая спачатку, нязлосна-іранічная недзе ў сярэдзіне абеду, пад канец дзяўчына ператварылася ў вясёлую рагатуху. Цяпер яна ўжо не таіла сваіх пачуццяў да Алега Гаўрылавіча. Нават пры Іване Васільевічу цмокнула дырэктара ў шчаку. Ён, на дзесяць год старэйшы за яе, збянтэжыўся. Дзіўна, але гэта — адно толькі гэта — не спадабалася Антанюку. Не верыў ён у цнатлівасць такога мужчыны. А ўсё, што не ад шчырасці, што ігралася, насцярожвала.

— Мы пакажам вам, чым слаўна і бясслаўна сталіца князя Сівалоба, — сказала весела Віталія.

— Сівалоб, — дырэктар саўгаса, — растлумачыў без усмешкі Алег Гаўрылавіч.

— А то ж вы ні разу добра не разгледзелі.

Дзяўчына ўсё яшчэ помсціла за тыя тайныя кароткія прыезды ці можа за тое, што ён так доўга хаваўся ад яе. Іван Васільевіч разумеў. Але сказаў:

— Я добра разглядаў гэтую «сталіцу» дваццаць гадоў назад. Мы выбівалі з яе паліцэйскі гарнізон.

— О, калі тое было! Любіце вы, партызаны, пахваліцца былымі заслугамі. Адна мама не любіць. З яе слова не выцягнеш. Але цяпер маму мы з Алегам Гаўрылавічам прымусім расказаць. Будзе дваццаці-годдзе Перамогі — стэнд герояў зробім, цябе, мама, — на першае месца.

— Не мялі глупства, — па-настаўніцку строга сказала Надзея Пятроўна. — Ідзіце гуляць.

Надвор'е не змянілася за дзень. Было хмурна і ціха. 'Чуць марозіла. Гэтак жа, як раніцой, зрэдку ў паветры кружылі лёгкія-лёгкія, як таполевы пух, сняжынкі. Але і ў бязветранасць такую снег не засыпаў зямлі. Нячутнае дыханне здзьмухала яго.

Поле чорнае. І вуліца таксама. Толькі бялела каля парканаў, у канавах, у разорах і ярах.

Каб выйсці на «цэнтральны праспект», як іранізавала Віталія, яны пайшлі праз гароды. Вачам адкрылася зарэчнае балота, у гэты дзень жоўтае, як іржавая вада, з рэдкімі бярозкамі і маладым ляском удалечыні, недзе на тым краі.

— Сумны ландшафт,— сказаў Алег Гаўрылавіч.

— Няпраўда,— патрыятычна не згадзілася Віталія. — А мне тут усё люба, я тут вырасла. Вы пабачыце вясну! Рэчка наша так сабе, улетку, не падняўшы падол, пяройдзеш. А вясной, калі вялікая вада, — мора. Канца і краю не відаць. Увесь луг і балота заліты. Дзе-нідзе астраўкі... Вада спадае — луг зацвітае. І балота цвіце. Малая, я хадзіла з хлопцамі качыныя гнёзды шукаць. Браканьерка была. А пасля, калі паразумнела, выступала ў абарону качак. І цяпер вучням кажу... Іх мала засталося, качак. Чорт ведае, што робіцца! Паляванне адкрываецца —сюды сотні забойцаў прыязджаюць. Дзікуны! Чарада сабак. Трохстволкі. Двухстволак ужо мала на гэтую няшчасную птушку.— І да Івана Васільевіча: — Сказалі б там, у Мінску, каму трэба, хто мае ўладу, каб забаранілі такое паляванне.

— Я сам паляўнічы.

— Вы? Не кажыце мне гэтага! А то станеце маім ворагам!

— Паляванне можа прынесці карысць, калі яно вядзецца з галавой. Разумна.

— Усё мы ўмеем апраўдваць, — уздыхнула Віталія. — Балота пачалі асушаць... Вунь, бачыце, экскаватар працуе? Я тлумачу вучням: на карысць людзям. А ў самой часам сціскаецца сэрца. Што будзе з нашай рэчкай? З усімі рэкамі? Куды дзенуцца няшчасныя качкі, гусі, буслы, калі ўсё будзе асушана? Ці будзе ад гэтага карысць праз пяцьдзесят гадоў?

— Усе не будзе асушана. Будзе складаная навуковая сістэма рэгуліроўкі воднага рэжыму, — заўважыў Алег Гаўрылавіч.

— О божа! Алег! Не гавары так вучона! Калі я чую ці чытаю такія словы, то перастаю ім верыць,

Іван Васільевіч засмяяўся: Віталія нечакана, можа нават выпадкова, выказала тое, што, здавалася, адчуваў ён сам. Смех яго трохі збянтэжыў дзяўчыну, яна пачала як бы апраўдвацца:

— Мне нават самой робіцца няёмка, што не веру, здавалася б, такім разумным словам. А я хачу ўсяму верыць! Я ж павінна перадаць гэтую веру дзецям.

Была ў такім прызнанні дзіцячая наіўнасць, але была і глыбакадумнасць сталага чалавека, які сур'ёзна ставіцца да жыцця, імкнучыся зразумець з'явы ў іх узаемасувязі і дыялектычнай складанасці. І гэта спадабалася Івану Васільевічу. Лада. пранікае ў невымерна глыбокія законы будовы сусвету, але яна як бы адарвана ад грэшнай зямлі, яна ўжо ў космасе — у другім свеце; яна можа, безумоўна, таксама паразважаць аб асушцы балот, нават з прымяненнем фізікі і хіміі, але ніколі ў яе няма той зямной заклапочанасці, якая адчулася ў гэтай дзяўчыны — за людзей, за птушак, за будучыню: «Ці будзе ад гэтага карысць праз пяцьдзесят гадоў?» Лада крычала: «Пакіньце цвярдзіць, што мы павінны працаваць для шчасця будучых пакаленняў. Будучыя пакаленні паклапоцяцца самі пра сябе лепш, чым робім гэта мы!»

У Віталіі лепшае адчуванне сувязі будучага з мінулым і сучасным, больш простае і практычнае разуменне ролі чалавека на зямлі. Для яе, напэўна, бяссмерце, як і для добрай сялянкі, — у дзецях, а не ў адкрыцці фізічнага закона, які ўзбагаціць навуку. І закаханасць яе звычайная, без хітрасці, без ускладненых перажыванняў. Чуць ён, Антанюк, адстаў — і Віталія, відаць, ужо забылася пра яго. Узяла Алега пад руку, нешта гаварыла і весела смяялася. Што ж, усё натуральна. Яго, старога, шчасце, што захаваў успаміны пра маладосць, пра ўласныя пачуцці, пра свае думкі, імкненні таго далёкага часу.

Гэта памагае разумець моладзь. Няўжо тыя, хто не разумее, так забыліся на сваю маладосць? Ці ўсё-такі яна была намнога інакшая, іх маладосць?

Але, інакшая, чым у Лады. Іншыя ўмовы, жаданні, імкненні. Аднак вось Віталіна маладосць, здаецца, не так ужо моцна адрозніваецца ад маладосці яго, Антанюка, пакалення савецкіх інтэлігентаў. Мы — ад зямлі, ад гэтых балот, ад гэтага «сумнага ландшафту»...

«Сумны ландшафт», «навуковая сістэма рэгуліроўкі воднага рэжыму»... Думкі перакінуліся на Алега Гаўрылавіча. А ён з якіх? Не падобны на тых, што рвуцца ў космас, згараюць каля атамных рэактараў. Але і ад тых, што прысвячаюць жыццё вывядзенню новага гатунку руж ці захаванню дзікіх. качак і буслоў, ён, здаецца, хоча адгарадзіцца. Чым? Сваёй артыстычнай знешнасцю? Стала зразумелай Надзіна трывога — мацярынскі неспакой. Таксама захацелася «раскусіць» гэтага чалавека — а што там усяродку? Ды ў яго моцная ахоўная шкарлупка — немнагаслоўнасць. Яна спадабалася там, за сталом. Але такі стары зубр, як ён, Антанюк, не можа не ведаць, што і за глыбакадумным маўчаннем часам хаваецца пустэча. Нямала страчаў і такіх.

Сяло некалі, у далёкія часы, цікава забудоўвалася: тры вуліцы ішлі паралельна, гароды ў гароды. Вуліцы тут, на Палессі, шырокія, не вузей якога мінскага праспекта. Так бы і далей забудоўваць. Але калі сядзібы пачалі перакройваць — каго абрэзаць, каму прытачыць, новыя хаты павыраслі паміж вуліцамі, без усялякай планіроўкі, новыя хаты — добрыя асабнякі, аазісы ў «сумным ландшафце». Нават цяпер, зімой, калі ўсё навокал гола, хатам гэтым надаюць утульнасць сады. «Садок вішнёвы каля хаты...»

Калі Іван Васільевіч сказаў пра планіроўку, Віталія з сарказмам адказала, што будаваліся тут пераважна тыя, хто меў права ставіць хату па прынцыпу: «дзе хачу, там будую» — былыя старшыні калгаса, сельсавета, брыгадзіры, сельпоўцы, участковы міліцыянер.

— Хвошч вунь павярнуўся «заднім фасадам» да Васількова і падсунуў яму пад вокны ўборную. Няхай, маўляў, нюхае,

Алег Гаўрылавіч дакорліва паківаў галавой, не ўхваляючы такую неэстэтычнасць настаўніцы. А ёй хоць бы што.

— Яны заеліся некалі, два старшыні — калгаса і сельсавета, хацелі з'есці адзін аднаго. Але разумны сакратар райкома абодвух пратурыў. Мінулым летам Васількоў яблыкі краў у Хвашча. А той пекануў яму соллю ў мяккае месца. Таварыскі суд судзіў. А мама — засядацель. Нарагаталіся ўсе да болю...

Віталія са смехам, з гумарам расказвала пра славутых навасёлаў.

Часам Іван Васільевіч прыкмячаў залішнюю ўедлівасць і бязлітаснасць у яе расказах. Гэта яго па-бацькоўску непакоіла: няма чаго маладой настаўніцы быць злаславай; людзі ёсць людзі, за слабасць іх варта высмейваць, за подласць — караць, але не валіць усё ў адну кучу, не распальваць у сабе злосць і нянавісць. Сказаў пра гэта далікатна, мякка. Алег Гаўрылавіч ахвотна падтрымаў. Віталія не запярэчыла: яна згодна. Згодна з ім — Алегам. Яна заўсёды будзе згодна з ім, абы ён толькі дарыў сваю ўвагу, ласку. Мілая і заўсёды разумная жаночая пакорлівасць!

Антанюк падумаў, што, калі яны стануць мужам і жонкай, гэтая адданасць можа згасіць у ёй многа добрых, яркіх іскраў.

«Я кахаў Вольгу, кахаў Надзю. Я — грэшны... Але я не патушыў іх агню, ніводную не зрабіў сваім ценем, жонкай у патрыярхальным сэнсе, палюбоўніцай у абывацельскім значэнні. Не таму, што я такі... перадавы. Не, хутчэй за ўсё таму, што яны такія. Заставаліся верныя сваім характарам. Застанься і ты, дзіця, сама сабой, які б ён ні быў твой абраннік! Але як сказаць табе пра гэта?»

На «праспекце» Віталія зрабілася сур'ёзная і заклапочаная.

Падышлі да новага двухпавярховага будынка з белай цэглы. Побач з пачарнелымі хатамі (тут, на вуліцы, амаль усе старыя) ён выглядаў палацам. Віталія паказала на яго.

— Кантора саўгаса. Прыгожа, праўда? — яна спытала, здавалася, з гонарам, але тут жа павярнулася ў другі бок і сказала сумна: — А там наша школа. Праўда, затое ў нас два будынкі. Другі вунь на той вуліцы, у царкве. Кончым урок тут — бяжым туды. Пад дажджом, у завіруху. Добрая зарадка.

— Ёсць школы, дзе становішча горшае,— сказаў Алег Гаўрылавіч.

— Вялікі аптыміст! Як ты ўмееш суцяшаць сваіх падначаленых! Але растлумач мне: чаму кантору для бухгалтараў трэба будаваць у першую чаргу?

Алег Гаўрылавіч паскардзіўся Антанюку:

— Ніяк не можа зразумець, што гэта розныя ведамствы, розныя крыніцы выдаткавання.

— Не магу! Гэтага я не магу зразумець! І не хачу! — амаль крыкнула Віталія са злосцю. — Я ведаю адно: усе крыніцы — з адной крыніцы!

Дырэктар паціснуў плячамі.

— Нарэшце, аснова ўсяго — матэрыяльная база.

— А вось гэта я разумею, дарагі Алег Гаўрылавіч. Здала палітэканомію на пяцёрку, — сказала яна лагодна, з усмешкай, але за

ўсмешкай гэтай схаваўся сарказм, які пацешыў Івана Васільевіча і супакоіў.

«Ды не, здаецца, не так лёгка зрабіць яе пакорлівай служкай. Бунт — яе стыхія. Яна яшчэ пакажа табе зубкі, пане дырэктар».

Пасля Віталія паказала клуб і... дом дырэктара саўгаса. Як школа з канторай, так і гэтыя будынкі былі насупраць адзін аднаго, цераз вуліцу. Дзяўчына больш не тлумачыла, толькі сказала, што былы дырэктар, напэўна, думаў аб планіроўцы сяла, таму не палез на гароды, а паставіў сціплы фінскі домік у адзін рад з хатамі. Домік сам па сабе сапраўды сціплы, але аброс прыбудовамі — шлакаблочнай кухняй, трохі не большай за ўвесь дом, зашклёнай верандай; на падворку — цагляны пограб і хлеў, у якім прасторна размясціліся б паўдзесятка кароў і столькі ж свіней.

Віталія, пэўна, хацела здзівіць Івана Васільевіча. Ды нішто яго здзівіць не магло: усё ён бачыў, усё ведаў, у прыватнасці добра ведаў тыя аперацыі, з дапамогай якіх будуюцца вось так — усё па каштарысу і ўсяго ў тры разы больш. Мясцовая ініцыятыва. За яе не караюць, а нават хваляць. Бяда толькі, што праяўляецца яна часцей за ўсё на збудаванні дамоў дырэктараў саўгасаў, старшынь калгасаў, ляснічых, раённых работнікаў. Не, у райцэнтрах, бадай, радзей, бо менш прастору ініцыятыве, менш сваіх уласных, не ўлічаных, сэканомленых матэрыялаў, а людзей на будаўніцтве занята больш, чым у саўгасе дзе-небудзь, і кожны нешта прыбудоўвае ці надбудоўвае ва ўласным доме.

Іван Васільевіч з гумарам сказаў пра гэта. Рассмяшыў Алега Гаўрылавіча. А Віталія ўздыхнула: — А на рамонт школы кубаметр дошак бывае цяжка выпрасіць.

Але, бывае і так. Усё залежыць ад таго, які след пакінула школа ў галаве таго ці іншага кіраўніка. На жаль, неаднолькавы след яна пакідае, не аднолькавай глыбіні барозны ў мазгах.

Яны не спыняліся, каб разгледзець старыя ці новыя пабудовы. Асабіста Івана Васільевіча больш цікавілі старыя, іх своеасаблівая архітэктура, палеская, непаўторная. Ён быў адзін з тых нямногіх, хто горача падтрымліваў ідэю аб стварэнні музея сялянскага быту, такога музея, які стаў бы даследчым цэнтрам, каб і архітэктары, якія праектуюць новыя сёлы, маглі павучыцца і выкарыстаць элементы нацыянальнай архітэктуры, а не капіравалі чужое, далёкае і непатрэбнае.

Дырэктар саўгаса сустрэў іх, калі яны вярталіся назад. Безумоўна, зрабіў выгляд, што сустрэў выпадкова, ідучы з работы. Антанюк ведаў гэтага чалавека (на прозвішча, калі яго назвалі, хоць і

каларытнае яно, не звярнуў увагі — ці мала Сівалобаў!). А так — здалёк пазнаў і нават імя, па бацьку прыгадаў: Гардзей Лукіч.

Сівалоб некалі працаваў намеснікам начальніка абласнога ўпраўлення. Праўда, займаліся яны рознымі галінамі, і Антанюк непасрэдна не кіраваў ім, не сутыкаўся па рабоце. Але страчаліся часта — на калегіях, нарадах. З першага знаёмства Гардзей Лукіч, высокі, сутулы, з лысінай, але заўсёды паголены, у беласнежнай сарочцы і з акуратна завязаным гальштукам, хоць і ў пакамечаным касцюме — прыкметна, што чалавек многа часу праводзіць у машыне, — рабіў уражанне. Знешне больш падобны на прафесара, чым на сельскагаспадарчага кіраўніка. І трымацца ўмеў — паважны, спакойны, немнагаслоўны. Гэтым браў. Праз гэтыя і некаторыя іншыя якасці пэўны час лез па службовай лесвіцы. Пакуль не зразумелі, што, каб кіраваць такой складанай галіной гаспадаркі ў абласным маштабе, трэба мець нешта большае. Але доўга яшчэ трымалі — па інерцыі: куды дзенеш наменклатурнага таварыша? Гады тры назад мусілі-такі спусціць на раённае ўпраўленне. Не ўтрымаўся, выходзіць, і ў раёне. Вось дзе вынырнуў Гардзей Лукіч! Але дырэктар цяпер — фігура!

Узрадаваўся, задаволена засмяяўся, шырока развёў доўгія рукі, нібы сабраўся падляцець насустрач, як той гусак. Загудзеў:

— О-о, каго бачу! Іван Васільевіч! Якія вятры занеслі ў нашы балоты? У камандзіроўцы? — доўга трос руку.

— Не... У гасцях.

— У каго? У яго? — працягнуў руку Алегу Гаўрылавічу.

— Не. У яе, — кіўнуў Антанюк на Віталію, якая збоку са скептычнай усмешкай назірала за іх сустрэчай, за прытворнай радасцю гаспадара абшараў.

— У яе? — здзівіўся, але тут жа спахапіўся, павярнуўся, каб павітацца, сказаў галантна: — Маю гонар, дарагая Віталія... Віталія...

— Іванаўна, — падказаў Антанюк.

— Помню, помню... Як жа! Але часам такія простыя імёны баішся пераблытаць. Гады, ведаеце... Склероз. Сваякі?

— Сваякі,— хутка адказала Віталія, магчыма, не жадаючы, каб Іван Васільевіч тлумачыў, што з маці яе разам партызанілі.

— То прашу быць і маім госцем, Іван Васільевіч! Дом вунь побач. Дзякуй, збудаваў папярэднік. Нішто хаціна.

— Ды не, дзякуй. Толькі ад стала.

— Ды хіба пагасціць — то абавязкова да стала. Можна — па шклянцы кавы. Мая жонка ўмее гатаваць цудоўную каву. І паглядзець у мяне ёсць што.

— Не будзем крыўдзіць гаспадара, — сказаў Алег Гаўрылавіч: яму хацелася зайсці.

Іван Васільевіч падумаў, што Сівалоб прыкметна змяніўся: менш стала паважнасці, уяўнай незалежнасці, больш — ліслівай мітуслівасці.

«Не ведае, пэўна, што я на пенсіі», — гэта развесяліла.

Паглядзець у доме сапраўды было што. Музей. Сцены пакояў завешаны карцінамі. Палотны мастакоў невядомых, пэўна невысокага таленту, але ж — арыгіналы. Больш — пейзажы. На дзвюх-трох карцінах Іван Васільевіч пазнаў знаёмыя мясціны, якімі не аднойчы любаваўся сам. Асабліва многа было Нёмана і Гродна.

Але раней, чым карціны, уразіла гаспадыня, якая сустрэла іх на прасторнай верандзе. Маленькая, але зграбная жанчына з прывабнымі ямачкамі на шчоках, з малінавымі вуснамі, як бы прыпухлымі ці капрызна надзьмутымі, што надавала яе твару міла-дзіцячы выраз. Была яна на добрых гадоў пятнаццаць маладзейшая за свайго лысага мужа. Проста, але не без густу адзетая — шарсцяны шэры касцюм, зялёная нейлонавая куртка на «бліцы». Куртку гэтую яна адразу ж зняла, завёўшы гасцей у цёплы дом.

І яшчэ адно ўразіла Івана Васільевіча — мэбля. Тут, у палескай глушы, стаялі стыльныя гарнітуры не бабруйскай, не мазырскай фабрыкі, а імпартныя, чэшскія ці нямецкія. Адкуль узяліся грошы, каб купіць усё гэта? Тры апошнія гады Сівалоб — на раённых пасадах. Ды і раней не такі ўжо высокі меў аклад. Ён, Антанюк, атрымоўваў у два разы больш, але каб і захацеў, то наўрад ці накапіў бы (як заклікаюць рэкламы ашчадных кас: «Деньги накопил — мебель купил»), каб набыць такую мэблю, а тым больш карціны. Чорт яго ведае, можа чалавек, які не ўмеў кіраваць саўгасамі, — мастак, мастак у душы і прызванне яго — збіраць карціны, рабіць прыгожыя інтэр'еры, любавацца імі. Можа гэта яго хобі. Ёсць жа ў яго, Антанюка, сваё хобі — паляванне.

Гаспадыня знікла — пайшла на кухню. Гаспадар паказваў гасцям карціны.

— Гэта Нёман ля Мастоў. Помніце, Іван Васільевіч? Дубы ля ракі. Гэта від з Нёмана — на Каложскую царкву. Друскенікі. Парк. Іван Васільевіч помніць. Мы з ім адпачывалі там. А гэта ўжо Дзвіна, Полацк. У сучасным пейзажы мастак шукаў прыкметы старажытнасці. Звярніце ўвагу...

Высокі, сутулы, лысы, ступаў ён мякка, як кот, і тут, у сваім доме, паважна, немітусліва, і ў голасе з'явіліся ранейшыя ноткі. Чалавек іграў глыбокага эрудыта.

Іван Васільевіч успомніў голас, паставу, першае ўражанне ад знаёмства з Сівалобам і ўсю эвалюцыю свайго стаўлення да гэтага дзеяча і цяпер не верыў нават таму, што ён расказваў пра карціны, не верыў глыбакадумнасці знаўцы мастацтва. Усумніўся нават, што гэта — страсць, захапленне?.. Хіба можа не яго захапленне, а той прывабнай жанчыны?

Віталія — Іван Васільевіч сачыў за ёй — спачатку глядзела на карціны з амаль дзіцячым захапленнем, а потым каля вуснаў яе з'явілася скептычна-насмешлівая маршчынка і пачала паглыбляцца, пакуль не зрабілася іранічнай усмешкай, зусім адкрытай.

— Гэта вы купілі ўсё, ці вам падаравалі? — спытала дзяўчына.

— І купляў, і дарылі. Таму, хто купляе, мастакі любяць дарыць. Пачала Маша. Яна жыла сярод мастакоў. А пасля і я загарэўся. Пазнаёміўся. Вазіў мастакоў на рыбную лоўлю. Я лавіў рыбу, варыў юшку, а яны пісалі эцюды і дарылі мне.— Сівалоб задаволена засмяяўся і пагладзіў лысіну: маўляў, разумная галава.

— Падарылі б вы школе гэтыя карціны,— сказала Віталія.

Сівалоб на міг застыў ад нечаканасці. Потым з натугай, з сутаргамі на твары выдавіў з сябе басавіты рагаток:

— Э-э, дарагая Віталія... Віталія... — зноў забыўся такое простае імя па бацьку. — Вы не ведаеце псіхалогіі калекцыянераў. Паспрабуйце папрасіць у філатэліста паганенькую марачку. Не дасць. Не таму, што скупы. Не зможа расстацца. Дык то ж марачка, а гэта карціна, твор мастацтва. Карціны пачынаеш любіць, як уласных дзяцей.

— У вас ёсць дзеці? — спытала Віталія.

Гардзей Лукіч сумеўся.

Іван Васільевіч здагадаўся: у яго ёсць дзеці, у яе няма, у гэтай прывабнай аматаркі мастацтва. Азірнуўся на адчыненыя дзверы — ці не пачула яна? — і ўбачыў яе ў пакоі з падносам у руках. Чула. Ямачкі на шчоках пабялелі, а вакол іх шчокі запунсавелі. Але сказала без злосці, са смуткам і ласкавым дакорам, ставячы паднос на стол:

— Вы ж добра ведаеце, што ў нас няма дзяцей.

— Адкуль мне ведаць? Вы ж немаладыя людзі ўжо,— бязлітасны ўдар па гаспадыні.— У вас могуць быць дарослыя дзеці, вучыцца дзе... Вы ўжо год у нас — і нікога з настаўнікаў не запрасілі паглядзець вашы карціны, — удар па абодвух.

— Я заходзіў не аднойчы, — сказаў Алег Гаўрылавіч.

— Паўгода Гардзей Лукіч жыў адзін, — далікатна апраўдвалася гаспадыня. — А пасля пакуль уладкаваліся... Калі ласка, просім, дом наш адчынены, — але колеры на яе шчоках пераманяліся: паружавелі ямачкі, і пабялелі шчокі каля вушэй.

— А сабачкі ў вас няма? — раптам наіўна, як малая, спытала Віталія. — Я вельмі люблю такіх малюсенькіх сабачак, што ляжаць на канапах.

Віталія секла з-за пляча. Віталія здзекавалася. Івану Васільевічу зрабілася боязна за яе. Стаў зразумелы Надзін страх за дачку. Такія, як Сівалоб, не даруюць непавагі. Хоць, здаецца, ён не зразумеў і адказаў шчыра, нават са шкадаваннем:

— Сабачкі няма.

А Маша — такое простае народнае імя, ніякага мяшчанскага адцення! — схіліўшыся над нізкім круглым столікам, каб не відно было твару, расстаўляючы маленькія кубкі, сказала з такім жа сарказмам — маўляў, як пытаеш, так адказваю:

— У нас ёсць кошка. Яна ловіць мышэй.

Тады толькі, напэўна, зразумеў сам і вярнуў гутарку назад да карцін:

— Вось калі пабудуем клуб, тады — так і быць! — аддамо частку карцін туды. Аддамо, Маша?

— Ты ведаеш, колькі я раздарыла іх.

— Што праўда — то праўда.

Гаспадыня ўзняла галаву, ямачкі на шчоках прыветліва смяяліся: адхлынула ад твару кроў гневу, і жанчына радавалася, што ўдалося схаваць сваю раздражнёнасць.

«Ад каго схаваць? Ад нявопытнай Віты, ад самаўпэўненага Алега Гаўрылавіча? Але не ад мяне, старога ваўка», — падумаў Антанюк.

— А калі ён будзе, той клуб? — зноў наступала Віталія.

— Прабіваю. Усімі сіламі націскаю. Вы думаеце, лёгка прабіць міністэрскіх планавікоў? Давайце папросім разам Івана Васільевіча, каб памог нам. Хоць ён сядзіць не на саўгасах, але голас яго важкі.

«Каб ты ведаў, што я ні на чым не сяджу, — не бачыць бы мне тваіх карцін. Сказаць? Паглядзець, якая ў цябе будзе фізіяномія? Не, не варта. Невядома, як вы паведзяце сябе. Віта не стрывае, калі вы праявіце хамства, і гэта ўскладніць яе жыццё».

— Памажыце нам, Іван Васільевіч, — з наіўнай шчырасцю папрасіла Віталія.

Антанюка скаланула — не мог зразумець, ці гэта здзек і з яго, з яго пенсіянерства, ці вера яе, што і пры цяперашнім сваім становішчы ён нешта можа зрабіць?

Частавалі Сівалобы таксама звышмодна, нібы ў пасольстве якім: Маша паставіла на стол маленькія чаркі, бутэльку каньяку, прыгожы кафейнік, тонкія лустачкі хлеба, масла ў адмысловым слоіку і скрылёчкі духмянай брынзы. І ўсё. Прыгожа, проста, апетытна. Ці

даўно ад гасціннага стала, а захацелася пакаштаваць і масла, і брынзы, і кавы, ды і чарку каньяку выпіць. Хто ж з іх такі мастак? Безумоўна, яна, гаспадыня. Але ж з такім тонкім густам не пабаялася паехаць у палескую глухамань. Ці іншага выбару не было?

Спрытнасць, з якой гаспадыня сабрала на стол, уменне зрабіць усё так прыгожа, ціхая, ласкавая гасціннасць і стрыманасць яе ўтаймавалі Віталію. Дзяўчына сцішылася, нават скептычная ўсмешка знікла з твару, здалося, трохі нават збянтэжылася, калі запрасілі да стала, не ведала, як падступіцца, з чаго пачаць. Крэслаў да стала не падсунулі, сядаць не запрасілі. Сапраўды як на прыёме. Гаспадар наліў каньяк. Падняў чарку.

— За здароўе нашага госця Івана Васільевіча.

«Паехаць ты паехаў у саўгас. Мусіў. Але працаваць табе тут не хочацца. Рвешся назад у горад. Таму і арганізаваў усю гэтую паказуху, каб ашаламляць людзей простых: вось, маўляў, куды саслалі такую жанчыну, з такім густам», — і зноў захацелася сказаць, што ён, Антанюк, — пенсіянер, дарэмна перад ім стараюцца. Але зноў стрымаўся.

Выпілі стоячы. Гаспадыня паказала прыклад, як паводзіць сябе далей: наліла кавы, зрабіла бутэрброд з маслам і брынзай і, захапіўшы свой кубачак, села воддаль ад стала.

Віталія пацягнулася да яе — села побач. Віталія ішла на мір.

— Што вы канчалі? Якая ў вас прафесія?

— Я канчала інстытут лёгкай прамысловасці. І працавала мастаком-мадэльерам у атэлье.

— О, і вы хаваеце гэта! Паўгода жывяце — і ніхто не ведае. Навучыце нашых дзяўчат шыць.

— Мастак, Віталія, не шые.

Настаўніца збянтэжылася. Куды дзелася яе іронія! Чалавека, які ўмее рабіць тое, чаго не ўмее яна, нельга не паважаць.

— Прабачце, я не так сказала. Я разумею. Вось гэтаму і навучыце нас — добраму густу. Нарысуйце новыя фасоны, каб прыгожа было, зручна. Да нас жа тады ўвесь раён кінецца. З райцэнтра будуць прыязджаць.

Маша падумала і, мабыць, убачыўшы нейкую новую перспектыву для сябе, згадзілася:

— Добра. Давайце створым такі гурток.

— Не, праўда, вы не ўяўляеце, як гэта патрэбна і як хораша будзе. І для вас! Вам жа сумна...

Іван Васільевіч распытваў гаспадара пра саўгас. Скардзіўся Сівалоб: неразумна плануюць, без уліку таго, што іх саўгас за сто

вёрст ад горада і вакол бездарожжа, вясной і ўвосень да чыгункі можна толькі на трактары дабрацца. Казаў праўду, але не без хітрасці: асцярожненька капаў на сваё кіраўніцтва, падкідваў факцікі — ведаў Антанюкоў характар, разлічваў, што той не змоўчыць, дзе-небудзь выкажа гэтыя факты.

«Усё ты ведаеш. Дзіўна, чаму ты не ведаеш, што я на пенсіі? Ці не шукаў ты ў той час шчасця дзе-небудзь у другой рэспубліцы?»

Саўгасныя справы па-сапраўднаму цікавілі Івана Васільевіча, і размова ішла жыва. Сівалоб расказвае не без хітрыкаў. Але і ён, Антанюк, распытвае, каб зразумець — які той дырэктар? Якія ў яго планы? Як за год вывучыў гаспадарку, людзей? І паступова пераконваўся: не змяніўся Гардзей Лукіч Сівалоб, якім быў, такім застаўся, зверху блішчыць, а ўсяродку — пуста. Глыбакадумна выказвае агульнавядомыя ісціны — пускае пыл. А эканоміку не ведае. Кіруе ўвогуле. Вось жа праклятая інерцыя! У атэлье яго трэба было ўладкаваць разам з маладой жонкай, няхай бы моднічалі, а не саўгас даручаць. Дык не ж — лічыцца спецыялістам па зямлі. Круціцца на адной і той жа арбіце.

Маша паказвала свае эскізы новых фасонаў. Да жанчын далучыўся Алег Гаўрылавіч; сумная для яго была размова пра саўгасную эканоміку.

Доўга пілі каньяк. Так і не дапілі. Паўпляшкі засталося — для іншых гасцей.

Віталія спытала на вуліцы:

— Што гэта за парода, Іван Васільевіч?

— Мілыя людзі,— адказаў Алег Гаўрылавіч.

— О, гэта вельмі цікавая парода! — сказаў Антанюк.

Пасля, ужо ў змроку, калі загарэліся агні і ў святле, што падала з вокнаў, кружыліся дзіврсныя матылі, яны хадзілі па вуліцы ўдваіх — Антанюк і Віталія. Правёўшы Алега Гаўрылавіча, вярталіся дадому, дзе іх чакала Надзя, чакала з нецярплівасцю і трывогай. Каля сваёй хаты дзяўчына папрасіла:

— Раскажыце... пра маіх сясцёр і брата.

За дзень, у размовах з людзьмі, Іван Васільевіч неяк адышоў ад таго, што здарылася раніцой, амаль забыўся на сваё рызыкоўнае прызнанне, а калі прыгадваў, то здавалася яно далёкім сном, фантазіяй, якая нікога не кранула, нічога не змяніла. Надзя, Віта жылі паранейшаму сваімі клопатамі і пра іх, штодзённыя клопаты, больш за ўсё гаварылі. Ажно — не, не так усё проста. Выходзіць, дзяўчына жыла ўвесь дзень з думкамі пра яго бацькоўства, больш таго — пра сваіх сясцёр і брата.

Нечакана просьба яе ўразіла Івана Васільевіча: як усё гэта важна і сур'ёзна, якую адказнасць ён узяў на сябе! І як заблытаў свае адносіны з многімі блізкімі людзьмі!

Ён пачаў расказваць пра Ладу. Чаму пра яе першую? Відаць, жыла падсвядомая вера, што Лада раней, чым хто іншы, можа зразумець яго... Напэўна, ён даўжэй, чым трэба, і з большым захапленнем гаварыў пра малодшую дачку. Віталія — о жах! — сказала з дзіцячай рэўнасцю:

— Больш за ўсіх любіце Ладу.

Іван Васільевіч спахапіўся.

— Ды не, цяжка сказаць, каго больш, каго менш. Бацькоўскія пачуцці — складаная рэч. Колькі дзён назад я адчуў такі смутак па сыне, што не ўтрымаўся і ў тую ж ноч паехаў... А пасля...

Хацеў сказаць: «А пасля, у поездзе,— па табе і, бачыш, апынуўся ў вас»,— але не сказаў, не хацеў больш маніць, бо ў поездзе ён думаў пра яе маці.

Віталія не звярнула ўвагі на гэтае «а пасля». Ціха, нясмела папрасіла:

— Можна мне як-небудзь прыехаць да вас?

Такая натуральная просьба! І калі ўжо ён рашыў рызнаць яе сваёй дачкой, то, безумоўна, павінен быў адразу адказаць: «Вядома ж, можна».

Дзіўна, чаму ён затрымаўся з адказам?

Віта спытала шэптам:

— Вы баіцеся, што гэта ўскладніць вашы адносіны з сям'ёй? З вашай жонкай...

— Не. Я не баюся.

— Я нічога не скажу. Я — дачка вашага партызанскага сябра. Няўжо ніхто з дзяцей вашых сяброў не заходзіць? Мне так хочацца пазнаёміцца...

— Пра што ты кажаш! Вядома ж, можна. Трэба! Абавязкова трэба прыехаць! Ты — дачка майго лепшага сябра! Там, у лесе, твая маці была самым блізкім мне чалавекам. І ты! Дзіця атрада! Цябе любілі. Ты даўно магла прыехаць. Мая віна...

— Не лічыце сябе вінаватым! Я не хачу! Раніцой у мяне ўспыхнула злосць, захацелася пагнаць вас прэч. Але я падумала: тады і маму трэба вініць. А завошта? За тое, што далі мне жыццё? Я — шчаслівая, што жыву.

Яны гаварылі ціха, трохі не шэптам. Хадзілі павольна. Мінулі свой дом. Вярнуліся і зноў прайшлі міма. Невядома, колькі яшчэ разоў прайшлі міма асветленых вокнаў. Нарэшце Надзя не вытрымала,

пайшла іх шукаць, сустрэла і з радаснымі папрокамі павяла вячэраць. Занятак госця — бясконца есці.

Рэйд той наш, па сутнасці першы, быў удалы. Нагналі страху на стараст і паліцэйскіх. Далі зразумець і ім, здраднікам, і народу, што на захопленай ворагам зямлі захаваліся Савецкая ўлада і савецкі закон, што ёсць сіла, якая абароніць сумленных людзей, сурова пакарае адступнікаў.

Захапіўшыся, мы пад прыкрыццем завеі далёка заехалі — у суседні раён. Ды раптам распагодзілася, мароз ціскануў градусаў пад трыццаць. Удзень — сонца, глядзець балюча. Уначы — зорны дождж. І ціха-ціха. Палазы спяваюць — за пяць вёрст чуваць. Вяртаючыся назад, мы ўбачылі, што цягнем за сабой «хвост» — групу паліцаяў. Ад бою яны ўхіляліся. Праўда, у бой і мы не вельмі рваліся — патронаў мала засталося. Трэба было не толькі адарвацца ад паліцаяў, але і заблытаць сляды, каб не прывесці «бобікаў» у наш лес, у лагер. А гэта ў такое надвор'е нялёгка зрабіць. Па пратораных дарогах ехаць небяспечна, наўпрасцяк — снег глыбокі, ды і след па цаліне адразу выдасць. Ну, і кружылі. Як толькі не хітравалі. Чацвёра нашых фурманак раз'язджаліся ў розныя бакі, потым зноў з'язджаліся, выскаквалі на дарогі, заязджалі ў сёлы, мянялі коней, сані. Не спалі... Амаль не елі. За двое сутак, пэўна, кіламетраў сто пяцьдзесят адмахалі, спідометраў не было, не лічылі. Пакуль цвёрда, не ўпэўніліся, што адарваліся нарэшце. Тады толькі ўзялі курс на свой лес. Ды і то з перасцярогай. Вярнуліся паўжывыя. Марылі — добра адагрэцца. Прасілі, каб я загадаў Рошчысе раскашэліцца, не ціснуцца, як звычайна, і выставіць звыш нормы з НЗ. Мусіў паабяцаць ужыць сваю камандзірскую ўладу над ашчаднай гаспадыняй.

Спаўзлі з саней — хутчэй у зямлянкі, да печак. А я — да Рошчыхі, каб даць загад. Разляпілася, чортава баба, нават камандзіра страчаць не выйшла. Падыходжу да зямлянкі-шпіталю і... аслупянеў. Дзіця! Такая нечаканасць! Не думалася ў дарозе пра гэтую цяжарную жанчыну, што нечакана з'явілася і засталася ў лагеры. Хапала клопатаў іншых.

Можа не так бы ўразіўся, каб крык дзіцячы быў не такі. А то незвычайны нейкі — як крык роспачы, болю. Як кліч жыцця і адначасова кліч трывогі — просьба ратунку. Стаю перад дзвярамі, а зайсці баюся. Можа яно толькі нарадзілася? Голенькае? Можа нельга дзвярэй адчыніць, каб не ўпусціць холад? Можа мне, мужчыну, і заходзіць няёмка? Пагоніць Рошчыха, не пасаромеецца. Чаго, скажа, прэшся! Без цябе зробяць, што трэба.

Відаць, не ўвайшоў бы, каб яно так не крычала. А то не вытрымаў. Хуценька адчыніў дзверы, нырнуў у зямлянку. Дзіця Рошчыха трымае. А фельчар наш — Фіма Рубін, малады, у акулярах — над ложкам схіліўся заклапочаны, спалоханы. Убачыла мяне Рошчыха, заплакала.

«Памірае наша Надзечка, камандзір!»

«Памірае? Ад чаго?» — недарэчнае пытанне.

«Ад родаў. Гарачка. Учора яшчэ карміла, а сёння зусім непрытомная. Дзіцятка памрэ. Чым яго накорміш без маці?! Бач, як заходзіцца».

У першы міг апанавала мяне злосць. Наваліўся на фельчара:

«Ты што ж, чортаў эскулап, роды па-чалавечаму не мог прыняць?»

«А калі я іх прымаў? Разы тры на практыцы, ды і то пад кіраўніцтвам урача. Ды такое і ў раддомах бывае. У вопытных акушэраў».

«Бывае... А ў цябе не павінна быць! Не павінна! Чуеш?» .і

Не яму крыкнуў гэтыя словы — сабе. Злосць мая раптам перайшла ў актыўную рашучасць. Не можам мы дапусціць, каб у такі час, тут, у нас, у лагеры, памерлі маці і дзіця! Нельга дапусціць! Яны цяпер для нас — сімвал. Для мяне сімвал! Жыцця, перамогі! Зрабіць усё, што ў сіле нашай і звыш сілы, але ратаваць! Ратаваць!

«Што можна зрабіць, Фіма?»

«Для яе? — кіўнуў той на маці.— Трэба добры гінеколаг. І лякарствы, якіх у нас няма».

«Хто застаўся ў горадзе з такіх урачоў?»

«А ў нас толькі адзін і быў такі ўрач. Бумель Анна Отаўна».

«Немка?!»

Старую гэтую я помніў. Бадай, усе ў горадзе яе ведалі. Баба ўедлівая, наравістая, але акушэр-гінеколаг выдатны. Жанчыны на яе маліліся.

«Яна, безумоўна, засталася»,— выказаў сваё меркаванне Рубін.

Я таксама не сумняваўся, што засталася.

«Што ж, прывязём Бумель!»

«Не паедзе!»

«Паедзе!»

«Тут нельга прымусам»,—асцярожна папярэдзіў мяне малады гуманіст.

«Гэта мой клопат, доктар. Што трэба для яго? Ён? Яна?» — паказаў я на дзіця.

«Яна. Дзяўчынка. Ладненькая такая»,— суровая, бязлітасная Рошчыха шморгала носам — шкада было дзіця.

Рубін пацінсуў плячамі.

«Дзіцяці трэба малако, таварыш камандзір. Мацярынскае. Карміліца».

«Каб хаця карова ў нас была. Суседка наша некалі, скора пасля той вайны, вось так памерла ад родаў, а хлопчык застаўся. Дык мы малачко вадзічкай разбаўлялі — ды ў бутэлечку. А на бутэльку — соску. Адпаілі. Шчэ які хлопец жыве! Хіба мала іх, такіх! Толькі ўмець трэба».

«Добра. Карміліцу не абяцаю. А карова і соскі будуць! А пакуль што рабіце ўсё, што можна, каб падтрымаць іх! Рубін! Галавой адказваеш!»

Акалелы з рэйду Вася Шугановіч і распараны Будыка — любіў горача напаліць — ужо закусвалі, не дачакаліся, калі я ўскочыў у камандзірскую зямлянку. Будыка не ездзіў з намі, заставаўся за старэйшага ў лагеры. Сустрэў — і не сказаў пра такую незвычайную прыгоду ў лагеры. Гэта мяне абурыла.

«Ты што зрабіў, каб ратаваць жанчыну і дзіця?»

«Што я — галоўурач раддома? Што можна зрабіць?»

«Інтэлігент, такую тваю... Зараз жа паедзеш у горад і прывязеш урача!»

«Так ён нас чакае з табой, той урач! Можа хуткую дапамогу выклікаць?»

«Не зубаскаль, гуманіст! Збірайся!»

Будыка сядзеў расчырванелы ад выпітай самагонку у расшпіленай, непадпяразанай гімнасцёрцы.

«Ты сур'ёзна?»

«Няма прычыны для жарту. Памірае чалавек! І дзіця! Дзіця! Якое толькі што нарадзілася. Ты разумееш гэта?»

Будыка падняўся, расправіў гімнасцёрку, хоць папругі на ім не было.

«Я слухаюся, камандзір. Я — чалавек вайсковы. Падпарадкуюся. Але,— ён павярнуўся да Ціхановіча.— Прашу камісара запомніць: за нейкі тыдзень камандзір двойчы пасылае людзей на рызыкоўныя аперацыі, якія прадыктаваны не патрэбамі атрада, не баявымі меркаваннямі, а...»

«Чым?»

«Не ведаю, чым — цяпер. Той раз — тваім цяжкім душэўным станам»,— хітры, чорт, умеў выбіраць круглыя слоўцы, асцярожныя, якія не ўзрывалі, як дэтанатар.

«Я табе, Валянцін, растлумачу як-небудзь у вольны час, чым прадыктаваны мае загады — і гэты, і той. А цяпер не будзем траціць час».

«Колькі шанцаў за тое, што ўрача ўдасца вывезці? » — наступаў Будыка.

«Паеду я! — раптам сказаў Вася Шугановіч.— Я ведаю горад, а начштаба не ведае».

«З ім паедзе Краўчанка».

«Усё адно — паеду я!»— Вася паўтарыў гэта так, што я зразумеў: спрачацца дарэмна, камісар не адступіць.

«Начштаба! Дакументы на паліцэйскага. З Перароста! І на фурмана!»

Будыка кінуўся да жалезнай скрынкі, дзе ляжалі сакрэтныя дакументы і розныя пячаткі. Аформіць любы дакумент — ён мастак.

«Каго прывезці?» — спытаў Шугановіч.

«У горадзе застаўся адзін патрэбны ўрач».

Вася сам здагадаўся.

«Бумель?»

«Немец?» — насцярожыўся Будыка.

«Немка».

«Ці не часта возім немцаў у лагер? Давозімся!» — нечакана ўзвысіў голас начштаба.

Я асек яго:

«Заткніся! Не твая справа. Рыхтуй дакументы! — І да Васі: — Вам толькі дабрацца туды, а назад сама яна будзе найлепшым пропускам. Няхай захопіць дакумент. Вып'ем на дарогу. Я таксама еду. У Капань. Шукаць парадзіху. Ці, у крайнім выпадку, дойную карову. Цяпер гэта таксама нялёгка».

Будыка адарваўся ад папер, вінавата папрасіў:

«Прабач, Іван Васільевіч. Цяпер разумею цябе».

Кранула яго шчырасць, нават трохі збянтэжыла.

«Ну, ладна. Без сантыментаў. Бяры шклянку. За поспех, Вася».

«За здароўе Анны Отаўны. Каб яна жывая ды здаровая была,— усміхнуўся камісар.— Шчыра п'ю за немку».

«Яна цябе не ведае?»

«Адкуль! Сельскага настаўніка? Гэта яе ўсе ведаюць».

«У Лазавенкі замяні коней. Назад — перапражэш».

У Пераросце за старасту быў наш чалавек.

«Рана прыйдзецца бабулі вочы завязваць».

«Будзь акцёрам — сыграй рэквізіцыю».

Коні, якія не былі ў рэйдзе, не лепшыя. На іх не разгонішся асабліва. Гэта мяне турбавала. Я выехаў разам з хлопцамі з лесу. Сядзеў на санях з Шугановічам, удакладняў дэталі незвычайнага задання. Будыка, каб пачуў, пэўна, абвінаваціў бы: маўляў, ніводнае бая-

вой аперацыі камандзір так дэталёва не ўдакладняў. Сказаць можа і не сказаў бы, а падумаў бы напэўна, бо была ў гэтым праўда. Баяўся я правалу. Паслаць на смерць Васю і старога будзёнаўца — і нічым не памагчы няшчаснай жанчыне...

Калі паслаў Будыку, Паўла і гэтага ж Краўчанку захапіць немца, таксама баяўся, перажываў, але тая боязь была інакшая. Тады быў душэўны крызіс. А цяпер наадварот: уздым, прага дзейнасці, нецярплівасць — хутчэй, хутчэй...

Развітаўся я з імі на ўзлеску і доўга стаяў. Слухаў галашэнне палазоў, і здавалася мне, што вельмі ж павольна яны аддаляюцца. Трохі не кінуўся наўздагон, каб паехаць самому. Толькі зразумеў — не дагнаць мне іх: яны на пары лепшых коней, у мяне — адзін няўклюда, ламавік. На ім я паехаў у Капань. Вёска — наша, партызанская. Кожны трэці жыхар — наш сувязны. Ды і ў атрадзе з Капані чалавек восем. Вёска бедная, на пясках, і ў мірны час там больш з лесу жылі — бандарнічалі. Але людзі апошнім з намі дзяліліся. За дабрату іх мы плацілі такой жа дабратой. Увосень наляцелі на млын, дзе немцы малолі, пудоў трыста пшанічнай мукі вывезлі, большую частку капанцам раздалі — дзецям на блінцы.

Былі там, як і ўсюды, свой паліцэйскі, стараста... Але кіраваў жыццём у вёсцы былы брыгадзір бандарнай арцелі — Сцяпан Кулік. Нямецкія памагатыя, тыя, што не ішлі на сувязь з намі, трымалі нейтралітэт : ведалі, зачэпяць каго з нашых — не жыць ім і не схавацца.

Да Сцяпана і падаўся адразу. Сям'я Сцяпанава прывыкла да такіх начных наведванняў. Умоўна шкрабнуў у шыбу — адразу адчынілі. Без слоў. Сам гаспадар. Здзівіўся, праўда, трохі, затрывожыўся.

«Адзін? Іван Васільевіч! Што здарылася?»

«Ёсць пільная справа».

«Чакай, я кажух накіну, у каморы пагаворым».

«Можна і ў хаце».

Звычайна сакрэтныя размовы вялі мы ў каморы: усё-такі дзеці ёсць дзеці, хоць і немалыя яны ў Сцяпана і навучаныя бацькам і вайной.

Увайшлі ў хату.

«Зусім адзін?»

«Не. Каля лазні — Коля з канём».

«Пазаўчора «бобікі» наведваліся, памагалі інспектару падатак збіраць. Дзесятак свіней, ірады, павезлі. Свярбелі ў хлопцаў рукі зрабіць ім «цёмную», ды я стрымаў».

«Правільна. Не чапай у сябе дома. А то спаляць сяло, куды дзенем людзей зімой?»

«Дык што цябе прывяло пасярод ночы?»

«Скажы, у цябе парадзіха ёсць у сяле?»

«Якая парадзіха?»

«Жанчына, што нядаўна нарадзіла».

«Навошта яна табе? Загадкі задаеш, Іван Васільевіч».

«Ёсць?»

Жонка Сцяпана пачула такую незвычайную, непартызанскую размову, высунулася з-за шырмы, зацікаўленая.

«Анюта, Люба не разбуралася яшчэ?»

«Не».

«Тады такой, што нядаўна, няма. Маладыя бабы цяпер разумныя, не вельмі кідаюцца. Але скажы — навошта яна вам?»

«Жанчына ў нас нарадзіла...»

«У лагеры? Адкуль узялася такая? Нешта я не бачыў».

«Ад мужа-падлюгі ўцякла. Але гарачка ў яе пасляродавая. Трэба дзіця ратаваць».

Анюта надзела спадніцу, выйшла без кофтачкі, у палатнянай сарочцы з вышыванымі рукавамі. Зразумела, што ў такой справе яна — першы дарадца: шасцярых нарадзіла.

«Іван Васільевіч, ды неабавязкова цягнуць вам бабу такую ў лес. Не кожная паедзе. Гвалту наробіць. Сваё дзіця. А калі яшчэ і муж дома, слюнцяй які... У мяне, калі Нінка знайшлася, такі масціт надарыўся, што ўсё малако згарэла за два дні. Дык я Нінку каровячым выпаіла. Кіпяточкам разбаўляла...»

«Добра, Анюта, угаварыла. Па праўдзе кажучы, па карову я і прыехаў. Пра парадзіху на ўсякі выпадак спытаў. А можа, падумаў, на шчасце ёсць такая смелая. Мы б яе, як княгіню, завезлі. А цяпер думайце, у каго пазычыць карову. Вернем, як толькі сваю раздабудзем. А дабудзем хутка. Канфіскуем у якога-небудзь фашысцкага паслугача».

«Дык што тут думаць! Забірайце нашу. Яшчэ доіцца. Праўда, мала ўжо дае. Запускаць скора трэба. Але для дзіцятка і для хворай маці хопіць малачка».

«У вас свае дзеці».

«Нічога. Жывыя будуць. Не маленькія. Ды і ведаем: не прападзе за вамі, Іван Васільевіч».

Ах, Сцяпан, ах, Анюта! Трэба мне і вас праведаць! Колькі гадоў не бачыліся! Ці жывыя вы там?

Кіламетраў дзесяць ад Капані да лагера. А з каровай трохі не да раніцы цягнуліся. Упіралася, рыкала на ўвесь лес. Ваўкоў наклікала. Страляць прыйшлося.

У лагеры трывогу ўзнялі. Будыка з разведчыкамі насустрач прыляцелі.

У лагеры — адразу да Рошчыхі.

«Што, Люба?»

«Апрытомнела — закрычала: дзе дзіця? Карміла. Але няма ў яе малака: смактала, смактала дзіцятка, а ўсё роўна галоднае. Крычала, пакуль не знемаглося — заснула. А яна трызніць пра дзіця».

«Ідзі даі карову».

З каровай валаводзіліся ў дарозе — не пераставаў думаць пра Шугановіча і Краўчанку: як там у іх? А калі наступіла раніца і па маіх разліках яны павінны былі вярнуцца з немкай ці без немкі, я не стрываў: падняў разведчыкаў, ускочыў у сядло, паімчалі да Перароста. У полі сустрэлі. Ляцяць узмыленыя коні. Краўчанка з абледзянелымі вусамі, у армяку, на каленях стаіць, кіруе лейцамі. А ў вазку на сене побач сядзяць Вася Шугановіч і яна — Анна Отаўна. У старым янотавым футры, у аблезлай мужчынскай шапцы. З завязанымі ручніком вачамі. І смешна. І сумна. Вася мне сігнал падаў: маўчыце, маўляў, не вярэдзьце заўчасна. Але яна пачула тупат другіх коней, фырканне. Спытала:

«Вашы?»

«Нашы»,— лагодна паведаміў Вася.

«Ох, бандыты!»

Вось думаю, Краўчанка дасць ёй зараз за «бандыты», пекане трохпавярховым, будзёнаўскім. Не, усміхаецца дзед, весела падміргвае мне.

У лагеры развязалі ёй вочы, пад ручкі, як княгіню, з саней звялі. Яна жмурыцца на снег, а з вачэй ажно іскры сыплюцца. Я ветлівенька прадставіўся, казырнуў.

«Камандзір атрада».

Яна зноў:

«Ох, бандыты!»

Партызаны, якія стаялі блізка, загулі ад абурэння. Але я паказаў за спіной кулак: маўчаць! Ні слова!

«Дзе вашы раненыя ці хворыя? Хто ў вас тут? Няма мне калі вашы паганыя морды разглядаць».

Паспрабуйце сцярпець такое. Цярплю і другім усялякімі знакамі загадваю маўчаць. Вяду ў зямлянку.

Пачула яна дзіцячы крык — пасвятлела з твару. Зайшла ў зямлянку — адразу футра з сябе, акуляры на нос, рукавы закасала і покрыкам на Любу:

«Вады! Гарачай!»

А пасля да нас з Рубіным:

«А вам што трэба? Жаночага органа не бачылі?»

Вылецеў я з зямлянкі, як пасаромлены хлапчук. Рубін — за мной.

«А ты куды? Ты ж — медык, чорт на цябе! Вока не спускай! І вучыся!»

Пакуль бабуля чаравала там над Надзяй, Вася Шугановіч расказваў, як яны ўзялі. Хапіла клопату.

Па бальшаку ў горад Краўчанка не паехаў — пры выездзе застава, яшчэ затрымаюць, нягледзячы на паліцэйскія дакументы. Ці — чаго добрага — на знаёмага наскочыш.

Аб'ехаў па заснежаных кар'ерах цагельнага завода. Чуць коней не ўтапіў у снезе. Выбраўся ў глухі завулак, ад якога недалёка быў і дом Бумель. Добры дом — асабняк за высокім плотам. Муж яе, нябожчык, інжынерам на лесапілцы рабіў — меў з чаго пабудавацца.

Пастукаў Вася ў браму — сабака азваўся на другім баку. Ваўкадаў. Не загаўкаў, а папераджальна загырчэў: маўляў, не ўздумай лезці, я з тых, хто многа шуму не робіць, але клыкі мае вострыя.

А ў Васі такі быў намер перамахнуць цераз плот, каб дабрацца да вокнаў. Загрукаў у браму мацней. Вучоны сабака адышоў да дома і загаўкаў недзе, мабыць, на ганку — будзіў гаспадароў. Нарэшце стрэлілі прымёрзлыя дзверы. Жаночы голас, малады, спытаў спачатку ў сабакі:

«Хто там, Рэкс?»

А пасля крыкнуў да таго, хто грукаў:

«Хто там?»

«Я начальнік паліцыі з Перароста. У мяне памірае жонка. Я прашу Анну Отаўну...»

«Анна Отаўна нікуды не паедзе ў такую рань. Увогуле яна ў сёлы не выязджае цяпер».

І ляпнулі дзверы. Заскуголіў сабака, якога не пусцілі ў цяпло.

Што рабіць? Як прарвацца да самой Бумель?

Шугановіч узяў у Краўчанкі пугу — і на плот. Ваўкадаў кінуўся, каб сцягнуць чалавека з плота. А Вася сам скочыў на сабаку. І добра аперазаў пугай. Заенчыў звер, падтуліўшы хвост, азіраючыся, пацягнуўся на ганак, каб там з дапамогай гаспадароў перагарадзіць няпрошанаму госцю дарогу ў дом.

Адразу засвяцілася ў вокнах. За дзвярамі мужчынскі голас нешта сказаў па-нямецку.

Спалохана крыкнуў на двор:

«Бэр? Я страляйт!»

«Эх, як вы тут напалоханы! Я ля пушчы жыву і не баюся. Я начальнік паліцыі з Перароста. Анна Отаўна! У мяне памірае жонка! Вы ж урач. Вы павінны зразумець».

Тады расчыніліся дзверы, і з'явілася яна сама — як прывід: белыя валасы, чорнае паліто ці футра і з-пад яго — доўгая, да падлогі, белая начная сарочка.

«Што вам трэба?»

«У мяне памірае жонка. Я — начальнік паліцыі».

«Мяне не цікавіць, хто вы. Адкуль?»

«З Перароста».

«Я нікуды не езджу».

Шугановіч упаў на калені.

«Анна Отаўна! Даражэнькая! Адна надзея на вас. Прашу. Усё жыццё буду маліцца за вас. Трое дзяцей сіратамі застануцца. Пашкадуйце».

Відаць, кранула яе.

«Зайдзіце ў дом».

У пакоі, цьмяна асветленым лямпай, малады немчык падазрона агледзеў Шугановіча, не вымаючы рукі з кішэні начнога халата,— яўна трымаў пісталет.

Анна Отаўна з другога пакоя нешта гаварыла яму па-нямецку. Выйшла яна ўжо ў чорным плацці. Таксама агледзела Васю, здзівілася:

«У цябе трое дзяцей? Калі паспеў?»

«Паспеў».

«А ў паліцыю чаго падаўся?»

«А што я, горшы за людзей?»

«Хіба ўсе людзі ў паліцыі?»

«А я так думаю — лепшыя».

«А я так не думаю».

Немчык лыпаў вачамі — не ўсё разумеў. Бумель пераклала, але не тое, што сказала,— Вася зразумеў па яе інтанацыі і па хітрай усмешцы дзяўчыны, якая грэла спіну каля грубкі.

«Што з жонкай?»

«Пазаўчора нарадзіла. Фельчарыца наша роды прымала. А ўчора гарачка такая пачалася, што непрытомная баба ляжыць, трызніць...»

Доктарка ціхенька свіснула.

«Нічым я вам не памагу. У мяне ў бальніцы паміралі ад такога заражэння. Тут можна спадзявацца толькі на яе самую ды на бога. Няма чаго мне ехаць па марозе».

Вася Шугановіч шапку аб падлогу і зароў, як малы.

«Не паеду я без вас. Не паеду! Хоць забіце! Цешча галосіць. Яна мяне з хаты выганіць без вас».

Яна перагаварыла з немцам:. Пытае:

«Які ганарар будзе?»

«Які ганарар?»

«Што ж вы думаеце — я бясплатна паеду?»

«А-а, вы пра плату! Заплачу, Анна Отаўна. Добра заплачу. Хочаце — рублямі, хочаце — маркамі».

«Два пуды мукі, тры кіло сала, дзве жывыя курыцы, два літры самагонку першака».

«Добра-такі заламіла баба»,— смяяўся пасля Шугановіч.

«Усё будзе. Больш будзе».

Яна паглядзела на гадзіннік.

«Пачакаем, пакуль развіднее».

А да відна яшчэ гадзіны дзве. Снежань. Замаліўся Вася:

«Анна Отаўна! Дарагая кожная хвіліна. Коні стынуць. Дзядзька родны замерзне ў санях».

Спакусіў старую высокі ганарар. Згадзілася. Хутка адзелася. Прынесла ёй дзяўчына акушэрскі саквояжык. Вася кажа:

«Анна Отаўна, дакуменцік які захапіце».

«Навошта?»

«Назад дзядзька вас павязе, можа без мяне. Каб нашы не чапляліся на кантрольных пастах».

Паслухалася — узяла.

Селі. Паехалі.

Паколькі вырашылі вяртацца па сваім следзе — цераз цагельню, Шугановічу прыйшлося дачасна, на соннай вуліцы горада, раскрыць карты.

«Анна Отаўна, няхай вас не здзіўляе дарога, па якой мы паедзем. Нам не хочацца страчацца з вашымі паліцаямі. Характары ў нас розныя».

Тузанулася бабуля, быццам бы хацела з саней вываліцца.

«Спакойна, гарантуем поўную бяспеку, вяртанне назад, запрошаны ганарар. Нават курачак раздабудзем».

«А калі я закрычу?»

«Не раю. Маем кляп»,— адгукнуўся Краўчанка.

«А пагоняцца — у нас не будзе другога выйсця...» — Шугановіч дастаў з кішэні кажуха пісталет.

«...як, забіць старую акушэрку? Бандыты!»

«Асцярожна, дамачка!» — папярэдзіў Краўчанка.

Змоўкла. Толькі ў кар'ерах, калі коні мясілі сумёты, зноў азвалася:

«Папярэджваю. Я ўмею патрашыць толькі баб. Адразаць ногі ці рукі вашым раненым я не ўмею. І не буду! Так што вы дарэмна везяце мяне».

«Вы зоймецеся сваёй справай».

«Рабіць аборты вашым шлюхам?»

Краўчанка не стрываў:

«Ты ў мяне дакаркаешся, старая варона! Каб ты не была так патрэбна, я з табой іначай гаварыў бы!»

Прыйшлося Шугановічу асекчы будзёнаўца. І прабачэння прасіць у доктаркі.

Яна змоўкла — што вады ў рот набрала. Толькі калі прапанавалі перад Пераростам вочы завязаць, моцна абурылася і пакрыўдзілася. Па-мужчынску лаялася.

Доўга, гадзіны дзве, займалася Бумель нашай хворай. Ды і дзіцяткам таксама, як пасля Люба расказвала: агледзела, перавязала па-свойму пупок, вучыла штучна карміць — у якіх прапорцыях змешваць малако і ваду.

Мы ёй у камандзірскай зямлянцы сняданак падрыхтавалі. Царскі — па нашых умовах. Выставілі ўсё лепшае, што мелі. Выйшла яна з зямлянкі — я сустрэў яе. Хмурая, але на твары ранейшай злосці няма.

«А цяпер што будзеце рабіць са мной?»

Я руку да шапкі.

«Камандаванне атрада просіць вас паснедаць з намі».

Здзівілася. Дала згоду, як міласціну:

«Што ж — паснедаем».

У зямлянцы ўбачыла Васю Шугановіча, яго вінаватую ўсмешку — зноў натапырылася бабуля. Адразу папярэдзіла:

«За вашы штучкі — двайны ганарар. Курачак забыўся захапіць, калі коней перапрагаў? Кансервамі аддасі. Дваццаць банак. Жывяце, бачу, не бедна»,— кіўнула на стол.

«За ганарар не турбуйцеся»,— заспакоіў Вася.

«Я не турбуюся. Ты турбуйся».

«Рукі памыеце?»

Інстынктыўна зірнула на свае кастлявыя кісці, потым — на наш ручнічок, што вісеў на цвічку каля ўмывальніка. Бруднаваты ручнічок, партызанскі. Грэбліва зморшчылася.

«Ох, бандыты! Заразілі бабу, а потым Бумель хапаюць пасярод ночы. Вам здаецца, Бумель — бог святы. А яна такая ж баба, толькі старая. Чыя жонка?»

«Мая»,— адказаў я.

«Не хлусі, Антанюк. Твая выехала. Хіба другую завёў?»

Як апякло варам мяне. Няўжо, думаю, Люба ці Рубін па прастаце сваёй выбалбаталі прозвішча маё і ўсё іншае? Шкуру спушчу, калі так. Хоць мяне яна магла ведаць з даваеннага часу. Невысокая пасада — загадчык райза, з гарадскімі медыкамі амаль не сустракаўся, але калі гэтая бабуля спецыяльна цікавілася партактывам... Усё-такі — немка. Пытаюся з іроніяй:

«Немцам і такія дэталі маёй біяграфіі вядомы?»

Зразумела.

«Не ведаю, што вядома немцам. А я ведаю. Пра цябе ў горадзе нямала гавораць. Цэлыя легенды ходзяць. Нямецкае камандаванне ўзнагароду абвясціла за тваю галаву».

«Вялікую?»

«Не помню сумы. Але помню, калі прачытала, то падумала: тыповая нямецкая скупасць. За такую галаву не шкада ў пяць разоў больш. Дарагая галава».

Вася Шугановіч засмяяўся. А Будыка, які праз усю размову пунсавеў, асабліва калі яна зноў нас бандытамі назвала, нешта сярдзіта сказаў па-нямецку. Анна Отаўна пераклала:

«Афіцэр кажа, што за такія жарты ў ваенны час расстрэльваюць. Мне гэта пагражае?»

«Вам пакуль што пагражае вось гэтая чарка спірту,— я наліў ёй паўшклянкі, а нагой пад сталом штурхануў начштаба: будзь чалавекам, а не ваенным бюракратам! — П'яце так ці разводзіце?»

«Разводжу».

Развяла вадой і, не чокнуўшыся, кульнула шклянку да дна.

«А я вып'ю...» — пачаў Вася.

«Толькі не за здароўе парадзіхі!» — перапыніла Бумель.

«Чаму?»

«Ніколі не піце за чалавека, які на мяжы жыцця і смерці! Я забабонная».

Я асцярожна спытаў:

«Ёсць надзея, Анна Отаўна?»

«Спадзявацца можна толькі на бога. Ды на яе самую. Такія ў нас у бальніцы паміралі. У мірны час».

«І нічога нельга зрабіць?»

«Што магла — я зрабіла,— кладучы на талерку скрылі смажанага духмянага сала, задумалася, уздыхнула.— Паспрабую яшчэ што зрабіць. Не для вас, галаварэзы,— але не бандыты ўжо.— Для яе. Няшчасны род! Чаго толькі не выпадае на долю нашай сястры! Я перадам лякарства. У нас такога не было. (Усе трое пасля яе ад'езду ўспомнілі гэтае «ў нас»: значыцца, яна прылічае сябе да нас, да савецкіх людзей, а не да фашыстаў).— Антыбіётык. А немцы маюць. Ваш жыдок умее хоць уколы рабіць?»

«Ён жа ў райбальніцы працаваў».

«Помню. Але было там няўмекаў колькі хочаш. Хіба так трэба вучыць медыкаў, як мы вучылі?»

«Раскусіць» яе было немагчыма. Яшчэ разы са два яна выказвалася супраць нашых даваенных парадкаў: і гэта дрэнна і тое не так.

Будыка не стрымаўся, хоць я і штурхаў яго, уедліва спытаў:

«Пад уладай суайчыннікаў вам жывецца лепш?»

«Не закідайце вудачкі, таварыш афіцэр. Не клюне. Я думала, вы разумнейшы. Вас вайна ўзрадавала? А я — жанчына. Урач. Акрамя клічу крыві ёсць кліч розуму».

Разумейце, маўляў, як хочаце.

Дзіўна, што Будыку яна казала «вы», а нам з Васем — «ты».

У канцы снедання, калі крыху падвыпілі, я паспрабаваў быў распытаць у яе пра некаторых знаёмых, у тым ліку і пра Сваяцкага. Таксама не клюнула бабуля. Адсекла:

«Ці не захацелася вам зрабіць мяне сваёй шпіёнкай? Вы хітрыя, але і я не дурная... Ды і мала цікавяць мяне гэтыя людзі. Я з імі не сустракаюся».

Заплацілі мы ёй шчодра. Рошчыха жахнулася, калі даведалася, хоць, каб ураtаваць Надзю і дзіця, нічога не шкадавала. Прасіла не казаць партызанам, як дорага нам абышоўся гэты прымусовы візіт немкі.

Будыка таксама вурчаў. Праводзячы Бумель, парываўся папярэдзіць, што калі партызан, які павязе яе, не вернецца... Ды я разгадаў яго намер. Спыніў: ніякіх папярэджанняў! Будзем верыць да канца.

Партызан вярнуўся. І прывёз паўнюткі чамадан бінтоў і лякарстваў розных — якраз таго, чаго ў нас не хапала. Во бабуля. Палаяла на чым свет стаіць, але аказалася чалавекам. За нашу шчырасць і шчодрасць гэтак жа шчодра адплаціла. І пасля не раз выручала. Медыкаментамі. Толькі медыкаментамі. Маўляў, выконваю абавязак урача, і не больш. А нам больш ад яе і не трэба было нічога. Сувязных у нас хапала.

Будыка тады сказаў, калі мы разглядалі прысланыя Аннай Отаўнай медыкаменты:

«На гэты раз, камандзір, інтуіцыя цябе не падвяла. Але калі-небудзь ты пагарыш з-за сваёй даверлівасці».

Гарэў. Але не згарэў. Не згарэў, Валянцін Адамавіч! А людзей часам выратоўваў. Можа і Надзю выратаваў тым нямецкім антыбіётыкам. І Віту.

Спяць дачка і маці на адным ложку. Не, маці не спіць. Я чую па тваім дыханні, Надзя. Пра што ты думаеш? Чаму табе не спіцца? Спі. Добрых сноў табе, мой харошы друг. Час і табе заснуць, Іване, няўрымслівы пенсіянер. Заўтра — у дарогу.

IX

— Скардзяцца, Іван Васільевіч, на вас.

— Асабіста на мяне?

— На вашу камісію.

— Будыка?

— Здагадлівы. Хіба камісія займалася адным інстытутам?

— Але цяпер — інстытутам.

— Колькі цягнецца гэтае «цяпер»? Ці не залішне доўга?

— Вы хочаце ад пенсіянераў такога ж спрыту, як ад штатных работнікаў?

Сакратар гаркома, які, здавалася, пачаў размову строга і непрыветліва, раптам засмяяўся.

— У такіх пенсіянераў, як вы, часам больш спрыту, чым у нашых... Я сваіх інструктараў пакуль не паварушу... дык не скажу, што гараць на рабоце.

Антанюк насцярожыўся, калі сакратар сказаў пра пенсіянерскі спрыт,— ці няма ў словах здзеклівага сэнсу? Пакутлівая падазронасць, якой не было раней і якая з'явілася ў апошні час.

Але тое, што казаў сакратар далей, як казаў,— супакоіла. Часам жартаўлівыя словы — самыя сур'ёзныя і самыя красамоўныя. І смех найлепшым чынам раскрывае чалавека.

Яўген Паўлавіч — новы работнік, год, не больш, на гэтай пасадзе. Афіцыйна Антанюк сустракаўся з ім не аднойчы. Тады чамусьці больш цікавіла, які ён кіраўнік, што ведае і ўмее. А сёння, пакуль абменьваліся агульнымі словамі пра зіму, пра тое, як многа яна забірае людской энергіі — такія снежныя заносы! — Івану Васільевічу ўвесь час карцела спытаць у сакратара, колькі яму год; раней гэта не цікавіла, і ён ні ў каго не запытаўся. У Яўгенія Паўлавіча больш сівыя валасы, чым у яго, Антанюка, хоць, безумоўна, маладзейшы ён гадоў

на пятнаццаць. Па сутнасці, малады яшчэ чалавек, у росквіце сіл. Але дзіўна зменлівы твар: часам здаецца — зусім стары, суровы, а часам па-юнацку малады і добры, як вось цяпер, калі асвяціўся ўсмешкай.

Антанюк сказаў:

— Што да спрыту ў рабоце, дык, мабыць, яго не хапала, калі так рана папрасілі ўступіць месца маладзейшаму.

— Ці можа было замнога? — прыжмурыў вочы сакратар.

— А вось у лесе, на паляванні, не дагоніце. Магу пахваліцца. Па любым снезе. На лыжах і без лыж.

— Вы, паляўнічыя, мацакі.

— Мы як закансерваваныя. Не старэем. Не згінаемся. Паміраем на хаду. Нешта вы рана пасівелі, Яўген Паўлавіч. Прабачце, колькі вам год?

Адразу на твар лёг цень строгасці ці стомленасці.

— Наступіў узрост, калі я пачынаю даганяць

вас.

— Не спяшайцеся,— пажартаваў Антанюк, але, зразумеўшы, што не любіць чалавек гаварыць пра свае гады, вярнуўся да справы, з-за якой яго запрасілі: — На што скардзіцца Валянцін Адамавіч?

— Кажа — ад вашай праверкі ліхаманіць інстытут. Перашкаджае творчай працы.

— Творца!..

Сакратар пільна паглядзеў на Антанюка.

— Што вы так... амаль зняважліва. Буйнейшы наш вучоны.

— Я не замахваюся на яго вучоны аўтарытэт. Але чым мы перашкаджаем яму? Асабіста з ім, здаецца, ніхто яшчэ з нас не гаварыў.

— Вось гэта і дрэнна. Гэта людзей нервуе. І вы не гаварылі?

— Я гавару з Будыкам амаль штодня. Але я не спецыяліст. А ў нас няма пакуль што агульных вывадаў.

— Дарэчы, ён ставіў пытанне, што камісія не аўтарытэтная. Не спецыялісты.

— Няпраўда. У камісіі ёсць інжынер-машынабудаўнік. Між іншым, не пенсіянер яшчэ. Ёсць эканаміст-планавік. А ў такіх галінах, як партыйная работа, кадры, думаю, можам і мы, пенсіянеры, разабрацца.

— Думаю, што можаце,— згадзіўся сакратар і задумаўся, акрабатычна круцячы тоўсты сіні аловак.— Якія ў вас адносіны з Будыкам?

Антанюк здзівіўся.

— Ён казаў што-небудзь пра нашы адносіны?

— Не. Але казалі другія. Яшчэ тады, калі камісія пачынала работу.

— Мы разам партызанілі. Разам сёрбалі і бяду і радасць. Два дзесяткі год дружым, дружаць нашы сем'і. Вам сказалі іншае?

— Ды не. Гэта ж. Таму, прызнаюся, мне тады не спадабалася, што групу ўзначальваеце вы. І вас не разумеў — чаму згадзіліся? Урэшце, ніхто вас не мог прымусіць. Добрая воля.

— Не падкоп рабіць пад Будыку ці пад каго-небудзь я ішоў. За многія гады працы я прывык разумець партыйную праверку як. жаданне памагчы арганізацыі, людзям. За выключэннем, вядома, незвычайных выпадкаў, калі патрабуюцца тэрміновыя аргвывады. Валянцін Адамавіч — добры інжынер, вучоны, чалавек з галавой. Але і ў яго ёсць свае слабасці. Я іх ведаю лепш, чым хто іншы. Мне хацелася памагчы старому сябру... Збоку заўсёды відней.

— Ён гэта зразумеў інакш.

— Шкада. Але ён чалавек настрою. Пашумець, паказаць сябе любіць, але і пераканаць яго можна. А справе было б на карысць.

Сакратар стоена ўздыхнуў.

— Скардзіўся ён не ў гаркоме. Вышэй. Адтуль быў званок. І даволі катэгарычны. Ваша памылка, што вы занадта расцягнулі праверку. Гэта сапраўды, як сказалі, пенсіянерскія тэмпы.

Зноў — пенсіянерскія! Іван Васільевіч узлаваўся. Сакратар, гэты малады сівы чалавек, раптам паблекнуў у яго ўяўленні.

«Няўжо і ты спалохаўся? Ох, як мы баімося, каб не выцягнулі з-пад нас крэсла! Нехта там пазваніў, не разабраўшыся, і ты гатовы біць адбой, таксама не ўпікнуўшы ў сутнасць».

Сказаў груба, са злосцю:

— Усё ясна, таварыш сакратар. Пенсіянерскую лавачку зачыніць! Работу камісіі — на сметнік. Не перашкаджаць вучоным! Так?

Яўген Паўлавіч ледзь прыкметна ўсміхнуўся і з дакорам паківаў галавой.

— Гарачы вы чалавек, Антанюк.

— Дык ужо які ёсць. Перарабляцца позна.

— Дык вось што. Не так! Зусім не з такім намерам я вас запрасіў. Тут вы яўна паспяшаліся з вывадам. Скажыце, можа быць сур'ёзная размова па выніках работы камісіі? Каб не па дробязях. Не па адным тым, што Будыка ўзяў на работу свайго сына.

— Сын яго — лепшы работнік.

— Нават так? — здзівіўся сакратар.

— Сапраўдны будучы вучоны. Для размовы хопіць іншых тэм. Больш сур'ёзных. Наколькі, напрыклад, аўтаматы, спраектаваныя

інстытутам, знаходзяцца на ўзроўні дасягненняў сусветнай канструктарскай думкі. Вышэй ці ніжэй.

— Камісія здолее разабрацца ў гэтым?

— Спрабуем.

— Апошняя іх аўтаматычная лінія выстаўлена на Ленінскую прэмію.

— Выставіцца — яшчэ не значыць атрымаць. Пакрасавацца можна, праўда. У спісах. Узняць сабе цану. Хто-ніхто задавальняецца гэтым.

— Думаю, Валянцін Адамавіч мае надзею на большае.

Івану Васільевічу раптам стала весела. Пэўна, таму, што зразумеў, як нялёгка было сакратару зрабіць выбар: і пасля таго, як выказаў сваё прынцыповае рашэнне, усё яшчэ ўзважвае, вымярае, цягне размову ў такім плане, быццам аспрэчвае ўласнае рашэнне ці хоча папярэдзіць яго, Антанюка, з кім той мае справу.

— Вучоныя інстытута калі-небудзь атрымаюць прэмію. Але ім трэба памагчы.

— Ім ці іх дырэктару?

Антанюк засмяяўся.

— Яўген Паўлавіч, скажыце Будыку, што работай камісіі яму памагаюць атрымаць прэмію. Эх, выдасць мне Валянцін! Але — нічога. Было, што мы за пісталеты хапаліся. Аднак ніщто не пашкодзіла нашай дружбе.

— Прашу аб адным: скончыць работу хутчэй. Нельга цягнуць, калі такія скаргі.

— Спяшацца не будзем, каб не наламаць дроў. Але пастараемся не зацягваць.

Дзень быў шэранькі. Адліга. Тратуары слізкія. Тут, на бакавых вуліцах, іх не вельмі чысцяць. На сумленне дворнікаў. Калі прайсці раніцой, да дня, можна ўбачыць, як шкрабуць лапатамі, дагістарычным метадам старыя жанчыны-дворнічыхі. Дзе тратуар не чышчаны — так і ведай: дворнік тут мужчына, якому пасля вячэрняй папойкі цяжка падымацца на світанні. Іван Васільевіч спрабаваў правяраць — з чатырох выпадкаў памыліўся ў адным.

За два гады ён вывучыў гэтыя вуліцы лепш, чым за дваццаць папярэдніх. Кожную латку на асфальце, трэшчыну на сцяне, кожную вітрыну (іх нямнога тут), кожную ліпу і каштан. І — дзіўна! — нічога не абрыдла. Ён любіў гэты куток. Любіў гуляць тут, павольна, па-пенсіянерску, бо няма куды спяшацца.

Вольгу Усцінаўну проста палохала такая павольнасць чалавека, за якім некалі даводзілася імчаць подбегам, калі выходзілі на прагулку, ішлі ў госці ці ў тэатр. Інакш ён хадзіць не ўмеў.

Жанчына, напэўна, узрадавалася б ці можа яшчэ больш спалохалася б, каб пабачыла, як Іван Васільевіч выйшаў з гаркома, як па скверы ішоў да праспекта, да тралейбуснага супынку.

У гаркомаўскім калідоры, ідучы па мяккай дывановай дарожцы, падумаў:

«Будыка скардзіцца на такую маленькую камісію? Дрэнь твае справы, Валька! Дрэнь. Трэба табе памагчы. Вясёленькая ў нас будзе размова. Але я не адступлю — ты ведаеш мяне».

Не было і кроплі іроніі ці здзеку ў такой думцы, у нечаканым жаданні хутчэй сустрэцца са старым сябрам, пагутарыць з ім. Быў шчыры парыў душы. Ён не стаў нават званіць па тэлефоне, каб даведацца, ці ў інстытуце Валянцін Адамавіч. Не хацеў размагнічвацца, разбураць свой душэўны парыў. Узлаваўся на студэнтаў, якія бесцырымонна адціснулі яго ад увахода ў тралейбус. Прыйшлося адну машыну прапусціць.

Сцягнулася дарога ў тры кіламетры — такім гарэў нецярпеннем, хоць усведамляў, што там, у размове, можа з'явіцца і сарказм і нават здзек і што яны могуць сапсаваць адзін аднаму настрой, як гэта ўжо здаралася не аднойчы.

— Ёсць шэф?

Сакратарка заўсёды сустракала прыветліва, любіла перакінуцца словам, пажартаваць. А тут як бы спалохалася.

— У Валянціна Адамавіча людзі. Але — калі ласка, калі ласка, — і сама адчыніла прыгожа адпаліраваныя дубовыя дзверы, абвясціла, як на дыпламатычным прыёме:

— Іван Васільевіч Антанюк!

— Заходзь. Што ты там зачапіўся за Галіну? — прагудзеў з глыбіні вялізнага кабінета Будыкаў голас.

Валянцін Адамавіч не ўзняўся з-за свайго авальнага «мадэрнага» стала з адмысловымі палічкамі па баках, не ўстаў насустрач госцю. Ён нават не перапыніў працы — чытання папер. Не з-за непавагі. Наадварот, гэтым падкрэсліваў, што зайшоў вельмі блізкі, свой чалавек. З аднаго боку ляжаў грудзьмі на стале, стоячы каленямі ў крэсле, Кляпнёў, выставіўшы на дзверы свой шырачэзны бабскі азадак, зашмальцаваныя штаны на якім напяліся так, што, здавалася, вось-вось лопнуць. Ён таксама не павярнуўся. Такая яго пастава абурыла Івана Васільевіча.

«Во тоўстая свіння».

З другога боку стала сціпла сядзеў галоўбух, высокі, інтэлігентна апрануты, прыгожы сівы стары.

Бывае ж прыгожая старасць! За спіной у Будыкі стаяў яго намеснік па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, тыркаючы пальцам у паперы.

— Ды разбяруся без цябе. Гудзеш, як чмель, над вухам. Здароў, Іван, — Валянцін Адамавіч каротка зірнуў, працягнуў руку.— Пасядзі, пакуль я распраўлюся з гэтымі кукурузнікамі... зладзеямі... мучыцелямі маімі, — словы гэтыя ён вымаўляў паэтычна і смачна, з жартаўлівай добразычлівасцю.

Бухгалтар і забеспячэнец задаволена ўхмыляліся: вось, маўляў, які ў нас дырэктар, душа-чалавек. Кляпнёў рагатнуў так, што, здалося, забулькала недзе ў яго бяздонных вантробах. Ён нарэшце споўз са стала, жэстам хлопца-смаркача падцягнуў штаны і тады ўжо энергічна кінуў руку да Антанюка.

— Здаравенькі буў, пэрсіянальны.

Будыка нядобра бліснуў вачамі на свайго вернага служку. Не адрываючыся ад папер, спытаў у госця:

— Куды ты ўцёк так нечакана? — І прадэкламаваў: — Иван бежал быстрее лани.

— Быстрей, чем заяц от орла, — працягнуў Кляпнёў, зноў узвальваючыся на стол і сунучы нос у дырэктарскія паперы.

— Дарагі Эдуард Язэпавіч, дырэкцыя і партком былі б вам глыбока ўдзячны, калі б вы папрысутнічалі на лабараторным выпрабаванні БВ-65.

Хоць сказаў гэта Валянцін Адамавіч усё тым жа гарэзліва-жартаўлівым тонам, але Кляпнёў зразумеў, што яго далікатна просяць вымесціся з кабінета, толькі не адразу дапяў — завошта? Чаму так раптоўна змяніўся дырэктар? Кляпнёў не споўз, як раней, а саскочыў са стала, падцягнуў штонікі, якія ніяк не хацелі трымацца на яго слізкім жываце, пачырванеў.

— Цяпер ехаць?

— Ласкач званіў паўгадзіны назад. Я абяцаў сам прыехаць, але бачыш: справы, людзі. Скачы туды на адной назе. Скажы — няхай пачынаюць. Перадай Ласкачу, каб пасля паказаў мне рэжымны графік.

Эдзік, па-блазнюцку адсалютаваўшы ўсім адразу, пакаціўся да дзвярэй.

— У цябе надоўга, дзед? — спытаў Будыка ў бухгалтара, падпісваючы паперы забеспячэнцу.

— На пяць мінут.

— Ведаю я твае пяць мінут! Вунь якую папку напакаваў! Да цябе партдзяржкантроль дабраўся ўжо? Не? Дзіўна, што яны не пачалі з пошукаў нашых з табой фінансавых махінацый. Ты ж, дзед, вядомы растратчык. А я — аферыст-рэцыдывіст. Белянкоў вось — наш агент. Пажондная кампанія!

Бухгалтар дакорліва паківаў галавой, з мяккай усмешкай на прыгожым твары, звяртаючыся пры гэтым да Антанюка: маўляў, палюбуйцеся, які жартаўнік наш дырэктар, часам перасольвае, але чаго не даруеш дасціпнаму чалавеку!

— Зайсці пазней, Валянцін Адамавіч?

— Зайдзі пазней, дзед.

Калі Будыка, нарэшце, усіх выставіў з кабінета і яны засталіся ўдвух, Іван Васільевіч перасеў у мяккае крэсла, на месца бухгалтара. Вельмі зручнае крэсла. Увогуле яму падабаўся гэты прасторны, з густам — нічога лішняга! — абстаўлены кабінет. Ён нават зайздросціў трошкі Будыку — тады, калі яшчэ меў свой кабінет, цеснаваты, са старой мэбляй. У такім кабінеце, як Будыкаў, з'яўляюцца маштабныя, аб'ёмныя думкі. І ў той жа час неяк лягчэй адключаешся ад спраў, ад сур'ёзнага роздуму, каб хвілін колькі адпачыць вось у такім мяккім крэсле. Выкурыць добрую цыгарэту, выпіць кубачак кавы. Міле іншым, Будыка і гэта ўмеў арганізаваць: кабінет яго — бадай, адзінае месца ва ўсім горадзе, дзе госцю хутка і прыгожа могуць падаць сапраўдную каву.

Іван Васільевіч пашкадаваў, што даўно кінуў курыць, — раптам чамусьці захацелася закурыць. І кавы захацелася. Валянцін быццам прачытаў яго думкі. У дзвярах ужо стаяла сакратарка.

— Галіна Арцёмаўна, нам кавы. Па апошнім рэцэпце.

— З каньяком?

— Ах, Галіна Арцёмаўна! Выдаеце вы мяне з галавой. І каму? Партдзяржкантролю!

— Не крыўляйся, Валька, — проста сказаў Іван Васільевіч, калі сакратарка зачыніла за сабой дзверы.— Не такі ўжо ў цябе талент гумарыста!

— А можа ён толькі раскрываецца? Адкуль ты ведаеш?

— Позна.

Будыка выйшаў з-за стала, сеў у крэсла насупраць, тварам у твар, спытаў сур'ёзна, з шчырасцю і заклапочанасцю блізкага чалавека:

— Як там Вася?

Івана Васільевіча кранула яго шчырасць. Вольга праўду казала: што ні здаралася, як там ні было, Валянцін заўсёды заставаўся самым блізкім, самым верным сябрам сям'і, ніколі не адварочваўся.

— Нічога. Нясе службу, як кажуць ваенныя.

— Нешта ж вельмі нечакана ты сарваўся. Вольга назаўтра Мілі пазваніла з трывогай. Не паверыла табе, што нічога не здарылася. Я таксама занепакоіўся. Папрасіў генерала Воднева па іх лініі звязацца з Крымам, з часцю. Пад вечар ён мне пазваніў, што ўсё ў парадку, Васіль Іванавіч Антанюк жывы, здаровы, на ранейшым месцы, нясе службу спраўна і гэтак далей.

— Дарэмна ты турбаваў людзей.

— Я ж ведаю цябе не горш, чым Вольга. Не ў тваім характары такія паездкі.

— Да сына?

— Многа разоў ты раней ездзіў?

— Не папракай. Відаць, старэю. Больш пачаў думаць пра дзяцей. Часам адчуваю, што не ўсё зрабіў, што мог бы зрабіць. Дзеля дзяцей.

— А чаго недарабіў? Хіба толькі з Васілём паспяшаўся...

У парыве сяброўскай шчырасці захацелася расказаць пра наведванне да Надзі, пра Віталію, пра сваё нечаканае прызнанне ёй. Параіцца, як паводзіць сябе далей, напрыклад, на той выпадак, калі Віта прыедзе, а яна напэўна прыедзе... Што сказаць Вользе, Ладзе? З кім яшчэ можна параіцца пра гэта? Галоўнае — тлумачыць нічога не трэба, Валянцін усё ведае да драбніц... І ўсё зразумее...

«А ці зразумее?» — спыніла сумненне, якое ўзнікае не ўпершыню. Здаралася, што і тады, у партызанскай зямлянцы, Будыка не ўсё разумеў. А цяпер, калі апынуўся на вышыні славы, стаў гаспадаром гэтага адменнага кабінета, даўно ўжо слухае і чуе ў першую чаргу самога сябе. А можа гэта ён, Антанюк, апошні час замыкаўся, рабіўся падазроны і недаверлівы? Калі чалавека лічыш сябрам, трэба ісці да яго, як кажуць, з сэрцам на далоні. А ён прыходзіў да Валянціна гэтак?

— ...Сын сказаў штосьці непрыемнае, што ты нахмурыўся?

— Я? Не. Мы хораша пагутарылі. Вася не крыўдуе. І я пераканаўся, што служба яму на карысць. Мора яго зачаравала. Адзінае, што мяне трохі засмуціла: застанецца хлопец на моры.

Будыка засмяяўся.

— Цяпер бачу, што старэеш. Хочацца табе сабраць дзяцей пад сваё крыло? Не выйдзе, Ваня! Не той час! Няхай ляцяць! У мора. У космас. Куды каго цягне.

Сакратарка прынесла каву. Паставіла паднос з кубкамі на круглы столік. Сказала прозвішча чалавека, які чакае ў прыёмнай.

— Папрасіце яго зайсці праз гадзіну. І тады ўжо — з ходу да мяне. Хто б тут ні быў. А цяпер — няхай прабачае. Іван Васільевіч — рэдкі госць. Хоць па ўсіх лініях яму належыць наведвацца часцей. Як сябру...

Галіна Арцёмаўна, прывабная жанчына з тых, чый узрост даволі цяжка вызначыць, па-змоўніцку ўсміхнулася: маўляў, усё ведаю, тлумачыць не трэба.

Нядобра неяк кальнула яе ўсмешка Івана Васільевіча. Зразумеў: супраць камісіі настройваецца апарат інстытута, ад самога Будыкі, яго намеснікаў да сакратарак і машыністак. Прыйшоў сюды з жаданнем пагутарыць з Валянцінам сардэчна, шчыра, па-сяброўску. Нават калі той закіпіць — скарыць, утаймаваць яго сваім спакоем. А тут раптам уласнае мора гайданулася, ударыла першай хваляй, і праз хвіліну ад душэўнага штылю нічога не засталося. Ну і нервы! На д'ябла яму трэба такія хваляванні? І праз што?

— Сядзем туды, зручней будзе.

З адмысловай тумбачкі, што стаяла каля круглага століка, Будыка дастаў пачатую пляшку каньяку, чаркі.

Антанюк паспрабаваў «разрадзіць» сябе жартам:

— Ого! З шыкам жывеш! Можна пазайздросціць.

— Шмат каго так і есць, як іржа, гэты перажытак. Ну, будзьма!

— Кажуць, скардзішся?

— На каго? — Будыка адхапіў, як апёкшыся, паднесеную да рота чарку, паставіў назад на стол.— Скарджуся? Не. Проста ветліва хачу паказаць тваім пенсіянерам дзверы.

— Ды што ты! Такі вучоны, такі дзеяч — і спалохаўся народнага кантролю? Штосьці ў цябе няладна, Валянцін. Не ад упэўненасці такая нервознасць...

— Усё ў мяне ладна. Не бойся. Упэўненасці ў рабоце, у сваіх людзях пазычаць не стану. Але не дазволю, каб нехта матляўся пад нагамі, пачынаў мышыную валтузню... абывацельскае збіранне плётак. Вы месяц праз лупу разглядаеце дысертацыю майго сына.

— Дысертацыя твайго сына — адна з лепшых.

Будыка ўсхапіўся з месца, узрадаваны і абураны.

— Ага! Што! Не выйшла? Асечка? Правяральшчыкі! — і тут жа пайшоў на мір: — Сам чытаў?

— Чытаў. Не ўсё, праўда, зразумеў — складаныя разлікі. Але спецыялісты далі высокую ацэнку.

О, вялікая сіла — бацькаў гонар! Заззяў чалавек, але працягваў абурацца:

— А ты думаў — Будыка цягне ў навуку сына па блату? Цягне бяздарнасць?

— Я так не думаў.

— Ты не думаў, другія падумалі. А ты паверыў. Камісію ўзначаліў. Ніхто цябе не прымушаў. Навошта гэта табе, скажы мне? Пенсію табе павысяць, ці што?

Цяжка, з гулам ударыла хваля крыўды і абразы. Зноў пенсія! Ударыла ў сэрца, пагнала кроў у скроні. Але зноў выстаяла дамба спакою, не абвалілася, не прарвалася.

— Хацеў памагчы табе.

— Памагчы мне? — ашаломлена перапытаў Будыка і спыніўся побач, разглядаючы сябра, як дзіва заморскае. Антанюк каўтнуў каньяку, запіў кавай. Гэта, пэўна, яшчэ больш ашаламіла гаспадара. І абурыла. Спытаў прыдушаным шэптам: — Такім чынам? — І тут жа бухнуў рогатам: — Дзякуй табе! Ты выратаваў мяне. Ад чаго толькі?

— Хачу выратаваць. Ад цябе самога.

Валянцін Адамавіч з такой жа раптоўнасцю і

нечаканасцю перайшоў да паважнай сур'ёзнасці.

— Прабач, я забыўся. Цяпер у цябе адзіны занятак — памагаць сябрам... Найвышэйшая місія!

Гэта была таксама абраза, танчэйшая, а таму больш злосная. Але — дзіўна — яна амаль не кранула; хваля адхлынула, пакаціўшы з шоргатам гальку старой абразы. Цяпер можна наступаць, не баючыся сарвацца.

— Ты ўзрадаваўся за сына. Я таксама радуюся за Фелікса. Ён ідзе ў навуку. А побач паўзуць смаўжамі, лезуць у кожную шчыліну розныя жукі і... кляпні. І ты патураеш ім. Кляпнёў — будучы кандыдат! Смеху варта!

Будыка сеў. Выплеснуў у шырока разяўлены рот каньяк, выцер хусцінкай рукі — відаць, яны спацелі. Сказаў спакойна, па-свойску:

— Нічога ў вас не выйдзе і тут, Іван. Кожны мае права здаць мінімум і пісаць на любую тэму. У Кляпнёва няпланавая тэма. Зарплату ён атрымоўвае не за напісанне дысертацыі. Абараняцца будзе не ў нас, калі ты ведаеш палажэнне. Я — не навуковы кіраўнік яго. За аднаго з жукоў я нясу пэўную маральную адказнасць. Але ў жукоў ёсць Жук,— Будыка засмяяўся.— Я не без грахоў, Іван. Але ратаваць мяне няма ад чаго. І ад каго. Няма. Дарэмна траціш час, камандзір. Ні. Кава стыне.

— За тваю ўпэўненасць. Але я хачу зразумець. Навошта вучонаму Кляпнёў?

Будыка скрывіўся як ад зубнога болю.

— А-а, чорт! Даўся табе гэты Кляпнёў. Ды зразумей, нарэшце. Ён патрэбны не вучонаму, ён патрэбны дырэктару, які адказвае за ўсё. Але я не магу дзень і ноч аддавацца адміністрацыйнай рабоце, я — вучоны, канструктар. Для цябе Кляпнёў — прайдзісвет, для мяне — дзялок, выбівала, даставала, як хочаш называй. І мне патрэбны такі чалавек. Ён працуе за пяцярых. Ён вызваляе мяне ад дробных клопатаў. Ён адзін можа раздабыць і гатунковую сталь, і гэты вось каньяк, які таксама часам патрэбны. Я не крахабор і не ханжа. Мне трэба жыць з людзьмі і працаваць... Ты пачынаеш здзіўляць мяне, Іван. Раней ты ніколі не быў бясплодным маралістах«. Ты — чалавек канкрэтнай справы. І грахоў у цябе не менш, чым у мяне. Не рабі цяпер з сябе святога. Ведаем...

Гэта была амаль пагроза. Але — дзіўна — і яна мала кранула Антанюка. Ён толькі падумаў, што правільна зрабіў, не расказаўшы пра Надзю і Віту.

— Калі я раблю з сябе святога, на мяне ўсё роўна ніхто не моліцца. А ты хочаш, каб на цябе маліліся. Ёсць розніца.

Зноў гаспадар павесялеў, і гэты раз, здаецца, шчыра, без ігры: круціў лыжачку, па-блазнюцку ўсміхаўся.

— Ты цяпер толькі адкрыў, што на мяне моляцца? Моляцца даўно. Але хто? І завошта? Хто разумее маю працу, мае станкі... Мае заслугі перад прамысловасцю. Ні палітыка, ні навука не могуць быць без аўтарытэтаў. А ты ўзяў за мэту скінуць з п'едэсталаў усіх святых. Спрабавалі нядаўна. Але тут жа ставілі новых, супраць якіх ты сам выступіў. Прырода не любіць пустаты. Галоўнае — высветліць, за што моляцца і як... па добрай волі ці... па загаду... У навуцы не загадаеш... У нас ісціны канкрэтныя.

Іван Васільевіч глядзеў на сябра і... любаваўся, без іроніі, шчыра, яго самаўпэўненасцю, пераможным наступам: на пазіцыі праціўніка. Яго прагным жаданнем і ў гэтай застольнай спрэчцы апынуцца на белым кані. Але Антанюк, як добры тактык, бачыў усе яго абмашкі і выбіраў момант, каб нанесці рашучы ўдар. Па-партызанску. Больш, бадай, не трэба, зацягваць праціўніка ў балота разважанняў, у якіх ён можа патануць сам. Вялікая спакуса — даць бой у чыстым полі. Каб удар быў элементарна просты.

— Ты вырашыў узвесці сабе «помнік нерукатворны» за аўтаматы, скапіраваныя з чужых... І, між іншым, не самых лепшых, ужо

ўстарэлых... За кнігу, дзе формулы тэарэтычных разлікаў спісаны з чужой кнігі...

Будыка ўміг пасінеў. Антанюк не часта бачыў яго такім. Падумаў, што так можна давесці немаладога чалавека да гіпертанічнага ўдару. Але не адступіў. Не мог. Палез у кішэню па запісную кніжку,

— Магу дакладна назваць прозвішча аўтара... назвы тых аўтаматаў і — для прыкладу — некалькі формул з той кнігі і з тваёй... Жадаеш паслухаць?

Не, не жадаў Валянцін Будыка слухаць пра гэта. Цяжка падняўся, як буйвал. Зачапіў столік. Каб Іван Васільевіч не падтрымаў, перакуліў бы. Груба вылаяўся.

— Злавілі блыху! Ні храна вы не разумееце, а лезеце! Законы Ньютана, Ома, Эйнштэйна выкарыстоўваюць усе! Хто калі лічыў гэта плагіятам? І матэматычныя формулы! Што я — украў патэнт? Я ўзяў ідэю. І сэканоміў дзяржаве мільёны рублёў. Мільёны! Хто з вас, праўяральшчыкаў, даў іх народу? Вы можаце толькі ўзяць!

— Але не выдавай гэта за вынаходства, вартае вышэйшай узнагароды.

— Ах, вось яно што! Ворагам маім папярок горла стала вылучэнне работы на прэмію. Гэта я ведаў. Але ніколі не думаў, што сярод іх ты.— І раптам голас стаў зусім іншы, са шкадаваннем.— Іван! Хто цябе падкупіў? Куды ты лезеш? Кніжачку завёў, формулы выпісваеш... Рахунак вядзеш. Даўно?

— Што даўно?

— Даўно табе захацелася паставіць крыж на нашай дружбе?

— Мне шкада цябе, Валянцін. Ты ап'янеў ад славы.

— Пашкадуй сябе. Сябе пашкадуй, Іван! У каго ты ператвараешся. У старога зайздросніка і ненавісніка. Ты помсціш блізкім за свае няўдачы. Быў чалавекам, а робішся...— кінуў брыдкае слова.

Антанюк пачуў, як зноў ударыла моцная і гарачая хваля. Узнімалася бура. Ён баяўся такой буры. Не да месца. І не ў час. А таму павольна падняўся і... пайшоў да дзвярэй, не развітаўшыся.

X

Пра яго партызанскае каханне Вольга, безумоўна, ведала. Тады, адразу пасля вайны, часам без прычыны плакала па начах. А часам уедліва кпіла. Калі аднойчы ў кампаніі пачалася размова на гэтую тэму, яна сказала мужчынам — былым партызанам: «Сто разоў кляніцеся — нікому не паверу, што ён бязгрэшны».

Будыка выскачыў тады:

«Мне, Вольга, можаш верыць. Камандзір пацвердзіць».

Але, можна пацвердзіць. Здаралася, што, выпіўшы, ён цалаваў жанчынам рукі, але нават жанчыны з атрада ні разу не пусцілі плёткі, што начальнік штаба прытуліў хоць адну партызанку. Будыка, пэўна, чакаў такога запэўнення пры сваёй жонцы. Ён, Антанюк, адказаў жартам:

«Валя! Не высоўвайся і не займай пярэдніх месц, яны — для інвалідаў і дзяцей».

За сталом зарагаталі. Валянцін Адамавіч пачырванеў. У Міланы ў вачах бліснула маланка.

Іван Васільевіч здагадваўся, што Вольга ведае больш: імя Надзі і ўсё пра яе. Ад Міланы. Будыка не мог не расказаць жонцы, не мог не пахваліцца, які чысцюлька быў ён сам і як паводзіў сябе камандзір.

Але Вольга ні разу не папракнула канкрэтна, як кажуць — з указаннем адрасу, ні разу па-бабску не абразіла саперніцу. Відаць, ведаючы яе драму, па-жаночы спачувала, і можа нават жыла ў яе ўдзячнасць Надзі за яе высакародства, за тое, што ніякіх напамінкаў, ніякіх дамаганняў, усё — у мінулым.

І вось трэба сказаць, што не ўсё ў мінулым. Што ён, па сутнасці, удачарыў дачку той жанчыны. Хіба лёгка сказаць такое? Калі б ведаць, як Вольга паставіцца. Нават душа блізкага чалавека — таямніца.

Антанюк сядзеў у крэсле перад тэлевізарам, але глядзеў не на экран — у акно. Там, за шыбамі, у вячэрнім паўзмроку, ішоў снег. Мяло. Над снежнымі казыркамі, што звісалі з крышы дома насупраць, віхурыліся сінія смерчы, узнімаліся белымі пасмамі. Снежная зіма. Яна хвалюе, як, здаецца, ніводная з ранейшых. Абуджае ўспаміны. Кліча ў лес. Да сардэчнага болю хочацца ў лес. Але ж не кінешся туды, на ноч гледзячы. А сціхне заўтра, праясніцца — і знікне гэтае жаданне. Зноў будзе сядзець, прыкуты да тэлевізара. Добрая забаўка для дзяцей і пенсіянераў!

Думаць перашкаджае ўнук. Малы бясконца лапоча над вухам — просіць тлумачыць, што там адбываецца, на экране. А як ты вытлумачыш трохгадоваму дзіцяці сумны тэлевізійны спектакль? Ды і цяжка адарвацца ад думак і... ад снегу. Хутка сцямнее, уключаць святло, і знікне гэтая дзівосная казка на даху суседскага дома.

«Хлопчык мой, каб я ўмеў, то выдумаў бы казку пра снег і пра лес. Але я не ўмею выдумляць для такіх, як ты. Гэта вельмі нялёгка. Я маю казку пра лес, ды табе не зразумець яшчэ яе. Маю казку не кожны дарослы зразумее».

Як звычайна, увайшла ў пакой Лада, пастаяла хвіліну каля дзвярэй, адразу вызначыла каштоўнасць перадачы; што цікавае затрымлівае яе надаўжэй, а часам зусім адрывае ад формул.

— Дарагія мае мужчыны, навука і чалавецтва былі б глыбока ўдзячныя, каб вы хоць трохі прыглушылі гэтую шарманку.

— З найвялікшым задавальненнем я выключыў бы зусім, але ж тады шуму стане яшчэ больш.

— Не хацу выключаць! — заверашчаў малы.

— Вось бачыш...

— Кара боская на маю галаву — такі пляменнічак. Ён у вас дагледзіцца да псіхічнага расстройства. Ужо не спіць па начах. Калі людзям наканавана ад нечага загінуць, то гэта — ад тэлевізара.

Па яго прыездзе жонка выказала трывогу, што Лада стала дрэнна спаць, блукае начамі па кватэры, зрабілася нязвыкла маўклівая, засмучаная. Вольга Усцінаўна прасіла пагутарыць: «Табе яна больш давярае».

Не адрываючыся ад акна, Іван Васільевіч спыніў дачку:

— Лада!

— Я, тата.

— У цябе непрыемнасць?

— Не.

— Ты нездарова?

— Маміны выдумкі.

— Ты робішся не такой, да якой мы прывыклі.

— Усё цячэ, усё мяняецца, кажуць філосафы.

— Але нічога не адбываецца без прычыны.

— Калі скажу, што я закахалася, гэта вас супакоіць?

— Ад кахання весялеюць.

— Як хто. І гледзячы ад якога. І гледзячы на якім этапе.

— Цікавая тэорыя. У цябе які этап?

— Апошні.

— Што значыць — апошні?

— Не ведаю, што значыць, але ведаю, што апошні.

— Васіль расказаў мне пра тое, што ты таіла. Пра Сашу.

Вельмі хацелася павярнуцца, каб убачыць яе твар, вочы ў гэты момант. Але ў пакоі ўжо прыцемкі, і наўрад ці можна разгледзець, што адбілася на твары, што свеціцца ў вачах — радасць ці смутак. Ён не паварушыўся.

Лада адказала не адразу:

— Я рада, што ў вас наладзіўся такі кантакт... што вы пагаварылі нават пра маё каханне. Але я не даручала брату.

— Васіль не сказаў, што даручала. Прагаварыўся ў гутарцы. Але скажу шчыра: мяне трохі пакрыўдзіла, што ты гэтак таілася.

— Хіба каханне — для выстаўкі?

— Не. Але навошта цямніць неграм, Феліксам?

Лада засмяялася.

— Ахоўная маскіроўка.

— Што і ад чаго трэба ахоўваць? Чаму ўсё-такі апошні этап?

— Не турбуйся. Магу зрабіць яго першым.

— Ты загадваеш загадкі. Адгадваць іх — работа не для маёй старой галавы.

— Гэта не загадка — задача, якую трэба мне рашыць самой. Калі рашу — адразу скажу табе пра вынік. А цяпер у мяне на стале задача на вымярэнне крытычнай энергіі каскадных ліўняў, таму я прыглушаю вашу шумілку.

Лада крутнула рэгулятар гучнасці і пайшла рашаць свае задачы, касмічную і душэўную.

Іван Васільевіч застаўся з унукам, які не адрываўся ад тэлевізара. Сініх смерчаў над карнізам даху ўжо не відно, толькі танец сняжынак на фоне асветленых у суседнім доме вокнаў. Усё складана ў свеце. І ў кожнага свае праблемы. Нават у гэтага малога. Але самыя складаныя з іх тыя, што вынікаюць з адносін паміж людзьмі.

У той жа вечар жонка проста-такі ашаламіла апошнімі хатнімі навінамі. Зноў прыходзіла Міля, скардзілася Вользе на яго, Антанюка! Узрушыў мужа, выбіў з творчай каляіны — перажывае чалавек, не есць, не п'е.

— Няхай схуднее, яму на карысць,— даволі абыякава напачатку азваўся Іван Васільевіч. Але жонка пачала дакараць:

— Ну, чаго ты задзіраешся з усімі? Вот жа чалавек! Не навучылі цябе яшчэ. Ну, там, у сельскай гаспадарцы, ваяваў, дык там ты хоць спецыяліст. А ў Будыкавы станкі чаму ты лезеш? Што ты разумееш у іх?

— Нічога. Але ў групе ёсць інжынер-станкабудаўнік. А я асабіста трохі разбіраюся ў людзях, у кадрах, у арганізацыйнай рабоце, у партыйнай. Вам з Будыкам хочацца поўнай бескантрольнасці? Я ніколі не ўзнімаў такі вэрхал, калі правяралі маю работу. А правяралі часцей.

— Па-першае, ты не на службе і мог адмовіцца.

— З партыі на пенсію не выходзяць, Вольга!

— А калі ўжо ўзяўся, то няўжо нельга зрабіць так, каб не разарваць дружбы? Столькі гадоў дружылі!

— Калі яна за столькі гадоў не загартавалася, наша дружба,— значыцца, не тая сталь.

— Ох, Іван, Іван! Табе хочацца страціць друга, які заўсёды можа памагчы, падтрымаць?

— Я не падаю, Вольга.

— Калі будзеш падаць, позна падтрымліваць. Я не менш за цябе не люблю розных блатаў, але жыццё ёсць жыццё. Ты нечакана паехаў да Басі — мне кальнула ў сэрца. Хто здолеў бы дазваніцца да часці? Валянцін здолеў. Цяпер ён запрасіў да сябе на работу Генадзя.

Вось гэта і ашаламіла.

— Будыка запрасіў нашага зяця? Сам? Калі? Праз каго?

— Учора ад яго імя пазванілі Генадзю на работу.

— І ты маўчала?

— Іван! Ты і ў гэтым гатоў убачыць бог ведае што. Трэба ж хлопцу расці.

— На заводзе нельга расці? Для добрага інжынера завод — лепшая школа. А ён без году тыдзень — і ўжо ў інстытут лезе... Нябось, з радасцю згадзіўся?

— Чаму ж не, калі прапануюць лепшае?

— Значыцца, са мной можна не раіцца? Я — нуль. Пенсіянер. Так?

— Ён самастойны чалавек...

— Калі сядзеў на маім карку, тады вы маўчалі пра самастойнасць! Самастойнікі!

Антанюк мацюкнуўся. Вольга ведала: — такое — каб Іван вылаяўся пры ёй! — здаралася раз у тры гады, калі абурэнне яго, як кажуць, даходзіла да званіцы, вось тады і біў гэты бом. Па-жаночаму мудрая, яна спяшалася тут жа пагасіць мужаў гнеў — уступіць, згладзіць. І цяпер пастаралася, каб мір і лад не парушыліся. Але між многімі лагоднымі словамі ўздыхнула, прызналася:

— Ох, Іван! Перастаю я разумець цябе.

Ён таксама паклаў нямала душэўнага намагання, каб ад злосці перайсці да здзіўлення і нават своеасаблівага захаплення сябрам: «Ну, і Астап Бэндэр ты, Валька! Аднак выдаеш сваю няўпэўненасць усё больш і больш».

Можна супакоіць сябе да абыякавасці: рабіце, што хочаце, мне ўсё роўна. Але Антанюк ведаў, што тады надыходзіць, па сутнасці, грамадская смерць чалавека, камуніста. Ён да гэтага апусціцца не мог. Калі Вольга ўжо забыла размову пра зяцеву работу, задаволеная, што муж зрабіўся такі добры, уступчывы, ён раптам папрасіў:

— Пазвані ты гэтаму будучаму вялікаму канструктару, папрасі, каб прыехаў.

Яна не зразумела, здзівілася і ўзрадавалася.

— Валянціну Адамавічу?

Іван Васільевіч усміхнуўся.

— Па-твойму, ён яшчэ будучы? Баюся, што былы. Я пра зяця твайго кажу.

— Ён такі ж і твой,— пакрыўдзілася Вольга.— Каб цяпер прыехаў? Позна ўжо.

— Няхай на сына хоць паглядзіць! Позна! Па тыдню сына не бачыць!

Вольга адчула, што Іван зноў «заводзіцца»,— так яна называла гэта — і зноў пачала «спускаць на тармазах» (яго вызначэнне).

— Я пазваню. Але прашу цябе: пагавары спакойна. Абяцаеш?

— Хіба я крычаў калі?

— Не. Але ты часам гаворыш так уедліва, што гэта абражае.

— Ах, як ты баішся, што зяць абразіцца. А як ён са мной гаворыць апошнім часам — ты не чуеш?

— Не, чую. І казала яму.

— Уяўляю, як ты казала. Упэўнены: яму здалося, што ты прасіла прабачэння.

Жончына звышдалікатнасць часам кранала, а часам абурала.

Ён чуў праз дзверы, як яна гаварыла па тэлефоне, спачатку з дачкой, пасля — з зяцем, доўга ўгаворвала прыехаць. Адрывацца ад тэлевізара, ехаць па марозе, у завіруху ў такі позні час ім не хацелася. Зяць, відаць, дапытваўся, навошта ён так тэрмінова спатрэбіўся. Вольга Усцінаўна адказвала прыглушаным голасам. Іван Васільевіч разумеў яе становішча: не магла сказаць усю праўду, бо тады Генадзь можа не паехаць, і хлусіць Вольга не ўмела, таму мусіла гаварыць нейкую сярэдненькую праўду, якой цяжка пераканаць упартага і самаўпэўненага інжынерых. На сутнасці, старая жанчына мусіла ўніжацца перад дзецьмі.

Антанюк доўга стрымліваў сябе, шастаў газетамі, каб не чуць жончыных перагавораў, але ўрэшце не стрымаўся. Зараз ён скажа гэтаму смаркачу такое, пасля чаго таму доўга не заснуць! Нахабнік! Але Вольга пазнавала мужаў настрой па кроках, па тым, як ён адчыняе дзверы. Яна здагадалася пра яго намер, як толькі ён выйшаў у калідор. Сказала гучна, злосна, рашуча:

— Можаш не прыязджаць! — і павесіла трубку.

Зяць даехаў з пасёлка трактарнага завода ў цэнтр за колькі мінут, Антанюк не чакаў яго так хутка.

Пазваніў ваяўніча, наступальна.

Іван Васільевіч падхапіўся з канапы, наблізіўся да дзвярэй, каб падслухаць: ці будзе Вольга перапрашаць зяця, інструктаваць яго. Як? Няўжо пойдуць на кухню шаптацца? Ён не даравў бы жонцы такіх ганебных паводзін. Не, у Вольгі надзвычайнае чуццё і такт.

*Зяць.* Якая муха яго ўкусіла?

*Цешча.* Пры чым тут муха? Іван Васільевіч хоча з табой параіцца. Па тваёй жа справе. Сорамна, Генадзь. Просіць старэйшы таварыш.

*Зяць.* Мне ў восем на работу.

*Цешча.* Табе карысна прагуляцца перад сном. Пуза адгадаваў вышэй носа.

*Зяць* (ашаломлена). І вы — супраць мяне?

*Цешча.* Але, усе супраць цябе. Заелі няшчаснага! Амбіцыі ў цябе многа і маніі. Небяспечныя сімптомы. Глядзі, набыць хваробу гэтую лёгка, лячыць цяжка.

*Зяць.* Не захварэю, не бойцеся. З вашай дапамогай...

*Цешча.* Іван Васільевіч чакае.

Малайчына Вольга! Дзейнічае, як кажуць, сінхронна.

Антанюк сеў да стала, унурыўся ў прачытаныя ўжо газеты: размова сур'ёзная, і весці яе трэба ў сур'ёзнай паставе, не на канапе. Шкада, што застаўся ў піжаме, не падумаў,— трэба было адзецца па ўсёй форме.

Генадзь пастукаў, што рабіў вельмі рэдка.

— Калі ласка.

Убачыўшы цесця за сталом — нібыта здзівіўся:

— А я думаў, вы спіце даўно. Пенсіянеры рана кладуцца. Разам з курамі,— рагатнуў, задаволены сваім жартам.

Лезе хлопец на ражон. Правакуе. Але мала ў цябе практыкі, не так гэта робіцца, браце. Іван Васільевіч прыўзняўся, працягнуў яму руку.

— Добры вечар, Генадзь. Мы сёння не бачыліся.

Збянтэжыўся-такі ад таго, што не павітаўся першы. Пачырванеў.

— Добры вечар, Іван Васільевіч.

— Сядай,— а сам у газету. Няхай астыне. Бывае, што накаляюцца і на марозе.

Сеў зяць. Сцішыўся. Чакае.

Іван Васільевіч перачытваў нудны і сіропны нарыс пра калгаснага пастуха. У думках лаяўся: пасярод зімы — пра пастуха! Адменны стыль сельскай газеты. Праўда, і ў дрэннага журналіста бываюць цікавыя думкі, у гэтага — разумна напісана пра травы, зусім з іншых пазіцый, чым тыя, што панавалі паўгода назад. Задумаўшыся над сельскімі праблемамі, магчыма, ператрымаў, прапусціў патрэбны для пачатку размовы момант.

Генадзь спытаў амаль з выклікам:

— Ну?

Не астыў, значыцца.

— Што — ну?

— Навошта вы клікалі мяне? Мне рана ўставаць.

Іван Васільевіч ведаў: жонка знарок, захоўваючы тактоўнасць, не ўвайшла разам з зяцем, але стаіць за сцяной на варце, услухоўваецца.

Навошта ёй прыніжаць сябе падслухоўваннем? Ён паклікаў:

— Маці! Хадзі сюды, калі ласка.

Яна тут жа адчыніла дзверы.

Хлопца яўна нервавалі цесцевы паважнасць і спакой. Ад нецярплівасці ажно пальцы пачаў ламаць — чакаў размовы.

— Генадзь, я хачу папрасіць цябе: не пераходзь з завода ў інстытут.

— Чаму?

— Я растлумачу. Мы з Валянцінам Адамавічам старыя сябры, з вайны, ты ведаеш. Цяпер у інстытуце працуе група партдзяржкантролю. У ліку іншых недахопаў, відаць, будзе запісана аб падборы кадраў. Аб няправільным падборы. Мне не хацелася б ставіць свайго добрага сябра ў няёмкае становішча. Ты разумееш?

— Вы ж яго не прасілі! А я вас не прасіў. А каб і папрасіў, то — ведаю — слова не сказалі б.

«Дурань, не ведаеш, колькі слоў я сказаў за цябе. І вось удзячнасць!»

— Будыка сам запрасіў мяне.

— За якія заслугі?

— А чым я горшы за іншых?

— Што цябе спакушае?

— Ого! Пытаецеі На трыццаць рублёў больш!

— І гэта ўсё? Вырашаюць трыццаць рублёў?

— Для вас гэта можа дробязь, вы тысячы граблі.

— Генадзь! — папракнула Вольга Усцінаўна.

— Не турбуйся, Оля. Размова павінна ісці на поўнай шчырасці.

— А там, глядзі, і ў навуку можна пралезці.

— О божа,— прастагнала Вольга Усцінаўна.— З тых, хто пралазіць, ніколі не бывае вучоных.

— Але хто кандыдата хапне, дык не бядуе.

Іван Васільевіч раптам адчуў дзіўную спустошанасць. Не хацелася больш гаварыць, пераконваць, тым больш прасіць. Дарэмная трата сіл. Дрымучы лес. Далей не прабіцца. Завал за завалам. Крыўдна. Тысячы людзей выхоўваў. А зяця за пяць год ніколькі не абчасаў,

не прачысціў мазгоў — такі ж кулак, прыватнік, а можа нават горшы стаў. Што за чорт! Якія ж таемныя сілы дзейнічаюць у іншым кірунку? Хто ці што на яго ўплывае? Тыя пятнаццаць гектараў зямлі, якія меў бацька пры Польшчы? Сваццця, калі прыязджае, то і цяпер успамінае гэтую зямельку і кляне нейкага Шуру, які ў трыццаць дзевятым абрэзаў лепшы ўчастак.

— А ты бядуеш? — ужо з абурэннем спытала цешча.

— Удваіх робім, а паліто зімовае хацеў пашыць, дык і не выйшла. Мая пашыла, тэлевізар купілі...

— А ты хацеў усё адразу? Нецікава будзе жыць далей. Гора вы не бачылі. Задужа многа атрымалі гатовага.

— Вы пасля вайны па ліцерах палучалі. А я ў калгасе бульбіне радаваўся.

— Ты запомніў ліцеры, а як я з трыма дзецьмі жыла ў эвакуацыі — пра гэта ты ведаеш? — у Вольгі Усцінаўны задрыжалі вусны.

Іван Васільевіч разгладжваў газету і разадраў папалам.

«Калі яшчэ што-небудзь скажа пра тысячы і ліцеры — паганю прэч».

Не, схамянуўся, здаецца, дайшло.

— Я ж не кажу, што вы гора не ведалі. Усім хапіла.

— Даволі дыскусіраваць пра гора. Я паўтараю сваю просьбу, Генадзь. Паўтараю вельмі сур'ёзна. Не спяшайся з адказам. Падумай.

— А што мне думаць! Вы можаце дружыць, можаце сварыцца. Вам што? Адзін персанальную мае. Другі хутка будзе акадэмікам і лаўрэатам. А мне трэба жыць. З-за вашых капрызаў я павінен адмаўляцца ад выгаднага месца! Будыка не баіцца, што пра яго скажуць. Я так бачу: напляваць яму на вашу камісію. А вы спалохаліся, каб не падумалі, што вы мяне ўладзілі. Чаго вам баяцца? Пенсіі не здымуць.

— Значыцца, цвёрда вырашыў?

— Цвёрда.

— Ну, што ж, будзь здароў. Дзякую, што прыехаў.

Іван Васільевіч засунуў рукі ў кішэні піжамнай курткі, схіліўся над газетай.

Генадзь падняўся, разгублена, азірнуўся, не ведаючы, як развітацца. Часта выручала добрая цешча. Утаропіўся на яе. Але яна разглядала свае ногці з рэшткамі манікюру, які зрабіла некалі на курорце. Не глянула нават. Гэта ўстрывожыла: цёшчына незадаволенасць можа адбіцца на іх дабрабыце больш прыкметна, чым: тыя трыццаць рублёў, якія атрымае, перайшоўшы ў інстытут. Але чаму ім так не

хочацца, каб ён пераходзіў? З-за гонару? Дык і ў яго ёсць гонар! Няхай не думаюць!

— Добрай ночы!

Іван Васільевіч зразумеў зяцевы ваганні і, каб заспакоіць яго, адказаў амаль весела:

— Добрай ночы. Сына не забудзь пацалаваць.

Калі ляпнулі надворныя дзверы, Антанюк цяжка ўздыхнуў. Жонка паспрабавала супакоіць:

— Я пагавару з Маяй.

— Не! — рашуча запярэчыў ён.— Не трэба! Навошта? Гэта паражэнне. Маё. І я павінен перажыць яго адзін раз. Не хачу перажываць з-за аднаго двойчы ці тройчы! Не! Чуеш?

Усё, што рабіла Вольга ў доме, здавалася настолькі натуральным, што работы яе і душэўнай цеплыні, бадай, не прыкмячалі ні сам Іван Васільевіч, ні дзеці,— інакшай жонкі і маці проста не ўяўлялі. Але адну яе рысу Іван Васільевіч заўважаў кожны раз і кожны раз адчуваў удзячнасць — за тое, з якой шчырасцю і народнай прастатой яна прымала гасцей.

Заязджалі былыя партызаны, сакратары райкомаў, старшыні калгасаў, калгаснікі, заглядвалі акадэмікі і міністры; здаралася, што вельмі розныя людзі сыходзіліся разам. Неразумная гаспадыня пачала б дзяліць іх па рангах, аддаваць больш увагі вышэйшаму, радавалася б, што даярка, даведаўшыся, што прыйшоў вядомы пісьменнік, ад збянтэжанасці стараецца хутчэй знікнуць. Вольга ж вельмі хораша ўмела аб'яднаць за сталом розных людзей — не вясёлай дасціпнасцю, не вострымі слоўцамі, а ціхай сардэчнай гасціннасцю і аднолькавай уважлівасцю да кожнага.

Пасля таго як Антанюка папрасілі пайсці на пенсію, гасцей, натуральна, стала менш. Вольга Усцінаўна балюча перажывала гэта. І яшчэ больш радавалася таму, хто не мінаў дома, заязджаў, заходзіў па-ранейшаму. Даражыла дружбай з такімі людзьмі. Таму і баялася, што праз свой упарты характар ён, Іван, можа пасварыцца з Будыкам — з тым сябрам, які, здавалася ёй, заўсёды заставаўся верным, у шчасці і ў няшчасці.

Іван Васільевіч вярнуўся з-за горада — яго запрасілі ў групу, якая тэрмінова, па сігналах рабочых, правярала птушкафабрыку,— стомлены, акалелы, расстроены злоўжываннямі, якія выкрылі. Адчыніў дзверы сваім ключом, убачыў у калідоры на вешалцы кажух, хустку, на падлозе сялянскі кошык і ўзрадаваўся: госці. Госці з сяла!

Не распрануўшыся — адразу ў пакой: хто прыехаў? За сталом п'юць чай расчырванелыя Вольга і старая сялянка, бабуля ў парка-

лёвай хусцінцы, завязанай «хаткай». Не адразу пазнаў Марыну Казюру. А пазнаў — расцалаваўся і... праслязіўся. Вельмі гэта занепакоіла жонку. Скупы Іван на слёзы, ой скупы. А тут не вытрымаў. Відаць, не толькі ад таго, што Марына — маці сыноў-партызан, якія загінулі. Вольга ведала пра іх трагічную смерць — чула і ад мужа, і ад самой Марыны, яна прыязджала ў хуткім часе пасля вайны — пакрыўдзілі яе ў раёне, лесу на хату не хацелі даваць. Пасля таго яе прыезду Вольга сама напамінала Івану, каб заехаў да Марыны: можа памагчы трэба ў чым-небудзь. Заязджаў, не часта, праўда. Ніякай дапамогі ёй больш не трэба было. І вось ужо колькі год не бачыліся! Можа таму і ўзрушыў так яе прыезд. Вольга таксама не ўтрымалася — тайком выцерла вочы. А Марына — нічога, пэўна, даўно выплакала ўсе слёзы. Паківала засмучана галавой.

— Пастарэў ты, камандзір, пастарэў,— але тут жа, як бы схамянуўшыся, падбадзёрыла: — Але нічога яшчэ, нічога, дзядок дзябёлы.

Вольга засмяялася.

— Распранайся, дзядок, мый рукі ды хутчэй да стала.

Калі Іван Васільевіч выйшаў, Марына сказала Вользе:

— Добры ў цябе чалавек.

— Добры.

— У згодзе жывяце?

— Усялякае здараецца. Бывае, што і пасварымся. За дзяцей.

— З-за сваіх дзяцей — хіба гэта сварка! — і цяжка ўздыхнула. О, як ёй хацелася б пасварыцца з мужам за дзяцей! Але няма мужа, няма дзяцей...

Вольга Усцінаўна зразумела гэта і задыхнулася, баючыся зарыдаць, выскачыла, нібыта ўспомніўшы, што на кухні нешта гарыць. У ванным пакоі Іван прычэсваўся перад люстэркам. Яна, як дзяўчына, прытулілася тварам да яго пляча.

— Ты што?

— Прад ёй мне сорамна...

— Калі ласка, без сантыментаў.

Вярнуліся разам. Марына ўбачыла яго ў добра скроеным сінім касцюме, пры гальштуку, умытага, прычасанага — і здзіўлена пляснула ў далоні.

— А божачка! Ды ты яшчэ што жаніх, а я цябе дзедам назвала. Звіняй дурную бабу.

— Не, Марына Аляксееўна, не прабачу! Такой абразы не дарую.

— Дык я ж да таго, што ўнука ўжо маеш. То хіба не дзед? — і хітра-хітра прыжмурылася.

На стале ляжалі на талерках яе гасцінцы: тоўсты брус сала, круг засушанага, аблітага маслам сыра, крамяныя, адзін у адзін, бурштынава-масляністыя баравічкі. Стаялі глечык з мёдам і адмысловая — адкуль іх у вёсках бяруць? — пляшка. Звычайная паўлітэрка з партвейнам побач з гэтай пузатай чорнай пляшкай мела выгляд як бедная сваячка перад багатай купчыхай. А ўвогуле ўсё выглядала вельмі апетытна і хораша, пасавала да тонкіх талерак, прыгожых чайных кубкаў, бліскучага электрасамавара.

Галодны Іван Васільевіч задаволена пацёр рукі, прыцмокнуў:

— Ах, якая смаката!

— Вазьмі маёй для апетыту,— прапанавала Марына і сама наліла з пузатай бутэлькі, яму — поўную чарку, сабе і гаспадыні па кроплі.— Чаркі ў вас маленькія. Нашы мужыкі дык стаканамі глушаць.

— За ваша здароўе, Марына Аляксееўна.

— На здаровечка вам, Іван Васільевіч. І вам, Вольга Усцінаўна.

Самагонка, пэўна пяршак, апякла — не прадыхнуць. Ловячы відэльцам грыбок, Іван Васільевіч другой рукой адганяў ад рота агонь. У госці задаволена смяяліся вочы, у якіх і праз смех быў відзён навекі застылы смутак.

— Сама гоніш?

— Сама.

— Пасадзяць цябе ў турму.

— Э-э, нічога я не баюся. Ды і хто гэта дасць у крыўду лепшую даярку! Ім жа сорамна будзе.

— Усё яшчэ доіш?

— Ага.

— А на пенсію не пара? — ён паглядзеў на яе рукі: хворыя рукі, пальцы пакручаны, з падагрычнымі вузламі. Яму не аднойчы рабілася сорамна і балюча, калі бачыў вось такія жаночыя рукі. А яны ж кормяць хлебам, пояць малаком усю краіну! Марына злавіла яго позірк і непрыкметна апусціла рукі пад стол.

— Пытаўся неяк дырэктар саўгаса, ці не хачу я на пенсію. Не, кажу, не хачу. Нудна будзе без работы. Што рабіць адной у хаце?.. Сама сабе агоркнеш.

«А я ўжо на пенсіі»,— хацеў было прызнацца Іван Васільевіч, але стоена ўздыхнула жонка; зразумеў, што яна пра гэта не расказала, і змаўчаў таксама. Урэшце, ён заўтра ж можа пайсці працаваць! Ды і без пасады лынды не б'е. Знайшоў чым хваліцца старой калгасніцы!

— ...А так я песні з дзяўчатамі папяю. Сардэчныя тайны іх паслухаю. А то калі з другой і паплачам разам.

— А ўвогуле як вам жывецца, Марына Аляксееўна?

Яшчэ з тых партызанскіх часоў Марына ў залежнасці ад сітуацыі, ад настрою ці ад месца размовы казала яму то «вы», то «ты». Між іншым, у тых мясцінах больш паважаюць зварот на «ты». Антанюк не толькі звыкся з гэтым, але і сам, непрыкметна для сябе, звяртаўся да добра знаёмых людзей такім жа чынам.

— Ох, камандзір, так жывецца, так хораша жывецца, што ажно сэрца баліць.

— Не разумею, — сур'ёзна вы ці ад бяды якой...

— Ды якая бяда цяпер! Сур'ёзна, Іван Васільевіч. Жывецца — луччай і не трэба можа. Па сто рублёў за месяц зарабляю. Карова, свіння, сад... Тэлевізар купіла. Цяпер, узімку, калі рана з фермы прыходжу, дзяцей з усёй вуліцы зазываю. Яны ўжо і чакаюць мяне. «Баба Марына ідзе!» Таму і баліць, калі ўспомню, як бы сыны мае маглі жыць,— і заплакала. Не, не ўсе мацярынскія слёзы выплаканы. Многа іх яшчэ выльецца. Ой, многа!

У Вольгі таксама вочы мокрыя, шукае ў кішэнях фартуха насовачку і не можа знайсці.

Іван Васільевіч сурова памаўчаў. Шмат чаму ён навучыўся за жыццё, але аднаму не навучыўся — суцяшаць людзей у горы словамі. Справай, дзеяннем здолеў бы суцешыць, словамі — не ўмеў.

Ды Марына сама імгненна высушыла вочы.

— Звіняйце вы дурной бабе. Прыехала нязваная, няпрошаная ды і псуе вам пастраенне. Выпі, Іван Васільевіч, шчэ... На нас, баб, не глядзі, слёзы ў нас блізка. Сала во паспытай, сыру. Усё сваё. Грыбкі, праўда, не мае, няма мне калі хадзіць па іх. Брата майго нявестка, аграномша, збірае. Во ўжо збірае! Ён, чалавек яе, Віктар, механік у саўгасным гаражы. Дык на машыне як паедуць... Па тры кашы прывозяць! І як яна толькі не гатуе іх! І марынуе, і соліць, і смажыць. У банкі закатає, дык, бачыш, сярод зімы адкрыеш — як учора сабраныя.

— Грыбкі адменныя.

— Ета, мо, шчэ не самыя луччыя. Луччых у яе не выпрасіш. Маладзічка маладая, а скупая. Больш за дзве сотні палунаюць, а дзіцятка адно. Кажу ёй: «Ты, Люда, хоць дзяцей радзіла б». Няма, кажа, калі. Вы чулі? Збіраць грыбы ёсць калі, а дзяцей няма калі! — Марына засмяялася.

І нельга было не падтрымаць яе смех.

Івана Васільевіча глыбока кранула такая сіла гэтай жанчыны, якая перажыла найвялікшае гора, такое стаўленне яе — адначасова і жартаўлівае і сур'ёзна-заклапочанае — да маладых, да праблем іх жыцця.

Вольга Усцінаўна пайшла, каб прывесці з дзетсада ўнука. Лады дома не было. Яны засталіся ўдваіх за сталом.

Марына піла чай — каторы кубак! Хваліла:

— Смачны ў вас чай. А казалі, што з гарадской вады нясмачны. Казалі — хлоркай пахне. Ажно няпраўда ўсё ёта.

Іван Васільевіч яшчэ пры жонцы запытаў пра сваіх партызан, каторыя з Казюр і з суседніх вёсак: як хто жыве? У каго якія дзеці? Марына расказвала ахвотна, то сур'ёзна, то з нязлосным гумарам, як пра тую братаву нявестку Люду. Але як толькі гаспадыня выйшла, яна тут жа перапыніла свой расказ, адсунула кубак з недапітым чаем, недаверліва глянула на дзверы — ці надзейна, ці не здолее хто падслухаць? — панізіла голас да паўшэпту:

— Гаворка ў мяне з табой, Іван Васільевіч, тайная. Каб ніхто не чуў. Дзела даўнішняе, але ж, бачыш, не забываюць злыя людзі. Вораг твой аб'явіўся. Пачытай, якое пісьмо мне прыслаў.

У Антанюка сціснулася сэрца ад нядобрага прадчування. Не ведаў віны за сабой, нічога не баяўся, а вось жа ўсё адно ўдарыла.

Марына дастала з кішэні кофтачкі хусцінку, разгарнула і сярод іншых папер і грошай знайшла складзены ў шмат столак ліст. Сама разгарнула, разгладзіла і пасля ўжо аддала яму.

Старонка машынапіснага тэксту. Ён не стаў шукаць акуляры. Прачытаў так, схапіў сэнс у адзін позірк. Кроў ударыла ў цемя, у скроні, запульсавала ў пальцах рук, і ліст задрыжаў. Нейкі ананімшчык раіў цётцы Марыне — такі зварот: «Дарагая цётка Марына!»— спытаць у партызанскага камандзіра Антанюка, праз што загінулі яе сыны. А загінулі яны таму, што ён, Антанюк, паслаў дзяцей, каб ратаваць сваю любоўніцу.

«Ёсць памылкі, а ёсць злачынствы. Памылкі ўсім даравалі, а за злачынствы і цяпер не позна судзіць».

Літары заскакалі, зліліся ў чорныя палоскі.

«Не паказаць хвалявання! А то падумае старая, што спалохаўся. Не, Марына не падумае. Не можа яна так падумаць!»

Паглядзеў на яе. Суровы твар. Цень гора ў вачах.

— Не здагадваешся, хто мог напісаць? Хто ў цябе такі вораг?

— Не. Такога ворага не ведаю. Такога ворага не было.

— Ёсцека, як бачыш. Злы чалавек. Страшны. Бойся яго, Іван Васільевіч. То ж падумаць — такое напісаць! Ды каму? Матцы. Праз дваццаць гадоў. Знаў, на што біў. Пракляццем страшным пракляла б я, каб не знала, як яно ўсё было, як вы самі ішлі на смерць, каб ратаваць...— вусны яе ўздрыгнулі.

Іван Васільевіч узяў яе рукі, шурпатыя, мазолістыя, у парыве ўдзячнасці хацеў пацалаваць іх. Але адчуў: пацалуе — заплача. Нервы напяты, не вытрымаюць.

— Дзякуй вам, Марына Аляксееўна.

— За што мне дзякаваць?

— За шчырасць вашу, за мудрасць.

— А божачка! Якая там мудрасць!Налучыла етую пісульку — тыдзень не спала, сэрца балела. Грэшны, думаю, чалавек Іван Васільевіч. Але хіба ж такі яго грэх? Мужчынскі, то няхай перад жонкай і каецца. Жыве з сям'ёй — значыцца, пакаяўся. А тут якісь павук паганую павуціну пляце. Адкуль заходзіць! Ой, здалёку! А невядома, дзе скончыць. Чаго хочаш, яшчэ заблытае добрага чалавека. Нагавор — што смала — нялёгка адмываецца. Дай, думаю, з'езджу, скажу, каб ведаў ды аглядаўся.

— Вось за гэта і дзякую, Марына...

Яна зноў азірнулася на дзверы, зноў сцішыла голас:

— Можа ён — муж яе? Паліцай той?

— Яго расстралялі.

— Знайшла-такі кара. Кроў людская не даруецца.

Памаўчала.

— А яна дзе? Усё саромелася папытаць. Каб не падумаў, што ў вочы калю.

— На Палессі, настаўнічае.

— Замужам?

— Не.

— Не? — здзівілася Марына.— Такая маладая была. І адна жыве?

— З дачкой. Дачка таксама настаўнічае. У той жа школе.

— Пішуць?

— Пішуць.

— Многа хто з партызанаў піша вам?

— Не, цяпер ужо нямнога.

— Забываюцца людзі. У кожнага свая жызня, свае болькі. Не дзіва, столькі гадкоў праляцела.

Марына як бы знарок адводзіла размову далей ад пісьма, якое ляжала на стале паміж імі, далей ад усяго таго, за што чапляліся цяжкія ўспаміны. Ёй, відаць, шчыра хацелася забыць на гэта і пагутарыць пра што іншае. А ў Івана Васільевіча тахкала сэрца:

«Хто? Хто? Хто?»

І не было адказу на гэтае «хто?». Не было вытокі — з якой прычыны? Чаму паклёп узнік цяпер, калі ён менш за ўсё сустракаецца з

людзьмі? Каму ён перашкаджае? Чым? Бясспрэчна, ёсць сувязь паміж ананімкай у ЦК і гэтай. Адна рука. Адзін почырк. Нехта баіцца, што ён вернецца на работу, на старое месца? Хто? Пераемнік? Але адкуль ён ведае пра Марыну і ўвогуле ўсю даўнюю трагічную гісторыю? Усё да драбніц ведае толькі адзін чалавек — Будыка. Валька? Не! Не! Не! Ён жа ведае ўсю праўду больш, чым нават Марына.

І маці праз затуманены велізарным горам розум здолела зразумець тады правільна. Не паверыла цяпер, хоць боль многіх гадоў мог зрабіць яе падазронай.

Ніхто з партызан слова не сказаў у асуджэнне ўсяго таго, што было зроблена. Выратавалі раненых, дзяцей, жанчын. З начштабам яны, па сутнасці, пароўну дзялілі адказнасць за ўсе аперацыі. Са сваёй вайсковай вежы Валянцін лічыў удачамі і рэйд за Дняпро, і адступленне людзей з лагера, і бой пасля фашысцкай правакацыі з абменам афіцэраў на Пецю. Па Будыкавай логіцы ўсё — звычайнае, будзённае: вайна не бывае без ахвяр. Смерць братоў Казюраў для начштаба — адзін з эпізодаў, не вельмі значных. У баі за ўратаванне аднаго з іх загінулі дзесяткі людзей, камісар атрада загінуў.

Балела аднаму чалавеку — яму, Антанюку. Адзін ён адчуваў тую віну, пра якую цяпер напісаў невядомы няпрыяцель. Не перад атрадам адчуваў сябе вінаватым. Не перад людзьмі. Перад ёй — Марынай. І перад тымі, хто загінуў у баі.

Цяпер сваёй шчырасцю, сваім клопатам пра яго спакой, пра яго добрае імя старая спакутаваная жанчына абудзіла той боль.

— Марына Аляксееўна, я пільнаваў вашых сыноў, трымаў пры сабе. На вачах. Я мог і ў тую ноч трымаць іх побач. Але вы ведаеце, немцы і паліцаі прыціснулі нас да Дняпра, трэба было вырывацца з боем. У той групе, якую паслалі для аховы лагера, я лічыў, хлопцы будуць у большай бяспецы. Атрымалася наадварот.

Марына перапыніла:

— Не карайце сябе, Іван Васільевіч. Хто ведае на вайне, дзе каго смерць сцеражэ. Расказвалі вы, відна, некаму вось так, а паганец гэты,— яна ўзяла пісьмо, пачала павольна складаць яго, як бы збіраючыся падраць,— вораг гэты ваш перавярнуў усё проці вас.— Працягнула пісьмо.— Наце, схавайце ці спаліце. Нашто трывожыць Усцінаўну?

...Усе былі за тое, каб працягваць праверку інстытута: сакратар гаркома, старшыня камітэта. А камісія распадалася. «Захварэлі» два пенсіянеры; адзін з іх, адстаўны палкоўнік, безнадзейна занядужаў ва ўзросце сарака пяці гадоў. Невядома па чыім загадзе адклікалі на іншую праверку, больш тэрміновую, штатнага працаўніка камітэта.

Да самога Антанюка пачалі праяўляць увагу, якой ніколі не было раней, і даваць адказныя даручэнні, не фармальныя, даволі цікавыя, ад якіх цяжка было адмовіцца. Даручалі справы па рознай лініі — праз абком, гарком, камітэт кантролю, камітэт па ахове прыроды.

Але нішто не магло ўвесці старога зубра ў зман. Усё ён ведаў — дзеянне ўсіх рычагоў. Нехта недзе цешыў сябе думкай, што справу з інстытутам можна «спусціць на тармазах»: і без таго зацягнутая праверка яшчэ больш зацягнецца, а Будыка — не дурань, за гэты час навядзе парадак у сваёй вялікай і складанай гаспадарцы. І тады ў размове на бюро гаркома ці на пасяджэнні камітэта, калі такое абмеркаванне адбудзецца, пра ўсе памылкі можна будзе гаварыць у мінулым часе. А гэта шмат значыць для высноў: кіраўнік зразумеў, выправіў.

Аднаго не цяміў гэты «нехта недзе», што ён, Антанюк, згадзіўся правяраць і настойліва працягвае працу зусім не дзеля таго, каб утапіць дырэктара ці яшчэ каго, а для таго, каб Валянцін, стары сябра, сапраўды не дурны чалавек, здольны канструктар, зразумеў свае памылкі, навёў парадак у інстытуце і не лез далей у балота, у якое цягнулі яго розныя жукі і кляпні-сляпні.

Антанюка не абуралі людзі, якія націскалі непрыкметна, ціха, хітра на розныя тайныя рычагі і кнопкі. У іх не хапала рашучасці дзейнічаць адкрыта. Не той час — не тая ўпэўненасць у сваёй непагрэшнасці. Ён глядзеў на іх дзейнасць з гумарам. Абураў Будыка: усё ідзе ад яго націску, ад яго ўпартай упэўненасці ў сваёй непагрэшнасці. Не, дробныя недахопы, памылкі Валянцін Адамавіч прызнаваў — усе тыя, якія не кранаЛі яго славы вучонага, якія можна зваліць на падначаленых: за ўсім, маўляў, не ўгледзіш. Але менавіта гэтая паблажлівая ўступка — «на табе костачку і адчапіся!» — увесь Будыкаў націск, захады, накшталт гісторыі з Генадзем больш за ўсё злавалі Івана Васільевіча, рабілі зацятым і неадступным. Выконваў даручэнне камітэта па ахове прыроды і зноў ішоў у інстытут. Здаралася, што з шасці членаў камісіі з'яўляўся ён адзін. Бачыў: супрацоўнікі з яго пасміхаюцца. А Валянцін зноў зрабіўся добры і прыветлівы.

— На ліха табе здаўся мой зяць? — спытаў яго Антанюк.

Будыка пераможна рагатнуў.

— Думаеш, цябе хачу ўлашчыць? Не. Добра ведаю: такога чорта, як ты, нічым не ўлашчыш. А ты так падумаў? Прызнавайся. Перабольшваеш, Іван, сваю ролю. Узяў я твайго зяця са сваіх эгаістычных меркаванняў. Можаш запісаць у акт. Спатрэбіўся інжынер у сакрэтную лабараторыю. Навошта мне шукаць невядома каго, браць па рэкамендацыі Жука ці Кляпнёва? Каб ты яшчэ адзін факт запісаў?

Я ўзяў чалавека, якога добра ведаю, члена партыі, з чысценькай біяграфіяй, сына калгасніка, зяця персанальнага пенсіянера. Хітры Будыка? Хітры. Асцярожны. Але і смелы! Не баюся адказнасці! Не баюся плётак! Нават тваёй камісіі не баюся. З'еў?

Пасля гэтай размовы з'явіліся-такі ў Антанюка сумненні: можа сапраўды ўсе факты, якія яны выявілі і якія здаюцца яму значнымі,— для Будыкі як вучонага, для развіцця аўтаматызацыі — дробязь. У вялікай справе і вялікія абмашкі можна даравацъ. Няхай апошнія аўтаматы не арыгінальныя па канструкцыі, але, відаць, карысць прамысловасці яны прынясуць немалую — тут Валянцін, напэўна, мае рацыю.

Але ад сумненняў нічога не засталося пасля таго, як неўзабаве Іван Васільевіч папрысутнічаў на партыйным сходзе ў інстытуце. Абмяркоўвалі навуковыя вынікі мінулага года. Сам па сабе сход як сход. Інструктар райкома запісаў яго ў актыў работы парткома і сваёй уласнай. Актыўна выступалі. Былі крытыка і самакрытыка. Але што ўразіла Антанюка — амаль у кожным выступленні, адкрыта ці ў падтэксце, гучала: пад кіраўніцтвам Валянціна Адамавіча, дзякуючы Валянціну Адамавічу, толькі Валянцін Адамавіч мог дамагчыся...

Антанюк сядзеў збоку, углядаўся ў твары камуністаў і бачыў: ёсць людзі, якія трымаюцца іншай думкі, хоць, магчыма, і не адмаўляюць аўтарытэт Будыкі — скептычна не ўсміхаюцца. Але такія маўчаць. Чаму? Дзіўна, што сам дырэктар прымае гэтыя выступленні як зусім натуральныя. Не падобна, што ён арганізаваў іх знарок для райкома, для камісіі. Не, хутчэй за ўсё такія выступленні сталі тут звычайнай з'явай. З імі звыкліся. На іх, бадай, глядзяць, як на прапаганду дасягненняў усяго інстытута. Мала хто думае, як гэта небяспечна. Для Будыкі. Для калектыву. Не, хвароба гэта такая, што пілюлямі не вылечыш. Трэба аперацыя. А на аперацыю не згодны ні сам пацыент, ні блізкія і далёкія. Як пераканаць? Каго трэба ў першую чаргу пераконваць?

Пасля сходу Будыка, здаецца, зрабіўся яшчэ больш самаўпэўнены. Даведаўся, што Антанюк у інстытуце, знарок, відаць, прыйшоў у планавы аддзел, пачаў кпіць пры супрацоўніках:

— Адзін? Нешта твая камісія распаўзаецца. Лейцаў няма. Няма. Слабы ты стаў, Іван. У нас у буфеце выяўлена растрата. Во козыр! Займіся. Вельмі можа быць, што гэта вучоныя, абжоры і п'янюгі, аблічылі няшчасную буфетчыцу. Доктар навук Будыка... Бачыш, як адгадаваўся? — паляпаў сябе па жываце.— Во, кандыдат Барэцкая... яна па дзве курыцы з'ядала... Які буфет вытрымае!

Планавікі і эканамісты весела смяяліся. Любілі дырэктара, асабліва жанчыны,— за прастату, дасціпнасць. Ды і за выгляд: мужчына што трэба!

Антанюк не падтрымаў яго. Сказаў сур'ёзна:

— Парай, Валянцін Адамавіч, на якім заводзе лепш праверыць эканамічную выгаднасць замены старога абсталявання на вашы аўтаматы.

— На якім? Можаш паехаць у Іркуцк. Далёка? У Каір. Не дадуць дазвол? У Ерэван. Няма камандзіровачных? Я магу выдаць са сваіх сродкаў. Нам такія даныя таксама спатрэбяцца. Згода?

— Згода. Давай у Іркуцк. Пайшлі, выпісвай! — узяў Будыку за локаць і павёў у калідор.

Валянцін Адамавіч трохі сумеўся.

— Ты што, сур'ёзна намерыўся ехаць?

— Я ж не такі жартаўнік, як ты. Хадзем, хадзем.

— Не будзь ідэалістам, Іван. Як я магу даць такую камандзіроўку чалавеку, які да інстытута не мае адносін?

— Ну дык, тваю... не блазнуй перад людзьмі! А то дам па мордзе — ідзі тады скардзіся на мяне куды хочаш,— Антанюк развярнуўся, як для ўдару.

Будыка баязліва адступіў — ведаў характар свайго камандзіра. Паківаў галавой, дакараючы:

— Старэеш, Іван. Жарты перастаеш разумець. Дрэнны сімптом. Дружбай не даражыш.

Зноў хацелася сказаць, што даражыць дружбай, вельмі даражыць, і ўсё, што робіць,— стараецца дзеля яго ж, Валянцінавай, карысці, дзеля дружбы іх. Але адчуваў, што няма патрэбных слоў, а са звычайных Будыка пасмяецца: «Піянерскі ідэалізм». Таму не стаў больш гаварыць на гэтую тэму. Хопіць, адзін раз пагутарылі. Але пасля, развітаўшыся, дзён колькі адчуваў сябе пагана, нібыта вінаватым ці пераможаным.

XI

Лада паведаміла бацькам:

— Адзін гжэчны кавалер прапануе сваё сэрца і просіць маёй рукі.

Лада амаль пра ўсё казала з гумарам. Нават блізкія людзі не заўсёды разумелі, калі яна бывае сур'ёзная, а калі блазнуе.

Сядзелі за сталом. Вячэралі. Маці не прыняла яе слоў усур'ёз. Пасміхнулася ласкава, як з малой свавольніцы, паківала галавой, дакараючы: маўляў, калі ты станеш нарэшце дарослым чалавекам! А

Іван Васільевіч насцярожыўся, бо адчуў, што дачка кажа зусім сур'ёзна, бадай з хваляваннем, якое хоча схаваць за гумарком.

Лада пранікліва паглядзела бацьку ў вочы, спытала крыху раздражнёна:

— Чаму вы не пытаеце — хто? Вас гэта мала цікавіць?

— Чакаем, што скажаш сама. Сказаўшы «а», трэба сказаць «б».

— Але, «б»! Жаніх трывала стаіць на нагах. Мае цвёрдую аснову. У асобе бацькоў. І сваю ўласную — вучоную ступень. Праўда, першую яшчэ. Але можна не сумнявацца: будзе мець і другую. Усё будзе мець!

Антанюк здагадаўся, пра каго ідзе размова. Вялікай неспадзяванкі ў гэтым не было.

— Фелікс?

— Ты на дзіва здагадлівы, тата.

— Гэта сур'ёзна?

— Наколькі я разумею, з яго боку — вельмі сур'ёзна.

— Будыкаў? — ашаломлена перапытала маці, уцяміўшы раптам, што Лада не жартуе.

— Здаецца, дарагія бацькі, вы вельмі здзіўлены. Чаму? — во што цікава. Мне — дваццаць тры гады. Я — што пераспелая вішня, вось-вось сарвуся і невядома ў чый рот траплю. А мне хочацца трапіць у надзейныя рукі. Ні вышэйшая матэматыка, ні ядзерная фізіка не ратуюць ад біялагічных законаў. Яны дзейнічаюць аднолькава на ўсіх. Не варта забываць пра гэта. Нарэшце, што вы можаце сказаць супраць такога саюза? Я — дзіця горада, дзіця адноснай раскошы. Я прывыкла, каб жыццё маё было на ўзроўні сучаснай цывілізацыі. Я атрымаю для гэтага ўсё: кватэру, дачу, машыну.

Цяпер ужо і ён, бацька, не разумеў: ці Лада здзекуецца са свайго магчымага замужжа, ці пераконвае самую сябе? Калі пераконвае, то гэта будзе яшчэ адно яго паражэнне, яшчэ адно расчараванне, магчыма, самае цяжкае. Нават і ў тым выпадку, калі замуж яна за Будыку не выйдзе. Няхай выходзіць за каго хоча, але толькі без такіх вось перакананняў, без такой філасофіі.

— Акрамя ўсяго таго, што ты пералічыла, патрэбна яшчэ адна рэч — каханне. І яно, між іншым, не дзеліцца ні на якія этапы і перыяды,— прыгадаў ён нядаўнюю іх размову, каб далікатна, не ў лоб, напомніць пра марака.

— А можа гэта перажытак, ад якога чалавецтва павінна пазбавіцца?

Не, здаецца, яна жартуе. Калі так, то, бадай, можна пераходзіць на такі ж тон.

— Ты рашыла задачу?

— Не ведаю, ці правільна, але рашыла.

Вольга Усцінаўна пляснула далонямі:

— Дала згоду?

Лада ў адказ на матчын спалох падарыла ёй бадзёрую ўсмешку, а на бацьку паглядзела ўсё з той жа праніклівасцю, як бы жадаючы здагадацца, чаго ён чакае.

— Не. Я сказала, што параюся з вамі. Што вы параіце?

— Фелікс будзе добры муж,— не задумваючыся, сказала Вольга Усцінаўна і цяжка ўздыхнула: — Перастарак, праўда. І занудзісты трохі.

Лада зарагатала.

— Цудоўна, мамачка! Найлепшая атэстацыя! Пасля такой — нельга не выйсці за яго замуж!

Што ёй параіць? Што сказаць? Недарэчна думаць, што Будыка жаніцьбай сына замысляе нейкую падэсць, жадае ўлашчыць яго, Антанюка, ці паставіць у няёмкае становішча, прымусіць адмовіцца ад удзелу ў праверцы. Што Будыку баяцца нейкай, па сутнасці, паўафіцыйнай самадзейнай праверкі? Так, некалькі блышыных укусаў: непрыемна, але небяспекі — ніякай. Хутчэй цяпер можна падумаць, што ўсё якраз наадварот: у Будыкаў даўно жыло жаданне парадніцца з імі, Антанюкамі, замацаваць доўгую дружбу сваяцтвам, таму Валянціна і нерваваў яго ўдзел у камісіі. Запрашэнне Генадзя таксама магло быць шчырым — ад жадання зрабіць сям'і нешта прыемнае. Не, апошняе — наўрад. Не такі Будыка наіўны. Добра ведаючы яго, Антанюка, Валянцін не мог не здагадвацца, як сябру «падабаецца» гісторыя з зяцем. Там, безумоўна, была хітрасць, двайная ці трайная. Але якая хітрасць можа быць тут, у жаніцьбе сына? Што адказаць Ладзе? А чаго ламаць галаву? Ён можа адказаць толькі адно!

— Я старамодны чалавек, але паўтараю, што сказаў ужо. Я прызнаю толькі адзін матыў для замужжа ці жаніцьбы — каханне. Але я ведаю, што да Фелікса ў цябе не было, няма і...

— Ды адкуль ты ведаеш, Іван? — паспрабавала змякчыць катэгарычнасць яго слоў жонка.

Лада спытала ў маці:

— Ты, мама, за тое, каб я згадзілася?

Вольга Усцінаўна сумелася. Заўсёды спакойная, упэўненая, што для дзяцей — яна найвышэйшы аўтарытэт і суддзя, маці раптам адчула сябе бездапаможнай, як бы пабочнай тут, а таму ўзлавалася:

— Не мне жыць з ім. І машына яго мне не трэба!

А дзён праз некалькі пасля гэтай размовы, без тэлеграмы, прыляцелі на пабыўку Васіль і сябра яго, Саша Павельеў — той самы

вясёлы вартавы, што першы затрымаў Антанюка ў гарах. Што маці расплакалася ад радасці — то гэта зусім натуральна, жанчына ёсць жанчына. Але і сам Іван Васільевіч узрадаваўся прыезду сына незвычайна — да нязвыклай, не ўласцівай яму расчуленасці, ад якой пасля нават трохі было няёмка. Не, ён не праслязіўся. Але ціскаў хлопцаў у абдымках, тоўк кулакамі ў плечы, у жывот, без прычыны смяяўся.

Лады дома не было. Хлопцы пайшлі шукаць яе, нават адмовіліся ад абеду, толькі пагаліліся.

Тады ў Івана Васільевіча з'явілася здагадка, і іншы сэнс набылі Ладзіны словы пра этапы кахання. Ён нічога не сказаў жонцы, але яму хацелася паглядзець, як яны сустрэнуцца, Саша і Лада. З нецярплівасцю чакаў іх звароту. Моладзь не спяшалася дадому. Вольга Усцінаўна, заклапочаная, што стынуць стравы, скардзілася:

— Прыехаў сын і не даў на сябе паглядзець. Дзе можна гэтулькі блукаць? У такі мароз!

Ртутны слупок на градусніку за акном апусціўся да 25. Студзень выдаўся снежны і марозны. Нават Антанюку, загартаванаму паляўнічаму, не вельмі хацелася на двор з цёплай кватэры.

Дзеці вярнуліся пад вячэру.

— Былі ў рэстаране? — з крыўдай спытала Вольга Усцінаўна.

— Мама, не былі,— адказаў Васіль.— Мы ж ведалі, колькі смакаты нагатуеш. Нагульвалі апетыт. Цяпер падавай нам хоць вала!

Лада і Васіль памагалі маці збіраць на стол, «замарожвалі» на балконе прынесеную бутэльку шампанскага. Між іншым, шампанскае гэтае таксама насцярожыла Івана Васільевіча. Нават спалохала: «Няўжо так, адразу, з ходу, без размовы з маці, са мной?»

На нейкі час яны засталіся ўдвух з Сашай. Хлопец, такі вострына язык там, у гарах, зрабіўся маўклівы, збянтэжаны.

— Прабачце, што я вось так... не папярэдзіўшы.

— Што вы, Саша. Сябра нашага сына — наш сябра. І жаданы госць.

— У вас багатая бібліятэка. Можна паглядзець?

— Калі ласка.

«Хочаш схаваць ад мяне твар. Няўжо табе так няёмка глядзець мне ў вочы?»

Марак павярнуўся спіной, адчыніў дзверцы шафы, выцягнуў з цеснай шарэнгі тоўстую кнігу ў скураным пераплёце з непаблеклым залатым цісненнем — «Императорские охоты в Беловежской пуще».

— У вас многа літаратуры пра лес.

— Я аграном і паляўнічы. Член калегіі Камітэта па ахове прыроды.

— Я вырас у лесе. Мой бацька ляснічы. Люблю лес. Хачу вучыцца на лесавода. Калі ўдасца. Адзін раз зрэзаўся.

— Чаму не ўдасца? Тым, хто адслужыў у арміі, на флоце, дзверы адчыняюць шырэй...

— І ўсё роўна колькі нас спатыкаецца ў гэтых дзвярах! — весела засмяяўся Саша, павярнуўшыся да гаспадара з кнігай у руцэ. І зноў як бы збянтэжыўся, разгарнуў кнігу.

Іван Васільевіч параіў:

— Будзе час — гросбух гэты раю пагартаць. Цікавыя факты ёсць. Чулі пра нашых зуброў?

— А як жа!

— Дык вось у часе аднаго імператарскага палявання госць царскай сям'і — пляменнічак кайзера — забіў за тыдзень сорак зуброў. І гэта выдаецца за доблесць! Праслаўляецца бойня. Мяснікі!

Саша слухаў, ківаў галавой, павольна перагортваючы старонкі.

— У нас, у Валагодскіх лясах, ласёў многа. Было, што некаторыя высокія браканьеры таксама наладжвалі бойню,— і, быццам спалохаўшыся, што гаворыць не тое, тут жа заключыў: — Цяпер навялі парадак.

— Не, мала яшчэ ў нас парадку ў лясах і на рэках. Знішчаем бязлітасна звяроў, птушак, рыбу. Вы палявалі?

— Так... пачынаў... па-дзіцячаму. Ведаю, як трымаць стрэльбу. Бацька мой усё жыццё пражыў у лесе, але не паляваў. Не любіць. Цялё рэзаць і парасё калоць — лесніка клікаў, а сам з дому сыходзіў. Маці смяялася з яго. Маці ўсё ўмее.

Іван Васільевіч любіў такія размовы — аб усім, у іх малазнаёмы чалавек, непрыкметна для сябе, расказвае і сваю біяграфію, раскрывае свае густы, погляды, характар. Хацелася павесці неяк размову так, каб у хлопца пырснулі гумар, іронія, смех. Чорцікі ў вачах скачуць, але ён гоніць іх прэч. У жартах такая натура, пэўна, адкрылася б паўней, і тады лягчэй было б зразумець яго намеры, ды і спытаць спакваля прасцей.

Шампанскае не выходзіла з галавы. З трывогай чакаў, калі паклічуць за стол. Слухаў галасы Лады, жонкі, Васіля. Заглянуў у суседні пакой. Спытаў:

— Хутка карміць будзеце? Не па-флоцку, жанчыны, у вас выходзіць. Доўга.

Але хацелася, каб гэта ўсё зацягнулася, каб меў больш часу прыгледзецца да нечаканага госця. Не вельмі спадабалася, што стол

рыхтуецца залішне па-святочнаму. Лада ці жонка выцягнулі сервіз, якім карысталіся можа раз у год, калі былі асаблівыя госці ці асаблівая ўрачыстасць. Раней ён высмейваў гэтае хаванне дарагіх талерак, супніц: на якое ліха іх тады купляць! Каб пыліліся. А цяпер карцела ўпікнуць жонку: «А гэта навошта? Хіба не хапае штодзённых талерак?» Але адчуваў, што такое пытанне занепакоіць Вольгу: няўжо і ў яго, такога некалі шырокага, шчодрага, з'явілася старэчая сквапнасць — яшчэ адна пенсіянерская рыска? Вольга баіцца пенсіянерства ў характары людзей.

Саша сказаў, гартаючы ўжо другую кнігу-альбом, «Эрмітаж»:

— Васіль збірае кнігі пра мора.

— Заваражыла яго мора.

— Рыхтуецца ў мараходнае.

Укалола трохі: яму, бацьку, сын не сказаў пра гэта. Увогуле, варта радавацца, але ўсё ж крышачку балюча, бо цяпер гэта ўжо не здагадка, не прадчуванне, а перакананне: не адпусціць сына мора, не вернецца ён пад бацькоўскае крыло. Можа таксама пенсіянерская хвароба — гэтае патрыярхальнае жаданне, каб дзеці не разляталіся вельмі далёка?

Усё-такі вельмі хутка сабралі на стол! Колькі прайшло тых хвілін! Перакінуўся з хлопцам дзесяткам фраз, якія нічога не выявілі. На стале не было той пляшкі шампанскага, што не давала спакою. Яна ўсё яшчэ «замарожвалася» ці можа ўжо награвалася. Але высокія бакалы стаялі.

Іван Васільевіч прапанаваў:

— Можа пачнём з шампанскага?

— Гэта ўжо задужа па-інтэлігенцку, бацька,— запярэчыў Васіль.— А мы хочам па-флоцку.

За сталом Васіль быў самы гаваркі і шумлівы. Гаспадарыў. Быццам не ён прыехаў у госці, а да. яго. Але прымаў не бацькоў, а сястру і сябра. Толькі іх. І гэта пабольшыла бацькаву падазронасць.

Лада, звычайна такая шумная, неўгамонная, сцішылася. Але ўся ззяла, свяцілася. І таксама, у сваю чаргу, была гаспадыняй за сталом — аддавала ўсю ўвагу... не, не аднаму Сашу, больш нават брату. Але дзявочая дыпламатыя няхітрая, нават і ў тых, хто вывучае вышэйшую матэматыку і ядзерную фізіку. Не цяжка было ўгледзець, што ўвага яе, гасціннасць праз брата, як праз трансфарматар-узмацняльнік, пасылаецца яго сябру.

Упершыню ў жыцці Іван Васільевіч адчуваў сябе скаваным за ўласным сталом. А маці любавалася сынам, больш яе мала што цікавіла; да таго ж яна часта адлучалася, каб падаць новую страву,

замяніць талеркі, і ёй цяжка было прасачыць за ўсімі словамі, усмешкамі, позіркамі, абагуліць іх і асэнсаваць. Мела яшчэ адзін клопат: чаму спазняюцца Мая і зяць? Разы чатыры званіла. Івана Васільевіча гэта мала турбавала, не вельмі хацелася страчацца з зяцем пасля тае размовы.

Калі нарэшце налілі шампанскае і нічога не здарылася, нічога такога не сказалі, акрамя жартаўлівага грузінскага тоста, які па просьбе Васіля сказаў Саша з праўдзівым, а таму і смешным акцэнтам, Іван Васільевіч павесялеў. Не супакоіўся, але ўзрадаваўся, што ў дзяцей стае тактоўнасці не ўзрываць над галовамі бацькоў бомбы.

Прыйшлі Мая і Генадзь. Але цяпер нават зяць не мог сапсаваць добрага настрою. Наадварот. Назіраючы, як Генадзь прагна цэдзіць рэшткі з бутэлек, «выціскае па трыццаць тры кроплі», шкадуе, што спазніўся,— «Усё з-за Маі! Такая капуха!» — Іван Васільевіч усё больш весялеў.

Запрасіў хлопцаў на заўтра на паляванне — на белячка, на ліса. Тыя адразу ж, бадай, з энтузіязмам згадзіліся. Але Лада падумала і рашуча сказала:

— Нікуды яны не паедуць! Вырваліся ў добры горад са сваёй гары на сямі марскіх вятрах — і зноў у лес? Не!

Слова яе для ганарыстых незалежных сп'янелых маракоў — як камандзірскі загад.

— Не паедзеш, Саша?

— Не паедзем. Зразумейце, Іван Васільевіч...

— Разумею.

— Не, вы толькі, калі ласка, не крыўдуйце. Нам лепш па музеях, у тэатр...

— Давайце па музеях, давайце ў тэатр. А я паеду, пагуляю па лесе. Зайчацінай пачастую вас.

Кладучыся спаць з узнятым настроем, Іван Васільевіч сказаў жонцы:

— Рыхтуйся да вяселля, маці.

— Да якога вяселля? Усё ж заціхла.

— Ты так думаеш? І не бачыш, што прыехаў сапраўдны жаніх?

— Гэты? Лада не такая дурная, ёй не васемнаццаць год. У такім узросце так не бывае — боўць, як у палонку. Хлопец яшчэ служыць. Пасля вучыцца будзе. Не такі ёй муж трэба.

— Вельмі ты разважлівая стала!

— Ды ўжо ж не блазную, як ты. Заўсёдныя фантазіі.

— Пабачым.

Яна памаўчала, уздыхнула — відаць, пасеяў трывогу ў яе душы.

— Хоць ад тваёй дачкі ўсяго можна чакаць.

— Ад маёй?

— Твой характар.

— Такі ён кепскі?

Вольга адказала ласкава:

— Ваня, не кепскі, але і нялёгкі. Ой, нялёгкі! — і пацалавала мужа ў лоб, як малога.

Тое, чаго Антанюк чакаў і, каб яно не здарылася, пэўна, быў бы расчараваны — дрэнны псіхолаг! — адбылося на чацвёрты дзень гасцявання хлопцаў. Адбылося вельмі проста, звычайна, за абедам, на стале не было нават пляшкі віна.

Лада стукнула лыжкай па талерцы.

— Увага! — І пачала пафасна-трагічным голасам : — Панове, я павінна паведаміць вам найнепрыемнейшую навіну...

Іван Васільевіч адразу сцяміў: вось яно! Не цяжка было зразумець, седзячы насупраць госця: Саша пачырванеў, як дзяўчынка, вінавата заморгаў вачамі. Васіль з ненатуральна сур'ёзным выразам на твары па-армейску выпрастаўся, як пры агалашэнні ўрачыстага загаду. Толькі маці не дапяла, ёй здалося, што Лада, як заўсёды, хоча пажартаваць, і яна загадзя ўсміхалася, адначасна і ўхваляючы і дакараючы дачку, рыхтуючыся сказаць: «Калі ты нарэшце пасталееш, Лада! Такой сур'ёзнай навукай займаешся!»

Магчыма, гэтая недарэчная ўсмешка маці прымусіла Ладу адкінуць усялякую тэатральнасць і сказаць вельмі проста і шчыра:

— Мілыя мае бацькі, я хачу сказаць вам, што выходжу замуж.

Усмешка акамянела на вуснах Вольгі Усцінаўны. Васіль ціха ўславіў:

— Ура! Ура! Ура!

— Мама! Ніякіх сцэн, ніякіх слёз. Усё вырашана. Нават запісана. Толькі да цябе тата, адна просьба. Па нейкіх там добрых ці дрэнных — не ведаю — законах ЗАГС рэгіструе праз два тыдні пасля таго, як падана заява. Мы падалі сёння. І ў нас — вы ведаеце — няма гэтых двух тыдняў. Калі ты пойдзеш, тата, і паручышся за нас — запішуць раней. Мы цябе вельмі просім.

Падняўся Саша. Твар яго быў ужо не чырвоны, а ў фіялетава-ліловых плямах.

— Вольга Васільеўна... Васіль... Іван Васільевіч. Прабачце, Вольга Усцінаўна... Я... я прашу прабачыць, што так... мы людзі ваенныя... Я пакахаў Ладу тады, улетку... Я... я прашу яе рукі...

— О божа! Як старамодна! — схапілася за вушы Лада з прытворным абурэннем.

Васіль зарагатаў.

— Сячы канцы, Саша!

— А шампанскае дзе, чэрці? Шампанскае дзе? — закрычаў Іван Васільевіч.— Не сорамна вам? Эх вы!

Дзеці збянтэжана пераглядваліся.

Ён падняўся з-за стала, пайшоў у кабінет, напалохаўшы моладзь: няўжо пакрыўдзіўся бацька? Вярнуўся з бутэлькай шампанскага, якую цішком купіў на ўсякі выпадак.

Васіль зноў гукнуў:

— Віва! Палундра! Свістаць усіх наверх.

А маці раптам разрыдалася, упала тварам на стол, сутаргава закалацілася. Можа ёй здалося, што ўсе яны — дзеці, бацька — былі ў змове паміж сабой, толькі яна адна нічога не ведала.

Усе збянтэжыліся, разгубіліся, пачалі суцяшаць, як хто ўмеў. Лада абняла маці, пацалавала ў вуха.

— Мамачка, мілая, чаму ты? Ну, што здарылася? Не засмучай нас у такую хвіліну.

— Вольга Усцінаўна, не крыўдуйце, калі ласка.

— Мама, гэтая мая выдумка. Карай мяне. Саша

тут ні пры чым! Саша хацеў пагаварыць з табой, з бацькам...

— Вольга, супакойся, калі ласка. Я цябе папярэджваў. Навошта цяпер гэтая істэрыка? Скажы, калі ласка, якая трагедыя! Дай бакалы лепш. Вып'ем за іх шчасце.

Па шчырасці сваёй, нявопытнасці ці, магчыма, знарок — ад радасці — Лада паблытала ўсе разлікі, якія рабілі бацька і маці: колькі гасцей запрасіць, дзе каго пасадзіць? Прыйшло можа паўкурса фізікаў — простых, падстрыжаных пад бокс, і барадатых хлопцаў, дзяўчат у звышмодных сукенках і ў вельмі просценькіх, танных (адны гэта робяць ад пераканання — маўляў, зневажаем абывацельскае пакланенне модзе, другія, пэўна, з-за таго, што на моду не хапае студэнцкай стыпендыі). Прыйшлі два малайцы. Прынеслі выдатна выразаную з чорнага дрэва статуэтку маладой негрыцянкі — сімвал маці. Асабліва любоўна мастак выразаў грудзі — незвычайнай прыгажосці. Маладыя жартаўнікі пачалі маліцца на чорную багіню, дакраналіся да грудзей, як да святыні.

Моладзь яшчэ да таго, як сесці за стол, паводзіла сябе незалежна, шумна, на пажылых гасцей не звяртала ўвагі, здавалася — цалкам ігнаравала прысутнасць дзядоў і бацькоў. Хто-ніхто з хлопцаў не саромеўся без запрашэння, без тостаў каштаваць пастаўленае на сталы пітво, але толькі ў тым пакоі, які адводзіўся для моладзі.

Жанчыны падпенсійнага ўзросту ківалі галовамі, уздыхалі, шапталіся паміж сабой: во, маўляў, якія дзеці цяпер!

Івана Васільевіча і Вольгу Усцінаўну нічога ў паводзінах Надзіных сяброў не абурала — яны добра ведалі гэтых хлопцаў і дзяўчат, вось такіх вуглаватых у жыцці, часам нястрымных у выяўленні пачуццяў, але ўпартых у вучобе, у заваяванні такіх глыбінь і таямніц, да якіх яшчэ зусім нядаўна дабіраліся толькі геніі, ды і то вобмацкам.

Бацькоў здзівіла, калі прыйшоў Фелікс Будыка — доўгі сутулы мужчына ў акулярах, у дарагім, але мешкаватым новым касцюме. Ён перадаў нявесце важкі пакунак, нязграбна пацалаваў руку, сказаў: «Віншую». Забыў павіншаваць жаніха ці можа не адразу разабраўся, хто жаніх. Саша адзеў Васілёў цывільны касцюм, трохі кароткі і цесны, і неяк адразу зліўся са студэнцкай грамадой. Адзін Васіль вылучаўся сваёй флоцкай формай.

Фелікс міргаў, праціраў запацелыя акуляры, пакуль Васіль заносіў да суседзяў яго паліто, шапку; доўга не мог рашыць, куды: яму падацца — направа, дзе ў Людзіным пакоі групавалася моладзь, ці налева, у вялікі пакой, дзе чакалі ўсе іншыя госці. Рушыў да моладзі. Але тыя не вельмі яго прынялі — нават пры ціхлі на нейкі час.

Іван Васільевіч спытаў тайком у дачкі:

— Ты запрасіла?

— Я.

— Гэта жорстка.

— Але цікава. Няхай вучыцца, як людзі жэняцца,— засмяялася Лада.

Чакалі Будыкаў старых. Яны былі першыя ў спісачку гасцей, які зрабіла Вольга Усцінаўна перад тым, як параіцца з мужам і дзецьмі. Але раней чым перадалі запрашэнні, якія Лада друкавала на машынцы цэлы вечар, пазваніў сам Валянцін Адамавіч: мабыць, даведаўся ад сына. Лада знарок ашаламіла Фелікса нечаканай навіной — пазваніла яму раней, чым сказала на курсе.

— Іван? — гудзеў басам у трубку Будыка, хоць басу ў яго не было.— Не Васілёў, а чортаў сын! Ад цябе ўсяго чакаў, любой гадасці. Але каб такое!.. Ну, ведаеш!.. Смяртэльна ты нас з Міляй пакрыўдзіў,

— Чым?

— Яшчэ пытаеш — чым! Аддаеш замуж Ладу — і ні слова. Маю любіміцу і хрэсніцу!

— Валянцін, сын Адамаў. Робішся падазроны, траціш веру ў сяброў. І я, і Вольга, і Лада мелі на ўвазе, што на вясельным вечары ты будзеш госць нумар адзін. Ты і Мілана, вядома.

— Праўда! — голас перайшоў на сваю ўласную актаву.— Толькі не госць нумар адзін, а друг нумар адзін! Друг! Не забывай, калі ласка.

— Я не забываю.

— Хочаш сказаць, што я забываю? Не, хлусіш! Я магу ўзяцца загрудкі з табой з-за сваёй ці тваёй работы. Але, як бачыш, застаюся чалавекам ва ўсім іншым. Мой вышэйшы прынцып!

...Агульныя знаёмыя ведалі, каго чакаюць гаспадары.

Паэт, што каўтаў сліну, гледзячы на пітво і закусь, пад якімі гнуліся сталы, не вытрымаў этыкету:

— Іван Васільевіч, давай каманду. Сямёра аднаго не чакаюць.

— Пазвані гэтаму свяцілу,— параіў былы іх камандзір атрада Ціхан Касач.— Начштаба яшчэ тады любіў, каб яго чакалі.

Касач казаў няпраўду: там, у лесе, Будыка быў самы акуратны. Па-вайсковаму. Аднак, выходзіць, цяпер, каб асудзіць, можна прыпісаць чалавеку любыя якасці, любыя заганы, і аспрэчыць іх, бадай, немагчыма. Так прыпісалі некалі яму, Антанюку, памылкі ў рабоце, якіх ён не рабіў.

Іван Васільевіч не запярэчыў Касачу — каму з гасцей цікава, які некалі быў Будыка? Але менавіта, відаць, праз тое, што не запярэчыў, дробязная гэтая, здавалася б, зусім бяскрыўдная заўвага выклікала шмат іншых асацыяцый і навяла на невясёлыя думкі.

Званіць ён не стаў, бо такі званок мог бы пакрыўдзіць іншых гасцей. Паэт і былы партызанскі камандзір — людзі простыя, без бацылаў гонару. А ў некаторых запрошаных жанчын гонар гэты раздзьмуты да шляхецкіх памераў. Дай, напрыклад, па неасцярожнасці зразумець Клаўдзіі Іванаўне, жонцы калегі па былой рабоце, што нехта з гасцей больш пажаданы, чым яна,— зняславіць на паўгорада. Хоць ён, Антанюк, заўсёды ставіўся абыякава да таго, што пра яго могуць сказаць, аднак бестактоўным ніколі не быў. А тым больш, што і няпраўда, нібы Будыка — самы жаданы госць. Некалі, магчыма, было так, а цяпер усё-такі нешта трэснула. Спазненне Будыкаў злавала. Звычайнае хамства! Ён даўно пачаў бы вясельны баль, каб не Вольга Усцінаўна. Яна хітра брала віну на сябе: маўляў, не ўсё гатова, не паспела, не разлічыла. Гаспадыні ў такі дзень усё даруюць. Калі Іван Васільевіч сказаў жонцы на кухні, што трэба пачынаць, яна адказала:

— Куды я пасля пасаджу іх? Ты ведаеш Мілю! Дурное дзяўчо наша прыцягнула сваіх у тры разы больш, чым меркавалі. Не хапае ні прыбораў, ні месцаў.

Нарэшце Будыкі з'явіліся. Не адны. Валянцін Адамавіч прывёў з сабой... Кляпнёва. Кідаў сябру ў памятны вечар жабу, якую той мусіў праглынуць. А што зробіш! Не выставіш жа гэтага тоўстага нахабніка за дзверы.

Тройца гэтая зрабіла фурор. Валянцін Адамавіч чуць праціснуўся ў дзверы, несучы перад сабой вялікі кошык... руж. Сярод зімы — ружы! Белыя, чырвоныя, жывыя, духмяныя!

Жанчыны ахнулі. Адкуль? Дзе такія выраслі?

Нават барадатыя скептыкі змоўклі і пацягнуліся ў калідор паглядзець на такі цуд.

Лада, зняважліва абыякавая да падарункаў, знямела, разгубілася. Можа толькі перад гэтымі кветкамі яна зразумела ўсю ўрачыстасць і сур'ёзнасць таго, на што так лёгка адважылася, адчула сябе сапраўднай нявестай. Чамусьці прыгадалася вяселле Кіці, словы папа, якіх у школе ніяк не магла зразумець: «Расстоящияся собравый в соединение и союз любве положивый». І ніхто іх не мог растлумачыць як мае быць.

Валянцін Адамавіч працягваў Ладзе кошык. Яна не адразу ўзяла яго. Пасля схапіла, прыціснула да грудзей, уткнулася тварам у ружы. Здалося — вось-вось заплача. Але нехта засмяяўся, нехта сказаў:

— Ружы маюць калючкі.

Лада перадала кошык жаніху. Шчыра, у гарачым парыве абняла Будыку, моцна пацалавала.

— Дзякую вам, Валянцін Адамавіч.

— Ну, віншую, віншую,— і, падняўшы яе пад пашкі, як малую, перадаў жонцы, якая чакала сваёй чаргі.

Мілана цмокнула Ладу ў шчаку і тут жа працягнула маленькі пакуначак.

— Гэта, Ладачка, ад мяне.

— Але ёсць нешта і ад мяне,— прагудзеў Будыка, азіраючыся на Кляпнёва, які трымаў два вялікія пакункі.

Саша перадаў кошык з кветкамі сябру і швагру, Васіль — яшчэ некаму, і лета паплыло над галовамі гасцей да серванта.

Будыка сціснуў руку жаніху.

— Віншую, Саша. І зайздрошчу. Але. Шчаслівы. Маеш скарб. Найвялікшы скарб. Лада — золата.

— Лада — атам,— пажартаваў нехта з маладых.

— Зараджаная часціца,— падхапіў другі.

— Ад даўняга партызанскага сябра твайго цесця — табе асабіста,— працягнуў Будыка адзін пакунак збянтэжанаму Сашу,—

Каб у крымскіх гарах весялей было сумаваць па жонцы. Каб не забываўся на Мінск наш.

Па Будыкавых словах і памерах пакунка моладзь здагадалася.

— «Спідола»! — гукнулі амаль хорам.

— Ух, чорт! — сказаў з захапленнем нізкарослы, як хлапчук, бедна адзеты, непастрыжаны, кудлаты «геніяльны фізік» Віця Дзюба — аднакурснік Ладзін, хлапчына, якога Іван Васільевіч асабліва любіў. Віця часам прыходзіў і проста казаў: «А я сёння галодны. Накарміце».

Фізік гэты, як ніхто іншы, заўсёды быў абыякавы да ўсіх жыццёвых даброт — да адзення, рэчаў. І раптам такое захапленне падарункам!

Іван Васільевіч, які напачатку глядзеў на Будыкава прадстаўленне з гумарам — любіць чалавек паказаць сябе! — раптам чамусьці адчуў сябе зняважаным. Але не злосць апанавала — нейкі балючы смутак сціснуў сэрца.

Мілана пацалавалася з Вольгай, і тая павяла госцю ў спальню распрануць янотавае футра.

Кляпнёў, дачакаўшыся нарэшце сваёй чаргі, прыліп вуснамі да Ладзінай рукі.

Не жадаючы прымаць віншаванні ад Кляпнёва, ды і ад Будыкі таксама, Іван Васільевіч гукнуў:

— Госці! Прашу да сталоў! — і першы пайшоў за стол, на пярэдняе месца да акна.

Паэт сказаў:

— Даўно пара. У горле засмягла.

Камандзір атрада дакараў былога начштаба брыгады:

— Ох, любіш, Валянцін Адамавіч, каб цябе чакалі. Зазнаўся!

Тады Будыка закрычаў праз галовы гасцей, якія ціснуліся за сталы:

— Іван! Прашу прабачыць за спазненне.

Жанчыны, ахоўніцы рытуалу, зашумелі:

— Маладыя — да бацькоў! Прапусціце маладых!

— Маладых — на кажух,— сказаў паэт.

Госці прыціснуліся да серванта, да сцяны, каб прапусціць маладых. Лада ішла ўпэўнена, вясёла ўзбуджаная, Саша — сарамліва, просячы прабачэння ў кожнага, да каго датыкаўся; хлопцу, пэўна, здавалася, што ён самы нязграбны тут; магчыма, адвык ад цывільнага адзення, а таму адчуваў сябе ў Васілёвым ладна скроеным касцюме няёмка.

Але пакуль яны прабраліся на сваё месца, там сядзеў ужо Стасік — пралез пад сталом. Малы паводзіў сябе дзіўна. Ён раптам загарэўся

любоўю да Лады, хоць звычайна ваяваў з ёй з-за тэлевізара,— хацеў сядзець толькі побач з нявестай і... раўнаваў да Сашы; яшчэ ўдзень сказаў яму: «Ідзі, ты — чужы».

Пакуль Мілана недзе ў спальні прычэсвалася, лепшыя месцы пазахоплівалі іншыя госці, і Будыкам мімаволі прыйшлося мясціцца на краі стала. А Кляпнёў усё-такі пралез наперад, уціснуўся між маладзейшых жанчын і ўжо абварожваў — шаптаў на вуха то суседцы справа, то суседцы злева нешта смешнае.

Чалавек энергічны, Іван Васільевіч увесь той дзень быў асабліва актыўны, дзейны, вясёлы. А тут раптам, невядома з якой прычыны, апанавала яго дзіўная абыякавасць. Не хацелася ні піць, ні есці, ні — тым больш — гаварыць. Быццам застолле гэтае шумела ўжо цэлыя суткі і ён, гаспадар, знясіліўся, знямогся. Але першаму нібыта належала гаварыць бацьку. Ён папрасіў наліць і ўзняўся з чаркай у руцэ. За сталом прыціхлі. Нават маладыя ў пакоі праз калідор, калі ўбачылі, што нявесцін бацька падняўся,— зашыкалі адзін на аднаго: хацелі пачуць, што ён скажа. Але нічога не пачулі. Сказаў Іван Васільевіч ціха, стомлена і коратка:

— Што вам пажадаць, дзеці? Як заўсёды ў такіх выпадках — шчасця, ладу. А чаго ж яшчэ? Падзякуем гасцям, што прыйшлі парадавацца разам з намі. І... вып'ем. А што яшчэ? — спытаў быццам разгублена, быццам сапраўды не ведаючы, што яшчэ можна сказаць ці зрабіць, і атрымалася гэта хораша — наіўна і з гумарам. Госці стрымана засмяяліся. Заварушыліся, бліжэйшыя пацягнуліся чокацца.

— Віншуем, Лада!

— Саша! Быў ты матросам — стаў мужам. То будзьма! — сказаў паэт і, здаецца, адзін паспеў перакуліць сваю чарку, бо ўсіх іншых спыніў Будыка.

— Чакай, Іван! Нешта ж вельмі куца ты сказаў. А сказаць трэба так, каб вечар гэты, словы пажаданняў запомніліся маладым на ўсё жыццё. Гэта ж вяселле! Вяселле! Адно слова якое, з якім сэнсам! Успомніце, якое яно было ў нашых бацькоў. Калі сядалі за сталы, паэт наш сказаў: «Маладых — на кажух». Але, маладых садзілі на дзежку, на кажух. І гэта не смешна. Быў глыбокі сэнс. Быў абрад. Складаны, доўгі, разлічаны на розныя эмоцыі — на ўспамін нявесты пра дзявочае жыццё, на смутак ад ростані з роднымі, на жаль хлапецкай вольнасці і на радасць, што прыйшло каханне, што яднаюцца сэрцы, з'яўляецца новая сям'я, а з ёй — новае жыццё. Абрад абуджаў адвечную надзею людзей, што дзеці будуць жыць лепш, чым жылі бацькі...

— Палітграмата,— сказаў паэт, закусваючы.

Жанчыны шыкнулі на яго; мужчыны, якія прагнулі выпіць, зайздросцячы паэтаваму спрыту, ухвалілі ўсмешкамі: давай, маўляў, спыні гэтага самазванага прамоўцу.

Будыка пачырванеў, нервова каўтануў паветра, але не сумеўся — збіць яго было нялёгка; раздражнёнасці сваёй не выдаў,— наадварот, сказаў мякка, жартаўліва:

— Не, дарагі паэт, гэта не палітграмата. Палітграмата — твае вершы.

Засмяяліся многія. Але паэта гэта не збянтэжыла, толькі дало магчымасць пад шумок наліць і, падміргнуўшы гаспадару, перакуліць яшчэ адну чарку. Моладзь у другім пакоі таксама не дачакалася канца Будыкавай прамовы — зазвінела чаркамі, застукала нажамі, загаманіла.

— Мы разбурылі абрад. І страцілі прыгажосць, святасць гэтай незабыўнай падзеі — вяселля. На месцы разбуранага трэба будаваць новае. Ва ўсіх галінах, ва ўсіх сферах, матэрыяльных і духоўных, у нас — новае. Нам трэба новыя абрады! На жаль, маўчаць нашы паэты, этнографы...

— Абрады стварае народ,— адарваўся ад закусі паэт.— І ты, часціна народу, замест нуднай прамовы, прапанаваў бы нешта новае. Эпізод абрада. Глядзі — пайшло б з сённяшняга вяселля.

Словы гэтыя такі збілі Будыку. Прапанаваць ён нічога не мог. Мусіў адбівацца:

— Вас, дармаедаў, колькі там сядзіць, і вы нічога не можаце прапанаваць. А я будую машыны.

— То і будуй на здароўе,— не вытрымаў урэшце Касач.— А мы вып'ем за маладых. Без рэлігіі. Старой. І новай.

Ніхто не зашыкаў на сівога камандзіра. Засмяяліся жанчыны. Хто-ніхто з мужчын кульнуў чаркі: колькі можна чакаць!

Сапсавалі тост Валянціну Адамавічу.

— Лада, за тваё шчасце! За тваё шчасце, Лада! Я насіў цябе на руках і ганаруся табой. Як роднай дачкой. Валагодзец! Уручаем табе скарб. Беражы! Табе выпала шчасце. Чокаюся мысленна, Лада.

Іван Васільевіч чакаў канца сябравага тосту, але слухаў дрэнна — назіраў за Кляпнёвым: як той, аблізваючы губы, з паднятай чаркай глядзеў у рот шэфу. Раней Кляпнёў не выяўляў гэтак адкрыта такой падхалімскай паважлівасці, трымаўся незалежна, часам нават нахабна і дзёрзка. А тут як бы дэманстраваў сваю адданасць, вернасць. Чаму? Можа таму, што адразу адчуў: не «стрэліць» Будыка сваёй прамовай, не здзівіць «тэорыяй абраду» — госці не задаволены яго спазненнем і прагнуць хутчэй дабрацца да таго, што выстаўлена на

сталах. Кляпнёў не дурань, псіхалогію застолля ведае. А яшчэ лепш ведае шэфа, яго самалюбства.

Да гаспадара паволі вярталася яго заўсёдная цікавасць да людзей... Гэтак жа, як верны Эдзік, Мілана натхняла мужа позіркам. Во жонка, якая моліцца на свайго Вальку! Амаль усіх мужоў жонкі шпіляюць на людзях, злосна ці кпліва, Мілана — ніколі. Некалі Антанюк прасіў іх: «Пасварыцеся хоць раз пры мне. Як вы сварыцеся? Не сварыцеся? Ох, і нудна ж вам жывецца».

— Абрады будуць пасля,— сур'ёзна сказаў паэт, калі Будыка ўрэшце выканаў першы абрад — прапусціў асвячоную няўдалым тостам чарку; паэтавых слоў не зразумелі, ды і ніхто не хацеў ужо нічога разумець.

Застолле зашумела.

— Тата, ты з абрадам жаніўся? — смяялася Лада.

— Пасля небагатай вячэры ў бабулі Маланкі я павёў тваю маці на сваю халасцяцкую кватэру. А гэта кіламетраў за сем, цераз лес; восень, цемра, мы збіліся з дарогі і блукалі трохі не да раніцы. Але нам было весела, ноч тая запомнілася на ўсё жыццё.

— Ты бачыш, ва ўсіх была рамантыка. А ты, лесавод, нічога не можаш прыдумаць.

— У нас — прыгожыя вяселлі. Я — за абрады.

— Ісціна канкрэтная, Саша. Якога абраду ты хочаш тут, у горадзе?

— Каб запісвалі не ў тым цесным пакойчыку, дзе нас з табой. А каб у высокай зале. І каб іграў арган...

— О божа! Баха? Моцарта? Рэквіем можа? Каб ты плакаў па сваім халасцяцкім жыцці? І плакалі бабулькі ад замілавання, на цябе гледзячы?

— Лада, не блазнуй. Ты зусім не такая. Не палохай мужа.

— Тата, я дзіця атамнага веку. Я — за фізіку, а не за лірыку. Але, калі хочаце, я буду чытаць Блока. Магу зрабіць вам вечар паэзіі.

— Слова мае Міхась Іванавіч!

— Просім, прафесар!

— Маладыя, увага! Маю тост! Во. Каб было ў вас столькі дзяцей, колькі кропель у гэтай маёй чарцы. Во! Ха-ха.

— А там — тры кроплі.

— Міхась Іванавіч! За такі тост ды столькі піць! Ды то ж абраза для маладых.

— Наліць яму!

— Плюнь ты на сваю пячонку!

— «Ісціна — у віне»,— казалі старажытныя філосафы.

— Яшчэ адзін доктар вылез. Найвялікшыя арыгіналы — гэтыя дактары навук. Дасціпнасць б'е крыніцай! Ажно вушы вянуць. Пі, Саша, за нашых дзяцей.

— Лада, табе належыць быць сёння добрай і ласкавай. Ён — выдатны філосаф.

— Тата! Выдатных філосафаў за гісторыю чалавецтва было два ці тры. Філосаф, які не ведае будовы атама...

— Лада! Да цябе прыслухоўваюцца...

— А віно горкае. Горка! — заверашчала спрытная маладзічка, узрадаваная, што адкрыццём сваім апярэдзіла ўсіх іншых.

— Выцірай губы, жаніх. Пачынаюцца абрады.

Але паднялася саркастычна настроеная нявеста з сарамлівай усмешкай. Маладыя прыстойненька, чуць дакрануўшыся, пацалаваліся.

Ім запляскалі.

— Во, цяпер соладка.

— Еш, Саша. Худзей па метаду дактароў навук. Яны худзеюць па метаду выцяснення. Ведаеш такі метад? Чарку гарэлкі выцясняюць селядцом, селядзец — салатам, салат — адбіўной... І гэтак далей...

— Дзе там Вася?

— Без цябе ён загіне, гаротны. Моліцца на Свету. Ты паспяшаўся з жаніцьбай, любы мой. Там ёсць на каго памаліцца. Бачыў, якія багіні? Света — што з другой планеты зляцела.

Івану Васільевічу хацелася слухаць адну дачку ды яшчэ хіба ўнука. Ён з болем думаў, як сумна зробіцца ў доме, калі Лада паедзе. Не вернецца Васіль. Аддаліліся Мая і зяць. Адна пацеха — унук. Пагладзіў малога па галоўцы; Стасік з незвычайнай, недзіцячай сур'ёзнасцю сядзеў паміж ім і Ладай — побач з Ладай. Спробы маці і бабулі выцягнуць малога з-за стала сустрэлі рашучы пратэст не толькі яго самога, але і Лады, якую, напэўна, расчуліла такая нечаканая пляменнікава любоў.

Івана Васільевіча таксама кранала гэтая боязь дзіцяці, што нехта чужы забярэ Ладу — яго Ладу; Стасік ажно ножкай тупаў, калі мама ўдзень сказала, што цяпер ужо Лада не яго. «Не, мая Лада! Мая!» Іван Васільевіч успомніў пра гэта і адчуў, што вочы напаўняюцца слязьмі. Не хапала яшчэ расплакацца перад гасцямі! Нішто будзе выгляд у былога камбрыга! А можа трэба было не згадзіцца на гэта паспешлівае вяселле? Не, не мог. Аднойчы запярэчыў...

Хлапчына ўвайшоў у зямлянку нясмела. У кажуху. З пугай у руцэ. Павітаўся не па-вайсковаму. Нязграбна, па-старэчы сцягнуў з галавы абсмаленую недзе каля кастра, а можа і ў баі, аўчынную

шапку. Будыка тут жа зрабіў партызану заўвагу — вучыў вайсковай дысцыпліне, асабліва такіх, маладых.

Хлопец зусім разгубіўся.

«Дык я ж па прыватнай справе... да камбрыга».

«Па якой бы справе вы ні звярталіся, звяртацца належыць па форме,— прабіраў начштаба.— З якога атрада? Прозвішча?»

«Мікола... Кірэйчык...»

«Што ў цябе, Мікола?» — спытаў я, шкада стала хлопца.

У яго заняло дыханне, а твар зрабіўся што пераспелы памідор. Ён нацягнуў шапку і... выпаліў «па форме»:

«Таварыш камбрыг, дазвольце жаніцца! Камандзір атрада таварыш Каткоў...»

«Не дазваляе? — Будыка зарагатаў.— Даваяваліся!»

Сапраўды было смешна, але я ўтрымаўся ад смеху. Зразумеў, што перад намі — не шалапут, не сэрцаед нейкі, а хлопец чысты і жаніцьба для яго — справа сур'ёзная. Ён прыехаў да камандзіра брыгады, як да бацькі. Іншыя такога дазволу не пыталіся. І стала мне яшчэ больш шкада бязвусага хлапчыну.

«Сядай, Мікола. Колькі табе год?»

«Дзевятнаццаць...— і хуценька папраўіўся: — Дваццаты ўжо...»

Высветлілі, што да вайны Кірэйчык скончыў дзевяць класаў. Якая адукацыя пад той час! Які кадр для будучага мірнага жыцця! А было гэта зімой сорак чацвёртага. Фронт каля Мазыра стаяў. А мы — у Пінскіх балотах, віселі над нямецкімі тыламі.

Па-бацькоўску адгаворваў я Міколу. Вучыцца табе трэба, хлопча! Вучыцца, а не жаніцца. Перамога вунь відаць, свеціць ужо. Мір наступае. А ты замест таго, каб кінуцца ў навуку, вымушаны будзеш пачынаць з таго, каб звіць гняздо для сям'і. А віць гнёзды нялёгка будзе — усё вакол спустошана, зруйнавана.

Будыка таксама падключыўся — памагаў мне. Пераканалі хлопца. Адгаварылі. Пазней расказаў Надзі — яна нахмурылася.

«Ты чаго?»

«А ў яе вы спыталі? У дзяўчыны? Вы дзве гадзіны з ім гутарылі, а яна ў санях калацілася. І вам, феадалам такім, і ў галаву не прыйшло пагаварыць з ёй. Вам — абы яго пераканаць. Яму — што! А дзе яна знойдзе сваё шчасце? Хто ведае!»

Дзіўна, што пра яе мы не падумалі — пра дзяўчыну. Толькі пра яго.

Ці не пасля гэтага нязначнага эпізоду Надзя пайшла ў вёску, арганізавала школу?

А гады два назад заглянуў да мяне ўжо крыху палыселы, распаўнелы, шыкоўна апрануты мужчына. Не пазнаў я, пакуль ён не нагадаў.

«Прыйшоў,— кажа,— падзякаваць вам, Іван Васільевіч. Помніце, як вы ў партызанах адгаварылі мяне жаніцца? Разумная ў вас галава. Далёка вы глядзелі».

Скончыў Кірэйчык універсітэт, аспірантуру, цяпер — выкладчык інстытута, кандыдат навук. Багаты. Задаволены. Шчаслівы. Парадавацца б за былога партызана. Але ўспомніліся мне Надзіны словы.

«А яна як?»

«Хто?»

«Дзяўчына тая?»

«А-а, Нінка Лагодзіч? Ды не ведаю. Засталася там, на Палессі. Не да яе было. Вучыўся, як апантаны. А пасля сустрэлася другая. Жыццё».

Але, жыццё. Аднак чамусьці знікла ў мяне цікавасць да жыцця гэтага самазадаволенага кандыдата навук, І, наадварот, страшэнна захацелася даведацца, як жа яна, тая Нінка, якую я не пабачыў і не помню. Як склалася яе жыццё? Якое ў яе шчасце?

І цяпер карціць: як жа яна? Трэба ўлетку паехаць пашукаць яе сляды...

— Пра што задумаўся, тата?

— Дзеду, дай віна. Салодкага.

— Іван! Вядзі рэй! А то вучоныя за чубы хутка возьмуцца.

Гудзе застолле. Ідзе паўп'яная бязладная і бясплодная мужчынская дыскусія. А жанчыны трашчаць пра сваё.

— Дагматыкі вы, біёлагі. Запусцілі навуку...

— Не захочаш жыць з нявесткай — пабудуеш кааператыўную.

— Мы запусцілі? У вашу фізіку ніхто не лез з мудрымі парадамі. А ў біялогію кожны лезе...

— Як у мастацтва.

— У яе бацька генерал. Ані капейкі не дае. А ў нас адкуль тыя грошы?

— У музыку яшчэ не так, а вось у кіно... то кожны глядач — цаніцель, вышэйшы за Феліні.

— А хто такі Феліні?

— Я акцёраў не запамінаю. Чорт іх запомніць!

— Мы, фізікі, верым адзін аднаму, падтрымліваем, развіваем... А вы з'ядаеце адзін аднаго. Не па біялагічных законах. Барацьба ўнутры аднаго і таго ж віду.

— Без розных думак навука не зрушыць...

— Не блытай навуковую дыскусію з групаўшчынай.

— Бяда, што яны ігнаравалі біялагічную практыку. У нас, машынабудаўнікоў, немагчыма аддзяліць навуку ад практыкі. Машына павінна працаваць,— гэта Будыка.

— Ды не заўсёды. Вось Ігнат Свірыдавіч — прадстаўнік інстытута, машыны якога — а за іх выдавалі прэміі — валяюцца на калгасных дварах металаломам.

— Няпраўда.

— Яны па сто карцін у год глядзяць, а якая карысць?

— Не тыя карціны — таму і карысць такая.

— Нельга закрэсліваць работу ўсяго інстытута. Няхай адна-дзве машыны не ўдаліся...

— Валянцін Адамавіч, чыстую талерачку.

— Волечка, мілая, не трэба. Пасядзі ты спакойна.

— Таварышы! Да д'ябла вашы вучоныя размовы! Самы традыцыйны, але самы шчыры і сур'ёзны тост! За бацькоў. За Вольгу Усцінаўну. За Івана Васільевіча.

— За вас, мама! — гукнуў жаніх і павярнуўся да цесця.— За вас, Іван Васільевіч.

— За тваіх бацькоў, Саша. Шкада, што яны не здолелі прыехаць.

— Не цісніце на сантыменты, а то разравуся, як цялё. Будзе клопату!

Моладзь пачала скандзіраваць:

— Ма-ла-дых! Ад-дай-це нам маладых!

Але выйсці з-за стала было не так проста.

У дзвярах з'явілася Ладзіна сяброўка, аднакурсніца, настырная дзяўчына, завадатарка ў гульні. Кальнула:

— Дарагія бацькі, дзяды і бабулі! Зрэдку прыслухоўвайцеся да голасу моладзі. А то пачнём бунтаваць! Будзе вам клопату!

Пакрыўдзіла гэта некаторых старых, хоць, напэўна, не столькі іранічная пагроза, колькі зварот «дзяды і бабулі». Сапраўдныя бабулі абурана зашумелі. А моладзь скандзіравала — народ падтрымліваў сваю парламенцёрку. І яна, нахабнае дзяўчо, сцёбала:

— Лада! Табе рана яшчэ ў бабулі. Давай да нас! Сэрцам не старэй!

Лада паглядзела на бацьку, убачыла, што не злуе ён за парушэнне вясельнага парадку, а смяецца — вочы хітра і весела смяюцца, зіркаючы па тварах гасцей. Паднялася, паціснула плячамі. Але як вылезці? Убачыла, што старыя не збіраюцца выпускаць іх. Ды тут дарогу паказаў Стасік: нырнуў пад стол і выскачыў з другога боку. Спыніўся

і пераможна глядзеў на цётку, як бы запрашаючы зрабіць па яго прыкладу.

Лада засмяялася, адсунула крэсла ад стала і раптам скамандавала:

— Саша! За мной! — і палезла пад стол. Калі яна вынырнула ў цесным праходзе паміж сталамі, Будыка і Кляпнёў запляскалі ёй:

— Віва, нявеста! Брава!

— Матрос! Не адставай! — крычала Клава збянтэжанаму жаніху, які не адважваўся вылазіць тым жа шляхам.— Усё жыццё будзеш адставаць.

— Стол не вынесі на сабе! — змрочна папярэдзіў Касач.

— Саша! — дакарала Лада, пырскаючы смехам.

Гудзела «ніжняя палата» (так моладзь назвала свой пакой). Узняліся з-за сталоў, стоўпіліся, каб бачыць усё праз адчыненыя дзверы.

— Падніміцеся, бабулі. Прапусціце маладога, не прымушайце хлопца лезці пад стол. Не ганьбіце.

— Нізашто не палез бы!

— Усталі!

— Не, няхай лезе! Правільна, Лада! Камандуй!

— Саша!

— Палундра!

— Матрос! Пакажы клас!

Глянуў жаніх на цесця, якога трохі баяўся і саромеўся, і ўбачыў яго вочы, не суровыя — вясёлыя, гарэзлівыя. Кіўнуў Іван Васільевіч: давай, не саромейся.

І...

— О-па!

Вокам ніхто з гасцей не маргнуў, як хлопец ускочыў на крэсла і... пераляцеў цераз стол. Бухнуў аб падлогу. Забрынчэлі люстра і шыбы, зазвінелі пляшкі і чаркі. Зараўла ад захаплення «ніжняя палата», сустракаючы маладых. Ды і са старых ніхто не абураўся за такую несур'ёзнасць — усе смяяліся. Усім спадабалася такая спрытнасць.

— Сілён, дэльфін,— сказаў паэт.— Вып'ем за фізкультуру і спорт!

Але выткнулася-такі старэчая незадаволенасць:

— Ім можна скакаць. Цераз сталы. Цераз нашы галовы. Скочыў бы я так на сваім вяселлі. Перад бацькам... Ого!

— Пятро! Выкінь, нарэшце, свой дарэвалюцыйны аршын.

— Моладзь цяпер не тая.

— Ох, абрыдла мне гэтае старэчае бурчанне! — сказаў Будыка.— Вядома, не тая. І добра, што не тая. Не той час. Не тыя ўяўленні. Выдатная моладзь. Штурмуе космас...

Зноў пачалася старая, як свет, спрэчка пра сутнасць усяго нова-га, тая бязладная спрэчка, калі шмат хто не толькі пярэчыць апаненту, але і самому сабе.

А моладзь бухала рогатам і спявала студэнцкую песню:

Наш Саша с детства связан был с землею, Домой таскал и щебень и гранит...

Да Івана Васільевіча, на вызваленае Ладай месца, падсеў былы таварыш па рабоце галоўны ветурач Захар Карнеевіч, чалавек сціплы, сур'ёзны, не балбатун, не пляткар. А тут зашаптаў на вуха:

— Слухай, кажуць, там, угары, была думка: узяць цябе саветнікам ва ўрад. Запыталі нашага шэфа — дык, кажуць, ён супраць выказаўся. Што ён мае да цябе? Баіцца, ці што? Не чуў?

— Не, не чуў. Мяне гэта мала цікавіць, Захар.

— Ды як сказаць! Усе мы людзі.

Чуў, што яму намерваліся прапанаваць гэтую пасаду. Не чуў, што запярэчыў чалавек, з якім працавалі многа гадоў і, здавалася, дружылі. Ва ўсякім разе, разумелі адзін аднаго. Сказаў няпраўду, што мала цікавіць такое пярэчанне. Не магло не ўразіць — хто пярэчыць. Калі праўда гэта — завошта яшчэ адзін стары сябра, недурны, паважаны кіраўнік, захацеў ударыць яго, ляжачага? Тады, калі разбіралі яго персанальную справу, трымаўся даволі прыстойна, нават, здаецца, спрабаваў абараняць.

Апанавала злосць. Не на таго. На сябра-шаптуна. На д'ябла яму спатрэбілася казаць пра гэта тут, за вясельным сталом? Ад бестактоўнасці, ад глупства? Ці можа знарок? Можа за дваццаць гадоў сумеснай працы ён, Антанюк, так і не раскусіў гэтага Захара Карнеевіча, ціхага, далікатнага, таварыскага, заўсёды гатовага падзяліцца з саслужыўцамі апошнім кавалкам? Дзе ж яго далікатнасць, душэўная чуласць? Можа вось такі ціхоня піша ананімкі? Яны добра сябравалі, часта разам ездзілі ў камандзіроўкі, жылі ў адным пакоі ў гасцініцы, і ў парыве душэўнай шчырасці ён, Антанюк, расказваў Захару пра Надзю, ды і пра братоў Казюраў, здаецца, таксама.

Успомніў ананімкі — і зусім сапсаваўся настрой. Якім падлюгам трэба быць, каб нават Марыне, шматпакутнай маці, напісаць такую брыдкую хлусню! Няўжо такі тып можа сядзець сярод гасцей?

Усё адразу зрабілася змрочным. Зноў здалося недарэчным само вяселле. Такое паспешлівае. Колькі Лада ведала гэтага хлопца? Дватры тыдні страчалася там, у гарах. Ды і то наўрад ці кожны дзень. Хіба ў самаволку бегаў? Чаму жаніх не дамогся, каб прыехалі бацькі яго?

Сорамна зрабілася за ўласныя паводзіны. Гэта ж праяўленне бесхарактарнасці — згода на такое вяселле. Як зачараваны. Ды яшчэ, як дурань, высунуўшы язык, тры дні лётаў па магазінах, па рынках, цягаў напіткі, прадукты, траціў апошнія зберажэнні. Каб усё гэта за вечар зжэрлі людзі, якія можа ў душы смяюцца з яго.

Узлаваўся на Ладу: такі розум і такая легкадумнасць! Лаяў Вольгу: няхай бы хоць яна, старая гуска, загагатала, што адлятае апошняе дзіця! Дык не ж! Плакала, пэўна, ад радасці — дачка выходзіць замуж! А куды? За каго? Навошта? Усё недарэчна. Усё. Камедыя нейкая. Фарс. Нявеста лезе пад стол. Жаніх скача цераз стол. Чорт ведае што!

Маладыя зубаскалы таксама пэўна здзекуюцца:

Он жизнь решил закончить холостую
И стал бороться за семейный быт...

Каб перакрычаць іх, разявіла рот старая дурніца. На кожнай вечарынцы вішчыць, як зашчэмленае ў плоце парасё. Жонка селекцыянера-бульбяніка. Выведзеныя ім гатункі не многа далі прыбытку калгасам, але яму далі і кандыдацкую і доктарскую ступень. Між іншым, ходзяць плёткі, што дысертацыі і брашуры за яго піша гэтая віскуха. Калі ў яе хапае часу развучваць усе новыя песні?

Издалека долго
Течет река Волга,
Течет река Волга —
Конца и края нет.

— Падпявай, Іван. Чаму нос павесіў?

«Ненавіджу гэтае п'янае вішчанне. А заяц як стараецца! Ты глядзі. Ніколі, здаецца, не спяваў. Шэфу свайму новаму паказвае спрыт і ўменне. Вачамі есць Будыкаў. Як жа, ашчасліўіў Валянцін Адамавіч — на трыццаць рублёў большую зарплату даў. Начхаць яму цяпер на цесця, які вучыў, карміў, адзяваў, кватэру памог атрымаць... Але чорт з ім, з зяцем! Лада, Лада...— боль працяў сэрца.— Ты была надзеяй і радасцю. Куды ж ты цяпер паляціш? Кім станеш? Жонкай марака? Лесавода? А твая фізіка?»

Агарнуў такі смутак, што хацелася завыць. Быццам хаваў дачку, а не аддаваў замуж. І Вольга невясёлая. Прымасцілася на краі стала, як дальняя сваячка. Больш ён не злаваўся на жонку. Шкадаваў.

«Хадзі, сядзь побач. Я абдыму цябе. І мы разам паплачам, як плакалі бацькі на сялянскіх вяселлях, у даўнія часы. І нікога гэта не здзіўляла».

Среди хлебов спелых,
Среди снегов белых

Течет моя Волга,
А мне семнадцать лет.

Мужчынскі бас перакрыў віскуху:

Гляжу в тебя, Волга,
Седьмой десяток лет.

— Хто-небудзь беларускую песню ведае? — спытаў паэт.

Тут жа пацвердзілі, што ведаюць,— колькі галасоў зацягнула:

Ой, бярозы ды сосны,
партызанскія сёстры..,

— О божа! Каб гэтак мусолілі маю песню, я пакінуў бы пісаць. Ёсць у народа такія песні...

— Ша!

— Увага!

— Спявае паэт!

Хвалілася каліначка за ракой,
Хвалілася каліначка за ракой:
Ніхто мяне не высеча за вадой...

— Не трэба,— ціха папрасіў Іван Васільевіч.

Адразу пачуў і адразу зразумеў паэт. Сціх. Прапанаваў:

— Вып'ем за бацькоўскі смутак.

Падхапілася і пайшла на кухню Вольга Усцінаўна.

«Ідзі, вылі на адзіноце свой смутак».

Нічога толькі не зразумела атлусцелая, заўсёды задаволеная віскуха — загаласіла:

У моря, у синего моря
Со мною ты рядом, со мною.

І нельга яе папрасіць: не трэба.

За спевам, падхопленым яшчэ дзвюма-трыма жанчынамі, Іван Васільевіч не чуў званка, не бачыў, хто адчыніў дзверы, нехта з моладзі. Але раптам убачыў у калідоры... Віталію.

Яна стаяла ў паліто, у белай хустцы, з чамаданам у руцэ і... вінавата ўсміхалася.

— Прапусціце мяне,— сказаў Іван Васільевіч ашаломленым гасцям, якія не адразу ўцямілі, што здарылася, чаму гаспадар так нечакана падхапіўся. Не ўсе адразу нават падняліся. Ён праціснуўся паміж сталамі і крэсламі, наступаючы гасцям на ногі.

— Віта! Добры вечар! — не абняў, не працягнуў руку, а ўзяў чамадан і... разгубіўся, як хлапчук; не ведаў, што рабіць далей, што казаць.— А ў нас — вяселле. Лада выходзіць замуж.

— Я віншую вас,— сказала Віталія скупа, амаль афіцыйна.

Іван Васільевіч убачыў жонку, яна выглянула з кухні і здзіўлена глядзела на незнаёмую.

— Вольга, гэта — Віталія,— разумеў недарэчнасць такога прадстаўлення, бо так і не выбраў часу, не адважыўся расказаць жонцы пра дзяўчыну, якая вось так неспадзявана можа прыехаць.

Вольга Усцінаўна звыклася з тым, што да мужа прыязджалі розныя людзі. Але, убачыўшы, як ён збянтэжыўся, здагадалася, што дзяўчына гэтая не звычайная знаёмая па былой рабоце, не нейкая аграномію ці льнаводка — што мае яна дачыненне да яго партызанскай славы, баявой і некаторай іншай.

Нядобра сціснулася сэрца. Але гаспадыня працягнула госці руку і ветліва запрасіла:

— Распранайцеся, калі ласка. І — за стол. Вася!

— Што, мама?

— Вазьмі Віталію ў сваю кампанію.

Сын з'явіўся ў дзвярах і весела, трохі нават скептычна агледзеў дзяўчыну: адкуль з'явілася такая?

— Гэта наш сын,— узрадавана сказаў Іван Васільевіч.

Моладзь па-ранейшаму шумела, смяялася, нехта іграў на гітары, і ніхто не звяртаў увагі на тое, што адбываецца ў калідоры: ці мала розных гасцей, блізкіх і далёкіх, можа прыехаць ці прыйсці на вяселле!

А тыя, каго гаспадар так нечакана ўзняў з месцаў, з цікавасцю зазіралі ў калідор: хто яна, што стрыманы Антанюк так кінуўся сустракаць?

Іван Васільевіч убачыў, як зацікаўлена пазіраюць некаторыя, успомніў, хто там, сярод гасцей, і ўзбуджана паклікаў:

— Валя! Начштаба! Гэта ж Віта! Наша Віта!

Будыка ўміг апынуўся каля дзяўчыны.

— Віта? Няўжо Віта? Наша партызанская дачка? Божа мой! Якая ты вырасла! Помніш, як мы цябе насілі на руках? Не, не помніш. Дай падніму цяпер.

Абняў. Пацалаваў у шчаку, у лоб. Жартаўліва паспрабаваў падняць. Крычаў на ўсю кватэру:

— Таварышы! Гэта ж наша партызанская дачка! Не, вы гляньце, якая вырасла! Вось дык сюрпрыз! Малайчына Іван, што запрасіў! Міля! Эдуард! Знаёмцеся!

Тады і моладзь нрыціхла, зацікавілася, пацягнулася ў калідор. А Кляпнёў ужо завіхаўся ля Віталіі — першы здагадаўся памагчы дзяўчыне распрануць паліто.

Выскачыла Лада. Хоць не было на ёй ніякага традыцыйнага вясельнага ўбрання, Віталія чамусьці здагадалася, што гэта яна.

— Вы — нявеста?— і ступіла да яе; вельмі можа быць, што хацела абняць сястру, але Лада халаднавата-насцярожана працягнула руку.

— Я — нявеста.

— Віншую, Лада,— сказала Віталія і засмяялася, пачала расказваць: — А я падышла — шум, гам. Во, думаю, трапіла няпрошаная, нязваная. Пастаяла перад дзвярмі і — уніз.

— Святое дзіця! Адкуль ты? — як даўно знаёмай, казаў Кляпнёў.— Даўно не страчаў такой цнатлівасці!

— Адкуль? З лесу. Вам жа кажуць — партызанская дачка. Але куды мне пайсці ў вялікім горадзе? Тупала, тупала ў двары, замерзла, мароз жа добры... і зноў пад дзверы. Усё роўна ўжо: прыехала — трэба заходзіць. Але, думаеце, так лёгка націснуць тую маленькую кнопачку, калі за дзвярамі такая гамана? Дзядзька нейкі памог. Спускаўся зверху. «Мацней,— кажа,— звaніце, а то яны так разгуляліся, што нічога не чуюць». Тут ужо хочаш — не хочаш, а націскай.

Такім шчырым прызнаннем яна адразу заваявала сімпатыю гасцей. І Васілёву. Адна Лада нахмурылася: ёй пачулася задача з многімі невядомымі.

Будыка здзівіўся:

«Выходзіць, пра вяселле яна не ведала? З якой жа нагоды прыехала?»

Усе невядомыя ў задачы, той, што рашала Лада, яму былі вядомыя, ва ўсякім разе, ён так лічыў. Не хапала толькі адказу. Аднак Валянцін Адамавіч зусім не збіраўся ламаць галаву нават над самым элементарным ураўненнем, бо даўно прывык усё атрымліваць у гатовым выглядзе. І тут таксама быў упэўнены, што ўсё адкрыецца само сабой.

Вольга Усцінаўна падумала з болем, са смуткам:

«Іван паводзіць сябе, як хлапчук. Сорамна. Трэба сказаць. Нельга так».

Але адчувала, што на шчырае абурэнне не хапае злосці, а іграць запозненую рэўнасць і ўсё іншае — недарэчна, не да твару ёй — не тыя гады. Ад такой сваёй слабасці зрабілася яшчэ больш сумна і балюча.

Распрануўшыся, Віталія, можа не без хітрасці — каб хутчэй зблізіцца, папрасіла Ладу паказаць, дзе можна прычасацца, памыць рукі — «прычапурыцца». Лада павяла яе ў ванны пакойчык.

Мужчыны выходзілі на лесвіцу пакурыць, Кляпнёў і хто-ніхто з жанчын памагалі Вользе Усцінаўне аднавіць парадак на стале.

— Ці то шляхта балявала, ці свінні пасвіліся,— паказваў сваю дасціпнасць Кляпнёў.

— Вы цынік, Эдуард,— сказала яму Мілана Феліксаўна, расстаўляючы чыстыя талеркі; яна заўжды памагала, лічачы сябе самай блізкай Вользінай сяброўкай, але ніколі не збірала, не адносіла і тым больш не мыла брудныя талеркі — грэбавала.

— Усе мы — цынікі,— глыбакадумна заключыў Кляпнёў.

Вольга Усцінаўна пасля такіх яго слоў раптам моцна ўзлавалася на гэтага тоўстага круцяля, які падхалімнічае, прыслужвае і ў той жа час, відаць, усіх ненавідзіць. Захацелася, каб калі-небудзь выкрылася, што Кляпнёў — любоўнік Міланы. Няхай бы з'еў самазадаволены Будыка!

Але тут жа засаромелася злосці сваёй і нядобразычлівасці. З-за чаго ёй захацелася няшчасця людзям?

Будыка збіраў вакол сябе слухачоў; яму яўна хацелася першаму і найбольш эфектна расказаць пра Віталію, пра яе маці. Іван Васільевіч не спускаў з яго вока. Аднак адцягваць папярэджанне нельга было: сп'янелы начштаба мог прарвацца ў любы момант.

— Валянцін, можна цябе на два словы?

Яны зайшлі ў спальню, дзе моцна пахла футрамі і духамі.

— Якую сенсацыю ты мне падрыхтаваў?

— Маленькае папярэджанне. Віталія дагэтуль не ведае, хто яе бацька. Ніколі не чула пра Сваяцкага.

— Ды што ты! Ай ды Надзя! Такая воля! Аднак для дарослай дачкі трэба нейкая легенда. Якая?

— Яе бацька — я.

— Ты? Я такі здагадаўся, што будзе сенсацыя. Што ж, можна зразумець. Але ці падумала яна...

— Не. У Надзі была легенда пра партызана, які загінуў. Я сам сказаў Віце гэта. Нядаўна. Яна прыехала паглядзець на сваіх сясцёр.

— Пазнаю Няхлюдава нашага часу. Замольваеш грахі?

— Не трэба, Валя, пра мае грахі.

— Ох, Іван. Ускладняеш ты сабе жыццё. У Надзі была самая разумная легенда. Яна мудрая жанчына.

— Хто-хто, а ты ведаеш: я ніколі не шкадую, калі што зрабіў...

— Усё-такі гэта талстоўства нейкае. Столькі праблем узваліць на сябе! Навошта?

— Я павінен сказаць сваім. Але не сказаў пакуль што...

— Іван! — Будыка прачула сціснуў сябраву руку.— Разумею. Можаш не папярэджваць. Сябрава тайна для мяне што дзяржаўная.

— Тайнай застанецца адно — пра Сваяцкага.

— Любіш ты рамантычныя гісторыі. Слухай. А дзед не помніць?

— Да яго, здаецца, не дайшло, хто такая Віталія. Калі ён да нас далучыўся! Тады ўжо быў сямейны лагер — колькі жанчын, дзяцей! Партызанскіх дачок і сыноў.

— Усё, Іван. Магіла. Але здзіўлены. Прызнаюся. Хоць і ведаю, што здзіўляць ты ўмееш. Пайшлі. І моўчкі вып'ем за Надзю. Хто ведае: каб не ты, мог бы не выстаяць я. Перад такой жанчынай! Усе мы чалавекі. Як яна? Пастарэла?

— Ды ўжо ж не памаладзела. Дачка вунь якая!

— Але, няўмольны час,— цяжка ўздыхнуў Будыка.

Калі яны выйшлі са спальні, Вольга Усцінаўна сказала ім дакорліва, але нязлосна:

— Змоўшчыкі старыя.

Яны не забыліся моўчкі выпіць за Надзю. Магчыма, Вольга здагадалася, за каго яны п'юць, бо іранічна спытала:

— Можна з вамі?

Тут жа далучылася Мілана.

— Я таксама хачу з вамі выпіць.

Не зусім тактоўна атрымалася ў адносінах да другіх гасцей. Але ніхто пра гэта не падумаў. Налілі, што трапіла пад руку, стоячы каля чыстага і менш, чым упачатку, загрувашчанага посудам стала.

— За што? — мабыць, не без хітрасці спытала Вольга.

— За іх. За нашых мужоў,— сказала Мілана.

— За нашу маладосць,— прапанаваў Іван Васільевіч.

Будыка ўздыхнуў.

— За вашу маладосць,— згадзілася Вольга.

— За нашу,— паправіла Мілана.

Кожны надаваў тосту свой сэнс.

XII

Працяг вечара быў зусім не падобны на першае яго аддзяленне. Разышліся госці паважныя, якія ўмеюць падоўгу сядзець за сталамі, піць, есці, зрэдку галасіць старыя песні. Уладу захапіла «ніжняя палата». Моладзь выкінула сталы на пляцоўку і пачала сваё вяселле. Яно захапіла і старых — тых, хто застаўся.

Магчыма, пад той настрой, які апанаваў напачатку, Івану Васільевічу шмат што з модных танцаў і песень і не падабалася б: нават вялікія вальнадумцы ў такім узросце робяцца маралістамі. Але дзіўна

змяніўся яго настрой, раптоўна, у няўлоўны момант. З якой прычыны? Засмуціла нечаканае замужжа Лады і ўзрадаваў прыезд Віталіі! Але ж прыезд яе дасць нямала клопату — столькі праблем узваліць на сябе, як кажа Будыка. Ужо насцярожыліся Вольга, Лада, нават флегматычная Мая, хоць старэйшая дачка, бадай, не задаволена толькі адным: з-за лішняй госці ёй не будзе дзе спаць, і трэба цягнуцца па марозе дадому, у мікрараён.

Элегантная пара — Ладзіны сябры-фізікі — танцавалі твіст. Выкручваліся, звіваліся, як без касцей, аплывалі да долу, траха не лажыліся на паркет, і зноў павольна, мякка, нібы на нябачаных спружынах, узнімаліся. Незвычайна, але, бадай, прыгожа. Ім пляскалі.

Пад тую ж чужую музыку магнітафона Іван Васільевіч прайшоўся ўпрысядку, выбіваючы такты далонямі па паркеце. А мы ўмелі вось так! Дзе больш спрыту? А пасля парадзіраваў модны танец. Даволі ўмела. Моладзь не смяялася — заахвочвала крыкамі. Адной жонцы не падабалася. Вольга спыніла:

— Бацька, не блазнуй. Не з тваім сэрцам.

Кляпнёў, гэткі прагрэсіст, заўсёды за моладзь, развважаў уголас:

— Праз два гады ўсе бабулі будуць твіставаць. Гэта — як вузкія штаны. Ці даўно дружыннікі хапалі за іх?

— Даўно.

— А вы паспрабуйце. Вы! — Лада цягнула тоўстага абаронцу моды за руку, але ён упіраўся, бо танцаваць не ўмеў і не любіў выстаўляць сябе ў смешным выглядзе, асабліва перад жанчынамі.

Быў у Лады запіс для каханага — матроскі танец, энергічны, як усё на флоце, з галёканнем і прысвістамі. Яна сама ўключыла гэтую стужку і сама папрасіла ласкава:

— Саша! — хацела паказаць, што муж яе, які праз усё вяселле быў на дзіва маўклівы і непрыкметны, не такі ўжо ціхоня і недарэка.

Саша не ламаўся. Толькі пастаяў трохі, як бы выбіраючы найлепшы момант. І — кінуўся ў круг, як у мора з высокай палубы. Крутнуўся на адной назе і пачаў так выбіваць, што, напэўна, звінелі люстры і посуд ва ўсім доме на семдзесят кватэр.

Але і флоцкі танец упрыгожвае дзяўчына. Саша затрымаўся перад адной, другой — прасіў. Выйшла Віталія. Пайшла лёгка, проста, сарваўшы з шыі касыначку, памахваючы ёй. Нягледзячы на заліхвацкі, шалёны рытм танца, рухі яе былі на дзіва плаўныя, амаль павольныя. А Саша круціўся вакол яе з касмічнай хуткасцю. Але яна клікала другога, адзінага чалавека ў флоцкай форме — Васіля: для танца не хапала формы. Лада выпхнула брата. Саша сышоў з круга.

Васіль танцаваў горш за сябра — спакойна, можа нават крыху ляніва. Але ў яго была форма. А галоўнае — была пара: ён і яна. А таму з'явілася тая гармонія, той рытм душэўны, які заўсёды вышэй за самае высокае ўменне.

З таго часу, як Віталія, прычасаўшыся, крышачку падфарбаваўшыся, замест бурак абуўшы чаравікі, села за стол, Іван Васільевіч убачыў, як, не ў прыклад сёстрам, Васіль пацягнуўся да дзяўчыны. А яна да яго. Толькі па-рознаму. Віталія — да брата: яна ведала тое, чаго не ведаў ён. Спачатку Івана Васільевіча ўзрадавала такое хуткае іх збліжэнне, такі душэўны кантакт. А праз нейкі час спалохала. Страх ударыў нечакана, як прыступ болю. Захаладала ўсярэдку, потым да поту стала горача. Не адной ёй, Віталіі, а многім блізкім людзям мусіць ён сказаць... няпраўду. Не, гэта амаль праўда! Гэта будзе праўдай! Але як яе сустрэнуць Вольга, дзеці? Безумоўна, па-рознаму. Але цяпер яго, па сутнасці, хваляваў толькі сын, больш ніхто. Як паставіцца Васіль? Расчаравала трохі Лада, яе такая халодная насцярожанасць да Віталіі — большая, чым у маці. Можа Вольга проста лепш умее схаваць свае пачуцці? Ва ўсякім разе, Лада ніколі раней, да вяселля свайго ці да прыезду жаніха, не была такая. Неяк яна ўмела хораша ўзняцца над бытам, над старымі, як свет, чалавечымі страсцямі ў касмічныя сферы навукі, і гэта ўзвышала і яе самую і тых, хто быў блізка да яе, — яго, напрыклад. А цяпер яна як звычайная жанчына. А можа ўся мудрасць жыцця менавіта ў гэтым вяртанні назад, да звычайных страсцей, на зямлю?

Загучаў вальс:
— Вальс устарел,—
Говорит кое-кто, смеясь,—
Век усмотрел в нем отсталость
И старость.

Разабраліся на пары. Будыка апярэдзіў усіх — падхапіў Віталію. Яны кружыліся сярод моладзі. Валянцін Адамавіч нешта шаптаў дзяўчыне. Віталія весела смяялася. Раўніва чырванела Мілана, стоячы з гаспадыняй у дзвярах.

Кляпнёў не без злоснага намеру распальваў страсці — уголас захапляўся шэфам:

— Во каму зайздрошчу. Больш нікому. Ні маладому, ні генію. Не, вы паглядзіце, якая пастава! Якая грацыя! Маладыя перад ім што глісты...

Іван Васільевіч не зводзіў з гэтай пары вачэй, не прыкмячаючы, што, у сваю чаргу, за ім сочыць жонка; ён баяўся, што ап'янелы, узбуджаны Валянцін можа ляпнуць што-небудзь лішняе. Не вытрымаў.

Галантна спыніў іх, папрасіў прабачэння і забраў у сябра яго партнёрку.

Кляпнёў абурыўся:

— Куды лезе! Пігмей...

Вольга Усцінаўна пакрыўдзілася за мужа, але змаўчала.

Як знарок, Васіль пабольшыў гучнасць, і музыка заглушала ўсе словы, смех. Віталія не смяялася пры ім, пры бацьку, зрабілася сур'ёзная, задумлівая.

— Табе падабаецца? — спытаў Іван Васільевіч.

— Я шчаслівая... — але праз момант растлумачыла: — Я шчаслівая, што трапіла на вяселле... Усё так проста... адразу знаёмства з усімі... і я ўжо — як свая... і больш мне нічога не трэба. Толькі пабачыць усіх, пазнаёміцца. Які ў мяне брат! Цуд!

— Як мама?

— О, мама ёсць мама! Яна так не хацела, каб я ехала. Так не хацела. Не разумею — чаму? Чым яна так напалохана, што жыве пад такім страхам?

— Твая маці — мужная жанчына.

— Відаць, мужнасць партызанская і мужнасць... звычайная... жыццёвая ці мацярынская, не ведаю, як сказаць, — розныя рэчы. Шмат хто з вас стаў іншы, чым быў тады.

— Твая маці не стала іншая.

— Вы рэдка бачыце яе.

Завальсіраваў Васіль, адзін, схіліўся перад імі ў нізкім паклоне. І Віталія адразу перакінула рукі з плячэй бацькі на плечы Васіля.

Задаволена рыкнуў Кляпнёў:

— Правільна! У адстаўку старых!

Іван Васільевіч пачуў гэта, але ніколькі не пакрыўдзіўся на Кляпнёва. Было весела, і ўсё прымалася — любыя жарты, любыя словы.

Пасля Васіль амаль увесь час танцаваў з Віталіяй. Ён не таіў свайго заляцання. Нахіляўся да дзяўчыны, шаптаў на вуха, закахана ўдыхаў пах яе валасоў і часам прыстойна і далікатна датыкаўся вуснамі да пасмачак на скронях. Віталія, ап'янелая ад віна, ад радасці, смяялася, магчыма, гучней, чым трэба. Смяяліся ўсе, і на яе ніхто не звяртаў увагі. Акрамя Лады. Іван Васільевіч бачыў, якія позіркі кідала на госцю дачка-нявеста, і гэта адзінае, што трывожыла і засмучала крыху. Няўжо і Лада можа расчараваць? Як Мая. Як зяць. Як Валянцін. Але, і Валянцін, хоць ён тут, вясёлы, задаволены, не прапускае ніводнага танца. Як некаторыя іншыя старыя сябры. За апошнія гады было замнога расчараванняў. Бадай, хопіць. Радаваў сын — вярнуўся назад, у яго бацькоўскае сэрца, такім, пра якога ён

марыў. Радавала Лада. І павінна радаваць па-ранейшаму! Трэба змагацца за гэтую радасць! Валагодскі хлопец, што зваліўся як з неба, не павінен — не мае права! — так прызямліць яе, каб яна пазбавіла бацьку шчасця назіраць яе ўзлёт, бачыць, як гэтая родная чарнявая галоўка пранікае ў недасяжныя для многіх глыбіні будовы сусвету.

Віцька Дзюба таксама кахаў Ладу. Цяпер перажывае. Яшчэ больш ускудлачаны і пакамечаны, хадзіў ён з двума бакаламі віна і ўсіх запрашаў выпіць з ім. Але фізік быў п'яны, таму ніхто яго не падтрымліваў. Хлопцам ён казаў:

— Чорт з табой! Ты бяздарны тып.

Гэта абразіла такога ж сп'янелага і засмучанага Фелікса Будыку, і яны траха не счапіліся. Дзюба заліў кандыдату партвейнам новенькі касцюм.

Кляпнёў сказаў Дзюбу:

— Падонак!

— Сам ты падонак, — агрызнуўся студэнт на тоўстага апекуна.

Івану Васільевічу раптам захацелася, каб маленькі Дзюба зрабіў вялікі дэбош — пляснуў Кляпнёву па фізіяноміі. Але ўмяшалася Лада:

— Віця, ты ганьбіш фізікаў.

— Пардон, мадам, — сказаў Дзюба і асушыў нявыпіты бакал. — Я п'ю за ваша шчасце, мадам.

Мілана пайшла замываць сынаў касцюм.

Васілю хацелася танцаваць. З Віталіяй.

У другім пакоі за пустымі сталамі сядзелі паэт і камандзір і вялі бясконцую спрэчку пра партызанскую стратэгію і тактыку.

Пакрыўджаны фізік пайшоў да іх. Паскардзіўся:

— Я не ўмею танцаваць.

— А што ты ўмееш, патлаты? — нядобразычліва спытаў паэт, незадаволены, што перапынілі яго разважанні пра рэйд генерала Сабурава.

— Я ўмею расшчапіць атам.

— Праўда? — шчыра здзівіўся паэт. — У такім разе давай вып'ем. Сядай.

Праз пяць мінут партызанскі гісторык ператварыўся ў вялікага вучонага-атамшчыка. Стары камандзір атрымаў адстаўку і, пазяхаючы, пайшоў глядзець танцы.

Фізік і лірык крычалі, даказваючы адзін аднаму сутнасць сусвету і антысусвету.

Кватэра ператварылася ў начлежны лагер. Гаспадарам прыйшлося размяшчацца ў пакоі, дзе балявалі, на нешырокай канапе. У

куце за сталамі, на падлозе, на Антанюковых паляўнічым плашчы і ватоўцы, смачна храплі паэт і фізік.

Іван Васільевіч лёг першы. Вольга Усцінаўна прыйшла, села на край канапы, распусціла валасы, прыбіраючы іх на ноч.

— Як я змарылася, — сказала яна.

— Дзіва што! Нават у мяне гудзіць усё цела.

— У танцах ты не адставаў ад маладых.

— А ў чым калі я адставаў?

Яна стрымана ўздыхнула. Памаўчалі. Іван Васільевіч разумеў, што абавязаны першы расказаць усю праўду, што эгаістычна і жорстка гэтак выпрабоўваць жончына цярпенне. Але страшэнна карцела пачуць, як Вольга сама спытае пра Віталію.

— Іван, я рэдка распытвала пра тваю партызанскую славу.

— Не трэба іроніі, Вольга.

— Маё шчасце, што я магу з іроніяй. Цяпер гэта лёгка. А каб ты ведаў, чаго каштавала мне гэта іронія тады... Ты думаў, што я нічога не ведала...

— Я не думаў. Табе расказала Мілана. Каб выставіць сваю святасць, Будыка не мог не выдаць грэшнага сябра.

— Я даравала ўсё. У імя сям'і. Але дагэтуль хаваць, што ў цябе дачка...

Ён імкліва падняўся за яе спіной, зашаптаў у патыліцу :

— Вольга, усё больш складана, чым ты думаеш. Віталія — дачка Сваяцкага. Помніш? Я расказваў, як маці яе прыйшла да нас, яе прывёз Павел, як яна нарадзіла... з якімі пакутамі... траха не загінула і сама і дзіця. Пра ўсё іншае табе расказала Мілана. Віта вырасла ў атрадзе... Партызанская дачка. Але ў Надзі... у маці яе... так і не хапіла, мужнасці... дагэтуль не хапіла... сказаць, хто ж яе бацька. Сваяцкі расстраляны па прыгавору суда. Не буду апраўдвацца. Дзе я вінаваты — я вінаваты. Але можаш паверыць — я не бачыў іх многа гадоў. А тут, калі ехаў ад Васіля, мяне пацягнула праведаць. Вольга, ты не скажаш, што калі-небудзь я быў пашляком. І гэта была не пошлая сувязь, як іншыя на вайне. Не. Мы штодня глядзелі смерці ў вочы. Я ВЫратаваў яе і дзіця... Яна выратоўвала мяне... Не аднойчы.

Вольга маўчала, павольна заплятаючы валасы ў касу. Не, нічога не заплятала, проста рукі застылі на патыліцы, рукамі лавіла гарачае мужава дыханне ці загароджвалася ад яго.

— І я ўдзячны ёй. Але, удзячны. Ты можаш думаць, што хочаш. Але бываюць парывы, калі хочацца пабачыць чалавека, друга. Прыехала Марына Казюра. Хоць завошта ёй быць удзячнай? Яна маг-

ла праклінаць мяне за сыноў. Аднак жа прыехала... Захацелася ёй пабачыць камандзіра.

— Іван, я ні ў чым цябе не папракаю.

— Не, я ўсе гады адчуваў твой нямы папрок.

— О, даўно ўжо ад яго нічога не засталося!

— Мне не лягчэй ад тваёй абыякавасці. Быццам я не мужчына ўжо. Не муж...

— О божа. Ты п'яны, Іван. І ў цябе неспакойна на сэрцы.

— Ніколі ў мяне не было спакойна на сэрцы. Ты павінна зразумець. Мне хацелася ўбачыць яе. Можа апошні раз. Не думай благога, калі ласка.

— Я не думаю. Я веру табе.

— Прыехаў — там Віталія. Я ведаў яе малую. А тут — дарослы чалавек. І яна спытала: хто мой бацька? І я сказаў. А што яшчэ я мог сказаць? Што сказала б ты?

— Не ведаю. Ты быў звязаны змовай маўчання. Але каб я была яе маці, то сказала б праўду. Даўно.

— О! Ты думаеш — гэта лёгка?

— Нялёгка. Але прасцей. Навошта заблытваць вузел, які і так заблытаны. Калі-небудзь яго ўсё роўна прыйдзецца секчы. А гэта будзе балюча. Усім вам. І яшчэ можа каму...

— Урэшце, хто мае права назвацца яе бацькам? Ён? Гад той? Каб і застаўся жывы? Звяруга, які забіваў дзяцей? Не! Я выратаваў яе пры нараджэнні. Я насіў на руках. Два гады. Больш. У такіх умовах! Па лесе. Па балотах.

— Я разумею, Іван. Гэта трэба Надзі. Так ёй лягчэй.

— Не думай пра яе дрэнна! — на поўны голас сказаў Антанюк.

— Цішэй! Не ўсе спяць, — папярэдзіла Вольга Усцінаўна. Паднялася і выключыла святло. Але гарэў ліхтар на вуліцы, трохі наўскось ад акна, і, перакошанае, як на абстракцыянісцкай карціне, акно адбівалася на бакавой сцяне, на серванце.

Жонка пастаяла каля дзвярэй, як бы раздумваючы, што рабіць. Іван Васільевіч падумаў, што яна не вернецца, пойдзе туліцца дзе-небудзь, магчыма — на кухню, загрувашчаную брудным посудам, можа будзе плакаць там.

Не, Вольга вярнулася і адразу лягла на край канапы, не скінуўшы халат, ад якога пахла кухняй. Цяпер ён сядзеў над ёй, угледаючыся ў паўзмроку ў твар.

— Я ніколі не думала пра яе дрэнна, Іван. Як ні дзіўна. Я шкадавала яе. За ўсё, урэшце, нясем кару мы, жонкі і маці. За вашу здраду і за ваш гераізм. Мяне толькі абражала, што пачула праўду ад

Мшаны, а не ад цябе. Ты расказаў паўпраўду, чвэрць праўды. Ты паводзіў сябе як баязлівец, праслаўлены камандзір.

— Зноў прашу: без іроніі, Вольга. Я думаў, што захоўваю твой спакой. Табе не так лёгка жылося, як здавалася некаторым.

— Я ніколі не скардзілася на свой лёс. У мяне — дзеці.

Трохі пакрыўдзіў такі мацярынскі эгаізм: у яе дзеці, а ў яго, выходзіць, няма іх.

— Я таксама думаў пра дзяцей. Заўсёды. Пра ўсіх. Не пра адных сваіх.

— Не трэба такіх маштабаў, Іван. Будзем думаць пра сваіх дзяцей. Хто яшчэ пра іх паклапоціцца? Што ты думаеш рабіць?

— Як што?

— Ну, з дачкой сваёй.

— Яна самастойны чалавек. Настаўніца. Ёй нічога не трэба.

— Я не пра тое. Пра яе становішча ў нашай сям'і.

— Раніцой я абвяшчу Васілю, Ладзе, што яна — іх сястра.

Жонка схапіла яго за рукі, як бы жадаючы ўтрымаць ад неабдуманага ўчынку, зашаптала гэтак жа горача, як шаптаў ён хвіліну назад:

— Не рабі гэтага, Іван! Навошта? Ёй сапраўды нічога не трэба. Не дванаццаць гадоў. Нават не семнаццаць. У такім ужо ўзросце ўсё адно — ёсць бацька ці няма яго... А як паставяцца да гэтага нашы дзеці? Васіль? Лада? Лада! Добры вясельны падарунак ты ёй паднясеш. А Саша? Што падумае ён? Мы ж зусім не ведаем яго. Што ён за чалавек? Не многа радасці прынесла гэтае вяселле. Ашаламіла яно мяне. Сапраўды нейкае касмічнае. Колькі начэй я не спала! Ты не ведаеш гэтага. Ты спакойна спаў...

«Не, я не спакойны», — хацеў запярэчыць, але не запярэчыў — не пасмеў перапыняць.

— А цяпер падносіш такі сюрпрыз. Запрасіў на вяселле...

— Я не запрашаў. Яна прыехала сама. Але я рады, што яна прыехала і што ёй весела ў нас.

Вольга Усцінаўна нібы задыхнулася. Па нервовым трымценні рук, па выразе твару, які вырысоўваўся ў паўзмроку на фоне белай падушкі, па губах, якія варушыліся, здавалася, што яна па-ранейшаму ўзбуджана гаворыць, але доўга, можа цэлую мінуту, ніводнага слова ён не пачуў, як на кінаэкране, калі знікае гук. Іван Васільевіч адчуў, як яна хвалюецца. Потым зашаптала зусім: інакш — з маленнем:

— Іван, я не маю сілы сварыцца з табой. І не хачу. Позна. Позна ўжо. Але я прашу цябе... малю: нічога не кажы цяпер. Можа калі пасля... І яе папрасі. Я маю права на тое, каб ты выканаў гэтую

просьбу. Я заслужыла, Іван. Сваім цярпеннем. Сваім болем. О, мне сапраўды жылося нялёгка. Але хіба я паскардзілася каму? Ні табе. Нікому. Абяцай мне, Іван! Абяцай, што ты будзеш маўчаць.

Вольга сціскала яго рукі і цягнула да сябе. Здалося, хоча пацалаваць іх, і ён адняў свае рукі.

Жонка амаль крыкнула ў роспачы:

— Абяцай, Іван. Я ніколі не прасіла гэтак.

Іван Васільевіч маўчаў. Спачатку ўзлаваўся, не

разумеючы, што так палохае яе, чаму гэтак істэрычна просіць. Пасля ўспомніў свой смутак за сталом, перад прыходам Віталіі, — і зразумеў жонку. І тут жа зноў адчуў сябе слабым, знясіленым, адчуў, што траціць самае каштоўнае — цвёрдасць, рашучасць, што вось такія ўступкі разбураюць яго, антанюкоўскі, характар, аслабляюць волю. Зноў агарнулі смутак і абыякавасць. Да ўсяго.

— Добра. Я буду маўчаць, — сказаў і ўпаў на падушку; загадаў, каб спыніць размову: — Спаць!

Адвярнуўся тварам да сцяны. У знак удзячнасці Вольга Усцінаўна ціха пагладзіла яго плячо.

Цэлы дзень Віталія і Васіль блукалі па горадзе. Віталія, па-ранейшаму радасна-ўзбуджаная, многа смяялася, як дзяўчынка, часам нават без прычыны, асабліва ўвечары, калі ў вузкім сямейным коле працягвалі вяселле. Без танцаў, за сталом, але з добрымі жартамі разышоўся малады муж: імітаваў галасы сваіх камандзіраў і смяшыў усіх.

Івану Васільевічу было не вельмі весела. Але ён стараўся падтрымаць моладзь. А Вольга весялілася, бадай, шчыра. Моладзь вызваліла яе на той вечар ад усіх кухонных і хатніх клопатаў. Усё гатавалі і падавалі на стол Лада і Віталія, хоць у адносінах іх Іван Васільевіч усё яшчэ лавіў насцярожанасць, халадок. Здзіўляла любіміца яго, Лада, якую, здавалася, да прыезду жаніха мала што цікавіла, акрамя фізікі. І раптам такая чыста жаночая практычнасць!

Але ўвогуле вечар прайшоў добра. Са спазненнем з'явіліся Генадзь і Мая — ім пазванілі, калі разгуляліся. Зяць пачаў пераймаць звычкі і нават голас свайго шэфа. Але Івана Васільевіча гэта не раздражняла: добрая прыкмета! — а толькі забаўляла. Ён сказаў:

— Оля, чуеш? Не, ты прыслухайся да Генадзя. У яго Будыкаў голас.

Зяць пажартаваў, можа першы раз дасціпна:

— Ого, каб мне набыць голас Валянціна Адамавіча!

— З тваімі здольнасцямі гэта няцяжка. Ты далёка пойдзеш.

Вольга Усцінаўна сцялася: зяць мог пакрыўдзіцца і сапсаваць абедню. Не, на шчасце, іронія да яго не дайшла. Адказаў:

— А што вы думалі? Не багі гаршкі лепяць.

А ўвогуле здалося, што Генадзь паразумнеў. І Антанюк ужо амаль гатовы быў даравац яму пераход з завода да Будыкі. Чорт яго ведае, можа інстытут, дзе нямала разумных, інтэлігентных людзей, будзе ўплываць на яго найлепшым чынам і зруйнуе сялянска-прыватніцкую псіхалогію, такую недарэчную для інжынера, гараджаніна.

Але думкі пра Генадзя — між іншым. Галоўная ўвага — Віталія. Стараўся нічым не выдаваць гэтае свае ўвагі — ні словамі, ні дзеяннем. Але ўсё адно лавіў раўнівыя Вользіны позіркі. Яны трохі бянтэжылі, бунтавалі думкі. Узяў жончыну руку, паціснуў, сказаў без слоў: «Не сачы за мной, калі ласка. Я стрымаю сваё слова. А каб я надумаў сказаць, то ты ўсё адно не здолела б стрымаць мяне».

Вольга, здаецца, зразумела і пераключылася на малодшага зяця: трэба да канца высветліць, што ён за чалавек. Часу мала, праз тыдзень хлопцы паедуць у часць.

Івана Васільевіча ў той вечар радавала Віталіна весялосць. Але ў наступную ноч дзяўчыну быццам падмянілі. Снедала яна панурая. Пэўна, ад бяссонніцы пад вачамі ляглі цені. Ад Васілёвай прапановы пайсці ў мастацкі музей адмовілася. А калі з дому пайшлі Саша і Лада, нечакана абвясціла:

— Паеду дадому.

Васіля гэта проста ашаламіла.

— Чаму так раптам?

— Я ж на рабоце. Мяне адпусцілі на тры дні.

«Чаму так нечакана?» — не спытаў, як сын, але пакутліва думаў Антанюк. Сказала нешта Вольга? Не. Не падобна. Не магла яна нічога сказаць. Ды і калі? Жонка пайшла ў бібліятэку, калі Віталія яшчэ спала. Усе яшчэ спалі. Снедалі без Вольгі. Што здарылася?

Віталія абула буркі, надзела просты касцюм, у якім, пэўна, хадзіла ў школу, укладвала ў чамадан чаравікі, плацце, якое брала для тэатра.

Васіль стаяў побач, разгублена, як малы, прасіў:

— Ну пачакай хоць маму. І Ладу не пачакаеш? І Сашу? Як можна так, Віта?

— Яны не пакрыўдзяцца на мяне.

— Дзіўная ты нейкая. Не развітаўшыся? Віта! Прашу: застанься да вечара. Ты ж не казала, што табе абавязкова трэба паехаць сёння. Яшчэ ўвечары маўчала. Што здарылася за ноч?

— Мяне чакаюць дзеці.

Івана Васільевіча кранула гэтая сцэнка — як закаханы, просіць сын, і якая няўмольна-жорсткая, нечакана і невядома з якой пры-

чыны, зрабілася гэтая дзяўчына. Ён паспрабаваў памагчы Васілю ўгаварыць яе:

— Няма ж поезда цяпер.

— Не, ёсць! На Брэст. Я паеду на Брэст. Мне так нават зручней. Я прыеду на нашу станцыю, калі развіднее і можна будзе ісці.

— Я хацеў перадаць маці які-небудзь падарунак.

— Навошта?

— Ну, няёмка так. Ты была ў гасцях...

— Ёй нічога не трэба! Я нічога не вазьму!

Пра падарунак сказала амаль са злосцю — як ударыла. Іван Васільевіч баязліва адступіў: лепш не чапаць чалавека, калі ў яго пагана на душы. Але з-за чаго?

Нават Васіль безнадзейна ўздыхнуў.

Віталія на міг памякчэла — правяла даланёй па Васілёвай шчацэ, якраз так, як маці яе дакраналася да яго, Антанюковай, шчакі ў апошнюю сустрэчу, і ўжо не па-жаночаму, па-мацярынску, гэтак і яна, Віталія: не як дзяўчына прыласкала і суцешыла хлопца — як сястра.

— Не трэба, Вася. Ты — добры. Я рада, што пазнаёмілася з табой. Я шчаслівая... — Паглядзела на Івана Васільевіча. Дзіўна паглядзела. Не то з дакорам, асуджэннем, не то шкадуючы яго — ён так і не зразумеў. Толькі адчуў не проста смутак — боль, амаль роспач. На душы стала вельмі пагана. Здавалася, зрабіў нешта брыдкае, нізкае. А што? Нічога ж такога. Але не мог пагаварыць з ёй адзін на адзін, не мог растлумачыць... А што тлумачыць? Яна ж казала там, у вёсцы, што зусім не трэба выкрываць іх тайны; яна прыедзе, каб паглядзець на сваіх сясцёр... Убачыць брата не спадзявалася. Ёй пашанцавала.

Захацелася правесці яе да поезда і па дарозе сказаць нешта, што — не ведаў, але адчуваў, што абавязаны сказаць нешта такое, што магло б неяк прасвятліць яе такі ад'езд, іх адносіны, супакоіць боль, як і свой. А з-за чаго ўсё-ткі ёй забалела? Урэшце, няцяжка здагадацца — з-за чаго. Не так мала прычын. І ўсё ўскладнялася. Яшчэ гэта Васілёва захапленне. Яно больш чым што магло ўзрушыць дзяўчыну і спалохаць.

Але праводзіць пойдзе ён, Васіль.

Яны ўжо апрануліся.

Віта падышла развітацца. Моцна, па-мужчынску сціснула руку. Іван Васільевіч затрымаў яе руку.

— Перадавай маме прывет. І ўсё. Шчасця ёй. Скажы: я глыбока ўдзячны ёй. І табе. Дзякуй, што прыехала.

— Вам дзякуй. Скажыце Вользе Усцінаўне, што я дзякую ёй за гасціннасць. А ты, Вася, пацалуй Ладу за мяне. Я жадаю ёй шчасця. Каб Саша хутчэй вярнуўся. І ты... Прыязджайце да нас тады. У нас — хораша. Асабліва ўлетку. Рэчка, праўда, у нас мелкая. Але Прыпяць недалёка...

Яна сказала гэта, звяртаючыся ўжо да Васіля, але пранікліва глядзела ў вочы бацьку і не адымала рукі. Позірк яе не быў мяккі, ласкавы, вочы не затуманьваліся, як туманяцца яны ў жанчын у хвіліны развітання. Не, яна глядзела жорстка, бадай-што асуджаючы.

Ён не вытрымаў, сказаў:

— Не крыўдуй на мяне, Віта. Я стары чалавек. І... не партызан ужо...

Тады яна рэзка адняла руку.

— Чаго мне крыўдаваць? — І амаль весела працягнула: — Што вы-ы, Іван Васільевіч, бацька наш партызанскі! Бывайце здаровы. Напішу — адкажыце.

Віта. Абавязкова. Скажы маці: я

кланяюся ёй.

Вольга, вярнуўшыся з работы і даведаўшыся, што госця паехала, сказала:

— Яна разумная.

«Эгаістка! Дзеля ўласнага спакою і спакою дзяцей ты гатова выгнаць чалавека з дому! Найдабрэйшая з жанчын!» — траха не закрычаў Іван Васільевіч. Але разумеў, што зрывацца нельга, што ад гневу стане яшчэ горш яму ж.

Расчаравала і Лада. Яна, як і маці, бадай узрадавалася ад'езду Віталіі. Уласна, ёй такі эгаізм можна дараваць: не многа дзён засталося пабыць з мужам, кватэра не надта прасторная, кожны лішні чалавек замінае, а на дварэ — зіма, дзявацца больш няма куды. Але Лада вытлумачыла ад'езд госці незразумелымі намёкамі:

— Яна спалохалася Васіля. Ён жа ўтрэскаўся па самыя вушы. Гатовы быў тут жа прасіць яе рукі. А ёй нельга выходзіць замуж.

— Чаму нельга?

— Мала чаму. Можа ў яе там, у сяле, жаніх ёсць, — яўна хітравала дачка. Што яна ведае? Пра што здагадваецца? Яна ж заўсёды была з ім, бацькам, шчырая. Лада адыходзіць ад яго — і гэта яшчэ адзін боль.

Узрадаваў Васіль сваёй шчырасцю і непасрэднасцю амаль дзіцячай. Але і спалохаў. Правёўшы Віталію, ён цэлы дзень не вяртаўся дадому, блукаў недзе адзін, з'явіўся толькі ўвечары. Усёй сям'ёй селі

піць чай. І сын пры бацьку, пры маці не пасароме́ўся расказаць сябру:

— Правёў я Віту, і, ведаеш, Саша, што захацелася? Хутчэй скінуць бушлат. Паехаў бы я куды-небудзь туды, на Палессе. І стаў бы шафёрам у саўгасе...

— І ажаніўся б я з Вітай, — насмешліва працягнула Лада.

— А што? І ажаніўся б. Ты ж выйшла замуж за старшага матроса.

— А мора? — спытаў Іван Васільевіч.

— Мора застанецца морам.

— Саша мне расказваў пра тваю мару.

— Мары — што мора: фарбы яго мяняюцца многа разоў на дні. Ад воблакаў і сонца, — засмяяўся Саша.

— Калі вы так лёгка мяняеце свае мары, — нахмурылася маці, — мала толку будзе.

— Мы іх не мяняем, Вольга Усцінаўна,— сказаў зяць. — Яны самі. Пад уплывам абставін. Жывём сярод людзей.

— У сапраўднага чалавека павінна быць цвёрдая мэта,— увасобілася ў суровага педагога добрая маці і цешча. — Гэта філасофія бязволля. Чалавек павінен умець кіраваць сваімі ўчынкамі, настроем, сваімі пачуццямі. І марамі...

— Якая ты рацыянальная стала, — мякка, без іроніі, хіба толькі з адценнем здзіўлення, сказаў Іван Васільевіч.

Але жонка чамусьці ўзлавалася.

— Я заўсёды такая была. Ва ўсякім разе, не паддавалася першаму пачуццю, першаму парыву. А ваша пакаленне... Убачыліся адзін раз — гатовы ісці ў загс.

— Мама! — здзівілася Лада. — Ты, здаецца, дакараеш нас? Позна, мамачка! Трэба было рабіць гэта да вяселля.

Саша збянтэжыўся, пачырванеў.

— Я не пра вас, — спахапілася Вольга Усцінаўна. — Але нельга так, як твой брат. Убачыў дзяўчыну — і гатовы забыцца на ўсё: на службу, на вучобу. Шафёрам гатовы пайсці.

— А табе, мама, хочацца, каб я стаў акадэмікам? Не менш? Вось чаго не абяцаю. Аддаю гэта Ладзе, яна — геній,— Васіль пачынаў злавацца.

Івану Васільевічу не хацелася, каб за такім сталом, у такі час псавалі адзін аднаму настрой. Вольга, пры ўсёй яе разважлівасці, часам можа завесці зусім не на тую ноту.

— Ты сама прыехала да мяне ў Ціміразеўку, — нагадаў Іван Васільевіч.

— Ага, мама! — засмяялася Лада.— Выходзіць, не такімі ўжо святымі былі і вы!

— Параўнаў! — асекла мужа Вольга Усцінаўна. — Мы два гады дружылі, пісалі пісьмы. І прыехала я не за тым, каб выйсці замуж. Год чакала пасля, пакуль ты скончыш вучобу.

— Чакала! — пацвердзіў бацька задумліва — пэўна, успомніў нешта іншае.

— Час — разуменне адноснае. У каханні ёсць іншыя велічыні. Сіла кахання. Што яшчэ, хлопчыкі? Падказвайце — і мы выведзем матэматычную формулу, якую ніхто не абвергне, — Лада блазнавала, ёй не хацелася сур'ёзнай размовы — баялася, што маці залішне заглыбіць, і Саша не ўсё правільна зразумее, можа абразіцца.— Не забудзем папраўкі на тэмп жыцця. У касмічны век, мама, жыццё не можа ісці з хуткасцю таго трактара, які вывеў некалі наш бацька ў поле.

Але Вольга Усцінаўна не здавалася; нічым яе ў той вечар нельга было ўлагодзіць — ні жартамі, ні напамінкамі пра яе ўласную маладосць.

— Хутка згарыце, калі будзеце ляцець, як на ракеце, — сурова папярэдзіла яна ў адказ на Ладзін жарт.

Здзіўляла гэтая суровасць жанчыны, якая заўсёды была занадта добрая для дзяцей. Але Іван Васільевіч разумеў яе душэўны стан, хоць і не мог дакладна растлумачыць прычыну, бо, пэўна ж, не адна, а спалучэнне многіх прычын збунтавала яе спакой. Ён ашчаджаў жонку і памог Ладзе адвесці размову ў бяспечнае рэчышча. Ён быў добры ў той вечар. Ні злосці на каго-небудзь, ні раздражнёнасці, ні строгасці, наадварот, не ў прыклад Вользе, — замілаванне да дзяцей і любоў.

Але адно не праходзіла — адчуванне віны. Перад Віталіяй. Дзіўна. Урэшце, нічога ж асаблівага не здарылася. Мала чаго дзяўчына магла паехаць так раптоўна. Прычын многа розных. Няхай ён змаладушнічаў, паддаўся жончынаму страху. Але невядома яшчэ, як Віталія прыняла б раскрыццё іх тайны. Ці хацела яна гэтага? Можа нават абурылася б? А Васіль? Сапраўды, невядома, як паставіўся б да ўсяго гэтага сын.

У такіх жанчын, як Вольга, акрамя мацярынскага эгаізму, ёсць яшчэ інтуіцыя і мудрасць. Рэдка здаралася, што выходзіла кепска тады, калі ён слухаўся жонкі.

Але ўсе гэтыя развагі мала суцяшалі. Ды і не само адчуванне віны смактала сэрца. Яно — што той каменьчык, з якога пачынаецца абвал. Расло, як снежны ком, як пухліна, іншае — страх, што ён, адарваны ад вялікіх спраў, траціць характар, робіцца бязвольны і непатрэбны нават дзецям — не аўтарытэт для іх. Такія прыступы

здараліся на пачатку вымушанага пенсіянерства. Але тады ён рабіўся злосны і дзейны. Ішоў дасварвацца з тымі, з кім не дасварыўся. Цяпер ні з кім сварыцца не хацелася. Цяпер ён добры, лагодны. І гэтая лагоднасць не падабалася, палохала.

Была яшчэ адна бяссонная ноч.

«Мне званіў Антанюк, каб не заворвалі ніводнага гектара».

«І я згодзен з Антанюком. Мы сячэм не сук — падсякаем карэнні».

«Іван Васільевіч, што ты робіш? Ты адзін — супраць усіх».

«Як бачыце — не адзін. Прыслухайцеся да голасу тых, хто росціць хлеб на полі, а не ў кабінетах».

«Гэта дэмагогія. Я мушу афіцыйна дакладваць у ЦК».

«Рыгор Фаміч, гэта даўно зрабілі без вас. Дакладчыкаў заўсёды хапае».

«Я паважаю вашу прынцыповасць. Але чаму я павінен верыць вам і не верыць буйнейшым вучоным, з якімі раіліся і якія падтрымліваюць усе палажэнні гэтай ідэі? Ёсць разлікі...»

«У мяне таксама разлікі».

«Я чытаў вашу запіску. Там многа цікавага. Але ж...»

Вось так — але ж... Ты — разумны чалавек. У цябе хапіла мужнасці нядаўна самакрытычна прызнаць: «Часам мы дапускалі валявыя рашэнні». Часам... Тыя ж, хто быў палымяным абаронцам таго «новага», і цяпер наперадзе. Іх разумныя памочнікі выпісваюць палажэнні з маёй запіскі і ўстаўляюць у даклады. Усё правільна! Усё пастаўлена на сваё месца! І я маўчу! Я магу радавацца: перамог.

«Пайду пагляджу хоць у яго вочы. Не прыняць ён мяне не можа. Проста цікава пабачыць, як ён будзе глядзець цяпер. Якімі вачамі».

«Не трэба, Іван. Я ведаю твой характар. Пасварышся. А каму гэта патрэбна?»

Ты мудрая, Вольга. Каму патрэбна, што я пасваруся з дурнем і кар'ерыстам?

Каму патрэбна, што я прызнаю Віту?.. Ты — добрая, ты не пілуеш, не дакараеш... Ты спіш... А мне трэба зноў глытаць снатворнае. Тварыць сон. Сон! І сніць жыццё.

Павел, ты хацеў бы, каб яна была тваёй дачкой? Так было б прасцей. Для ўсіх. Для яе. Для Надзі. Для Вольгі і нашых дзяцей.

Прызнаюся: я думаў пра гэта. Але не мог без тваёй згоды. І Надзя, бачыш, не магла. Назвала Шугановіча. Такога ж чыстага, як ты. Можа адчувала, што ён таксама кахаў. Гэтак жа, як ты. Моўчкі, сарамліва, па-юнацку. Я абакраў вас. Цябе — жывога. Яго — і жывога і мёртвага. Але ж ён ніводным позіркам не выдаў свайго кахання. А

каб і выдаў, то было ўжо позна. Гэтак жа, як спазніліся тваё абурэнне і тваё прызнанне. Я быў аслеплены. Чым? Уладай? Адказнасцю, якую ўзваліў на сябе? Горам? Болем за пакуты людзей? Я быў старэйшы за вас. За цябе. За Васю. Я камандаваў вамі. І такімі, як Краўчанка. Дзядамі. Я ўмеў павесці людзей у бой. Але чагосьці я не ўмеў. Чаго? Лічыў, што ў галоўным — у вернасці народу, партыі — у мяне хапае моцы, перакананасці, а чалавечыя слабасці — іх спіша вайна. Хіба адзін я жыў па такой формуле? Не ведаю — як каму, а мне вайна нічога не спісала.

Раней, маладзейшы, у рабоце, у мітусні, я часам забываўся на тваё асуджэнне, Павел. Але яно вісіць нада мной. І мне цяжка. Даруй мне, брат. Я ўпэўнены: жывы ты дараваў бы. О, як мне хочацца пагутарыць з табой! Зараз. У гэтую бяссонную ноч. Цяпер модна паказваць у кіно, як забітыя на вайне бацькі прыходзяць да ўзмужнелых дзяцей. Я яшчэ не дажыўся, не дапіўся да такой містыкі. Не жадаю, каб ты прыходзіў такі, які паехаў з лагера. Такі ты нічога не зразумееш. А каб пажыў, то, напэўна, зразумеў бы і дараваў. Але ўсё роўна Віта ніколі не змагла б стаць тваёй дачкой! Навошта ж я пытаюся, ці хочаш ты, каб яна была тваёй дачкой? Яна — мая дачка!

«Табе ні разу не даручылі правяраць установы сельскай гаспадаркі? Ха-ха! А я думаў — ты сам баішся. Ажно цябе адціскаюць. Блізка не падпускаюць да той галіны, дзе ты лічыўся спецыялістам. Вось табе і кантроль! Ідэаліст ты, Іван. Увесь твой кантроль накіроўваецца тымі, чыю работу ты павінен праверыць у першую чаргу. Але ты прагнуў дзейнасці — і табе падсунулі мой інстытут. На, правярай. І ты ўзрадаваўся: пакажу сябе. І ловіш блох. Няўжо ты не бачыш, што некаму хочацца сутыкнуць нас ілбамі? Некаму гэта выгадна».

Валя... Валянцін Адамавіч... Ты быў ідэалістам тады, калі мы глядзелі смерці ў твар. А зрабіўся цынікам. Што цябе зрабіла такім? У цябе ж усё ішло як па масле. Дасягнуў такіх вышынь! Не без дапамогі ж людзей ты ўзнімаўся. А цяпер табе мрояцца адны інтрыгі. А я, біты і цёрты, не веру ў такое хітрасплячэнне інтрыг. А ў высокі сэнс усяе нашай работы веру. І ў кантроль. І ў крытыку. У выхаванне і перавыхаванне нават такіх пасівелых зуброў, як мы з табой.

Але праўда — чаму мне ні разу не даручылі праверыць сельгасустановы? Напэўна ж, там я разабраўся б лепш, чым у машынабудаванні. Адціскаюць? Нехта баіцца, што ўбачу і скажу пасля больш, чым трэба? Але ж ніхто не можа заціснуць мне рот. І ніхто не спісвае мяне. канчаткова. Успомнілі ж, запрасілі, прапанавалі... Але загаварыў гонар. А хто яго не мае, гонару? Ды мой гонар не падобны на твой, Валянцін. Я нічога не выгадваю для сябе. Заўтра я пайду да

тых, да каго ў мяне захавалася павага, і скажу: «Дайце работу. Любую». Не, я напішу... «Дарагі Пётр Фёдаравіч! Не хачу выстаўляць сябе ні героем, ні пакутнікам. Не буду гаварыць пра мінулае. Час паказаў, чыя праўда... Не абяцаю, што ў будучым не папсую некаму нервы. Але прашу даць магчымасць прыкласці мае веды агранома і вопыт арганізатара да здзяйснення тых задач, якія выпрацоўвае партыя і якія — веру — памогуць хутка ўзняць сельскагаспадарчую вытворчасць».

Не, «хутка» — не тое слова. Хутка на зямлі нічога не вырастае. Ужо спрабавалі паскорыць вырошчванне хлеба і мяса — атрымалася тое, што цяпер назвалі валюнтарызмам. Не так проста стаць рэалістам. У палітыцы. У эканоміцы. У жыцці. Людзі, якія пражылі па шэсць-сем дзесяткаў, як дзеці выдумляюць і свае жаданні, і мары, і шляхі здзяйснення іх, і магчымыя вынікі сваёй працы. Лада сцвярджае, што кібернетычныя машыны не пакінуць месца для валявых рашэнняў. Любое такое рашэнне праверыцца матэматычна. Якое? Пра пасевы кукурузы? Пра нарыхтоўку мяса? Дарагі мой фізік, а якая машына зробіць разлік, за каго і калі табе выйсці замуж? Якая машына вырашыць, што лепш — сказаць Віце праўду, што яе бацька — здраднік і дзетазабойца Сваяцкі? Ці падтрымаць святую ману пра партызана? Што лепш — абвясціць усім вам, што Віта мая дачка, ці... Уключы свае машыны, Лада!

Ох, так не будзе канца да самай раніцы. Трэба выпіць снатворнага. Ды моцныя сродкі Вольга хавае, лічыць, што яны разбураюць нервы. Яна беражэ мае нервы. Знайсці магу, за два гады вывучыў усе яе схованкі. Ды ў кожным пакоі спяць дзеці. Не трэба іх будзіць. Няхай спяць. Некалі ў іх таксама будзе бяссонніца.

Пасля снатворнага амаль ніколі нічога не сніш. А мне хочацца, Павел, каб ты прыйшоў у сне. Хоць адзін раз. Я не містык. Але я хачу адчуць тваю жывую руку, убачыць жывы позірк тваіх вачэй. Няўжо мы так далёка адзін ад аднаго, што нават сасніць я цябе не магу?

А вось яна прыходзіць. Надзя. У сне. І так... асабліва калі я хварэю. Праўда, цяпер я занемагаю рэдка, загартаваўся, ніякая трасца не бярэ. Кажуць, на вайне людзей абмінаюць звычайныя мірныя хваробы. У мяне — наадварот. Там, у лесе, толькі запаленне лёгкіх разы два ці тры валіла з ног. Уласна кажучы, з маёй хваробы ўсё і пачалося.

У сакавіку ўжо, здаецца... Але, у сакавіку, бо, помню, сонца прыпякала, снег асеў, раніцой ехалі па шарпаку... Жуміга, ляснік, падказаў: добра было б на Жураўліным праз «гнілыя жылы», праз якія ў самае спякотнае лета не прабрацца, перакінуць кладкі, умацаваць

іх і правехаваць патаемныя сцежкі, каб адны партызаны ведалі, як выйсці да тых перапраў. Пакуль трымае лёд, можна падвезці бярвенне. Балота гэтае было самым надзейным абаронным рубяжом — прыкрывала лагер з тылу. Але магло стаць і пасткай. Стары ляснік аказаўся большым тактыкам, чым мы з табой, інжынер Будыка. Пасля, у жніўні, калі баявыя ўзводы рабілі рэйд за Дняпром, кладкі тыя ўратавалі людзей. Кладкі. І браты Казюры. Яны затрымалі карнікаў, пакуль па тых кладках вывелі дзяцей, раненых.

Павезлі бярвенне. На адной з дальніх гнілін конь, каля якога я ішоў, праваліўся. Я кінуўся з сякерай, каб адсекчы гужы. Спалохаўшыся, конь ірвануў і падмяў мяне пад сябе. З галавой акунуўся ў ледзяную ржавую ваду. Ледзь выхапілі партызаны свайго камандзіра. Пакуль давезлі да лагера — абледзянеў, хоць прыгравала ўжо сонца. Увечары — тэмпература сорак. Нават фельчар наш адразу паставіў дыягназ: крупознае запаленне. Дні тры паліла так, што трызніў. Пасля хутка пачаў ачуньваць. На нервах цягнуў. Наступала вясна — няма калі залежвацца, трэба рыхтавацца да новых аперацый.

Пакуль яна, Надзя, хварэла, я часам заходзіў у жаночую зямлянку — пaглядзець на яе, на дзіцятка — як гадуецца. І кожны раз пасля такога наведвання рабілася страшнавата, і я думаў: куды іх дзяваць?

А калі Надзя ачуняла, непрыкметна ўключылася ў жыццё лагера і Рошчыха хваліла яе — «якая работніца!» — страх мой знік, стала яна, як усе іншыя, партызанкай. І сустракаліся мы рэдка: на пастраенне жанчын не выклікалі, загадваць ёй непасрэдна не было чаго — Рошчыха загадвала. Даглядалі яны раненых ды хворых, мылі, шылі, латалі. Работы ў лагеры хапала. Ды яшчэ калі дзіця на руках.

Аднойчы я зайшоў у іх зямлянку па нейкай патрэбе, ці можа проста захацелася паглядзець на дзіця ў хвіліны смутку. У горача натопленай зямлянцы Надзя была адна, гушкала малую. Спалохалася, убачыўшы мяне.

«Як вам тут жывецца?»

«Дзякуй, Іван Васільевіч».

«Як ваша Віталія?»

«Дзякуй, Іван Васільевіч».

«Што гэта вы — «дзякуй ды дзякуй?» Навошта мне так дзякаваць?»

«Ратавалі вы нас...»

«Не дзякуйце больш за гэта».

Няёмка стала мне. І непрыемна. Крыўдна за такую яе рабскую прыніжанасць. Хапіла мужнасці кінуць мужа-здрадніка, дом і за тыдзень да родаў паехаць у лес. На што спадзявалася? На нашу чала-

вечнасць? Дык трымай і далей сябе гэтак жа — мужна, дзёрзка, з гонарам, жаночым, мацярынскім. Не згінайся ні перад кім! Так, помню, я падумаў.

Размова ў нас не атрымалася тады.

Хворага мяне даглядала Рошчыха. І моцна-такі абрыдла сваім старэчым бурчаннем. І раптам аднойчы вечарам прыйшла Надзя — паставіць банькі. Фельчара камісар паслаў у Загонне — там хварэлі дзеці, разгаралася эпідэмія адзёру ці шкарлятыны, не помню. Фельчар даручыў ёй паставіць банькі.

Адразу ўразіла, як смела яна са мной павіталася, загаварыла, — перад хворым усе смялеюць. І ўмела, як прафесійны медык, рабіла сваю справу.

«Лажыцеся ніц. Так. Падушачку пад грудзі, мякчэй будзе ляжаць. — Падняла сарочку, пашкадавала: — Ой, ды ў вас жывога месца няма ад банак. Любіць наш Ісак Львовіч банькі».

Самагонам працірала спіну. І гэты дотык мяккіх жаночых рук усхваляваў. Замёр я, сціх і... разгубіўся, як некалі яна перада мной, не ведаў, пра што гаварыць.

Хутаючы мяне кажухом, яна ціхенька правяла рукой па валасах, прыгладзіла іх, ускудлачаныя на патыліцы. Гэта было ўжо занадта. Жаночая ласка зусім расслабіла камандзірскую волю. Застаўся мужчына, якому да душэўнага трапятання хацелася гэтай ласкі.

У зямлянцы свяціла добрая лямпа: Будыка прыладзіў яе ў мяне над галавой, каб я мог пачытаць, застаючыся адзін.

Надзя села на табурэцік воддаль, каля століка. Я прыўзняў галаву, каб бачыць яе. Яна не збянтэжылася ад гэтага майго разглядання (пэўна ж, да хворага жанчына ставіцца, як да дзіцяці), але звыклым рухам паправіла спадніцу на каленях. Такі звычайны інстынктыўны жэст, які можна назіраць многа разоў на дні, знаходзячыся сярод жанчын. Але тады і жэст гэты ўсхваляваў. І збянтэжыў, як хлапчука. Цяпер помню тое адчуванне.

Ачуняўшы ад пасляродавай гарачкі, за два месяцы яна папаўнела, паружавела. Здалася мне вельмі прыгожай. Я здзівіўся, што раней не прыкмячаў яе прыгажосці. Пэўна ж, з такога адкрыцця і здзіўлення нараджаецца каханне. Я апусціў галаву на падушку і спытаў зноў пра дачку:

«Як ваша Віталія?»

Надзя больш не сказала: «Дзякуй, Іван Васільевіч», — а пачала ахвотна, як кожная маладая маці, расказваць пра дачку: што яна ўжо смяецца і многіх пазнае — Рошчыху, фельчара, Шугановіча, любіць, калі Ісак Львовіч выносіць яе з зямлянкі, сосны здзіўлена разглядае. І

яшчэ многа ўсялякіх драбніц. Але я дрэнна слухаў. Раптам апаліла думка, што фельчар ці яшчэ нехта не толькі будзе гушкаць дзіця, але можа прыгарнуць, прыгрэць і маці. Семдзесят мужчын навокал! І я абурыўся супроць такой магчымасці. Мяне сапраўды нібы апаліла. Што гэта? Імгненная любоў і рэўнасць? Ці гонар? Які? Мужчынскі? Камандзірскі?

«Правадыру племені — лепшы конь і лепшая жанчына».

Не, ніколі я не быў такім «правадыром племені». Я мог пагарачыцца, мог наламаць дроў, але ніколі не пераступаў чалавечых законаў. Але мог быць гонар — і мужчынскі, і камандзірскі. Аднак, безумоўна, з'явілася ў той жа міг нешта такое, што мацней за волю, за розум.

Калі Надзя зняла банькі і я павярнуўся на спіну, яна схілілася паправіць падушку. Я ўзяў яе рукі і прыціснуў да сваіх гарачых шчок.

Яна сказала:

«Не трэба, Іван Васільевіч»,— але рук не адняла.

Я пацалаваў загрубелыя ад працы пальцы. Тады яна ўспыхнула, разгубілася, вусны скрывіліся, вочы наліліся слязамі. Я адпусціў яе рукі. Надзя хутка пайшла. Пасля прызналася, што да таго ніхто не цалаваў ёй рукі.

Я правёў бяссонную ноч. Але і Вася Шугановіч не спаў, хроп адзін Будыка. Вася спытаў:

«Не спіцца, Іван Васільевіч?»

«Удзень выспаўся. Больш за тыдзень адлежваюся. А ты чаму не спіш?»

«Паміраюць у Загонні дзеці, Іван Васільевіч. Што рабіць?»

Хлопчык мой дарагі, за ўсё ў цябе балела сэрца: за сосны і за дзяцей. За песні. І за мой настрой.

Раніцой Надзя прынесла снеданне ў камандзірскую зямлянку. Да таго заўсёды прыносіла Рошчыха. Пасля — абед. І вячэру. Будыку гэта спадабалася: яго, кадравага афіцэра, абурала, што Рошчыха бурчыць на нас, як сварлівая цешча, і лае, як хлапчукоў. А Надзя такая ветлівая, далікатная! Прыемней есці кашу, раскладзеную ў міскі яе рукамі. Вася Шугановіч, наадварот, чамусьці хмурыўся. Адчувалася, што Надзя баіцца камісара. Ці саромеецца. Вася такі мяккі быў, чулы, уважлівы, інтэлігентны, аднак усе яго саромеліся — і маладыя і старыя.

На трэці дзень Надзя прынесла абед, калі я зноў застаўся адзін: Шугановіч выбраўся ў прапагандысцкі паход па вёсках — перад сяўбой пагаварыць з сялянамі пра нашу, партызанскую вясну. Будыка кіраваў будаўніцтвам патаемных складаў.

Я пачаў уставаць ужо. Сядзеў каля прыёмніка і лавіў Маскву, каб паслухаць апошнюю зводку з франтоў. Мы мусілі эканоміць батарэі, і прыёмнік наш чуць шаптаў. Каб нешта пачуць, трэба было бадай прыкладаць вуха да дынаміка. Я запрасіў Надзю паслухаць. Мы сядзелі галава да галавы, трохі не датыкаючыся адно да аднаго, і я больш услухоўваўся не ў перадачу, а ў яе дыханне, п'янеючы ад водару валасоў, якія пахлі дзіцем і хвояй. Вельмі хацелася абняць жанчыну. Але стрымаўся.

Магчыма, сама яна адчувала небяспеку ў такім акружэнні мужчын і таму шукала абароны ў таго з іх, хто меў большую сілу. Цягнулася да старэйшага. Дзе ты, Павел, быў у той час? У разведцы? Так, ты некалькі дзён не з'яўляўся ў лагеры. Але прайшлі месяцы. Тры месяцы! І за той час у цябе не хапіла смеласці сказаць Надзі і ўсім, што ты даўно кахаеш яе, яшчэ з інстытута? Табе яна паверыла, з табой паехала ў лес, у такім стане, пасярод зімы.

Ты мог быць бліжэй да яе, чым хто іншы. Якія мы былі ідэалісты ўсе. Нават я. Нават суровая Рошчыха. Здаецца, у той дзень Рошчыха сказала:

«Нешта Надзя зачасціла да вас у зямлянку. Раней сілком нельга было прымусіць пайсці... Глядзі, камандзір, не закруці амуры. Даведаюся — літасці не чакай. Размалюю на партсходзе, як бог чарапаху. Не хапае нам яшчэ маральнага разлажэння».

Наіўная жанчына! Хацела папярэдзіць! А выйшла наадварот. Узбунтавалі яе словы. Закранулі гонар, зноў-такі — камандзірскі і мужчынскі. Каб Рошчыха мной камандавала! Каб Рошчыха ўказвала, што я маю права рабіць, чаго не маю! Пакахаць, выходзіць, не маю права! Бо і тут, у лесе, на вайне, вісіць над галавой ханжаская формула. Да д'ябла ўсе формулы і ўмоўнасці! Я адказваю за лёс людзей. Адкажу і за свае пачуцці. І калі гэта любоў — нішто не спыніць мяне, Рошчыха, ніякія твае папярэджанні!

— Ты ўсё яшчэ не спіш, Іван?

— Сплю.

— Я прачнулася і адразу пачула, што не спіш. Я па дыханні тваім пазнаю... А ты яшчэ шаптаў...

— Лічыў да тысячы, як ты раіла.

— Што цябе завяло? Выкінь усё з галавы.

— Там і так не вельмі поўна.

— Пастарайся не думаць ні пра што.

— Стараюся.

— Снатворнага не дам. Не чакай.

— Я не прашу. Спі.

— Прасі работу, Іван. Прасі. Ты катуеш сябе.

— Ты сама заводзіш мяне. Не перашкаджай. Я буду спаць.

«Не кідайце нас, Іван... Не кідайце».

«Надзя, супакойся. Хто вас кіне! Трымайся побач».

«Калі што — застрэль. Загадай хлопцам, каб застрэлілі...»

«Што ты плявузгаеш? У каго ўзнімецца рука?»

«Іван, лепш смерць, чым трапіць да іх. Лепш смерць...»

«Мы будзем адбівацца да апошняга патрона».

«Дай мне пісталет. Дай мне пісталет! Я павінна мець зброю!»

«На табе пісталет. І сціхні. Чуеш? У цябе — нервы».

«Не. У мяне дзіця. Дзіця у мяне, Іван!»

Ідзе дождж. Шуміць у скалечаных соснах. Мы ляжым на ўзлессі. Нас жменька, сем ці восем чалавек. Але ў іншых месцах — другія такія ж групы. Гэта не прарыў з блакады. На прарыў мы ўжо хадзілі. Двойчы. Не прарваліся. Тры дні нас малацілі, што снапы цапамі. Мінамі. Бомбамі. Патрушчылі ўвесь лес — апошні наш прытулак пасля пераходу цераз Астахаўскія балоты. Мы намерваліся адарвацца ад іх пасля тыднёвага бою. Але ў карнікаў таксама галовы на плячах. Яны разгадалі наш манеўр. Тры дні поўнага акружэння, поўнай блакады. Няма чаго есці. Няма патронаў. Растала брыгада. Эсэсаўцы ведаюць нашы сілы і магчымасці і, напэўна, заўтра прачэшуць лес з аўтаматамі. Чакаць нельга. Адзінае выйсце: ратуйся, хто як можа! Не, гэта не стыхія. Гэта тактыка, наша, партызанская. У гушчары выкапалі патаемную зямлянку, схавалі там тых раненых, хто не можа ісці. Замаскіравалі. Не знойдуць сабакі — хтось застанецца жывы. Вернемся, забяром, вылечым. Усе іншыя разбіліся на такія вось групкі. Ёсць, здаецца, па два чалавекі. Без камандзірскіх загадаў. Кожны выбіраў, з кім яму пайсці і ў які бок. Пойдзе дваццаць ці трыццаць груп. Нехта наскочыць на заслону карнікаў. Пачне няроўны бой. Нехта загіне. Але пад гэты шум нехта ж прарвецца. Веру: большасць прарвецца. І брыгада будзе жыць! Як дарэчы дождж! Божа, каб я верыў у цябе, то памаліўся б тады і цяпер за тваю ласку. Той майскі дождж — колькі ён ратаваў добрых людзей! Прыглушыў шум крокаў, змыў сляды...

Прытупіўся боль ад раны ў плячы і самы пякучы боль — у сэрцы, боль, горыч паражэння, разгрому. Што здарылася — не вернеш. І мёртвых не вернеш. Трэба думаць пра жывых. Не, сёння амаль кожны сам сабе камандзір. Я веру ў людзей — у іх хітрасць і спрытнасць. Выйдуць! Многія выйдуць. І збяруцца ва ўмоўленым месцы! Выйсці б толькі мне. Урэшце, гэта не мае вялікага значэння. Нехта ж выйдзе. Камісар. Будыка. Касач. Каткоў... І збярэ атрады, брыгаду. Я магу

ляжаць спакойна. Мог бы, каб не гэтая жанчына, не гэтае паўтарагадовае хворае дзіця... Праклінаю сваю слабасць: колькі разоў намерваўся ўладкаваць іх у бяспечным месцы, ды так і не здзейсніў свой намер. Надзя пераканана, што для яе і Віты — самае бяспечнае месца пры штабе брыгады, пры мне. О, гэтая жаночая прывязанасць!

Перад наступленнем карнікаў быў мой загад: жанчын, дзяцей, хворых рассяліць у вёсках, растварыць у насельніцтве. Хто не выканаў загад? Надзя прыйшла на балота з групай Будыкі.

Ціха. Толькі дождж шамаціць у маладым лісці кустоў. Няўжо ніводная група яшчэ не рушыла?

І раптам прачынаецца дзіця. І крычыць. Крычыць на ўвесь узлесак. Галоднае, хворае. Маці гушкае, просіць, затуляе тварык, каб заглушыць крык. Маці ў роспачы.

Вось і прайдзі нячутна міма вартавых. Такога дзіцячага плачу ніхто не заглушыць. Хіба толькі страляніна. Кананада. Яго ўжо, напэўна, чуюць. Няхай чуюць, няхай ведаюць, што мы тут, з жанчынамі, з дзецьмі. Гэта можа нават памагчы другім.

«Вітачка, красачка, ягадка мая, змоўкні, змоўкні, мая маленькая. Божачка, каб ты ведала!»

Адпаўзае ўбок нехта з партызан нашай групы. На ліха яму рызыкаваць! Лепш ён пойдзе адзін ці далучыцца да каго іншага! І я не магу спыніць яго! Не магу загадаць! Кожны ішоў з кім хацеў, куды хацеў. Такі пешні загад камбрыга і камісара! Галоўнае — вырваць з гэтага пякельнага катла хоць жменьку людзей, аснову будучых новых атрадаў. Лагун пайшоў з Катковым. Будыка застаўся з намі! Дзякуй табе, Валя. Дзякуй. Заўсёды ты ў небяспецы побач!

Яшчэ адзін адпаўзае. І мяне апаноўвае страх, такі, якога не было ніколі ў самыя крытычныя хвіліны. Нават тады, калі тануў у дрыгве і навокал — нікога. Гэта таксама страх адзіноты. Але якой? Застацца аднаму з Надзяй і хворым дзіцем, якое заходзіцца ад плачу, тут, перад ланцугом карнікаў? Тады ўжо сапраўды выйсце адно...

«Дай дзіця!» — голас у Будыкі асіплы, чужы, суровы.

«Не дам!» — шэпт, як крык на ўвесь свет, на ўсю зямлю. Адчайны крык маці.

«Дай дзіця!»

«Не дам! Застрэльце спачатку мяне! Мяне...»

«На чорта ты каму здалася!» — ніколі гэтак груба Будыка не гаварыў з Надзяй. Няўжо азвярэў перад тварам небяспекі? Але самае страшнае, што я не маю сілы асекчы яго, загадаць змоўкнуць. Аднак, што ён надумаў? Навошта яму дзіця? Паўзе. Паўзе да нас. Ці ад нас? Не, дзіця я табе не аддам! Паміраць — дык разам з ім.

«На, напаі яе самагонкай».
«Віту?»
«Віту».
«Памрэ...»
«Не памрэ. Засне. Будзе спаць».

Ты мудрэц, Валька! Ты вялікі вынаходца, інжынер Будыка! Прадбачлівы чалавек. І запаслівы. Любы іншы ў такім пекле даўно выжлукціў бы гэтую самагонку. А ты захоўваў флягу да апошняй хвіліны.

«А вось цяпер вып'ем, — сказаў ты, калі мы выйшлі без бою і да світання прыбеглі ў Прыбарскую пушчу, шэсць чалавек, Віта — сёмая.— Цяпер сам бог хоча, каб мы выпілі. Усім па глытку. Але піць сумленна. Першаму — камбрыгу. А Віце больш не дамо. Малая п'янюга!»

І Надзя засмяялася і заплакала адначасова, затрэслася ў нервовым прыступе, забілася аб зямлю, аб карэнні елкі, пад якой мы селі.

Не спадзявалася, што смерць міне і гэты раз. А хто спадзяваўся?

XIII

Недаробленая справа не давала спакою. Ніхто больш не званіў, не прыспешваў, а ўсё адно рупіла: трэба ж неяк закончыць гэтую праверку, зрабіць высновы, напісаць заключэнне. Не дзеля таго, каб абвінаваціць кагосьці, дарэмна Будыка нервуецца. Каб звярнуць увагу партыйных, гаспадарчых органаў на істотныя прамашкі ў рабоце вельмі патрэбнага інстытута.

Тры дні пісаў заключэнне. Адзін. Паехаў у інстытут, каб пазнаёміць Будыку і партком перад тым, як даць падпісаць членам камісіі. Адчуваў, што прыйдзецца трымаць бой: сакратар парткома — за дырэктара. Але менавіта гэта і ўзрушыла, узбадзёрыла, узняло настрой. Такі ён быў перад кожным боем, там, у партызанах, дзе ў баі лілася кроў, і пасля ў бяскроўных баталіях — на калегіях, нарадах, пленумах.

Ехаў і выпрацоўваў план абароны і наступу. Прыкідваў, вывяраў і аргументы людзей, якія будуць пярэчыць, уяўляў твары тых, хто будзе маўчаць. А, між іншым, чаму многія маўчаць? Замнога маўчуноў для такога вялікага і своеасаблівага калектыву. Варта і пра гэта сказаць.

У доўгім інстытуцкім калідоры перахапіў зяць. Нібы знарок падсцерагаў.

— Іван Васільевіч, хачу пагаварыць з вамі. Можна?

— Тут?

— Ага.

— Такая тэрміновая справа, што нельга пачакаць?

— Можна, але...

У Генадзевым голасе і ўсёй паставе зніклі самаўпэўненасць, развязнасць, іронія. Вярнулася сыноўская пачцівасць, павага да старэйшага, мудрэйшага; такім ён быў у першыя гады жыцця ў Антанюковым доме. Гэта прыемна ўразіла Івана Васільевіча, і ён, як кажуць, клюнуў на прыманку.

— Дзе ж нам пагаварыць?

— Ды лепш тут, у холе.

— Давай тут, калі нядоўга.

Яны пайшлі па калідоры да невялікага хола — месца сустрэч курцоў. Там стаялі нізкія крэслы, два столікі з попельніцамі, у кутках — дзве пальмы, на адной вісела: «Не кідайце акуркі ў вазоны». Яны не селі — стаялі пад пальмай. Генадзь ламаў пальцы — выдаваў сваю ўсхваляванасць.

— Не ведаю, як пачаць. Вось так... Я вам не чужы чалавек, Іван Васільевіч. Ад маёй работы залежыць шчасце нашай маладой сям'і. Можа памыліўся, што пайшоў сюды. Але ж я не сам папрасіўся. І мне падабаецца тут. Перспектыва ёсць. Толькі каб падтрымалі. Але ўжо нехта пачынае плесці інтрыгі. Усё спачатку ішло добра. Сам Валянцін Адамавіч хваліў. Я стараўся. А тут раптам загадчык лабараторыі чапляецца. Вядома, пачаліся прыдзіркі. Я малады інжынер, памылкі могуць быць. Але хіба так трэба выхоўваць маладых? Сёння ў загад, трапіў. Папярэджанне. Адразу папярэджанне! За месяц. Я ж ведаю, як гэта робіцца. Папярэджанне, пасля — вымова. А там — будзь здароў. І ніякі прафсаюз, ніякі суд не абароніць. Пагаварыце, калі ласка, з Валянцінам Адамавічам. Папрасіце... Ён слова скажа...

Іван Васільевіч адступіў на крок ад зяця, нібы для таго, каб лепш разгледзець даволі ўжо мажную постаць у модным касцюме: Генадзь купіў сабе новы касцюм, перайшоўшы ў інстытут, — каб быць на ўзроўні выгляду вучоных.

— Ты помніш нашу размову, маю... не параду, не... просьбу?

Нешта змянілася ў Генадзевым твары. Іван Васільевіч не адразу нават зразумеў, што з'явіліся тыя ж агідныя рыскі самаўпэўненай перавагі. Зяць па-зладзейску азірнуўся: ці няма каго блізка?

— Вам жа выгадна, каб я прыжыўся тут. Магу, калі трэба, такія факцікі сабраць...

— Пайшоў прэч! — крыкнуў Іван Васільевіч на ўвесь паверх.

Генадзь уміг змыўся — ведаў цесцеў характар.

Антанюка ажно закалаціла ўсяго. Было адчуванне, быццам плюнулі ў душу.

Жадаючы памагчы старому сябру, калектыву, рабіў ён гэтую праверку. Спрачаўся, сварыўся. Але не збіраў факцікі. «А ты!.. Чуць зачапілі цябе, папярэдзілі за нядбайства, відаць, і ты гатовы збіраць факцікі. Знайшоў сабе кадр, Валянцін Адамавіч! Можаш радавацца. Ці ты ўжо і сам раскусіў яго і даў каманду выжыць? Усё роўна не робіць гэта табе гонару. Ні тое, як ты нарадзіў яго, гэты кадр. Ні тое, як хочаш забіць».

Будыка стрэў дзіўна. Па-рознаму страчаў ён свайго былога камандзіра: з шчырай радасцю, з іранічнай весялосцю, з самалюбаваннем, пры людзях — афішыруючы дружбу, з насцярожанасцю і незадавальненнем, калі працавала камісія.

Цяпер жа нічога гэтага Валянцін Адамавіч не выявіў. Нават непрыветлівасці ці раздражнёнасці: зноў, маўляў, прынеслі цябе чэрці. Былі ў яго выглядзе нейкая змрочная абыякавасць і стомленасць, ажно пасінела пад вачамі і запаліліся павекі, быццам чалавек даведаўся, што невылечна хворы. Івана Васільевіча шчыра ўстрывожыў такі Будыкаў выгляд. Але ў кабінеце сядзеў супрацоўнік, і не было як адразу спытаць, чаму сябра такі. Калі планавік выйшаў, Валянцін Адамавіч сказаў сам, не чакаючы запытання:

— Можаш парадавацца: наша работа вылецела за спіса на першым туры абмеркавання. Памаглі лепшыя сябры! — ён нядобра хмыкнуў.

Антанюка ашаламіла: з-за прэміі такая змрочнасць, такі настрой?

— І для цябе гэта трагедыя?

Будыка зірнуў спадылба, адказаў узлавана:

— Але, для мяне гэта трагедыя!

— Валянцін! З чаго ты робіш трагедыю? Чаго табе не хапае? Грошай? Славы?

— Чаго мне не хапае — твайму прымітыўнаму розуму непасільная задача. Прэмія трэба не аднаму мне! Калектыў...

— Не хлусі! Перш за ўсё ты думаеш пра сябе. Не прыкрываліся калектывам!

— Даволі з мяне тваёй ханжаскай маралі. Знайшоўся духоўны айча! Хопіць!

Тады Антанюк з усяе сілы пляснуў папкай па стале, падскочыў, і... сцены шыкоўнага кабінета, мэбля-мадэрн, тоўстыя тамы тэхнічных даведнікаў пачулі словы, якіх ніколі не чулі і наўрад ці пачуюць яшчэ калі, а гаспадар кабінета чуў іх апошні раз дваццаць гадоў

назад у зямлянцы ці ў баі, калі камбрыга часам даводзілі вось да такога напалу і ён вось так узрываўся.

Невядомая сіла... не, вядомая, тая, якая мела над ім уладу там, у лесе, узняла стомленага, размяклага дырэктара з крэсла, і ён выслухаў усё, стоячы амаль «на смірна». Не пярэчыў. Не абураўся. Толькі спалохана пазіраў на дзверы, каб хто не ўвайшоў. Ведаў — цяпер камбрыга нішто і ніхто не спыніць. Няхай хоць дваццаць чалавек уварвецца.

Калі напал трохі астыў, пайшлі словы, якія можна друкаваць:

— ...Я не паспеў памагчы, ты ведаеш...

— Не ведаю,— агрызнуўся Будыка нарэшце.

— Дык ведай: шкадую, што не памог. Можа людзям было б лягчэй разабрацца. Але, відаць па ўсім, там не дурні... Без прэміі ў яго трагедыя!.. А што ж было трагедыяй, калі мы ляжалі ў блакадзе і крычала малое дзіця?.. Смаленая сава не клюнула цябе ў тоўстую... Трагедыя ў яго! Пасаромеўся б перад памяццю тых, каго няма ўжо. Братоў Казюраў, Шугановіча. У іх не было трагедыі... Яны ляжаць у зямлі, каб ты рабіў трагедыю з таго, што табе не далі яшчэ адной прэміі, яшчэ аднаго ордэна. Колькі ты іх нахапаў?

Раптам нязвыклая гарачыня разлілася ў жываце, падкацілася пад сэрца. Стала цяжка гаварыць. Рабілася млосна. Ніколі такога не было. Іван Васільевіч змоўк, прыслухаўся.

Тады, як бы адчуўшы, што абвінаваўца яго вытхнуўся, як бы ўрэшце дапяўшы, што перад ім — не камбрыг, а ўсяго-наўсяго пенсіянер, закрычаў Будыка.

Іван Васільевіч не слухаў.

«Няўжо інфаркт?» — і адчуў страх, якога, бадай, не ведаў ніколі. Аднак не хацеў, каб зрабілася блага тут, у кабінеце, перад гэтым, абураным яго словамі, сябелюбцам. Пайшоў да дзвярэй. Будыка не спыніў, але здзіўлена змоўк на паўслове.

Іван Васільевіч выйшаў у калідор, пасядзеў у у крэсле пад пальмамі, адкуль пагнаў прэч зяця.

Адлягло. Нічога страшнага не здарылася. Толькі трымалася млявасць у нагах. Ды страшная спустошанасць у душы. Абыякавасць да ўсяго. Такая ж, як на вяселлі.

Называецца, пазнаёміў дырэктара, партком з заключэннем, якое пісаў у бяссонныя ночы. Папка ляжыць на стале ў кабінеце. Хай застаецца Будыку на памяць. Чорт з ім! Усё. Кропка. Ніхто не прымусіць яго больш прыходзіць сюды, займацца такой праверкай. На якое ліха гэта яму патрэбна!

Апрануўся ў прыёмнай. Прыветлівая, гаваркая сакратарка, якая не аднойчы падавала каву, не падняла ад папер галавы, нічога не сказала — чула праз дзверы.

Іван Васільевіч выйшаў, не кінуўшы звычайнага «бывайце».

Душэўная спустошанасць і абыякавасць доўга не праходзілі. Дзень, Другі. Іван Васільевіч не вылазіў са свайго пакоя. Ляжаў бяссонную ноч. Ляжаў удзень. Але думкі не кіпелі, як звычайна. Дрымотна плылі, як у цяжкахворага, бясколерным марывам. Ні крыўды, ні горычы. Не шкада шматгадовай дружбы. Але падсвядома адчуваў: менавіта тое, што нічога і нікога не шкада,— больш за ўсё і прыгнятае. Хацеў запоўніць пустэчу ўспамінамі: можа абудзіцца нешта — боль, любоў ці хаця б злосць; нават злосці не было. Але ўспаміналася чамусьці пераважна маленства, такое далёкае. Не было яно бязвоблачнае, але і больш горкага, балючага ў ім не так ужо многа. Ды што тыя дзіцячыя болі ў параўнанні з тымі, якія перажыў пасля? Увогуле, успаміны маленства ўлагоджваюць, закалыхваюць чалавека, расслабляюць волю. Прыемна, соладка — ажно сэрца шчыміць, але ніштo не заводзіць спружыны эмоцый.

Жонка вядзе сваё:

— Хандрыць пачынаеш, Іван. Нядобрыя сімптомы. Ідзі папрасі, нешта ж прапануюць. Згаджайся на любую пасаду, абы з людзьмі, у калектыве.

— Нікуды я не пайду. Трэба — паклічуць.

— Каму патрэбны твой гонар? А калі не паклічуць больш?

— Значыцца, абыходзяцца без мяне.

— Але ж ты сам не можаш абысціся без работы. Хіба я не бачу! Не з тваім характарам.

— Табе здаецца так. Пенсіянер — даволі масавая прафесія ў наш час. Пажыць за кошт грамадства — немалая спакуса.

— Іван, ад каго ты хаваешся за жарцікі? Ад мяне? Я наскрозь цябе бачу.

Іван Васільевіч не сказаў, што, на жаль, Вольга бачыць не ўсё, прынамсі гэты раз — не тое, не тую прычыну хандры яго. Хаця і сам ён не мог добра асэнсаваць гэтую прычыну. Расчараванне? Але хіба ён быў гэтак зачараваны Будыкам? Не. Не аднойчы разыходзіліся ў поглядах на жыццё. Сварыліся. Урэшце, нічога дзіўнага, што такому чалавеку, як Будыка, адхіленне работы ў першым туры моцна сапсавала настрой. Ён, Антанюк, не разумець гэтага не мог. У кожнага свае слабасці. Будыкавы ён ведае лепш, чым свае ўласныя. І сто разоў дараваў яму гэтыя слабасці. А вось гэтага даравацъ не мог. Не злоснага папроку, што ў яго, Антанюка, «прымітыўны розум»,— гэта

глупства! А злоснага прызнання, што для яго, Будыкі, неатрыманне прэміі — трагедыя. Але цяпер ужо ўсё роўна: перажывай сваю трагедыю сам! Разам мы перажывалі сапраўдныя трагедыі.

— Паехаў бы на паляванне,— параіла Вольга.

— Паляванне ўжо забаронена. Час табе ведаць.

— На ваўка не забаронена. Пахадзіў бы па лесе. Лес цябе бадзёрыць.

Вольга ведае: лес бадзёрыць. Але цяпер яму нікуды не хочацца — ні ў лес, ні ў поле. Ні гуляць па горадзе.

Увайшла Лада.

— Ты нездаровы, тата?

Іван Васільевіч хутка падняўся з канапы, расцёр рукамі твар, быццам са сну.

— Не, здаецца, здаровы. А што?

— Ты ніколі столькі не ляжаў. Што з табой?

— Нічога.

— Ты стаў нейкі не такі, як заўсёды.

— А ты? Ты таксама не такая.

— Я? — Лада задумалася, стоячы пасярод пакоя.

— Мы ні разу не пагутарылі пасля вяселля. Так, як раней.

Лада прысела на край крэсла, пасля скінула тапкі і залезла ў крэсла з нагамі, падкурчыла іх — зусім па-дзіцячаму і па-хатняму. І ўжо праз адно гэта бацька адчуў яе даверлівую блізкасць.

— Я не такая...— з роздумам прызналася Лада і тут жа горача запэўніла: — Але не стала горшая, тата! Не! Не думай... Я люблю цябе... гэтак жа...

Як чалавеку мала трэба: даччыно прызнанне ў любові — і ў застылае сэрца быццам уліўся цёплы жывы струмень. Іван Васільевіч удзячна, але бадай збянтэжана ўсміхнуўся дачцэ.

— Але... ведаеш... як табе растлумачыць?.. Замужжа шмат што змяніла. Я легкадумна ставілася да яго. О, гэта ўсё больш сур'ёзна!.. Табе я прызнаюся... Праводзячы іх, Сашу і Васю, я раўла на вакзале, як баба. Хіба падобна гэта на сучаснага фізіка? Смех... Ці адносіны да цябе... Помніш, я звыкла яшчэ са школы, і гэта працягвалася ўсе гады ва універсітэце... ідучы раніцой на заняткі, я залазіла ў кішэні твайго паліто і выграбала дробязь — на пончык, на каву, на кіно. Зрэдку ты злаваўся: сядзеш у тралейбус, памацаеш у кішэнях, а там — ні капейкі. А то... на нейкі дзень пасля вяселля... па інерцыі пацягнулася была да твайго паліто і адхапіла руку. Сорамна зрабілася. Цяпер я не растрачу стыпендыю за два дні, як раней...

Зусім расчуліла такое прызнанне. Трохі не да слёз. Але адказаў з грубаватай разважлівасцю:

— Мужыцкая псіхалогія ў цябе абуджаецца. Плюнь на такія ўмоўнасці. Ты ведаеш мае адносіны да грошай. Марнатраўства не люблю. Але каб дачка не магла ўзяць на снеданне... Чаму? Глупства!

Лада памаўчала, падумала, гледзячы на бацьку; у вачах таіўся смутак, быццам развітвалася з нечым дарагім.

— А можа гэта добра, тата?

— Што ж тут добрага?

— Чалавек павінен мяняцца. Ты кажаш — «мужыцкая псіхалогія». У мяне абуджаецца штосьці іншае. Ці прыходзіць запознена сталасць. Ведаеш, у мяне цяпер такое адчуванне, быццам я, нарэшце, ступіла на зямлю. Пад нагамі стала цвёрда. Не гайдае, не калыша, не адносіць убок... Я кпіла з нашых геніяў. Аднак сама глядзела на іншых людзей як бы з вышыні. Я адганяла іх, такія думкі, але ўсё адно яны наведваліся — аб нашай выключнасці. Мы, фізікі, ведаем, пазнаём тое, чаго не ведае дзевяноста дзевяць працэнтаў людзей. Больш, мабыць. Нам адкрываюцца тайны сусвету. Мы яшчэ здзівім чалавецтва! Чым? Над гэтым я часцей і часцей задумваюся цяпер. І вось пасля замужжа я адчула сябе звычайным чалавекам сярод звычайных людзей. Кропляй у моры. І нічога іншага мне не хочацца. Ніякай выключнасці. Навошта? Выключнасць аддаляе ад людзей. А я ні ад каго не хачу аддаляцца. Плакала на вакзале — і мне не было сорамна, людзі разумелі. Пішу Сашу наіўныя пісьмы, нешта накшталт таго, што пісалі тургенеўскія гераіні,— і мне хораша. Хіба толькі смешна самой: я — і такія старасвецкія пачуцці! Што сказаў бы Віцька Дзюба, каб даведаўся?! — Лада, камічна прыжмурыўшыся, паківала галавой.

— Мяне радуюць твае адчуванні. Звычайна закаханыя ўзнімаюцца ў неба і нічога не бачаць на зямлі. У цябе — наадварот. Гэта добра. Але я баюся, каб усё тое, што абуджаецца ў цябе, не адціснула фізіку, не зменшыла твайго захаплення...

— Захаплення квантавай тэорыяй? — Тата! Фізікай не захапляюцца! Гэта не музыка. Таму, хто не ведае, яна здаецца бог ведае якой рамантычнай. Як мне ў школе. Але тое дзіцячае захапленне даўно мінула. Цяпер я катаржанка. Прыкута да навукі, як да галеры. Няспынна, звыш сіл маіх, мушу грабсці. Не рукамі. Мазгамі! А куды плывем? — Лада ўздыхнула.— Куды мы плывем? Мая любоў дала трохі свабоды. І радасці.

Іван Васільевіч са смуткам падумаў: «Любоў да бацькоў і наша да цябе, выходзіць, не давала гэтай радасці. Пакуль не з'явіўся ён, гэты

хлапчына». Але крыўды не было — лёгкі смутак і здзіўленне перад адвечным цудам, які робіць каханне.

— Відаць, ужо ніхто і нішто не здыме мяне з гэтай галеры. Але я хачу, каб над ёй свяціла сонца. І побач былі людзі...

Лада гаварыла трохі супярэчліва.

Івана Васільевіча не аднойчы здзіўлялі віражы ў логіцы яе жыццёвай філасофіі. У найскладанейшых навуковых высновах мысленне яе куды больш паслядоўнае, няўхільнае. Між іншым, гэта не толькі ў яе. Нават Будыка — і той увесь час здзіўляў такімі вось заскокамі і пераскокамі.

Няхай Лада ў нечым крыху і рысуецца. Але яе прызнанне пра грошы, даверлівы расказ пра самае інтымнае — пра пачуцці свае пасля замужжа — і ўвогуле ўся размова жыццятворным бальзамам запаўнялі душэўную пустэчу, абуджалі ранейшую цікаўнасць да праяў жыцця. Іван Васільевіч быў удзячны дачцэ.

Яны доўга гутарылі пра розныя другарадныя рэчы, нават паспрачаліся пра новы фільм. Ён чакаў, што Лада загаворыць пра Віталію. Чакаў і баяўся. На яе шчырасць трэба адказаць такой жа шчырасцю і праўдзівасцю. А што сказаць? Якую праўду?

Лада нічога не сказала пра Віталію. Быццам не існавала яе. Гэта і супакоіла і расчаравала: Лада столькі гаварыла пра набліжэнне да людзей і ў той жа час нібы не жадае прызнаць чалавека, які жыў у доме побач у дні яе найбольшай радасці. Не думаць пра Віталію дачка не магла. Значыцца, у нечым тоіцца, не ўсё раскрывае, што ў душы.

Калі Лада, нарэшце, пайшла, Іван Васільевіч пахадзіў па пакоі ў роздуме, потым колькі разоў энергічна і весела, па-маладому, прысеў і пачаў адзявацца: захацелася пагуляць па марозе.

А ўвечары пазваніў Будыка. Як ведаў, што ў камбрыга змяніўся настрой. Невядома, што было б, каб пазваніў да размовы з Ладай.

— Што робіш, дзед?

— Шукаю некралог у газетах. Думаў, памёр, што прэмію не далі.

— Заразны ты чалавек, Іван.

— Чым я каго заразіў?

— Каго — прынцыповасцю, каго — казлінай упартасцю.

— Цябе — чым?

— Мяне — дружбай.

— Стары падхалім!

— Вось такой абразы табе не даруюць. Не я, Міля. Які я стары? Запытай у яе.

— Хвалько!

— Прыходзь каньяк піць. Маю пляшку французскага.

— Не чакай.
— Трымаеш прынцып?
— Трымаю.
— То і чорт з табой.
— Няхай застаецца з табой. У цябе з ім больш сваяцтва.
— Ох, і даў мне бог друга!
— Бог даў, бог можа забраць.
— Не дзьміся, певень. Я першы схіляю галаву. Папку табе вярнуць?
— Прышлі. Я не ўсё напісаў, маю новыя думкі.
— Пішы, пішы. І нагою калышы. Неглыбока арэш. Недахопы ў рабоце інстытута я выкрыў глыбей. Прачытай маё пісьмо ў ЦК.
— Адкуль такая самакрытычнасць?
— Ды вось адтуль.
— Ход канём?
— Канём ці сланом — думай, як хочаш. Я стаўлю тэхнічныя праблемы. А ў цябе што? Кадры, партработа... дробязь.
— Калі табе захацелася адвесці душу, не чапай гэтых спраў. А то я табе зноў скажу, што дробязь, а што не дробязь.
— Маўчу. Дык не хочаш убачыць маю прасветленую фізіяномію?
— Не.
— Што ж, пачакаю. Каньяк не скісае. Кланяйся Вользе.
— Прывет Мілане.
Дваістае пачуццё было ад гэтай тэлефоннай размовы. Але тое, што Будыка ўсё-такі пазваніў першы, таксама ўзрадавала. Значыцца, даражыць яшчэ дружбай. Колькі разоў яны сварыліся вось так! Не заўсёды меў рацыю ён, Антанюк. Але заўсёды першы ішоў на прымірэнне Валянцін. Што гэта? Слабасць яго? Ці сіла?

XIV

Запрасіў на размову чалавек, да якога Іван Васільевіч ніяк не мог «загарэцца любоўю». Ні раней, ні тым больш цяпер. Чалавек гэты першы закрычаў пра «апартуністычныя памылкі Антанюка». Па сутнасці, ён стварыў «справу Антанюка». З зацятай непрымірымасцю патрабаваў звальнення, суровай вымовы і г. д. Каб не разумныя людзі, вышэйшыя па становішчы за гэтага «вартаўніка ідэйнай чысціні на палях», прыйшлося б табе, Іван Васільевіч, на старасці гадоў зарабляць сваю пенсію на пасадзе падшыўшчыка папер; работу агранома-практыка наўрад ці даверылі б. Хіба толькі цяпер, пасля пленума, вярнулі б, але, безумоўна, не на ранейшую пасаду. Куды там! Занята месца.

Нядаўна прачытаў: праведнік гэты і прынцыпіял на адной з нарад выступіў з прамовай, у якой амаль цалкам паўтарыў яго, Антанюкова, «апошняе слова»,— тады, на тым пасяджэнні, ён сказаў усё, што думаў. Гэты аж падскокваў ад абурэння ці хутчэй за ўсё ад радасці, што першы выкрыў такога апартуніста. «Чуеце, што ён кажа? З якімі настроямі чалавек кіраваў адной з важнейшых галін...» Цяпер Сямён Сямёнавіч раней за ўсіх змяніў погляды, перабудаваўся. Хто не памыляецца! Мы, маўляў, выканаўцы волі вышэйшага. Сустрэне, вядома, абдымкамі: умее пакараць, умее і прыламаць. І прынцып у яго: хто старое памяне...

Ён, Антанюк, не злапомны. Але, на сваю бяду, нічога не забывае. І акцёр дрэнны: не сыграе павагі і пачцівасці. Сапсуе настрой дзяржаўнаму чалавеку, нашкодзіць сабе.

Вырашыў: не ісці. Калі размова сапраўды сур'ёзная — няхай пакліча той, хто тады падтрымліваў яго, Антанюка. Былі такія людзі.

Але Вольга не ўхваліла такога рашэння, хоць звычайна падтрымлівала яго гонар. Яна мякка і далікатна пачала ўпрошваць пайсці. Маўляў, не цалавацца табе з ім, не ад свайго імя ён мусіць прапанаваць табе работу — ад імя дзяржавы. Безумоўна, не яго гэта ініцыятыва. І лічы, што гаворыш не з Сямёнам Сямёнавічам, а з пасадай, якую ён пакуль што займае. Каб ведаў, што жонка, накшталт іншых жонак, так настойліва ўгаворвае з эгаістычных меркаванняў — з-за грошай, становішча,— нізавошта не пайшоў бы. Не, у Вольгі іншае. Ёй здаецца, што гэта апошняя магчымасць вярнуцца на работу, якая, на яе думку, патрэбна яму, як паветра. Засмучаць жонку не хацелася. Жыла ўдзячнасць за яе тактоўнасць і стрыманасць: пасля ад'езду Віталіі — ні слова пра яго адносіны з Надзяй і наогул пра ўсё мінулае.

Пайшоў.

Сямён Сямёнавіч і праўда стрэў траха не з абдымкамі. Іван Васільевіч адчыніў дзверы — той ужо пасярод кабінета, на квяцістым дыване, мажны, вясёлы, усмешка — на ўвесь шырокі, па-мужыцку просты твар. Ціснуў доўга руку. Ляпнуў па плячы.

— Рад вітаць, рад. Даўно не бачыў. Як жывеш? Што не заходзіш? Пакрыўдзіўся? Дарэмна, дарэмна. Хто не памыляецца! — аднак не ўдакладніў, хто з іх дваіх памыліўся.— Як сям'я? Усе здаровы? Дзякуй богу.

Сам пытаў — сам адказваў. Аптымістычна. Ведаючы гэтую ягоную звычку, Іван Васільевіч некалі пажартаваў — на пытанне: «Як сям'я? Усе здаровы?» — адказаў з засмучаным выглядам:

«Дрэнна, Сямён Сямёнавіч».

«Што такое?»
«Бабуля памерла».
«Твая?»
«Ага».
«І ты так засмучаны?»
«Вырасціла яна мяне».
«Колькі ж ёй гадоў?»
«Дзевяноста сем».
«Колькі? І ты ў такой жалобе па такой бабулі?» — вельмі ўразіла Сямёна Сямёнавіча гэта, і ён паўгадзіны з усёй сур'ёзнасцю суцяшаў асірацелага ўнука.

Але вось такі ён, Сямён Сямёнавіч. Уваходзяць піянеры вітаць з'езд — стаіць у прэзідыуме і, не саромеючыся ўсяе залы, плача, як бабёр,— ад замілавання. А праз дзесяць мінут кідае з трыбуны самыя сур'ёзныя палітычныя абвінавачанні таварышу па рабоце, які некалі ў нечым не згадзіўся з ім.

Антанюк не «клюнуў» на запытанні пра сям'ю, пра здароўе. Такая яго стрыманасць насцярожыла Сямёна Сямёнавіча. Крыўдзіла чалавечая няўдзячнасць. Але ён умеў велікадушна ўзвысіцца над дробязнымі крыўдамі.

Сеўшы за мадэрнізаваны стол, пачаў доўгую — не сказаць, што нецікавую для таго, хто слухае ўпершыню,— лекцыю пра асушэнне і асваенне балот на новым тэхнічным і агранамічным ўзроўні.

Антанюк ведаў: умее таварыш паказаць сваю эрудыцыю. Але не мог не здзіўляцца: няўжо настолькі чалавек страціў пачуццё меры, такту, дыстанцыі, што вось так выстаўляе свае веды перад ім, аграномам,— ды яшчэ як! — бессаромна, у вочы, паўтараючы яго, Антанюковы, даўнішнія выказванні.

Карцела сказаць: не займайся плагіятам, дарагі Сямён Сямёнавіч. Але, помнячы жончын наказ і свае абяцанні, маўчаў, цярпліва, слухаў. Хоць урэшце ўсё-такі не вытрымаў — перапыніў:

— У меліярацыі пашыраюцца штаты?

Сямён Сямёнавіч здзівіўся — не адразу дапяў да сэнсу пытання. Зразумеў — засмяяўся.

— Не церпіцца даведацца, што табе прапануюць? Не. Не ў меліярацыі,— і назваў пасаду, раўназначную той, якую Антанюк займаў да свайго вымушанага двухгадовага адпачынку. Здаецца, усё добра, але... Івана Васільевіча ашаламіла прапанова. Па-першае, гэта была іншая галіна, належала займацца не вырошчваннем хлеба і мяса, а перапрацоўкай у гатовыя прадукты. Што ж, урэшце, можна пакаштаваць, як кажуць, і такога хлеба, работа не менш удзячная.

Але... яшчэ адно: непасрэдны начальнік — Каралькоў. Той самы, што рваўся першым вылецець з партызанскай зоны. Выпадковасць? Ды не, здаецца, Сямён Сямёнавіч з Каральковым — сябры.

— Каралькоў ведае, каго яму прапануюць у намеснікі?

— А як жа... Больш: скалеў: гэта яго асабістая просьба.

— Дзіўна.

— Што цябе так здзіўляе?

— У нас з ім складаныя адносіны. З вайны.

— Што там у вас было? Бабу не падзялілі ў атрадзе, ці што? — рагатнуў Сямён Сямёнавіч, хітра зажмурыўшы вочы пад рудаватымі, як бы выгаралымі на сонцы, брывамі. Груба даў зразумець, што ведае ўсе Антанюковы грахі. Але, магчыма, убачыўшы, як наведвальнік змяніўся з твару, ведаючы яго характар, дакорліва, як бацька непаслухмянаму сыну, паківаў галавой і сказаў лагодна:

— Злапомны ты чалавек, Іван Васільевіч.

— Не злапомны. Але да Каралькова не пайду.

— Многа можаш страціць.

— Што я магу страціць? Пенсію?

— На пенсію тваю ніхто не замахваецца, але калі ты сапраўды хочаш працаваць...

— Я сапраўды хачу працаваць.

— То раю падумаць. Падумай. Парайся з жонкай, з сябрамі. Не спяшайся. Навошта нам спяшацца, Іван Васільевіч? Мы ўжо немаладыя людзі. У такім узросце трэба дараваць крыўды...

— ...і замольваць грахі,— уедліва падказаў Антанюк.— Я гэта раблю.

Ён кіпеў, і гэтае кіпенне, напэўна, адчуў Сямён Сямёнавіч. Узняўся з крэсла, выпрастаўся, акінуў позіркам кабінет, як бы выстаўляючы сваю веліч, свой сан: маўляў, не ўздумай абразіць у службовым кабінеце!

Іван Васільевіч стрымаўся: на ліха яму лезці на ражон. Выйшаў узрушаны, але, пакуль спускаўся па лесвіцы, амаль супакоіўся. Нават не пацягнула пагуляць, як звычайна пасля такіх размоў. Цешыла нечаканае Сямёнава талстоўства: «Трэба дараваць крыўды...» Усё-такі, відаць, грызе цябе сумленне. Хочацца, каб табе даравалі...

Была адліга. Раставаў снег. Ён выпаў уначы, і вуліцы не паспелі ачысціць нават тут, у цэнтры, перад урадавым будынкам. Пад нагамі — слізкая калатуша. У паветры пахла вясной.

Вольга выслухала моўчкі. Цяжка ўздыхнула.

— О божа!

— Чаго ты божкаеш?

— Нічога,— і пайшла на кухню.

Гэтае яе «о божа!» —горш за самыя мнагаслоўныя папрокі. Апаноўвала злосць. Але і шкада было жонкі: яна ўбіла сабе ў галаву, што ратунак яго толькі ў працы. Ад чаго ратунак? Хіба ён мала працаваў? Хіба цяпер сядзіць склаўшы рукі?

Вольга вярнулася праз нейкі час. Сказала нібыта весела, нібыта ў жарт:

— Каб я была, як іншыя жонкі, то прадзяўбла б табе макаўку за такія «конікі»... Ты горш за Васю, калі яму было семнаццаць... У дваццаць тры ён сам паразумнеў, а ты...

— Вольга, гэта не «конікі». Ёсць прынцыпы.

— Але я не такая, як іншыя. Ва ўсім не такая. Не,— і раптам заплакала.

Івана Васільевіча ў першы міг жончыны слёзы ашаламілі: з-за чаго трагедыя? А пасля — вырвалася злосць.

— Не рабі з сябе пакутніцу! Брыдкая роля! Лепш ужо крычы. Бі талеркі! Упікай за ўсе грахі! Я буду цярпець. Але ні ты, ніхто не прымусіць мяне кланяцца Каралькову ці Сямёну.

Дні праз два пасля гэтае размовы выпадкова сустрэў на вуліцы свайго выхаванца, супрацоўніка, які гадоў шэсць назад па ўласным жаданні паехаў у саўгас,— Казіміра Захаравіча. Непаседлівы такі хлопец быў, хударлявы, вельмі не любіў паперы пісаць і любіў у камандзіроўкі ездзіць.

Іван Васільевіч не бачыў яго гады тры. Сустрэчы абодва ўзрадаваліся.

— Як жывеш, Казімір?

— Хіба не відаць па мне? — дырэктар саўгаса надзьмуў ружовыя шчокі, ткнуў у іх кулакі, грымнуў рогатам на ўсю мнагалюдную вуліцу.

— Чорт ведае, ад чаго вас так разносіць. Я ж ведаю жыццё дырэктара. Цэлы дзень на нагах... У пяць устаеш, на свежым паветры...

— То, мабыць, ад паветра, Іван Васільевіч,— зубаскаліў Захарэвіч.

Слова за слова — то сур'ёзнае, то жартаўлівае — і адчулі, што есць у іх пра што пагаварыць, хочацца пасядзець. Прыхапілі пляшку, падаліся да Антанюка на кватэру. Спачатку гаспадарылі самі. Потым вярнулася жонка. Нанава падала на стол.

Калі добра пагаварылі — кожны з іх умеў расказаць і ўмеў паслухаць другога (рэдкі талент) — і трохі выпілі, Захарэвіч нечакана заключыў:

— Іван Васільевіч, плюнь ты на ўсё і хадзем да мяне галоўным аграномам.

Міг стаяла цішыня. Гаспадары глядзелі госцю ў рот. Госць збянтэжыўся: няўжо пакрыўдзіў такой прапановай? І раптам Іван Васільевіч бухнуў рогатам. Адкінуўся на спінку крэсла, задраў галаву і проста-такі заліўся смехам. Захарэвіч зусім сумеўся : смяюцца з яго, дурня.

— Вольга! Чула? Далібог, геніяльна. А травы заараў?

Захарэвіч усё яшчэ не разумеў. І Вольга не разумела. Іван Васільевіч зноў засмяяўся. І тут жа змоўк.

— Ты сур'ёзна?

— Сур'ёзна,— няўпэўнена адказаў дырэктар.

— Не баішся?

— А чаго мне баяцца?

— Вопыту ў мяне больш.

— Тым лепш.

— Згодзен! Вольга! Я згодзен! Як не падумаў дагэтуль, што мне трэба вярнуцца не ў мяккае крэсла, а ў сваю маладосць, да зямлі, да людзей, што робяць на ёй. Так проста і так мудра! Я ж мог даўно. Не, не мог. Тады, да кастрычніка, мяне, відаць, ніхто не ўзяў бы і ніхто не зацвердзіў бы — травяніст, антыкукурузнік. А цяпер, думаю, не адважацца пярэчыць. Ні абком, ні райком.

— У райкоме ў нас рады будуць, Іван Васільевіч.

— Значыцца, па руках?

Ляпнулі далоняй аб далоню, як цыганы. Засмяяліся.

— Вып'ем за маю будучую працу! Вольга! А ты чаго нахмурылася? Не згодна?

— Мяне нічога ўжо не здзіўляе, Іван, у тваіх паводзінах. Але калі цябе паклічуць на бюро райкома — чаму не перавозіш сям'ю? — прыйдзецца табе афармляць развод,— яна сумна ўсміхнулася.

Захарэвіч заспакоіў з сур'ёзнасцю ап'янелага чалавека :

— Не перажывайце, Вольга Усцінаўна. Цяпер на бюро не цягнуць: чаму сям'я не пераязджае? Нікога ж гвалтам не пасылаюць, як некалі. Самі едуць. Просяцца. Да таго ж мы — лічы, што прыгарадная гаспадарка. Шэсцьдзесят нейкіх кіламетраў. А што цяпер паўсотні вёрст? Не на валах ездзім. Вось прыедзеце да нас — пабачыце. Улетку адпачываць будзеце... Лес у нас... бор... Да Беразіны, праўда, далекавата. Але што нам нейкія сем ці дзесяць кіламетраў!

Вольга маўчала. Нібыта згаджалася. Але калі дырэктар саўгаса, нарэшце, развітаўся, дамовіўшыся, што чакае Антанюка праз два дні, машыну прышле па яго, жанчына занепакоілася. Не знаходзіла аргу-

ментаў, каб адгаворваць мужа. Ды і ведала, што ніякія адгаворы не памогуць. Іван хадзіў следам за ёй з пакоя ў пакой, на кухню і даказваў, як гэта нечакана, але здорава. Урэшце, будзе аплявуха таму ж Сямёну Сямёнавічу. У яго, напэўна, спытаюць: дзе Антанюк? Не па сваёй жа ініцыятыве выклікаў на размову. А Антанюк — вунь ужо дзе!

— Безумоўна, і там я буду пад яго кіраўніцтвам. Але ж далёка. Не дацягнецца. Кіраўніцтва будзе даходзіць у выглядзе папер. А выконваць можна па-свойму. Творча! Уся соль у гэтым. Я ўмею...

— І пагарыш у першае ж лета на сваёй творчасці.

— Ды лепш ужо згарэць у чыстым полі, чым у цёплым клазеце.

— Не блазнуй, Іван. Ты выпіў. Раніца мудрэйшая за вечар.

— Дарэмна ты спадзяешся на ранішнюю мудрасць. Я даў чалавеку слова. Хіба парушыў я калі сваё слова?

— Жыццё парушала,— хітра ўхілілася жонка ад напамінкаў, якія, напэўна, былі б горкім папрокам.

Іван Васільевіч здагадаўся, што жонка мае на ўвазе, і зноў — каторы раз! — у душы падзякаваў ёй за тактоўнасць і стрыманасць.

Вольга ўсё-такі спадзявалася на ранішнюю цвярозасць: астыне, адумаецца. Але калі прыйшла Лада і бацька з радаснай узбуджанасцю сказаў пра нечаканую прапанову дырэктара саўгаса і пра сваю згоду і Лада ўхваліла, не адразу, падумаўшы, выказаўшы нават сумненне — а ці па гадах такая работа? — а ён пачаў горача даказваць глыбокі сэнс такога звароту на зямлю, Вольга Усцінаўна зразумела, што цяпер ужо ніхто і нішто не спыніць гэтага ўпартага і няўрымслівага чалавека. Калі хто і сарве назначэнне ў гэты саўгас, ён знойдзе другі ці любы калгас, перадавы, адсталы — усё адно. Цяпер яму ўжо ўсё роўна, куды ехаць: ідэя звароту на зямлю цалкам завалодала ім. Вось так ён некалі застаўся ў партызанах. Яна ведала, што райком назначыў яго адказным за эвакуацыю жывёлы. Два тыдні ён лётаў па калгасах, арганізоўваў выган. Яна спадзявалася, што муж на сваёй райзаўскай палутарцы паедзе за статкамі і яе з Маяй павязе з сабой. А ён, калі загрымела пад Рагачовам, завёз сям'ю на станцыю, пасадзіў у эшалон і на развітанне, абдымаючы, прашаптаў:

«Там мяне не шукай. Не хвалюйся. Я застаюся тут».

«Дзе тут, Ваня?»

«У сваім раёне».

«Чаму?»

«Так мне захацелася. Глядзі! — нікому ні слова. А то якая-небудзь выскачыць з вагона, адстане і будзе пляскаць...»

Што яна магла сказаць тады?

Цяпер другі час, не тыя гады. Але што сказаць яму цяпер?

Яна прызналася:

— Не разумею я твайго бацьку, Лада. Трыццаць гадоў жыву, і усё жыццё ён задае загадкі. Я стамілася разгадваць іх.

Лада засмяялася.

— Мама! Элементарная часцінка тоіць у сабе мільён загадак. А гэта ж — чалавек!

Усё расчынена насцеж — вароты ўнізе, праз якія заязджаюць машыны, дзверы на ток і сушыльныя пляцоўкі, выцяжныя люкі. Моцны скразняк прадзімае абодва паверхі. Ажно вые ў вентылятарах. Няцёплы скразняк — патыхае яшчэ рэшткамі таго снегу, што недзе ляжыць у лесе і на касагорах.

Добра праветрываецца сховішча. Але ніякая сіла не можа выдзьмуць жывога водару збажыны. Ён густы, настоены за зіму. І — дзіўна! — не перамешаны: пах кожнай збажыны трымаецца асобна, не то каля сваіх засекаў, не то напластаваны адзін на адзін па вертыкалі, але дзе цяжэйшы, дзе лягчэйшы — немагчыма адчуць.

Так, каля пшаніцы пахне пшаніцай — мяккі, тонкі, проста-такі булачны водар. Аднак чуць павернеш галаву — і тут жа ловіш востры пах лёну — алейны настой зляжалага насення. А ён далёка, лён, не ў засеку,— проста на падлозе, пад выгнутым, як гусіная шыя, кожухам пнеўматранспарцёра — геаметрычна правільная залатая гара, вакол яе чысценька падмецена. Здаецца, завіхрыцца скразняк — і ўся гара гэтая задыміць, як вулкан, узнімецца залатым смерчам і ўсё хараство знікне ў жалезным жэрле транспарцёра.

Каля дзвярэй усе іншыя пахі забівае грэчка. Ляціць пыл. Працуе сарціровачная машына. Ляскаюць сіты, палохаючы вераб'ёў, цэлая чарада якіх заляцела ў склад, як толькі паадчынялі дзверы.

Грэчка не падабаецца новаму аграному. Гатунак не падабаецца. І лабараторны працэнт усходжасці. Грэчку трэба замяніць ці купіць новае насенне. Але дзе? Іван Васільевіч патраціў тры дні, шукаючы лепшага насення. Дарэмна. Усё можна знайсці, толькі не грэчку. Звялі найкаштоўнейшую культуру ў «кукурузны час». Трэба аднаўляць. Прыходзіцца яшчэ і яшчэ раз сарціраваць тую, якая ёсць.

А вось ячмень радуе. Малайчына Захарэвіч! Выдатны ячмень! Ён ужо ў дарозе на поле. Ля засекаў, у другім канцы сховішча, няроўна гудзіць пнеўматранспарцёр, жэрла яго ўсмоктвае насенне. З адводнай трубы ячмень сыплецца ў бункер. А там, унізе, на першым паверсе, з рукавоў — у мяшкі. Там працуюць дзяўчаты. Падстаўляюць мяшкі. Завязваюць. Заносяць у кут на вагі. Адтуль мяшкі паедуць у поле.

Нялёгкая работа — цягаць поўныя мяшкі. Шмат што механізавана ў зернесховішчы, у саўгасе наогул, але да самых цяжкіх работ механізацыя не дайшла. Аднак дзяўчаты не скардзяцца на сваю працу. Смяюцца. Ім весела. Івану Васільевічу таксама весела. Ён праз лесвічны лаз згары глядзіць на дзяўчат, на іх розныя ярка-стракатыя хусткі і аднолькава шэрыя ватоўкі.

Дзяўчаты ўбачылі агранома. Пашапталіся і зноў смяюцца. Магчыма, з яго. Няхай. Здаецца, адна з гэтых сакатух два тыдні назад выказала сваю незадаволенасць:

— Эх, дзевачкі, чакалі маладога агранома, а нам дзеда прыслалі.

Тады гэта трохі шкрабанула па сэрцы. Былі і больш сур'ёзныя словы і ўчынкі некаторых людзей, якія наводзілі нават на роздум: а ці варта было ехаць сюды? Але сёння нішто, ніякія словы не могуць сапсаваць добры настрой.

Іван Васільевіч вярнуўся да засекаў, дзе пнеўматранспарцёр высмоктваў ячмень. Абапёрся грудзьмі аб дашчатую загарадку, запусціў руку ў зерне. І адчуў незвычайную асалоду — радасць, уздым, пяшчоту, як ад ласкі дзіцяці,— ад непаўторнага дотыку да зерня, ад яго жывой цеплыні. Даўно ўжо не перажываў такога. Раней, на той высокай пасадзе, здаралася наведваўся ў склады, сховішчы, элеватары, праходзіў, аглядаў іх, даваў кіруючыя ўказанні — што зрабіць, дзе расшырыць, як механізаваць. Але, бадай, ніколі не ўдыхаў вось так водару збажыны, не адпачываў душой і не набіраўся сілы для новай працы.

Можа каму здасца дзівацтвам, што галоўны аграном штодня наведваецца ў зернесховішча. Паглядзеў адзін раз, праверыў — і даволі. Колькасць пасяўнога збожжа дасць планавы аддзел, аналізы — лабараторыя. Што ж цябе цягне сюды? Нікому немагчыма растлумачыць гэта. Добра, што хоць загадчык сховішча — Маркіян Лучанок — здагадваецца і, здаецца, разумее. З Лучанком у іх — душэўнае сваяцтва. І жыццёвае. Той таксама партызаніў, страціў руку. Рабіў старшынёй калгаса пасля вайны, брыгадзірам. Ведае тутэйшую зямлю. З ім ёсць пра што пагаварыць.

Антанюк сеў на стос мяшкоў, выцягнуў ногі, яны нылі ад стомы. Лучанок клапатліва спытаў:

— Васільевіч, не прахопіць вас на скразняку?

— Нічога. Я загартаваны.

— Можа зачыніць дзверы?

— Не трэба.

— Кыш, чортава кодла! Загадзілі ўсё на свеце! От жа паскудная птушка,— кінуў загадчык венікам у вераб'ёў. Яны фуркнулі ў другі

канец склада, нібыта зусім не баючыся, а проста па-блазнюцку дражнячыся з чалавекам: маўляў, нічога ты нам не зробіш, бо мы спрытнейшыя за цябе!

Іван Васільевіч весела назіраў, як Лучанок ганяе вераб'ёў. Прыгадалася, што некалі ў каралёў і цароў былі «хранители клада», «хранители золотого запаса». Гэты аднарукі чалавек, партызан, таксама мае на старасці самую ганаровую пасаду — «ахоўніка залатога запасу» — запасу жыцця, даражэйшага за само золата, бо той скарб ляжыць мёртвы і халодны, а кожная крупінка гэтага золата — кожнае зярнятка жыве, прарасце і ўмножыцца.

Ва ўсе дзверы, люкі лезе сонца. Зіхаціць вясёлкай грэчневы пыл над трыерам. Смяюцца ўнізе дзяўчаты. На таку любоўна буркуюць галубы, паміж іх са звонкім шчабятаннем скачуць усё тыя ж вераб'і. Вецер свішча ў голых галінах таполяў. Вецер — моцны, вясновы. Сонца і вецер з'ядаюць рэшткі снегу. Журчаць ручаі. Нават адгэтуль чуваць, як булькае недзе блізка вада.

Іван Васільевіч заплюшчвае вочы, услухоўваецца ў музыку вясны. Яму хораша. Сёння ён адчувае сябе пераможцам. Не, галоўнае, што сёння іншыя прызналі яго. А былі нялёгкія дні за гэтыя кароткія два тыдні. Было расчараванне.

Захарэвіч, здаецца, не вельмі ўзрадаваўся, калі ён, Антанюк, прыехаў-такі, як дамовіліся. Мабыць не спадзяваўся, лічыў, як і Вольга, што раніца за вечар, ды яшчэ за п'яны вечар — мудрэйшая. Захарэвіч, напэўна, шкадаваў, што запрасіў старога чалавека на такую пасаду. І наладзіў-такі даволі жорсткае выпрабаванне. Пасяліў на кватэры побач са сваім домам. Сам сапраўды ўставаў у пяць і яго, Івана Васільевіча, будзіў, хоць асаблівай патрэбы ў гэтым не было. Гаспадыня і тая абурылася: што рабіць у такую рань? І кожны дзень — заданне з дальнімі паездкамі: у Мінск, у Магілёў. На прадвесні, перад сяўбой, спраў — галава кружыцца. І яна такі кружылася. Нават не ў пераносным сэнсе. У першыя дні, адвыкшы ад такога ранняга ўставання, ад такога рытму, штодзённых паездак, Іван Васільевіч блага адчуваў сябе. Нават мусіў жонцы прызнацца, заглянуўшы дадому:

— Ох, здаецца, не па гадах такая работа!

Вольга не ўзрадавалася. Занепакоілася.

Выпрабаванне, як кажуць тэхнікі, на разрыў. Ці на расцяжэнне? На злом? Як яно там называецца ў супраціўленні матэрыялаў? Ціснуў ці гнуў не адзін Захарэвіч. Парторг. Райком. Аграномы аддзяленняў.

Будыка прыслаў тэлеграму, адкрытую, у канторы саўгаса яе чыталі ўсе: «Захоплены тваёй адвагай, не кожны пенсіянер здатны на

такі подзвіг». Здзекуецца, сабачы сын. Мабыць радуецца, што пазбавіўся ад блізкасці такога сябра. Іван Васільевіч пашкадаваў, што не ён даложыць на бюро гаркома, калі будуць слухаць інстытут. Заключэнне сваё ён такі дапісаў і перадаў у гарком. Але цяпер не ўпэўнены, што наогул будуць слухаць: Будыка ўмее спусціць на тармазах усё, што яму не выгадна. Сваёй дакладной у ЦК ён, напэўна, папярэдзіў і паралізаваў вывады групы кантролю. Трэба ўмець. Своечасовая самакрытыка — найлепшы ратунак ад крытыкі. А ты, упарты ідэаліст, ніколі не ўмеў своечасова пакаяцца. І на цябе сыпаліся шышкі.

Прыязджаў Сямён Сямёнавіч. За дзесяць год упершыню ў гэты саўгас. Безумоўна, знарок — паглядзець на яго, Антанюка. Паглядзець і... «паставіць на месца» — каб не прымалі яго тут як пасланца зверху.

Сямён Сямёнавіч прыехаў з сакратаром райкома. Аглядаў гаспадарку, але пераважна — жывёлагадоўлю. Таксама знарок. Каб тлумачэнні даваў галоўны заатэхнік. Не галоўны аграном. Яму, Антанюку, падаў руку, не глянуўшы ў твар,— гэтак падаваў незнаёмым людзям — брыгадзірам, інжынерам. За ўвесь час ні разу не звярнуўся, ні разу не даў зразумець, што яны даўнія знаёмыя, колішнія супрацоўнікі аднае ўстановы. Звяртаўся толькі да дырэктара саўгаса. Вельмі ўжо яўна падкрэсліваў яго, Антанюкова, цяперашняе месца. Паказваў на гэта райкому, начальніку ўпраўлення, дырэктару. Груба кажучы, проста таптаў. Нахабна. Цынічна.

Да ўсяго Івана Васільевіча прывучыла жыццё, усё бачыў. Але такая дэманстрацыя чалавека, які меў немалую ўладу, балюча абразіла. Не за сябе абразіўся. За яго, Сямёна Сямёнавіча, за тое, што ён топча не толькі яго, Антанюка, старога камуніста, старога чалавека, а нешта больш святое — тыя прынцыпы ў адносінах паміне людзьмі, за якія ён, Антанюк, змагаўся ўсё сваё свядомае жыццё. Балюча было колькі дзён. Але і гэта перажыў.

Самае дзіўнае, што Захарэвіч, здаецца, зразумеў што-нішто інакш, чым хацелася Сямёну Сямёнавічу, і пасля яго ад'езду аслабіў гэтае самае «выпрабаванне на разрыў». Асцярожна вяртаўся да ранейшых адносін — вучня да настаўніка, малодшага да старэйшага. І як бы адчуваў сябе вінаватым. Іван Васільевіч крыўды не трымаў. Ды завошта? Сам некалі амаль гэтак жа выпрабоўваў некаторых работнікаў. Аднак мімаволі трымаўся насцярожана і да дырэктара, і да парторга, і да маладых спецыялістаў, якія скептычна назіралі за ім.

Разумеў, што з такой насцярожанасцю немагчыма працаваць, аднак настроіць сябе на поўную даверлівасць да ўсіх ніяк не мог. Пакутаваў душэўна. Што здарылася? Раней так лёгка і проста

ўваходзіў у любы калектыў, сыходзіўся з рознымі людзьмі. А тут адразу паразумеўся толькі з гаспадаром кватэры — настаўнікам-пенсіянерам ды вось з гэтым «ахоўнікам скарбу». Можа таму і палюбіў адпачываць у зернясховішчы? А сёння, здаецца, растаў лёд. Паехалі аглядаць азіміну — Захарэвіч, ён, Антанюк, упраўляючы аддзяленнем Грыц — малады аграном, скептычна настроены да ўсяго на свеце, але бязлітасны да тых, хто працуе не з поўнай аддачай.

Зіма была снежная. Але снег лёг не на прамёрзлую зямлю. Дзе-нідзе азімыя выпралі. Дзе-нідзе вымакаюць: вады — мора, усе нізіны заліты. Трэба было аглядзець палі, хоць на вока прыкінуць плошчы перасеваў, каб запланаваць насенне, тэхніку, людзей. Газік далёка за дарогі не пралез: як ускочыў на пералеску ў гліну — чуць вырваўся. Хадзілі пехатой. Спачатку вёў Захарэвіч. Але распаўнелы дырэктар хутка здаўся. Змок увесь, распарыўся. Тады павёў ён, Іван Васільевіч. У сваіх высокіх паляўнічых ботах лез у твань трохі не па калені, потым у лагчынах абмываў боты і пяў далей. І хоць бы што. Скінуў фуражку, падставіўшы сівую галаву пад сонца і вецер. Захаравічу і Грыцу (адін маладзейшы на дваццаць, другі — амаль на трыццаць год) сорамна было адставаць. Але гадзіны праз тры дырэктар замаліўся:

— Іван Васільевіч, пашкадуй.

Малады скептык глядзеў на галоўнага агранома са шчырым захапленнем. Смяяўся.

— Казімір Лявонавіч! Даў нам прыпёку стары партызан!

Стоячы на ўзгорку, дзе зямля ўжо падсохла, прагрэлася і рунь па-вясноваму зазелянела, Іван Васільевіч па жартаўлівых рэпліках, па іншых дробязях, па тым, напрыклад, як прыкурвалі, як смяяліся, адчуў: раптам змяніліся адносіны да яго гэтых двух саўгасных кіраўнікоў. Быццам ён вытрымаў самы цяжкі экзамен. Смешна гэта. Аграному патрэбны не моцныя ногі, а добрая галава. А якая галава — меркаваць можна па ўраджаі. Але, пэўна, уражанне зрабілі не ногі паляўнічыя, а настойлівасць, воля і ўменне па-гаспадарску ўбачыць пасевы: дзе трэба пасеяць, колькі гектараў, чым засеяць адмоклыя ўчасткі. Прапанаваў пасеяць кукурузу на сілас — Захарэвіч засмяяўся, задаволены.

— А ты не такі ўжо антыкукурузнік, Іван Васільевіч, як цябе распісвалі.

Пасля, у машыне ўжо, дырэктар у найлепшым гуморы, проста-такі ап'янелы ад вясны, па-камсамольску задорна заклікаў:

— Браткі! Давайце папрацуем так, каб пра нас слава пайшла!

Грыц хмыкнуў — паказаў, што і да славы таксама ставіцца скептычна. Гэтае яго хмыканне збянтэжыла Захарэвіча. І не спадабалася Антанюку, які адчуў шчырасць душэўнага парыву ў закліку Захаравіча: сапраўды хочацца чалавеку папрацаваць з новай сілай, з новым разгонам — і дзеля асабістае славы, і дзеля больш высокай мэты, і ён шукае такіх саюзнікаў, якія памаглі б не за страх і зарплату, а па загаду сэрца і сумлення, ад такога ж светлага гарэння, як у яго.

Можа Захарэвічу спачатку здалося, што запрошаны ім галоўны аграном па гадах сваіх не здолее ўжо загарэцца. Не той саюзнік. І раптам у гэтым паходзе на полі ўбачыў: ды не, можа яшчэ стары! Яны, Захарэвіч і Антанюк, як бы настройваліся на адну хвалю. А гэты скептык перашкаджае. Сказаў нешта накшталт таго, што вышэй пляча рукавы не закасаеш і вышэй пупа не скокнеш...

Іван Васільевіч з маладым запалам кінуўся ў спрэчку:

— Кіраўнік у наш час не рукавы павінен закасваць. Як мы планавалі дагэтуль? Часам пад націскам людзей, якія ў эканоміцы ні бэ ні мэ. Давайце запросім вучоных, няхай зробяць эканамічны аналіз гаспадаркі, дадуць навуковыя прагнозы. Далібог, акупяцца затраты...

Грыц хмыкнуў.

— Мяне здзіўляе, што вы, стары, пацёрты жыццём чалавек, верыце ў лысых склеротыкаў ці ў піжоністых кандыдатаў, якім абы дысертацыя ды месца ў горадзе. Ведаю іх.

— Я веру ў навуку.

— У некаторыя навукі і я веру. Але не ў тую, якая займаецца эканомікай сельскай гаспадаркі.

— Навука павінна мець запатрабаванні практыкі. І прастор. Базу для эксперыментаў. Безумоўна, калі там, у інстытутах, будуць высмоктваць вывады з пальцаў... Калі мы не дамо ніводнай комплекснай задачы...

Крычалі ў кабіне, штурхаючы адзін аднаго. «Газік» кідала на разбітай дарозе. Дзе-нідзе ён буксаваў, матор выў, грэўся. Агледзеўшы палі, ездзілі на Бярозу любавацца разлівам — Захарэвіч прапанаваў: відаць, захацелася яму, каб стары і малады аграномы паспрачаліся даўжэй. А ён слухаў і, як кажуць, круціў на вус. Калі вярнуліся ў сяло, да саўгаснай канторы, Захарэвіч запрасіў:

— Прыходзьце ўвечары да мяне. Вясну стрэнем. Рыгораўна мае чым пачаставаць. Яе ідэя.

Захарэвіч і жонка яго — людзі гасцінныя. У іх часта збіраюцца. І ён, Антанюк, ужо гасціў. Таму запрашэнне нічога не значыла. Але ўсё разам — як хадзілі па полі, як спрачаліся ў машыне, як выказаў

дырэктар свой заклік папрацаваць так, каб слава пайшла, і як запрасіў у госці — давала падставы думаць, што неяк адразу перамяніліся, пераламіліся адносіны да яго, Антанюка. Ад гэтага ўзняўся настрой, стаў сапраўды вясновы. Можа таму і пацягнула сюды, дзе хаваецца насенне, рыхтуецца да сяўбы. Для яго сяўбы. Здаецца, сёння прызналі, нават малады скептык гэты, што не дзеля забаўкі ён прыехаў сюды, не з-за старэчага дзівацтва ці самалюбства. Што ён можа яшчэ пасеяць і вырасціць хлеб. Не адзін раз пасеяць. І не адзін раз зжаць.

Пахне збажыной — пахне жыццём. І вясной. Сонца лезе ў сховішча. Свішча вецер, быццам хоча вынесці хутчэй жывую сілу зерня ў поле.

XV

Пазваніла Вольга. Доўга распытвала пра здароўе, пра работу, пераказвала сынава пісьмо і, як бы між іншым, паведаміла:

— Тэлеграма табе. Слухай: «Іван, памажы знайсці Віту». Без подпісу.— І з іроніяй і рэўнасцю ўсумнілася : — Куды яна магла дзявацца, ваша Віта? — Але тут жа знішчыла сваё сумненне мацярынскай разважлівасцю, амаль трывогай:— Загубіце вы дзяўчыну сваімі тайнамі!

Магчыма, сама тэлеграма без гэтых жончыных слоў: «Загубіце вы дзяўчыну!»— не прачыталася б як роспачлівы кліч дапамогі. А тут адразу ёкнула сэрца: здарылася бяда. І вельмі можа быць, што вінаваты ён. Трэба ехаць. Не марудзячы ні хвіліны.

*9 снежня 1964 года*

Даўно не разгортвала гэты сшытак. Можа год. Чаму зноў захацелася нешта запісаць? Што? Дзённікі вядуць закаханыя. Няшчасныя. І, напэўна, вельмі шчаслівыя. А я? Паперы магу адкрыць тайну: здаецца, я закахалася. Але здарылася «такая бяда» не ўчора. І пісаць у дзённік пра каханне сваё ні разу не захацелася. А вось пра гэта... Чалавек сказаў, што ён мой бацька. Была я сіратой і раптам маю бацьку — партызанскага камандзіра. Ура! Рагатаць ці плакаць? Маці, якая столькі цямніла з маім нараджэннем, прызнала гэты факт. А каму, як не ёй, ведаць, ад каго я нарадзілася? Але ўсё-такі здаецца, што і цяпер яна нешта цямніць, не дагаворвае, мая святая мама. Сумна. Крыўдна. Якія дурацкія забабоны! Законна народжаная я ці незаконна? Што такое законна і незаконна? Ханжаства. Ідыятызм. Мне ўсё роўна, як мяне нарадзілі, па якіх законах. Ой, ці так? Думала ж, што мне ўсё роўна, хто мой бацька, ёсць ён ці няма. Ажно, выходзіць, не. Вось табе і на!

Некалі я ўзненавідзела гэтага чалавека, калі зразумела, чаго ён зрэдку наведваецца. Але паступова нянавісць прайшла. Я ўбачыла

жыццё, і тайнае каханне маці здавалася смешным і наіўным. Каб я так не любіла маці, то са сваім дурным характарам, напэўна, здзекавалася б з яе. І так вырывалася — я натура ўсё-такі грубая, нястрыманая. Неяк спытала ў маці: «Чаму гэта твой каханы больш не прыязджае?» Яна загарэлася, як дзяўчынка. А пасля цішком плакала. Я папрасіла даравання. Маці ёсць маці. Нікога ў мяне бліжэй і даражэй за яе не было і няма.

Ох, як мне захацелася паздзекавацца з яго, калі маці, чырванеючы, прашаптала ў школьным калідоры, што прыехаў яе «партызанскі таварыш»! Ох, думала, дам я гэтаму таварышу! Аж пальцы засвярбелі. Але мама як адчувала: «Я прашу цябе, Віта... Я прашу...»

Здагадалася, пра што яна просіць.

Прыйшла дадому, а ён спіць на канапе. Як дзіця. Малы. І стары ўжо. Хіба пакрыўдзіш такога?

Праўда, калі ён сказаў, я такі чуць не ўзбунтавалася. Хацела крыкнуць: «А ці не залішне позняе ваша прызнанне, дарагі І. В.? На ліха мне цяпер ваша бацькоўства!»

Але пасля яго слоў я не магла ўжо сказаць нічога грубага, бестактоўнага. Усё перавярнулася ва мне. Выходзіць: бацька ёсць бацька. Вось табе і ўмоўнасці. Як зачараваў. Такая добранькая стала, ветлівенькая, што цяпер ажно брыдка.

У яго сям'я, дзеці. У мяне — сёстры і брат. І смех і грэх. Была я без роду, без племені — і на табе. Адразу разбагацела. Фантасмагорыя нейкая. Сон.

Сапраўды — што сон. Тыдзень хаджу як ачумелая. Распытваю ў маці: як жа я ўсё-такі нарадзілася? Бянтэжыцца, чырванее, як дзяўчо. Шкада мне яе. І злосць бярэ. «Ды не маленькая ж я, мама! Калі-небудзь да цябе дойдзе, што я не толькі дарослая, але і перарослая!» Цямніць мая матулька нешта. Ой, цямніць. Таму і радасць мая пацямнела. Сумненні з'явіліся. Ці не змовіліся яны? Не, мама сцвярджае, што праўда — ён мой бацька. Змову такую немагчыма зразумець. Хацела патрабаваць у маці: «Пакляніцеся!» Пабаялася — абразіцца.

Першыя дні так карцела Алегу сказаць, што І. В.— мой бацька. Расхацелася. Не скажу. Спытала, што ён думае пра І. В. «Калючы ён. Побач з такім цяжка жыць. Як ні павернешся — уколешся».— «А ты любіш мякенькіх? Як цёплая падушка? Дык ведай: я такая, як ён!» Хацелася пасварыцца. Але з Алегам нельга пасварыцца: вельмі ён добры. Добры ці добранькі? Не люблю добранькіх! Не люблю мякенькіх, лагодненькіх!

Калі І. В. такі, як кажа Алег, то я, без сумнення, яго дачка. Спытала ў маці: «І. В. быў суровым камандзірам?» — «Да сваіх? Да

партызанаў? Што бацька родны. Любіў людзей, бярог. На дурную смерць ніводнага чалавека не паслаў».

Знайшла аб'ектыўнага суддзю! Мама моліцца на яго. За такое каханне, якое пранесла мама, можна ўсё дараваць. Я хацела б так пакахаць, як яна. Няхай нават і так няўдала — жанатага.

Выпаў снег. Глыбокі. А то ўсё дражніўся. Люблю такую зіму — снежную. Усё навокал — быццам толькі на свет з'явілася ці аднавілася.

Хадзілі з Алегам на лыжах. Ён не ўмее. Дзіўна. Дзе чалавек рос? Чым займаўся да трыццаці гадоў?

Вучыла яго. На рэчцы праваліліся. Трамплінчык з берага мне падабаўся, я скочыла, а лядок кволенькі, снегам засыпаны. Ніколькі не спалохалася, бо ведаю: каб і хацеў утапіцца ў нашай рэчцы, то нельга — вады па калена, восень сухая была.

Алег вельмі спалохаўся. Разгубіўся, не ведаў, як ратаваць мяне. Бегаў па беразе, збялелы, лыжу сунуў: «Хапайся!» А навошта хапацца? Вада і праўда па калена. І побач лёд моцны. Чамусь у адным месцы такая праталіна. Нібы крыніца там гарачая.

Мама і Алег гадзіны тры адагравалі мяне. Як малую. Каб не захварэла. Маці цёрла ногі спіртам. Паілі чаем з гарэлкай. Фу, якая гадасць! Цяпер п'ю чай з малінай. Пітво багоў!

Абрыдлі іх турботы. Чуць вытурыла ў кіно. Ляжу адна. Часам так неабходна чалавеку пабыць у адзіноце! Цішыня. Па радыё Чайкоўскага перадаюць. Хораша! Аж плакаць хочацца. Старэю, мабыць. І інстытуце не любіла класікі — сумна. Эстраду давай, джаз! І раптам усё наадварот. Мама парадавалася б, каб даведалася, што я плачу, слухаючы Чайкоўскага. А можа гэта зусім і не ад музыкі? Я не так ужо ўважліва і слухаю. Я думаю. Поўная галава думак. Пра што? Пра ўсё. Хлушу я сама сабе. Больш — пра яго, пра І. В. Дзіўна, ні ў размове з мамай, ні ў думках я не магу назваць яго бацькам. Але думаю як пра бацьку. Адступілі сумненні. Хачу верыць усяму таму, што расказвала маці. Хачу любіць. Што ні кажыце — добра, калі ў чалавека — няхай яму і 23! — ёсць маці, бацька. І сёстры. І брат. Хачу любіць вас усіх, мае незнаёмыя сваякі!

Рэпеціруем «Лявоніху на арбіце». А ў «палацы культуры» нашым — холадна. У канторы саўгаса — дыхаць няма чым, вокны расчынены насцеж, каб ахаладзіцца, а тут паліто нельга распрануць.

Падбівала сваіх акцёраў усёй капэлай пайсці да Сівалоба. Адны саромеюцца, другія баяцца. Не ўсе згадзіліся. Зайцы. Але ўсе дружна наваліліся на Толю Плюшчая. Бедны Толік! Ён добры хлопец. Шчыры працаўнік. Але нясмелы. Дрыжыць перад старэйшымі, асабліва перад

начальствам. Баіцца сапсаваць адносіны з дырэктарам, з парторгам. І ад камсамольцаў не ўмее адбіцца. Ён — паміж кавадлам і молатам. Я казала ўжо яму неяк: «Расплюшчаць цябе, Плюшчай, калі-небудзь». Смяецца: «Мяне «газікам» ужо раз пераехалі». Ён аўтамеханік. Ляжаў пад «казлом», а шафёр не ўбачыў, рашыў адагнаць машыну, замінала яму. І адно кола пераехала Толю. Нічога, ніякага пералому. Ён, дурань, рашыў паказаць сваю эрудыцыю: «Я — што іёг». З таго часу і прыляпілі яму мянушку гэтую — Іёг. Толя не крыўдзіцца, а маці яго вельмі перажывае. Сварыцца з тымі, хто кліча сына так.

Толя расхрабрыўся ўчора, калі наляцелі на яго за халодны клуб. Пайду, кажа, пазваню Сівалобу, каб рэпеціраваць у канторы. А ў нас — прынцып.

«На чорта нам кантора, дзе ні сцэны, нічога. Напаліце клуб». Хоць наўрад ці можна яго напаліць. З Сівалобам я ўжо сварылася. Прабіць яго, здаецца, нічым нельга. О, гэта кадр той! Той яшчэ! Здаецца, так пра яго казаў І. В. Для мяне І. В. робіцца аўтарытэтам. Быццам да яго не ведала, што такое Сівалоб. Ведала!

Трэба паспрабаваць узяць яго абхадным манеўрам. Кажуць, маладая жонка вяроўку можа віць з мужа.

Так доўга не заходзіла да Сівалобаў таму, што вельмі ж хацелася зайсці ў іх дом-музей. Штодня парывалася і штодня стрымлівала сябе. Расказала ўсім дзяўчатам пра гурток па модах, спадзявалася, што дойдзе да Сівалобіхі жаданне наша і яна прыйдзе сама. Не прыйшла. Разы два сустрэла яе на вуліцы, у магазіне. Яна ветліва віталася, але нічога не пытала. Забылася на сваё абяцанне. Ці не хацела? Каб яна паўтарыла сваё запрашэнне — я пайшла б следам, як школьніца за настаўніцай, з сардэчным трапятаннем.

Сам Гардзей Лукіч, спаткаўшы аднойчы, здзівіў уважлівасцю і ласкавасцю. «Чаму ж не заходзіце, Віталія Іванаўна?» А раней не заўважаў, праходзіў міма. Можа і таму яшчэ не ішла, што ён запрасіў. У мяне гонару — што ў шляхцянкі слуцкай, у нашай Адаліны Аркадзеўны. О, як яна ненавідзіць мяне! Божа мой! Завошта? Настаўнікі кажуць: Адаліна лічыла, што дырэктар-халасцяк павінен быў належаць ёй, самай пекнай, самай адукаванай: гаворыць па-англійску, па-нямецку, па-польску.

Па-беларуску, праўда, развучылася случаначка. Я аднойчы сказала ёй пра гэта. Як яна ўз'елася! Але я не злуюся на яе. Шкада яе. Ёй так хочацца замуж. А хіба я вінавата, што не яна, а я спадабалася Алегу? Ніякая я не добрая. Я злосная, уедлівая. Штодня здзекуюся з яе — з Адаліны. А цётка Марына, гаспадыня яе, казала маёй маці, што

кватарантка плача па начах, у падушку. А я не помню, калі плакала. Можа праўда для яе гэта трагедыя? А для мяне — жартачкі.

Раскідалася я сёння ва ўсе бакі. «У гародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька». Хацела запісаць толькі, як хадзіла да Сівалобіхі, а дапісалася да Адаліны. Няхай ёй добраікнецца! А мне час ужо ў ложак, заўтра — першы ўрок. Чую: мама не спіць, услухоўваецца, стаіўшы дыханне, быццам хоча пачуць на адлегласці, пра што я пішу. Яна думае, што я ад кахання распісалася, бо раней жа не пісала. Не, мама, галоўная прычына, што я зноў пачала таемную размову з дзённікам — не маё каханне, а тваё: з'яўленне І. В., адкрыццё тайны, якую вы так доўга таілі. Амінь! Добрай ночы, Віталія!

Учора мой візіт да Сівалобіхі здаваўся значным, размова цікавай. А сёння сорамна за гэтае наведванне. Разваліласяя, як пані, на мяккай канапе, пейзажыкамі любавалася, арэшкі грызла, цукерачкі, лікёрчык лізала. Цьфу! Як мяшчанка. Слухала пустую балбатню. І сама малола ўсякую лухту. О, гэтая кошка можа замурлыкаць, зачараваць, выклікаць на шчырасць.

«Вам хочацца дзіця, Маша?»

«Дзіця? Я ўжо старая баба, мне трыццаць пяць гадоў».

Ухілілася ад шчырага прызнання, хітруха.

«А вам, Віта?»

«А я хачу мець сына. Прыгожага і разумнага».

Сама сабе ніколі не прызналася ў такім жаданні, а тут — на, любуйся, якая я. А можа няпраўду сказала? Для прыгожага слова ці насуперак ёй: ты — не хочаш, а я хачу. Але сёння ўсё роўна сорамна. Як можна дзяўчыне казаць такое? Яна мужу скажа, нават, калі хочаш, Алегу. Па сяле разнясуць. Варона ўсё-ткі я.

«Чаму ж вы замуж не выходзіце?»

«Ніхто не сватаецца».

«Мужчыны неразумныя. Не бачаць, дзе скарб. Алег Гаўрылавіч вам падабаецца?»

Я не адказала.

«Пачырванелі. Значыцца, падабаецца».

Мама родная, як ганебна я сябе паводзіла! Я, якая нікому ні ў чым не ўступала, па слова ў кішэню не лазіла, пры тым першым наведванні сівалобаўскага музея з І. В. і Алегам так шпіляла гэтую Машу, што, пэўна, ёй і цяпер баліць! «А сабачкі ў вас няма?» Але ж і яна ўмее адказаць: «У нас кошка ёсць. Яна ловіць мышэй».

Невядома яшчэ, хто каго мацней укалоў. Урэшце, калі быць справядлівай, то нельга не прызнаць, што жанчына гэтая ўмее сябе

трымаць, умее падабацца. Нават заваражыла і мяне. Сядзела я перад ёй дзве гадзіны, як трусік перад удавам.

На маю просьбу памагчы нам афарміць спектакль, зрабіць эскізы касцюмаў Маша засмяялася:

«Віта, мілая, якія эскізы! Вы будзеце шыць касцюмы для спектакля пра калгас?»

Пра эскізы я, безумоўна, ляпнула дзеля прыгожага слова, каб падняць значэнне нашай работы. Ніхто касцюмаў шыць не будзе. Хто нам грошы дасць? Ды і навошта, калі акцёры ў такім спектаклі могуць выйсці ў сваім натуральным выглядзе?

Але, здаецца, толькі тут не паддалася яе гіпнозу: настойліва прасіла памагчы нам падабраць касцюмы і зрабіць дэкарацыі.

«Ды не рабіла я гэтага ніколі».

«А вы паспрабуйце. Няўжо вам нецікава пабыць з моладдзю? Хіба не сумна адной сядзець?»

Спахмурнела трохі ад такога запытання. Відаць, усё-такі сумна. Але ж гонар, як у Адаліны.

Пэўна, каб адчапіцца ад мяне, паабяцала паспрабаваць.

«Толькі дайце мне час праверыць сябе. Што я ўмею ».

Правярай на здароўе.

А вось школай чамусьці сама зацікавілася — гуртком кройкі і шыцця. Цяпер яе не шакіравала такая празаічная справа. «Мастак не шые». Цяпер сама сказала, што без практычнага шыцця мадэліраванне не мае сэнсу і тэарэтычна добраму густу навучыць нельга. Што праўда, то праўда.

Калі разважыць вось так спакойна ў вячэрняй цішыні, дык схадзіла я не без карысці. Дарэмна сёння цэлы дзень караю сябе, хоць учора адчувала пераможнай.

Не, Віталія, паводзіла ты сябе ўсё-такі шмат у чым не адпаведна твайму характару і прынцыпам. Згадзіся з гэтым, пакайся і... кладзіся спаць.

Адаліна даўно распускае пра мяне брудныя плёткі. Ігнаруючы, як кажуць, грамадскую думку, я ўвечары заходжу ў халасцяцкі Алегаў пакой пры школе. Яшчэ ў інстытуце была я злейшым ворагам умоўнасцяў і забабонаў.

Але тое, пра што плешчуць Адаліна ды іншыя кумкі, магло здарыцца толькі ўчора. На шчасце, не здарылася. На чыё шчасце?

І раней мы цалаваліся. Не святыя. Учора ён пачаў цалаваць, калі я сядзела на канапе. Цалаваў вельмі горача. І мне было премна. Я не адбівалася... пакуль рука яго не палезла куды не трэба. Тады я так ірванулася — недарма ў інстытуце была разрадніца — што ён апы-

нуўся на падлозе. Мяне рассмяшыла, як ён пляснуўся. А ён пакрыўдзіўся, узлаваўся, кінуў мне: «Дурная!» Тады і я ўзлавалася, нагаварыла чорт ведае чаго і выскачыла, як абвараная.

Мне трэба было дзе-небудзь пагуляць у полі, каб супакоіцца. Але снег забіў усе дарогі і сцежкі. Мяло. І я адразу прыйшла дадому, разгарачаная, узварушаная. Мой выгляд спалохаў маці. Як яна ўглядалася ў мяне! Доўга. Моўчкі. І як хавала я вочы! Мама не вытрымала, спытала:

«Што з табой, Віта?»

«Нічога, мама».

Безумоўна, я пачырванела, збянтэжылася, як малая. О, мама, мама, якое ў цябе пільнае вока! Якія пакутлівыя хвіліны я перажыла, пакуль не здагадалася, што самае лепшае — сказаць, калі не ўсю праўду — сорамна ўсю — то хаця б паўпраўду.

«Я пасварылася з Алегам».

Маці ўздыхнула, здалося мне, з палёгкай. Ведаю : ёй не вельмі падабаецца Алег і мае адносіны з ім. Ды я пачала апраўдваць яго:

«Не думай дрэнна пра Алега. Гэта я вінавата. Ты ж ведаеш мой характар. Пачалі спрачацца пра фільм, а кончылі тым, што пасварыліся. Я нагрубіла».

Што я магу нагрубіць — у гэта мама паверыла. Дзіўна. І крыўдна. Нават мама лічыць, што я такая. А каго я абразіла? Абражаюць мяне.

Зноў-такі, нават мама лічыць, што я вельмі сучасная — у паводзінах, у поглядах на жыццё, на людзей, на мастацтва — на ўсё. І ніхто не ведае, што я можа самая старамодная. У галоўным — у пачуццях сваіх. Як тургенеўскія гераіні.

Гэтак жа было ў інстытуце з Лёнем. Год сябравалі. Усе дзяўчаты былі ўпэўнены, што мы пажэнімся. Але калі вясной у лесе ён вось так нахабна хацеў узяць мяне — я дала яму па мордзе. І скончылася на гэтым Лёнева каханне. На другі дзень хлопец пайшоў з Лейкай Квашой, а перад выпускам яны пажаніліся. Ужо дачку маюць. А я засталася з такам. Добра, тады мне было дваццаць. А цяпер дваццаць тры. Каму патрэбна такая цнатлівасць у такія гады? Тым больш, што гавораць пра мяне і думаюць зусім іншае. Можа нават і мама не ўпэўнена, што я не ведала мужчыны. І нікому не дакажаш. Мне будзе нялёгка перажыць, калі Алег адвернецца гэтак жа, як Лёня. Яго тут жа прыгрэе Адаліна. Яна прыгожая і, вядома ж, больш вопытная, не такая дурная, як я.

Каюся? Шкадую? Не! Не! Не каюся. Не шкадую. Зразумей жа ты, чалавек, інтэлігент, што я не магу так. Не магу. Абразліва гэта.

Брыдка. Назаві мяне сваёй жонкай — і я лягу з табой у ложак. Прытулю тваю галаву да грудзей... Думаеш, я не хачу такой ласкі, не сумую па ёй? Але ж ты не назваў мяне сваёй жонкай. Што ж табе трэба ад мяне? Калі ты кахаеш, навошта табе трэба растаптаць дзяўчыну, прынізіць? Ты ж сам пасля перастанеш паважаць яе. А можа якраз наадварот? Мама... Неяк спытала ў яе:

«Ты ведала, што І. В. жанаты?»

«Ён сам сказаў».

«На што ж ты спадзявалася?»

«Ні на што. Я палюбіла».

Выходзіць, трэба пакахаць да ўтрапення, да самазабыцця, каб усімі ўчынкамі кіравалі пачуцці, а не розум. Напэўна, я кахаю залішне рацыянальна. Таму наканавана мне застацца векавухай. Не надта радасная перспектыва, але што зробіш... У мамы не лепшы лёс. Яна пакахала жанатага чалавека і да старасці застаецца вернай яму, многія гады не атрымоўваючы ніякай узнагароды за сваё каханне. Я, дурніца, не здагадалася тады ўвечары пайсці куды-небудзь з Алегам, каб яны, І. В. і мама, засталіся ўдваіх. Яны ж, па сутнасці, так і не пабылі адзін на адзін. Але думка пра іх сувязь таксама непрыемная, абражае. Брыдка, калі такія старыя мілуюцца.

З трапятаннем ішла ў школу. Як гляну Алегу ў твар? Як стрэне ён? Нічога. Як кажуць, вокам не маргнуў. Сустрэў ласкава і быў, бадай, больш уважлівы, чым раней.

Адаліна сінела ад злосці. Ды гэта сёння мяне чамусьці не радавала.

Ідзе снег. Трэці дзень сыпле. Колькі яго навалiла! З райцэнтра не могуць прывезці кінакарціну. Прарочаць: будзе ўраджайны год. Не вельмі веру пракорам. Нашы пяскі высыхаюць за тыдзень, а тарфянікі да чэрвеня будуць заліты вадой пасля такой снежнай зімы. Я ж помню — вырасла тут. Толькі тады мяне мала цікавілі справы калгасныя. А цяпер усё цікавіць. Па-першае, я — біёлаг, мне трэба навучыць дзяцей любіць зямлю, а не ўсе яе любяць цяпер так, каб яна шчодра плаціла за любоў і ласку. Па-другое, не магу быць абыякавай да людской радасці і гора, да ўдач і няўдач у працы, да парадкаў у саўгасе, у школе, да высакароднасці і нізасці, да людзей добрых і хапуг, нажывалаў. Калі я ўжо вырашыла назаўсёды застацца ў сваім сяле, якое стала родным, то хачу зрабіць нешта добрае. Таму і ваюю за школу, за клуб, за помнік партызанам. Думала: Алег будзе маім верным саюзнікам. Дарэмна спадзявалася, здаецца. Не, ён нічога, падтрымлівае. Але ж вельмі стараецца з усімі мець добрыя адносіны, ні з кім не пасварыцца. А хіба гэта магчыма? Самае небяспечнае, што

пад яго ўплывам і я здаюся, раблюся такая ж — малюск бесхрыбетны. Мне варта было б разнесці сівалобаўскі мяшчанскі быт, а я хаджу і — сорамна прызнацца — любуюся і карцінамі, і мэбляй, і сервізамі. Учора зноў заходзіла. Праўда, так доўга, як той раз, не сядзела, але цукерачку з'ела. І цяпер вось захацелася пайсці да іх, бо больш няма куды. Да Алега — не магу. І ён не прыходзіць.

Раптам стала зусім не абыякава, што пра мяне гавораць, думаюць, пра што пляткарыць Адаліна. А што, калі пайсці да яе? Здзівіць. Ідэя — вартая ўвагі, але без маральнай падрыхтоўкі здзейсніць яе нялёгка. Няхай як-небудзь у іншы вечар. Зіма наперадзе. Аднак і да Сівалобаў не пайду.

Гэта з адной Машай прыемна пасядзець. Жанчына ёсць жанчына. А зараз, увечары, напэўна, гэты стары чунь дома. Пра што я з ім гаварыць буду?

Лаўлю далёкія станцыі. Уяўляю гарады. Захацелася туды, дзе мора агнёў і рака людзей. Можа праўда з'ездзіць да І. В.? Спачатку моцна загарэлася, а пасля пачала патухаць. Няёмка будзем адчуваць сябе — і ён, і я.

З прыёмніка льецца такая душэўная музыка, што хочацца і смяяцца і плакаць. Не ведаю нават — чыя. Здаецца, Грыг. Мама свеціцца — радуецца: нарэшце разумнее дачка. Ад джазаў у мамы балела галава.

Прыйшоў Алег, сур'ёзны, амаль афіцыйны, і пры маці, трагічным голасам, адгарнуў яшчэ адну старонку сваёй біяграфіі: афіцыйна ён не разведзены са сваёй былой жонкай, яна не дае разводу. Нішто сабе староначка! Колькі там яшчэ такіх старонак у яго светлай біяграфіі? Праз паўгода гэтак жа трагічна паведаміць, што мае не адну, а тры жонкі і чараду дзяцей? Ламаю галаву: чаму ён маўчаў дагэтуль? З якой мэтай? Навошта сказаў цяпер? На злосць мне? Ці каб апраўдацца? Маўляў, рады ў рай, ды грахі не пускаюць; даўно прапанаваў бы руку і сэрца, ды вось, бачыш, звязаны яны, рукі мае.

Закіпела я. Хацела пагаварыць з вока на вока. Але махнула рукой. Алег прапанаваў пайсці пагуляць. Адмовілася.

«Я разумею,— вінавата схіліў ён галаву.— Табе балюча. Даруй маю маладушнасць. Я хацеў усё ўладзіць — тады сказаць».

Мне балюча? Не. Болю не адчуваю. Хлушу, аднак. Усё-такі нешта трэснула вось тут — пад грудзьмі, пад маімі поўнымі і прыгожымі грудзьмі, якія даўно просяць мужчынскай ласкі і... дотыку пяшчотных дзіцячых вуснаў. Не сорамна будзе, калі мама чытае дзённік? Не, не сорамна! Нават перад мамай.

Спытала ў яе, што яна думае наконт Алегавага прызнання. Мама не адразу адказала. Падумала, уздыхнула. Сумна ўздыхнула.

«Хочаш, каб сказала праўду? І раней, і яшчэ больш цяпер, я хацела і хачу, каб ты звязала сваё жыццё з другім чалавекам. Не з ім. Не хіліцца маё сэрца...»

Мяне чамусьці апанавала злосць.

«А каго ты выбрала? Як ты звязала сваё жыццё?» — трохі не вырвалася. Дзякуй богу, спахапілася. Якое маю права так жорстка дакараць маму?

Сказала мякка, нібыта ў жарт:

«Дзіўна, што ты такая, мама,— старамодная».

Але і гэта пакрыўдзіла яе.

«Куды мне ўжо гнацца за вамі, моднымі!»

Размова гэтая адбылася яшчэ ўлетку на лузе. Мама з першых пасляваенных гадоў, як толькі прыжылася ў Калюжынах, улетку памагала ў калгасе, асабліва пад час сенакосу і жніва. Людзі здзіўляліся: якую выгаду мае настаўніца ад свае працы? Яна не заўсёды нават атрымлівала натуру на зробленыя працадні. Але, напэўна, і паважалі яе за гэта. Тады была сямігодка, настаўнікаў нямнога, і мама была, бадай, самая аўтарытэтная сярод іх.

Мама і мяне з школьных год прывучала да працы на зямлі; можа, таму і біёлаг атрымаўся, хоць і не дужа добры. Не скажу, што вельмі я рвалася да працы ў полі. Калі дзяўчат-равесніц брыгадзір пасылаў, то ішла, каб не адрывацца ад іх.

У саўгасе хапае рабочых рук, і мама не ходзіць ужо каторы год — няёмка, баіцца, каб не падумалі, што з-за грошай.

Але мінулым летам на суботнік на сенажаці паднялі ўсю інтэлігенцыю. Работа так спадабалася, што я засталася на лузе на цэлы тыдзень. Вясёлыя былі дзянькі. Напрацуешся, напяешся, нарагочашся! Засталіся ж адны дзяўчаты, якім не трэба карміць дзяцей, даіць кароў. Хлопцаў нежанатых, праўда, было нямнога. А дзе іх у наш час хапае на кожную дзяўчыну? Але ўсё роўна праводзілі вечары весела. Патанцаваць можна і з жанатымі. Мужчыны — народ дзіўны. Цэлы дзень махае касою па кустах — лугі нашы запушчаныя. А ўвечары другі адбівае такога «крыжачка» ці «гапака», што зямля гудзе. З дзяўчатамі асабліва любяць пакружыцца. Ды яшчэ каторы і грэшныя думкі трымае ў галаве, забыўшыся на жончыну кару. Мне было асабліва весела. Да мяне пачаў заляцацца Толя Плюшчай, Іёг гэты, наш камсамольскі лідэр. Ды яшчэ тады Алега не было. Не скажу, што мне падабаўся Толя. Але каму з нас, свіных донак, не прыемна, што сын адамаў кідае на цябе вокам?

Дзяўчаты кпілі з мяне, з Толі. І мне было смешна. З яго. Такі шумны, актыўны ў жыцці, перада мной рабіўся цішэй вады, ніжэй травы. Паводзіў сябе, як вучань, закаханы ў настаўніцу. Заставаліся адзін на адзін — двух слоў звязаць не мог. Я падарыла яму вечары два ці тры. Хадзілі па пясчаным беразе абмялелай ракі, слухалі дзеркачоў і лягушак, спевы і гоман каля недалёкіх буданоў. Дакрануцца да мяне Толя не адважваўся. І гаварыць у першы вечар давялося мне адной. Але пасля патроху разгаварыўся. І раптам пачаў агітаваць... уступаць у партыю. Можна было б пасмяяцца з такога закаханага, каб прадмет размовы не быў такі сур'ёзны і каб сакратар камсамольскай арганізацыі так горача не даказваў, што я «дастойная быць у авангардзе».

Пасля я доўга думала над гэтай размовай. І чым больш думала, тым больш пераконвала сябе, што Толя мае рацыю. Праўда, чаму мне не ўступіць у партыю? Столькі гадоў была нядрэннай камсамолкай. А потым што, калі перарасту? Далучуся да старых настаўнікаў, якія, азіраючыся, шэпчуцца пра тыя непарадкі ў саўгасе, у школе, пра якія я на сходах кажу на поўны голас? Не, не хачу азірацца! Хачу заўсёды быць у гушчы жыцця і памагаць людзям і сваёй працай, і сваёй грамадскай актыўнасцю! Кар'ера мне не трэба. Якая можа быць кар'ера ў настаўніцы? Дарасці да завуча гадоў праз дзесяць-пятнаццаць? Невялікая кар'ера і несалодкі хлеб.

Не, мне трэба адно: каб пра будаўніцтва школы, клуба, пра рамонт хат людзям, пра ўмовы працы даярак, пра той лён, што згнаілі, пра п'янства некаторых актывістаў гаварыць не з кумамі ды цёткамі, не ў настаўніцкай на перапынках, а там, дзе такія пытанні вырашаюцца,— у арганізацыі людзей, якія ўзялі на сябе высокі абавязак кіраваць жыццём.

Тады ж, улетку яшчэ, сказала пра сваё жаданне маці. Здзівіла мяне мама незвычайна. Яна спалохалася. Проста збялела. Ажно дыханне заняло ёй. Не адгаворвала. Але такім голасам папрасіла не спяшацца, падумаць, што мне зрабілася холадна ў спякотны дзень. Нічога не разумею і дагэтуль. Пражыла з маці дваццаць тры гады і, выходзіць, не ведаю яе. Партызанка, сяброўка праслаўленага камбрыга, пра якога ў кнігах пішуць,— за кнігамі такімі ты вельмі сочыш, мама! — і раптам спалох ад жадання дачкі зрабіць такі сур'ёзны крок. Не вальнадумства ж якое-небудзь.

Можа цябе спалохала, што я не ведаю, хто мой бацька, і мусіла б пісаць тую ману, якую ты сказала мне малой?

Карацей кажучы, астудзіла мяне маці тады. А пасля прыехаў Алег, з'явілася захапленне ім. Стоп! Што такое? Раней ты называла

свае адносіны з ім каханнем. Цяпер — толькі захапленнем? Ах, божа... Ну, каханне, каханне. Ну, трэснула ў грудзях нешта... Не вельмі ўжо балела. «Загаіцца, пакуль жаніцца», як кажа наша тэхнічка Адарка.

Заносіць сёння нешта ва ўспаміны.

Учора перад рэпетыцыяй Толя раптам знянацку абваліў на маю галаву снежную гару. У яго таксама здараецца. «Віталія! Усё як мае быць! У райкоме я дамовіўся. З парторгам пагаварыў. Акрамя камсамола, рэкамендацыі даюць Ганкіна і Сівалоб. Афармляйся хутчэй. Толькі Лескавец прасіў зайсці».

Стаяла я, не ашаломленая — ачумелая, і лыпала вачамі.

«Толя, даражэнькі. Так жа не робіцца».

«Як так?»

«Ды так».

«А як робіцца?»

«Ды рэкамендацыі я сама павінна прасіць. У людзей, якія мяне лепш ведаюць».

Толя, калі гаворыць пра справы, ды яшчэ на людзях, смелы да нетактоўнасці.

«А ты сама і папросіш. Я за цябе прасіць не буду».

«Але ж ты папрасіў ужо».

«Ну, ведаеш, дрэнны я быў бы сакратар, каб пусціў на самацёк...»

«А калі я не хачу, каб гэтыя давалі».

«Ты што, ашалела? Запомні: у партыі ўсе роўныя. І калі камуністы — з якім стажам! — згодны рэкамендаваць цябе — скажы ім дзякуй. Няма чаго дзяліць людзей па тым, ці падабаюцца табе іх насы, ці не падабаюцца».

«Не насы — праца іх, паводзіны».

«Гэта — асобая размова. Будзеш мець права крытыкаваць любога члена партыі — скажаш пра іх працу».

Такі ён — наш Іёг. Адзін раз здаецца фармалістам, другі — настырным да нахабнасці, а ў іншых акалічнасцях, як у тыя вечары на лузе,— двух слоў вымавіць не можа, у сапраўднасці ж — сардэчны хлопец: вясёлы, жывы, сумленны да наіўнасці.

Пасля размовы на рэпетыцыі з'явілася ў мяне, далібог жа, шалёная думка. Цяпер, праз суткі, трошкі смешна самой. А ўчора, гледзячы на яго ў ролі, я ў думках сваіх зусім сур'ёзна папрасіла:

«Толя, даражэнькі, прызнайся мне ў каханні, пасватайся — і я тут жа выйду за цябе замуж».

Ты парадуешся, мама, прачытаўшы гэта? Не радуйся. Нічога не будзе. Гэта так — браджэнне пачуццяў, свавольства думак. Кахаю я

ўсё-такі Алега, і табе, дарагая матуля, напэўна, прыйдзецца прызнаць яго зяцем. Я цярплівая. Пачакаю.

Ох, аднак і распісалася я сёння! Цікавы гэта занятак — пісаць вось так. Як бы яшчэ раз перажываеш тое, пра што запісваеш. Але перажываеш ужо не стыхійна — асэнсавана. І тады часам дзе-ндзе пачынаеш хітраваць сама перад сабой. Гэткая гульня ў «хованкі і адгадванне».

Канікулы. Дні цягнуцца сумна і аднастайна. Вазіла сваіх выхаванцаў на раённы агляд школьнай самадзейнасці. Але выступілі мы няўдала, радасці было мала і ў мяне, і ў вучняў. Вучняў прыгнятала беднасць нашых касцюмаў. У другіх школах — шык. Адкуль яны бяруць грошы?

Вярнулася злосная. На педсавеце дакладвала так, што маме зноў стала страшна за мяне. Дырэктар таксама і чырванеў, і бляднеў. Настаўнікі сядзелі, апусціўшы вочы. У адной Адэліны вочы гарэлі, як у тыгрыцы, якая пачула, што можна вырваць у суперніцы здабычу.

Мама і Алег, раптам зрабіўшыся аднадумцамі, дакаралі цэлы вечар, што так нельга паводзіць сябе на афіцыйных сходах, што патрэбны нейкі такт, развага, пачуццё меры і гэтак далей і гэтак далей. Усе мяне вучаць — абрыдла. Але не пярэчыла. Няхай думаюць, што раскайваюся, і пацешацца. Толькі так можна супакоіць маму.

Цяпер штодня — лыжы. Адзіная радасць. Хаджу больш з вучнямі. Зрэдку — з Алегам. Ён, нарэшце, навучыўся. Калі ідзем з Алегам, знарок вяду міма Адалінінай кватэры. Уяўляю, як яна шыпіць.

Хацелася аднойчы запрасіць Толю і прайсці міма школы. Як бы паглядзеў на гэта мой верны лыцар? Ды Толя — затурканы дзяляга. Замахаў рукамі, закрычаў:

«Ты жартуеш? Думаеш, у мяне ёсць час прагульвацца? Я — рабочы чалавек, а не інтэлігент які!»

Дурань. Быццам рабочаму нельга пагуляць на лыжах, ды яшчэ з дзяўчынай, якая табе падабаецца. Ох, гора мне з табой, Толя. Каб у цябе ў заляцанні было столькі актыўнасці, як у працы! Ты здолеў бы некага зрабіць шчаслівым.

Тады адразу, калі мы, пасля наведвання Сівалобаў, хадзілі з І. В. па вуліцы, і колькі дзён пасля яго ад'езду, мне так хацелася з'ездзіць і пазнаёміцца з яго сям'ёй — з сёстрамі маімі. Зачароўвала думка, што ў мяне ёсць сёстры і брат. Хадзіла, як п'яная. Але любы хмель выветрываецца. Наступае цвярозасць. Жаданне патроху астывала. Толькі цяпер вось, на канікулах, успыхнула іскрынка ў патухлым кастры, прабілася праз зляжалы пласт прысаку.

Сказала маме. І яна... зноў спалохалася. Што такое? Мамачка, любая, што з табой? Так упрошвала не ехаць, што мне стала сорамна, быццам я знарок здзекуюся з блізкага чалавека.

Магчыма, маме хацелася, каб я паабяцала, што ніколі туды не паеду. Ну, не! Такога абяцання я не дала. І не дам! З'ездзіць да І. В. я павінна. Абавязкова!

Нарэшце скончыліся канікулы. Працаваць весялей.

Сёння перад заняткамі ў настаўніцкай з'явілася Маша Сівалоб. Увайшла без збянтэжанасці, няёмкасці, як роўная да роўных, прыгожая, як багіня. Нават Адаліна перад ёй памеркла. Усе здзівіліся. Ды Алег хутка растлумачыў — прадставіў: «Наша новая настаўніца — Марыя Мар'янаўна Сівалоб. Райана дзеля эксперыменту дазволіла дзяўчат восьмых класаў перавесці на іншае палітэхнічнае навучанне — кроіць і шыць. Не адны даяркі ды цялятніцы патрэбны. Марыя Мар'янаўна — мастак-мадэльер. Спецыяліст высокага класа. Ёй перадаюцца ўсе гадзіны рысавання. Загад гатоў. Прашу любіць і паважаць новага члена нашага калектыву».

Мар'я Мар'яўна — вучні адразу яе так ахрысцілі, і я пішу па інерцыі — пераможна азірала калектыў, у які ўступала. У настаўнікаў былі посныя твары. Карней Данілавіч вельмі смешна ікнуў-хаўкнуў неяк, як падавіўшыся косткай. Але ніхто не засмяяўся.

Мяне спачатку хіба адно абурыла, што тып гэты — Алег, каханенькі, даражэнькі мой, нават мне ні слова не сказаў пра свае захады ўладзіць у школу Сівалобіху. Тайком ды цішком. Але мне спадабалася, што Маша да нас прыйшла. Гэта ж — здорава! У нас з'явяцца свае краўчыхі, мадэльеры. Пашыем, нарэшце, касцюмы для самадзейнасці і не будзем, як бядначкі сярод багата апранутых. Сапраўды, колькі можна рыхтаваць даярак? Кароў на ўсіх не хопіць. Ды і што вучыць нашых дзяўчат гэтай прафесіі. Яны з маленства ўмеюць даіць. Ёсць хлопцы, якія нядрэнна малююць. Нарэшце, з імі будзе займацца чалавек, які ўсё-такі нешта разумее ў мастацтве, мае густ. Пакажа сваю калекцыю карцін.

Так прыкладна я разважыла, ведучы ўрокі. Безумоўна, пры гэтым падагравала крыўду на Алега, каб не астыла, спакушала сябе на вясёленькую размову.

Выйшлі са школы разам з мамай. І — о божа! — даўно не бачыла маму такой абуранай. Яна нават не саромелася слоў, якіх раней ад яе ніколі не чула.

«Г.., кажа, твой Алег Гаўрылавіч, а не дырэктар. Дробны падхалім. Каб уладзіць жонку дырэктара саўгаса, ён адбірае кавалак

хлеба ў дзяцей. Іх чацвёра. Сам Карней Данілавіч інвалід. Лёгкія прастрэлены».

Спрабавала я абараніць Алега:

«Ды не ўмее ён маляваць, Карней Данілавіч. Чаму навучыць такі настаўнік?»

«Навучае. Многа год. Схадзі на яго ўрокі па фізіцы».

«То і няхай выкладае адну фізіку».

«Лёгка табе разважаць! Колькі ён будзе мець гадзін, калі іх двое, фізікаў? Пасядзела б ты з такой аравай на адной стаўцы».

«Мама! Ты ж літаратар! Столькі гаворым пра эстэтычнае выхаванне. А рысаванне ды спевы аддаём — каму гадзін не хапае. Ды не багадзельня ж школа. Не сабес».

Пераканаць маму немагчыма. Супакоіцца яна не можа і дагэтуль. Пасля абеду сказала:

«Ідзі да гэтага... дырэктара. Зрабі так, каб ён не прыходзіў сёння да нас. Не жадаю бачыць яго фізіяноміі! А то калі я сарвуся і выкажуся — больш сюды ён не з'явіцца».

Алег адбіваўся ад маіх наскокаў: маўляў, асабіста ён ніякіх захадаў не рабіў, а таму і не казаў нічога, усё зроблена без яго, па ўказанні райкома. Можа праўда?

Усё разам — тое, што казала маці, і тое, што сказаў Алег,— заводзіць мяне, як гадзіннікавую міну, супраць гэтай Мар'яўны (дасціпныя ж дзеці!). Весці гурток на грамадскіх пачатках не вельмі кінулася. А за грошы — з'явілася з выглядам ахмістрыні.

Прыходзіў Толя. Быў заклапочаны. Як бы вінаваты ў нечым. Доўга разглядаў кнігі, загаворваў мне зубы. Бачыла: карціць яму сказаць нешта не вельмі прыемнае. Для каго — думала. Нарэшце, узяўшы шапку, каб выходзіць, адваляўся:

«Да Сівалоба па рэкамендацыю не хадзі. Адмовіўся,— і ўзлаваўся — спачатку на яго: — Салідны чалавек, а паводзіць сябе... несур'ёзна.— Потым на мяне: — Відаць, зноў ты нагаварыла чорт ведае чаго? Лёгка вам крытыкаваць збоку. Пасядзелі б на яго месцы!»

«Нічога я нідзе не гаварыла. Наадварот, перад жонкай яго падхалімнічаю».

«Усё зразумела. Насмешнічаеш, мабыць. Памаўчала б хоць да ўступлення».

«Дзіўная ў цябе прынцыповасць, Толя! Калі такім чынам ты хочаш заціснуць мне рот, то можаш больш не вяртацца да гэтай размовы».

Адным словам, пагутарылі мы з Толем на высокіх нотах. А пайшоў ён — я задумалася: чаму Сівалоб адмовіўся ад свайго абяцання?

Дасягнуў мэты — уладзіў жонку? Ці дайшло абурэнне, якое выказвала мама?

Як бы там ні было, але заела мяне моцна такое хамства. І я цвёрда вырашыла: уступлю! І як можна хутчэй. Чым я горшая за Сівалоба? Жыццё пакажа, хто з нас дасць больш карысці. Выступіць супраць? Не адзін Сівалоб вырашае. Ёсць арганізацыя, у ёй — сумленныя людзі, многія ведаюць мяне з маленства, дваццаць гадоў ужо. На біяграфіі маёй парушынкі няма. І рэкамендацыі дадуць без Толевай ці каго іншага дапамогі.

Сказала маме пра свой намер. Сказала рашуча, каб маці зразумела, што ніякія адгаворы яе і страхі больш не падзейнічаюць.

«Ты прасіла падумаць — я паўгода думала».

Радасці, безумоўна, маці не выказала, але таго страху, які апанаваў яе чамусьці ўлетку, цяпер і ў памінку няма.

Маці прыняла маё рашэнне амаль спакойна, са сваёй звычайнай разважлівасцю. Мы добра пагутарылі. Па-свойску.

Мама параіла: у старшыніхі сельпо таксама не прасіць рэкамендацыі. (Атрымай, Толік, дулю!) Лепш папрасіць у дзядзькі Хведара Карнейчыка. Былы партызан, цяпер — просты вартаўнік, у сяле яго ўсе паважаюць, нікому чалавек дарогі не пераступіў. А другую — у былога дырэктара нашай школы Ціхана Мікалаевіча. Ён вучыў мяне з першага па дзесяты клас. Цяпер на пенсіі. Жыве ў райцэнтры ў сына — рэдактара газеты.

Заўтра ж паеду да яго.

Ты — разумная, мама!

А вось тое, як Алег паставіўся да гэтае падзеі, наводзіць на розныя думкі, даволі супярэчлівыя. Ён сказаў:

«Віншую».

Але здалося: сказаў няшчыра, нават з іроніяй.

Я адказала:

«А можа рана яшчэ віншаваць?» — І весела падумала: «Табе, відаць, не хочацца, каб жонка была ва ўсім роўная з табою. Феадал!»

Цяпер думаю пра гэта яго «віншую» больш сур'ёзна. Робіцца сумна.

Яшчэ ён спытаў, таксама не без іроніі: «Гэта цябе Плюшчай загітаваў?»

Няўжо раўнуе? Ад такой думкі весялею.

Толя, даражэнькі, заходзь часцей да мяне ў госці! Абяцаю — больш не сварыцца. І на лыжы цябе пастаўлю. Сілком выцягну. І мы пройдзем міма школы. Няхай падзівіцца пан дырэктар!

Доўга думала над аўтабіяграфіяй. «Ніводнага факта таіць нельга». А што напісаць пра бацьку? Што?

Не напісала нічога. Гэта мой выклік грамадству. Я — незаконнанароджаная. Выдумаў жа нехта такое слова. Узаконіў. Якая брыдота! Быццам ад мяне залежала, як нарадзіцца — законна ці незаконна. Але ж існуе катэгорыя такіх дзяцей. Ім не запісваюць бацькавага прозвішча. Яны носяць мацярынскае, што, на маю думку, зусім лагічна і справядліва. Яны не ведаюць, хто іх бацька. Мне пашчаслівіла: я ўрэшце даведалася. Але ж, відаць, ёсць такія, для каго гэта застанецца тайнай на ўсё жыццё. І вось тут грамадства зрабіла вялікі крок наперад: не папракае і не дапытваецца, хто ж бацька. Дзецям дадзена права не ведаць, а калі і ведаць, то нідзе не асвятляць гэты сумны факт сваёй біяграфіі — нараджэнне без бацькі. Дык чаму я павінна крычаць? У мяне таксама ёсць права маўчаць. Але, мабыць, сумненні грызлі — паказала напісанае маме. Яна прачытала і нічога не сказала, Выходзіць, ухваліла. Зрабілася трошачкі як бы балюча. Відаць, хацелася, каб мама параіла, папрасіла напісаць пра І. В.

Ішла да Лескаўца — калені дрыжалі. Проста агідна. Перад незнаёмымі людзьмі я не вельмі смелая, губляюся. Са сваімі языкатая. Але ад такога перажытку, як страх перад начальствам, здаецца, вызвалілася даўно, яшчэ ў школе.

Лескавец усяго-наўсяго сакратар саўгаснай партарганізацыі, чалавек знаёмы. Дык чаго перад ім дрыжаць? За біяграфію? Баялася, што спытае пра тое, пра што не напісана? Не, проста, відаць, ад таго, што чалавек, якога страчаю амаль штодня, па сутнасці — малазнаёмы і загадкавы. З-за сваёй маўклівасці. Не люблю маўчуноў. Не разумела, як выбралі такога. Маці і рабочыя, праўда, гавораць пра яго добра: справядлівы, чулы. А я не разумею, як стасуюцца добрыя якасці з такім упартым маўчаннем? Ні дакладаў яго не чула, ні лекцый. На сходах адно-два словы зрэдку скажа — толькі аб практычных, гаспадарчых справах. Праўда, да маласлоўя яго прыслухоўваюцца. Але ўсё ж, здавалася мне, не трыбун, не змагар, такі не павядзе за сабой народ. Не тое, што камсамольскі правадыр наш — Толя. Гаварун, завадзіла. (Завадзіла, на лыжах выйсці не можа. Трэба выдумаць які-небудзь агітпаход, каб Толя мусіў весці сваю гвардыю.)

Ідучы, прадумала ўсё, пра што мог спытаць сакратар : ад майго нараджэння — да таго, што такое дэмакратычны цэнтралізм, ад спраў у школе — да вайны ў В'етнаме. Падрыхтавала звышразумныя адказы. Бліскучыя. Каб здзівіць Рамана Іванавіча. Але здзівіў ён. Перш за ўсё — звычайнасцю, з якой стрэў і пачаў разглядаць дакументы мае. Ніякіх эмоцый. Такая ўжо будзёншчына — што жах.

Я не хацела святочнасці, але ўяўляла ўсё інакш. А тут спачатку патыхнула нават абыякавасцю. Але, прагледзеўшы анкету, аўтабіяграфію, Раман Іванавіч нечакана з цікавасцю і ўважлівасцю прачытаў рэкамендацыі. Гэта мяне і супакоіла і ў той жа час усхвалявала — з іншай прычыны.

«Добра.— Потым падумаў і пахваліў: — Малайчына! — І тут жа зноў здзівіў — пашкроб патыліцу, уздыхнуў: — Мнагавата інтэлігенцыі. А рабочых мала».

Я проста аслупянела. Што адказаць на такія словы? Дзе мае разумныя, дасціпныя адказы? Але крыўды не з'явілася. Раптам праз такі клопат неяк зусім з іншага боку адкрыўся ён, гэты маўклівы чалавек. Здаецца, пачынаю разумець, за што яго любяць рабочыя. У «кульдзюме» ў дзень палучкі паслухаеш: усім косці перамываюць — дырэктару, аграному, заатэхніку, брыгадзірам, Лескаўца ж вельмі рэдка калі чапаюць, нават п'яныя.

Пагаджаюся: чалавек добры. А ўсё ж — не змагар. А калі змагар, то не для нашага часу.

Пад канец нашае вельмі немнагаслоўнае размовы ён яшчэ раз здзівіў мяне.

«Слухай,— кажа,— дачка, ты ведаеш, які я гаварун. А мне на раённым семінары сакратароў даручылі даклад... пра работу з моладдзю, з камсамолам. Памажы напісаць такі даклад».

Не саромеецца чалавек прызнаць, што сам не можа напісаць нават пра сваю ўласную работу. А можа так хітра правярае, што я ўмею? Гэтага маўчуна голымі рукамі не бяры. А я, дурніца, вушы развесіла. Ну, няхай правярае! Хацелася б мне пабачыць, як ён будзе чытаць пра сваю работу з моладдзю. Я так размалюю!.. «Кожнаму дзіцёнку выдам па лапцёнку».

*30 студзеня*

Які радасны настрой! Маму ажно палохае мая весялосць. Прынялі! Сумненняў наконт таго, ці прымуць, безумоўна, не было. Але ўсё роўна передрыжала, як ні перад адным экзаменам. Сорамна прызнацца нават самой сабе, як калацілася, ідучы на сход. Але ўсё адбылося прасцей, чым думала. Увогуле, амаль усё ў жыцці адбываецца прасцей, чым уяўляеш: знаёмства з новымі людзьмі, экзамены, прыём у камсамол, і нават у партыю, каханне і г. д., і г. д. Напэўна, і нараджаюць прасцей, чым я думаю, маючы ўяўленне па кнігах ды расказах. Акушэрка наша Ліза расказвае пра роды, якія прымае, як пра вельмі звычайную справу, ажно нецікава слухаць.

У галаве ў мяне карнавал. Але доўга пісаць не хочацца.

З-за свайго дурнога характару я магла-такі ўскладніць прыём. Знарок аддала Лескаўцу яго даклад пра работу з моладдзю за дзень да сходу. Няхай ведае, каго ён будзе мець у сваёй арганізацыі! Пасля, безумоўна, шкадавала і праз даклад гэты дрыжала. Магла ж аддаць пасля сходу.

Але сакратар яшчэ раз здзівіў. Перад сходам падышоў і падзякаваў за даклад — здаецца, зусім шчыра, без іроніі, без нічога. Калі даведаюся, што Раман Іванавіч прачытае ўсё, што напісала, на семінары, перад райкомам, канчаткова пераканаюся, што ён — Камуніст з вялікай літары, хто не баіцца па-ленінску самакрытыкавацца і ставіць вострыя праблемы.

Усё адбылося проста. Аднак... Дзядзька Хведар сказаў:

«Якія могуць быць пытанні? На нашых вачах вырасла. А палітыку... дык яна знае лепш за нас. І статут, канечне, выштудзіравала ад коркі да коркі. Прыняць!»

Як кажуць, прапанова кароткая і ясная. Аднак... было пытанне. Адно. Тое, якога баялася.

Спытаў Сівалоб. Сядзеў у першым радзе, як ксёндз. Свяціў лысінай. Круціў вялікімі пальцамі.

«Прабачце, Віталія Іванаўна... Хто ваш бацька? Дзе ён?»

Адчула, як зямны шарык, маленькі такі, ненадзейны, адарваўся ад маіх ног і паляцеў чорт ведае куды — у чорную бездань — і я засталася вісець у прасторы, без усялякай апоры. Нейкі міг не было і паветра, яно вылецела з лёгкіх, і я баялася ўдыхнуць, баялася разявіць рот. Відаць, паўза зацягнулася. Потым я ўбачыла вочы людскія, адны вочы, многа вачэй, і яны вярнулі мне сілу.

«Мой бацька — Антанюк, Іван Васільевіч».

Сказала — і адразу адчула, што ступіла на новую, больш трывалую планету, цвёрда стала на ёй. І тады ўжо амаль не кранула брудненькая ўхмылачка на доўгім выслізнеш« Сівалобавым твары. А Алегавы вочы трохі не рассмяшылі. Яны зрабіліся вялікія, як шклянкі.

Толькі яны ўдвух — Сівалоб і Алег — ведаюць, хто такі Антанюк. Больш ніхто не ведае. Але ніхто не стаў распытваць, хто такі Антанюк, дзе ён, чаму не жыве з намі. Напэўна — з-за павагі да маці не спыталі. О, добрыя, слаўныя людзі ў зашмальцаваных ватоўках, у падшытых валёнках, дзякуй вам за вашу далікатнасць, за вашу чуласць! За ўсё вам дзякуй! Што вырасла сярод вас, што жыву адным жыццём! Што вы шмат чаму навучылі мяне і даверылі дзяцей сваіх, каб нечаму і я навучыла іх.

Алег узрадаваны. Задаволены, што і ў мяне была тайна. Мякенькі дакараў увесь вечар: маўляў, яго пііла, што не сказаў адразу пра

развод, што таіў гісторыю з назначэннем Мар'янаўны, а сама вось якая — больш важнае скрывала. Чаму? Навошта? З якой мэтай? Хіба сорамна за такога бацьку, нават калі ён жыве і з другой сям'ёй?

Здаецца, Алегу падабаецца, што ў мяне такі бацька. Ад гэтага зрабілася яшчэ больш радасна. Мы гулялі пасля сходу да позняй ночы. Зноў цалаваліся. Я была на сёмым небе і паводзіла сябе, як апошняя эгаістка, зусім забыўшыся на маму. А яна, нябога, перакалацілася мацней, чым я. І даўжэй. Намнога даўжэй. Калі я вярнулася апоўначы, мама яшчэ не спала.

Тады я зразумела і прасіла прабачыць. Пра тое, што мяне прынялі, яна ведала — збегала да дзядзькі Хведара. Але стары, безумоўна, нічога не сказаў пра Сівалобава пытанне. А калі я сказала пра яго і пра свой адказ — здалося, мама зноў спалохалася. Я абняла яе.

«Мамачка, даражэнькая, чаму ты такая баязліўка? Проста смешна. Не верыцца, што ты была ў партызанах. З малым дзіцем. Ты ж такія жахі расказвала пра блакады. Там ты не баялася?»

«І там баялася».

«Ну, добра, там — смерць... А цяпер чаго баішся?»

«Нічога я не баюся»,— як бы схамянулася, што, па сутнасці, прызнала сваю боязь.

«Баішся, што пра цябе дрэнна падумаюць? Ты ж святая, мама. Ды і не ў сярэдневяковое жывем. Хто што можа сказаць, што я нарадзілася не ад законнага шлюбу? Якая старасвеччына! Мяне гэта ні кроплі не турбуе. Я жыву — і мне хораша. Парадуйся разам са мной, мама!»

Але калі я сказала, што на тым тыдні еду да бацькі, мама ажно сцялася і пабялела. Пакуль што нічога не сказала, але адчуваю — рыхтуецца зноў адгаворваць. Нічога не будзе, мама! Цяпер я абавязкова паеду! Цяпер ужо ніпіто не стрымае мяне!

*17 лютага*

Не трэба было мне ехаць туды. Мама разумная, яна адчувала, што сустрэча з яго сям'ёй можа так развярэдзіць душу. Мама амаль узрадавалася, калі пачула, што пагасціла я ў ролі дачкі партызанаў яго брыгады — і толькі, не больш, што ніякай драмы не адбылося, усе змаўчалі. Мама ўзрадавалася... А я... Каб яна здагадвалася, як мне балюча. На душы пагана-пагана. Сорамна за свае паводзіны і жаданні. Сорамна за яго. Зайздросна. Ім, законным дзецям, зайздрошчу. Цьфу! Хочацца плюнуць на самую сябе. Дурная! Жыла, працавала сярод людзей, і ўсё навокал было проста і светла. А цяпер вось пакутуй. На ліха трэба была тая паездка!

Трапіла я на вяселле. Лада выходзіла замуж за марака. Пазнаёмілася з ім у Крыме, улетку на канікулы ездзіла да мора. І пажаніліся ўжо. Па-сучаснаму. Не тое што я.

Ап'янела я ад дарожных думак і мар, страху і шчасця, ад доўгага стаяння перад дзвярамі, за якімі шумела бяседа, ад яго радаснай сустрэчы, ад здзіўлення і радасці начальніка штаба — доктара навук, ад гасцей, ад віна — і вяселле гэтае ў маёй памяці, як сон, у якім усё перамешана: прыемнае і сумнае, вясёлае і жахлівае, высакароднае і брыдкае.

Нейкія барадатыя морды. П'яныя паэты. Тоўстыя вучоныя. Старыя і модныя танцы. Шалёная музыка. Каб не здавацца «дзярэўняй», я таксама круціла сваім тоўстым сялянскім азадкам. І, напэўна, выглядала, як карова на лёдзе. Дрыжыкі праймаюць, як успомню.

Але ўсё гэта, нарэшце, глупства ў параўнанні з тым, што я перажыла і перажываю цяпер.

Як яны паставіліся да мяне?

Лада — абыякава. Зразумела — ёй было не да мяне. На другі дзень пасля вяселля маладыя да вечара не вылазілі з свайго пакоя.

Старэйшая мая сястра, па-мойму, самаўлюбёная эгаістка, якую ўвогуле мала цікавяць іншыя людзі. Ды і гутарыла я з ёю, па сутнасці, адзін раз, на другі дзень — калі яна прыехала па сына.

Вольга Усцінаўна была вельмі ветлівая да мяне. Падкрэслена ветлівая. Але я баялася яе ветлівасці. Я баялася гэтай жанчыны і — сорамна прызнацца! — у душы ненавідзела; яна забрала маміна шчасце, хоць — на цвярозы розум — усё наадварот, і мне невядома, што яна перажыла і ці мела яна сама гэтае шчасце. Але адна рэч — розум, зусім другая — нашы пачуцці. Яны так часта не адпавядаюць розуму.

Адзін Вася адразу, на вяселлі яшчэ, за сталом, дзе сядзелі барадатыя фізікі, мабыць, нутром сваім, сэрцам пачуў нашу блізасць, сваяцтва. Кліч крыві, ці што? Мой слаўны, добры брат, ты адзіная светлая староначка ў маёй бяздумнай паездцы, у недарэчным гасцяванні. Я ўдзячна табе. О, каб ты ведаў, як я ўдзячна табе! За шчырасць тваю, за дружбу.

Едучы, я не толькі не спадзявалася на што-небудзь, я нават не хацела, каб ён абвяшчаў, хто я. Уяўлялася: значна цікавей, больш рамантычна будзе, калі наведаюся ў ролі дачкі яго партызан. Пагляджу на сваіх сясцёр. Камічная ж сітуацыя: я ўсё ведаю, а яны — нічога. Пра брата не думала, бо знала, што ён у арміі, што да яго нядаўна ездзіў бацька, а таму і марыць не магла, што мне так пашчасліціць.

Спачатку ўсё ішло добра. Заварожаная вяселлем, ап'янелая ад уражанняў, той першы вечар, ноч і да вечара другога дня адчувала сябе можа шчаслівей за маладую. Але, напэўна, ва ўсім вінаваты Вася, яго такая нечаканая прыязнасць. Мы схадзілі ў кіно, глядзелі «Сакратарку». (Усюды мы, дзяўчаты, аднолькавыя!) І вось калі ішлі з кіно па ярка асветленым і шумным праспекце, невядома з якой прычыны страшэнна захацелася, каб Іван Васільевіч абвясціў, што я дачка яго і сястра ім. Вася хацеў гуляць, я пацягнула яго дадому.

Я глядзела яму ў вочы — Івану Васільевічу, за сталом, калі вячэралі. У думках прасіла, маліла, верачы ў біятокі, што перадаюцца нават за многія кіламетры блізкаму чалавеку. А тут жа адзін крок, цераз стол. Ён павінен быў прачытаць гэтае маленне ў маіх вачах. Але ён вінавата адводзіў свае вочы. Мяне ўразіла, што ён адчувае сябе вінаватым. Перад кім? Перада мной? Я ні ў чым не віню цябе. Нават цяпер. Перад тымі дзецьмі? Перад жонкай?

Але я не трацілa надзеі. Чакала ўвесь наступны дзень. Нецярплівасць расла. Нервы напружваліся. Уначы мяне ліхаманіла. Не магла заснуць да раніцы. А за снеданнем зразумела: дарэмна чакаю — не скажа, баіцца. Баіцца! О, як гэта балюча раніла ў сэрца! Казачны рамантычны палац, які так старанна ўзводзіла,— ён не разбурыўся, не, ён як быццам у міг растаў, і засталася адна брудная лужына. Як пушок з адуванчыка, разляцеўся арэол, які зноў-такі стварыла яму я. Сорамна стала. За сябе: тату захацела мець, маленькая сіраціначка! Дайце ёй тату! За яго: такі мужны камандзір быў! І раптам: — звычайны баязлівец, страшна яму парушыць свой пенсіянерскі спакой, ускаламуціць абывацельскую самазадаволенасць жонкі, дачок. Ну, і напляваць на вас! Плюнула б, каб не Вася. Ах, Вася, Вася! Каб ты ведаў, як цяжка мне было на тым снеданні, дзе вы з Сашай весела дапівалі вясельнае віно, а Лада стомлена і шчаслівa кпіла з вас, выконваючы ролю гаспадыні,

Іван Васільевіч сядзеў невясёлы, усміхаўся сумна. Былі хвіліны, калі рабілася шкада яго. І я зразумела: застануся яшчэ на адзін дзень — зраблю глупства, ад якога ўсім будзе непрыемна, А я зусім не хачу непрыемнасці людзям. Ні блізкім, ні далёкім.

Пасля снедання абвясціла аб сваім раптоўным ад'ездзе: трэба працаваць! Вася вельмі засмуціўся, прасіў застацца яшчэ хоць на дзень.

І. В. было няёмка — ён усё-такі адчуваў і разумеў! Але ў душы, мабыць, ухваліў маё мудрае рашэнне, маю тактоўнасць і дзякаваў, што не выдала нашай тайны. Ціха сказаў: «Даруй мне, Віта».

Бог з вамі, дарую: усе мы людзі, усе мы чалавекі.

Цяпер так думаю, а там пасля слоў яго чуць не зараўла. Ішлі да вакзала — і ў мяне дрыжалі вусны, неўпапад адказвала на Васевы пытанні; ён адзін праводзіў. На пероне не вытрымала-такі — зараўла, як вясковая баба. Вася спалохаўся. Дапытваўся: «Што з табой? Што здарылася? Хто цябе пакрыўдзіў?»

«Што ты! Ніхто мяне не пакрыўдзіў. Табе я асабліва ўдзячна, Вася».

Мы пацалаваліся на развітанне. Я першая пацалавала яго, майго слаўнага брата. Ён бег за вагонам. У марской форме. На яго глядзелі з добрымі ўсмешкамі. Калі поезд набраў скорасць і Вася адстаў, я зноў заплакала. Доўга не магла супакоіцца. Суседзі па купэ суцяшалі: маўляў, не на вайне ж хлопец, адслужыць і вернецца; па ўсім відаць, што кахае.

І смех і слёзы.

Каб адчапіцца ад чужых людзей, сказала, што гэта брат. Іх яшчэ больш здзівіла, чаму ж я плачу. Рэдка якая сястра так плача, развітваючыся з братам. Добра, што з Брэста трапіла са сваімі: загадчык фермы, заатэхнік, даяркі ехалі з нарады. Рагатала да непрыстойнасці. Дзяўчаты дзівіліся, чаму я такая вясёлая? Ці не па вясельныя пакупкі ездзіла? Яны чакаюць, што я вось-вось выйду за Алега. Чамусьці ўсе чакаюць нашага вяселля. Смех.

За тры дні адышла — астыла ці, наадварот, сагрэлася каля мамы. Каля яе хораша, спакойна неяк, трывала. Часам толькі бываюць хвіліны, калі хочацца плакаць. Ніколі не думала, што я такая плаксівая. Баба ёсць баба.

Сёння нядзеля. Мама паехала ў райцэнтр на рынак — па свежае мяса. Сяджу адна. Апанаваў смутак. Хапілася за дзённік. Запісала, паразважала сама з табой — і ўсё прайшло. Добрае зелле — гэты дзённік. Трэба часцей прымаць дозы запісаў. Паездка, відаць, пакінула глыбокі след у характары.

Алег спытаў учора:

«Ты чаму такая?»

«Якая?»

«Ды, ведаеш, нейкая не такая, як раней, да паездкі. Можа закахалася?»

«Закахалася».

«У каго?»

«Негр там быў, на вяселлі. Вельмі экзатычны. Як прышэлец з іншай планеты».

«Глядзі — магу паверыць. На неграў многія нашы дурніцы вешаюцца».

«Я — дурніца?»

Спалохаўся. Стаў на заднія лапкі.

Усяго, што адбылося са мной, я не расказала ні маме, ні Алегу. Яму расказваю так, быццам даўно ведаю і Маю, і Ладу, і Васіля. І ён думае, што я сапраўды іх даўно ведаю. Зноў упікнуў: маю такое шырокае сваяцтва і ні пра каго за паўгода слова не сказала! «Трэба ўмець!» — кажа Алег.

Праўду кажуць: любая рана гоіцца, калі ад яе не паміраюць. Любы боль сціхае. Прайшоў тыдзень, і шмат што з таго, што здавалася амаль трагічным, цяпер здаецца смешным. Жыццё ідзе сваёй чаргой. І ёсць вялікая мудрасць у яго штодзённасці, будзённасці, у рытме працы.

Набліжаецца вясна. Закладвалі парнікі. Рабілі новыя рамы, шклілі, вазілі гной. Між іншым, у мінулым годзе з цвердалобым Сівалобам прыйшлося весці вайну, каб узяць з канюшні машыну гною. А ў гэтым годзе ён гатовы аддаць школе ўвесь саўгасны гной. Не шкада. Вялікая сіла — матэрыяльная зацікаўленасць!

Вучні выпускных класаў зусім не цікавяцца зямлёй. На што яны спадзяюцца? Усе хочуць адарвацца ад зямлі. Трызняць горадам. Дзівакі. Некалі многія з іх пашкадуюць. Некалі і я была такая. А пасля, у інстытуце, шкадавала: мела б у школе больш увагі да таго, што і як расце на зямлі,— лягчэй набывалася б прафесія, і лепшы педагог атрымаўся б. На ўроках часта адчуваю правалы ў сваёй падрыхтоўцы.

Сёння ў дзесятым дзве гадзіны вяла дыскусію. Са мной гавораць, як з роўнай. І любяць — за шчырасць. Я часам кажу такія рэчы, пачуўшы якія аднойчы цнатлівая Адаліна трохі не самлела і напісала ў райана. Але, на маё шчасце, інспектар, які прыехаў правяраць, сам біёлаг, недурны чалавек, згадзіўся, што біёлаг — як і медык, і не можа быць забароненых тэм на шляху пазнання чалавека і прыроды, і яшчэ — што вучні дзесятых-адзінаццатых класаў — не дзеці, гутарыць з імі трэба пра ўсё, што з'яўляецца прадметам навукі і мастацтва. Адным словам, Адэлька мусіла праглынуць пілюльку, яшчэ адну.

Мама, праўда, лічыць, што я даю вучням замнога дэмакратыі. Спрачаемся пра тую мяжу, якую нельга пераступаць у адносінах настаўніка з вучнямі і ў адносінах вучнёўскага калектыву, няхай і старэйшых класаў, да таго, што робіцца навокал сталымі людзьмі, педагогамі, бацькамі. Я за тое, каб не хаваць ад вучняў нашых учынкаў — усё роўна не схаваеш! — а выхоўвацца самім, выхоўваць найперш усіх дарослых, з якіх дзеці бяруць прыклад.

О, як лёгка было б працаваць настаўнікам, каб навокал зніклі гультаі, дармаеды, п'янюгі, зладзеі, дэмагогі, хлусы, ханжы! Мама ў адным мае рацыю: у тэорыі ўсё прасцей, чым на практыцы. Праўда, як ставіцца да тых плётак, якія распускае пра мяне Адаліна і якія, безумоўна, даходзяць да вучняў? У сяле ўсім адразу ўсё становіцца вядома, старым і малым. Але не ўсе аднолькава могуць разабрацца, што да чаго. Як растлумачыць такія рэчы вучням? У старыя часы за такія плёткі мужчыны вызывалі на дуэль. Можа мне пляснуць Адаліне па мордзе пры ўсіх настаўніках? Не хочацца пэцкаць рукі аб такое...

Выпусцілі «Лявоніху». Адзін раз наш халодны клуб нагрэўся — дыханнем людзей. Паўнютка было. Прынялі на «ўра». Рагаталі — сцены дрыжалі. А мне не спадабалася. Уласная ігра не спадабалася: не тую Лявоніху ўяўляла, якую сыграла, хоць жанчыны ахалі ад захаплення: «Усё ж папраўдзе». Але яшчэ больш не падабаўся Толя ў ролі Глуздакова. Не яго роля. Не той тыпаж, не тое амплуа, як казаў нам у інстытуце акцёр Маліноўскі.

Глядзела ў залу на першы рад, на лысага Сівалоба і са смехам думала: во каму трэба іграць Глуздакова! Можа прапанаваць? А Толя ўвогуле не за сваю справу ўзяўся. Даравання ў яго акцёрскага — ні кроплі. Энтузіяст без таленту.

Сказала яму пра гэта — пакрыўдзіўся. Во праява! За работу крытыкуй яго колькі хочаш — не крыўдзіцца, адбіваецца, даказвае, але без крыўды. А сказала, што ён дрэнны акцёр,— ажно пабялеў увесь, зубы паказаў: «Ты ў нас геній! Ярмолава новая!» На гэтай глебе можна сур'ёзна пасварыцца. Цяпер я ведаю, чым можна дапячы ўраўнаважаную, далікатную, абвbooражальную Мар'яўну: сказаць, што яна бяздарная мастачка. А я пераконваюся, што гэта сапраўды так: вучыць яна рысаванню не лепш за Карней Данілавіча. Але вучняў старэйшых класаў зачаравала, асабліва хлопцаў. Прыгожая. Хлопцы любяць прыгожых. А можа гэта і нядрэнна? Няхай хоць так развіваюць свой эстэтычны густ.

Вася прыслаў пісьмо. Доўгае, шчырае, ласкавае. Прызнаецца ў каханні да мяне. «Вярнуўшыся сюды, у горы, на адзіноце, у караулах, я адчуў, што там, у Мінску, нарэшце, сустрэў тое адзінае шчасце, без якога, відаць, жыццё не мае сэнсу. Я сустрэў цябе». І гэтак — на шасці старонках. Ніхто яшчэ мне не пісаў так. І ўсё пачалося спачатку: занылі раны, якія амаль загаіліся, востра забалела ў сэрцы.

Адзіны чалавек, які, здаецца, па-сапраўднаму пакахаў... Кашмар нейкі! Вася, слаўны мой, дарэмна ўсё гэта. Калі і няпраўда, што ты кроўны брат, усё роўна ты брат, і нічога, акрамя дружбы, паміж намі быць не можа. Ніколі.

Але што адказаць, каб не зрабіць гэтак жа балюча табе?

Доўга думала. Дзень, другі. Сёння паказала Васева пісьмо маме. Прачытала мая дарагая матуля — збялела. Спалохалася зноў. Але цяпер яе боязь зразумелая, бо і сама я спалохалася, калі першы раз прачытала. Для маці было б найвялікшым святатацтвам такія нашы адносіны. Яна ў роспачы сказала: «Божа мой, як мы заблыталіся ўсе».

Адразу не надала значэння гэтым яе словам. А цяпер думаю пра іх. Хто ў чым заблытаўся? Выходзіць, што ёсць яшчэ нейкія тайны. Ад каго? Якія? Спытала ў маці: што адказаць Васілю?

«Напішы, што маеш жаніха, што выходзіш замуж. Каб ён не спадзяваўся».

Здзівіла мяне яе парада. І ўзлавала.

«А чаму я не магу напісаць, што ён — брат мой? Чаму? — І здарыўся маленькі прыступ істэрыі, я крычала: — Чаму мы хлусім адно аднаму? Чаму гуляем у жмуркі? Столькі год хавала тайну майго нараджэння! Святыя грэшнікі! Ён, камбрыг твой, і цяпер баіцца сказаць праўду сваёй сям'і! Героі! Абывацелі! Спакой свой баіцеся парушыць! Не жадаю браць з вас прыклад! Чалавек цягнецца да мяне з усёй шчырасцю, а я павінна тлуміць яму галаву дзеля чаго? Не, я напішу праўду!»

Дзіўна — мама не абразілася, не пакрыўдзілася. Пакорліва згадзілася: «Напішы праўду. Так будзе лепш. Усім нам».

Мінуў яшчэ адзін дзень, а я так дагэтуль нічога не напісала Васілю. Здаецца, пачынаю разумець і маму, і Івана Васільевіча. Нялёгка бывае сказаць іншы раз праўду, не ведаючы, як яе могуць прыняць, што яна прынясе блізкаму чалавеку — радасць ці гора. Падумаю, як можа ўзварушыць, узбунтаваць маё пісьмо хлопца, які, магчыма, стаіць каля страшэннай зброі, штодня знаходзіцца побач з небяспекай,— сэрца стыне. Ды калі і не сядзіць ён там на ракеце ці на атамнай бомбе, усё роўна спакойным такі чалавек не застанецца: напіша бацьку — невядома як напіша! — папросіць тлумачэння; пісьмо, напэўна, прачытаюць Вольга Усцінаўна, Лада. Гэта ж нейкая ланцуговая рэакцыя. Чаму я павінна адразу, адным махам, зрабіць столькім людзям непрыемнасці, пасварыць, сутыкнуць ілбамі? Ці не лепей ужо адной трохі папакутаваць — і супакоіцца. Урэшце, і праўда — усе раны гояцца. Ды і якая гэта рана? Так, глупства. Непаразуменне. Калі-небудзь пазней буду расказваць пра ўсю гэтую гісторыю з гумарам.

Нічога пісаць не буду. Нічога не было. Усё засталося па-ранейшаму. Школа, вучні, мама, Алег, якога я ўсё-такі кахаю.

Лёгка рашыць: не буду пісаць. А ён прыслаў другое пісьмо. Такое ж ласкавае, гарачае. Абяцае пісаць штодня. Вясёленькае ў цябе пачынаецца жыццё, Віталія Іванаўна. Успомніла маміну параду. Напісала, што ёсць жаніх і я вось-вось выйду замуж... Прашу даравацъ, жадаю шчасця... І шмат усялякай лухты. Як малапісьменная сентыментальная дура. Добра, што не паслала такое ідыёцкае пісьмо. Несла на пошту і не данесла: падрала на дробныя кавалачкі, пусціла на вецер. Няхай так ляціць. Брыдка зрабілася, што маню такому чалавеку. Каб хоць праўда хто-небудзь сур'ёзна пасватаўся. Алег, ці Толя, ці хоць чорт з канапель. Дык не ж, не хочуць, гады. Алег палезе цалавацца — навешаю аплявух.

Але што напісаць Васю, каб было разумна, праўдзіва, не крыўдна яму?

Напісала Васілю. Напісала, што я, па-першае, незаконнанароджаная — гэта ўсё-такі нейкая праўда; па-другое, відаць, ад усведамлення сваёй няроўнасці з другімі я вырасла з дурным характарам — нявытрыманая, злосная, мяне не любяць вучні, таварышы па рабоце (божа, якая хлусня і самапаклёп!).

Калі ты, маўляў, убачыш мяне ў будні, а не на свята, не ў гасцях, упэўнена: працверазееш і горка расчаруешся. А я не хачу гэтага. Я суровая рэалістка. І гэтак далей, і гэтак далей... Сорак бочак арыштантаў...

Аднак не стрымалася — пакінула прадушыну: «Але і з такім сваім характарам я ўмею быць вернай у дружбе. Калі цябе не палохаюць такія мае якасці, застанёмся добрымі сябрамі. Больш — хачу папрасіць: давай сябраваць. Я ўпэўнена: твае дабрата, чысціня, рамантычнасць будуць хораша ўплываць на мяне. Памажы мне стаць лепшай».

Адным словам — нагарадзіла супярэчлівага глупства. Цяпер шкадую, што і гэтае пісьмо не пусціла на вецер ці не ўклеіла ў дзённік, а ўкінула ў скрынку. Цяпер, напэўна, як закаханая дзяўчынка — са страхам, з заміраючым сэрцам,— буду чакаць адказу. Адчуваю: балюча, вельмі балюча перажыву, калі Вася больш нічога не напіша.

Учора Алег хацеў пацалаваць, калі мы засталіся ў нас у хаце ўдваіх. Я рашуча адхілілася:

«Не!»

Здзівіўся. Засмуціўся.

«Усё-такі я не разумею цябе пасля паездкі. Ты зусім змянілася. Што здарылася? Можна падумаць: закаханая ў некага іншага».

«Я трапіла на вяселле. І мне самой захацелася замуж».

«Хіба замужжа — гэта штамп у пашпарце, а не вера ў чалавека, у яго пачуцці?»

«Запрасі сваю былую жонку на размову. Я хачу ведаць праўду пра вашы адносіны не толькі з тваіх вуснаў».

Як ён закіпеў!

«Праўда адна! Тая, якую я расказаў! А табе трэба быць суддзёй, а не педагогам. Ты не верыш людзям! Патрабуеш немагчымага...»

«Нічога немагчымага няма. Магу сама з'ездзіць да яе, калі ты гэтак баішся».

«Вось як яно! Нарэшце, ты раскрылася, цяпер бачу: ніякага кахання ў тваёй душы няма! Ты пустая і халодная. Адзін жаночы мяшчанскі разлік ды можа самалюбства штурхнулі цябе на сувязь са мной».

«Выбірай словы, пан дырэктар!»

«Я кажу пра душэўную сувязь».

«Калі ёсць разлік, душэўнай сувязі быць не можа».

«Але ты іграла каханне, як дрэнная акцёрка! Тлуміла мне галаву».

«Няшчасны хлопчык! Яго падманулі! Не позна змяніць адрас. Я дам новы: Адаліна. Яна чакае — не дачакаецца».

Адчуў мой нарачоны, што ад нашых адносін не застанецца і трэсак. Даў задні ход. Падлізваўся. Ліслівіў. Супакоілася. Не сварылася. Але развіталася холадна. І ніякага раскаяння. Відаць, ён зразумеў: нямнога ў мяне такога пачуцця, праз якое забываешся на ўсё на свеце. Ці можа такое пачуццё бывае толькі ў семнаццаць? А ў дваццаць тры — цвярозая разважнасць? Ой, не! «Любви все возрасты покорны».

Шуміць вясна. Пасля апошняй прадвясенняй завірухі — «ехала масленіца» і нагнала снегу пад стрэхі — наступіла цяпло. Сонца майскае. Шугануў снег. Зараўлі раўчукі. На вуліцы — патоп. У настаўніцкай стаяць гумавыя боты — пераходзіць з аднаго будынка школы ў другі. Але цяпер гэта прыемныя прагулкі, не тое, што ўвосень, калі губляеш боты ў гразі. Люблю шырокія рэкі. Праўда, апошнія дзве ночы пачало падмарожваць. Можа высушыць, вымаразіць, і не будзе такога разліву, як, помню, разлілося аднойчы, калі я вучылася яшчэ ў школе. Тады наша вузенькая Хлява стала што Амазонка — таго берага не відаць было. Дзівіліся людзі — столькі вады!

Сёння ўзламаўся лёд. Стукала, як з гармат. Сарвала ўрок у сёмым — хадзілі глядзець крыгаход. Мы ж — натуралісты!

І была прыгода.

Падагнала да берага вялікую крыгу. Косця Вусік скочыў на яе і мяне паклікаў:

«Віталія Іванаўна, праплывём?»

Як дзяўчо-гарэза, ускочыла на крыгу следам за вучнем. Адпіхнуўся ён. Закружыла нас і панесла. Панесла на сярэдзіну рэчкі, дзе мчалі другія крыгі. Спалохалася я. Не за сябе. Я добра плаваю. За яго, за вучня, хоць ён, чарцянё, плавае, мабыць, лепш. А ён — малайчына: хоць бы што.

«Не бойцеся, кажа Віталія Іванаўна, у мяне ж жардзіна. Мы ў мінулым годзе з хлопцамі ажно да Лешні плылі».

Люблю людзей смелых. Ніяк не магу зразумець дагэтуль: мама смелая ці баязліўка? Што яе павяло ў атрад? Смеласць? Мужнасць? Нянавісць? Жаданне змагацца? Ці адно каханне да І. В.? Але, відаць, і гэта немалая смеласць — пайсці за каханым у такі час, у такую небяспеку, у такім стане. Думаю: ці пайшла б я? Даўно думаю. Можа за кім-небудзь і пайшла б. Але за Алегам, здаецца, не пайшла б. Прывет, бабуля! Дадумалася. Дапісалася. Радуйся!

Пісьмо ад Васі. Адказ на маё. Ён робіць тое ж самае: выкрывае сябе. Усе свае заганы. Большасць з іх, безумоўна, выдумаў гэтак жа, як і я. І такі ж нястрыманы, грубіян, за што выключылі з універсітэта. Неадукаваны, некультурны, «дагэтуль з памылкамі пішу». Памылак я знайшла толькі дзве, нязначныя. Стыль, праўда, не выдатны, але ж не ва ўсіх літаратурны талент; мне, напрыклад, лепш было б падаць на філфак, але яшчэ малая я ўзненавідзела стосы замурзаных сшыткаў, над якімі мама сляпіла вочы; цяпер хоць я памагаю ёй.

Да чаго можа быць даведзена гэтае наша самавыкрыццё, самазбіванне? Да абсурду? Да знявагі? Але я не хачу зневажаць! Я хачу любіць! Але як адвабіць яго ад сябе? Як сказаць, што пра такое каханне, пра якое ён піша, і думаць няма чаго? Вярнуцца да хлусні з замужжам?

Можа праз гэтыя свае думкі я сёння такі фартэль выкінула, што зараз самой трохі сорамна і смешна.

Ішоў камсамольскі сход; я — член бюро, а таму яшчэ ў камсамоле. Толя Плюшчай доўга і сумна — цікавы ж хлопец, жывы, а на трыбуне — нуднік! — расказваў пра нядаўні пленум. Я не слухала — думала пра сваё. А калі ён скончыў і спытаў, у каго ёсць якія пытанні, я па-школьнаму падняла руку.

«Што там у цябе?»

«Толя, чаму ты не жэнішся?»

Дзяўчаты пырснулі, нехта з хлопцаў рагатаў басам — як гром Пятроўскі прагрукатаў.

Толя, гаротнічак, як ён спачатку разгубіўся! Пачырванеў, пасінеў, пабялеў. А пасля ўзлаваўся — крыкнуў:

«Ты што — п'яная?»

Выручыў мяне інжынер-планавік Пятро Хрыпач:

«Дык спалі ж, Толя, усе. Чаму не зрабіць разрадачку? Тут жа не акадэмікі, а камсамольцы».

Але няшчаснаму Толю не стала лягчэй ад такой ацэнкі яго даклада. Пасля сходу ён ішоў следам і ўсю дарогу «распякаў». Казаў, што мой учынак вельмі не да твару настаўніцы, члену бюро, кандыдату ў члены партыі, што па сутнасці — гэта хуліганскі ўчынак, што каб ён, Толя, быў які-небудзь бюракрат, а не такі аб'ектыўны чалавек і паскардзіўся б Лескаўцу, паставіў бы пытанне афіцыйна, то, не паспеўшы паступіць у партыю, я магла б вельмі лёгка схапіць вымову. Разумела, што збянтэжаны, узлаваны Іёг наш меле лухту, палохае — ніхто за такія жарты вымовы не дае, а таму адказвала яму зноў жа жартамі. Але Толя ніяк не мог супакоіцца. Правёў дадому, зайшоў у хату, пачаў скардзіцца на мяне маме.

Я сказала:

«Толік, давай я цябе пацалую, і ты адразу пра ўсё забудзеш». Спалохаўся, дзівак, ажно адступіў ад мяне. Змоўк і хуценька змыўся. Мама смяялася, калі ён пайшоў.

Люблю, калі мама смяецца!

*22 сакавіка*

Адэлька сёння ўвесь дзень ззяла, як намаслены блінец. І круцілася вакол мяне, добранькая, звышветлівая, далікатная — хоць да раны прыкладай. Я адразу зразумела, што рыхтуе нейкую гадасць, але ніяк не магла здагадацца — якую.

Пасля ўрокаў выскачыла са школы разам са мной.

На вуліцы — гразь па калена. Каля хат пратаптана сцежачка, у самых гразкіх мясцінах дзеці паклалі цэглу, жардзіны. Так прабіраемся.

Я — у звычайных ботах, таму ішла смела, хутка — знарок, ведаючы, што Адэлька мужыцкі абутак ніколі не абувае, яна — у шыкоўных боціках. Ёй нялёгка было ісці за мной. Але ішла. Бегла, як сабачка, ззаду. І стракатала, як сарока. Пачала з прызнанняў у любові. Такога ханжаства я не магла сцярпець. Спынілася, крута павярнулася. Ад нечаканасці яна трохі не плюхнулася з кладачкі ў гразь.

— Вось што, Адэля, любоў тваю я ведаю. Кідай сваю жабу адразу, не бойся — праглыну.

Сцялася, збянтэжылася, на хвіліну нібы завагалася, але ўсё роўна кінула:

— Адарка бачыла, як Алег Гаўрылавіч цалаваўся з Сівалобіхай. Пазаўчора, пасля заняткаў гуртка.

Я засмяялася. Гучна. І далібог жа — весела, шчыра весела. Бо адразу ўявіла сцэнку: Алег і Сівалоб счапіліся за чубы з-за гэтай Мар'яўны. Спектакль на ўвесь раён! Потым успомніла, што Сівалоб лысы, без чуба, і зрабілася чамусьці яшчэ больш смешна.

Адэлю ўзлаваў мой смех.

— Не прытварайся, калі ласка! Ненавіджу прытвор! Рагочаш, а на сэрцы кошкі шкрабуць — хіба не відно! — і, абураная, павярнулася, пайшла назад,

Шкрабуць, Адэлька, балюча шкрабуць. Цяпер, тут, дома, за дзённікам, асабліва чую. Але чорт з імі, з кошкамі! Урэшце, усе раны гояцца. І не такія! Так нават лепш. Ставім кропку, паважаны Алег Гаўрылавіч!

...Іван Васільевіч дачытаў дзённік і падняў галаву. І — вочы ў вочы. Надзя сядзела з другога боку стала, насупраць, па-жаночаму гаротна падпёршы шчокі рукамі. Гэтак яна села, калі ён пачаў чытаць. І за ўвесь доўгі час — немалы сшытак! — ні разу не варухнулася, не змяніла паставы, ні словам, ні рухам, ні ўздыхам не перашкодзіла, не перапыніла. Але ўвесь час Іван Васільевіч адчуваў яе вось гэты позірк, яна чытала разам з ім і адначасова пільна сачыла за выразам яго твару — як рэагуе на той ці іншы запіс. Іван Васільевіч з усяе сілы стараўся не выдаць сваіх пачуццяў, хоць было гэта часам вельмі нялёгка.

Цяпер Надзя глядзела са страхам — чакала, што скажа ён, адзіны чалавек, якога паклікала на дапамогу і які з'явіўся хутчэй, чым яна меркавала.

Ён зноў ішоў ад станцыі пехатой. Але гэта не снежаньская дарога, цвёрдая, што асфальт. Цяпер прыйшлося мясіць гразь. Ад стомы ныла цела. І разбалелася нага. Раненая. Дваццаць гадоў маўчала, а тут раптам дала пачуць сябе.

Ён мімаволі зморшчыўся ад вострага болю — і Надзя ўздрыгнула. Каб адвесці яе думкі хоць на момант у другі бок, узварухнуць нечым, ён растлумачыў:

— У мяне баліць нага.

Яна чакала іншых слоў, і гэтыя, здалося, яшчэ больш спалохалі, не сэнсам сваім — непатрэбнасцю ў такі момант, калі ім, яму і ёй, трэба гаварыць не пра сябе — пра Віталію. Дзе яна?

Іван Васільевіч глядзеў на знаёмае аблічча, у знаёмыя вочы. Знаёмыя? Не, вочы амаль незнаёмыя. Дзіўна. Кажуць, самае пастаяннае ў чалавека — вочы. А ў Надзі змяніліся вочы. Ніколі не бачыў такія — такія шырокія — пэўна, ад таго, што схуднела, такія глыбокія — можа ад пільнага ўглядання, і... сумныя. Сумнымі бачыў яе вочы і раней,

але той смутак быў зусім іншы, чым гэты. Увогуле Надзя моцна змянілася са снежня, і, безумоўна, усё адбылося за апошнія тры дні, пасля таго, як знікла немаведама куды дачка.

Калі ён прыйшоў, Надзя была ў вялікай чорнай хустцы. Хустка гэтая спалохала. Але калі жанчына, хоць і блытана, расказала, што здарылася, і Антанюк зразумеў, што пакуль што трагедыі няма, то перш за ўсё чамусьці папрасіў скінуць хустку. Надзю гэта

нібы ўзбадзёрыла. Яна паслухмяна скінула хустку і, пакуль ён чытаў, сядзела перад ім з непакрытай галавой. Але валасы не былі так старанна прычасаны і прыгладжаны, як тады, у снежні. І цяпер Іван Васільевіч убачыў ва ўсклочаных пасмах на скронях нямала срэбра.

Вочы ўвесь час былі сухія, ніводная слязінка не бліснула ні пры сустрэчы, ні цяпер.

Іван Васільевіч і пасля дзённіка не адчуў тае бяды, якую, напэўна, убіла сабе ў галаву спалоханая маці.

Нямала трагічнага ў Віталіных адносінах з людзьмі: дзяўчына на ўсё ўмела глядзець разважліва, аптымістычна, нават з гумарам. Але яны шмат у чым вінаваты — маці і ён. Відаць, калі назваўся бацькам, трэба было ісці далей — браць на сябе большыя абавязкі, большую адказнасць. Бяды ён пакуль што не адчувае. Аднак дзённік моцна ўразіў. Можа таму не прыходзяць словы суцяшэння — не звычайныя словы, не банальныя, а такія, якіх чакае Надзя, верачы, што сказаць іх можа толькі адзін ён.

Не вытрымаў Надзінага позірку — апусціў вочы, пачаў гартаць сшытак, каб упэўніцца: ці то яму здалося, ці сапраўды Віталія не заўсёды ставіла даты, толькі ў асобных выпадках. Але, гэта так. Якія ж падзеі запісваючы, ставіла яна дату? Паведамленне Адэлі, што Алег цалаваўся з другой. Але ж гэта магла быць звычайная плётка зайздросніцы.

Іван Васільевіч шукаў у сшытку іншыя даты. Ах, вось — пасля гасцявання ў яго, у бацькі. Самыя цяжкія старонкі.

Надзя не дачакалася яго суцяшэнняў — загаварыла сама, пачала расказваць тое, што расказвала, калі ён скідаў паліто, толькі ўжо ў іншай паслядоўнасці, з іншымі падрабязнасцямі.

— Яна спытала, Іван... зусім спакойна... О, каб ты бачыў, як яна спытала! «Гэта праўда?» — і з грэблівасцю сунула мне гэтае пісьмо... Я нават не прачытала... Я ўбачыла яго прозвішча — Сваяцкага — і ўсё зразумела. Я адказала: «Гэта праўда. Але ты зразумей...» Яна закрычала: «Не трэба мне тваіх тлумачэнняў! Не трэба!» Я заплакала. Віта маўчала. Праз слёзы я прачытала пісьмо. Іван... Хто яго напісаў? Гэта не ад шчырасці, не таму, каб сказаць праўду. Не. Ад злосці. Ад

вялікай злосці, Іван... Каму мы зрабілі зло? Чаму наша тайна не магла назаўсёды застацца тайнай — для яе? Яна верыла, што ты — бацька. І радавалася... Як дзіця...

— Я паводзіў сябе ганебна, калі яна прыехала. Нельга спыняцца на паўдарозе. Калі я ўдачарыў яе, назваў сябе бацькам, то абавязан быў зрабіць усё, каб яна паверыла ў маю бацькоўскую шчырасць.

— Не карай сябе, Іван. Вінавата я. Трэба было сказаць ёй праўду. Даўно. Усё забываецца. Усе раны гояцца. Ой, не, Іван, не ўсе раны гояцца. Колькі такіх, ад якіх паміраюць!

— Надзя, калі ласка, без трагедыі. Нічога ж не здарылася. Пабудзе дзе-небудзь у сяброўкі, супакоіцца... і вернецца. А калі і не вернецца, застанецца працаваць у другім месы... Хіба можаш ты ўсё жыццё трымаць яе каля сябе?

Надзя ні слова не адказала на такое тлумачэнне.

— Я ўспамінаю, Іван... Я цяпер успамінаю ўсё да драбніц, і шмат ад чаго робіцца страшна. Не помню, ці доўга я плакала. Але помню: не адразу, не, можа праз паўгадзіны, а можа і праз гадзіну яна раптам ласкава абняла мяне. «Супакойся, мама. Я ж ні ў чым не ўпікаю цябе. Відаць, другія маці зрабілі б гэтак жа. І я таксама, калі стану маці, магчыма, буду такая. Відаць, многія дзеці не ведаюць пра сваіх бацькоў». Я чакала, што яна пачне распытваць пра Сваяцкага. Іван! Я таму і таіла, што не магу гаварыць пра яго без жаху, без амярзення. Як ён растаптаў маю душу тады! Можа нядобра, можа за гэта я пакарана, але толькі тады, калі ты сказаў, што яго няма жывога, я адчула сябе вызваленай. Я радавалася... І вось ён ажыў. Ён помсціць мёртвы! Каму спатрэбілася пісаць? Навошта? Іван!

— Надзя! Калі ласка, супакойся.

— Ты ведаеш, Іван... потым, пацалаваўшы мяне, Віта пачала наводзіць парадак... на стале, на этажэрцы, у шафе. Асабліва старанна, вельмі ж старанна перастаўляла кнігі, быццам шукала патрэбную. Яна ж увогуле па характары раскідуха, у яе часта кнігі, рэчы валяюцца дзе папала. Спачатку мне так і здалося, што яна шукае нейкую кнігу ці сшытак. Я ведала, што яна вядзе дзённік, але ні разу не заглянула ў яго. «Віта, ты шукаеш што?» — «Не!» — адсекла груба. І тады я спалохалася, Іван. Мне здалося, што яна развітваецца з кнігамі. Страшна, Іван, калі чалавек развітваецца з рэчамі. Ты бачыў калі? Я не зводзіла з яе вачэй. Але хутка яна кінула перабіраць кнігі. Легла і прытварылася, што спіць. Ніколі не клалася ўдзень. А пасля паднялася — пачала рыхтавацца да ўрокаў. Гаварылі мы пра будзённае, як звычайна, толькі менш... немнагаслоўна, не па-жаночаму. Толькі пад вечар ужо, слухаючы па радыё музыку, Віта задумліва

сказала: «Трэба пра ўсё расказаць Лескаўцу». О, як апякло гэта мяне, Іван! Я нават не падумала, што ёй трэба прайсці яшчэ цераз такое выпрабаванне. А яна думала, Іван. Выходзіць, перабірала кніжкі, ляжала — і думала. Я сказала, што пайду і сама ўсё растлумачу — мая ж віна, не яе. «Не! Я сама!» — сурова так крыкнула, са злосцю. Аж вочы загарэліся. Маўляў, хопіць, патлумачылі, наблыталі, цяпер сама буду разблытваць, не маленькая. Але мне стала лягчэй пасля яе выкрыку. Праўду кажу, Іван. Я веру людзям... верыла, што зразумеюць... Лескавец, іншыя. Не сябе я асцерагала, не за сябе баялася. За яе. Ты ведаеш. І можа нават лепш, што нарэшце адкрылася праўда. У той міг, далібог жа, даравала ананімшчыку. Нельга жыць усё жыццё з тайнай ды яшчэ хаваць яе ад самага роднага чалавека. Нельга! А пасля Віта спытала, калі яго асудзілі, у якім годзе, дзе. Спакойна спытала. Як пра чужога. І гэта мяне яшчэ больш супакоіла. Праўда, увечары была зноў трохі спалохала. Пачула, што ідзе гэты... Алег Гаўрылавіч,— схавалася за шырму, папрасіла сказаць, што няма дома. Я ж тады не ведала пра гэта,— Надзя тыцкнула рукой у сшытак, грэбліва зморшчылася, сашчапіла пальцы.— Божа мой! Трэба ж так, каб усё навалілася ў адзін час! Я не верыла гэтаму чалавеку! Не верыла, што ён прынясе Віце шчасце.

Дырэктар і яму не спадабаўся тады, у снежні, калі пазнаёміліся вось тут, у хаце, але Іван Васільевіч стараўся быць аб'ектыўным, стараўся нават пранікнуцца сімпатыяй. Не вельмі прывабным выглядае чалавек гэты і з дзённіка дзяўчыны, якой сур'ёзна хацелася звязаць з ім жыццё. Але навошта капаць на свежую мацярынскую рану!

— Адаліна... ці як яе?.. магла ўзвесці паклёп.

— Ах, Іван, хіба бяда толькі ў тым, што ён пацалаваў гэтую размаляваную ляльку ці яна яго... Не! Эгаіст! Сябелюбец! Ён так і не зразумеў Віцінай душы. Каб ён стаў другам, да якога можна было б прыйсці і пра ўсё расказаць... Каб я апынулася на такім раздарожжы, то паехала б да цябе, Ваня. Нягледзячы ні на што. А да каго паехала яна? Да каго, Іван? Я дала тэлеграмы ўсім сяброўкам, з якімі яна калі-небудзь перапісвалася.

— З парторгам... як яго?

— Наш? Лескавец.

— Яму яна сказала?

— Не ведаю.

— Дарэмна, Надзя. Гэта ж вельмі важна: як яны гаварылі? Што яна сказала? Што адказаў ён? Адгэтуль трэба пачынаць...

— Наўрад ці гаварыла з ім Віта. Нехта ведаў бы ўжо... Сам бы ён прыйшоў...

— Ды як сказаць! Мяркуючы па Віцiным запісу, Лескавец не такі просты чалавек. Я пайду пагутару з ім.

Тады толькі Надзя ўспомніла, што ён з дарогі.

— Паснедай, Іван.

Іван Васільевіч ішоў да канторы саўгаса па гразкай сцежцы паза гародамі, прыкладна той жа дарогай, па якой некалі вяла яго Віта, каб паказаць «славутасці» Калюжын. Ішоў у глыбокай задуме і не адразу пачуў, што яго нехта гукае.

— Таварышок, а таварышок!

Азірнуўся — яго даганяў стары, з лейцамі ў руках, з сякеркай, засунутай за вяроўчыну, якой падперазана старая, многа разоў латаная ватоўка. Падышоў, зняў аблезлы трывух, павітаўся, пакланіўся.

Івана Васільевіча нават трохі збянтэжыла такая пачцівасць. Падумаў, што хіба можа дзед паспеў ужо прычасціцца з раніцы.

— Так што звіняюсь, таварышок. Кім вы даводзіцеся вучыцельцы нашай... Надзеждзе Пятроўне?

Насцярожыла такое пытанне. І зноў-такі збянтэжыла : кім ён цяпер ёй даводзіцца?

— Яна была ў маім атрадзе. У партызанах.

— А-а,— усё зразумеў дзед, прыжмурыў маленькія і хітрыя, не прамытыя з ночы вочкі.— То слухай, таварышок, што я хачу табе расказаць... Надзежду Пятроўну не хацеў лякаць. Мала куды магла паплыць дзеўка. Маладая — вецер у галаве.

Іван Васільевіч пачуў, што млеюць ногі.

— Куды паплыць, дзед? Калі?

— Ды слухай ты па парадку. У аўторак было. Я адонкі з-пад саўгаснага стога падбіраў. Думаю: усё роўна залье. А на другім адонку, глядзі ты, клок які аставілі, не сабе ж бралі... Не трэслі ламачча... Пакуль стаялі стагі — не пойдзеш. Хто ведае, адкуль вязеш? З адонка ці са стога... Прыпішуць табе... А я, таварышок, чужога крошкі нідзе. Але калі вада залівае дабро...

— Дзед!

— Ды так во, таварышок. На чаўне перавозіў сянцо. Човен добры. На ім да Кіева можна даплыць. З'ездзіў я раз, два, назграбаў пудзік там; дзярмо, канечне, таварышок, падмочанае, ды кароўка есць, непераборлівая...

— Дзед! Дык куды паплыла Віталія?

— Хіба я кажу, што паплыла? Можа і не паплыла. Я што кажу? Плыў трэці раз, пад вечар ужо, а на беразе стаіць хтось... Думаю, можа сам Сівалобы. Адкуль, скажа, сена, дзед? На Панскім жа яшчэ стагі асталіся. Ні адзін год не аставаліся. А то стаяць. На пасяўную, ці

што? Хоць хто цяпер на конях арэ? Трактарамі ўсё, таварышок. Як загудзяць!..

— Дзед!..

— То я і кажу... падплыў — ажно то яна, маладая вучыцелька... дачка Надзежды Пятроўны. Прагульваецца. Анцілігенцыя! «Добры вечар,— кажа,— дзед. Дайце я вам памагу». Яна пехцярок узяла, а я ў вожачкі навязаў. Так за раз і перанеслі. Колькі таго сена, таварышок! Спасібачка табе, дачка. Дай бог здароўя. І баба мая благадарнасць наказала. Пакуль тое сена дагледзеў, на гарышча зацягнуў. Пайшоў, каб чаўнок выцягнуць да вербаў ды замкнуць на ноч. Чаўны ў нас даўно не кралі... Ды і замочак ад чэснага чалавека... ад дзяцей. Глядзь-праглядзь — няма чаўна. Во, думаю, праява. Хтось з саўгаснікаў пабачыў-такі ды перагнаў, каб гэтае самае... вяшчэсцвеннае мець. Клок жа які сена астаўся. Пазавуць заўтра. Ды я не злякаўся. Лёгка ж пазнаць, адкуль яно, сена тое — з Панскага ці з-за бярэзнікаў.

— І чаўна дагэтуль няма? — Іван Васільевіч не пазнаў свайго голасу — ці то асіп так раптам, ці то спытаў шэптам?

— Пазаўчора не шукаў... Ждаў — пазавуць... А ўчора баба кажа: Пятроўніна дачка з'ехала нязвесна куды. Матка тэлеграмы б'е ва ўсе канцы. Тут мне і цюкнула, таварышок. Калі ж яна магла паехаць? А чоўна такі няма.

Дзед часам гаварыў, як блазен ці п'яны, а гэтыя словы сказаў сур'ёзна і ціха, і загноеныя вочы сталі пранікліва-разумныя і сумныя. Дзед моўчкі і глыбока спачуваў, гледзячы яму ў вочы. Іван Васільевіч пачуў востры боль у назе. І страшэнную стомленасць. На міг зрабілася млосна — пачарнела неба і расплыўся жоўтай плямай твар старога. Спалохаўся, што можа ўпасці. Толькі аднойчы ў жыцці, у партызанах, пры запаленні лёгкіх было такое: пацямнела ў вачах, закружыліся сосны, і ён упаў на парозе зямлянкі.

Як здалёк ці з-за сцяны, далятаў дзедаў голас.

— Пабялеў ты, таварышок. Не пужай ты Надзежду Пятроўну. Бабы — яны, знаеш, якія. Нервы ў іх слабыя. Ну, няхай паплыла. Дык маладыя цяпер усюды плаваюць, усюды ходзяць. Іх хлебам не кармі, а дай ескурсію. Яна дзеўка смелая. А човен добры. На ім да Кіева можна даплыць.

Раніца была хмурная, калі ён ішоў са станцыі. Не па-вясноваму халодная. А цяпер воблакі рассейваліся, выглядвала сонца. На прасторы вады — як кінуць вокам — па хвалях то там, то там скакалі «зайчыкі». Каб не вецер, напэўна, стала б па-вясноваму цёпла. Але вецер дзьме з ракі... Халодны. Якая рака? Рэчка. Раўчак, на які ён — колькі ні прыязджаў — не звяртаў увагі. А Віта казала: «Каб вы бачылі,

як яна разліваецца, наша рэчка!» Так, так, ён помніць: яна казала, як разліваецца іх рэчка... яе рэчка. Не, не яе рэчка! Не яе! Дзе яна, рэчка?

Цяпер, у разліве, невядома нават, дзе яна, рэчка? Там, дзе стаіць яшчэ адна вярба, па голле ў вадзе? Ці там, дзе плавае на хвалях лаза? Ці тут, адразу каля гэтай пясчанай касы, на якой растуць вербы, чарада старых, скурчаных і самотных вербаў? Да адной з іх прывязаны ланцугом човен. Чаўны трэба замыкаць! Ад дзяцей. Як трэба хаваць патроны ад дзяцей. Як яна, аднак, разлілася, гэтая нікому не вядомая, не пазначаная на геаграфічных картах рэчка! Палеская рэчка. Вунь дзе другі бераг. Каля другой вёскі. Як яна называецца, тая вёска? Хвалі ліжуць пясок. Хвалі змываюць пясок і калі-небудзь падмыюць гэтыя вербы. Ці можа хвалі намываюць пясок, і вербы тут будуць расці вечна? Яна, малая, гуляла пад гэтымі вербамі. Яна хадзіла тут тры дні назад. Памагла старому перанесці сена.

Хто вінаваты? Хто? Я? І я таксама. Нельга хаваць праўду. Ніякую. Якая б суровая яна ні была. Нявыгадная. Небяспечная. Асабліва нельга хаваць ад дзяцей. Асабліва.

Вярніся, Віта! І я ўсё табе раскажу. Ты разумная, ты зразумееш. Навошта ты хочаш так пакараць маці? Яна не заслужыла гэтае кары. Не, не заслужыла. Каб ты сама стала маці, то ведала б цану жыцця. Яна ведала, маці твая. І я ведаю. А ты не паспела ўведаць. Вярніся, Віта!

Які халодны вецер! І якія халодныя хвалі. Размываюць яны касу ці намываюць? Небывала шырокі разліў. Небывала? А можа ён быў такі ў тую снежную зіму? Снежныя зімы! Вялікая вада! Часам яны прыносяць бяду. Але часцей даюць радасць — добрыя ўраджаі. Віта не верыла ў гэта. Як яна пісала? На пясках — высыхае за тыдзень, на тарфяніках вада трымаецца да чэрвеня. Выходзіць, снежныя зімы не даюць тут ураджаю?

Гудуць трактары. Дзесьці на базе. Выходзяць на пасяўную. «Хто цяпер на конях арэ? Трактарамі ўсё, таварышок». Але, трактарамі! Вунь яны гудуць! «Яна дзеўка смелая. А човен добры». Ты мудры, дзед. На тваім чаўне можна да Кіева даплыць. Але навошта Віце плыць да Кіева? А чаму не паплыць? На злосць усім. І каб атрымаць разрадку. Я таксама раблюся скептыкам і панікёрам. А мне цяпер трэба спакой і сіла... Спакой і сіла. На дваіх — на сябе і на Надзю.

Чаму стаю тут, на гэтым ветры? Трэба ж нешта рабіць. Даць тэлеграмы ва ўсе пункты па рэчцы... І далей — па Прыпяці...

Дакуль можна даплыць за тры дні?

Гудуць трактары...

І зазвінеў званок. Недзе бліжэй.

Іван Васільевіч не адразу дацяміў, што звоняць у школе. А зразумеў — скалануўся. Прыпаў ілбом да старой вярбы.

Віту знайшлі ажно ў Петрыкаве, у бальніцы, з цяжкім запаленнем лёгкіх.

XVI

Будыка падняўся са свайго крэсла-трона, радасна прывітаў нечаканага госця, раскінуўшы рукі.

— О-о! Працаўнік палёў! Ура! Непарушнаму саюзу сяла і горада...— і асекся на паўслове.— Што з табой, Іван?

Іван Васільевіч па-армейску шырокімі крокамі падышоў да стала, дрыготкай рукой расшпіліў гузік плашча, выхапіў з нагруднай кішэні пісьмо, якое паліла сэрца, пальцы.

— Ты пісаў?

Будыка схапіў пісьмо, хутка прачытаў, перасмыкнуў плячамі.

— Ты што? Навошта мне?

— Ведаеш, што ты зрабіў?

— Надзя? — Будыка збялеў.— Іван! Як думаеш пра мяне? За каго лічыш?

— За падлюгу!

— Слухай!.. Што б ні здарылася, не забывай, што ты не ў атрадзе, не ў зямлянцы.

— Пісьмо напісана на тваёй машынцы... гэтай,— Іван Васільевіч кіўнуў на прыёмную.— І не адно. І гэта таксама. Устаноўлена экспертызай.

Будыка прыгадаў пазаўчарашняе наведванне следчага, які ветліва папрасіў дазволу праверыць машынкі, і, ахоплены яшчэ не асэнсаваным страхам, павольна апусціўся ў крэсла. На залысінах выступілі буйныя кроплі поту. Нейкі момант сядзеў нерухома, потым пачаў ліхаманкава ціскаць кнопку званка. Сакратарка з'явілася ў міг.

— Кляпнёва! — не папрасіў — закрычаў так, што закашляўся. Выцер хусткай вусны, лоб, баязліва спытаў: — Што з Надзяй?

Іван Васільевіч не адказаў. Глядзеў на дзверы. Чакаў з такім адчуваннем, як не аднойчы ў лесе чакаў звера.

Будыка хрыпеў ненатуральным голасам, спалоханым, ліслівым:

— Іван, як ты мог падумаць? Хіба я калі падвёў цябе? Выдаў нашу тайну? Каб я хацеў, то сказаў бы Віце на вяселлі... Мы танцавалі...

Напамінак пра Віту скалануў Антанюка, разануў па сэрцы болем. Тлумачыць гэтаму чалавеку, што трагедыі бываюць розныя, не мог, не меў сілы. Сілы патрэбны, каб неяк стрымацца ў межах

прыстойных паводзін і высветліць... Для сябе высветліць. Нікога не пакараеш. Ні па якім кодэксе, ні па крымінальным, ні па маральным. Напісана праўда. Наадварот, сам ёнварты кары, што хаваў тайну, выдумаў бацькоўства сваё. І Надзя... Высветліць хочацца адно: навошта пісалася гэтае пісьмо? З якой мэтай? Ён жа прасіў, як сябра, як чалавека...

Нячутна адчыніліся дзверы — і ўкаціўся Кляпнёў, як заўсёды з усмешачкай, вясёленькі, нёс новы анекдот, які павінен быў улагодзіць шэфа, калі той чым-небудзь угневаны.

Будыка цяжка падняўся, кінуў цераз стол руку з пісьмом.

— Ты пісаў?

Кляпнёў паглядзеў у вочы Антанюку і, не зірнуўшы нават на пісьмо, не ўзяўшы яго, адказаў з нахабнай усмешкай:

— Я пісаў.

...Дапытвалі палоннага карніка. Пытанні задавалі ўсе. Будыка перакладаў. Адказваў фашыст смела, талкова, даваў вельмі карысныя звесткі. Ён, Антанюк, думаў: «Не дурань, ведае, як ратаваць сваю шкуру». І раптам начальнік асобага аддзела брыгады Гагары дзе, які праглядаў дакументы палоннага, працягнуў яму, Антанюку, фотаздымак. На картачцы — шыбеніца, на ёй у пятлі — іх сувязная Галя Міхальчанка, жывая яшчэ, з расплюшчанымі вачамі, у сутаргах... І ўнізе ён, гэты малады, прыгожы, з паднятай нагой — толькі што выбіў чурку з-пад Галіных ног.

Ніхто не паспеў маргнуць вокам, як ён, Антанюк, ва ўпор — у твар, у разяўлены рот, у вочы — выпусціў усю абойму. Упершыню за вайну вось так — ва ўпор. Апомніўся тады, калі Будыка, камісар, Таўрыдзе скруцілі рукі, вырвалі пісталет, павалілі на ложак, прыціснулі да сцяны, а ён біўся, як у эпілепсічным прыступе...

...Страляў у тоўстую нахабную морду. Гэтак жа — ва ўпор. Грымелі стрэлы: бах, бах, бах... Але той адразу ўпаў. А гэты не падае. Чаму гэтая тоўстая паскуда не падае? І ўсё гэтак ж нахабна ўхмыляецца. Міма? Кулі праляцелі міма? Не, загадзя скруцілі рукі. Страляць няма як...

Страляць няма з чаго. Выйшаўшы з гэтага страшнага ўтрапення, апрытомнеўшы, абмяклы, заліты халодным потам, Іван Васільевіч паглядзеў на свае пустыя, ліпкія ад поту далоні, з агідай выцер іх аб плашч.

Будыка крычаў, Кляпнёў гаварыў ціха, з ухмылачкай. Не адразу дайшоў сэнс іх размовы.

— Не, ты паглядзі, Іван! Бачыў такога тыпа?

— Валянцін Адамавіч, навошта так? Што крамольнае я зрабіў? І хіба гэта першая тайна, якую ты сказаў мне ў сяброўскай размове? Канечне, я разумею, Івана Васільевіча ўгнявала, што ты выдаў яго пікантныя сакрэты. Але ж ты ананімкі не пісаў. І я не данос напісаў. Адкрыў праўду. Не люблю падману.

— Ты каму затыкаў, халуйская твая душа?

— Халуйская?!— Кляпнёў на міг сарваўся — рвануўся да стала, сціснуўшы кулакі.— Значыцца, халуйская?.. Так, так... Дзякуй, Валянцін Адамавіч,— але тут жа асекся, зноў увайшоў у сваю ролю,— Навошта ж так, Валянцін Адамавіч? Не робіць гэта гонару такому вучонаму, як вы,— абразіць маленькага чалавека, свайго падначаленага. Нам з вамі працаваць. І я бываю карысны. Я патрэбны... Я — наш.

Іван Васільевіч не вытрымаў — брыдка зрабілася. Пайшоў да дзвярэй. Але пайшоў не міма Кляпнёва. Пайшоў на яго. Цераз яго. Як сляпы. І Кляпнёў спалохаўся — адступіў. Але не кінуўся ўбок. Адступіў да дзвярэй, пагрозліва ківаючы пальцам: «Ну, ну!» Задам адчыніў дзверы, трохі не збіўшы з ног сакратарку, якая слухала пад дзвярамі. У калідоры змоўк, пабег, баязліва азіраючыся. Цырнуў некуды ўбок.

Івана Васільевіча дагнаў Будыка, задыханы, быццам прабег кіламетр.

— Бачыў, якую змяю я грэў? Якая гніда! Сукін сын! А? Падонак! Сёння ж духу яго не будзе тут! Ты, як заўсёды, меў чуццё. Ты куды, Іван? Раскажы толкам, што там здарылася. Што з Надзяй?

Іван Васільевіч спыніўся каля лесвіцы, павярнуў ся, выдыхнуў Будыку ў твар:

— Пайшоў прэч!

І асцярожна пачаў спускацца па ўсходах уніз.

## У АТМАСФЕРЫ ДУХОЎНЫХ ПОШУКАЎ

Вось ужо чвэрць стагоддзя кожная новая кніга Івана Шамякіна выклікае бурныя спрэчкі, становіцца прадметам дыспутаў і абмеркаванняў. Прычына, відаць, у тым, што пісьменнік таленавіта расказвае пра нашу сучаснасць, пра наш сённяшні дзень. Усе раманы Шамякіна нараджаліся як водгук мастака на вострыя і злабадзённыя пытанні жыцця, угадвалі нешта вельмі істотнае ў зрухах індывідуальнай псіхалогіі і грамадскай свядомасці. Шамякін, бадай, у большай меры, чым хто-небудзь іншы з беларускіх празаікаў, валодае шчаслівай здольнасцю ўвасабляць у мастацкіх вобразах новыя з'явы, павевы, — тое, што яшчэ толькі носіцца ў паветры, не маючы дакладных контураў і назвы. Калі ў некалькіх словах сказаць пра самае галоўнае ў творчасці Івана Шамякіна, дык гэтым галоўным будзе тонкае разуменне таго, што з'явілася ў характарах, у адносінах людзей, выхаваных ва ўмовах савецкай, сацыялістычнай рэчаіснасці.

Пісьменнік застаецца самім сабой і ў рамане «Снежныя зімы».

Галоўная задума рамана ўяўляецца такой: намаляваць вобраз аднаго з тых, каго мы сёння называем старой гвардыяй,— вобраз чалавека, які доўгі час займаў кіруючае становішча, паказаць маральны патэнцыял гэтага героя, раскрыць яго духоўны светапогляд.

Іван Васільевіч Антанюк — герой рамана І. Шамякіна — кіраўнік у мінулым. Цяпер ён персанальны пенсіянер, ён у тым становішчы, якое спрыяе таму, каб агледзецца, ацаніць пройдзеныя шляхі-дарогі.

Дзеянне рамана разгортваецца ў двух планах: Антанюка, які не па сваёй віне і волі апынуўся на пенсіі, мы бачым то маладым, трыццацігадовым мужчынам, які ў глыбокім тыле ворага арганізаваў партызанскі атрад, не раз глядзеў смерці ў вочы, ведаў горыч паражэнняў і радасць перамог, то пажылым мудрым чалавекам, абагрэтым цяплом сямейнага быту. Такое падвойнае асвятленне, у якім спалучаецца ідэальнае і будзённае, дало пісьменніку магчымасць стварыць вобраз жыццёва праўдзівы і пераканаўчы.

Антанюк — чалавек разумны, можна сказаць, у вышэйшай ступені прывабны. Доўгае знаходжанне на высокіх кіруючых пасадах не закружыла яму галаву, не прымусіла яго паверыць, што ён зроблены з другога, чым іншыя людзі, цеста. Іван Васільевіч не ішоў на кампрамісы з уласным сумленнем нават тады, калі гэта пагражала буйнымі асабістымі непрыемнасцямі. Ёсць у гэтым вобразе штосьці ад буйнога цэласнага народнага характару.

Разам з тым Шамякін зусім не стараецца паказаць свайго героя ідэальным. Антанюк цвёрды у сваіх маральных пераконаннях, ён

моцна стаіць на патрыятычных і партыйных пазіцыях, і ў той жа час звычайны чалавек, са сваімі слабасцямі і недахопамі. Але жыццё не аднойчы пацвярджала, што, нягледзячы на гэтыя памылкі і слабасці, ён верна служыў ідэі і праўдзе.

Антаганістам Антанюка ў рамане выступае Валянцін Будыка, былы начальнік штаба ў тым жа партызанскім атрадзе, якім камандаваў Іван Васільевіч, а цяпер — дырэктар навукова-даследчага інстытута. Штосьці раздзяляла Антанюка з Будыкам яшчэ тады, у суровыя гады барацьбы з ворагам, але цяпер, у мірныя дні, калі вайна стала ўспамінам, «водападзел» паміж імі стаў значна глыбейшы, ён ужо датычыцца прынцыповых жыццёвых пазіцый. Будыка лёгка плыве па хвалях адміністрацыйнага поспеху, не ўпускае магчымасці далучыцца да навуковай славы, якой не заслужыў. Ён не церпіць крытыкі, можа падхалімнічаць, галоўнае для яго — жыццёвы шык, камфорт. Менавіта на падставе такіх розных, па сутнасці — супрацьлеглых — адносін да жыцця і ўзнікаюць незлічоныя канфлікты паміж Антанюком і Будыкам. Гэта вельмі важная думка рамана: у жыцці вельмі многае залежыць ад самога чалавека, ад таго, як ён сябе паводзіць у тых або іншых абставінах. Мы бачым, адчуваем: пры адных і тых жа умовах Антанюк і Будыка зробяць па-свойму.

Але і пра Валянціна Будыку нельга сказаць, што гэта герой выключна «чорны». І ён здольны на сапраўдны чалавечы ўчынак, і ён можа адказваць на дружбу дружбай, на дабро — дабром. Карацей кажучы, Валянцін Будыка пры ўсіх яго грахах і хібах яшчэ не зусім страчаны для грамадства чалавек.

З усіх твораў Івана Шамякіна новы раман, відаць, найбольш публіцыстычны. Яго героі ўвесь час у атмасферы вострых маральных пошукаў. Пісьменнік узнімае нямала актуальных праблем сучаснасці, шукае адказу на іх, заве да роздуму і спрэчак. Ужо адно гэта гаворыць аб творчым поспеху празаіка.

*Іван Навуменка*

**Шамякін І.**

Снежныя зімы. Раман. Мінск, «Беларусь», 1970. 416 с.

Галоўныя падзеі рамана адбываюцца ў. наш час. Адказнага работніка, старога камуніста Івана Антанюка, адправілі на пенсію за яго нязгоду з некаторымі «наватарствамі» ў навуцы і валюнтарызмам, які меў месца да кастрычніцкага пленума 1964 года. Але ў аснове галоўнай сюжэтнай лініі не гэты вытворчы канфлікт, а хутчэй за ўсё сямейна-бытавы. У мінулым Антанюк — камандзір партызанскай брыгады, і з тых нялёгкіх ваенных часоў бяруць пачатак яго ўзаемаадносіны з рознымі людзьмі. Няпростыя адносіны ў яго ўласнай сям'і, з роднымі дзяцьмі, яшчэ больш складаныя адносіны з жанчынай, якую палюбіў у час вайны. Але ва ўсіх жыццёвых сітуацыях Іван Антанюк застаецца прынцыповым камуністам, верным таварышам і добрым чалавекам.